# АРХІВЫ

## БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ

## ТОМ І
### Кніга 1

# ARCHIVES OF THE BELARUSIAN DEMOCRATIC REPUBLIC

Volume I

Book 1

Fund №582
The State Museum of Lithuania
(«Council of Ministers of the Belarusian Democratic Republic»)

BELARUSIAN INSTITUTE OF ARTS AND SCIENCES, INC.
BELARUSIAN LITERARY ASSOCIATION
НАША НІВА

Minsk — New York — Prague — Vilnius

1998

# АРХІВЫ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ

Том I

Кніга 1

Фонд №582
Дзяржаўнага Архіву Літвы
(«Рада Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі»)

БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА
ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА
НАША НІВА

Вільня — Нью-Ёрк — Менск — Прага

1998

*Выдаецца за кошт грамадзкай падпіскі,*
*спадчыны сп. Аляксандра Лашука*
*ды з дапамогай*
*Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва,*
*Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня,*
*Фундацыі Імя П.Крэчэўскага,*
*Беларускага Харытатыўнага Фонду,*
*Скарбніцтва Рады БНР*

Укладаньне, падрыхтоўка тэксту, уступны артыкул, камэнтары, пераклады, паказальнікі, кампутарны набор, макет:

*Сяргей Шупа*
*Siarhej Šupa*

**Belarusian Institute of Arts and Sciences**
**Bibliographic Series No. 4**

**Library of Congress Catalog Card Number 98-70449**



Printed in Lithuania
**ISBN 9986-9219-2-9 (Кн.1)**
**ISBN 9986-9219-3-7 (Кн.2)**

# БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКА І ЯЕ АРХІВЫ

*Уявіце сабе, што Вам трапілі ў рукі дзівам ацалелыя старонкі з бартавога дзёньніка карабля, які згубіўся ў бурлівым моры. У старонках гэтых няма пачатку й канца, яны падзёртыя й пераблытаныя. А на іх — хроніка катастрофы, няўмольнасьць стыхіі, вернасьць і здрада, радасьць надзеі, адчай і самагубства, выбухі эпідэміі і людажэрства, зьнікненьне і паўстаньне зь нябыту, каханьне і сьмерць.*

*Карабель згубіўся ў тумане. Часам ягоны прывід зьяўляецца ў сонечным зьзяньні і зноў зьнікае ў хмарах.*

*Гэта — не гісторыя пра «лятучага галяндца». Гэта мэтафарычны вобраз абвешчанай у 1918 годзе Беларускай Народнай Рэспубліцы (БНР), а старонкі карабельнага дзёньніка — гэта фрагмэнты раскіданага па сьвеце Дзяржаўнага Архіву БНР.*

Напачатку варта спыніцца на **тэрміналёгіі**. Найважнейшы ў найноўшай палітычнай гісторыі Беларусі пэрыяд — адцінак часу паміж 1917 і 1921 гадамі — калі вырашалася пытаньне беларускай нацыянальнай дзяржаўнасьці, дагэтуль вызначаўся ў беларускай гістарыяграфіі як «пэрыяд грамадзянскай вайны й замежнай ваеннай інтэрвэнцыі». Гэтае азначэньне з старых савецкіх навуковых працаў і школьных падручнікаў безь ніякіх зьменаў было перанесенае ў постсавецкія. Ня сталася тут выняткам нават амаль што «нацыяналістычная» Энцыкляпэдыя Гісторыі Беларусі[1]. Тым часам у дачыненьні да Беларусі тэрмін «грамадзянская вайна» ўяўляецца надзвычай спрэчным, бо ў разгляданым пэрыядзе не назіралася ніякага адкрытага ваеннага канфлікту паміж паасобнымі часткамі беларускага грамадзтва. Усе ваенныя дзеяньні на беларускай тэрыторыі таго часу ўяўлялі сабою або міжусобную канфрантацыю староньніх сілаў (Расеі, Нямеччыны, Польшчы — з спарадычнай мабілізацыяй мясцовага насельніцтва), або розныя формы супрацьстаяньня беларускага насельніцтва гэтым чужым сілам. Такім чынам, азначаны вышэй пэрыяд было б больш дарэчна назваць пэрыядам «замежных інтэрвэнцыяў [супраць Беларусі] і барацьбы за незалежнасьць».

Беларускіх незалежнікаў у гэтай барацьбе чакала частковая параза. (Частковая ў тым сэнсе, што ідэя незалежнасьці не была выкараненая дарэшты і што пад яе ўплывам у зоне расейскай акупацыі была абвешчаная Савецкая Беларуская Рэспубліка зь некаторымі фармальнымі азнакамі незалежнае дзяржавы.) Вынікам гэтай паразы сталася тое, што БНР была выкрэсьленая з гістарычнае сьведамасьці шырокіх масаў — бо гісторыю заўсёды пішуць пераможцы. Сыстэматычнага бесстароньняга дасьледаваньня палітычных падзеяў 1917-1921 гадоў у Беларусі ад савецкіх гісторыкаў чакаць не даводзілася — яны мусілі працаваць у вельмі вузка акрэсьленых ідэалягічных рамках[2]. Беларускія гісторыкі зь незалежніцкага лягеру — пераважна паваенныя палітычныя эмігранты на Захадзе — ня мелі доступу да асноўнага масіву гістарычных крыніцаў, якія ў большасьці сваёй перахоўваліся ў савецкіх архівах. Гэта пазбавіла іх магчымасьці напісаньня больш-менш поўнай гісторыі Беларускай Народнай Рэспублікі.

Такім чынам, да самага нядаўняга часу гістарыяграфія БНР была прадстаўленая пераважна агульнымі нарысамі й аглядамі, часам выразна публіцыстычнага кірунку — прасавецкага або антысавецкага, больш падрабязнымі дасьледаваньнямі паасобных фрагмэнтаў гэтага пэрыяду і фрагмэнтарнымі публікацыямі дакумэнтальных матэрыялаў[3].

Амаль нічога пра досьвед беларускае незалежнасьці не было вядома ў шырэйшым сьвеце, нават сярод гісторыкаў, што спэцыялізуюцца ў блізкіх у прасторы й часе тэмах. Найбольшым прарывам інфармацыйнае блякады стаўся зборнік «Byelorussian Statehood», выдадзены ў 1988 годзе Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку[4], у якім у сканцэнтраваным выглядзе па-ангельску была сабраная ўся інфармацыя пра БНР, даступная па заходні бок Жалезнае Заслоны. Магчыма, менавіта гэтаму зборніку заўдзячвае знаёмства з БНР брытанскі гісторык Норман Дэйвіс, які ўпершыню ў шырэйшай аглядной працы — «Гісторыі Эўропы» — прысьвяціў Беларускай Народнай Рэспубліцы цэлы асобны фрагмэнт, зазначыўшы, што «да нядаўнага часу заходнія гісторыкі пра БНР ня ведалі абсалютна нічога»[5].

Архівамі Беларускай Народнай Рэспублікі як асобнай і цэльнай зьявою доўгі час ніхто не займаўся, што й ня дзіўна — у былым Савецкім Саюзе яны хаваліся ў спэцыяльных сакрэтных фондах абмежаванага доступу. Іх вывучэньнем і сыстэматызацыяй гісторыкі не займаліся, а матэрыялы гэтых фондаў выкарыстоўваліся пераважна для напісаньня працаў анты-БНРаўскай тэматыкі.

У сувязі з агульнай лібэралізацыяй савецкай сыстэмы, у канцы 80-х - пачатку 90-х гадоў дасьледнікам адкрыўся неабмежаваны доступ да колішніх закрытых сакрэтных матэрыялаў, у тым ліку й архіўных фондаў Беларускай Народнай Рэспублікі, што дало новы імпульс дасьледаваньням палітычнай гісторыі Беларусі. БНРаўская тэматыка пачала распрацоўвацца дзясяткамі аўтараў, і шматлікія публікацыі ў навуковых і папулярных выданьнях сьведчаць аб узьнікненьні спэцыяльнага разьдзелу беларускае гістарыяграфіі, прысвечанага гісторыі БНР.

Першая спроба падсумаваць усю наяўную інфармацыю пра Дзяржаўныя Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі была зробленая гісторыкам і архівістам Ганнай Сурмач у ЛіМаўскім артыкуле «Мы адчувалі што мы народ!» за 26 сакавіка 1993 году[6]. Дапоўніўшы інфармацыю Ганны Сурмач некаторымі новымі зьвесткамі, выяўленымі намі ў часе працы ў архівах Менску й Вільні, можна намаляваць прыблізна гэткую карціну. Ведамыя на сёньня паасобныя часткі Дзяржаўных Архіваў Беларускай Народнай Рэспублікі захоўваюцца ў некалькіх фондах архіўных установаў Менску й Вільні. Найбольшы паводле аб'ёму фрагмэнт — фонд №325 Нацыянальнага Архіву Рэспублікі Беларусь (складзены з былога фонду №62 Партархіву пры ЦК КПБ і фонду №325 Архіву Кастрычніцкай Рэвалюцыі). Ён налічвае 229 справаў і ў 1996 годзе быў грунтоўна апрацаваны й сыстэматызаваны. Другі паводле аб'ёму кавалак Архіваў прадстаўлены фондам №582 Дзяржаўнага Архіву Літвы ў Вільні. Ён улучае ў сябе 135 справаў (у 2-х вопісах) і ўяўляе сабою нібы жыўцом адарваную частку менскага фонду №325 — складзеныя разам яны ўтвараюць больш-менш адзіную цэласьць. Некалькі справаў (каля 3-4) захоўваюцца ў фондзе №3 Беларускага Дзяржаўнага Архіву-Музэю Літаратуры й Мастацтва — яны трапілі туды ў выніку непаразуменьня, дапушчанага архіўнымі работнікамі ў канцы 40-х гадоў, пра што яшчэ будзе асобная гаворка.

Шмат важных для гісторыі БНР матэрыялаў захоўваецца ў розных «сумежных» фондах, якія фармальна не ўваходзяць у Архівы БНР — рукапісным аддзеле Музэю Івана Луцкевіча ў Вільні (добра вядомы беларускім дасьледнікам фонд №21 Бібліятэкі Акадэміі Навук Літвы ў Вільні), фондах розных арганізацыяў і ўстановаў, а таксама ў асабістых фондах беларускіх палітычных дзеячоў, раскіданых па розных архівах і бібліятэках.

Разам з тым у справе Архіваў БНР застаецца шмат неразгаданых таямніцаў і загадак. Частка — і пры гэтым найбольш важная — Дзяржаўных Архіваў дагэтуль застаецца нязнойдзеная. Яе сьлядоў дасьледнікі шукаюць у розных кутках сьвету — у Празе, Маскве, Парыжы, Швэйцарыі. Надзея знайсьці гэтую частку пакуль што ня страчаная.

Які ж лёс напаткаў Архівы БНР? Як і чаму хроніка барацьбы за незалежнасьць расьцярушылася па сьвеце?

Лёс не спагадаў архівам беларускага руху ад самага пачатку. Гэтак, бязь сьледу зьнік архіў Беларускай Сацыялістычнай Грамады, а разам зь ім і адзіны ацалелы асобнік газэты «Свабода» 1902 году[7]. Архівы беларускіх нацыянальных арганізацыяў у Менску 1917 году былі захопленыя бальшавікамі ў студзені 1918-га. Калі праз нейкі месяц іх удалося здабыць, шмат чаго ўжо было страчана. Зьнік няведама куды архіў Усебеларускага зьезду сьнежня 1917 году, даручаны для апрацоўкі й надрукаваньня сакратару Зьезда Тамашу Грыбу[8]. Ня лепшая доля чакала й Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.

Пачаткам афіцыйнага справаводзтва БНР, а значыць, і пачаткам збору Дзяржаўных Архіваў, варта лічыць канцылярскую дзейнасьць Выканаўчага Камітэту Рады Ўсебеларускага Зьезду, якая распачалася неўзабаве

пасьля разгону Зьезду ў ноч з 30 на 31 сьнежня 1917 году — бо менавіта ў часе працы зьезду ўпершыню быў ужыты тэрмін «Беларуская Народная Рэспубліка», якім акрэсьліваўся палітычны лад будучай беларускай дзяржавы. Выканкам Рады Зьезду вёў арганізацыйную й дыпляматычную дзейнасьць блізка што ў падпольлі, аднак здолеў выслаць дэлегацыю на мірныя перамовы ў Берасьце і падрыхтаваць глебу для пераняцьця беларусамі ўлады ў краі пасьля выхаду зь яго бальшавікоў з пачаткам нямецкага наступу на ўсход. У ноч на 21 лютага 1918 году, праз два дні пасьля ўцёкаў бальшавікоў зь Менску, быў утвораны Народны Сакратарыят Беларусі як часовы орган народнае ўлады, з асобнай канцылярыяй і афіцыйным справаводзтвам. На раніцу 21 лютага ў Менск увайшлі нямецкія войскі. 25 лютага, у рамках усталяваньня ў горадзе новага парадку, нямецкія ўлады выгналі Народны Сакратарыят з займанага ім будынку на цяперашнім Пляцы Волі і захапілі ўсю ягоную маёмасьць: грошы, мэблю, асабістыя рэчы, а заадно канцылярыю і архіў. Усё гэта беларусы болей ніколі не пабачылі, нягледзячы на доўгую цяганіну зь нямецкай адміністрацыяй аж да моманту «разьвітаньня» зь ёю ў сьнежні 1918 году.

2-ой Устаўной Граматаю за 9 сакавіка Беларусь была абвешчаная Народнай Рэспублікай, Рада Ўсебеларускага Зьезду была рэарганізаваная ў Раду Беларускай Народнай Рэспублікі, якая 25 сакавіка 1918 году абвесьціла дзяржаўную незалежнасьць нашай краіны. Дачыненьні беларускіх прадстаўнічых органаў зь нямецкай акупацыйнай адміністрацыяй паступова набылі пэўную стабільнасьць, і Народны Сакратарыят БНР у абмежаваных рамках пачаў ажыцьцяўляць уладны кантроль на акупаванай немцамі тэрыторыі Беларусі.

Дзейнасьць Народнага Сакратарыяту й Рады Беларускай Народнай Рэспублікі зазнавала ўздымы й спады, кабінэтныя крызысы зьмяняліся пэрыядамі палітычнай актыўнасьці — як унутранай, гэтак і замежнай — а разам з усім гэтым зьбіраліся й парадкаваліся архівы Беларускай Дзяржаўнасьці. На момант вымушанага выезду зь Менску Рады і Ўраду БНР ў сувязі з наступам расейскіх бальшавіцкіх войскаў, канцылярыяй Народнага Сакратарыяту (які ад лістападу пачаў называцца Радай Народных Міністраў) было зарэгістравана каля 2000 выходных і каля 800 уваходных дакумэнтаў самага рознага роду — дэклярацыі, ноты, пасьведчаньні, упаўнаважаньні, нарматыўныя акты, цыркуляры, лісты, фінансавыя дакумэнты.

1 сьнежня 1918 году беларускія ўстановы выехалі зь Менску ў Вільню. Тады ж зь Менску былі вывезеныя Дзяржаўныя Архівы БНР. Прасачыць за іхным далейшым лёсам — справа нялёгкая, бо ўскосныя згадкі пра іх у розных крыніцах вельмі фрагмэнтарныя й супярэчлівыя.

Вось даволі падрабязная, але не зусім дакладная інфармацыя, пададзеная Кастусём Езавітавым у лісьце Івану Ермачэнку 5 чэрвеня 1943 году, праз 25 гадоў пасьля апісваных падзеяў:

> «Архіў Народнага Сакратарыяту й Рады БНР быў пры эвакуацыі зь Менску ў сьнежні 1918 году вывезены міністрам Я.Варонкам у Вільню, а стуль у Коўню, дзе й перахоўваўся ў яго прыватнай кватэры да ад'езду яго ў Амэрыку. Пры ад'езьдзе ён загадаў добра

запакаваць усе архівы і здаць іх на перахоўваньне ў транспартную кантору ў Коўні з тым, каб, калі будзе ў Беларускага Ўраду магчымасьць арганізаваць Архіў Беларускі за межамі, дык каб гэтыя дакумэнты былі перададзены туды, а калі б гэткае магчымасьці ў Ураду не было, дык каб прыватныя асобы аплачвалі фірме за перахоў дакумэнтаў, а потым за перавозку іх туды, дзе будзе магчымым закласьці Беларускі Архіў, хаця ж бы нават і пры Беларускім Нацыянальным Камітэце ў Амэрыцы.

Дзеля невядомых мне прычынаў, Архіў гэты ня трапіў у рукі эміграцыйнага ўраду БНР, але быў прададзены транспартнаю кантораю г-ну В.Ластоўскаму, які й перахоўваў яго ў сябе да свайго ад'езду ў Менск.

У бытнасьць сваю ў Коўні ў 1919 годзе я некалькі разоў, як былы слухач Віцебскага Археалягічнага Інстытуту, дзе прызвычаіўся цаніць архівы, рабіў высілкі для таго, каб упарадкаваць дакумэнты й выдаць іх [...] На жаль, праца мая асталася нясканчанаю, бо дзехто з кіруючых беларускіх урадавых колаў знаходзіў, што яшчэ не прыйшоў час апублікоўваць дакумэнты гэтага пэрыяду. У часе гэтае працы я меў магчымасьць пазнаёміцца зь некаторымі дакумэнтамі, што перахоўваліся ў міністра Варонкі, і памятаю, што архіў ягоны быў дужа карысны й багаты»[9].

Паспрабуем удакладніць напісанае Езавітавым. Язэп Варонка на час эвакуацыі зь Менску займаў пасаду Дзяржаўнага Сакратара ва ўрадзе Антона Луцкевіча, а значыць меўся апекавацца канцылярыяй і архівамі. Тое, што вываз архіваў зь Менску ў Вільню адбываўся пры ягоным удзеле, такім чынам, выглядае цалкам верагодным. Што да далейшага іхнага лёсу, дык наўрад ці можна пагадзіцца зь інфармацыяй Езавітава. Рэч у тым, што 7 сьнежня 1918 году Язэп Варонка выйшаў з Рады Народных Міністраў БНР у сувязі з заняцьцем пасады міністра беларускіх справаў ва Ўрадзе Літвы. Апеку над архівамі найхутчэй пераняли іншыя сябры Ўраду БНР, якія на той час былі ў Вільні. У канцы сьнежня Урад БНР на чале з Антонам Луцкевічам перабраўся ў Горадню, а Язэп Варонка разам зь літоўскім урадам — у Коўна. Малаверагодна, каб архівы БНР вандравалі далей зь літоўскім міністрам, а не зь беларускім урадам. Аднак ніякіх дакумэнтальных сьведчаньняў на гэты конт няма. Антон Луцкевіч у сваім падрабязным дзёньніку побыту ў Горадні[10] за сьнежань 1918 - люты 1919 ні словам пра архівы ня згадвае.

Не памыляецца Езавітаў у тым, што Варонка сапраўды вывез з сабою надзвычай багаты *асабісты* архіў — не забываймася, што ён ад лютага да ліпеня 1918 году стаяў на чале Народнага Сакратарыяту БНР, і будучы ад прыроды схільным да назапашваньня й сыстэматызаваньня рознае інфармацыі, здолеў сабраць нямала памятак нацыянальнага руху. Пэўна, што менавіта гэты асабісты архіў Варонкі і разглядаў Езавітаў у 1919 годзе ў Коўне. З гэткім удакладненьнем уся інфармацыя Езавітава пра лёс гэтага асабістага архіву пасьля ад'езду Варонкі ў Амэрыку і пра набыцьцё яго Вацлавам Ластоўскім — ніякіх сумневаў не выклікае.

Што да самых Дзяржаўных Архіваў БНР, дык іхныя сьляды выяўляюцца крыху пазьней і ў іншым месцы. Нагадаем, што ў сакавіку 1919 году пасьля розных нягодаў і прыгодаў Антон Луцкевіч ды іншыя сябры

Ўраду БНР з Горадні перабіраюцца ў Бэрлін, дзе большасьць зь іх і затрымваецца на даўжэйшы час. Фактычна аж да сьнежня 1919 году Бэрлін застаецца цэнтральнай сядзібай афіцыйных органаў Беларускай Народнай Рэспублікі. Праз Бэрлін каардынуецца дзейнасьць раскіданых па ўсёй Эўропе беларускіх палітычных сілаў, у Бэрліне адбываюцца паседжаньні сяброў Ураду БНР, вядзецца ўрадавае справаводзтва. Тым часам у Беларусі працягваюць зьмяняць адна адну чужынскія акупацыйныя ўлады — расейская, польская, зноў расейская. Урад Беларускай Народнай Рэспублікі за гэты час пасьпявае перажыць кволае адраджэньне, раскол, новы заняпад і новае выгнаньне.

Дакумэнт, у якім зноў «усплывае» інфармацыя пра Дзяржаўныя Архівы БНР датуецца 1921 годам. У гэты момант Урад БНР, узначалены Вацлавам Ластоўскім, перабывае на выгнаньні ў Коўне, а ў Бэрліне працягвае дзейнасьць Беларуская Місія. Зазначым, што пры ўсіх асабістых зьменах ад сакавіка 1919 году ў бэрлінскай Місіі нязьменна працуе толькі адзін чалавек — Дзяржаўны Кантралёр БНР Леанард Заяц. Вось жа 29 красавіка 1921 году пабачыў сьвет гэткі дакумэнт:

«Бэрлін, 29 красавіка 1921

АКТ

Я, ніжэйпадпісаны, шэф Місіі у Бэрліне Андрэй Бароўскі прыняў ад Дзержаўнага Кантралера Л.Зайца на часовае перахаваньне архіў Рады Народных Міністраў за 1918-1920 гг., а іменно:

1) Пратаколы (104) паседжаньняў Народнага Сэкрэтарыяту за 1918 г.

2) Копіі рожных дакумэнтаў за 1919 г.

3) Тэлеграмы ўходзячыя " "

4) Тэлеграмы выходзячыя " "

5) Зужыткаваныя дыплематычныя пашпарты і пасьведченьня за 1919-1920 г.г. [...]

6) Уходзячыя паперы Рады Народных Міністраў за 1919 г. (I і II часьці)

7) Копіі дыплематычных актаў (выходз.) за 1919 г.

8) Папка са справамі Рады Рэспублікі і Рады Міністраў за I-ую палову 1920 г.

Здаў: Дз. Кантралер Л.Заяц

Прыняў: Шэф Місьі А.Бароўскі»[11].

Гэты акт дазваляе зрабіць некалькі высноваў. Па-першае, названыя ў пункце першым *пратаколы паседжаньняў Народнага Сакратарыяту за 1918 год* – гэта ядро эвакуаваных у сьнежні 1918 году зь Менску Дзяржаўных Архіваў БНР. Па-другое, найверагодней, што зь Вільні архівы паўтарылі маршрут Ураду БНР: праз Горадню ў Бэрлін. Па-трэцяе, апекаваўся архівамі Дзяржаўны Кантралёр БНР Леанард Заяц, пра што сьведчыць ягоная роля, азначаная ў акце перадачы.

У сувязі зь цяжкасьцямі дзейнасьці Беларускай Місіі ў Бэрліне далейшае перахоўваньне там Архіваў БНР робіцца немэтазгодным. Таму ў 1922 годзе шэф Місіі Андрэй Бароўскі перапраўляе маёмасьць Місіі, у тым ліку й Архівы, у Коўна, пра што 7 кастрычніка 1922 году паведамляе ў паштоўцы Вацлаву Ластоўскаму[12].

Такім чынам, увосень 1922 году Дзяржаўныя Архівы БНР апынуліся ў Коўне пад даглядам старшыні Рады Народных Міністраў БНР Вацлава Ластоўскага. Там жа ў Коўне перахоўвалася і ўся справаводчая дакумэнтацыя эміграцыйнага Ўраду Ластоўскага за 1920-1922 гады. Яна падрабязна пералічваецца ў актах перадачы справаў Канцылярыі Рады Народных Міністраў — ад ліпеня 1921 году яна перайшла пад загад Васіля Захаркі[13].

У красавіку 1923 году даўно насьпелы канфлікт паміж Ластоўскім і ягонымі калегамі ў эміграцыйным урадзе канчаецца поўным разрывам паміж імі. Беларуская калёнія ў Коўне падзялілася. Падзяліліся напалам і беларускія архівы. Паводле праведзенага намі дасьледаваньня, ёсьць падставы меркаваць, што Дзяржаўныя Архівы за 1918 год і значная частка пазьнейшых дакумэнтаў — пераважна асабістая й палітычная перапіска — засталіся ў руках Ластоўскага. Пазьней, як прыгадвае Езавітаў, ён закупляе ў транспартнай канторы і багаты асабісты архіў Варонкі (які выехаў у Амэрыку ўвосень 1923 году). У руках супернікаў Ластоўскага — новага Ўраду БНР Аляксандра Цьвікевіча — засталася рэшта: частка справаводзтва 1920-1923 гадоў, архівы Рыскай і Ковенскай дыпляматычных місіяў БНР і матэрыялы больш асабістага характару.

Зь цягам часу становішча ўраду Цьвікевіча ў Літве ўскладняецца. Былы саюзьнік — літоўскі ўрад — ня толькі перастае заўважаць беларускіх палітыкаў, але і ўсяляк імкнецца ад іх пазбавіцца. Калі Беларускай Місіі ў Коўне 23 студзеня 1925 году было запрапанавана ў двухдзённы тэрмін выселіцца з займанага памешканьня, дыпляматычны прадстаўнік БНР у Літве Аляксандар Валькові зьвяртаецца па дапамогу да чэскага пасла ў Літве Яраслава Галі:

> «[...] наряду з казенным имуществом, находящимся в Миссии под моей охраной находится довольно значительный архив Правительства БНР. Означенный архив имеет исключительно важное значение для штудий белорусского освободительного движения, для культуры и будущей общественной работы на Белоруссии.
>
> [...] прошу Вас возбудить перед Высоким Правительством Чехо-Словакской Республики вопрос о разрешении передать находящиеся под моей охраной архивы БНР вверенному Вам консульству в Ковно...»[14]

Аднак, як ведама, ратунак Урад Цьвікевіча знайшоў у іншым баку. Пасьля Бэрлінскай канфэрэнцыі 1925 году, дзе некалькі сяброў Ураду абвесьцілі аб «самароспуску» БНР, Аляксандар Цьвікевіч, Леанард Заяц і Ўладзімер Пракулевіч выехалі ў Менск, а за адным разам вывезьлі з сабою і ўвесь архіў, што мелі ў сваіх руках.

> «Тыя новыя дакумэнты эміграцыйнага ўраду БНР, якія перахоўваліся ў канцылярыі Ўраду Цьвікевіча, на жаль, трапілі ў Менск, бо Цьвікевіч і Заяц ды Пракулевіч павезьлі з сабой амаль усе дакумэнты»

— гэтак сьведчыць пра гэтае здарэньне Езавітаў у згаданым лісьце да Ермачэнкі[15].

Прывезеныя ў Менск былымі БНРаўцамі матэрыялы склалі аснову фонду Беларускай Народнай Рэспублікі — колішняга фонду №62 Парт-

архіву пры ЦК КПБ, а цяпер фонду №325 Нацыянальнага Архіву Рэспублікі Беларусь — з часам да іх далучыліся некаторыя матэрыялы зь іншых крыніцаў.

Што ж адбывалася з багатымі архіўнымі зборамі Вацлава Ластоўскага, які на пачатку 1927 году таксама перабраўся ў Менск? Зноў дамо слова Кастусю Езавітаву:

> «Пасьля ад'езду свайго ў Менск В.Ластоўскі, у вялікім сакрэце, захаваў закуплены ім архіў Я.Варонкі ў Літве, не сказаўшы аб гэтым нікому, апроч свае былое жонкі-літвінкі [...] Трымаў ён справу ў сакрэце таму, што баяўся, каб савецкі ўрад не запатрабаваў выдачы гэтых дакумэнтаў у БССР [...] Не зажадаў ён здаць гэтыя дакумэнты і ў арганізаваны тады ў Празе Беларускі Архіў [...]»[16].

Удакладнім, што, паводле нашага меркаваньня, гаворка ідзе ня толькі пра архіў, закуплены ў Варонкі, але й пра іншыя матэрыялы, што захоўваліся ў Ластоўскага, улучна з пратаколамі Народнага Сакратарыяту 1918 году. Нявытлумачаным застаецца толькі вось гэткі факт. У сваіх паказаньнях 1930 году арыштаваны Ластоўскі гэтак прыгадвае абставіны свайго пераезду ў БССР:

> «Очутился я в Латвии, на распутье: у меня на паспортах были визы в Америку и предложение работы в БССР [...] Я напечатал статьи, в которых заявил о своем отказе от демократической государственности, сдал в ЦИК БССР имевшиеся у меня документы из архива БНР и, получив визы, приехал в Минск»[17].

Пра якія дакумэнты з Архіваў БНР ідзе гаворка, калі ён, як сьведчыць Езавітаў, стараўся, каб дакумэнты ня трапілі ў рукі саветаў? Ня маючы магчымасьці знайсьці адказ на гэтае пытаньне ў менскіх архівах або ў савецкай пэрыёдыцы таго часу — хай у гэтым дапамогуць менскія дасьледнікі — выкажам гэткае меркаваньне. У менскім 325-м фондзе каля 10 справаў відавочна паходзяць з асабістага архіву Язэпа Варонкі[18]. Прымаючы пад увагу, што Ластоўскі выкупіў асабісты архіў Варонкі ў транспартнай канторы, апярэдзіўшы Цьвікевіча з паплечнікамі, можна меркаваць, што яны трапілі ў Менск не з героямі самароспуску БНР, а з Вацлавам Ластоўскім. (Гэта вельмі важныя, але пераважна другасныя дакумэнты — копіі справаздачаў паседжаньняў Рады БНР 1918 году, друкаваныя матэрыялы, у тым ліку адзіны ацалелы асобнік 1-й Устаўной Граматы на беларускай мове, дакумэнты Беларускай Сацыялістычнай Грамады і іншыя).

Пра схаваны ў Коўне Архіў Ластоўскага Кастусь Езавітаў паведамляе гэткую невясёлую гісторыю:

> «Ня ведаю калі, але ўжо каля 1935-36 году сталася вядомым, што муж аднае з дачок Ластоўскага ў Літве зажадаў «звольніць пакой ад рожнага хламу» і таму прадаў жыдам і багатую бібліятэку Ластоўскага і «ўсякія паперы непатрэбныя». Аб гэтай распрадажы беларусы даведаліся дужа позна, а таму нічога набыць не змаглі. Затое выкарыстана гэта было Расейскім архівам у Празе, які праз аднаго з сваіх агентаў у Коўні закупіў архіўныя дакумэнты, якія яго цікавілі, і праз чэскае консульства пераслаў іх у Прагу. Дык у

Празе ў Расейскім Архіве наш дохтар Т.Грыб [...] з сумам мог толькі паглядзець на кнігі Пратаколаў Рады БНР ды іншыя дакумэнты, аб чым ён мне сам з хваляваньнем пісаў незадоўга да свае сьмерці. Дужа сумаваў аб гэткай долі беларускіх дакумэнтаў і інж.-арх. К.Душэўскі, які таксама ня быў у курсе справы і спазьніўся з закупкай дакумэнтаў»[19].

Да гэтага можна дадаць наступную інфармацыю Ганны Сурмач:

«У даведніку па матэрыялах архіву «Русский заграничный исторический архив при Министерстве иностранных дел Чехословацкой Республики», Прага, 1936, ёсьць зьвесткі аб тым, што ў 1935 годзе туды сапраўды паступілі журналы Рады й Сакратарыяту БНР»[20].

Такім чынам, бібліятэка й архівы Ластоўскага разам з «рознымі непатрэбнымі паперамі» перайшлі ў валоданьне няведамых асобаў юдэйскага веравызнаньня, а найцікавейшае з гэтых збораў было закупленае агентам Расейскага Замежнага Архіву і зьвезенае ў Прагу. Скажам адразу, сьлед гэтага найцікавейшага, у тым ліку й пратаколаў Народнага Сакратарыяту й Рады БНР, згубіўся і пакуль што ня знойдзены, нягледзячы на стараньні беларускіх гісторыкаў і архівістаў, перадусім Ганны Сурмач. Што да рэшты «розных непатрэбных папераў», дык іх чакаў больш спагадны лёс.

15-16 жніўня 1944 году «экспэрты» з Народнага Камісарыяту Ўнутраных Справаў Літоўскай ССР вынесьлі зь Віленскага Беларускага Музэю 18 скрынак з архіўнымі дакумэнтамі. Сьпіс «пазычанага», складзены адразу пасьля гэтай падзеі супрацоўнікамі Музэю[21], дазваляе прасачыць далейшы лёс прынамсі некаторых з гэтых дакумэнтаў.

Празь нейкі час — не пазьней, чым у 1949 годзе[22] — у рукі НКВД невядома адкуль і невядома ад каго трапляе іншы архіўны збор, які атрымвае назоў «Документы белорускоѝ контрреволюционной белогвардейской «народной» «республики»». Зьмест гэтага збору дае ўсе падставы ідэнтыфікаваць яго як той самы архіў Ластоўскага, які быў выкуплены невядомымі антыкварамі ў ягонага зяця.

Далейшая гісторыя гэтых двух архіўных збораў — зь Беларускага Музэю і з ковенскага антыкварыяту — выглядае гэтак. Абодва яны перадаюцца на захаваньне Дзяржаўнаму Архіву Літоўскай ССР, дзе на іх падставе ствараюцца два фонды: «Беларускі Музэй імя Івана Луцкевіча ў Вільні» (№45, пазьнейшы №281, 274 справы) і «Рада Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі» (№199, пазьнейшы №582, 2 вопісы, 135 справаў). Фармаваньне гэтых фондаў адбылося паміж 1949 і 1953 гадамі (паводле актаў інвэнтарызацыі). Пры гэтым некаторыя справы з музэйных збораў, якія мелі відавочнае дачыненьне да БНР (у сьпісе забранага ў жніўні 1944 года — пазначаныя як «Архіў Беларускай Народнай Рэспублікі, пачкі 1-7», а таксама некаторыя іншыя з палітычнага архіву Антона Луцкевіча) трапілі ў фонд «Рады Міністраў», а некалькі справаў з архіву Ластоўскага — невядома чаму — апынуліся ў фондзе Беларускага Музэю (напрыклад, справа «Нацыянальна-Палітычная Нарада ў Празе 1921 году», архіў часапісу «Крывіч», асабістая перапіска Ластоўскага за травень-сьнежань 1924 году).

У 1959-1960 гадох адбывалася акцыя пераразьмеркаваньня архіўных матэрыялаў паміж савецкімі рэспублікамі з мэтай вяртаньня геаграфічна

«чужых» дакумэнтаў адпаведным рэспубліканскім архівам. Два згаданыя фонды Дзяржаўнага Архіву Літоўскай ССР таксама разглядаліся на прадмет перадачы беларускім архіўным установам. Фонд «Беларускі Музэй імя Івана Луцкевіча», за выняткам 9 справаў, якія ня мелі дачыненьня да Беларусі, у жніўні 1960 году быў перададзены ў Менск[23]. Цяпер гэта фонд №3 Цэнтральнага Дзяржаўнага Архіву-Музэю Літаратуры й Мастацтва. Фонд «Рада Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі» пасьля уважлівага дадатковага вывучэньня было вырашана пакінуць у Вільні[24]. Цяпер гэта фонд №582 Дзяржаўнага Архіву Літвы. Цікава будзе дадаць, што гэты фонд быў рассакрэчаны ўжо 25 кастрычніка 1984 году, задоўга да ўсялякіх «перабудоваў», калі беларускія дасьледнікі безь ніякіх візава-валютных абмежаваньняў маглі колькі заўгодна сядзець і працаваць у Вільні. Нельга сказаць, каб гэты фонд быў зусім невядомы ў Беларусі — на яго часта спасылаліся ў сваіх працах Сташкевіч, Коўкель і іншыя гісторыкі эпохі «спэцфондаў».

Апрача асноўнага корпусу Дзяржаўных Архіваў БНР, лёс якога мы паспрабавалі прасачыць, нямала каштоўных дакумэнтаў зьмяшчаюць розныя сумежныя архіўныя фонды — архівы ўстановаў, партыяў, арганізацыяў, якія мелі дачыненьне да Беларускай Народнай Рэспублікі, а таксама асабістыя зборы паасобных беларускіх дзеячоў. Сярод вялікай колькасьці гэткіх сумежных фондаў найбольш увагі заслугоўваюць два найбольш багатыя й цікавыя: Беларускі Замежны Архіў у Празе і асабісты архіў Васіля Захаркі.

Беларускі Замежны Архіў быў створаны ў 1928 годзе. Аснову яго склалі матэрыялы, сабраныя вядомым беларускім дзеячом, дыпляматычным прадстаўніком БНР у Празе Міколам Вяршыніным, які і стаўся першым загадчыкам архіву.

У 1934 годзе пасьля сьмерці Вяршыніна загадчыкам архіву быў прызначаны Тамаш Грыб. У 1937 годзе архіў меў чатыры аддзелы:

— аддзел дакумэнтаў (матэрыялы Рады БНР, дыпляматычных місіяў БНР, беларускіх замежных арганізацыяў, партыяў, біяграфічныя дакумэнты й перапіска беларускіх дзеячоў), прыкладна 15 тыс. назваў дакумэнтаў;

— бібліятэка беларусазнаўства (беларускія выданьні пра Беларусь на іншых мовах);

— аддзел пэрыядычных выданьняў (часопісы, газэты, адозвы), 214 назваў;

— аддзел беларускай бібліяграфіі (гістарычная бібліяграфія і картатэка па ўсіх пытаньнях беларусазнаўства), 12 тыс. пазыцыяў[25].

Калі ў 1938 годзе Тамаш Грыб памёр, архіў застаўся без загадчыка. У гэткім стане ён сустрэў прыход немцаў у Прагу. Акупацыйныя ўлады падпарадкавалі яго Міністэрству ўнутраных справаў Пратэктарату Багеміі й Маравіі, але адказная асоба так і не была прызначаная. Фактычна, архіў прыпыніў сваю дзейнасьць, не вялося папаўненьне фондаў.

Паводле інфармацыі Ганны Сурмач, у 1947 годзе Беларускі Замежны Архіў яшчэ заставаўся ў Празе. Далейшы ягоны лёс невядомы.

Багаты палітычны архіў меў і прэзыдэнт БНР Васіль Захарка. У гэтым архіве захоўваліся й дакумэнты асабістых збораў папярэдніка Захаркі — Пятра Крэчэўскага, памёрлага ў 1928 годзе.

Калі ў сакавіку 1943 году ў Празе памёр сам Васіль Захарка, ягоным архівам заапекаваліся людзі, якім ён найбольш давяраў — паэтка Ларыса Геніюш і палітык Мікола Абрамчык. Вось як прыгадвае тыя падзеі сама іх удзельніца:

> «На нас абаіх [зь Міколам Абрамчыкам] пераходзіў архіў БНР, які быў у кватэры дзядзькі Васіля [Захаркі] [...] Цяпер нам трэба было ратаваць, вывозіць з Прагі беларускі дзяржаўны архіў, каб яго не захапілі немцы. Акту прагалошаньня незалежнасьці, на жаль, ужо ў архіве не было. Былі дагаворы зь літоўцамі, з Галіцкай Украінскай Рэспублікай і інш., папкі з архівамі міністэрстваў БНР і іншымі важнымі дакумэнтамі [...] Спакавалі мы зь Міколам пара чамаданаў нашага дзяржаўнага архіву, і ён павёз гэта ўсё да сябе з думкай усё гэта пераправіць у Францыю. Я й да сяньня ня ведаю, як яму й ці яму гэта ўдалося. Гэты архіў вельмі хацеў вырваць мне з душы Цанава [...] А пакуль што ў ноч адыходзіў з чамаданамі Мікола Абрамчык, з трывогай аб лёсе хворага дзядзькі Васіля, нашага архіву, нашага народу [...]
>
> [...] 14 сакавіка 1943 году памёр Васіль Захарка [...] Назаўтра мы ўсе разам паехалі ў Моджаны, гдзе перабіралі, сартавалі й адбіралі, што трэба было неадкладна вывезьці зь беларускага архіву дзядзькі Васіля [...] Сартаваць архіў нам ніхто не перашкаджаў. Нікога зь немцаў не было на пахаваньні, і здавалася, яны нічога ня ведаюць [...] Усё, што было найболей вартасным, мы спакавалі й перавезьлі да нас. Там перапакоўвалі, каб адвезьці далей [...] І так сябры паехалі, павезьлі з сабою часьць архіву, бо мы вельмі баяліся, і не без падставы, што немцы будуць мець на яго зуб [...]»[26]

Трывога Ларысы Геніюш была небеспадстаўная. Праз пару дзён пасьля вывазу Міколам Абрамчыкам з Прагі найбольш вартасных матэрыялаў, нямецкія ўлады, скарыстаўшы адмыслова выкліканага зь Менску Івана Ермачэнку, забралі рэшту архіву Захаркі. Вось што ў ім было:

> «А. Беларуская Народная Рэспубліка:
>
> 1. афіцыйныя дзяржаўныя дакумэнты, дагаворы, мэмарандумы, статуты, урадавыя заявы і інш.
>
> 2. палітычныя й гістарычныя акты, паведамленьні асаблівай значнасьці, навуковыя й палітычныя распрацоўкі, акрамя таго, газэтныя выразкі, друкаваныя публікацыі, палітычная карэспандэнцыя і г.д.
>
> 3. палітычныя матэрыялы меншай значнасьці.
>
> Б. Агульны матэрыял, маючы дачыненьне да Беларусі. Навуковыя матэрыялы, рукапісы, газэтныя выразкі.
>
> В. Беларуская эміграцыя за межамі Беларускай Народнай Рэспублікі.
>
> Г. Небеларускія матэрыялы, Расея, Украіна, Польшча і інш.
>
> Д. Непалітычныя матэрыялы, асабістае.
>
> Е. Кнігі, брашуры, часопісы:
>
> 1. па Беларусі.
>
> 2. расейскае пытаньне, агульнаславянскі матэрыял, усходні рэгіён.

3. украінскі матэрыял.

4. непалітычнае, бэлетрыстыка, падручнікі, даведнікі»[27].

Пасьля агульнага ўпарадкаваньня архіў Захаркі перадалі на часовае захаваньне ў беларускі аддзел Расейскага Замежнага Архіву, дзе, як мы ўжо ведаем, перахоўваліся некаторыя дакумэнты БНР 1918 году, якія агенты расейскага архіву былі закупіўшы ў Коўне.

У канцы 1945 году Расейскі Замежны Архіў быў падараваны міністрам культуры Чэхаславаччыны Здэнекам Нэедлым Акадэміі Навук СССР да яе 220-годзьдзя. Асноўная частка дакумэнтаў захоўваецца цяпер у Дзяржаўным Архіве Расейскай Фэдэрацыі ў Маскве. На сёньняшні дзень там захоўваецца адно невялікая колькасьць беларускіх дакумэнтаў. Ні пратаколаў 1918 году, ні матэрыялаў са збору Захаркі й Крычэўскага ў ім знайсьці не ўдалося. Дзе й калі маглі згубіцца гэтыя дакумэнты — дагэтуль застаецца невядомым.

На думку Г.Сурмач, сёньня больш-менш дакладна вядома толькі пра тыя пару чамаданаў, якія вывез з Прагі Мікола Абрамчык. Вядома, што асабісты архіў Абрамчыка знаходзіцца цяпер у ягонай удавы ў Парыжы. Трэба спадзявацца, што сярод іх ёсьць і ўратаваныя дакумэнты з архіву Захаркі. Аднак да сёньняшняга дня навукоўцы ня маюць доступу да гэтых матэрыялаў, і яны застаюцца ня ўведзеныя ў навуковы ўжытак[28].

* * *

У якасьці падсумаваньня разгледзім лёс Дзяржаўных Архіваў БНР у сьвятле геаграфіі палітычнай дзейнасьці й структуры справаводзтва Беларускай Народнай Рэспублікі (у дужках падаюцца нумары фондаў і справаў: 582 — фонд №582 Дзяржаўнага Архіву Літвы; 325 — фонд №325 Нацыянальнага Архіву Рэспублікі Беларусь; 3 — фонд №3 Цэнтральнага Дзяржаўнага Архіву-Музэю Літаратуры й Мастацтва).

ДЗЯРЖАЎНЫЯ ОРГАНЫ БНР:

*Усебеларускі Зьезд (12.1917)* — асноўная маса дакумэнтаў ня знойдзеная. Захаваліся копіі пратаколаў за 5-12 сьнежня 1918 году (582) і пратаколы працы некаторых камісіяў Зьезду (НАРБ).

*Выканаўчы Камітэт Рады Зьезду 01-03.1918* — архівы ня знойдзеныя.

*Рада БНР*: *1918* — архівы ня знойдзеныя. У канцы 30-х гадоў захоўваліся ў Расейскім Замежным Арзіве ў Празе, далейшы лёс невядомы; *1919* — захаваліся пратаколы паседжаньняў (582; 325)

*Прэзыдыюм Рады БНР 1920, 1921, 1922, 1923, 1924* — архівы ня знойдзеныя. Магчыма, захоўваліся ў П.Крэчэўскага, а па ягонай сьмерці — у В.Захаркі, зьніклі разам з асабістым архівам апошняга.

*Народны Сакратарыят 1918* — захаваліся гэткія папкі: №3 («Розныя паперы, датычачыя НС БНР», 582.2.14); №5 (582.1.03); №6 («Бежэнскія справы», 582.2.24); №7 (Паперы зносін з оккупацыйнай уладай па

міжнарадовым справам», 325.1.010, 325.1.024); №8 («Гаспадарскія справы», 582.2.25); №9 («Паперы аб грашах і маентнасьці, застаўшыхся у Губэрнатарскім домі», 582.2.21); №10 («Перапіска з асьветнымі установамі», 325.1.039, 325.1.042); №11 («Паперы па гандлёвым палатам», 582.2.26, 325.1.037); №12 («Прозьбы і пастановы валасных і іншых сходаў і аддзельных асоб аб крыўдах на мейсцох, каторые робюцца оккупацыйнымі вайскамі», 582.2.15, 325.1.035), №14 («Паперы аб стварэньні правінцыйных беларускіх рад», 582.2.23); №15 («Паперы аб стварэньні розных таварыстваў і гурткоў», 582.2.22). Зьмест і лёс папак №№1, 2, 4 і 13 невядомы. Магчыма, сярод іх былі пратаколы паседжаньняў Народнага Сакратарыяту, якія трапілі пазьней у Расейскі Замежны Архіў у Празе, адкуль зьніклі няведама куды.

*Рада Народных Міністраў 1918, 1919, 1920, 1921, 1922, 1923, 1924, 1925* — сыстэматычнага збору не захавалася. Арыгіналы й копіі паасобных дакумэнтаў Канцылярыі Рады Народных Міністраў раскіданыя па розных справах фондаў 582 і 325.

*Дзяржаўны Кантроль* — архівы ня знойдзеныя.

*Найвышэйшая Рада БНР* — сыстэматычны збор не захаваўся. Некаторыя справы, якія да 1944 году захоўваліся ў Беларускім Музэі імя І.Луцкевіча ў Вільні, увайшлі ў фонд 582 (582.2.30, 582.2.31, 582.2.32, 582.2.33, 582.2.34, 582.2.35, 582.2.39, 582.2.46).

*Дзяржаўны Камітэт БНР* — архівы ня знойдзеныя.

*Дзяржаўная Калегія БНР* — архівы ня знойдзеныя.

АРХІВЫ ЗАМЕЖНЫХ МІСІЯЎ БНР:

*Надзвычайная Дэлегацыя Рады БНР для замежных перамоваў 03-06.1918* — захаваўся ўвесь архіў (582.2.02, 582.2.03)

*Надзвычайная Дэлегацыя Рады БНР для замежных перамоваў 09-11.1918* — захаваўся ўвесь архіў (582.2.04)

*Консульства БНР у Кіеве 1918* — архіў ня знойдзены.

*Консульства БНР у Адэсе 1918-1919* — некаторыя матэрыялы захоўваюцца ў НАРБ.

*Консульства БНР у Маскве 1918* — архіў ня знойдзены. Невядома, ці вялося справаводзтва.

*Консульства БНР у Стаўрапалі 1918-1919* — архіў ня знойдзены. Невядома, ці вялося справаводзтва.

*Прадстаўніцтва БНР у Варшаве* — архіў ня знойдзены.

*Дыпляматычнае Прадстаўніцтва і Консульства БНР у Коўне* — архіў захоўваецца ў НАРБ (325).

*Вайскова-Дыпляматычная Місія і Консульства БНР у Рызе* — архіў захоўваецца ў НАРБ (325).

*Пашпартны Аддзел БНР у Лібаве* — архіў захоўваецца ў НАРБ (325).

*Прадстаўніцтва й Пашпартны Аддзел БНР у Рэвэлі* — архіў ня знойдзены. Невядома, ці вялося справаводзтва.

*Прадстаўніцтва й Пашпартны Аддзел БНР у Гэльсынгфорсе* — архіў ня знойдзены. Невядома, ці вялося справаводзтва.

*Пашпартны Аддзел БНР у Тамэрфорсе* — архіў ня знойдзены. Невядома, ці вялося справаводзтва.

*Консульства БНР у Капэнгагене* — архіў ня знойдзены. Невядома, ці вялося справаводзтва.

*Дыпляматычная Місія БНР у Бэрліне* — архіў ня знойдзены.

*Дэлегацыя БНР на Мірнай Канфэрэнцыі й Дыпляматычнае Прадстаўніцтва БНР у Парыжы* — архіў ня знойдзены.

*Дыпляматычнае Прадстаўніцтва БНР у Празе* — архіў ня знойдзены. Магчыма, захоўваўся ў складзе сфармаванага М.Вяршыніным Беларускага Замежнага Архіву, лёс якога дагэтуль невядомы.

*Консульства БНР у Бялградзе й Сафіі* — архіў ня знойдзены. Невядома, ці вялося справаводзтва.

*Консульства БНР у Канстантынопалі* — архіў захоўваецца ў НАРБ (827).

АСАБІСТЫЯ АРХІВЫ БЕЛАРУСКІХ ПАЛІТЫЧНЫХ ДЗЕЯЧОЎ:

*В.Ластоўскі* — часткі архіву ў фондах 582 і 3.

*Я.Варонка* — часткі архіву ў фондах 582 і 325.

*Я.Серада* — архіў ня знойдзены.

*Я.Лёсік* — архіў ня знойдзены.

*А.Луцкевіч* — значная частка асабістага архіву захоўваецца ў фондзе 21, паасобныя дакумэнты — у фондах 582 і 3.

*П.Крэчэўскі* — архіў ня знойдзены. Пасьля сьмерці П.Крэчэўскага ягоным архівам заапекаваўся В.Захарка. Лёс архіву В.Захаркі невядомы.

*В.Захарка* — архіў ня знойдзены. Адна частка была вывезена М.Абрамчыкам на Захад, другая была далучаная да фондаў Расейскага Замежнага Архіву. Далейшы лёс абедзьвюх частак невядомы.

*А.Цьвікевіч* — архіў ня знойдзены. Некаторыя матэрыялы захоўваюцца ў НАРБ (325).

*К.Езавітаў* — значная частка асабістага архіву захоўваецца ў НАРБ (фонд №458).

*Т.Грыб* — архіў ня знойдзены.

Такім чынам, нягледзячы на шырокі аб'ём і вялікую каштоўнасьць дакумэнтаў і матэрыялаў зь Дзяржаўных Архіваў Беларускай Народнай Рэспублікі, якія захоўваюцца ў вядомых на сёньня архіўных фондах Менску й Вільні, пытаньне аб месцы захаваньня часткі Архіваў — у тым ліку й такіх важных дакумэнтаў, як пратаколы паседжаньняў Народнага Сакратарыяту і Рады БНР у 1918 годзе — застаецца адкрытае.

# ФОНД №582 ДЗЯРЖАЎНАГА АРХІВУ ЛІТВЫ («РАДА МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ»)

Фонд №582 Дзяржаўнага Архіву Літвы (Vilnius, O.Milašiaus, 21) сфармаваўся на працягу 1950-х гадоў з дакумэнтаў і матэрыялаў рознага паходжаньня, ад тых часоў не апрацоўваўся й не сыстэматызаваўся і ўяўляе сабою даволі хаатычны збор, аснову якога складаюць справы Дзяржаўных Архіваў Беларускай Народнай Рэспублікі. (Гісторыя ўзьнікненьня фонду разглядалася вышэй, таму мы ня будзем спыняцца на ёй больш падрабязна.) Фонд складаюць 135 справаў, разьмеркаваныя на два вопісы (71 і 64 справы адпаведна). Некаторыя справы захаваліся некранутыя ад часоў БНР (часам нават у арыгінальных папках), іншыя былі перамешаныя, або сфармаваныя «з россыпу». Рэгістрацыя й афармленьне справаў былі выкананыя па-расейску ў канцы 40-х - пачатку 50-х гадоў ня надта дасьведчанымі і нават не заўсёды пісьменнымі архіўнымі спэцыялістамі выразна энкавэдысцкага гарту. У загалоўках і датаваньні справаў сустракаецца безьліч памылак і недакладнасьцяў, таму тытулы справаў толькі вельмі прыблізна адпавядаюць іхнаму зьместу.

Варта зазначыць, што матэрыялы фонду, хоць і ахапляюць поўнасьцю пэрыяд дзейнасьці БНР як актыўнай палітычнай структуры (1917-1925 гады), ні ў якім разе не падаюць поўную й вычарпальную гістарычную карціну. У сілу асаблівасьцяў фармаваньня фонду ён складае разам з фондам №325 Нацыянальнага Архіву Рэспублікі Беларусь адзіную цэласьць, нібы мэханічна падзеленую на дзьве часткі. Таму ў ідэале аднаўленьне больш-менш поўнай карціны падзеяў можа даць толькі далейшая публікацыя «менскага» фрагмэнту Архіваў БНР, на што аўтар аптымістычна спадзяецца. Тым часам публікацыя дакумэнтаў і матэрыялаў фонду №582 сваёй актуальнай прагматычнай мэтай ставіць дапамогу дасьледнікам, якія маюць доступ да БНРаўскага фонду №325 у НАРБ (і, вядома, усіх іншых тэматычна блізкіх матэрыялаў) і маглі б весьці дасьледную працу не пакідаючы межы беларускай сталіцы.

Тут дарэчы было б спыніцца на праблеме публікацыі архіўных матэрыялаў, зьвязаных з БНР. Што да больш-менш сыстэматычнай публікацыі, дык дагэтуль было зроблена надзвычай мала. Варта зазначыць, што да самага нядаўнага часу ці ня самай грунтоўнай у гэтым сэнсе працай заставалася кніга А.Зюзькова з красамоўным назовам «Крывавы шлях беларускай нацдэмократыі» (Менск, 1931), дзе былі апублікаваныя некалькі дзясяткаў дакумэнтаў з Архіваў БНР. Нягледзячы на ўсе ідэалягічныя перакосы гэтай публікацыі, на шматлікія купюры й памылкі, яна паслужыла крыніцай для перадруку матэрыялаў не аднаму зборніку, у тым ліку й эміграцыйнаму «За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі» (Лёндан, 1960). Паасобныя, найбольш пашыраныя й даступныя дакумэнты з Архіваў БНР вельмі часта публікаваліся ў самых розных эміграцыйных і савецкіх выданьнях, аднак нярэдка без спасылак на непасрэдную крыніцу, з разнастайнымі рэдакцыйнымі праўкамі, купюрамі й памылкамі. Урэшце,

за апошняе дзесяцігодзьдзе зьявілася новая хваля публікацыяў, пераважна ў беларускай пэрыёдыцы[29]. Дзеля таго, што дагэтуль публікавалася толькі нязначная частка захаваных у фондзе №582 матэрыялаў, мы ня ставілі сабе за мэту выявіць усе папярэднія публікацыі адпаведных дакумэнтаў фонду, а тым болей правесьці параўнальна-тэксталягічны аналіз розных публікацыяў. Таму ў гэтым выданьні спасылкі на папярэднія публікацыі даюцца толькі ў выключных выпадках.

У сваёй працы над дасьледаваньнем матэрыялаў фонду і над падрыхтоўкай іх да публікацыі ўкладальнік кіраваўся наступнымі прынцыпамі.

Улічаныя й апісаныя былі *усе дакумэнты й матэрыялы* фонду, нават тыя, якія відавочна ня маюць нічога агульнага з БНР і яе Дзяржаўнымі Архівамі і не ўкладаюцца ў храналягічныя рамкі дасьледаванага пэрыяду (ад разгону Ўсебеларускага Зьезду ў сьнежні 1917 да «самароспуску» БНР у 1925 годзе). Гэткі падыход быў абраны дзеля немагчымасьці знайсьці абсалютна аб'ектыўны крытэрыюм вызначэньня тэматычнай «прыдатнасьці» або «непрыдатнасьці» дакумэнтаў.

Пры разьмяшчэньні матэрыялу быў абраны *храналягічны прынцып*, дзеля таго што няма нічога больш аб'ектыўнага, чым няўмольны бег часу, які мае лінейны характар і дазваляе аднавіць ходу гісторыі дзень за днём. Нават калі пры гэтым апынуцца разам аддаленыя ў прасторы падзеі, а злучаны адным гістарычным сэнсам ланцуг падзеяў распадзецца на асобныя зьвёны, рассыпаныя ў часе — гэта будзе меншай стратай, чым калі б аўтар паспрабаваў, парушыўшы незваротнасьць часу, камбінаваць падзеі паводле іншых прыкметаў.

Значную цяжкасьць ў працы складала праблема *датаваньня* дакумэнтаў. З усяе колькасьці 3837 дакумэнтаў больш за 600 — не датаваныя ў тэксьце. Датаваньне праводзілася самымі рознымі спосабамі — паводле паштовых штэмпеляў, паводле зьместу й кантэксту, паводле непасрэдных або ўскосных зьвестак іншых крыніцаў — тагачаснай пэрыёдыкі, матэрыялаў зь іншых архіваў або навуковых працаў. У гэтай публікацыі кожны канкрэтны спосаб датаваньня таго ці іншага дакумэнта не падаецца. Выпадкі прыблізнага датаваньня пазначаюцца ў падартыкульных камэнтарох. Значная частка дакумэнтаў засталася недатаваная, што таксама зазначаецца асобна. Пры гэтым месца разьмяшчэньня ў храналягічнай пасьлядоўнасьці выбіралася больш-менш адвольна — часам на пачатку адпаведнага месяца або году, часам у прывязцы да іншых, блізкіх паводле зьместу або месца ў архіўнай справе, дакумэнтаў. У загалоўках недатаваных або недакладна датаваных дакумэнтаў невядомыя элемэнты даты замяняюцца пытальнікамі: ??.??.19??.

Выдрукаваць увесь фонд да апошняй літары было б калі й не немагчыма, дык прынамсі немэтазгодна. Таму адныя дакумэнты падаюцца цалкам, некаторыя — з купюрамі, іншыя — толькі з апісаньнем зьместу ў падартыкульным камэнтары або й проста ў загалоўку. Гэткі адбор рабіўся цалкам адвольна й суб'ектыўна. Поўнасьцю падаюцца афіцыйныя дакумэнты галоўных органаў БНР, афіцыйная й асабістая перапіска найвідней-

шых палітычных і грамадзкіх дзеячоў, а таксама ўсё тое, што падалося укладальніку цікавым і арыгінальным. Зрэшты, любы дакумэнт, «не разгорнуты» ў нашай публікацыі, пры жаданьні можа быць знойдзены ў архіве паводле пазначанай у канцы дакумэнта сыгнатуры.

Пытаньні *мовы* ў публікацыі вырашаныя гэткім чынам. Загалоўкі дакумэнтаў, як і ўвесь аўтарскі тэкст, падаюцца ў сучасным беларускім правапісе (у г. зв. клясычным варыянце — нармалізаванай тарашкевіцы, асноўныя прынцыпы якой апісаныя ў артыкуле: Вячорка В. Правапіс: Спроба сучаснае нармалізацыі // Спадчына. №5. 1995. С.247-288). *У тэкстах дакумэнтаў поўнасьцю захаваны правапіс арыгіналу — улучна з хістаньнямі ў перадачы тых або іншых гукаў і моўных зьяваў ды правапіснымі памылкамі.* Рэч у тым, што ў разгляданым часе ніхто з «герояў» нашай публікацыі ня меў сыстэматычнай падрыхтоўкі ў правапісе беларускай літаратурнай мовы, дый сама мова перажывала тады стадыю жывой творчасьці. Абмяжоўваць у публікацыі гэтую творчасьць было б неправамерна, тым больш што няма таго стандарту, пад які меліся б быць падведзеныя «ненарматыўныя» з гледзішча правапісу тэксты. Захаваныя й графічныя асаблівасьці машынапісных тэкстаў, гэта датычыць найперш напісаньня «у» замест «ў». У машынапісных тэкстах «ў» можна сустрэць толькі тады, калі ў арыгінале дужкі над «у» былі адмыслова дамаляваныя. Выпраўленыя без пазнакаў у камэнтарох толькі выпадкі відавочных неўсьвядомленых памылак (*lapsus calami*).

*Іншамоўныя дакумэнты* падпарадкоўваюцца тым самым прынцыпам і ў абсалютнай большасьці выпадкаў падаюцца безь перакладу.

Пропускі тэксту, выпадкі аднаўленьня тэксту ўкладальнікам, або аўтарскія ўстаўкі ўкладальніка пазначаюцца *квадратнымі дужкамі* — [...]. Расшыфраваныя часткі скарочаных словаў падаюцца ў *ламаных дужках* — <...>. Там, дзе гэта магчыма, імітуюцца **выдзяленьні**, <u>падкрэсьленьні</u> й ~~закрэсьленьні~~ арыгіналу.

Пасьля тэксту дакумэнта падаюцца архіўныя *сыгнатуры*, прычым нумар фонду, нумар вопісу й нумар справы аддзяляюцца кропкай, а за імі пасьля двухкроп'я стаіць нумар аркуша справы; адваротны бок аркуша пазначаецца літарай *г* пры нумары аркуша; верхні бок аркуша разам з адваротным пазначаюцца спалучэньнем нумару аркуша, знака *&* і літары *г*. (Напрыклад, *582.1.01:001&г* азначае: фонд 582, вопіс 1, справа 1, аркуш 1 і адваротны бок.)

Разам з сыгнатурай за працяжнікам падаецца «тэхнічная» характарыстыка дакумэнта — спосаб выкананьня, аўтэнтычнасьць, а калі дакумэнт мае ідэнтычныя іншамоўныя варыянты — ужываная мова. Пры гэтым ужываюцца гэткія скароты:

*р* — рукапісны
*м* — машынапісны
*ш* — шапірографны
*ф* — фатаграфічны
*д* — друкаваны
*а* — арыгінал

*к* — копія
*бел* — па-беларуску
*рас* — па-расейску
*пол* — па-польску
*ням* — па-нямецку
*фра* — па-француску
*анг* — па-ангельску
*літ* — па-літоўску
*жыд* — па-жыдоўску[30]

Рукапісныя лісты, нататкі ды іншыя дакумэнты, «тэхнічная» характарыстыка якіх недвухсэнсоўна зразумелая з загалоўку звычайна застаюцца бяз гэткіх пазначэньняў.

Пасьля сыгнатуры падаецца кароткі камэнтар да тэксту дакумэнта, у якім даюцца неабходныя для лепшага разуменьня зьместу тлумачэньні, безь ніякіх ацэнак і інтэрпрэтацыяў.

## Заўвагі

1 Сташкевіч М. Грамадзянская вайна і ваенная інтэрвенцыя 1918-1920 // Энцыклапедыя Гісторыі Беларусі. Т.3. Менск, 1996. С.99-110. З гледзішча зьместу тэрмін мае відавочнае расейскае паходжаньне, спашлемся на энцыкляпэдычнае падсумаваньне расейскай гістарыяграфіі пэрыяду: Гражданская война и военная интервенция в СССР: Энциклопедия. Москва, 1983. Забаўна, што ў прадмове дакладна акрэсьленыя часавыя рамкі працы — 1918-1920 гады, *калі ніякага СССР яшчэ не йснавала.*

2 Адзінай грунтоўнай працай бадай што можна лічыць двухтамовую манаграфію Вадзіма Круталевіча «Нараджэньне Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі», аднак апрыёрная антыпатыя аўтара да спробаў стварэньня несавецкай незалежнай Беларусі ўневажняе навуковую каштоўнасьць гэтай манаграфіі.

3 Гл. Бібліяграфію.

4 Byelorussian Statehood: Reader and Bibliography/ Ed. by Vitaut Kipel and Zora Kipel. Byelorussian Institute of Arts and Sciences, New York, 1988. 398 pp.

5 Davies N. Europe: A History. Oxford University Press, 1996. P.933.

6 Сурмач Г. «Мы адчувалі, што мы народ!»: Лёс архіваў Беларускай Народнай Рэспублікі // Літаратура і Мастацтва. №13. 26 сакавіка 1993. С.14-15. Далей — Сурмач, цыт. пр.

7 Як пісаў у 1928 годзе Антон Луцкевіч, дакумэнты БСГ былі ў 1913 годзе «здадзены на сховы ў Вільні нясумленнаму чалавеку, які іх прысабечыў і адмовіўся вярнуць. Ці яны засталіся ў ягоным асабістым архіве, ці мо' зьнішчаны, - ня ведаю» (Луцкевіч А. За дваццаць пяць гадоў (1903-1928). Вільня, 1928. С.25). Каму быў перададзены архіў — дагэтуль застаецца невядомым. Раней архіў БСГ пэўны час захоўваўся ў Леоніі з графаў Дунінаў-Баркоўскіх Зямкевічавай (жонкі Рамуальда Зямкевіча ад 1912 году). У 1911 годзе яна зь меркаваньняў бясьпекі перадала яго «загадчыкам Грамады» (братам Луцкевічам?), бо пачала рэдагаваць сацыял-дэмакратычны тыднёвік «Światło» (Леонія з графаў Дунінаў-Баркоўскіх Зямкевічава (нэкралёг) // Беларусь (Менск). 1919.12.24.

8 Зь ліста К.Езавітава І.Ермачэнку за 5 чэрвеня 1943 году: «З архівамі Беларускага Руху абыходзіліся дужа нядбала й не па-грамадзку. Гэтак напрыклад Архіў Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Менску, Архіў Вялікай Рады й

Цэнтральнай Вайсковай Рады быў захоплены бальшавікамі ў студзені 1918 году, калі яны напалі на Беларускую Вайсковую Раду ўначы й арыштавалі мяне й Захарку. У лютым мы аднак захапілі ўладу ў Менску і зноў здабылі гэтыя архівы. Прычым высьветлілася, што сакратар Усебеларускага Кангрэсу Тамаш Грыб невядома куды падзеў архіў Кангрэсу, які яму быў даручаны для апрацоўкі й надрукаваньня. Асталіся толькі дакумэнты Мандатнае Камісіі, якія перахоўваліся ў Старшыні яе, гр. П.Крэчэўскага» (цыт. паводле: Сурмач, цыт. пр. С.15).

[9] Цыт. паводле: Сурмач, цыт. пр. С.15.

[10] Бібліятэка Акадэміі Навук Літвы (БАНЛ), 21.319.

[11] Нацыянальны Архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ), 325.1.130:031.

[12] Дзяржаўны Архіў Літвы (ДАЛ), 582.1.43:216.

[13] Дзяржаўны Архіў Літвы (ДАЛ), 582.2.45:002-003.

[14] Нацыянальны Архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ), 325.1.198:020-022. У памешканьні Дыпляматычнага Прадстаўніцтва БНР у Коўне (праспэкт Вітаўта, 30) месьцілася канцылярыя Ураду і Архівы; у адным пакоі жыў Вальковіч; яшчэ ў адным пакоі ды кухні — Ластоўскі.

[15] Цыт. паводле: Сурмач, цыт. пр. С.15.

[16] Цыт. паводле: Сурмач, цыт. пр. С.15.

[17] Справа Вацлава Ластоўскага / Публ. Ул. Міхнюка // Маладосць. №9. 1993. С.220.

[18] Напр. справы 2, 3, 6, 7, 8, 15, 15, 18, 19, 21 з характэрнымі «сьлядамі» Варонкі — занатоўкамі, выдзяленьнямі й г.д.

[19] Цыт. паводле: Сурмач, цыт. пр. С.15.

[20] Сурмач, цыт. пр. С.15.

[21] БАНЛ, 21.2163:016-024г.

[22] Самы раньні запіс у інвэнтарнай справе Фонду №582 Дзяржаўнага Архіву Літвы датаваны 24 лістапада 1949 году.

[23] ДАЛ, 234.2.269; 234.2.320.

[24] Тамсама.

[25] Караленка М. Беларускі загранічны архіў // Шлях Моладзі. №3. 1938. Цыт. паводле: Сурмач, цыт. пр. С.14.

[26] Геніюш Л. Споведзь. Менск, 1993. С.63-64.

[27] З справаздачы д-ра Рыхеля, ЦДАКР (Масква), 5875.1.40:003. Цыт. паводле: Сурмач, цыт. пр. С.14.

[28] Сурмач, цыт. пр. С15.

[29] Сярод найбольш грунтоўных публікацыяў варта адзначыць зборнік: Знешняя палітыка Беларусі: Зборнік дакументаў і матэрыялаў. Т.1. (1917-1922 гг.), Мінск, 1997.

[30] Ужываньне ў нашай працы этноніму «*жыды*» й вытворных ад яго словаў патрабуе асобнага камэнтару. У канвэнцыях клясычнага варыянту беларускай літаратурнай мовы («тарашкевіцы») і ў жывой беларускай мове дасавецкага часу гэтае слова было адзіным назовам гэтага народу, лёс якога за стагодзьдзі супольнага жыцьця цесна пераплёўся зь беларускім. У гэтым сэнсе Беларусь належала таму самаму эўрапейскаму арэалу, што й Польшча, Літва ды іншыя краіны Ўсходняй Эўропы, дзе словы «Żyd», «żydas» ня маюць ніякага абражальнага або адмоўнага адценьня. Гвалтоўная русыфікацыя падсавецкай Беларусі надала беларускаму слову «жыд» зусім іншае гучаньне — у расейскамоўным кантэксьце яно ўспрымаецца гэтаксама як і адпаведнае расейскае, безумоўна абразьлівае, слова. Апошнімі дзесяцігодзьдзямі вяртаньне да клясычнага, несавецкага варыянту беларускай мовы зноў паставіла пытаньне аб статусе слова «жыд» — аб тым як вярнуць яго ва ўжытак, ня крыўдзячы самых прадстаўнікоў гэтага народу.

Праблема найчасьцей узьнікала дзеля таго, што апошні раз замена савецкага «яўрэй» на несавецкае «жыд» адбылася ў надзвычай трагічны для нашых народаў час Другой сусьветнай вайны, што не магло не выклікаць у сёньняшніх людзей балючых асацыяцыяў. З другога боку ўспрыманьне гэтага слова залежыць і ад таго, кім лічыць нас, беларусаў — асобным усходнеэўрапейскім народам (як палякі або літоўцы), або нейкімі «малодшымі братамі» расейцаў і мову нашую — толькі адгалоскам расейскай з усімі яе сэнсавымі асацыяцыямі. Гэтая дылема, аднак, дагэтуль застаецца нявырашаная, а прыхільнікі «тарашкевіцы» часта, каб пазьбегнуць канфрантацыі, ужываюць словы «гэбрай», «гэбрайскі». Аднак у нашай працы ўжываюцца словы «жыд», «жыдоўскі» для перадачы тэрмінаў «jidn», «jidiš» і «гэбрай», «гэбрайскі» для перадачы тэрмінаў «'ivri», «'ivrit», што зрэшты адпавядае жывой стыхіі дакумэнтаў. Зрэшты, пра сымпатыю да гэбрайскага народу дзеячоў БНР красамоўна прамаўляюць самі дакумэнты.

**Центральный Государственный Архив Литовской ССР**
**Отдел секретных фондов**

## Совет министров (белогвардейской) белорусской «народной республики» («БНР») гор. Каунас

**Фонд №582**
**Инвентарная опись №1**

**Протоколы заседаний, переписка по личному составу, переписка, доклады по вопросам создания белорусской белогвардейской республики.**
**За 1917-1924**
**(на 7 листах)**

1. Протоколы, резолюции заседаний членов с'езда белорусских контрреволюционных партий и организаций в Минске в 1917 г. (5.08.1917–8.12.1917)
2. Личная переписка старшины БНР Воронко Язепа (5.04.1918–8.09.1918)
3. Списки служащих секретариата БНР и переписка по финансово-хозяйственным вопросам (19.04.1918–6.11.1919)
4. Протоколы заседаний Совета БНР, переписка по личному составу членов правительства и заграничных представителей БНР, резолюции и доклады во вопросу создания «самостоятельной» Белорусской республики (16.12.1919–18.10.1923)
5. Список офицерского и рядового состава белорусских белогвардейских воинских частей в г. Каунас (17.06.1919–29.06.1919)
6. Декларации, заявления, меморандумы, резолюции, протесты и другие материалы белорусских контрреволюционных партий, организаций о результатах мирной конференции в Риге и мирных переговоров в Париже (18.03.1920–25.03.1921)
7. Декларации, заявления и переписка по вопросу о мирной конференции в Риге (2.10.1920–25.03.1921)
8. Материалы по вопросу мирной конференции в Риге (21.09.1920)
9. 1) Доклад Ладнова о работе Белорусской миссии БНР в Париже 2) Доклад Бодуновой о результатах поездки в РСФСР (4.06.1920)
10. Обзор бурж.-националистической печати Польши и Литвы (30.12.1920)
11. Печатное издание Душевского «Белоруссия и Рижский мир» резолюции и заявления БНР о создании белорусской «самостоятельной» республики (2.10.1920–12.02.1921)
12. Приказы по белорусскому белогвардейскому отдельному батальону в г. Каунасе по личному составу (12.11.1920–12.02.1921)
13. Печатное издание белорусского контрреволюционного батальона в г. Каунас «стражь отечества» (21.03.1920–10.03.1921)

14. Личная переписка членов правительства БНР Луцкевича и Ластовского (17.08.1920–17.05.1921)

15. Материалы о деятельности правительства БНР (12.06.1921–20.12.1921)

16. Воззвания к белорусскому населению о создании белорусской белогвардейской «самостоятельной» республики (25.03.1921)

17. Копия договора между РСФСР и белорусской Советской Социалистической республики за 1921 г.

18. Доклад литовскому правительству о политическом состоянии Белоруссии (29.03.1921)

19. Резолюции, постановления, переписка по вопросу присоединения Белоруссии к Польше (на французском языке) (16.06.1921)

20. Резолюции, переписка по вопросу польско-литовской конференции в Брюсселе и мирной конференции в Риге (14.04.1921)

21. Резолюции белорусского национально-политического контрреволюционного собрания партий и организаций в Праге (28.09.1921)

22. Сообщения белорусского белогвардейского пресс-бюро в г. Каунас (20.07.1921)

23. Протест Польскому правительству против принятых законов о наделении польских солдат земель ранее населенных белорусами (10.01.1921)

24. Переписка и отчёты делегатов БНР в Москве и Минске (11.08.1921–17.08.1921)

25. Личная переписка председателя Совета министров Ластовского Вацлава (22.04.1921–8.09.1921)

26. Доклады министра по делам национальных меньшинств БНР Житловского на имя президента XII сионистского конгресса в Карлсбаде об отношении к евреям (30.11.1921)

27. Письмо президиума Совета БНР к отколовшимся 5 членам Совета во главе с Тарашкевичем с предложением об'единения (13.03.1921)

28. Письмо к министру иностранных дел Франции об отзыве представителя БНР в Париже Ладнова (28.05.1921)

29. Переписка с представителями БНР в Германии и Франции по организационным вопросам (21.10.1921–20.12.1921)

30. Переписка с контрреволюционными белорусскими организациями в США по организационным и финансовым вопросам (25.10.1921)

31. Резолюции собраний заграничной партии — белорусской партии эсеров в г. Каунас (6.02.1921–7.03.1921)

32. Выписка из протоколов заседаний контрреволюционного белорусского Совета Слуцкой области об отношении к Польше и к белогвардейской армии Булак-Балаховича (12.01.1921–30.01.1921)

33. Обращения к союзу прибалтийских государств о предоставлении денежной ссуды (30.05.1921)

34. Журнал «Воин» (Wojskowy) изданный генеральным штабом

Литовской армии для белорусов военнослужащих Литовской армии (1.05.1921)

35. Обзор газетных статей по белорусскому вопросу (20.02.1921)

36. Брошюры, вырезки и выписки из белогвардейских газет по вопросу Белоруссии (20.03.1921–24.11.1921)

37. Копии газетных статей об отношении правительства БНР к евреям (6.05.1921)

38. Статьи, предназначенные для опубликования в печати (25.01.1921)

39. Статьи, предназначенные для опубликования в печати (9.05.1921–25.07.1921)

40. Доклады, меморандумы, переписка по вопросу создания белорусской «независимой» республики (материалы белорусской партии эсеров) (2.03.1922–2.05.1922)

41. Резолюции белорусской партии эсеров, доклады, воззвания БНР о создании «самостоятельной» белорусской республики, переписка по организационным вопросам (20.05.1922)

42. Выписки и вырезки из литовских газет по вопросу создания «самостоятельной» белорусской республики (20.05.1922)

43. Личная переписка и документы председателя Совета Министров БНР Ластовского (Имеются печатные издания белорусских белогвардейских отрядов в Польше) (18.06.1922–15.09.1922)

44. Протоколы собраний и переписка партии белорусских эсеров в г. Каунас. Вырезки из газет по вопросу Белоруссии (Имеется доклад Душевского о поездке в Прагу, устав Белорусского общества по оказанию помощи пострадавшим от войны и устав белорусского кооперативного народного банка) (22.09.1924)

45. Личная переписка председателя Совета Министров БНР Ластовского

45а. Мемориал к польскому правительству о создании «самостоятельного» белорусского государства (18.12.1918–22.11.1922)

46. 1) Переписка с представителями БНР в разных странах и с разными учреждениями
2) Статьи, печатные материалы по вопросу создания белорусского «независимого» государства (1.11.1920–28.06.1921)

47. Литературные рассказы, стихи, статьи для опубликования в печати (15.03.1921)

48. Личная переписка председателя Совета Министров БНР Ластовского В.Ю. (31.12.1922–1.12.1925)

49. Переписка редакции газеты «Кривич» в г. Каунас (редактор В.Ластовский и К.Дуж-Душевский) по организационным вопросам (27.02.1923–7.05.1924)

50. Заявления Ластовского и других. Материалы делегации в Риме

51. Резолюция белорусского центрального Совета Виленской и Гродненской области и Виленского национального белорусского комитета о создании самостоятельной белорусской республики контрреволюционного содержания

52. Резолюция интернированных белоруссов лагеря Лихтенгорст (Германия) о солидарности с контрреволюционным правительством БНР

53. Воззвание белорусской белогвардейской организации «Советской национализации связи» о создании «самостоятельной» белорусской республики

54. Меморандум к папе римскому о введении белорусского языка в костелах и духовных семинарах

55. Доклад, резолюция и воззвание контрреволюционного белорусского национального комитета в г. Гродно

56. Воззвание белогвардейцев к красной Армии о переходе на сторону контрреволюционной армии Колчака

57. Доклад об отношении польского правительства к белоруссам

58. Доклад И.Лурье «белорусская проблема и еврейство» буржуазно-националистического содержания

59. Доклад на тему «Сельское хозяйство» Белоруссии

60. Устав белорусского товарищества помощи жертвам войны

61. Устав и программа белорусского товарищества Красного Креста

62. Анкеты членов партии белорусских эсеров, сионистов и других контрреволюционных организаций о взглядах на будущее государственное устройство Белоруссии

63. Автобиографический очерк жизни министра иностранных дел бывшей буржуазной Польши графа Станислава-Павла-Льва Сопега

64. Регистрационные листки жителей Белоруссии

65. Обзор печати за период 3 по 17 мая

66. Вырезка из газеты статьи Ластовского «Юга и Громовик» — белорусская легенда на немецком языке

67. Статья от группы белорусской социал-демократической партии в Польше о положении белоруссов

68. Статья на тему «чего ожидать» белоруссам особенно православным от Польши

69. Польская буржуазно-националистическая газета «Курьер польский» за 3.5.1920 и белорусская советская газета «Вильный сьцяг» со статьями по вопросу Белоруссии

70. Чистые бланки анкет для военнослужащих белорусской белоповстанческой армии в Литве

71. Визитные карточки деятелей БНР

## Инвентарная опись №2

## Протоколы заседаний Совета Министров Рады, переписка по личному составу и по вопросам создания белорусской белогвардейской республики.
## 1918-1925 г.
## (на 5 листах)

1. Протоколы заседаний Совета министров и декларации правительства БНР (1918)
2. Протоколы заседаний и другие материалы делегации правительства белорусской белогвардейской республики и белогвардейских белорусских организаций на территории Украины (1918)
3. Протоколы заседаний делегации по переговорам с иностранными государствами (1918)
4. Протоколы заседаний делегации по вопросам иностранных переговоров (1918)
5. Протоколы заседаний Рады, переписка по вопросу признания белорусской белогвардейской республики Германией и Литвой (1918)
6. Законодательные материалы, переписка с другими белогвардейскими учреждениями, материалы для печати, вырезки из газет (имеется протокол заседаний Минской городской думы) (1918)
7. Протест на имя немецкого рейхсканцлера против присоединения территории Белоруссии к Польше (1918)
8. Копии приказов по создании белорусских белогвардейских воинских формирований на западно-румынском фронте (1918)
9. Обращение к немецкому правительству, с иностранными государствами и другие материалы делегации для переговоров с немецкими властями
10. Обращение принятое исполнительным комитетом белорусского белогвардейского с'езда (1918)
11. Обращение к Лиге Наций, указания для местных властей, списки личного состава (1918)
12. Материалы для докладов, статьи для опубликования в печати, декларации по вопросу годовщины белорусской белогвардейской республики (1918)
13. Материалы Варшавской делегации правительства БНР
14. Резолюция к/революционных белорусских организаций, копии справок, выданных разным лицам (имеется справка, выданная белорусскому поэту Янка Купала) (1918)
15. Заявления и решения волостных собраний и отдельных лиц об издевательствах немецких оккупационных властей (1918)
16. Описание очевидца положения белорусов в оккупированной Польшей территории Западной Белоруссии (1918)
17. Списки жителей Белоруссии служивших в армии (1918)

18. Удостоверение личности Прушинского, члена Рады БНР (1918)

19. Фотокопии об'явлений, грамоты, список делегатов с'езда белорусских буржуазных националистов (1918)

20. Переписка с немецким буржуазным правительством и с белорусскими буржуазными националистическими организациями за границей об оказании помощи, копии статей латинских газет о создании белорусской белогвардейской республики правительства БНР (1918)

21. Переписка с немецкими оккупационными властями по вопросам имущества, оставленного в б. доме Минского губернатора (1918)

22. Переписка по вопросам организации и деятельности белорусских буржуазно-националистических организаций (1918)

23. Переписка по вопросу организации местных белорусских белогвардейских рад (1918)

24. Переписка по вопросам белорусских беженцев (1918)

25. Переписка по хозяйственным вопросам (1918)

26. Переписка по вопросу работы торговой палаты (1918)

27. Документы финансовой отчетности (1918)

28. Документы финансовой отчетности (1918)

29. Черновики документов финансовой отчетности (1918)

Доклады, отчеты и другие материалы заграничных миссий правительства БНР:

30. Миссия в Праге (1919)

31. Миссия в Берлине (1919)

32. Миссия в Латвии (1919)

33. Миссия в Париже (1919)

34. Миссия на Украине

35. Миссия в Литве

36. Законодательные материалы, выписки из протоколов заседаний министров, копии приказов литовского буржуазного правительства, переписка с другими буржуазно-националистическими организациями, с литовским правительством (1919)

37. Протоколы, доклады, выписки из газет и другие материалы по вопросу признания белорусской белогвардейской республики (1919)

38. Протоколы, доклады, выписки из газет и другие материалы по вопросу признания белорусской белогвардейской республики, приказы о создании воинских формирований (1919)

39. Протоколы заседаний, решения и переписка верховной Рады, отчет Министерства иностранных дел БНР (1919)

40. Доклады министра финансов, сметы, переписка по финансовым вопросам (1919)

41. Отчёт белогвардейской военной миссии в Берлине по вопросу положения белоруссов, находившихся в немецком плену (1919)

42. Бюллетени белорусского белогвардейского пресс-бюро в Берлине, отчёт о деятельности военной миссии в Германии, печатное

издание для военнопленных белоруссов в Германии (1919)

43. Бюллетени белорусского белогвардейского пресс-бюро в Риге и образцы бланков консульства в Риге (1919)

44. Бюллетени пресс-бюро белорусских бурж. националистов (1919)

45. Номенклатура делопроизводства (1919)

46. Заявление о создании белорусских школ, переписка с польскими властями и отдельными лицами и по личному составу (1919)

47. Переписка с белорусскими буржуазно-националистическими деятелями и организациями по вопросу дипломатических переговоров работы представителей БНР и бюллетени белорусского пресс-бюро, личная переписка старшины БНР Ластовского (1919)

48. Документы финансовой отчетности (1919)

49. Протоколы заседаний делегации БНР для переговоров с литовским буржуазным правительством (1920)

50. Информационные сообщения, доклады и переписка по вопросу создания белорусского белогвардейского государства и по другим вопросам (1920)

51. Доклады и переписка делегации в Лиге Наций в Женеве о признании белорусской белогвардейской республики (1920)

52. Меморандумы к иностранным правительствам по вопросу создания белорусского белогвардейского государства (1920)

53. Бюллетени белорусского пресс-бюро, личная переписка старшины БНР Ластовского (1920)

54. Переписка с иностранными миссиями, белорусскими буржуазно-националистическими организациями, государственными и другими учреждениями по вопросу признания белорусского белогвардейского государства (1920)

55. Переписка с польскими оккупационными властями по вопросам организации и работы белорусских школ (1920)

56. Оправдательные материалы финансовой отчетности (1920)

57. Доклады и материалы по бюджету (1921)

58. Бюллетени белорусского пресс-бюро, личная переписка старшины БНР Ластовского (1921)

59. Вырезки из газет (1921)

60. Доклады, отчёты и переписка по вопросу создания белорусской белогвардейской республики и угнетения белорусского населения в Польше (на конференции Лиги Наций в Женеве) (1923)

61. Протоколы заседаний совета министров, решения и другие материалы, о ликвидации правительства белогвардейской республики

62. Карта БНР

63. Книга регистрации входящих и исходящих документов

64. Белорусское пресс-бюро при БНР в Праге. Информационный бюллетень белорусской белогвардейской рады в Праге (1932)

# 1835

**0001. Ліст маршалка шляхты Драгічынскага павету Пяньковўскага князю Сяргею Іванавічу Давыдаву за 9.02.1835 у справе пашпартоў для сялянаў**

*582.2.36:049 — ра*

---

Дакумэнт з асабістага архіву Я.Варонкі.

# 1904

**0002. Da svajho Boha. Pa-polsku napisau Maurycy Zych [Стэфан Жаромскі]. Na biełaruski jazyk pierełazyu Janka Svajak [Марыян Фальскі[1]]. [Вільня, 1904].**

*582.1.01:043&r-046r — ш*

---

Апісаньне гэтага выданьня гл. у: Александровіч С. Пуцявінамі роднага слова. Мінск, 1971. С.121-123; гісторыя выданьня: Turonek J. Wacław Iwanowski i odrodzenie Białorusi. Warszawa, 1992. S.37-38. Дагэтуль быў вядомы толькі адзін асобнік, які захоўваецца ў Бібліятэцы Акадэміі Навук Літвы (Кніга Беларусі: Зводны каталог. Мінск, 1986. С.229).

[1] Пра беларускія кантакты Мар'яна Фальскага гл. Луцкевіч А. За дваццаць пяць гадоў. Вільня, 1928. С. 21.

# 1908

**0003. Білет на звальненьне студэнта Фізыка-матэматычнага факультэту Пецярбурскага Ўнівэрсытэту Антона Луцкевіча ў адпачынак тэрмінам да 20.08.1908, выдадзены 15.07.1908**

*582.1.46:013*

---

Дакумэнты 0003-0015 — з асабістага архіву Антона Луцкевіча. А.Луцкевіч паступіў на фізыка-матэматычны факультэт Пецярбургскага Ўнівэрсытэту ў 1902 годзе. Навуку даводзілася неаднаразова перапыняць.

**0004. Квітанцыя за 20.09.1908 аб унясеньні Антонам Луцкевічам платы за слуханьне лекцый у Пецярбурскім Унівэрсытэце й на карысьць Унівэрсытэту ў восеньскім паўгодзьдзі 1908 году**
*582.1.46:010*

# 1909

**0005. Квітанцыя за 14.04.1909 аб унясеньні Антонам Луцкевічам платы на карысьць Пецярбурскага Ўнівэрсытэту ў веснавым паўгодзьдзі 1909 году**
*582.1.46:009*

**0006. Квітанцыя за 17.04.1909 аб унясеньні Антонам Луцкевічам платы за слуханьне лекцый у Пецярбурскім Унівэрсытэце ў веснавым паўгодзьдзі 1909 году**
*582.1.46:008*

**0007. Квітанцыя за 13.11.1909 аб унясеньні Антонам Луцкевічам платы за слуханьне лекцый у Пецярбурскім Унівэрсытэце й на карысьць Унівэрсытэту ў восеньскім паўгодзьдзі 1909 году**
*582.1.46:007*

# 1910

**0008. Правілы пераводу студэнтаў у іншы ўнівэрсытэт, дасланыя Пецярбурскім Унівэрсытэтам Антону Луцкевічу (Менск, Крещенская, 25[1]) 2.08.1910**
*582.1.46:006&r*

[1] Адрас пражываньня А.Луцкевіча ў часе паступленьня ва Ўнівэрсытэт у 1902 годзе. Ад пачатку лютага 1906 г. А.Луцкевіч жыў у Вільні.

**0009. Позва Антону Луцкевічу за 2.08.1910 з запрашэньнем зьявіцца ў канцылярыю Асобнага Корпусу Жандармаў у якасьці сьведкі**
*582.1.46:012r*

Абставіны справы невядомыя.

**0010. Прашэньне Антона Луцкевіча за 18.08.1910 прарэктару Пецярбурскага Ўнівэрсытэту аб дазволе ўнесьці плату за веснавое паўгодзьдзе 1910 году**
*582.1.46:001*

**0011. Квітанцыя за 19.08.1910 аб унясеньні Антонам Луцкевічам платы на карысьць Пецярбурскага Ўнівэрсытэту ў веснавым паўгодзьдзі 1910 году**

*582.1.46:011*

**0012. Чарнавік ліста Антона Луцкевіча (Вільня) у Пецярбурскі Ўнівэрсытэт за ?.08.1910 у справе пераводу ў Юр'еўскі Ўнівэрсытэт**

*582.1.46:003&r*

**0013. Ліст зь Пецярбурскага Ўнівэрсытэту Антону Луцкевічу (Вільня, Георгіеўскі прасп., 4-10) за 27.08.1910 у справе пераводу ў Юр'еўскі Ўніэврсытэт**

*582.1.46:004&r*

**0014. Ліст зь Пецярбурскага Ўнівэрсытэту Антону Луцкевічу (Вільня) за 29.10.1910 у справе пераводу ў Юр'еўскі Ўніэврсытэт**

*582.1.46:005&r*

**0015. Тэлеграма Антона Луцкевіча (Вільня) рэктару Юр'еўскага Ўнівэрсытэту[1] за 1.11.1910**

Юрьевъ, Университетъ, Ректору

Вслѣдствіе увѣдомленія Петербургскимъ Ун-том принятіи меня Юрьевъ только вчера, перевожу телеграфом 25 руб. явиться лично сегодня невозможно по болѣзни прошу недѣлю отсрочки

Ст. Ант. Луцкевич 1/XI 10.

*582.1.46:002*

[1] Рэктарам Юр'еўскага Ўнівэрсытэту ў 1909-1914 гг. быў Вісарыён Грыгор'евіч Аляксееў.

# [1913]

**0016. Д.Р. Бѣлоруссія // Новый энциклопедическій Словарь. VIII томъ. Издатели Ф.А.Брокгаузъ (Лейпцигъ), И.А.Ефронъ (С.-Петербургъ). С.-Петербургъ, s.d.**

*582.2.36:073-074 — мк*

Паводле зьместу тома, прыблізная дата ягонага выхаду — 1913 год. Дакумэнты 0016-0019 — машынапісныя копіі з асабістага архіву Я.Варонкі.

**0017. П.Ефименко. Бѣлоруссы // Новый энциклопедическій Словарь. VIII томъ. Издатели Ф.А.Брокгаузъ (Лейпцигъ), И.А.Ефронъ (С.-Петербургъ). С.-Петербургъ, s.d.**

*582.2.36:076-090а — мк*

**0018. С.Буличъ. Бѣлорусское нарѣчіе // Новый энциклопедическій Словарь. VIII томъ. Издатели Ф.А.Брокгаузъ (Лейпцигъ), И.А.Ефронъ (С.-Петербургъ). С.-Петербургъ, s.d.**
*582.2.36:091-099 — мк*

**0019. Антонъ Новина. Бѣлорусское движеніе // Новый энциклопедическій Словарь. VIII томъ. Издатели Ф.А.Брокгаузъ (Лейпцигъ), И.А.Ефронъ (С.-Петербургъ). С.-Петербургъ, s.d.**
*582.2.36:106-112 — мк*

# 1915

**0020. Статут Беларускаго Таварыства па аказаньню помачы пацярпеушым ад вайны. Типографія М.М.Кухты, въ Вильнѣ. 1915 г.**
*582.1.44:002-009 — д*

---

Таварыства заснаванае 9.04.1915. Статут падпісалі: «Інжэнер-тэхнолёг Вацлау Леванардоу Іваноускі; Надворны радчы Павал Мікалаёу Радкевіч; Праслухаушы Курс Петраградзкаго Унівэрсытэту Павал Павлоу Алексюк; Селянін Ігнат Мікалаёу Біндзюк; Мешчанін Вацлау Юстыноу Ластоускі; Заведуючы Счетоводнымі курсамі Мікалай Іваноу Мохов». Апісаньне: Кніга Беларусі: Зводны каталог. Мінск, 1986. с.258.

**0021. Унівэрсал Канфэдэрацыі Вялікага Княства Літоўскага. Вільня, 15.12.1915**
*582.1.41:001&r — д*

---

У нарадах у сьнежні 1915 г., якія прынялі назоў «Канфэдэрацыі Вялікага Княства Літоўскага», бралі ўдзел А. і І.Луцкевічы, В.Ластоўскі, Д.Сямашка, д-р Ю.Шаўліс, С.Кайрыс, д-р Ром, д-р Шабад, інж. Заштаўт. Гл.: Собственноручные показания А.И.Луцкевича. 30 октября 1939 г. // Нёман. 1995. №1. С.138.

# 1916

**0022. Пасьведчаньне Камітэту Менскага Аддзелу Беларускага Таварыства Помачы Пацярпеўшым ад Вайны, выдадзенае Людвіцы Сівіцкай 11.12.1916 (вых. №24) у тым, што яна ёсьць скарбнікам Менскага Аддзелу Таварыства**
*582.1.14:071*

# 1917

**0023. Статут Беларускага Каапэрацыйнага Народнага Банку (Уставъ Бѣлорусскаго Кооперативнаго Народнаго Банка)**

*582.1.44:010-032 — мк*

Дата невядомая.

**0024. Пратакол зьезду беларускіх нацыянальных арганізацыяў у Менску 25-27.03.1917**

*582.1.01:048&r-049&r — д*

Публікацыя: Спадчына. №4. 1990

**0025. Пастановы сялянскага зьезду, скліканага Беларускім Нацыянальным Камітэтам у Менску 4.04.1917**

*582.2.11:011-012 — мк*

Старшыня зьезду — А.Смоліч. Прысутнічалі 52 дэлегаты з Магілеўскай і Віленскай губ.

**0026. Праект праграмы Беларускай Народнай Партыі Сацыялістаў**

*582.2.05:009&r — д*

Партыя была заснаваная ў траўні 1917 году ў Менску. Арганізацыйнае Бюро месьцілася на Захараўскай вул. д. №24 (Беларуская кнігарня)

На адвароце дакумэнту алоўкам — сьпіс сяброў партыі (?):

«Скирмунт +
Алексюк +
Власов +
Левицки +
Крепски –
Герлятович –
Комаровскі Павлюк – ?
Кульчицкій Св. +
Русецкі (+)
Годлевскій Кс. +
Верниковскі +
Окуличъ +
Земкевич +
Коральчукъ Кс. +
Чеховичъ –
Круглик ?
Очаковскій Св. +
Годыцкій-Цвирко +
Кондратович Генер. +
Васюкевич Св. +
20

Кооптація
Мядзелко +
Раткевич +
Турчинович +
Кузмицкій +
Цикота Кс. +
Ленкоускій +
Жук — Св. ? +
Орурк Епископ –»

**0027. Статут Таварыства Беларускай Культуры**
*582.1.01:026&r — мк*

Таварыства Беларускае Культуры заснаванае ў Менску 1917.05.11. Гл. Вольная Беларусь. №1. 1917.05.28

**0028. Месцы беларускай працы (Сьпіс беларускага актыву ў гарадох Расеі)**

Мейсцы беларускай працы.

А
Астрошыцкі Гарадок Сарока М.В.
Б
Бабруйск 200 пол. зап. госпит. Ф.Шантыр (Б.С.Г.)
Барысоў Андреевская ул. Быковскій И.В.
Буда Кошэлеўская Боярчук 2х классное училище
Богородзіцак Біруля [...] ул. Белар. Нац. Гурт.
В
Вітэбск, губ. Мелешко. Канцэлярыя Глав. Нач. Двинскаго воен. окр.
Верхмень — Ігум. пав. ст. Смолевічы М.Гончарык, Ив.Коваленок
Выборг Дземідовіч. Учительская Семинарія. Член союза учителей
Вілейка, Віленск. Губ. Камісару Сапрыку Яз.
Г
Глыбокае Чечели — Ив.Петух?
Глуск, Бобр. пав. Жданко. Хлѣбопекарская, 39
Грэск, Слуцк. пав. Міклашэвіч
Ганнаполь (ст. Мінск) кс. Курилловичу
Гомель Нецецкі І. уг. Орловской и Батарейной соб.д.
Гомель. Белар. Дэмокр. Камітэт. Упраўл. Палес. ж.д. Гушча
Д
Дзісна Яхімовіч О.Л. Сов. Крест. Деп.
Давід Гарадок, Мазыр. пав. Давід[ч]ык вучыцелька
Даўгіноў Заяц Леон.
Дзераўно, Ашмян. пав Цехановіч Заст. Беліца
Е
Екацерынослаў Мелешка Ціх.Пр. Управл. Коммечр. Службы Екат. ж.д.
Ж
Жітомір Гостель И.Д. Губернское Земство

З
Златоуст Гриб 128 пѣх. Зап. полк 2я рота
Золатагорская Хаўрусная Крама
Зарайск Рязан. г. Чемер прап. Офицерск. Собр.
І
Ілія, Вілейск. пав. Бекіш Ян — Хаценчыцы
Ігумень, Мін. губ. Касперовіч Н. Муравьевская, 78
К
Капыль, Мінск. губ. Мороз Міх.
Кіеў. Гурток «Зорка». Златоустовская 22-6 Л.І.Галькевіч
Койданоў Козаневіч
Клецак, Слуцк. пав. Блячын Ле[ок]. Новіцкая
Крайск, Вілейск. пав.
Кутнеў, Слуцк. пав. (ст. Пагост Сл.п.) Сеўрук С. К.Навук.Грам.
Красноярск. Бел. Нац. кам. Д.Е.Лаппо
Казань «Пралеска» — 2я Солдатская, 57 — Сычова, кв. К[...]скаго
Л
Ліпецк Тамбов. губ. Козловскі Е.С. Лебедзяная, 8
Ленін, Мозыр. пав. Борысевіч прап.
М
Могілеў Бел. Ком. Реут — Днѣпров. пер. 12
Мінск Бел. Соц. Грам., Захар. пер. 6
Выконаўчы Камітэт, Тав. Бел. Культ., Т. Пом. а.в. Захар. 18
Масква Беларус. Соц. Гр. Зубовская пл. 1-26
Белар. Народ. Грамада Зуб. пл. Теплый пер. 20-51
Маладэчына, Вілен. губ. Купіцкі И.И. ветер. вр.
Марыупаль дом Інвалідоў П.Шатернік
Мешчоўск, Калуж. губ. Бартоў Н.И. Бѣльскій Исп. Ком.
Мір, Навагр. п. Гаворко Ал.Кс.
Мікалаеўшчына, ст. Столпцы, Мін. пав. Міцкевічу Міх.
Магільно, Игумен. у. Наркевіч
Н
Налібэкі (почта Деревно) Міхал Лукашэвіч
Надежд. прыіск Захар Борка (Иркут. губ.)
Новороссійск Бѣлорус-Украин бѣжен. Ком. Сухум. шоссе №40
О
Орша Жен. Учит. Сем. Бюро Белар. Камітэту
Орел, Кромская, 48. Виленскій с.х. синдик. Іваноўскі В.

*582.1.01:028&r-029 — р*

---

Дата невядомая. Паводле зьместу дакумэнт мог быць складзены прыблізна на пачатку ліпеня 1917 году (магчыма, на зьезьдзе беларускіх партыйных і грамадзкіх арганізацыяў у Менску, 8-9.07.1917). Сьпіс абрываецца на літары «О».

## 0029. Статут Беларускага Вучыцельскага Хаўрусу

*582.1.01:022 — мк*

---

Беларускі Вучыцельскі Хаўрус адноўлены падчас зьезду дэлегатаў партыйных і грамадзкіх арганізацыяў у Менску 8-9.071917. Статут апублікаваны ў: Воль-

ная Беларусь. №11. 1917.08.03. У складзе хаўрусу: Я.Лёсік, М.Мароз, П.Бадунова, А.Русак, М.Ганчарык, А.Данілевіч, В.Лявіцкая ды іншыя.

**0030. Пратаколы Першай Сэсіі Цэнтральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў у Менску 5-6.08.1917**

П[Е]РШАЯ СЭССЫЯ ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ
Беларускіх Арганізацый.

Пачатак сходу 5-го жніуня 1917-го году.

Аткрыуся у 6 гадзін вечара у памяшчэньні Беларускай Хаткі. За старшыню выбралі Петрашкевіча у таварышы яго А.Смоліча і А.Левіцкаго, пісарамі А.Антонікоускаго і З.Голочынскую. Старшыня перапрасіушы сход сказау, што не знаючы акуратне беларускай мовы, будзе гаварыць па расейску. З гэтаго поваду выступіу кс. А.Сак патрабуючы, каб старшыня пакінуу свае мейсцо, альбо гаварыу па беларуску. Яму атказалі Ф.Шантыр, Рэвінскі, Цьвікевіч і другіе, што дзеля насільства старога ладу, выгнаушаго мову са школы, толькі хто-ніхто с паміж сьвядомых беларусоу можэ гаварыць па беларуску. Ні здаволены адносінамі сходу да гэтай справы, кс. А.Сак заявіу, што выходзіць.

Пасьля гэтаго прыймаецца такі парадак дня: 1) Даклад Выканаучаго Камітэту і даклады з мейсцоу, 2) Палітычны момэнт, 3) Арганізацыйная справа, 4) Грашавая справа, 5) Выбары у Устаноучае Сабраньне, 6) Бежэнская справа, 7) Школьная справа.

Адчот Выканаучага Камітэту падкрэсьляе, што праца яго спаткала перашкоды. Глаунае — гэта слабасьць Мінскіх арганізацый і не хват людзей у Мінску. Але не мала шкодзіло і тое, што прэзыдіум Нацыанальнаго Камітэту і да гэтуль яшчэ не сдау ні рахунку ні грошы. Гэтым стварылася ніпэунасьць. Члены Нацыанальнаго Камітэту, Заяц і Алексюк даказуюць, што Камітэт не мог здаць рахункау і грошай, але што гэто працы Выканаучаго Камітэту нічога не шкодзіла.

Дзеля высненьня стану грашавых спрау абаіх Камітэтау пастаноулена выбраць Рэвізыйную Камісыю. У яе увайшлі: Турчыновіч, Бодунова, Станілевіч, Мядзіолко і Галавач.

Дзеля таго, што А.Смоліч злажыу з сябе абавязкі тав. старшыні на яго мейсца выбіраюць Ф.Шантыра.

Даклады з мейсц: Бабруйск (Шантыр), арганізацыя ідзе вельмі добра; Бел. Соц. Грам. усюды прэдстаулена і усюды яе спатыкаюць вельмі прыхільна.

Ново-Беліца (Бодунова) арганізавауся бежэнскі Беларускі Камітэт.

Маскоуская Арг. Бел. Соц. Грам. (Станілевіч), занята арганізацыей партыйнаго з'езду. Апроч таго вядзецца асьведаміцельная праца, пасылаюцца прэдстаунікі, маніцца зрабіць школы для уцекачоу, ды мала сілы і кніжак німа.

Тульскі аддзел Бел. Нар. Грам. (Брычкоускі) арганізуе аддзелы у паветах: Адкрывае дзяцінные прытулкі і школы, у якіх праводзіцца нацыанальная думка. Прыходзіцца змагацца з самазваным Рускім Камітэтам.

Кіеуская арган. «Зорка» (П.Мядзіолко). Арганізацыя падзеляна на сэкцыі: 1) Зносін з іншымі арганізацыямі. 2) Выдавецкая (збірае паевые грошы, каб друкаваць кніжкі). 3) Ваенная для арганізацыі вайсковых. 4) Культуры і прасьветы чытае лекцыі, адчоты. 5) Студэнтская — для арганізацыі студэнства і матэрьяльнай падмогі яму.

Галавач расказуе аб селянскім з'ездзі у Мінску.

У Оршы (Рэвінскі) — Камітэт арганізуе лекцыі, а так сама закладае гурткі у павеці. Адтуль што тыдзень з'езджаюцца прэдстаунікі.

Маскоуская Народная Грам. (Васілевіч) катэгарычне выступаючы у справах палітычных, не надта напірае на справу мовы. Арганізацыя выступала перад Урадам у справе пашырэньня закона аб Земстве на усю Беларусь, патрэбавала павароту эвакуіраваных школ. Шмат увагі адводзіцца бежэнскай справе, асабліва справе павароту на мейсцы. Каля 10-го верэсьня сбіраецца Беларускі бежэнскі зезд у Маскве.

Курчэновіч апаведае як ен закладау гурткі у весках Слуцкаго і Бабруйскаго павету. У мястэчку Пагосьце ен стрэу вельмі моцную аппазыцыю з боку інтэлігэнцыі і мусіу перэнесьці сваю працу у селянскую массу у весцы. Заложэна два хаурусы, а ешчэ абыцае залажыць шмат.

Кутнеуская навуковая грамада мае багатую бібліатэку — самі залажылі. Хочуць аткрыць школу, ды не маюць сілы.

Д.Міхайлоускі апаведае аб сваей працы у Д[зейнай] Арміі і у Радашкавічах.

Справа палітычнаго момэнту адкладаецца на канец, пры чым таварышу Станілевічу даручэна зрабіць даклад.

Аб справе арганізацыйнай гаворыць Смоліч. Павінна быць створэна спэцыяльная Камісыя дзеля распрацаваньня констытуцыі Рады. Рада павінна збіраціца пэрыядычна; Трэба выбраць выканаучы орган, яго мейсца у Мінску. Мінскіе арганізацыі канешне трэба пасіліць людзьмі. Шантыр прапануе выразіць у самом наказе Рады яе палітычную і соцыальную фізіономію, каб народ ведау, што Рада Беларускіх Арганізацый дабіваецца для яго не толькі волі але і хлеба.

Мядзіолко гаворыць аб заданьнях палітычных момэнту, як іх разумее Кіеуская Арганізацыя. Трэба клапаціцца аб унівэрсытэці і аб палітычнай асьвеці.

В.Левіцкая кажэ, што прамоуцы замала увагі звертаюць на нацыю, што надарэмна ганюць працу у Мінску, яна тут ішла нічуць не горэй чым гдзе.

Скарынко выказуе свае адносіны да палітычнаго момэнту. Старшыня спыняе яго.

Бадунова у атказ Левіцкай заяуляе, што уперад соцыалізм, а пасьля нацыя.

Цьвікевіч высказуецца проціу прапазыцыі дармо[ва]га пераходу зямлі, як прэдстаунік сваей арганізацыі, а пасьля пытае у сходу, як ен мае у гэтым разе паступіць, ці можа ен галасаваць пэрсанальна толькі ад свайго імяні, а не ад арганізацыі. Сход адказуе што не можна.

Мазур гаворыць аб адвечнай бядзе селянскай малазямельнасьці.

Пасьля таго галасуецца прапазыцыя Шантыра: прыняць прынцыпы будовы Рады: палітычны: — поунаго дэмакратызму і соцыяльные — пера-

ход усей зямлі бяз выкупа працоунаго народу і абарона інтэрэсау работнікау. Прымаецца 14 проці 4. Скарынко прапануе папрауку: каб замяніць «абарону інтэрэсау работнікау» — «поуным самаупрауленьнем гарадоу» Сход папрауку адхіляе.

Пастаноулена стварыць дзеля падгатоукі дакладау на заутрашні сход гэткіе камісыі: 1) Констытуцыйную. 2) Фінансавую. 3) Бежэнскую. 4) Ваенную. і 5) Агітацыйную.

ДРУГІ ДЗЕНЬ СЭССЫІ — 6-го жніуня 1917 году.

Сход адчыняна у 4 гадзіны вечара.

З дакладам ад рэвізыйнай Камісыі выступіу Турчыновіч. Камісыя не магла разабраццa у грашавых справах дзеля браку часу. Знайшлі грашавые справы у хаотычным стане.

З ацэнкай фінансавай справы выступіу Васілевіч, каторы падкрэсляе канечнасьць радыкальнай змены у адносінах да Камітэту. Алексюк тлумачыць парадкі у Камітэці рэвалюцыйным часам. Уносіцца прапазыцыя, каб уся гатоука была зараз жэ перададзена агульнаму сходу. Па просьбе скарбніка Выканаучаго Камітэту рэвізыйная Камісыя стверджае у яго справах поуны парадак. Выступае Цьвікевіч і прапануе выбраць ліквідацыйную камісыю, а выканаучаго органа цяпер не выбіраць, а адлажыць да другого з'езду. Алексюк прапануе скасаваць Таварыства помачы афярам вайны і Таварыства Беларускай Культуры. Уносіцца прапазыцыя каб зараз жэ была выбрана новая Рэвізыйная Камісыя, якая у працягу двух тыдняу павінна прыняць усе грашавые атчоты ад Нацыанальнаго і выканаучаго Камітэтау і спраудзіць іх; і на другой сэсыі Рады апавесьціць аб рэзультатах сваей працы. Прапазыцыя прынята. У Камісыю выбраны: Турчыновіч, Бодунова, Земкевіч, Міхайлоўскі і Каравайчык.

Абгаварываецца сп[р]ава сучасных фінансау Камітэту. Смоліч прапануе згодна с пастановай з'езду перадаць усе грошы сабраные на культурнанацыанальные патрэбы — Таварыству Беларускай Культуры. Шантыр кажэ, што «Вольная Беларусь» павінна быць органам Цэнтральнай Рады. Цьвікевіч уносіць на галасаваньне сваю прапазыцыю: каб грошай не адбіраць, не прымаць, а вярнуць афярадауцам. Прапазыцыя яго не прымаецца. Прымаецца прапазыцыя Шантыра, каб Рэвізыйная Камісыя звярнула увагу на дакумэнты каб не было падчыстак. Урэшці прымаецца формула пераходу: заслухаушы адчот Рэвізыйнай Камісыі аб паступленьні і расходах грошэй у Нацыанальным і Выканаучым Камітэтах да з'езду Беларускіх Арганізацый а так сама і усіх организацый якіе да іх належаць ці маюць адносіны; пабачыушы з дакладу Камісыі, што ей не былі прэдстаулены усе апраўдацельные дакумэнты прыходау і расходау, і што грашовая справа вельмі хаотычна, Беларуская Цэнтральная Рада зрабіла такую пастанову: даручыць Камісыі весьці справу далей, затрэбаваць усе дакумэнты прыходау і расходау і грошы адь усіх вышэй вылічаных арганізацый і даць дэталічны адчот па усей грашавой справе Беларускай Цэнтральнай Радзе на другой яе сэсыі.

Ставіцца на чарод праэкт Статута Цэнтральнай Рады распрацаваны Констытуцыоннай Камісыяй. Статут чытаюць па пунктах. Шантыр па-

трабуе каб у Статут былі уведзяны прынятые ужо учора прынцыпы, на якіх павінна быць пабудавана Рада. Першы пункт прыймаецца с папраукай унесенай Шантырам, а рэшта у рэдакцыі Констытуцыоннай К[а]місыі.

ПРАЭКТ СТАТУТУ[1].

1. Адпаведальным кірауніком і прэдстауніком усяе беларускай справы есьць Цэнтральная Рада беларускіх арганізацый. Рада будуецца на прынцыпах: палітычным — поунаго дэмакратызму і соцыяльных — перадача усей зямлі без выкупа працоунаму народу і абароны інтэрэсау работнікау.

2. Рада складаецца з дэпутатау, якіх пасылаюць усе беларускіе арганізацыі, гэтак сама воласьці, гарады, мястечкі, бежэнскіе арганізацыі і ваенные часьці, калі прызнаюць патрэбу самаупрауленьня Беларусі, роднай мовы і развіцьця Беларускай нацыанальнай культуры.

3. Воласьці, гарады, мястэчкі і бежэнскіе арганізацыі пасылаюць па аднаму дэпутату не залежна ад ліку людзей.

Беларускіе палітычные арганізацыі пасылаюць па аднаму прэдстауніку, калі маюць мені соткі членау, а калі больш, дык па аднаму члену на кожную сотку. Права пасылаць дэпутатау даецца тым арганізацыям, якіе маюць ні менш 10-ці членау і звязаны з Выканаучым Камітэтам Рады.

Усе іншые беларускіе арганізацыі павінны згаварыцца з Выканаучым Камітэтам, паслаушы яму сваю праграму і статут.

4. Рада выбірае прэзыдіум Рады — старшыню, яго намесьніка і пісара. Прэзыдіум пільнуе парадку сходу Рады і мае права у надзвычайных выпадках склікаць э[к]стрэную сэсыю Рады.

5. Рада выбірае Выканаучы Камітэт Рады з 9-ці чалавек, які раздзеляе абавязкі старшыні Камітэту, пісара і скарбніка паміж сабою. Мейсцабытнасьць сваю Камітэт мае у Мінску.

6. Камітэт вядзе справы палітычнаго прэдстауніцтва і абъеднаньня усіх беларускіх арганізацый.

7. Камітэт мае права склікаць э[к]стрэныя сэсыі Рады і павінен як найшырэй паведамляць арганізацыі аб звычайных сэсыях.

[Звычайные сэсыі Рады склікаюцца кожныя два месяцы. Дзень пачатку сэсыі назначаецца на папярэдняй сэсыі.]

У разе важных перашкод Выканаучы Камітэт можэ адлажыць сэсыю, паведаміушы аб прычынах адкладу прэзыдіум Рады і усе арганізацыі.

8. Звычайная сэсыя Рады правамоцна пры усякім ліку сабраных.

Аб усіх справах у Радзе пастанауляюць правам простай большасьці.

9. Усе Беларускіе арганізацыі абязуюцца ні пазней 10-го [чысла] кожнаго месяца уносіць у касу Цэнтральнай Рады 25% свайго месячнаго прыбытку.

Арганізацыя, без важных прычын прызнаных сэсыяй Рады, не уносячая грошы у касу ні мае права пасылаць сваіх дэлегатау у Раду.

Тут галасуецца Статут цалкам і прыймаецца пры 5 устрымаушыхся.

Прычыны устрыманьня падаюць такіе: Левіцкі: зъезд быу скліканы на грунце нацыанальнам а прыняу пастановы сацыалістычные. Скорынко: не

дапускае аб'еднаньня з арганізацыямі «неопределеннаго теченія» — Мядзіолко: дзеля таго што хоць у Зорцэ і больш соцыялісты, але есьць людзі і другіх напрамкау, каторые не упалномочылі яе прыймаць такіе пастановы. Фальскі: дзеля тактычных поглядоу. Курчэвіч-Сеурук: дзеля непэунасьці [у] грашавой справе Нацыанальнаго і Выканаучаго Камітэтау.

Далей праведзены выбары у Выканаучы Камітэт. Выбраны: Лесік, Дыло, Астроускі, Галавач, Шантыр, Смоліч, Курчевіч-Сеурук, Бадунова, Жылуновіч, кандыдаткай Катkоуская.

Фінансавая каміссыя прапануе прыняць такую пастанову: усе сябры Беларускіх арганізацый абкладаюцца падаткам на карысьць Беларускай справе у размеры аднаго % іхняго заробку. Гэты падатак плаціца кожнаго першаго чысла кожнаго месяца у кассу мейсцовых Беларускіх арганізацый. Усе Беларускія арганізацыі абавязаны уносіць 25% свайго месячнаго прыходу у кассу Цэнтральнай Рады не пазьней 10 чысла кожнаго месяца.

Ваенная справа. Дакладчыкам ад ваеннай каміссыі выступае Міхайлоўскі. Ен кажэ, што думка аб арганізацыі Беларускіх гурткоу у войску зрадзілся у яго па поваду арганізацыі польскіх лігіонау і латышскіх батальенау, у каторыя запісалося шмат беларусоу 10-ай арміі. Яго надта зацікавіла тое, што беларусы не маюць сваей сьвядомасьці і ідуць датаго хто іх клічэ. Пачуушы, што камандуюшчый Маскоускім ваенным округам у сваей пастанове паведаміу каб у дазоры у караулы выбіраліся суседзі, а потым гдзе есьць шмат беларусоу каб фарміраваліся цэлыя роты, ен пастарауся арганізаваць Беларускі культурна-прасьветны гурток. Цяпер Беларуская справа у войску надта хутка ідзе у перад. Есьць ужо шмат беларускіх гурткоу каторые выпрацавалі свой Статут.

Статут ставіцца на галасаваньне; прыймаецца усімі проціу аднаго. (Статут прыкладаецца)[2]

Далей Міхайлоускі чытае адозву да салдатау і афіцэрау. Адозва прыймаецца. (Адозва прыложэна). Цэнтральная Рада пастанавіла надрукаваць адозву у ліку трох тысяч экзэмплярау і разаслаць яе па усіх арміях.

Бежэнская справа. Даклад чытае Л.Сівіцка (рэзалюцыі прыкладаюцца)[3]. Дакладчыца падкрэсляе, што бежэнцам вельмі патрэбная цэнтральная арганізацыя якая узяла б на сябе усе бежэнскія справы, у Петраградзе Цэнтральны Камітэт павінен мець свайго упалнамочэннаго пры Савешчаніі па устройству бежэнцау. Даклад прыняты усімі пры адным устрымаушымся.

Агітацыйная справа. Даклад робіць Курчэвіч-Сеурук.

1. Агітацыйные сэкцыі павінны быць пры усіх Беларускіх арганізацыях.

2. Спосабамі агітацыі павінны быць: а) культурно-прасьветные: школа, коопэрацыя і зашкольная прасьвета. в) Агульна палітычные: барацьба за рэвалюцыю разам з паліт[ы]чнымі арганізацыямі. ц) Друк Беларускі.

Трэба зьвертаць увагу на мейсцовые варункі і індывідуальнасьць агітатара.

Для фінансіраванія агітацыі выкарістаць даходы выдавецтва і скарбоначных сборау.

Даклад прыняты большасьцю галасоў.

Перайшоўшы да сучасных справаў разгледжана прапазыцыя Смоліча, каб старые палітычные прэдстаўнікі выбраные зъездам спаўнялі далей свае абавязкі. Прапазыцыя прынята.

Далей Рада разглядала пытаньне аб выбары дэлегатаў у Кіеў на нараду недзержаўных народаў[4]. Пастаноўлена паслаць: ад Выканаўчаго Камітэту Рады двух чалавек, ад Петраградзкіх арганізацый — двух, ад Маскоўскіх — двух, ад Могілева — аднаго, ад Бабруйска — аднаго, ад Слуцка — аднаго, ад Кіева — аднаго.

Сэкрэтаром Рады выбраны тав. С.Курчэвіч-Сеўрук.

Урэшчы разгледжана патаньне аб чароднай сэссыі Цэнтральнай Рады. Яна назначана на 1-ае кастрычніка г.г. у Мінску.

У дванацаць гадзін ночы сход першай сэссыі Рады закрыты.

1917 году
Жніўня 7-го дня
Мінск

Пратакол запісаны згодна з праўдай.

Старшыня сходу Рады Ст.Петрашкевіч
Сэкрэтар Рады С.А.Курчэвіч-Сеўрук.

Умацаваные сходам члены Рады
(Подпісы).
*582.1.01:015&r,016&r,020&r — мк*

---

[1] У квадратных дужках падаюцца папраўкі, унесеныя ў праект Статуту. Канчатковы варыянт супадае з тэкстам дакумэнту 0034. [2] Дак. №0031. [3] Дак. №0032. [4] Нарада ў Кіеве адбылася 23-28.09.1917. Бралі ўдзел прадстаўнікі грузінаў, літоўцаў, татараў, латышоў, эстонцаў, беларусаў, малдаванаў, данскіх казакаў, буратаў і жыдоў. Гл.: Дорошенко Д. Історія України. Ужгород, 1932. Т.I. С.153-155.

## 0031. Статут Беларускіх Нацыянальных Культурна-Прасьветных Гурткоў у Войску

*582.1.01:018 — мк*

---

Дакумэнт далучаны да пратаколаў Першай Сэсіі ЦРБА (дак. №0030).

Статут прыняты на першай Сэсіі ЦРБА 6.08.1917. Публікацыя ў: Турук Ф. Белорусское движение. Москва, 1921. С.90-92. Адзін зь першых дакумэнтаў, у якім згадваецца беларуская нацыянальная сымболіка: «19. Кожны член беларускай грамады у войску павінен насіць беларускі нацыанальны знак: белая стужка с чырвонай палоскай па сярэдзіне; усе тры палоскі белая, чырвоная і белая — аднэй шырыні».

## 0032. Рэзалюцыі Бежанскай Камісіі Першай Сэсіі ЦРБА

*582.1.01:017 — мк*

---

Дакумэнт далучаны да пратаколаў Першай Сэсіі ЦРБА (дак. №0030).

**0033. Пастановы сходу Бежанскай Камісіі Першай Сэсіі ЦРБА 6.08.1917**

*582.1.01:019 — мк*

Дакумэнт далучаны да пратаколаў Першай Сэсіі ЦРБА (дак. №0030).

**0034. Статут Цэнтральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў, прынятыя на Першай Сэсіі ЦРБА 6.08.1917**

*582.1.01:021&r — мк*

Дакумэнт далучаны да пратаколаў Першай Сэсіі ЦРБА (дак. №0030).

**0035. Пасьведчаньне ўпаўнаважанага ад Белнацкаму пры Петраградзкім Камітэце Беларускага Таварыства Дапамогі Пацярпелым ад Вайны Адварда Будзькі, выдадзенае 23.08.1917 Язэпу Воронку ў тым, што ён прадстаўляе беларусаў у Дзяржаўным Камітэце да справаў Народнае Адукацыі**

*582.2.36:019-020 — ра*

**0036. Статут Цэнтральнага Бежанскага Беларускага Камітэту ў Менску**

*582.1.01:025&r — мк*

Дата невядомая. Магчыма, прыняты на скліканым Цэнтральнай Радай Беларускіх Арганізацыяў сходзе ўцекачоў у Менску 6.09.1917. Гл. Вольная Беларусь. №20. 1917.09.17

**0037. Інструкцыя для арганізацыі Беларускіх бежанскіх камітэтаў**

*582.1.01:029r — р*

Дата невядомая. Магчыма, прыняты на скліканым Цэнтральнай Радай Беларускіх Арганізацыяў сходзе ўцекачоў у Менску 6.09.1917. Гл. Вольная Беларусь. №20. 1917.09.17

**0038. Пастанова Выканаўчага Камітэту ЦРБА і Цэнтральнага Бежанскага Беларускага Камітэту аб уступленьні ў перамовы з Усерасейскім Земскім Саюзам**

*582.1.01:024 — мк*

Дата невядомая.

**0039. Пратакол працы Бежанскай Камісіі II сэссіі Цэнтральнай Беларускай Рады (Менск, 15-25.10.1917)**

*582.1.01:013 — р*

Рукапіс Людвікі Сівіцкай.

**0040. Пастанова Выканаўчага Камітэту Вялікай Беларускай Рады аб захадах супраць вырубкі лясоў на Беларусі**

*582.1.01:023 — мк*

Дата невядомая.

| | |
|---|---|
| еве, аб выдачы 300.000 руб. авансу пад запраданые Міністэрству Харчовых Справаў дровы, аб заснаванні у Кіеве Беларускаго Этапна-рэгістрацыйнаго пункту і аб пратэсьце Гомельскай Меськай Думы і Хаўруса Зямельных Уласьнікаў Пінскаго, Мазырскаго, Рэчыцкаго і Гомельскаго паветаў проці прылучэння іх да Украіны. | |
| 2. Даклад п. А.Цвікевіча аб назначэнні Украінскім Урадам консулам на Беларусь п. А.М.Квасьніцкага і аб патрэбе у зьвязку з гэтым назначэння консула ад Беларускага Ураду на Украіне. | 1) Дастаць афіцыяльнае паведамленне аб назначанні п. Квасьніцкаго консулам на Беларусь, 2) прапанаваць Сэкрэтарыяту Б.Н.Р. назначыць консула на Украіну, 3) выставіць кандыдатуру у консулы на Украіне п. П.Трэмповіча. |
| 3. Аб аткрыцьці проф. Доўнар-Запольскім Унівэрсытэту у Менску, аб чым ім падаецца пісьменны даклад Народнаму Сэкрэтарыяту Б.Н.Р. праз Дэлегацыю. | 1) Выслаць дэлегацію дзеля аб'езду земскіх і меськіх самаупраўленняў у местах Беларусі аб схадатайстваванню у іх грашавой падтрымкі Унівэрсытэту, 2) Дэлегацію злажыць з прэдстаўніка Народнаго Сэкрэтарыяту, з прэдстаўніка Дэлегаціі, якім будзе п. Трэмповіч і яшчэ аднэй асобы, 3) прасіць п. Трэмповіча апрацаваць да чароднаго пасядзэння Дэлегаціі праект зьметы на аб'езд і самы маршрут, 4) прасіць п. Гушчу зрабіць адпаведны даклад Гомельскай Меськай Думе, 5) даручыць п. Фарботко саставіць праект цыркуляру усім земствам на Беларусі згодна з пісьменным дакладам проф. Доўнар-Запольскаго. |
| 4. Аб патрэбе хутчэйшаго аткрыцьця Тарговае Палаты у Менску. | Зьвярнуцца да Народнаго Сэкрэтарыяту з прозьбаю хутчэйшаго заснавання у Менску Тарговае Палаты падобнае да заснаванай у Кіеве. |
| 5. Аб атрыманні ад Сэкрэтарыяту Б.Н.Р. мандатаў на заключэнне з Украінаю пачтоваго, дарожнаго і інш. дапаўняючых умову аб мяжы хаўрусоў. | Зьвярнуцца з адпаведным лістом да Народнаго Сэкрэтарыяту Б.Н.Р. |

| | |
|---|---|
| 6. Аб патрэбе узяць пад кантролю Народнага Сэкрэтарыяту усе менне астаўленае земскім і мескім хаўрусамі[3], аб зрабленні патрэбных спісаў гэтаго мення, асабліва у зьвязку з нямецкім вывазам. | Прасіць Народны Сэкрэтарыят зрабіць патрэбные дзеля гэтаго захады. |
| 7. Аб назначэнні беларускіх камісараў у паветы часава оккупаваные Украінаю (Гомельскі, Рэчыцкі, Мазырскі і Пінскі). | Прасіць Народны Сэкрэтарыят хутчэй выраашыць гэтую справу згодна дакладу зробленаго аб гэтым Дэлегаціяй. |
| 8. Даклад п. А.Цвікевіча аб патрэбе установы грамацкаго управлення — беларускаго, у паветах занятых польскім войскам. | Апрацаванне гэтаго пытання даручыць п.п. Доўнар-Запольскаму і І.Курыловічу. |
| 9. Прапазыцію п. Фарботко аб аднаўленні хадатайства перад Новым Урадам Украіны аб установе простага дроту між Кіевам і Менскам. | Зьвярнуцца да п. Міністра Замежных Справаў з прозьбаю зрабіць патрэбнае распараджэнне. |
| 10. Даклад п. А.Цвікевіча аб атрымання у рахунак авансу за праданые дровы Украінскаму Міністэрству Харчовых Справаў 300.000 руб. Грошы атрыманы чэкамі з рахунку Мініст. Харч. Справаў №202606. Чэкі сэрыі Е за №559430 на 50000 руб. №559431 на 50000 руб. №559432 на 100000 р. і №559433 на 100000 руб. Усе чэкі выданы на паказчыка. | 1) Даручыць п. А.Цвікевічу апрацаваць дакладную запіску Народнаму Сэкрэтарыяту аб распарадку грошэй с тым каб у Кіеве аставіць 50000 рублеў, а у Менск адаслаць 250000 руб. Астаўленые у Кіеве грошы распадаюцца: Гандлевай Палаце у форме рэзэрву 30000 руб., да ведама Дэлегацыі 15000 руб., на выдавецтво кніжак і брашурак 2000 руб., на газэту 2000 руб. і 1000 руб. на выпадковые выдаткі. 2) Даручыць п.п. А.Цвікевічу і І.Курыловічу рэалізаваць у Дзяржаўным банку чэк №559433 на 100000 руб., а рэшту аставіць да чароднаго пасядзэння. |

Сябры Дэлегацыі АлдрЦвікевіч
МДовЗ...
Консультанты ИВ Куриловичъ
Загадчык справамі Ю.Фарботко
*582.2.03:026&r-027&r — pa*

[1] Ад 30.04.1918. [2] Ф.Лізагуб і Зьм.Дарашэнка. [3] Земскі Саюз і Саюз Гарадоў былі зьліквідаваныя СНК РСФСР 4(17).01.1918.

**0370. Ліст Народнага Сакратарыяту БНР Навуму Козічу (вых. №438) і Язэпу Мамоньку (вых. №437) за 10.05.1918 з паведамленьнем**

**аб пастанове НС за 3.05.1918 у справе перадачы пад загад Васіля Захаркі Друкарні НС і пераняцьці ім ад Козіча й Мамонькі абсталяваньня й паперы**

*582.2.25:083 — рк*

**0371. Ліст Народнага Сакратарыяту БНР Васілю Захарку за 10.05.1918 (вых. №439) з паведамленьнем аб пастанове НС за 3.05.1918 у справе перадачы пад загад В.Захаркі Друкарні НС і пераняцьці ім ад Козіча й Мамонькі абсталяваньня й паперы**

*582.2.25:082 — рк*

**0372. Ліст Народнага Сакратарыяту БНР (Менск) Дэлегацыі НС БНР у справе перамоваў (Кіеў) (вых.№440) за 10.05.1918**

Беларускай Дэлегацыі на Украіне
у асобах А.Цвікевіча, М.Довнар-Запольскаго
і С.Рак-Міхайлоўскага.

Гэтым Народны Сэкрэтарыят Міжнародовых справау мае гонар прасіць паноу А.Цвікевіча і С.Рак-Міхайлоускага вярнуцца да Менску.

Што датычэ прафэсара М.Довнар-Запольскаго, то каліб ен мог, то добра было бы і яго пабачыць у Менску.

Старшыня Народнага Сэкрэтарыяту
і Народны Сэкрэтар Міжнародовых Справау Язэп Варонка

Загадчык Справау Народнаго Сэкрэтарыяту Л.Заяц

*582.2.02:055 — ма*

**0373. Ліст Народнага Сакратарыяту БНР загадчыку Друкарні Інвалідаў Гразнову за 11.05.1918 (вых. №448) з просьбай неадкладна выдаць Васілю Захарку друкарскае абсталяваньне Друкарні НС (былой Друкарні «Автозапа»)**

*582.2.25:081 — мк*

**0374. Пасьведчаньне сьвятара 535 пяхотнага Ліпецкага палка Сьцяпану Залескаму за 20.04.1918 у тым, што ён ураджэнец Менскай губэрні, Слуцкага павету, Слуцкай воласьці, вёскі Лучнікі (увах. №177)**

*582.2.24:088*

**0375. Пасьведчаньне Народнага Сакратарыяту БНР Сьцяпану Залескаму за 11.05.1918 (вых. №450) у тым, што ён ураджэнец места Слуцку, Менскай губэрні**

*582.2.24:089 — мк*

**0376. Пратакол нарады сяброў былой Менскай Губэрнскай Харчовай Управы за 12.05.1918 у справе перадачы маёмасьці Ўправы (увах. №144)**

*582.2.25:074 — мк*

**0377. Ліст Беларускай Вучнёўскай Грамады Народнаму Сакратарыяту БНР за 12.05.1918 з просьбай як найхутчэй вярнуць друкавальную машынку «Ундэрвуд» №3, узятую Народным Сакратарыятам 30.03.1918 (увах. №132)**
*582.2.14:238*

**0378. Ліст Беларускага Камітэту Дапамогі Пацярпелым ад Вайны (Вільня) Беларускаму Выканаўчаму Камітэту Зьезду Бежанскіх Дэпутатаў Заходняга Фронту (Менск) за 13.05.1918**
*582.2.20:016&r — рк Луцкевіча*
*582.2.24:094&r — ма (увах. №171)*
*582.2.24:099&r — мк*

Аўтар ліста — А.Луцкевіч. У лісьце паведамляецца аб прычынах, паводле якіх нямецкія ўлады ня могуць дазволіць неадкладнае вяртаньне бежанцаў дадому.

**0379. Ліст Народнага Сакратарыяту БНР Менскай Гарадзкой Управе за 13.05.1918 (вых. №455) з просьбай вызваліць ад падаткаў спэктаклі 1-га Таварыства Беларускай Драмы й Камэдыі («Беларуская Хата», Конны пляц)**
*582.2.14:239 — рк*

**0380. Пасьведчаньне Народнага Сакратарыяту БНР Івану Кашелю за 13.05.1918 (вых. №456) у тым, што ён беларус Менскай губэрні, Барысаўскага павету й мае патрэбу выехаць на станцыю Даўгінава Херсонскай губэрні**
*582.2.24:071 — мк*

**0381. Нататкі на аркушы паперы**
Gut Kaczany Kreis Nowogródek
Guv Minsk
am veg Nowogródek — Mir, 3 Kil fon städchen Turzec, eisenbanst. Samirje
Eduard v. Luczkevitsch
Gorbarstr. 5-2
Vilna
*582.2.20:017*

Дата й абставіны невядомыя.

**0382. Пасьведчаньне Народнага Сакратарыяту БНР Канстантыну Хмялеўскаму за 14.05.1918 (вых. №457) у тым, што ён беларус Менскай губэрні й павету, Стаўпецкай воласьці й мае патрэбу выехаць на станцыю Зьверава Данскай Вобласьці**
*582.2.24:072 — мк*

**0383. Ліст Народнага Сакратарыяту БНР Беларускай Вучнёўскай Грамадзе за 14.05.1918 (вых. №458) з паведамленьнем аб немагчымасьці звароту друкавальнай машынкі «Ундэрвуд» №3**
*582.2.14:237 — рк*

**0384. Ліст Народнага Сакратарыяту БНР Беларускай Вучнёўскай Грамадзе за 14.05.1918 (вых. №460) з паведамленьнем ад пастанове НС за 11.05.1918 у справе арганізаваньня Грамадой культурна-прасьветнага й гімнастычна-спартыўнага таварыстваў**

*582.2.14:236 — мк*

**0385. Пратакол №12 паседжаньня Дэлегацыі НС БНР у справе перамоваў за 15.05.1918**

ПРАТАКОЛ №12

Пасядзэння Дэлегаціі у справах замежных перагавораў Б.Н.Р.

15(2) Траўня (мая) 1918 року

На пасядзэнні былі: п.п. А.Цвікевіч, М.Доўнар-Запольскі, І.Краскоўскі, І.Курыловіч і Ю.Фарботко.

| Разглядалі: | Пастановілі: |
|---|---|
| 1. Даклад праф. Доўнар-Запольскага аб патрэбе пасылкі разам з Дэлегаціяй нямецко-аўстрыяцко-украінскае Камісіі па тавараабмену, якая выезджае за граніцу, прэдстаўніка ад Беларусі. п. Краскоўскі дапаўняе даклад тым, што беларускі прэдстаўнік вінен будзе мець на увазі больш палітычны бок, чымся гандлевы у зьвязку з чым Дэлегація мусіць добра ведаць тога чалавека, якога будзе пасылаць. | 1) Прасіць п. Доўнар-Запольскаго паклапаціцца перад Міністрам Гандлю і Прамысловасьці п. Гутнікам аб уключэнні у склад выезджаючае дэлегаціі двух прэдстаўнікоў ад Беларускаго Ураду, 2) падаць тому-ж Міністру адпаведную дзеля гэтаго паперу ад Дэлегаціі у справах перагавораў і 3) кандыдатам на уключэнне уважаць за найбольш пажаданаго п. Д-ра Тремповіча. |
| 2. Паведамленне п. А.Цвікевіча аб тым, што а 12-ай гадзіне дня 4(17) красавіка[1] назначэна Беларускай Дэлегаціі аудыенція у аўстрыяцкаго пасла[2]. | Прэдстаўнікамі Беларускае Дэлегаціі на аудыенцію вызначыць п.п. А.Цвікевіча і Доўнар-Запольскаго. |
| 3. Даклад п. Краскоўскаго аб тым, што йон пэўна будзе мець дазвол на паездку па больших местах Беларусі і што у зьвязку з гэтым йон можэ зрабіць тыя чы іншыя даручэння Дэлегаціі. | Прызнаць выезд п. Краскоўскага жаданым як найхутчэйшым і даручыць яму у гэтым справу аб агітаціі на аткрыцьце Беларускаго Унівэрсытэту у Менску. |
| 4. Даклад п. Цвікевіча аб тым, што па весткам бывшаго галавы украінскае камісіі дзеля перагавораў п. Ліхнякевіча, 17 красавіка[1] мае адбыцца падгатоўчае пасядзэнне з прэдстаўнікоў украінска-вялікарасійска-беларускіх дэлегаціяў. | 1) Навясьці афіцыяльные спраўкі аб магчымасьці гэткаго пасядзэння, 2) прэдстаўнікамі ад Беларускае Дэлегаціі на гэтае пасядзэнне вызначыць п.п. А.Цвікевіча, М.Доўнар-Запольскаго і І.Краскоўскаго з уключэннем загадчыка справамі або яго заступніка. |

| | |
|---|---|
| 5. Прапазіціі Фарботко каб, у зьвязку з пачынаючыміся перагаворамі, вызваць з Феодосіі п. Рак-Міхайлоўскаго. | Вызваць тэлеграмаю, або другім якім-колечы спосабам. |
| 6. Праект дэкляратыўнаго звароту праз Польскі Выканаўчы Камітэт у Кіеве да Ураду Польшчы у справе выясьненьня спосабу размежавання улады у паветах занятых польскім войскам на Беларусі. | Прыняць бэз паправак. |
| 7. Аб выданні газэты. Пасьля інфармаціі п. Цвікевіча аб умовах п. Леушчэнкі, пачаўся абмен поглядамі на гэтую справу. Матывамі п. Леушучэнкі былі: газэта вінна выдавацца толькі па беларуску, засновывацца на мацнейшым матэрыяльным фундамэнці і г.д. Гэтые матывы падтрымоўвае п. Краскоўскі з якім ні згоджуюцца п. Цвікевіч і п. Доўнар-Запольскі, якіе глядзяць на выданне газэты у расейскай мове, як на патрэбу часу і сьпешнасьці у агітаціі беларускае палітычнае справы. | Дзеля незгоднасьці поглядаў у сяброў Дэлегаціі і браку часу адлажыць пытанне аб газэце да 17 красавіка[1], калі разгледзець гэтае пытанне першую чаргу. |
| 8. Аб распарадкаванні 50.000 руб. атрыманых п. Цвікевічам па аднаму чэку за №559431 згодна пастановы папярэдняго пасядзэння. | 25.000 руб. адаслаць праз пасланца Народнаму Сэкрэтарыяту, 10.000 руб выдаць пад распіску Старшыні Беларускай Гандлёвай Палаце у Кіеве згодна зьметы зацьверджанае Народным Сэкрэтарыятам і 15.000 руб. аставіць да распарадку Дэлегаціі на патрэбы зьвязаные з справаю перагавораў у тым ліку на газэту і выдавецтво брашур. |

Сябры Дэлегаціі АлдрЦвікевіч
МДовЗ...
Консультанты ИВ Куриловичъ
Загадчык справамі Ю.Фарботко
*582.2.03:028&r-029 — ра*

[1] Памылкова замест «траўня». [2] Графа Форгача.

**0386. Ліст Беларускай Вучнёўскай Грамады Народнаму Сакратарыяту БНР за 15.05.1918 з просьбай як найхутчэй вярнуць друкаваль-**

**ную машынку «Ундэрвуд» №3, узятую Народным Сакратарыятам 29.03.1918 (увах. №133)**

*582.2.14:233*

У лісьце паведамляецца, што машынка неабходная Грамадзе «...дзеля таго што, у гэтым часе Вучнеўск. грамада занята вельмі пільнай працай па адбудаваньню Расейска-Беларускаго славара і піракладаў Расейскай літэратуры на Беларускую мову...». На лісьце прыпіска дзелавода Народнага Сакратарыяту: «П. Варонка сказаў, што машынка нам надта патрэбна, а матывы, тут напісаные, ні прыймаюцца пад увагу».

**0387. Наказ Беларускай Палаты па Тавараабмену на Тэрыторыі Ўкраіны за 16.05.1918 (вых. №470)**

*582.2.14:234&r-235 — мк*

Зацьвержданы на пасяджэньні НС за 24.04.1918

**0388. Пасьведчаньне Народнага Сакратарыяту БНР Марыі Петрашкевіч за 16.05.1918 (вых. №472) у тым, што яна нарадзілася ў Вільні й мае патрэбу туды выехаць**

*582.2.24:073 — мк*

**0389. Пасьведчаньне Народнага Сакратарыяту БНР Марыі Пятроўскай за 16.05.1918 (вых. №473) у тым, што яна нарадзілася ў Вільні й мае патрэбу туды выехаць**

*582.2.24:074 — мк*

**0390. Пасьведчаньне Народнага Сакратарыяту БНР Івану Макарчуку за 16.05.1918 (вых. №486)**

Гэтым сьведчым, што грамадзяніну Івану Макарчуку даручэно Народным Сэкрэтарыятам закупіць у м. Сьміловічах і у ваколіцах уселякіх ядзімых прадуктаў для сталоўкі пры Радзе Беларускай Народнай Рэспублікі

*582.2.14:231 — рк*

**0391. Пасьведчаньне Народнага Сакратарыяту БНР Канстантыну Станкевічу за 16.05.1918 (вых. №487) у тым, што ён беларус Менскай губэрні, Пінскага павету, Лемяшэвіцкай воласьці й мае патрэбу выехаць на станцыю Бірзула Херсонскай губэрні**

*582.2.24:075 — мк*

**0392. Ліст Менскага Беларускага Прадстаўніцтва Народнаму Сакратарыяту БНР за 17.05.1918 з просьбай выдаць пасьведчаньне Тэвелю Кацу ў тым, што ён закупляе прадукты для беларускіх дзіцячых прытулкаў**

*582.2.14:256*

**0393. Ліст Народнага Сакратарыяту БНР галаве Ўкраінскай Грамады ў Менску за 17.05.1918 (вых. №475) з просьбай памагчы ўдаве Ганне Мартысюк знайсьці яе сына прапаршчыка Пятра Мартысюка**

*582.2.14:232 — мк*

**0394. Расьпіска Канцылярыі НС супрацоўніку Генэральнага Кансуляту БНР у Кіеве Аляксандру Мадзалеўскаму за 18.05.1918 (вых. №477) аб атрыманьні Народным Сакратарыятам 50.000 рублёў**

*582.1.03:159 — мк*
*582.2.28:114 — ма*

**0395. Пратакол №13 паседжаньня Дэлегацыі НС БНР у справе перамоваў за 20.05.1918**

ПРАТАКОЛ №13
Пасядзэння Дэлегаціі у справах замежных перагавораў Б.Н.Р.
20(7) траўня 1918 р.

На пасядзэнні былі: п.п. А.Цвікевіч, М.Доўнар-Запольскі, П.Трэмповіч, Л.Леушчэнко, І.Курыловіч, прэдстаўнікі Адэскае Беларускае Арганізаціі п.п. Баліцкі і Косовіч; прэдстаўнікі Гомельскіх Беларускіх Арганізаціяў п.п. К.Гушча і Я.Нецецкі і сябар Рады Беларускае Рэспублікі п. Гутман і Загадчык справамі Ю.Фарботко.

| Разглядалі: | Ухвалілі: |
|---|---|
| 1. Даклад п. Цвікевіча: а) аб тым што намі паданы у Міністэрство Украінскае папер з прозьбаю зацьвердзіць статут бежэнскаго Камітэту і выдаць яму патрэбные грошы, б) аб тым што справа аб заснаванні у Кіеве этапна-рэгістрацыйнаго пункту покуль што стаіць на мейсцу дзеля тога, што не было каму парупіць у гэтым патрэбных людзей | Пункт а) прыняць пад увагу, а пунк[т] б) даручыць п. Курыловічу заняцца справай этапна-рэгістрацыйнаго пункту. |
| 2. Даклад п. Цвікевіча аб тым, што, дзеля нямагчымасьці паведамлення Народнаго Сэкрэтарыяту аб пастанове Дэлегаціі датычна кантролю над меннем Земскаго і Мескаго Хаўрусаў, пытанне гэтае варта зняць сусім з парадку, як спозненае. | 1) Аб кантролі над меннем памянутых Хаўрусаў на Беларусі пытанне аставіць аткрытым, 2) аб менні тых жэ Хаўрусаў на беларускай тэрыторыі занятай Украіною звярнуцца у форме запытання да Украінскаго Ураду, каб йон выказаў як думае улаштаваць разлічку за гэтае менне |
| 3. Аб паданні дэкляратыўнае папры Польскаму Выканаўчаму Камітэту датычна размежаваня улады у паветах оккупованых польскім | 1) Праект напісаны і прыняты на папярэднім пасядзэнні Дэлегаціі падаць Польскаму Выканаўчаму Камітэту у Кіеве, |

| | |
|---|---|
| войскам гэн. Доўбар-Мусніцкаго. Пры абгаварэнні гэтаго пытання п. Гутманам зроблена заява, што польскімі легіонамі у м. Парычах зроблена бэзлітасная рэквізіція усяго мення у жыхароў і аб тым што сам пан Доўбар-Мусніцкі на зборах Бабруйскае Паветовае Земскае Управы гаварыў, што калі палякам (войску) патрэбны будуць грошы, то йны іх возьмуць у жыхароў хоць сілаю. П. Гушча дапоўніў гэта фактам аткрыцьця у Магілеві манаполькі, дзякуючы чаму палякі забіраюць ад людзей апошніе капейкі. | 2) Пры паданні дэкляратыўнае паперы выказаць факты, якія відаць з заяваў п.п. Гутмана і Гушчы. |
| 4. Нічарговую заяву п. Цвікевіча аб патрэбе зрабіць візыту п. Дорошэнку, у зьвязку з яго назначэнем упраўляючым Міністэрствам Закардонных Справаў. | 1) Візыту належыць зрабіць у поўным складзе Дэлегаціі і консультантоў, 2) падчас візыты апратэставаць весткі зьявіўшыеся у газэце «Кіеўск. Мысль» датычна нескладзення Беларускаго Ураду. |
| 5. Прапазыцію п. Доўнар-Запольскаго аб разгляде справы візыты да Гэтмана, у зьвязку з візытаю Ураду Донскае Рэспублікі. | Пытанне аставіць аткрытым да візыты да п. Дорошэнко. |
| 6. Даклад п. Цвікевіча аб аудыенціі у аўстрыяцкаго пасла, з якога выясьнілася патрэба падання аўстрыяцкаму паслу кароткаго мэмарандума аб Беларусі. | 1) Даклад прыняць пад увагу, 2) мэмарандум даручыць скласьці п. Доўнар-Запольскаму. |
| 7. Даклад п. Цвікевіча аб газэтнай справе. З дакладу выясьнілася, што газэту удалося ужо наладзіць і што газэта выйдзе праз два-тры дні. Рэдакаваць будзе калегія, адрэс — Гандлевае Палаты т.е. Рыльскі пр. 4. За адказам ад афіцыяльнаго рэдактарства п. Леушчэнкі прасіць прыдзіцца другой асобы. | 1) Газэта павінна выйсьці у панядзелак 27(14) траўня г.р. 2) афіцыяльнаго рэдактара падшукаць даручыць п. Цвікевічу. |
| 8. Прозьбы Прэдстаўнікоў Беларускаго Камісарыяту у Адэсе і Прэдстаўнікоў Гомельскіх Беларускіх Арганізаціяў аб асыгнаванні Дэлегаціяй ад імяні Народнаго Сэкрэтары- | 1) Уважаючы на сьпешнасьць пытанняў і німагчымасьць скорых зносін у гэтай справе з Народным Сэкрэтарыятам выдаць Прэдстаўнікам Беларускаго Камісарыяту у Адэсе на вы- |

яту пэўных сумаў, павэдле зьмет, якіе будуць Народаму Сэкрэтарыяту прэдстаўлены. Прэдстаўнікі Адэскае Арганізацїі матывуюць сваю прозьбу патрэбай вылучэння асобнай рэвізыйнае камісіі, дзеля абрэвізавання ліквідацїі мення беларускіх вайсковых часьцін на румынскім фронце, якіе дэмабі[лі]заваліся у часе дэмабілізацїі агульнаго украінскаго фронту. Пры гэтым прэдстаўнікі Адэскае Арганізацїі зазначаюць, што грошы дэмабілізованых часьцін, часткаю ужо пераданы палевым украінскім скарбніцам, а часткаю шчэ перадаюцца. Наогул, з дэмобілізаціяй беларускіх часьцін на Румынскім фронце, гіне дабра беларускаго блізка на 20.000.000 руб., якое, хоць у часьцы, мо удасца рэвізыйнай камісіі ууратаваць дзеля Народнаго Сэкрэтарыяту. Прэдстаўнікі Гомельскіх Беларускіх Арганізацїяў матывуюць сваю прозьбу атрыманьня грошы на арганізацію Беларускае Паветовае Рады у Гомлі тым, што гэтая Рада можэ мець вельмі вялікае палітычнае значэнне для Беларускай Чарнігаўшчыны, Рэчыцкаго, Мазырскаго і Пінскаго паветаў, асабліва у такі час, калі дагэтуль у гэтых мейсцох німа выразнае адміністрацїі. Паводлуг Прэдстаўнікоў Гомельскіх Беларускіх арганізацїяў — Гомельская Беларуская Рада павінна будзе выліцца у Абласную Беларускую Раду, з арганізацїяй чаго нельга атцягаць. Дзеля арганізацїі-ж патрэбны грошы, хоць на пачатак.

лучэнне асобае камісіі дзеля абрэвізавання і абследавання ліквідацыі мення беларускіх вайсковых часьцін на румынскім фронце і прэдстаўніком Гомельскіх Беларускіх арганізацїяў дзеля заснавання Беларускае Паветовае Рады у Гомлі і суседніх паветах авансы пад зьметы, якіе будуць у самым хуткім часе прэдстаўлены Народнаму Сэкрэтарыяту с падробным тлумачэннем іх, у ліку па 3.000 рублеў на кожную прозьбу, а значэ усяго огулам шэсьць тысяч рублеў,

2) Дзеля выжэйвыказаных прычынаў грошы выдаць з сумаў астаўленых да распарадку Дэлегацїі, т.е. з 15.000 руб. згодна пастановаў папярэдніх пасядзэнняў,

3) паведаміць а выдачах Народны Сэкрэтарыят і прасіць зацьвердзіць пастанову Дэлегацїі,

4) прасіць Народны Сэкрэтарыят звярнуць з належных да атсылкі у Менск да распарадку Народнаго Сэкрэтарыяту сумаў выданые з сумаў астаўленых Дэлегацїі 6.000 руб.

5) грошы выдаць Прэдстаўнікам азначэных выжэй Арганізацїяў пад распіску дэлегаваных і прысутных на пасядзэнні гэтым асоб: ад Беларускаго Камісарыяту у Адэсе п.п. Баліцкаго і Косовіча і ад Гомельскіх Беларускіх Арганізацїяў п.п. Гушчы і Няцецкаго.

9. Прозьбу Прэдстаўніка Беларускаго Камісарыяту у Адэсе аб афіцыяльным падтрыманні Дэлегацїяй ад Народнаго Сэкрэтарыяту Б.Н.Р. хадатайства Камісарыяту перад Украінскім Урадам аб выдачы Камісарыяту штомесячнае дапамогі у ліку

Аткінуць дзеля прынцыповае нізгоднасьці з падтрыманнем Беларускіх арганізацїяў на Украіне за кошт Беларускае Рэспублікі.

| | |
|---|---|
| 16.000 рублеў, з тым, што грошы гэтые павінны будуць быць зьвернутымі Украінскаму Ураду Беларускай Рэспублікай | |
| 10. Заяву Ю.Фарботко аб німагчымасьці нясьці далей абавязкі загадчыка справамі Дэлегаціі у зьвязку з ачым йон просіць звольніць яго і перадаць абавязкі Загадчыка вызначанай на гэта другой асобе. | Да часу падшукання патрэбнае і адпаведнае дзеля гэтаго асобы дарычыць Ю.Фарботко нясьці далей абавязкі Загадчыка Справамі. |
| 11. Заяву п. А.Цвікевіча аб патрэбе зьмены кватэры Дэлегаціі і заснавання адпаведнае канцылярыі і бюро. | Прыняць пад увагу. |

Сябры Дэлегаціі

Консультанты

Загадчык справамі Ю.Фарботко
*582.2.03:030&r-032 — ра*

**0396. Рэзалюцыя VII чарговага Менскага Губэрнскага Земскага Сходу ў беларускім пытаньні, вынесеная на паседжаньні 20.05.1918**

РЕЗОЛЮЦІЯ

VII Очередного Минскаго Губернскаго Земскаго Собранія по Бѣлорусскому вопросу, вынесенная въ засѣданіи 20 мая 1918 года

Минское Губернское Земское Собраніе, являющееся законнымъ представителемъ двухмилліоннаго населенія губерніи, избранное всеобщимъ, прямымъ, равнымъ и тайнымъ голосованіемъ, разсмотрѣвъ всесторонне вопросъ о самоопредѣленіи Бѣлоруссіи, единогласно, при воздержавшихся: Котлубаѣ, Демидецкомъ-Демидовичѣ и Янчевскомъ, ПОСТАНОВИЛО: всячески поддерживать идею свободнаго самоопредѣленія Бѣлоруссіи и свободное политическое и культурное развитіе бѣлорусскаго народа, который долженъ выразить свою волю о своемъ положеніи и мѣстѣ среди другихъ сосѣднихъ народовъ и о своемъ внутреннемъ государственно-правовомъ строительствѣ — въ Бѣлорусскомъ Учредительномъ Собраніи, созванномъ на основаніи всеобщаго, прямого, равнаго и тайнаго голосованія. При этомъ Минское Губернское Земское Собраніе считаетъ необходимымъ для развитія края мирное сожительство всѣхъ націй, населяющихъ Бѣлоруссію и предоставленіе національнымъ меньшинствамъ персональной автономіи. До созыва Учредительнаго Собранія выразителемъ воли и чаяній Бѣлорусскаго народа можетъ быть только Съѣздъ всѣхъ земскихъ и городскихъ самоуправленій Бѣлоруссіи, которые въ своемъ нынѣшнемъ видѣ являются представителями всего населенія края. Бѣлорусская Рада и ея Секретаріатъ въ ихъ нынѣшнемъ составѣ такими выразителями воли Бѣлорусскаго народа и національныхъ меньшинствъ, населяющихъ край — признаны быть не могутъ и говорить отъ

имени Бѣлорусскаго населенія — не вправѣ. Въ этотъ историческій моментъ Бѣлорусская Рада и ея Секретаріатъ, забывъ о несчастіи и дѣйствительныхъ нуждахъ Бѣлорусскаго народа, занялись политикой, чуждой и пагубной для края и стали на путь совершенно противоположный тому пути, который былъ намѣченъ Всебѣлорусскимъ Съѣздомъ, имѣвшимъ мѣсто въ концѣ Декабря 1917 года. Вопросъ объ отторженіи Бѣлорусской Республики можетъ быть разрѣшенъ только Бѣлорусскимъ Учредительнымъ Собраніемъ, а не самозванно, группой гражданъ, каковой является нынѣшній составъ Бѣлорусской Рады, потерявшій всякую связь съ Всебѣлорусскимъ Съѣздомъ и Бѣлорусскимъ народомъ.

Минское Губернское Земское Собраніе вполнѣ одобряетъ взглядъ Губернской Земской Управы на этотъ вопросъ, признаетъ правильнымъ ассигнованіе денежныхъ суммъ для поддержки идеи свободнаго самоопредѣленія Бѣлорусскаго края, провозглашенной Бѣлорусской Радой въ началѣ ея дѣятельности, признавая въ то же время не менѣе правильнымъ разрывъ земства съ нынѣшними руководителями Рады и Секретаріатомъ, — послѣ того, какъ послѣдніе пошли по пути, идущемъ въ разрѣзъ съ интересами Бѣлорусскаго народа и не имѣющемъ ничего общаго съ постановленіями и резолюціями Бѣлорусскаго Съѣзда.

Подлинная за надлежащими подписями.

Съ подлиннымъ вѣрно

Предсѣдатель Управы Н.Ярошевичъ
Секретарь Н.С[тухидскій?]
*582.2.25:073&r — мк*

**0397. Пасьведчаньне Народнага Сакратарыяту БНР Клары Скальскай за 20.05.1918 (вых. №491) у тым, што яна беларуска Менскай губэрні й павету, Лемяшэвіцкай воласьці й мае патрэбу выехаць у Харкаў**
*582.2.24:076 — мк*

**0398. Пасьведчаньне Народнага Сакратарыяту БНР Канстантыну Гадыцкаму-Цьвірку за 20.05.1918 (вых. №492) у тым, што ён беларус Менскай губэрні, Слуцкага павету й мае патрэбу выехаць у Слуцкі павет на станцыю Замір'е да сваёй гаспадаркі**
*582.2.24:077 — мк*

**0399. Пасьведчаньне Народнага Сакратарыяту БНР сакратару народнай гаспадаркі Янку Серадзе за 20.05.1918 (вых. №493) у тым, што яму даручана заключыць ад імя НС дамову на арэнду для Рады БНР «Юбілейнага Дому»[1]**
*582.2.25:080 — рк*

[1] Цяперашні Дом Мастацтваў.

**0400. Пасьведчаньне Петраградзкага Аддзяленьня Беларускага Камісарыяту РФСР Цімафею Лянчэўскаму за 15.04.1918 у тым, што**

**ён беларус Магілеўскай губэрні, Чэрыкаўскага павету, Бялецкай воласьці, вёскі Паўназельля (увах. №176)**
*582.2.24:087*

**0401. Пасьведчаньне Народнага Сакратарыяту БНР Цімафею Лянчэўскаму за 21.05.1918 (вых. №494) у тым, што ён беларус Магілеўскай губэрні, Чэрыкаўскага павету, Бялецкай воласьці, вёскі Паўназельля**
*582.2.24:087 — рк*

**0402. Паведамленьне Канцылярыі НС скарбніку НС Васілю Захарку за 21.05.1918 (вых. №499) аб пастанове НС за 20.05.1918 у справе аплаты рахунку Язэпа Варонкі за выданьне нумару «Беларускай Зямлі»[1]**
*582.1.03:158*

1 «Бѣлорусская Земля» — грамадзка-палітычная й літаратурная газэта на расейскай мове, заснаваная й рэдагаваная Язэпам Варонкам. Выйшаў толькі адзін нумар — 1.03.1918.

**0403. Ліст упаўнаважанага па нацыянальна-палітычных справах Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту ў Адэсе Антона Баліцкага (Адэса) старшыні Дэлегацыі НС БНР у справе перамоваў Аляксандру Цьвікевічу (Кіеў) за 22.05.1918 з просьбай даць афіцыйныя паўнамоцтвы ад Народнага Сакратарыяту на выкананьне камісарыятам абавязкаў Беларускага Консульства ў Адэсе**
*582.2.02:054*

**0404. Ліст сябра Рады БНР Рычарда Якабіні (Кіеў) старшыні Дэлегацыі НС БНР у справе перамоваў Аляксандру Цьвікевічу (Кіеў) за 22.05.1918 з просьбай выдаць 500 рублёў пазыкі**
*582.2.02:069*

Тлумачэньне Р.Якабіні: «Въ виду того, что по дорогѣ въ Кіевъ у меня украли почти всѣ деньги...».

**0405. Ліст Беларускай Гандлёвай Палаты (Кіеў) старшыні Дэлегацыі НС БНР у справе перамоваў Аляксандру Цьвікевічу (Кіеў) за 22.05.1918 у справе тэрміновае замовы на вываз у Беларусь бэрталетавай солі, серы й парафіну**
*582.2.02:070 — ма*

**0406. Пасьведчаньне Народнага Сакратарыяту БНР Тацяне Далговай за 22.05.1918 (вых. №500) у тым, што яна беларуска Менскай губэрні, Ігуменскага павету, Пярэжырскай воласьці й мае патрэбу выехаць у Екацярынаслаў**
*582.2.24:079 — мк*

**0407. Пасьведчаньне Гарадзецкай Валасной Управы Рагачэўскага павету Андрэю Казлову за 28.03.1918 у тым, што ён грамадзянін Магілеўскай губэрні, Рагачэўскага павету, Гарадзецкай воласьці, сяла Сьвятога (увах. №179)**

*582.2.24:078*

**0408. Пасьведчаньне Народнага Сакратарыяту БНР Андрэю Казлову за 22.05.1918 (вых. №501) у тым, што ён беларус Магілеўскай губэрні, Рагачэўскага павету, Гарадзецкай воласьці й мае патрэбу выехаць у Жлобін**

*582.2.24:080 — мк*

**0409. Пасьведчаньне Народнага Сакратарыяту БНР Марыі Клепардо за 22.05.1918 (вых. №502) у тым, што яна беларуска Менскай губэрні й павету й выпраўляецца ў Адэсу, Сімфэропаль і Сэвастопаль для высьвятленьня становішча бежанцаў-беларусаў**

*582.2.24:081 — мк*

**0410. Паведамленьне Канцылярыі НС скарбніку НС Васілю Захарку за 22.05.1918 (вых. №503) аб пастанове НС за 21.05.1918 у справе выплаты пэнсіі загадчыку па гаспадарчых справах пры НС А.Козічу**

*582.1.03:154*

**0411. Ліст Народнага Сакратарыяту БНР (Менск) Дэлегацыі НС БНР у справе перамоваў (Кіеў) (вых.№504) за 22.05.1918**

Беларускай Дэлегацыі у справах перагаворау на тэррыторыі Украіны.

Гэтым Народны Сэкрэтарыят мае гонар паведаміць Беларускую Дэлегацыю, што, дзеля выясніушэйся сітуацыі на Украіне і дзеля зацяжкі фармавання новаго кабінэту Народнаго Сэкрэтарыяту, Дэлегацыя ні павінна выпауняць пасланаю ей паперу 10-го Красавіка за №440 і пакуль што застацца працаваць на Украіне да тэй пары, калі Народны Сэкрэтарыят знойдзе патрэбным Дэлегацыю адазваць у Менск.-

Старшыня Народнага Сэкрэтарыяту
і Народны Сэкрэтар Міжнародовых Справау
Язэп Варонка

Загадчык Справау
Народнаго Сэкрэтарыяту
Л.Заяц

*582.2.02:056 — ма*

**0412. Ведамасьць на выплату пэнсіі службоўцам НС па вольнаму найму за 22.05.1918 (вых. №505)**

*582.1.03:155&r-156*

**0413. Ліст Ліквідацыйнае Ўправы Эвакуаваных Чыгунак (Масква) в.а. начальніка Лібава-Роменскай Чыгункі за 23.05.1918 у справе эвакуацыі чыгункі зь Менску ў Маскву (увах. №175)**
*582.2.25:021&r*

**0414. Пратакол паседжаньня Ўправы Лібава-Роменскай Чыгункі за 27.05.1918 у справе эвакуацыі чыгункі зь Менску ў Маскву**
*582.2.25:021&r — шк*

**0415. Ліст Кіраўніка Перадавога Лякарска-Эвакуацыйнага й Харчовага Дзіцячага Атраду былога Камітэту Заходняга Фронту Усевалада Фальскага Народнаму Сакратарыяту БНР за 23.05.1918 з просьбай аб фінансавай дапамозе галодным дзецям (увах. №148)**
*582.2.14:230*

**0416. Паведамленьне Канцылярыі НС скарбніку НС Васілю Захарку за 23.05.1918 (вых. №506) аб пастанове НС за 18,05.1918 у справе выплаты пэнсіі народным сакратарам**
*582.1.03:154*

**0417. Паведамленьне Канцылярыі НС скарбніку НС Васілю Захарку за 23.05.1918 (вых. №507) аб пастанове НС за 22.05.1918 у справе фінансаваньня выдавецкае дзейнасьці**

Скарбніку Народнаго Сэкрэтарыяту В.Захарко
23 травеня 1918
№507

Даводзіцца да Вашага ведама, што у пасядзэнні Народнаго Сэкрэтарыяту за 22 Травеня г.р. пастаноулено: «§ 3 а) Выдаць Віленскаму Выдавецтву (В.Ластоускаго) тры тысячы (3000) рубл. на друк і выданне вучэбнікау. б) Выдаць аванс Народнаму Сэкрэтару Прасьветы А.Смолічу тры тысячы (3000) рубл. на выпуск вершау «Матчын Дар» Алеся Гаруна. в) Выдаць субсыдзію рэдакцыі «Вольная Беларусь» на выданне літэратурнай хрыстамаціі дзве тысячы пяцьсот (2.500) рубл.; на выданне праваслаунаго малітвенніка і дзіцячай чытанкі пяцьсот (500) рубл. г) Выдаць субсыдзію Рэдакцыі «Вольная Беларусь» дзве тысячы (2.000) рубл. д) Асыгнаваць на выданне штодзеннай беларускай газэты у Менску дзве тысячы (2.000) рубл. і е) Дапамагчы выданню Віленскай газэты «Гоман» у ліку двух тысячау (2.000) рубл.».-

Загачдык Справау Народнаго Сэкрэтарыяту
Дзелавод
*582.1.03:153*

**0418. Паведамленьне Канцылярыі НС скарбніку НС Васілю Захарку за 23.05.1918 (вых. №508) аб пастанове НС за 11.05.1918 у справе пэнсіяў народным сакратарам пасьля рэканструкцыі кабінэту**
*582.1.03:152*

**0419. Ліст Народнага Сакратарыяту БНР загадчыку Друкарні Інвалідаў Гразнову за 24.04.1918 (вых. №272) з просьбай выдаць Язэпу Мамоньку друкарскае абсталяваньне Друкарні НС (былой Друкарні «Автозапа»)**

*582.2.25:086 — мк*

**0420. Паведамленьне Канцылярыі НС рэдакцыі газэты «Гоман» за 24.05.1918 (вых. №511) аб пастанове НС за 22.05.1918 у справе фінансаваньня выдавецкай дзейнасьці**

У Рэдакцыю Газэты «Гоман» м. Вільня
24 травеня 1918
№511

Канцэлярыя Народнаго Сэкрэтарыяту Б.Н.Р. мае гонар давясьці да ведама Рэдакцыі паважанай газэты «Гоман», што у пасядзэнні Народнаго Сэкрэтарыяту за 22 Травеня г.р. пастаноулено: «Дапамагчы выданню Віленскай газэты «Гоман» у ліку двух тысячау (2.000) рублеу».-

Загадчык Справау Народнаго Сэкрэтарыяту
Дзелавод

*582.1.03:151*

**0421. Паведамленьне Канцылярыі НС Віленскаму Беларускаму Выдавецтву Вацлава Ластоўскага за 24.05.1918 (вых. №512) аб пастанове НС за 22.05.1918 у справе фінансаваньня выдавецкай дзейнасьці**

У Віленскае Беларускае Выдавецтво В.Ластоускаго
24 травеня 1918
№512

Канцэлярыя Народнаго Сэкрэтарыяту Б.Н.Р. мае гонар давясьці да ведама п. Ластоускаго, што у пасядзэнні Народнаго Сэкрэтарыяту за 22 Травеня г.р. пастаноулено: «Дзеля падтрымання карыснай працы на дабро Беларускаго народу выдаць аванс В.Ластоускаму на выданне беларускіх вучэбнікау тры тысячы (3.000) рублеу».-

Загадчык Справау Народнаго Сэкрэтарыяту
Дзелавод

*582.1.03:150*

**0422. Ліст Бабруйскай Павятовай Земскай Управы камандзіру Першага Польскага Корпусу за 25.05.1918 з апісаньнем злоўжываньняў польскай адміністрацыі й зьдзекамі зь мясцовага насельніцтва**

*582.2.15:013&r-016&r — мк*

**0423. Ліст Бабруйскай Павятовай Беларускай Рады камандзіру Першага Польскага Корпусу за 25.05.1918 з просьбай кампэнсаваць матэрыяльную й маральную шкоду, нанесеную мясцоваму жыхарству польскімі легіянэрамі (увах. №200)**

*582.2.15:018 — мк*

**0424. Паведамленьне Канцылярыі НС скарбніку НС Васілю Захарку за 25.05.1918 (вых. №521) аб выплаце пэнсіі дзелаводу Івану Аляшкевічу**
*582.1.03:149*

**0425. Пасьведчаньне Народнага Сакратарыяту БНР Паўлюку Барташу за 26.05.1918 (вых. №523) у тым, што ён упаважняецца на права разгляду бежанскіх прытулкаў**
*582.2.24:082 — мк*

**0426. Заява кс. Вінцэнта Гадлеўскага Народнаму Сакратарыяту БНР за 27.05.1918 аб тым, што ён ня можа надалей выконваць абавязкі ўпаўнаважанага ў бежанскіх справах (увах. №150)**
*582.2.24:083*

**0427. Заява Паўлюка Барташа Народнаму Сакратарыяту БНР за 27.05.1918 з просьбай даць яму месячны адпачынак дзеля паездкі ў Расею (увах. №154)**
*582.2.24:084*

**0428. Ліст старшыні выканкаму Койданаўскай Беларускай Рады Івана Бурвеля Народнаму Сакратарыяту БНР за 28.05.1918 з просьбай пазычыць пераплётныя інструмэнты й матэрыялы для пераплётнай майстэрні Рады (увах. №152)**
*582.2.14:226&r*

**0429. Пасьведчаньне Народнага Сакратарыяту БНР Івану Таргонскаму за 28.05.1918 (вых. №529) у тым, што ён мае патрэбу выехаць у Гомель і вярнуцца ў Менск**
*582.2.24:085 — мк*

**0430. Пасьведчаньне Канцылярыі НС Адварду Будзьку за 28.05.1918 (вых. №531) з даручэньнем увайсьці ў адносіны зь Менскім Хаўрусам Каапэратываў аб стварэньні краёвага беларускага каапэратыву й такога самага грашовага банку**
*582.1.03:148*

**0431. Паведамленьне Канцылярыі НС Адварду Будзьку за 28.05.1918 (вых. №532) аб пастанове НС за 27.05.1918 у справе фінансаваньня будоўлі Будслаўскае гімназіі**
*582.1.03:147*

**0432. Паведамленьне Канцылярыі НС скарбніку НС Васілю Захарку за 28.05.1918 (вых. №533) аб пастанове НС за 27.05.1918 у справе фінансаваньня будоўлі Будслаўскае гімназіі**
*582.1.03:146*

**0433. Пасьведчаньне Народнага Сакратарыяту БНР ксяндзу Аляксандру Астрамовічу за 28.05.1918 (вых. №534)**

Гэтым Народны Сэкрэтарыят сьведчыць, што паказчык гэтаго, ксёндз Александр Астрамовіч, ёсьць беларус родам з Віленскай губ., Ашмянскага павету, вёскі «Новасяды» і стала жыве як пробашч Аболецкай парафіі у м. Абольцы, Магілеўскай губ., Бобрскаго павету[1]

*582.2.14:229 — рк*

[1] Памылкова замест Сеньненскага (?).

**0434. Пасьведчаньне Народнага Сакратарыяту БНР ксяндзу Аляксандру Астрамовічу за 28.05.1918 (вых. №535) з даручэньнем арганізаваць местачковыя, павятовыя й губэрнскія рады ў раёнах Магілеўскай губэрні**

*582.2.14:228 — мк*

**0435. Пасьведчаньне Народнага Сакратарыяту БНР Язэпу Насовічу за 28.05.1918 (вых. №536) з даручэньнем арганізаваць местачковыя, павятовыя й губэрнскія рады ў раёнах Магілеўскай губэрні**

*582.2.14:227 — рк*

**0436. Пасьведчаньне Народнага Сакратарыяту БНР Язэпу Насовічу за 28.05.1918 (вых. №537) у тым, што ён грамадзянін-беларус Магілеўскай губэрні[1], Бабруйскага павету, вёскі Пазьнякі**

*582.2.14:224 — рк*

[1] Памылкова замест Менскай.

**0437. Пасьведчаньне Народнага Сакратарыяту БНР Адварду Будзьку за 28.05.1918 (вых. №538) у тым, што ён зьяўляецца паўнамоцным прадстаўніком НС дзеля перамоваў і падпісаньня кантракту на ўзяцьце ў арэнду тэатру Шухмана і Аксэльрода ў Менску на Ніжняй-Ляхаўцы, №7**

*582.2.25:079 — мк*

**0438. Пасьведчаньне Народнага Сакратарыяту БНР Алене Крыжаноўскай за 29.05.1918 (вых. №548) у тым, што яна беларуска места Менску й мае патрэбу выехаць у Екацярынаслаў**

*582.2.24:086 — мк*

**0439. Ліст грамадзянаў Крайскай воласьці Вялейскага павету Віленскай губэрні Народнаму Сакратарыяту БНР за 30.05.1918 з скаргамі на акупацыйныя ўлады**

*582.2.15:007&r*

**0440. Ліст грамадзянаў Крайскай воласьці Вялейскага павету Віленскай губэрні нямецкім вайсковым уладам у Менску за 30.05.1918 з скаргамі на акупацыйныя ўлады (увах. №198)**

*582ı2.15:008&r*

**0441. Паведамленьне Канцылярыі НС скарбніку НС Васілю Захарку за 30.05.1918 (вых. №553) аб пастанове НС за 24.05.1918 у справе фінансаваньня беларускага пэрыядычнага друку**

Канцэлярыя
30 травеня 1918
№553
Скарбніку Народнаго Сэкрэтарыяту В.Захарко

Даводзіцца да Вашаго ведама, што у пасядзэнні Народнаго Сэкрэтарыяту за 24 травеня г.г. пастаноулена: «Асыгнаваць на тыднёвікі-газэты, якія будуць прапагандаваць беларускую справу у гарадах: 1) Кіеў, Масква, Петраград — па пяць тысяч рубл., Віцебск, Смаленск, Магілеў, Гродна, Вільня, Беласток, Пінск (выдаваць на Пінчуцкай мові), Гомель, Полацк па пяць тысяч рубл. і на Мінск так сама пяць тысяч рубл.».-

Загадчык Справаў Народнаго Сэкрэтарыяту
Дзелавод

*582.1.03:145*

**0442. Ліст Народнага Сакратарыяту БНР Фларыяну Ждановічу за 30.05.1918 (вых. №557) з паведамленьнем аб пастанове НС за 24.05.1918 у справе пераходу Беларускага тэатру ў Менску пад загад Народнага Сакратарыяту**

Беларускі тэатр у Менску прынцыпіальна прыймаецца пад загад Народнаго Сэкрэтарыяту, а дэталі і варункі піраходу тэатру пад загад Ураду Беларусі абгаварыць павінна Камісыя з асобау: Я.Варонка, Л.Заяц, І.Сераэда і В.Захарко.

*582.2.25:078 — мк*

**0443. Ліст Народнага Сакратарыяту БНР Язэпу Лёсіку за 30.05.1918 (вых. №558) з паведамленьнем аб пастанове НС за 25.05.1918 у справе перадачы друкарні НС рэдакцыі «Вольнай Беларусі»**

*582.2.25:077 — мк*

**0444. Тэлеграма Аўгена Ладнова (Харкаў) Аляксандру Цьвікевічу (Кіеў) за 31.05.1918**

выезжаю воскресенье[1] = ладнов

*582.2.02:057*

[1] 2 чэрвеня 1918.

**0445. Ліст Бабруйскай Павятовай Беларускай Рады Штабу X Арміі за 31.05.1918 з просьбай стварыць камісію для расьсьледаваньня расправы польскіх легіянэраў з жыхарамі вёсак Вялікія й Малыя Бортнікі**

*582.2.15:017&r — мк*

**0446. Пасьведчаньне Народнага Сакратарыяту БНР Адварду Будзьку за 31.05.1918 (вых. №561) з даручэньнем арганізаваць школьную й агульнаадукацыйную справу ў Вялейскім павеце**

*582.2.14:223 — рк*

**0447. Ліст Камісіі Апекі пры Менскай Гарадзкой Думе Народнаму Сакратарыяту БНР (Менск) за 31.05.1918 з паведамленьнем аб нястачы сродкаў на адкрыцьцё беларускіх дзіцячых сталовак (увах. №174)**
*582.2.24:095*

**0448. Ліст Народнага Сакратарыяту БНР Менскай Губэрнскай Земскай Управе за 31.05.1918 (вых. №566) у справе непадтрыманьня Ўправай дзіцячых прытулкаў і іншых падобных установаў**
*582.2.25:076 — мк*

**0449. Пасьведчаньне Народнага Сакратарыяту БНР Пятру Талько-Грынцэвічу за 31.05.1918 (вых. №569) у тым, што ён дырэктар і выкладчык 1-ай Менскай Народнай Жаночай 8-кляснай Гімназіі**
*582.2.14:222 — мк*

**0450. Пратакол №14 паседжаньня Дэлегацыі НС БНР у справе перамоваў за 1.06.1918**

Протоколъ №14
засѣданія делегаціи Б.Н.Р. для внѣшнихъ переговоровъ отъ 1 іюня 1918 г.

Присутствовали: А.И.Цвикевичъ, проф. М.В.Довнаръ-Запольскій, инж. Головинскій, Фарботко и А.І.Модзолевскій

| Разсматривались вопросы: | Постановили: |
|---|---|
| 1) О возобновленіи полномочій членовъ делегаціи | 1) Послать курьера въ Минскъ для - возобновленія и продленія полномочій членовъ делегаціи Б.Н.Р. |
| 2) О покупкѣ делегаціей автомобиля сист. «Stude Beker», принадлежащаго Кіевской бѣлорусской организаціи для Народнаго Секретаріата Б.Н.Р. | 2) Примая во вниманіе необходимость въ частыхъ разъѣздахъ по дѣламъ делегаціи постановили автомобиль пріобрѣсти, затраты на него изъ общихъ суммъ Народнаго Секретаріата Б.Н.Р. 8000 руб. |
| 3) О выдачѣ взаимообразно 500 руб. члену Рады Р.Якобини. | 3) Деньги Р.Якобини взаимообразно въ размѣрѣ 500 руб. выдать. |
| 4) О сложеніи І.Фарботко обязанностей управляющаго дѣлами делегаціи и вступленіи въ исполненіе обязанностей А.І.Модзолевскаго. | 4) Принять отставку І.Фарботко, предложивъ исполненіе обязанностей управл. дѣлами делегаціи А.І.Модзолевскому. |

Предсѣдатель делегаціи Ал.Цвикевичъ
Членъ делегаціи [Довнаръ-Запольскій]
Управляющій дѣлами А.Модзолевскій
*582.2.02:060 — ра*

**0451. Пратакол нарады сяброў Дэлегацыі НС БНР у справе перамоваў за 1.06.1918**

Протоколъ
совѣщанія членовъ Бѣлорусской делегаціи — А.И.Цвикевича и проф. М.В.Довнаръ-Запольскаго, управляющихъ дѣлами делегаціи І.Фарботко и А.І.Модзалевскаго
при участіи инж. Головинскаго, Н.Н. Фермара и С.В.Мясоѣдова.

1 іюня 1918 г.

Совѣщаніе обмѣнялось мнѣніями по вопросу о настоящемъ политическомъ положеніи Б.Н.Р. Большинство членовъ совѣщанія, принимая во вниманіе невозможность даже въ ближайшемъ будущемъ существованія Бѣлоруссіи въ изолированной самостоятельной формѣ, — высказывается за необходимость федераціи съ тѣмъ или другимъ изъ сосѣднихъ съ Бѣлоруссіей государствъ.

Такая невозможность изолированнаго существованія Бѣлоруссіи вытекаетъ изъ неизбѣжной экономической зависимости отъ болѣе сильныхъ сосѣдей и отсутствія у Бѣлоруссіи выхода къ морю. Въ совѣщаніи намѣчаются двѣ конкретныя возможности — федерація съ Украиной и федерація съ Литвой, опредѣленно опирающейся на Германію и связанной съ ней государственными конвенціями.

Рѣшительно защитникомъ федераціи съ Литвой выступаетъ проф. М.В.Довнаръ-Запольскій, кот. указываетъ на слабость Литвы въ культурномъ и экономическомъ отношеніяхъ, что исключаетъ возможность порабощенія Литвой Бѣлоруссіи. Въ подтвержденіе своихъ соображеній проф. Довнаръ-Запольскій ссылается на извѣстные историческіе факты, говорящіе о томъ, что въ результатѣ уніи Литвы съ Бѣлоруссіей послѣдняя заняла господствующее положеніе.

Другое серьезное соображеніе, выдвинутое сторонниками оріентаціи Литовской, заключается в возможности сохраненія за Бѣлоруссіей западныхъ и сѣв.-западныхъ областей, отторгнутыхъ по Брестъ-Литовскому договору.

А.И.Цвикевичъ, отвергая въ частности пріемлемость федераціи съ Литвой, какъ ведущую къ неизбѣжной германизаціи Бѣлоруссіи, — вообще считаетъ возможной въ дальнѣйшемъ федерацію съ тѣмъ или другимъ изъ сосѣднихъ съ Бѣлоруссіей государствъ, но не находитъ необходимымъ и цѣлесообразнымъ дѣлать въ настоящій моментъ въ этомъ направленіи какіе-либо шаги въ виду, главнымъ образомъ, неопредѣленности настоящаго политическаго момента и міровой экономической коньюнктуры.

Въ противовѣсъ соображеніямъ, высказаннымъ А.И.Цвикевичемъ. сторонники федераціи высказываются за необходимость немедленно предпринять шаги въ направленіи федераціи съ тѣмъ или другимъ сосѣдомъ, что при свободномъ, безъ давленія извнѣ, рѣшеніи этого вопроса Бѣлорусскимъ народомъ дастъ послѣднему возможность диктовать свои условія и получить maximum выгодъ. Другая часть участниковъ совѣщанія высказалась за федерацію съ Украиной.

Такой политическій ходъ диктуется, по мнѣнію сторонниковъ украинской оріентаціи, практическими соображеніями настоящаго момента (воз-

можность полученія необходимыхъ продуктовъ, которыми такъ бѣдна Бѣлоруссія), родствомъ обоихъ народовъ, а также возможностью имѣть выходъ къ морю (Черному).

Кромѣ того, и боязнь экономическаго и культурнаго порабощенія Украиной Бѣлоруссіи также не можетъ имѣть мѣста, такъ какъ Украина слаба въ культурномъ отношеніи и недостаточно окрѣпла государственно, что въ настоящій момент исключаетъ возможность серьезной угрозы въ этомъ отношеніи для Бѣлоруссіи.

АлЦвикевич
*582.2.03:033&r-034 — ра*

**0452. Пасьведчаньне Народнага Сакратарыяту БНР Янкелю Мінцу за 1.06.1918 (вых. №570) у тым, што ён жыхар Менску й грамадзянін Беларусі й мае патрэбу выехаць у Сумы Харкаўскай губэрні**
*582.2.24:090 — рк*

**0453. Пасьведчаньне Народнага Сакратарыяту БНР Гэні-Рохлі Мінц за 1.06.1918 (вых. №571) у тым, што яна жыхарка Менску й грамадзянінка Беларусі й мае патрэбу выехаць у Сумы Харкаўскай губэрні**
*582.2.24:091 — рк*

**0454. Пасьведчаньне Народнага Сакратарыяту БНР Хацкелю Гімельштэйну за 1.06.1918 (вых. №572) у тым, што ён грамадзянін Беларусі і мае патрэбу выехаць у мястэчка Калінкавічы**
*582.2.14:221 — рк*

**0455. Ліст Народнага Сакратарыяту БНР Лявону Дубейкоўскаму за 1.06.1918 (вых. №575) з паведамленьнем аб пастанове НС за 30.05.1918 у справе прызначэньня яго ўрадавым архітэктарам пры Народным Сакратарыяце БНР**
*582.2.14:225 — мк*

**0456. Паведамленьне Канцылярыі НС скарбніку НС Васілю Захарку за 1.06.1918 (вых. №578) аб пастанове НС за 30.05.1918 у справе зацьверджаньня каштарысу на ўтрыманьне Бюро Перакладаў пры Народным Камісарыяце Прасьветы**
*582.1.03:144*

**0457. Ліст Народнага Сакратарыяту БНР былой Менскай Губэрнскай Харчовай Управе за 1.06.1918 (вых. №579) з паведамленьнем аб пастанове НС за 27.05.1918 у справе перадачы маёмасьці Ўправы Народнаму Сакратарыяту**
*582.2.25:075 — рк*

**0458. Ліст Народнага Сакратарыяту БНР (Менск) Дэлегацыі НС БНР у справе перамоваў (Кіеў) (вых.№586) за 2.06.1918 з просьбай да-**

**памагчы вярнуцца з Кіева ў Менск артысту Беларускае трупы Дзяржаўага Тэатра Аляксандру Андрэеву**
*582.2.02:058 — ма*

**0459. Ліст грамадзянаў вёскі Кавалі, Вязынскай воласьці Вялейскага павету Віленскай губэрні Народнаму Сакратарыяту БНР за 3.06.1918 з скаргамі на акупацыйныя ўлады (увах. №240)**
*582.2.15:025&r-026&r*

**0460. Ліст Народнага Сакратарыяту БНР грамадзянам Красносельскай воласьці Вялейскага павету Віленскай губэрні за 3.06.1918 (вых. №592) з абяцаньнем прыняць належныя захады дзеля высьвятленьня ў нямецкіх уладаў справаў у воласьці**
*582.2.15:005 — мк*

**0461. Ліст Народнага Сакратарыяту БНР грамадзянам Крайскай воласьці Вялейскага павету Віленскай губэрні за 3.06.1918 (вых. №593) з абяцаньнем прыняць належныя захады дзеля высьвятленьня ў нямецкіх уладаў справаў у воласьці**
*582.2.15:006 — мк*

**0462. Ліст упаўнаважанага ў справах бежанцаў Наваградзкага павету Макара Каўцэвіча Народнаму Сакратарыяту БНР за 4.06.1918 з скаргаю на незаконны арышт яго камэндантам мястэчка Налібакі (увах. №276)**
*582.2.15:039&r*

**0463. Ліст Гаспадарчага Аддзелу Беларускай Арганізацыі на Тэрыторыі Ўкраіны (Кіеў) старшыні Дэлэгацыі НС БНР у справе перамоваў Аляксандру Цьвікевічу (Кіеў) за 5.06.1918 з просьбай аплаціць аўтамабіль «Студэбэкер»**
*582.2.02:059 — ма*

**0464. Пасьведчаньне Гаспадарчага Аддзелу Беларускай Арганізацыі на Тэрыторыі Ўкраіны (Кіеў) старшыні Дэлэгацыі НС БНР у справе перамоваў Аляксандру Цьвікевічу (Кіеў) за 5.06.1918 аб продажы аўтамабіля «Студэбэкер»**
*582.2.02:061-062 — ма*

**0465. Ліст Менскай Губэрнскай Земскай Управы Народнаму Сакратарыяту БНР за 5.06.1918 з прыкладзенай рэзалюцыяй аб адносінах Земскай Управы да Рады БНР і Народнага Сакратарыяту (увах. №197)**
*582.2.25:072*

---

Адказ на ліст НС за 31.05.1918 (дак. №0448) с просьбай аб фінансаваньні дзіцячых прытулкаў.

**0466. Пасьведчаньне Хаценчыцкай Валасной Управы Вялейскага павету Віленскай губэрні Адольфу Івашкевічу за 5.06.1918 у тым, што ён камандыруецца ў Менск дзеля высьвятленьня сытуацыі ў воласьці (увах. №202)**

*582.2.15:010&r*

**0467. Ліст Бабруйскай Павятовай Беларускай Рады Радзе БНР за 5.06.1918 з просьбай хадайнічаць перад нямецкімі ўладамі аб найхутчэйшым раззбраеньні Польскага Корпусу (увах. №200)**

*582.2.15:019&r — мк*

**0468. Зварот Бабруйскай Павятовай Беларускай Рады да Цэнтральнай Беларускай Рады за 5.06.1918 з просьбай ужыць перад нямецкім камандаваньнем усе захады дзеля раззбраеньня 1-га Польскага корпусу генэрала Доўбар-Мусьніцкага**

*582.2.50:019&r — мк*

---

Зварот падпісалі: старшыня М.В.Успенскі, сакратар Чарноў. Пастанова нямецкіх уладаў аб прымусовай дэмабілізацыі Польскага корпусу была падпісаная 21.05.1918.

**0469. Паведамленьне Канцылярыі НС Васілю Захарку (вых. №617), Янку Серадзе (вых. №619) і Антону Аўсяніку (вых. №618) за 5.06.1918 аб пастанове НС за 4.06.1918 у справе арэнды памешканьня для тэатру**

*582.1.03:143*

**0470. Ліст Народнага Сакратарыяту БНР Штабу X Арміі за 5.06.1918 (вых. №620) з паведамленьнем аб скаргах сялянаў на акупацыйныя ўлады й просьбай высьветліць сытуацыю**

*582.2.15:009&r — рк*

**0471. Пасьведчаньне Народнага Сакратарыяту БНР Яфіму Бялевічу за 5.06.1918 (вых. №622) у тым, што ён камандыруецца ў Петраград, Маскву, Віцебск і Смаленск для ўрэгуляваньня бежанскага пытаньня**

*582.2.24:096 — мк*

**0472. Пасьведчаньне Народнага Сакратарыяту БНР Уладзімеру Грэмякову за 5.06.1918 (вых. №625), камандыраванаму ў бежанскіх справах у Баранавічы, Сіняўку, Замір'е й Мір**

*582.2.14:220 — рк*

**0473. Ліст грамадзянаў вёскі Лашаны, Заслаўскай воласьці Менскага павету Менскай губэрні Народнаму Сакратарыяту БНР за 5.06.1918 з скаргамі на акупацыйныя ўлады (увах. №216)**

*582.2.15:029&r*

школьных, харчовых, комунікацыі і інш. Магчымасьць завязаньня афіцыяльных перагавораў між беларускім і расейскім урадамі незалежна ад прызнаньня незалежнасьці Беларусі і магчымасьць захаваньня нашай гасударственай арганізацыі у аўтаномнай Беларусі.

III. Вывады.

1) Дзеля падняцьця павагі дэлегацыі канечна патрэбна выяўленьне шырэйшай дзейнасьці Нар. Сэкрэтарыяту. У тым канечна трэба прыцягнуць земствы і мястовыя самаўправы, опэруючы страхам прыходу большэвікоў. Патрэба абаперціся на земствы вынікае з таго, што большэвікі з асаблівай пашанай адносяцца да земскага самаўпраўленьня.

2) Канечна трэба стварыць голас насяленьня у справе незалежнасьці і непадзельнасьці Беларусі і прызнаньня ўласьці беларускага ўраду (як самаабарона ад Большэвізіі!). Гэта патрэбна як для паказаньня нашае павагі і сілы украінцам, так і асабліва немцам. Глаўную роль іграе тут формальная старана; на ўсё іншае немцы будуць глядзець скрозь пальцаў.

3) Даведацца аб арганізацыі «белай гвардыі» і дабіцца ўсімі спосабамі яе дабравольнага падчыненьня беларускаму ураду.

*582.2.09:032 — р*
*582.2.09:044&r — р*

---

Перададзена з Я.Варонкам, які ехаў з Кіеву ў Менск. [1] Отто Эйхельман — намесьнік міністра замежных справаў Украіны.

**1039. Хадайніцтва дзелавода Аддзелу Фінансаў О.А.Любко перад НС БНР за 3.10.1918 з просьбаю аб кампэнсацыі выдаткаў**
*582.1.03:038&r*

**1040. Хадайніцтва дзелавода Аддзелу Фінансаў О.А.Любко перад НС БНР з просьбаю выплаціць грошы**
*582.1.03:039&r*

**1041. Ліст Беларускай Гандлёвай Палаты на Ўкраіне (Кіеў) старшыні Надзвычайнай Дэлегацыі Рады БНР Антону Луцкевічу (Кіеў) за 3.10.1918 з дасланымі пратэстамі Магілеўскага Беларускага Камітэту на ймя расейскага і ўкраінскага ўрадаў**
*582.2.09:008 — ма*

**1042. Ліст дэлегацыі Саюзу Зямельных Уласьнікаў Магілеўскай губэрні (Кіеў?) Надзвычайнай Дэлегацыі Рады БНР (Кіеў) за 3.10.1918 з упаважненьнем Надзвычайнай Дэлегацыі Рады БНР выступаць у абароне інтарэсаў Беларусі**
*582.2.09:013*

---

Ліст падпісалі дэлегаты: старшыня Саюзу Вацлаў Іосіфавіч Васілеўскі, сябры — барон Васіль Васілевіч Корф і Аляксандар Пятровіч Мурамцаў.

**1043. Паведамленьне Канцылярыі НС Прэзыдыюму Рады БНР за 3.10.1918 (вых. №1600) аб пастанове НС за 1.10.1918**
*582.1.03:046*

**1044. Паведамленьне Канцыляры НС Прэзыдыюму Рады БНР за 3.10.1918 (вых. №1601) аб пастанове НС за 1.10.1918**

*582.1.03:045*

**1045. Паведамленьне Канцыляры НС рэдакцыі газэты «Вольная Беларусь» за 3.10.1918 (вых. №1602) аб пастанове НС за 1.10.1918 у справе дапамогі газэце «Вольная Беларусь»**

Рэдакцыі «Вольная Беларусь»
3 кастрычніка
№1602

Даводзіцца да ведама Рэдакцыі, што у пасядзэнні Народнаго Сэкрэтарыяту за 1-го кастрычніка г.р. пастаноулена: §3 «Дзеля недахвату грошы у гэты момэнт пытанне аб дапамозе «Вольнае Беларусі» заставіць часова адчыненым, пры чым цяпер-жа выплаціць Рэдакцыі «Вольнае Беларусі» адну тысячу (1000) рубл. за узятыя для Народнаго Сэкрэтарыяту 1000 шт. брашурау — «Што трэба ведаць кожнаму беларусу».-

Народны Сэкрэтар—Загадчык Спраў
Старшы Дзелавод

*582.1.03:044*

**1046. Паведамленьне Канцыляры НС рэдакцыі віленскай газэты «Гоман» за 3.10.1918 (вых. №1603) аб пастанове НС за 1.10.1918 у справе дапамогі віленскай газэце «Гоман»**

*582.1.03:043*

**1047. Паведамленьне Канцыляры НС Івану Луцкевічу за 3.10.1918 (вых. №1604) аб пастанове НС за 1.10.1918 у справе дапамогі віленскай газэце «Гоман»**

Грамадзяніну І.Луцкевічу
3 кастрычніка
№1604

Даводзіцца да Вашаго ведама, што у пасядзэнні Народнаго Сэкрэтарыяту за 1 кастрычніка г.р. пастаноулена: §4 «Выдаць дапамогу Рэдакцыі Віленскай беларускай часопісі «Гоман» пакуль што толькі пяцьсот (500) рубл. Ассыгноўку і грошы атрымае Іван Луцкевіч».-

Народны Сэкрэтар—Загадчык Спраў
Старшы Дзелавод

*582.1.03:042*

**1048. Паведамленьне Канцыляры НС Камісіі ў Бежанскіх Справах Рады БНР за 3.10.1918 (вых. №1605) аб пастанове НС за 1.10.1918 у справе выдачы Камісіі авансу**

*582.1.03:041*

**1049. Паведамленьне Канцылярыі НС Менскаму Беларускаму Прадстаўніцтву за 3.10.1918 (вых. №1607) аб пастанове НС за 1.10.1918 у справе рамонту «Юбілейнага Дому»**

*582.1.03:040*

**1050. Нота Надзвычайнай Дэлегацыі Рады БНР (Кіеў) старшыні Расейскай мірнай дэлегацыі Хрысьціяну Ракоўскаму (Кіеў) за 5.10.1918 (вых. №5) у справе вяртаньня бежанцаў у Горадзенскую губэрню**

*582.2.09:048 — мк*
*582.2.09:049&r-051&r — р*

**1051. Пратакол трэцяга сходу Надзвычайнай Дэлегацыі Рады БНР дзеля замежных перамоваў за 7.10.1918**

Трэцьці сход надзвычайнай дэлегацыі дзеля замежных перагавораў

7 кастрычніка 1918 г.
м. Кіеў

Былі прысутнымі члены дэлегацыі:
п.п. Бурчак і Базарэвіч
Старшыня п. Луцкевіч
Пісар А.Аўсянік

| Слухалі: | Пастанавілі: |
|---|---|
| 1. Абгавор агульнага палітычнага палажэньня | 1. Увыйсьці у зносіны паміма Украінскага ураду с прэдстаўнікамі быўш. гасударственнай думы і інш. расейскімі арганізацыямі. |
| 2. Справа падарожы у Маскву | 2. У прыпадку запрошэньня Расейскім урадам паехаць у Маскву для оффіцыяльных перагавораў — запытацца якога погляду трымаецца на гэта наш Урад. |
| 3. Далейшыя крокі у Кіевя | 3. а) Генэральны Консул дэкларацыі-протэсты адсылая пакетамі да усіх пасольств,<br>б) зложыць візыту да Гэтмана у сераду а 11 гадз.<br>в) заняцца інформацыяй антантскай прэссы беларускімі справамі |
| 4. Старшыня дэлегацыі запрапанаваў папоўніць палату п.п. Краскоўскім і Хадасэвічам | 4. Унясьці на разгляд гэтых кандыдатаў на пленум праўленьня палаты |
| 5. Справа фінансаваньня дэлегацыі | 5. Па запросу Старшыні дэлегацыі выяснена, што выдача грошы дэлегацыі па асыгноўкам Сэкрэтарыяту |

адбываецца па пастановам пленума палаты

Старшыня Ант.Луцкевіч
Пісар Аўсянік
*582.2.04:015 — р*
*582.2.04:016 — ра*

**1052. Пратэст Рады Беларускай Народнай Рэспублікі (Менск) Райхсканцлеру Нямеччыны прынцу Максу Бадэнскаму (Бэрлін) за 7.10.1918**

ЕГО ВЫСОЧЕСТВУ
Принцу Максу Баденскому
Имперскому Канцлеру.

Великая всемирная война однимъ изъ своихъ слѣдствій имѣла признаніе всѣми воюющими державами принципа самоопредѣленія народовъ, ихъ политическое національное развитіе, а также возстановленіе исторически существовавшихъ государственныхъ организмовъ.

Однимъ изъ первыхъ провелъ этотъ принципъ въ жизнь народъ Бѣлорусскій, который въ лицѣ своего полномочнаго органа Рады Б.Н.Р. воспріявшей свою власть отъ I-го Всебѣлорусскаго народнаго конгресса въ г. Минскѣ 17-31 Декабря 1917 г., объявивъ актомъ 25 марта с.г. независимость и недѣлимость Бѣлоруссіи въ ея этнографически-историческихъ границахъ (Виленская, Гродненская, Минская, Витебская, Могилевская губ. Смоленскій, Дорогобужскій, Рославльскій и Краснинскій уѣзды Смоленской губ., Мглинскій, Стародубскій, Новозыбковскій и Суражскій уѣзды Черниговской губ. Иллукскій уѣздъ Курляндской губ, Новоалександровскій уѣздъ Ковенской губ., Сейнинскій и Августовскій уѣзды Сувалкской губ. южные части Великолукскаго и Опочецкаго уѣзда Псковской губ., Брянскій и Трубчевскій уѣзды Орловской губ.). Объ этомъ рѣшеніи Бѣлорусское Правительство оповѣстило всѣ великия державы по радіо 18го Апрѣля с.г., протестуя противъ раздѣла Бѣлоруссіи Брестскимъ договоромъ и прося ихъ признать государственную независимость и недѣлимость Бѣлоруссіи. Непрекращаюшіеся захваты Бѣлорусскихъ земель правительствами сосѣднихъ державъ и домогательства ихъ о присоединеніи къ своимъ территоріямъ значительныхъ бѣлорусскихъ областей вызвали со стороны Рады Б.Н.Р. неоднократныя протесты противъ насильственныхъ отторженій искони бѣлорусскихъ частей нашго отечества.

Несмотря на это, Регентскій Совѣтъ, въ Варшавѣ, актомъ своимъ отъ 7-го Октября с.г. претендуетъ на тѣ области, граничащія съ Польшей, которыя населены католиками.

Усматривая въ этомъ попытку Регентскаго Совѣта лишній разъ подтвердить домагательства польскихъ правящихъ круговъ на захватъ бѣлорусской территоріи съ католическимъ, но не польскимъ, населеніемъ, Рада Б.Н.Р. и Народный Секретаріатъ вновь выражаетъ свой рѣшительный протестъ и заявляетъ предъ лицомъ всего культурнаго мира, что подобныя анексіонистскія стремленія Польши встрѣтятъ при своемъ осуществленіи рѣзкій отпоръ со стороны Бѣлорусскаго народа.

Рада Бѣлорусской Народной Республики и Народный Секретаріатъ, выполняя волю Всебѣлорусскаго Народнаго Конгресса, никогда не допуститъ, чтобы области Гродно, Бѣлостокъ, Брестъ были отторгнуты отъ живого тѣла Бѣлоруссіи.

Настоящій нашъ протестъ благоволите ВАШЕ ВЫСОЧЕСТВО довести до свѣдѣнія Германскаго Правительства, Рейгстага и заинтересованыхъ Державъ.-

Президентъ РАДЫ Бѣлорусской Народной Республики Іосиф Лесик
Президентъ Народнаго Секретаріата
и Народный Секретарь Иностранныхъ Дѣлъ Иван Середа
Народный Секретарь, Начальникъ
Канцеляріи Народнаго Секретаріата Леонард Заяц
*582.2.09:038 — мк*

**1053. Ліст Надзвычайнай Дэлегацыі Рады БНР (Кіеў) міністру замежных справаў Украіны Зьмітру Дарашэнку (Кіеў) за 7.10.1918 (вых. №11) з просьбай выдаць у найхутчэйшы тэрмін пропускі Антону Луцкевічу й Антону Аўсяніку для праезду з Кіева ў Менск**
*582.2.09:058 — рк*

**1054. Ліст грамадзянаў Радашкаўскай воласьці Вялейскага павету Віленскай губэрні Народнаму Сакратарыяту БНР за 7.10.1918 з скаргамі на акупацыйныя ўлады**
*582.2.15:094,095,099*

**1055. Ліст Народнага Сакратарыяту БНР Штабу X Арміі за 7.10.1918 (вых. №1630) з просьбай даць распараджэньне аб разглядзе скаргі сялянаў Радашкаўскай воласьці**
*582.2.15:098&r — рк*

**1056. Пасьведчаньне Надзвычайнай Дэлегацыі Рады БНР Рычарду Якабіні за 8.10.1918 у тым, што ён зьяўляецца радным Дэлегацыі (вых. №10)**
*582.2.09:056 — рк*
*582.2.09:057 — мк*

**1057. Паведамленьне Канцылярыі НС Аддзелу Грашовых Справаў НС за 8.10.1918 (вых. №1632) аб пастанове НС за 5.10.1918 у справе аплаты выдаткаў Івана Луцкевіча на паездку ў справах НС у Магілеў, Воршу й Бабруйск**
*582.1.03:037&r*

**1058. Нота Надзвычайнай Дэлегацыі Рады БНР (Кіеў) міністру замежных справаў Украіны (Кіеў) за 10.10.1918 (вых. №6)**

Пану Міністру Закордонных Спраў Украіны.

У сьлед за апавяшчэньнем Радай Беларускае Народнае Рэспублікі дзяржаўнае незалежнасьці Беларусі актам 25 марца 1918 году, аб чым

было пададзена да ведама ўсіх дзяржаў па радіо, Беларускі Урад паслаў у Кіеў Дэлегацыю, каб паведаміць аб гэтым Украінскі Урад і на аснове прызнаньня апошнім незалежнасьці Беларускае Дзяржавы устанавіць дзяржаўныя межы паміж Украінай і Беларусьсю. На пачаўшыхся 19 красавіка с.г. афіцыяльных перагаворах між Дэлегацыей і прадстаўнікамі Украінскага Ураду Галава Украінскай Камісіі, п. А.Ліхнякевіч, заявіў, што «Урад Украіны прызнаў Беларускую Рэспубліку, але апавяшчэньне адпаведнага акту задзержываецца некаторымі акалічнасьцямі» (засяданьне 21.IV.1918), — ды ўжо самыя перагаворы Украіны з Беларускім Урадам аб дзяржаўных граніцах станавілі скрыты акт прызнаньня. Хаця з прычыны перамены Украінскага Ураду перагаворы спыніліся, аднак, і цяперашні Урад Украіны фактычна далей паддзержываў зносіны з Беларусьсю, як з незалежнай дзяржавай, паміж іншым абмяняўшыся з ей консульствамі.

Прычынай, задзержываўшай офіцыяльнае прызнаньне Украінай дзяржаўнае незалежнасьці Беларусі, была — паводле заяў прадстаўнікоў Украінскага Ураду — Берасьцейская умова, каторая абязывала падпісаўшыя яе дзяржавы устрымлівацца ад паддзержкі новых дзяржаўных арганізмаў, твораных на прыналежаўшых да Расеі землях. Аднак, здарэньні апошніх дзён сусьветнае вагі, а перад усім прыняцьце Цэнтральнымі Дзяржавамі 14 пунктаў Вільсона і вынікаючае з гэтага ануліраваньне Берасьцейскае умовы адкідаюць гэную прычыну.

На аснове ўсяго вышэйсказанага Надзвычайная Беларуская Дэлегацыя дзеля замежных перагавораў, у мысль дадзеных ей Беларускім Урадам мандатаў, просіць Пана Міністра Закордонных Спраў Украіны ўнясьці на разгляд Рады Міністраў пытаньне аб офіцыяльным прызнаньні Украінай дзяржаўнае незалежнасьці Беларусі ў тэрміновым парадку.

Старшыня: Ант. Луцкевіч
Пісар: Антон Аўсянік
*582.2.09:054&r-055 — рк*

**1059. Пасьведчаньне Народнага Сакратарыяту БНР Алесю Прушынскаму за 10.10.1918 (вых. №1645)**

БЕЛАРУСКАЯ
НАРОДНАЯ
РЭСПУБЛІКА
НАРОДНЫ СЭКРЭТАРЫЯТ
10 Кастрычніка 1918 г.
№1645
Место Менск.

ПАСЬВЕДЧЭНЬНЕ

Гэтым Народны Сэкрэтарыят сьведчыць, што уласьнік гэтаго Алесь Прушынскі запрауды ёсьць Прэзас Школьнай Камісыі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.-

Народны Сэкрэтар
Загадчык Справау
Народнаго Сэкрэтарыяту
Л.Заяц

Старшы Дзелавод
І.Олешкевіч
*582.2.18:001 — ма*

На дакумэнце штамп: «проізді на Украіну 12.ОКТ.1918».

**1060. Упаважненьне Народнага Сакратарыяту БНР Івану Краскоўскаму за 10.10.1918 (вых. №1651) дзеля вядзеньня перамоваў з расейскім урадам празь яго прадстаўнікоў у Кіеве аб прызнаньні незалежнасьці Беларусі**

БЕЛАРУСКАЯ
НАРОДНАЯ
РЭСПУБЛІКА
НАРОДНЫ СЭКРЭТАРЫЯТ
10 Кастрычніка 1918 г.
№1651
Место Менск.

УПАУНАМОЦТВА.

Народны Сэкрэтарыят Беларускае Народнае Рэспублікі, на моцы сваей пастановы за 9 гэтаго кастрычніка 1918 г., даручае Члену Надзвычайнай Беларускай Дэлегацыі Івану Краскоўскаму, ад імені Беларускай Народнай Рэспублікі, вясьці перэгаворы у пастанаўляючай форме з Урадам Расійскай Савецкай Фэдэратыўнай Рэспублікі, ці яго паўнамоцнымі прэдстаўнікамі у Кіеві, — аб прызнанні нізалежнасьці і Дзержаўнай самастойнасьці Беларусі і наконта тых вынікаў, якія выцекаюць з факту гэтаго прызнаньня; аб устанаўленні рубяжоў паміж Беларускай Народнай Рэспублікай і Расійскай Савецкай Фэдэратыўнай Рэспублікай, а так сама — аб эканамічна-палітычных адносінах паміж памянёнымі Дзержавамі, і упаўнамачывае падпісаць належные у гэтых справах дагаворы, што подпісам і прыкладам печаткі сьведчымо.-

Старшыня Народнаго Сэкрэтарыяту
і Народны Сэкрэтар Міжнарадовых Справау
Середа

Народны Сэкрэтар Гандлю
і Прамысловасьці
Т.Вернікоўскі

Народны Сэкрэтар Фінансаў
Захарко

Народны Сэкрэтар — Загадчык
Справау Народнаго Сэкрэтарыяту
ЛЗаяц
*582ι2.09:026&r — ма*

**1061. Упаважненьне Народнага Сакратарыяту БНР Івану Краскоўскаму за 10.10.1918 (вых. №1652) дзеля вядзеньня перамоваў з украінскім урадам аб прызнаньні незалежнасьці Беларусі**

*582.2.09:028&r — ма*

**1062. Ліст Народнага Сакратарыяту БНР (Менск) старшыні Надзвычайнай Дэлегацыі Рады БНР Антону Луцкевічу (Кіеў) за 10.10.1918 (вых. №1655) аб адкліканьні з складу Дэлегацыі Л.Леўшчанкі й Я.Варонкі й прызначэньні на іх месцы Т.Грыба й А.Смоліча, аб прапанове працаваць у Дэлегацыі ex officio Г.Базарэвічу — як консулу, аб магчымым сумяшчэньні І.Краскоўскім украінскай службы з працай у Дэлегацыі — на падставе пастановаў НС за 4 і 9.10.1918**

*582.2.09:027 — ма*

**1063. Ліст Народнага Сакратарыяту БНР (Менск) Ураду Расейскай Савецкай Фэдэратыўнай Рэспублікі ў асобе яго прадстаўніка ў Кіеве (Кіеў) за 10.10.1918 (вых. №1656) аб адкліканьні з складу Дэлегацыі Л.Леўшчанкі й Я.Варонкі й прызначэньні на іх месцы Т.Грыба й А.Смоліча.**

*582.2.09:029 — ма*

---

У дадатак да папераў №1485 за 18.09.1918 і №1508 за 20.09.1918

**1064. Ліст Народнага Сакратарыяту БНР (Менск) міністру замежных справаў Украінскай Дзяржавы (Кіеў) за 10.10.1918 (вых. №1657) аб адкліканьні з складу Дэлегацыі Л.Леўшчанкі й Я.Варонкі й прызначэньні на іх месцы Т.Грыба й А.Смоліча.**

*582.2.09:030 — ма*

---

У дадатак да папераў №1484 за 18.09.1918 і №1509 за 20.09.1918

**1065. Пратакол чацьвертага сходу Надзвычайнай Дэлегацыі Рады БНР дзеля замежных перамоваў за 11.10.1918**

Чацьверты сход надзвычайнай дэлегацыі дзеля замежных перагавораў

11 кастрычніка 1918 г.
м. Кіеў

Былі прысутнымі члены дэлегацыі:
п.п. Базарэвіч і Капыстынскі
Старшыня п. Луцкевіч
Пісар А.Аўсянік

| Слухалі: | Пастанавілі: |
|---|---|
| 1. Даклад Старшыні дэлегацыі аб оффіцыяльнай перадачы сягоньня паперы Міністру Закардонных спраў з прапазыцыяй аб нашым прызнаньні | 1. Прыняць да ведама |

| | |
|---|---|
| 2. Аб мэморыялах да паслоў | 2. Напісаць мэморыял аб беларускім пытаньні і перадаць яго паслам у Кіевя, а гэтак сама учыніць крокі дзеля пасылкі мэморыялаў антантскім дзержавам |

Старшыня Ант.Луцкевіч
Пісар Аўсянік
*582.2.04:017 — р*
*582.2.04:018 — ра*

**1066. Ліст Надзвычайнай Дэлегацыі Рады БНР (Кіеў) генэральнаму консулу БНР на Ўкраіне (Кіеў) за 11.10.1918 (вых. №7) у справе дапамогі ўдаве палкоўніка Страгановіча**
*582.2.09:052 — рк*

**1067. Ліст обэркватэрмайстра X Арміі Народнаму Сакратарыяту БНР за 11.10.1918 аб перасылцы паперы НС за 7.10.1918 (вых. №1630) Штабу III Рэзэрвовага Корпусу (увах. №634)**
*582.2.15:097r — рк рас*
*582.2.15:097 — ма ням*

**1068. Ліст грамадзянаў Радашкаўскай воласьці Вялейскага павету Віленскай губэрні Народнаму Сакратарыяту БНР за 11.10.1918 з скаргамі на акупацыйныя ўлады (увах. №621)**
*582.2.15:102&r*

**1069. Ліст Народнага Сакратарыяту БНР грамадзянам вёскі Часнакі Івянецкай воласьці Менскага павету Менскай губэрні за 11.10.1918 (вых. №1664) з абяцаньнем прыняць належныя захады дзеля высьвятленьня справаў аб злоўжываньнях нямецкіх уладаў у воласьці**
*582.2.15:096 — мк*

**1070. Ліст шэфа Генэральнага Штабу Ляндвэркорпусу Народнаму Сакратарыяту БНР за 26.10.1918 аб перасылцы паперы НС за 3.10.1918 (вых. №1581) 85-ай ляндвэрдывізіі (увах. №673)**
*582.2.15:125 — ра ням, рк рас*
*582.2.15:129 — канвэрт*

**1071. Ліст Народнага Сакратарыяту БНР Штабу X Арміі за 12.10.1918 (вых. №1684) з просьбай даць распараджэньне аб разглядзе скаргі сялянаў Івянецкай воласьці**
*582.2.15:101&r — рк*

**1072. Пратакол пятага сходу Надзвычайнай Дэлегацыі Рады БНР дзеля замежных перамоваў за 15.10.1918**

### Пяты сход надзвычайнай дэлегацыі дзеля замежных перагавораў

15 кастрычніка 1918 г.
м. Кіеў

Былі прысутнымі члены дэлегацыі:
п.п. Базарэвіч, Грыб, Смоліч і Капыстынскі
Старшыня п. Луцкевіч
Пісар А.Аўсянік

| Слухалі: | Пастанавілі: |
|---|---|
| 1. Справа аб перадачы дэкляpацый-пратэстаў паслам | 1. Даручыць выпаўненьня гэтае справы Генэральнаму Консулу |
| 2. Даклад новых членаў дэлегацыі аб палажэньні у Менску. | 2. Прыняць да ведама і прасіць Н.С., каб прыслалі копіі мандатаў ад тых організацый, якія увыйшлі у склад Рады і копіі двух апошніх сходаў папоўненай Рады[1]; прасіць Н.С., каб рэконструкцыю сэкрэтарыяту стрымаць да выясьненьня рэзультатаў перагавораў у Кіевя. |
| 3. Нота нямецкаму Ураду і падарожа у Бэрлін | 3. Рэдакцыя ноты прыймаецца з пажаданьням перадачы аналагічных нот дзержавам згоды; перадаць ноту нямецкаму паслу 17 г. кастрычніка; пры візьцця закрануць прынцыпіальна справу аб падарожы дэлегацыі у Бэрлін |
| 4. Устанаўленьня контакту з беларускай ваеннай арганізацыяй у Кіеве | 4. Пры абгаворах тых пытаньняў, на якіх можа быць карыснай ваенная арганізацыя, дэлегацыя будзя зносіцца з прэдстаўніком, яго арганізацыя павінна выбраць. |

Старшыня Ант.Луцкевіч
Пісар Аўсянік
*582.2.04:019 — р*
*582.2.04:020 — ра*

[1] Восеньская сэсія Рады БНР пачала сваю працу 6.10.1918.

**1073. Заява сяляніна вёскі Лашаны Заслаўскай воласьці Менскага павету Менскай губэрні Сьцяпана Палавога Народнаму Сакратарыяту БНР за 11.10.1918 з просьбай памагчы атрымаць кампэнсацыю за рэквізаваную цялушку (увах. №630)**
*582.2.15:105*

**1074. Пасьведчаньне Народнага Сакратарыяту БНР Язэпу Мамоньку за 15.10.1918 (вых. №1669) з упаважненьнем у справе вырабу**

**пячаткі й штампу Цэнтральнага Камітэту Беларускай Партыі Сацыялістаў-Рэвалюцыянэраў**
*582.2.23:001 — мк*

**1075. Ліст Бежанскай Камісіі пры Радзе БНР Народнаму Сакратарыяту БНР за 16.10.1918 з паведамленьнем аб плянах украінскіх уладаў спыніць працу Беларускай Бежанскай Камісіі ў Гомлі (увах. №637)**
*582.2.24:159*

**1076. Ліст Бежанскай Камісіі пры Радзе БНР Народнаму Сакратарыяту БНР за 16.10.1918 з паведамленьнем аб неабходнасьці ўтварэньня пры Нямецкім Консульстве ў Маскве Беларускай Бежанскай Камісіі (увах. №638)**
*582.2.24:162*

**1077. Ліст Бабруйскай Гарадзкой Управы Бабруйскай Павятовай Беларускай Радзе за 16.10.1918 у справе закрыцьця нямецкімі ўладамі маслабойных заводаў у Бабруйску**
*582.2.15:108&r — мк*

**1078. Ліст Бабруйскай Павятовай Беларускай Рады Народнаму Сакратарыяту БНР за 16.10.1918 у справе закрыцьця нямецкімі ўладамі маслабойных заводаў у Бабруйску (увах. №640)**
*582.2.15:109*

**1079. Ліст Народнага Сакратарыяту БНР Штабу X Арміі за 16.10.1918 (вых. №1690) з просьбай даць распараджэньне аб разглядзе заявы Сьцяпана Палавога**
*582.2.15:104&r — рк*

**1080. Пасьведчаньне Народнага Сакратарыяту БНР Аляксандру Галееўскаму за 16.10.1918 (вых. №1691) з даручэньнем арганізаваць Сеньніцкую Беларускую Валасную Раду Менскай губэрні й павету**
*582.2.23:004 — рк*

**1081. Дакладная запіска Беларускай Ваеннай Арганізацыі на Тэрыторыі Украіны ўкраінскім уладам у справе неадкладнага фармаваньня беларускіх вайсковых частак на тэрыторыі Украіны ва ўмовах наступу бальшавікоў на захад**
*582.2.09:016&r — мк*

**1082. Пасьведчаньне сябрам Беларускай Ваеннай Арганізацыі на Тэрыторыі Украіны Ўладзімеру Гаркавенку і Ўладзімеру Сушу, дэлегаваным у Менск дзеля перамоваў з Урадам БНР за 17.10.1918**
*582.2.09:017 — мк*

**1083. Ліст обэрkватэрмайстра X Арміі Народнаму Сакратарыяту БНР за 17.10.1918 аб перасылцы паперы НС за 12.10.1918 (вых. №1684) Штабу III Рэзэрвовага Корпусу (увах. №662)**

*582.2.15:100 — рк рас*
*582.2.15:100г — ра ням*

**1084. Заява ўладальніка друкарні на Губэрнатарскай вуліцы ў доме Шапіра №32 Якава Грынблата Народнаму Сакратарыяту БНР за 17.10.1918 у справе адключэньня нямецкімі ўладамі электрычнасьці на Губэрнатарскай вуліцы 17.10.1918 (увах. №642)**

*582.2.15:106*

Вынікі адключэньня: «...вслѣдствіе чего я не могу выполнять работы по печатанію: газеты Шляха, Вольной беларусі, сценичныя творы, Варта и др.».

**1085. Ліст Народнага Сакратарыяту БНР начальніку Штабу X Арміі за 17.10.1918 (вых. №1700)**

Въ отвѣтъ на Ваше сообщеніе отъ 23 сентября 1918 г. за №14181 народный Секретаріат сообщает, что пишущыя машины и канцелярское имущество, оставшіеся въ б. Губернаторскомъ домѣ, послѣ занятія такового Германскими военными властями 25 февраля с.г., пріобрѣтены на средства Секретаріата и составляют его неотъемлемую собственность.

Имѣя крайнюю нужду, въ особенности въ данное время, въ пишущихъ машинахъ и прочемъ канцелярскомъ имуществѣ, Народный Секретаріат проситъ въ спѣшномъ порядкѣ сдѣлать распоряженіе о возвратѣ этого имущества Секр-ту, для принятія каковаго будутъ командированы довѣренныя лица

*582.2.21:021&г — рк*

**1086. Нота Надзвычайнай Дэлегацыі Рады БНР (Кіеў) старшыні Нямецкага Райхстагу й Райхсканцлеру Нямеччыны (Бэрлін) за 18.10.1918**

П. Нямецкаму Імпэрскаму Канцлеру
П. Старшыні Нямецкага Рэйхстага

Правамочны прэдстаўнічы орган Беларускага Народу і ўсіх жыхароў Беларусі, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, атрымаўшая сваю ўладу ад Ўсебеларускага Конгрэссу, каторы адбываўся у сьнежні 1917 года у месьце Менску, абвясьціла актам 25 марца 1918 г. Беларусь Незалежнай Дзержавай, абнімаючай усю тэррыторыю разсяленьня Беларускага Народу, а ласьне: быўшыя расейскія губэрні Гродзенскую, Віленскую, Менскую, Вітэбскую, Магілеўскую і часьці Смаленскай, Чарнігаўскай, Сувалскай і другіх суседніх губэрняў.

Беларускі Урад сваечасна абвясьціў аб гэтым акця усе вялікія дзержавы, просючы іх прызнаць дзержаўную незалежнасьць Беларусі. Пачакаўшы, Рада звярнулася да вярхоунай ўлады Нямеччыны з прозьбай аб абароня беларускае дзержаўнасьці і аб падтрыманьні яе. На абодва гэтыя звароты ад Нямеччыны атрыманы быу атказ, гаворучы, што перашкодай

да прызнаньня незалежнасьці Беларусі з'яўляецца Берасьцейская умова паміж Нямеччынай і Расейскай Соцыялістычнай Савецкай Федэратыунай Рэспублікай, каторай Нямеччына абязалася не падтрымліваць новых дзержаўных твораў на тэрытрорыях быўшай Расеі.

На перадодні агульнага міру, калі ўжо апрацовываюцца асновы справедлівага і згоднага жыцьця народаў, перад Беларускай Дзержавай паўстае грозная небаспека. На усходзя усё яшчэ пануя анархія, заўсёды гатовая перакінуцца і ў межы Беларусі, прыносючы с сабой жахі крывавага тэррору і поўнага развалу дзержаўнага жыцьця. Беларусь, у каторай за час оккупацыі былі адабраны усе магчымасьці організавацца, у прыпадку атходу оккупацыйных войск застанецца сусім безпомачнай, бязсільнай устрымаць разруху і распаўсюджэньне анархіі. Алі калі анархія захопя Беларусь, гэтым ей безумоўна палегчыцца магчымасьць далейшага паходу на захад.

Трэба адзначыць, што Берасьцейская умова, звязаўшая Цэнтральныя Дзержавы у справя прызнаньня Незалежнасьці Беларусі, у даны момэнт можа лічыцца да канца утраціўшай сілу з прычыны прыняцьця ваюючымі старанамі прынцыпаў Вільсона.

Такім парадкам у даны момэнт прызнаньне Нямеччынай незалежнасьці Беларусі з'яўляецца вельмі своечасным і патрэбным. Яно дыктуецца ня толькі патрэбамі Беларусі, алі і патрэбамі самой Нямеччыны. Не кажучы ужо аб справедлівасьці, вымагаючай прызнаньня адбыўшагася самаадзначэньня Беларускага Народу, а гэтак сама аб моральнай адказнасьці Нямеччыны за далейшую долю Беларусі, якая цяпер находзіцца у яе руках, непрызнаньне Нямеччынай незалежнасьці Беларусі і выцекаючая адсюль патрэба вывада оккупацыйных войск з Беларусі будзя безумоўна мець вынікі, непамысныя для Нямеччыны і яе палітыкі на ўсходзя.

Дзеля гэтага Надзвычайная Дэлегацыя дзеля замежных перагавораў, зьвертаючыся па загаду свайго Ураду да Ўраду Нямецкае Імпэрыі у асобя Вашае Каралеўскае Высокасьці (да Нямецкага Народу у асобя Старшыні Нямецкага Рэйхстагу), прося прызнаць Дзержаўную Незалежнасьць Беларусі і даць магчымасьць Беларускаму Ураду здзейсьніць прыналежныя яму функцыі дзержаўнага будаўніцтва і упраўленьня, а разам з гэтым організаваць аружную сілу дзеля самаабароны.

Дэлегацыя спадзяецца, што памысная развязка гэтых пытаньняў паслужа асновай для прыязных адносін паміж абедзьвымі дзержавамі у будучыне.

Старшыня Антон Луцкевіч
Пісар Антон Аўсянік

18 кастрычніка 1918 г.
м. Кіеў
*582.2.09:041&r-042 — мк ням*
*582.2.09:059&r — мк рас*
*582.2.09:060&r — р бел*
*582.2.09:061&r — мк бел*
*582.2.09:062&r-063 — р рас*

**1087. Ліст Народнага Сакратарыяту БНР начальніку гораду Менску за 18.10.1918 (вых. №1705) з просьбай даць распараджэньне аб падачы электраэнэргіі друкарні Грынблата**
*582.2.15:107&r — рк*

**1088. Ліст консула БНР у Адэсе Сьцяпана Некрашэвіча (Адэса) старшыні Надзвычайнай Дэлегацыі Рады БНР Антону Луцкевічу (Кіеў) за 19.10.1918 з просьбай надзяліць яго паўнамоцтвамі для прадстаўленьняў органам Цэнтральных Дзяржаваў у Адэсе і аб фінансаваньні дзейнасьці Кансуляту**
*582.2.09:025 — ма*

**1089. Ліст обэрркватэрмайстра X Арміі Народнаму Сакратарыяту БНР за 19.10.1918 аб перасылцы паперы НС за 16.10.1918 (вых. №1690) Штабу III Рэзэрвовага Корпусу (увах. №657)**
*582.2.15:103r — рк рас*
*582.2.15:103 — ра ням*

**1090. Ліст Валасевіцкай валасной управы Барысаўскага павету Менскай губэрні Народнаму Сакратарыяту БНР за 21.10.1918 з скаргамі на акупацыйныя ўлады сялянаў вёскі Гараўкі (увах. №663)**
*582.2.15:113&r-114*

**1091. Ліст Валасевіцкай валасной управы Барысаўскага павету Менскай губэрні Народнаму Сакратарыяту БНР за 21.10.1918 з скаргамі на акупацыйныя ўлады сялянаў вёскі Дабрамысьлі (увах. №668)**
*582.2.15:118&r*

**1092. Ліст Валасевіцкай валасной управы Барысаўскага павету Менскай губэрні Народнаму Сакратарыяту БНР за 21.10.1918 з скаргамі на акупацыйныя ўлады сялянаў вёскі Залесьсе (увах. №669)**
*582.2.15:119&r,122*

**1093. Пасьведчаньне Народнага Сакратарыяту БНР Юльяну Лагуну за 21.10.1918 (вых. №1715) у тым, што ён зьяўляецца загадчыкам гаспадаркі Народнага Сакратарыяту БНР**
*582.2.25:007 — мк*

**1094. Ліст Народнага Сакратарыяту БНР Штабу X Арміі за 21.10.1918 (вых. №1716) з просьбай даць распараджэньне аб разглядзе справы з закрыцьцём маслабойных заводаў у Бабруйску**
*582.2.15:115&r — рк*

**1095. Зварот Рады Беларускай Народнай Рэспублікі да прэзыдэнта Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатаў, да ваюючых і Цэнтральных Дзяржаваў за 22.10.1918**

ОБРАЩЕНІЕ КЪ ПРЕЗИДЕНТУ СѢВЕРО-АМЕРИКАНСКИХЪ СОЕДИНЕННЫХЪ ШТАТОВЪ. ВОЮЮЩИМЪ И ЦЕНТРАЛЬНЫМЪ ДЕРЖАВАМЪ.

Рада Бѣлорусской Народной Республики, состоящая изъ избранниковъ ВСЕБѢЛОРУССКАГО СЪѢЗДА, а также изъ представителей національныхъ, общественныхъ и политическихъ группъ, является до созыва Бѣлорусскаго Сейма единственнымъ высшимъ Законодательнымъ и Административнымъ Органомъ, выражающимъ волю Бѣлорусскаго народа и другихъ народностей, населяющихъ Бѣлоруссію.

Въ тяжкій моментъ жизни довѣрившаго ей власть Края Рада въ сознаніи лежащей на ней отвѣтственности за судьбы Родины обращается къ Демократіямъ Міра.

Краю нашему, уже разоренному войной и гражданской междоусобицей, грозитъ еще въ случаѣ ухода Германскихъ войскъ неминуемое вторженіе анархическихъ элементовъ и пробужденіе анархическихъ настроеній въ народныхъ массахъ, а съ этимъ уничтоженіе остатковъ народнаго достоянія и культуры.

Изъ Бѣлоруссіи волна разрушенія грозитъ перекинуться на Западъ и усилить и тамъ бѣдствіе мировой войны.

Во имя культуры и человѣчности, во имя началъ гуманности, превозглашенныхъ господиномъ Президентомъ Сѣверо-Американскихъ Соединенныхъ Штатовъ Рада Бѣлорусской Народной Республики проситъ спасти беззащитную Бѣлоруссію отъ разгрома и въ этихъ цѣляхъ нынѣ же до отхода оккупаціонной арміи обезпечить ей внѣшнюю неприкосновенность признаніемъ Ея самостоятельности и Независимости и внутреннюю безопасность передачей въ руки Рады Гражданскаго Управленія Краемъ.

Дабы Рада могла выполнить лежащую на ней задачу умиротворенія Края необходимо одновременно съ передачей ей Гражданскаго Управленія возстановить дѣйствія Конституціонной гарантій публичной и частной жизни.

Старшыня Рады [Лесикъ], Намесьникъ [Смоличъ] Секретарь [Кречевскій]

*582.2.09:018 — мк*
*582.2.36:048 — мк*

**1096. Паведамленьне Канцылярыі НС Аддзелу Грашовых Справаў НС за 2?.10.1918 (вых. №1723) аб павелічэньні пэнсіі машыністцы НС Лідзіі Салавей**

*582.1.03:021*

**1097. Хадайніцтва Канцылярыі НС перад старшынёй Беларускай Гандлёвай Палаты ў Кіеве праф. Мітрафанам Доўнар-Запольскім за 23.10.1918 (вых. №1726) з просьбаю па меры магчымасьці выдаць грошы**

*582.1.03:020&r*

**1098. Даручэньне НС старшыні Беларускай Надзвычайнай Дэлегацыі ў Кіеве Антону Луцкевічу за 23.10.1918 (вых. №1727) атрымаць ад Гандлёвай Палаты грошы**

*582.1.03:019&r — мк*
*582.2.09:022 — ма*

**1099. Паведамленьне Канцылярыі НС Аддзелу Грашовых Справаў НС за 23.10.1918 (вых. №1728) аб пастанове НС за 22.10.1918**

*582.1.03:018&r*

**1100. Ліст Народнага Сакратарыяту БНР (Менск) старшыні Беларускай Надзвычайнай Дэлегацыі ў Кіеве Антону Луцкевічу за 23.10.1918 (вых. №1730)**

БЕЛАРУСКАЯ
НАРОДНАЯ
РЭСПУБЛІКА
НАРОДНЫ СЭКРЭТАРЫЯТ
23 Кастрычніка 1918 г.
№1730
Место Менск.

Старшыні Надзвычайнай Беларускай
Дэлегацыі у Кіеві п. Антону Луцкевічу.

Гэтым даводзіцца да Вашага ведама, што, у зьвязку з пастановай папоўнянай Рады аб пасылцэ дэлегацыі у Бэрлін, Народным Сэкрэтарыятам даручана члену гэтай дэлегацыі п. Канстантыну Савічу, едучаму праз Кіеў у Бэрлін, пазнаеміцца на мейсцы у Кіеві аб узаемных адносінах Беларусі і Украіны, у чым просімо п. Савічу і дапамагчы.-

Старшыня Народнаго Сэкрэтарыяту
і Народны Сэкрэтар Міжнарадовых Справау
Середа

Народны Сэкрэтар — Загадчык
Справау Народнаго Сэкрэтарыяту
ЛЗаяц

*582.2.09:024 — ма*

**1101. Даручэньне НС старшыні Беларускай Надзвычайнай Дэлегацыі ў Кіеве Антону Луцкевічу за 23.10.1918 (вых. №1733) атрымаць ад Гандлёвай Палаты грошы**

*582.1.03:017&r — мк*
*582.2.09:023 — ма*

**1102. Хадайніцтва Канцылярыі НС перад Беларускай Гандлёвай Палатай на тэрыторыі Ўкраіны за 23.10.1918 (вых. №1734) з просьбай перадаць Народнаму Сакратарыяту належныя грошы**

*582.1.03:016&r*

**1103. Ліст Народнага Сакратарыяту БНР (Менск) старшыні Надзвычайнай Дэлегацыі Рады БНР Антону Луцкевічу (Кіеў) (вых. №1736) за 24.10.1918 зь перасланымі копіямі дакладных запісак Беларускай Ваеннай Арганізацыі на Тэрыторыі Ўкраіны**

*582.2.09:015 — ма*

**1104. Хадайніцтва Канцылярыі НС перад Прэзыдыюмам Рады БНР за 24.10.1918 (вых. №1737) з просьбай вярнуць грошы, асыгнаваныя на ўтрыманьне дэлегацыі БНР у Кіеве**

*582.1.03:015*

**1105. Ліст Народнага Сакратарыяту БНР грамадзянам вёскі Гараўкі Валасевіцкай воласьці Барысаўскага павету Менскай губэрні за 25.10.1918 (вых. №1753) з абяцаньнем прыняць належныя захады дзеля высьвятленьня справаў аб злоўжываньнях нямецкіх уладаў у воласьці**

*582.2.15:110 — мк*

**1106. Пасьведчаньне Рады Беларускае Народнае Рэспублікі Янку Станкевічу, сябру дэлегацыі для перамоваў зь Літоўскай Тарыбай, за 25.10.1918 (вых. №1762)**

РАДА
БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ
РЭСПУБЛІКІ
25 Кастрычніка 1918 року
№1762
МЕНСК

ПАСЬВЕДЧЭНЬНЕ

Паказчык гэтаго, Член Рады Беларускае Народнае Рэспублікі Іван Станкевіч, згодна з пастановай Рады за 22 кастрычніка 1918 р., абраны Членам Дэлегацыі да Літоўскай Тарыбы дзеля перадачы пастановы Рады Б.Н.Р. за 20 кастрычніка 1918 р. і упаважнены суместна з усей Дэлегацыей вясьці перэгаворы па пытаннях, якія з вышэй памяненай пастановы выцекаюць, а так сама — уступаць ад імені Рады Беларускае Народнае Рэспублікі у папярэднія умовы, якія атрымаць імуць моц, па зацьверджэнні іх Радай Б.Н.Р., што подпісам і прыкладам печаткі сьведчымо.-

Маршалак Рады Я.Лёсік
Намесьнік А.Уласаў
Сэкрэтар Крэчэўскі

*582.2.05:005-006 — ма*

**1107. Паведамленьне Канцылярыі НС Аддзелу Грашовых Справаў НС за 25.10.1918 (вых. №1773) аб павелічэньні пэнсіі вартаўніку пры НС Зянону Валіцкаму**

*582.1.03:014*

**1108. Ліст Народнага Сакратарыяту БНР Штабу X Арміі за 25.10.1918 (вых. №1775) з просьбай даць распараджэньне аб разглядзе скаргі сялянаў вёскі Гараўкі Валасевіцкай воласьці**
*582.2.15:112&r — рк*

**1109. Ліст Народнага Сакратарыяту БНР грамадзянам вёскі Дабрамысьлі Валасевіцкай воласьці Барысаўскага павету Менскай губэрні за 26.10.1918 (вых. №1776) з абяцаньнем прыняць належныя захады дзеля высьвятленьня справаў аб злоўжываньнях нямецкіх уладаў у воласьці**
*582.2.15:116 — мк*

**1110. Ліст обэркватэрмайстра X Арміі Народнаму Сакратарыяту БНР за 26.10.1918 аб перасылцы паперы НС за 25.10.1918 (вых. №1775) Штабу III Рэзэрвовага Корпусу (увах. №671)**
*582.2.15:111 — ра ням, рк рас*

**1111. Ліст Народнага Сакратарыяту БНР грамадзянам вёскі Залесьсе Валасевіцкай воласьці Барысаўскага павету Менскай губэрні за 26.10.1918 (вых. №1777) з абяцаньнем прыняць належныя захады дзеля высьвятленьня справаў аб злоўжываньнях нямецкіх уладаў у воласьці**
*582.2.15:117 — мк*

**1112. Ліст Народнага Сакратарыяту БНР Штабу X Арміі за 26.10.1918 (вых. №1780) з просьбай даць распараджэньне аб разглядзе скаргі сялянаў вёскі Залесьсе Валасевіцкай воласьці**
*582.2.15:120&r — рк*

**1113. Ліст Народнага Сакратарыяту БНР Штабу X Арміі за 26.10.1918 (вых. №1781) з просьбай даць распараджэньне аб разглядзе скаргі сялянаў вёскі Дабрамысьлі Валасевіцкай воласьці**
*582.2.15:121&r — рк*

**1114. Ліст Народнага Сакратарыяту БНР Бежанскай Камісіі пры Радзе БНР за 26.10.1918 (вых. №1786) з паведамленьнем аб прызначэньні асобаўпаўнаважаных у бежанскіх справах на правох консулаў — Пятра Мінкова (Горадзеншчына) і Яўгена Хлябцэвіча (Сызрань)**
*582.2.24:160 — мк*

**1115. Ліст старшыні Магілеўскай Беларускай Рады Міхася Кахановіча (Менск) Народнаму Сакратарыяту БНР (Менск) за 27.10.1918 з прапановай стварыць Лігу нацыяў народаў былой Расейскай імпэрыі дзеля супольных выступленьняў на міжнародных форумах**
*582.2.09:039&r-040*

**1116. Заява ўладальніка хутару Юльянава Парфенаўскай воласьці Вялейскага павету Віленскай губэрні Адама Грыневіча Народнаму Сакратарыяту БНР за 27.10.1918 у справе забраньня ў яго нямецкімі ўладамі каровы, цэнтрыфугі й маслабойкі (увах. №672)**

*582.2.15:124*

Заяву падаў «... па даверанасьці сын В.Грыневіч».

**1117. Ліст Беларускага Камітэту Дапамогі пацярпелым ад вайны (Адэса) старшыні Надзвычайнай Дэлегацыі Рады БНР Антону Луцкевічу (Кіеў) за 28.10.1918 з просьбай аб матэрыяльнай дапамозе**

*582.2.09:014 — ма*

**1118. Статут Таварыства Беларусаў гораду Навачэркаску**[1]

*582.2.23:002&r-003 — ма*

Дата невядомая. На дакумэнце рэзалюцыя: «Прыняць да ведама. 28/X. Л.З[аяц]».

[1] Новачэркаск — сталіца Вобласьці Войска Данскога.

**1119. Ліст Беларускага Культурна-Прасьветнага Таварыства «Бацькаўшчына» Народнаму Сакратарыяту БНР за 28.10.1918 з паведамленьнем аб немагчымасьці прыняць перададзеную ў часовае карыстаньне друкарню дзеля друкарскага крызысу ў Менску (увах. №677)**

*582.2.25:010*

За подпісам старшыні таварыства К.Езавітава. Ліст напісаны па-расейску. Папера аб перадачы друкарні была пасланая ў т-ва «Бацькаўшчына» 13.09.1918 (вых. №1448).

**1120. Паведамленьне Канцылярыі НС Аддзелу Грашовых Справаў НС за 29.10.1918 (вых. №1784) аб пастанове НС за 26.10.1918 у справе звальненьня Аляксандра Цьвікевіча з пасады старшыні Надзвычайнай Беларускай Місіі ў Маскве з 1.09.1918**

*582.1.03:013&r*

Абставіны невядомыя.

**1121. Ліст Народнага Сакратарыяту БНР Бежанскай Камісіі пры Радзе БНР за 29.10.1918 (вых. №1787) з паведамленьнем аб пастанове НС за 26.10.1918 у справе ўтварэньня Беларускай Бежанскай Камісіі пры Нямецкім Консульстве ў Маскве й камандыраваньні туды Вацлава Вэбэра**

*582.2.24:161 — мк*

**1122. Ліст Народнага Сакратарыяту БНР Штабу X Арміі за 29.10.1918 (вых. №1788) з просьбай даць распараджэньне аб разглядзе скаргі гаспадара хутара Юльянава Адама Грыневіча**

*582.2.15:123&r — рк*

**1123. Ліст Народнага Сакратарыяту Фінансаў БНР Менскаму Казначэйству за 31.10.1918 аб адмове нямецкіх уладаў вярнуць грошы Казначэйства, канфіскаваныя 25.02.1918**

*582.2.21:019&r — рк*

**1124. Паведамленьне Канцылярыі НС Аддзелу Грашовых Справаў НС за 31.10.1918 (вых. №1791) аб пастанове НС за 29.10.1918 у фінансавых справах**

*582.1.03:012&r*

**1125. Рэгістрацыйны журнал беларусаў-вайскоўцаў (?)**

*582.2.17:001&r-012&r*

---

Дата невядомая. Дакумэнт уяўляе сабою канторскую кнігу, на тытульным аркушы якой падпісана:

«Каталог пьес Русских, Беларусских.
Отдѣлъ I.
Театр. Библіот. С.А.Иванова
г. Минск
1918 г.»

**1125а. [Рэгістрацыйны журнал беларусаў-вайскоўцаў (?)]**

№№ по порядку ....... 35.
Чин или званіе ....... Поручик
Національность ....... Бѣл.
Имя, Отчество и Фамилія ....... Франц Викентьевич Кушель
Возраст ....... 23
Род оружія .......пѣх.
Адрес .......фольв. Забарос Вилен. губ., Вилен. уѣзда
Примѣчаніе ....... Гр. уч. зав.

**1126. Ліст грамадзянаў вёскі Крывок Красналуцкай воласьці Барысаўскага павету Менскай губэрні Народнаму Сакратарыяту БНР за 1.11.1918 з скаргамі на акупацыйныя ўлады (увах. №676)**

*582.2.15:128*

**1127. Ліст Народнага Сакратарыяту БНР грамадзянам вёскі Крывок Красналуцкай воласьці Барысаўскага павету Менскай губэрні за 1.11.1918 (вых. №1802) з абяцаньнем прыняць належныя захады дзеля высьвятленьня справаў аб злоўжываньнях нямецкіх уладаў у воласьці**

*582.2.15:126 — мк*

**1128. Ліст Надзвычайнай Дэлегацыі Рады БНР (Кіеў) міністру ўнутраных справаў Украіны Фёдару Лізагубу (Кіеў) за 2.11.1918 (вых. №12) з просьбай аб дапамозе беларускім бежанскім камітэтам на Ўкраіне**

*582.2.09:053 — мк*

**1129. Ліст Ратамскай Беларускай Рады Народнаму Сакратарыяту БНР за 2.11.1918 з паведамленьнем аб адпраўцы кс. М.Русецкім апошніх літоўскіх бежанцаў з Ратамкі на бацькаўшчыну 2.07.1918 (увах. №680)**

*582.2.24:157*

---

Падпісалі: старшыня Рады Я.Філановіч, за сакратара сябар Рады А.Жывіца

**1130. Ліст Народнага Сакратарыяту БНР Штабу X Арміі за 2.11.1918 (вых. №1810) з просьбай даць распараджэньне аб разглядзе скаргі сялянаў вёскі Крывок Красналуцкай воласьці**

*582.2.15:127&r — рк*

**1131. Пратакол шостага сходу Надзвычайнай Дэлегацыі Рады БНР дзеля замежных перамоваў за 4.11.1918**

Шосты сход надзвычайнай дэлегацыі дзеля замежных перагавораў

4.XI.18 г.
м. Кіеў

Былі прысутнымі члены дэлегацыі:
п.п. Базарэвіч і Капыстынскі
Старшыня п. Луцкевіч
Пісар А.Аўсянік

| Слухалі: | Пастанавілі: |
|---|---|
| 1. Справаздача з усяго зробленага за ўвесь час у Кіевя і нота да Міністэрства Закардонных спраў аб тым, што дэлегацыя перапыняя сваю працу у Кіевя і выежджая у Менск дзеля дакладу аб сваей працы Ураду | 1. Рэдакцыя ноты прыймаецца і чынасьць дэлегацыі часова перапыняецца дзеля чаго выежджая у Менск старшыня дэлегацыі і пісар. |
| 2. Аб новых мандатах | 2. З прычыны новых політычных варункоў прасіць сэкрэтарыят выдаць новыя мандаты таму самаму складу з ўключэньням п. Александра Матв. Матвеева |

Старшыня Ант.Луцкевіч
Пісар Аўсянік
*582.2.04:021 — р*
*582.2.04:022 — ра*

**1132. Нота Надзвычайнай Дэлегацыі Рады БНР міністру замежных справаў Украінскай Дзяржавы за 5.11.1918**

Пану Міністру Закордонных Спраў Украінскай Дзяржавы.

Надзвычайная Беларуская Дэлегацыя, прыехаўшая у Кіеу 19.IX.1918. па загаду Беларускага Ураду, аддала п. Міністру Закордонных Спраў[1] свае

паунамоцтвы і, выясьніушы у цэлым радзе нарад з прадстаунікамі Міністэрства сваю місію, прасіла Украінскі Урад аб афіцыяльным прызнаньні незалежнасьці Беларускае Дзяржавы і аб помачы ей дзеля умацаваньня дзяржаунасьці і стварэньня аружнае сілы для самаабароны. У адказ на гэта Дэлегацыі было заяулено, што Украінскі Урад гатоу пайсьці насустрэч жаданьням Беларусі як у памянутых вышэй пытаньнях, так і у справе звароту занятых Украінай палудзенных беларускіх паветау.

9.X. Дэлегацыя была прынята панам ГЭТМАНАМ, каторы, выслухаушы справу, заверыу Дэлегацыю аб сваей прыхільнасьці і, пацьвярджаючы фактычнае прызнаньне Украінскім Урадам незалежнасьці Беларускае Дзяржавы, абяцауся учыніць крокі дзеля хутчэйшага разгляду і разьвязкі Радай Міністрау справы офіцыяльнага прызнаньня беларускае незалежнасьці.

11.X. Дэлегацыя падала п. Міністру Закордонных Спрау просьбу на пісьме, каб беларускае пытаньне было у тэрміновым парадку паднята у Радзе Міністрау. У канцы мінулага месяца яна йшчэ раз зьвярнулася да Міністэрства Закордонных Спраў і ўрэшці была у п. Старшыні Рады Міністраў[2], выясьняючы сьпешнасьць сваей справы.

Ня гледзячы на гэта, справа Беларусі у Радзе Міністрау дагэтуль не разгледалася. А за гэты час Савецкая Расея окупіравала новую паласу Беларускае Зямлі з местам Магілевым[3], і ў бліжэйшай будучыні будуць зруйнаваны новыя абшары.

Дэлегацыя заяуляе, што кожын далейшы дзень зацяжкі, стауляючы Беларусь перад фактам окупацыі Савецкай Рэспублікай усе новых і новых абшарау Беларусі, абязцэнівае эвэнтуальную помач Беларусам са староны Украінскае дзяржавы, каторая можа аказаца спозьненай, і адклад разьвязкі Радай Міністрау пытаньня аб прызнаньні незалежнасьці Беларусі і аб помачы ей можэ вытварыць палажэньне, роуна грознае як для Беларусі, так і для Украіны. Зьвертаючы на гэта увагу Украінскага Ураду, Дэлегацыя яшчэ раз просіць ускорыць разгляд Радай Міністрау закранутых Дэлегацыей пытаньняу і, лічучы сваю далейшую бытнасьць у Кіеве да аканчацельнай разьвязкі справы бязплоднай, прыпыняе сваю работу і варочаецца у Менск дзеля справаздачы свайму Ураду і атрыманьня далейшых інструкцый.

Дэлегацыя просіць Украінскі Урад даць офіцыяльны адказ Рады Міністрау безпасрэдна Народнаму Сэкрэтарыяту у Менску.

*582.2.09:020&r — мк бел*
*582.2.09:021&r — рк рас*

---

[1] Зьм.Дарашэнкам. [2] Ф.Лізагубам. [3] Згодна з дадатковай расейска-нямецкай дамовай за 27.08.1918 да пачатку лістападу бальшавіцкія войскі часткова занялі Аршанскі, Лепельскі, Магілеўскі, Полацкі й Сеньненскі паветы.

**1133. Паведамленьне Канцылярыі НС Народнаму Сакратарыяту Фінансаў (вых. №1815) і Народнаму Сакратарыяту Кантролю (вых. №1816) за 6.11.1918 аб пастанове НС за 5.11.1918 у справе выпуску Урадавай Беларускай Лятарэі**

*582.1.03:011*

**1134. Справаздача Канцылярыі НС ў Аддзел Грашовых Справаў НС за 7.11.1918 за купленыя рэчы**

*582.1.03:022*

**1135. Пасьведчаньне Народнага Сакратарыяту БНР кс. М.Русецкаму за 7.11.1918 (вых. №1722) у тым, што апошнія бежанцы літоўцы былі адасланыя ім на бацькаўшчыну з Ратамкі 2.07.1918**

*582.2.24:158 — рк*

**1136. Хроніка для газэт. Лістапад 1918**

ЕДИНАЯ ВЛАСТЬ ВЪ ЛИТВѢ.

Виленская Бѣлорусская Рада объявила себя органомъ равноправнымъ съ Литовской Тарибой въ раіонѣ такъ называемой первой оккупаціи или новосозданной Литвѣ[1]. Такое рѣшеніе Виленской Бѣлорусской Рады, имѣющее подъ собою законное основаніе (такъ какъ Виленская Бѣлорусская Рада является органомъ избраннымъ на бѣлорусской конференціи въ январѣ этого года, а Литовская Тариба органомъ назначеннымъ), слѣдуетъ привѣтствовать. Во всякомъ случаѣ это дастъ возможность сговориться о единой власти въ Литвѣ.

ВОЗВРАЩЕНІЕ БѢЛОРУССКИХЪ ДЕЛЕГАЦІЙ.

Всѣ чрезвычайныя делегаціи Рады Бѣлорусской Народной Республики, а также делегаціи Народнаго Секретаріата, посылавшіяся въ Германію, въ Польшу, въ Литву, на Украину возвратились въ Минскъ, за исключеніемъ Швейцарской делегаціи, возвращеніе которой ждутъ со дня на день[2]. Матеріалы, добытые делегаціями, подвинули бѣлорусское дѣло значительно впередъ, а сговоръ съ демократіями сосѣднихъ державъ дастъ возможность Радѣ Бѣлорусской Народной Республики въ ближайшее время провести въ жизнь всѣ постановленія Перваго Всебѣлорусскаго Съѣзда.

РАДА И НѢМЕЦКІЙ СОЛДАТСКІЙ СОВѢТЪ.

Представители соціалистическихъ фракцій Рады Бѣлорусской Народной Республики вошли въ соглашеніе съ Нѣмецкой Солдатской Радой и ведутъ переговоры по всѣмъ вопросамъ текущаго момента. Главнымъ вопросомъ здѣсь является передача въ руки Рады Республики всей полноты гражданской власти. Этотъ кореной вопросъ будетъ разрѣшенъ въ ближайшіе дни и Рада Бѣлорусской Народной Республики, фактически ставшая очень энергично проводить политику Рады 1-го Всебѣлорусскаго Съѣзда, осуществитъ чаянія бѣлорусской демократіи, бѣлорусскаго крестьянства и трудящихся массъ.

СОЦІАЛИСТЫ ВЪ РАДѢ РЕСПУБЛИКИ.

Соціалистическія фракціи Рады Бѣлорусской Народной Республики взяли верхъ. Болѣе умѣренныя фракціи подчинились этому большинству Рады, состоящему из Рады 1-го Всебѣлорусскаго Съѣзда. Возможно, что нѣкоторыя консервативныя группы, несогласныя съ политикой соціалистовъ, покинутъ Раду. Это будетъ во всякомъ случаѣ Радѣ не во

вредъ. Такое явленіе даетъ возможность тѣмъ соціалистическимъ партіямъ не бѣлорусскимъ, которыя представлены въ Минскѣ и которыя въ свое время вышли изъ Рады по принципіальнымъ соображеніямъ, — вновь войти въ Раду. Если это случится въ ближайшіе дни, то будетъ предотвращены всякія возможныя недоразумѣнія и государственное дѣло Бѣлорусской Народной Республики будетъ поставлено на твердый фундаментъ. Хорошо было бы чтобы внѣ сценъ Рады не оставалось ни одной соціалистической партіи и чтобы всѣ онѣ шли единымъ фронтомъ вмѣстѣ съ бѣлорусскими соціалистами, которые вотъ уже сколько лѣтъ несутъ на себѣ тяжелый крестъ борьбы за права трудового бѣлорусскаго народа и за самоопредѣленіе Бѣлоруссіи.

ГОДОВЩИНА I-ГО ВСЕБѢЛОРУССКАГО СЪѢЗДА.

Приближается великая годовщина въ исторіи Бѣлорусскаго Національнаго Движенія. Не за горами 5-ое Декабря — день открытія I-го Всебѣлорусскаго Съѣзда бѣлорусскихъ крестьянъ, рабочихъ, солдатъ, представителей трудовыхъ массъ и совѣсти бѣлорусскаго народа бѣлорусской интеллигенціи. Этотъ день запечатленъ въ душахъ бѣлоруссовъ, какъ день духовнаго обновленія бѣлорусскаго народа, какъ день, въ который Бѣлорусское Національное Движеніе достигло наивысшаго своего развитія и дало возможность бѣлоруссамъ заговорить о своей государственности, о завершеніи тяжелаго труда, огромной борьбы за самоопредѣленіе. Минчанамъ памятны эти славные дни съ 5-го по 17-ое Декабря стараго стиля 1917 года, когда Минскъ былъ наполненъ толпами бѣлорусскихъ депутатовъ съ котомками за плечами, въ бѣлыхъ и желтыхъ овчинныхъ полушубкахъ, въ лыковыхъ лаптяхъ, бродившихъ изъ дома Рады и зданія театра или въ Національный Домъ и съ необычайнымъ усердіемъ и вѣрою творившихъ святое народное дѣло. Эти двѣ тысячи депутатовъ I-го Всебѣлорусскаго Съѣзда, которые наполнили всѣ помѣщенія Съѣзда — явились истинными представителями бѣлорусскаго народа и дѣло совершенное имъ не умерло до сихъ поръ и живетъ въ единственной представительницѣ Бѣлоруссіи Радѣ Бѣлорусской Народной Республики, главное ядро которое составляетъ славная Рада I-го Всебѣлорусскаго Съѣзда. Всѣмъ извѣстно въ какихъ условіяхъ работалъ I-ый Всебѣлорусскій Съѣздъ, всѣ знаютъ также о тѣхъ страданіяхъ, какія перенесла за все время своего существованія, признанная всѣми Рада I-го Всебѣлорусскаго Съѣзда. До настоящихъ дней она не утратила ни единаго жеста въ своемъ демократическомъ бѣлорусскомъ національномъ обликѣ, несмотря на неблагопріятныя условія для ея существованія и работы. Годовщина I-го Всебѣлорусскаго Съѣзда явится для бѣлоруссовъ національнымъ праздникомъ, отпраздновать который придутъ не только бѣлоруссы, но и всѣ тѣ національныя меньшинства Бѣлоруссіи, которые готовы поддержать и выступить на защиту и оборону правъ Рады I-го Всебѣлорусскаго Съѣзда. Грядущая годовщина явится быть можетъ не только національнымъ праздникомъ платонически, но быть можетъ и на дѣлѣ дастъ возможность бѣлоруссамъ — Радѣ Бѣлорусской Народной Республики и Совѣту Народныхъ Министровъ Бѣлоруссіи осуществить завѣты Бѣлорусскаго Народа. Это тѣмъ болѣе возможно, что энергія и неустаная организованная

**ноўчы Сойм, 2) далучэньня Аўгустоўскага павету да Польшчы й 3) абвяшчэньня ўсеагульнай мабілізацыі ў Вільні**

Дипломатическимъ представителямъ
Америки, Англіи, Франціи и Италіи въ Спаа.

Бѣлорусскій народъ, достигающій своею численностью свыше 12 милліоновъ и занимающій пространство бывшихъ русскихъ губерній: Виленской, Гродненской, Минской, Витебской, Могилевской, части Смоленской, Черниговской, Сувалкской и др., въ теченіе свыше ста лѣтъ находился подъ властью Россіи, подъ которую попалъ вмѣстѣ съ предательски поработившей его Польшей, съ которою находился въ добровольной государственной уніи.

Война и революція въ Россіи способствовали освобожденію бѣлоруссовъ, которые, возрождаясь національно, приступили къ возстановленію и своихъ суверенныхъ правъ, объявивъ на всебѣлорусскомъ національномъ конгрессѣ въ декабрѣ 1917 года о созданіи Бѣлорусской Народной Республики, начали дѣло независимаго государственнаго строительства, олицетворяемаго Радой Республики и Совѣтомъ Народныхъ Министровъ.

Нѣмецкая оккупація лишила бѣлорусское правительство возможности создать необходимую вооруженную силу для отстаиванія неприкосновенности своей территоріи. Въ результатѣ этого и опираясь на Брестскій договоръ съ Германіей, Украинская держава захватила 10 бѣлорусскихъ уѣздовъ Гродненской, Минской и Черниговской губерній; затѣмъ, съ уходомъ нѣмцевъ, Россійская совѣтская республика оккупировала всю восточную Бѣлоруссію, а сейчасъ польское правительство предпринимаетъ шаги къ захвату западной части Бѣлоруссіи — губерній Виленской и Гродненской съ безусловно господствующимъ бѣлорусскимъ населеніемъ, что установлено какъ официіальной статистикой, такъ и научными изслѣдованіями до-военнаго времени, свободными отъ всякой тенденціозности.

Свои аннексіонистскіе притязанія Польша основываетъ на томъ фактѣ, что въ названныхъ бѣлорусскихъ губерніяхъ съ чисто бѣлорусскими народными массами имѣется польскій помѣщичій классъ и нѣкоторая часть польскаго мѣщанства въ крупнѣйшихъ городахъ, въ которыхъ поляки однако не составляютъ ни абсолютнаго, ни относительнаго большинства. Ради интересовъ этой немногочисленной группы польскаго населенія Польша перешла къ активымъ дѣйствіямъ по аннексіи бѣлорусскихъ земель. Такъ въ чисто бѣлорускихъ уѣздахъ, Бѣлостокскомъ и Бѣльскомъ Гродненской губерніи, польское правительство назначило выборы въ польское учредительное собраніе, бѣлорусскій Августовскій уѣздъ Сувалкской губерніи правительственнымъ декретомъ объявленъ включеннымъ въ составъ Польши, наконецъ въ Вильнѣ, приказомъ отъ 31 декабря 1918 года, польское командованіе объявило всеобщую мобилизацію мужского населенія всѣхъ національностей — поляковъ, литовцевъ, бѣлоруссовъ и евреевъ отъ 17 лѣтъ.

Совѣтъ Министровъ Бѣлорусской Народной Республики, усматривая въ этомъ нарушеніе суверенныхъ правъ бѣлорусскаго народа, и посягательство на цѣлость и независимость Бѣлоруссіи, послалъ ноты протеста

польскому правительству 14 декабря 1918 года и 2 и 3 января 1919 года. Однако, не имѣя достаточной вооруженной силы для поддержанія своихъ дипломатическихъ выступленій и отраженія вражескихъ войскъ, Совѣтъ Министровъ считаетъ необходимымъ обратиться къ защитѣ великихъ державъ — Америки, Англіи, Франціи и Италіи и проситъ ихъ принять подъ свою защиту отъ растерзанія сосѣдями территоріи Бѣлорусской Народной Республики.

Гродно, 3 января 1919 года.

Предсѣдатель Совѣта Министров Бѣлорусской Народной Республики и Министр Иностранных Дѣл А.Луцкевич; За управляющаго дѣлами В.Захарко

*582.1.15:158-159 — мк рас*
*582.2.13:002r-003&r — мк рас*
*582.2.38:051&r,054 — рк фра*
*582.2.38:052&r — мк фра*
*582.1.45:031a&r-031b&r — рк фра нял*

[1] У мястэчку Спаа ў Бэльгіі ў тым часе мясьцілася Вярхоўнае Галоўнакамандаваньне саюзных войскаў.

**1163. Нота пратэсту Рады Міністраў БНР (Горадня) за 3.01.1919 (вых. №1965), дасланая Імпэрскаму Ураду Нямеччыны ў справе 1) выбараў у Польскі Ўстаноўчы Сойм, 2) далучэньня Аўгустоўскага павету да Польшчы й 3) абвяшчэньня ўсеагульнай мабілізацыі ў Вільні**
*582.2.38:049&r — мк нял*

Зьмест ноты аналягічны з папярэдняй.

**1164. Bulletin Nr.15 de l'Agence Telegraphique Ukrainienne. Kiev. 3.01.1919**
*582.2.44:016-019 — шк*

**1165. Выпіскі з загадаў Літоўскага Ўраду за 15.01.1919 у справе захаваньня дзяржаўнай маёмасьці Літоўскай Рэспублікі**
*582.2.36:050 —рк*

**1166. Грамата Міністэрства Беларускіх Справаў Часовага Літоўскага Ўраду за 20.01.1919 (Горадня)**

Часовы Літоускі Урад
Міністэрства Беларускіх Спрау

ГРАМАТА

Імянем Часоваго Літоускаго Ураду у пацьверджэньне раней выданых актоу і да агульнаго ведама апавещаю.

1. Городзенскі, Сакольскі, Беластоцкі, Бельскі, Воукавыскі, Белавежскі і Слонімскі паветы старой Городзенскай губэрніі, а так сама Аугустоускі павет старой Сувалскай губэрніі і Лідскі павет старой Віленскай губэрніі з'яуляюцца часткамі Літоускай Дзержавы і ніяк не падлегаюць упрауленьню Польскаго Ураду.

2. Усе памяненыя у п. 1 паветы падлегаюць у агульным упрауленьні установам Міністэрстваў Літоускаго Ураду у м. Коуні, а у сваіх нацыянальных пытаньнях перэмагаючэе тута-ка беларускае населеньне павінно зносіцца з Літоускім Урадам праз дaручэнае мне Міністэрство Беларускіх Спрау у м. Городні.

3. Іменем чужых урадау Польскаго, Украінскаго чы Велікарасейскаго ніхто у памяненых у п. 1 мейсцох выступаць не мае ніякого права

4. Вінавайцы у нарушэньні п. 3 гэтай Граматы будуць аддавацца пад суд.

Міністэр Беларускіх Спрау
Язэп Варонка.

Место Городно 20 студзеня 1919 году
*582.2.19:013 — фк*
*582.2.19:014 — фк*
*582.2.19:015 — фк*

**1167. Пратакол паседжаньня арганізацыйнага камітэту ў справе скліканьня Краёвага Беларускага Зьезду Горадзеншчыны за 22.01.1919**
*582.2.06:061&r — р*

---

Пратакол падпісалі: ад Беларускай Горадзенскай Ўправы: Боеў, Курлоў, Яковюк, Зіньковіч, Міклашэўскі, Чэрнецкі, Грынкевіч, Скабёлкін, Юргела, Грышкевіч, Махнач і Марозаў; ад Беларускага Горадзенскага Камітэту: Натусэвіч, Грыкоўскі, Кравцэвіч, Карчынскі, Дэнісэвіч, Злоцкі, Зайцэў, Алексюк, д-р Белецкі, Алексючанка і Матук.

**1168. Пасьведчаньне Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі Кіпрыяну Кандратовічу за 22.01.1919**
Le 22. Janvier 1919
N° 9/1969
Grodno.

CERTIFICAT.

Le Conseil des Ministres de la Republique Nationale de la Russie-Blanche charge le membre de la Rada de la Republique, le general de l'infanterie CYPRIEN KONDRATOWITSCH, d'informer les Gouvernements des Etats Unis de l'Amerique, de l'Angleterre, de la France et de l'Italie de la situation et les besoins du peuple de la Russie-Blanche et de transmettre au President du Congres de la paix le Memorandum de Conseil des Ministres.

Le President du Conseil des Ministres
et le Ministre des Affaires Etrangeres

Le Secretaire d'Etat.
*582.2.38:060 — мк фра*
*582.2.38:059 — мк фра*
*582.2.38:061 — мк фра*
*582.2.38:062 — рк рас фра*
*582.2.38:063 — рк рас*
*582.2.38:065 — рк фра*
*582.2.38:066 — мк фра*

**1169. Чарнавік пасьведчаньня Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі Даменіку Сямашку й Вацлаву Ластоўскаму за 22.01.1919**

Рада Народных Міністрау Бел. Нар. Рэспублікі гэтым упаунамачывае п.п. Домініка Семашку і Вацлава Ластоускага учыніць перад урадамі Амэрыкі, Англіі, Францыі, Італіі .......... крокі дзеля забаспечаньня дэлегацыі Бел. Нар. Рэспублікі месца на Міжнароднай Мірнай Конфэрэнцыі дзеля абароны правоу беларускага народу.

*582.2.38:064 — мк*

**1170. Мэмарыял Беларускага Ўраду старшыні Мірнай Канфэрэнцыі ў Парыжы (Горадня) за 22.01.1919 (вых. №10/1970)**

Мэморыял Беларускага Ураду.
Пану Старшыні Міравой Конфэрэнцыі у Парыжы.

Пад той час, як прынцып самаазначаньня нацыянальнасьцей сьвяткуе пабеду на усенькім сьвеці, — дванадцацімільённы Беларускі народ, некалі вольны і незалежны, а пасьля паняволены суседзямі і толькі цяпер паустаушый дзеля адбудовы сваей нацыянальнай культуры і дзяржаунасьці, стаіць перад пагрозай новага паняволеньня — яшчэ горшага за колішняе, бо яно суліць яму у дадатку разрыу жывога нацыянальнага арганізму на некалькі часьцін. У гэткі мамэнт ядынае законнае прадстауніцтва Беларускага народу, Народнае Міністэрства, прызванае да жыцьця народнай воляй, лічыць сваей павіннасьцю зьвярнуцца да вялікіх дзяржау, апавесьціушых прынцып нацыянальнага самаазначаньня, з просьбай аб заштыту, апіраючыся не на сілу аружжа, а на свае права на жыцьцё і свабоду.

Праз нейкую дзіуную іронію долі культурны сьвет ведае аб рожных дробных і слабых народах і паддзержывае іх дзяржаунасьць, — але аб дванадцацімільённым Беларускім народзе, бацькаушчына каторага у дадатку страшэнна зруйнавана вайной, ня ведае і ня руліцца ніхто...

Гранічучы на заходзі з Польшчай, на пауночным Заходзі з Літвой і Латвіей, на поуначы і усходзі з Маскоушчынай і на паудня з Украінай, абшар Беларусі, даходзячы 300,000 квадратных кіломэтрау, абнімае быушыя расейскія губэрні Віленскую, Гродзенскую, Менскую, Вітэбскую, Магілеускую, палову Смаленскай, часьць Чарнігаускай і сумежныя паветы Сувальскай, Ковенскай, Курляндзкай і іншых губэрняу.

Згруба гранічная мяжа Беларусі йдзе гэтак: ад Дзьвінску на поунач ламанай лініей да станцыі пры чыгунцы Корсаука, адтуль на усход да Ржэва на Волзе блізка зусім простай лініей, ад Ржэва граніца йдзе у паудзёва-заходнім кірунку на Бранск і далей па Дзесьне, адтуль на Заход крывой лініей на Грэмяч, Ноугарад-Северск, Гарадню, усьце Прыпяці (на паудня ад іх), Буга і Нарэва да Беластоку. Акружаючы з заходу Беласток і Хорошч, якія знаходзяцца на Беларускай зямлі, граніца паднімаецца на поунач, захопліваe места Аугустоу і далей ламанай лініей ідзе цераз Друскенікі, Эйшышкі, Новыя Трокі, Мусьнікі, Сьвенцяны — да Дзьвінску. Места Вільня стаіць на Беларускай зямлі, і літоуская граніца акружае яго паукругам радзіусу 20—60 вёрст. На усім паказаным абшары бела-

русы становяць каля 75% насяленьня, жыды становяць тут каля 12%, а рэшта — палякі, вялікарусы, украінцы, літвіны, татары і інш.

Беларусы вядуць свой род ад старых славянскіх плямёнау Крывічоу, Дрыгвічоу і інш., каторыя ужо у IX сталецьці зрабілі пачатак сваей дзяржаунасьці. Ад IX да XIII ст. гісторыя Беларусі — гэта час цяжкой барацьбы за незалежнасьць з суседнімі рускімі князьствамі, барацьбы за вольны доступ да Балтыцкага мора, з каторым Беларусь зьвязывалі водныя тарговыя дарогі — Дзьвіна і Нёман. Гэная барацьба прымусіла беларускія плямёны крэпка еднацца паміж сабой і зрабіць хаурус з Літвой. Ад XIII да другой паловы XVI ст. беларусы разам з літоускім народам збудавалі магутную дзяржаву, якая найбольш вядома пад імем Вялікага Князьства Літоускага. Дзякуючы сваей культурнасьці і высокаму разьвіцьцю грамадзкага жыцьця, беларусы здабылі тутака пануючае палажэньне. Беларуская мова сталася дзяржаунай мовай па усенькім В. Князьстве Літоускім, сталася мовай культурных людзей, пакінуушы па сабе сьляды у вечных памятніках — няліччаным множстве актау дзяржауных і цывільнага права, у вядомым на усю Эуропу зборніку законау В. Кн. Літоускага — «Літоускім Статуце», які быу напісаны па беларуску і сперша друкавауся толькі у гэтай мове. Ужо у 1518 г. беларусы мелі друкаваную Біблію у роднай мове.

У 1569 г. на сэйме у Любліне Літоуска-Беларускае гаспадарства падпісала акт дзяржаунае уніі (еднасьці) з Польшчай. Паводлуг Люблінскай умовы злучыліся яны у адну фэдэрацыю на аснове поунай роунасьці: кожная з іх захавала права мець сваю асобную армію, свае законы, фінансы, суды і мясцовае упрауленьне, а еднасьць выяулялася толькі у супольным сэйме.

У канцы XVIII ст. злучаная Беларуска-Літоуска-Польская дзяржава была разьдзелена паміж трох суседак: Аустрыей, Прусамі і Расеей. Беларусь была цэлком прылучана да Расеі у 1793 г. паводлуг умовы, падпісанай у Горадні. Гэная умова павінна была забаспечыць Беларусі магчымасьць свабоднага і самабытнага разьвіцьця і тварэньня сваей нацыянальнай культуры. На жаль, яна не была споунена: расейская дзяржауная палітыка пайшла па дарозе гвалтау і няліччанымі агранічэньнямі і рэпрэссіямі: зачыняючы вышэйшыя школы, уціскаючы веру, забараняючы друкаваць кніжкі па беларуску (у 1865 г.), ужываць народную мову у школе і цэркві (1839 г.) і т. д. — старалася забіць у беларусау нацыянальнае пачуцьцё і абярнуць іх у маскалёу. На Беларусь углядаліся, як на некалькі губэрняу, аднастайных з маскоускімі, якімі упраулялі маскоускім абычаем — з тэй толькі рожніцай, што тут не дапускалі ані ценю самаупрауленьня, заведзенага у вялікарускіх губэрнях у 1864 г. Толькі напярадодні сусьветнае вайны у часьці Беларусі было заведзена земскае самаупрауленьне, а Віленшчына і Гродзеншчына і тагды асталіся бяз яго.

Жывучы у страшэнна цяжкіх варунках, пазбауленыя нацыянальнай школы і цэрквы, беларусы блізка зусім утрацілі сваю інтэлігэнцыю. Аднак за увесь час маскоускага панаваньня рабіліся спробы пачаць работу дзеля нацыянальнага адраджэньня беларусау, , робленыя нацыянальна-

сьвядомымі сынамі Беларускае зямлі. Спробы гэныя зыходзіліся з мамэнтамі узросту дэмакратычнага руху у Расеі і заграніцай: яны станавілі адгалосак Вялікай Францускай Рэвалюцыі, узмацовываліся у 1830 і 1848 гадох, выяуляліся у часе паустаньня 1863 году, разьвіцьця «народнічэства» у Расеі у 1880-х гадох і урэшці абярнуліся у шырокі массовы народны рух у часе рэвалюцыі 1905 г. У зусім кароткі час беларусы стварылі сваю арыгінальную літэратуру, даушы багата імёнау слауных паэтау, стварылі сваю народную прэссу, многа культурна-прасьветных, грамадзкіх і палітычных арганізацый і т. д. Цэнтрам беларускай нацыянальнай работы была адвечная сталіца краю — Вільня. Найвышэйшай праявай беларускай нацыянальнай работы была праца над будоуляй сваей незалежнай дэмакратычнай нацыянальнай дзяржавы. Яна разьвярнулася у першыя-ж дні рэвалюцыі у лютым 1917 году. У марцы у Менску адбыуся людны з'езд беларускіх грамадзкіх працаунікоу, на якім быу заснаваны «Беларускі Нацыянальны Камітэт». Месца апошняга пасьля заняла «Цэнтральная Рада Беларускіх Арганізацый і Партый», каторая адгэтуль гуртавала каля сябе і кіравала усю беларускую нацыянальную работу. За шэсьць месяцау рэвалюцыі ідэя адраджэньня і палітычнага самаазначаньня Беларусі усё узмацоувалася і разьвівалася на чысьленых з'ездах, мітынгах і сходках. Пасьля трэйцяе сэссіі «Цэнтральнае Рады Беларускіх Арганізацый і Партый» у кастрычніку 1917 г. ясна выявілася патрэба стварыць дзяржауна-праунную установу, якая узяла-бы у свае рукі уласьць, і палажыць аснову Беларускай Народнай Рэспубліцэ. Дзеля гэтага былі скліканы армейскія з'езды на усіх фронтах: заходнім у Менску (18-24 кастрычніка), пауночным у Вітэбску (15-20 лістапада), румынскім у Одэссі (3-8 сьнежня), палудзенна-заходнім у Кіеві; два з'езды беларусау-бежанцау у Маскве і адзін у Менску; з'езды вучыцялёу і розных грамадзкіх арганізацый у Смаленску, Вітэбску, Полацку і іншых местох. Рэзультатам гэтых з'ездау было заснаваньне «Вялікай Беларускай Рады» і «Беларускай Цэнтральнай Вайсковай Рады», а такжа скліканьне Усебеларускага З'езду з установчымі функцыямі у Менску 18 сьнежня 1917 году.

Усебеларускі З'езд быу найбольш поуным і сур'ёзным выяуленьнем волі Беларускага народу, раунуючы да такога-ж выяуленьня волі другімі народамі бышае Расеі. На з'езд прыехалі дэпутаты ад валасных (сялянскіх) земств, і камітэтау з усяе этнаграфічнае Беларусі, ад павятовых і губэрскіх земств, мястовых самаупрауленьняу, работніцкіх арганізацый, ваенных з усіх фронтау і тылу арміі, бежанскіх саюзау і камітэтау, коопэратывау, прафэсыянальных і іншых саюзау Беларусі, усіх палітычных партый, — разам 1167 дэпутатау з правам пастанауляючага голасу і 705 — дарадчага. З'езд, выяуляючы сувэрэнную волю Беларускага народу, пастановай 31 сьнежня 1918 году устанавіу рэспубліканскі дэмакратычны лад у этнаграфічных межах Беларускае зямлі і выбрау найвышэйшую уладу Беларусі: Раду Усебеларускага З'езду, якая у свой чарод пасьля аддала спауняючую уласьць у старонцы Радзе Народных Міністрау. Пасьля прыняцьця гэтых пастаноу прадстаунікі большэвіцкай уласьці у Менску, карыстаючы з таго, што пад той час тамака ня было беларускага

войска, аружнай сілай разагналі З'езд. Ня гледзячы на гэта, Рада прыступіла да выпауненьня узложаных на яе абавязкау і, паміж іншым, наслала дэлегатау ад Беларусі на мірныя перагаворы у Бярэсьце, куды яны афіцыяльна дапушчаны ня былі.

Лінія ваеннага фронту, якая устанавілася на усходзі у верасьні 1915 году, разьдзяліла Беларусь на дзьве часьці. Пры гэтым у межах окупацыі апынулася уся Гродзеншчына, вялікшая частка Віленшчыны і невялікі кусочак Меншчыны. Тут Беларускі рух выявіуся перш за усё у шырокай культурнай рабоці, ладзючы сецьбеларускіх народных школ замест эвакуіраваных расейскіх, адкрываючы вучыцельскія сэмінарыі, друкуючы беларускія кніжкі для навукі у школах, арганізовываючы беларускія культурныя установы і таварыствы. Разам з тым, ня гледзячы на суровыя забароны нямецкае уласьці, разьвівалася і беларуская палітычная работа, на якой зыходзіліся дэмакратычныя групы усіх нацыянальнасьцей краю, — глауным чынам у старым гістарычным цэнтры краю — Вільні. 25-26 студзеня 1918 году беларусам з вялікім трудом удалося склікаць у Вільні нацыянальную конфэрэнцыю, на якой былі прадстаунікі окупірованай у 1915 гаду часьці Беларусі (Віленшчыны, Гродзеншчыны і часьці Меншчыны). Конфэрэнцыя высказалася за адбудову незалежнай фэдэрацыйнай Беларуска Літоускай дзяржавы, аб'еднанай з незалежнай Латвіей, прызываючы да еднасьці і заакопную усходнюю Беларусь, аб долі і палажэньні каторай нямецкія уласьці не прапускалі у Вільню ніякіх вестак. Конфэрэнцыя выбрала такжа найвышэйшую беларускую нацыянальную установу для зямель старой нямецкай окупацыі — Беларускую Раду, каторай наказала супольна з літоускім нацыянальным прадстауніцтвам і нацыянальнымі меншасьцямі падгатаваць склікаьне устаноучага сэйму.

Гэтак у абедзьвых часьцях разрэзанай ваенным фронтам Беларусі адначасна разьвівалася і узмацовывалася ідэя стварэньня незалежнае дзяржавы. А пад той-жа час нямецкія прадстаунікі умауляліся у Бярэсьці з прадстаунікамі расейскага савецкага ураду аб паняволеньні і раздзелі паміж ваюючымі старонкамі абрабаванай і зруйнаванай вайной Беларускай зямлі...

Паводлуг Берасьцейскае умовы Беларусь, каторая мае доступ да мора глауным чынам цераз Лібаускі порт, бо з ім яна ад вякоу зьвязана сыстэмай дарог, аказалася зусім адрэзанай ад марскога узьбярэжжа, што павінна было у самай аснове забіць яе самабытнае эканаміцкае жыцьцё, аддаушы Беларусь у поуную эканаміцкую залежнасьць ад Вялікарасеі. Яшчэ раней умова, зробленая паміж Нямеччынай і Украінай, аддала апошняй дзесяць беларускіх палудзенных паветау (Магілеускай, Чарнігаускай, Менскай і Гродзенскай губерній). Каліж нямецкая акупацыя пасунулася далей на усход, дык і Усходняя Беларусь аказалася яшчэ раз разрэзанай, бо усходнія акраіны яе асталіся у руках Расеі, а цэнтральнай часьці яе было суджана карміць вялізарную нямецкую армію, якая вывозіла з занятых зямель усё, што мела якую-колечы цану, — агулам на многа мільёнау рублёу.

Заняцьце нямецкім войскам Менску, дзе знаходзілася цэнтральная установа беларускай дзяржаунай уласьці, прыняушая пад той час імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, дало магчымасьць беларусам старой і новай акупацыі зыйсьціся разам і згаварыцца пасьля трохгадовага перарыву усялякіх зносін. У канцы марта 1918 году у Менск прыехала дэлегацыя Беларускае Рады з Вільні, якая і прыняла учасьце у гістарычным засяданьні Рады Рэспублікі 24-25 марца. Рэзультатам злучэньня прадстауніцтва усходняй і заходняй Беларусі было апавешчаньне незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі і выданьне акту, у каторым паміж іншым гаварылася:

«Мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаунай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расейскія цары на наш вольны і незалежны край. Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца вольнай і незалежнай дзяржавай. Самі народы Беларусі у асобе свайго Установчага Сойму пастановяць аб будучых дзяржауных зьвязях Беларусі.

«На моцы гэтага трацяць сілу усе старыя дзяржауныя зьвязі, якія далі магчымасьць чужому ураду падпісаць і за Беларусь трактат у Бярэсьці, што забівае на сьмерць Беларускі народ, дзелючы зямлю яго на часткі. На моцы гэтага урад Беларускай Народнай Рэспублікі мае увайсьці у адносіны з зацікауленымі старонамі, прапануючы ім перагледзіць тую часьціну Берасьцейскага трактату, якая датычыць Беларусі, і падпісаць міравую умову з усімі ваяваушымі дзяржавамі.

«Беларуская Народная Рэспубліка павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічэбную перавагу беларускі народ, а ласьне: Магілеушчыну, беларускія часьці Меншчыны, Гродзеншчыны, (з Горадняй, Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаушчыны і сумежныя часьці суседніх губэрній, засялёныя беларусамі.

«Беларуская Народная Рэспубліка пацьверджывае усе тыя правы і вольнасьці грамадзян і народау Беларусі, якія абвешчаны Устаўной Граматай ад 9 сакавіка 1918 году.

«Абвяшчаючы аб незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, Рада яе пакладае свае надзеі на тое, што усе любячыя волю народы дапамогуць Беларускаму народу у поунай меры здзейсьніць яго палітычна-дзяржауныя ідэалы».

Гэты акт быу разасланы урадам усіх вялікіх дзяржау; аднак варункі, у якіх прыходзілася жыць беларусам пад нямецкай акупацыяй, не даюць пэунасьці, што ён дайшоу да усіх. Справа у тым, што акупанты у адносінах да беларускага дзяржаунага будауніцтва занялі ад першых дзён акупацыі зусім варожае становішча. Пасьля уваходу да Менску акупацыйныя уласьці аружнай сілай захапілі беларускія дзяржауныя грошы і гэтых грошы назад не вярнулі. Каліж акт 25 марца быу пададзен нямецкаму ураду, апошні у офіцыяльным адказе заявіу, што, згодна з Берасьцейскай умовай, пытаньне аб Беларусі ён лічыць унутранай справай Расеі і радзіць беларускаму ураду дайсьці угоды з большэвіцкім урадам. Сваю лойяльнасьць у адносінах да савецкага ураду Расеі нямецкі урад давёу да таго,

што за 9 месяцау акупацыі зусім не давау беларускаму ураду арганізовываць край, не дапускаючы свабоды руху, не даючы карыстацца почтай, тэлеграфам, тэлефонамі і т. д., арыштовываючы камісарау, якія памыкаліся арганізовываць народныя беларускія аружныя сілы. Усё упрауленьне Беларусьсю аставалася у нямецкіх руках. Каліж нямецкія войскі былі прымушаны пакінуць Беларусь, яны ня толькі адмовіліся аддаць цывільнае упрауленьне краем у рукі краёвых арганізацый, але і не дапусьцілі арганізацыі краёвай міліцыі дзеля абароны народу ад анархіі, нямінучай у мамэнт адходу акупантау пры поунай неарганізаванасьці насяленьня.

Тое, што было зроблена немцамі у Усходняй Беларусі і у Менску, паутарылася і у заходняй часьці яе — за лініяй старога фронту. Немцы і тут не далі арганізаваць беларускіх аружных сіл — апоры усялякае уласьці. А у тым-жа самым часе яны падгатаулялі захват беларускіх зямель з Вільняй, Горадняй, Беластокам суседняй Польшчай: зусім адкрыта, бяз ніякіх прашкод з нямецкага боку, арганізовываліся і зброіліся па усім краю польскія легіоны, замяніушыя нямецкую акупацыю і тэрорызуючыя тутэйшае насяленьне.

Наагул, з боку Польшчы беларусам грозіць самая сур'ёзная небаспека. Справа у тым, што «вышэйшыя» станы у Беларусі — паны земляуласьнікі і мястовая буржуазія — дауно зусім спольшчаны. Вось, гэныя элемэнты, здрадзіушыя свой народ, карыстаючы з паддзержкі переважнай часьці каталіцкага духавенства, усемі сіламі стараюцца прылучыць Беларусь да Польшчы. Дзеля гэтага, не саромячыся нават духоунага гвалту у касьцелі, яны стараюцца спольшчыць беларускіх сялян, — глауным чынам беларусау-каталікоу, чысло каторых даходзіць больш чым 2 мільёнау. Каталіцкі касьцёл у Беларусі аб'яулены польскім нацыянальным касьцёлам, а усе каталікі — палякамі. Каталіцкае духавенства прамауляе да народу з амбоны бадай выключна па польску. Ксяндзы адмауляюцца спавядаць і вучыць беларускіх дзяцей асноу веры у іх роднай мове беларускай. Яны грозяць касьцельнымі карамі бацьком, дзеці каторых будуць вучыцца у беларускіх школах. Такая работа йдзе глауным чынам у заходняй Беларусі, гдзе каталікоу больш, асабліва-ж па мястох — у Вільні, Горадні, Беластоку і інш. Даводзячы сваіх правоу на заходнюю Беларусь, палякі пазываюцца на статыстыку, каторая рабілася пад той час, калі вялікшая частка беларускага праваслаунага насяленьня гродзеншчыны і віленшчыны лікам больш за мільён душ знаходзілася у цэнтральнай Расеі, куды яе былі гвалтам высялілі пры адходзе расейскіх войск у 1915 гаду, а астаушыяся на месцы беларусы-каталікі пераварачываліся ксяндзамі у палякоу.

Гэткае палажэньне зложылася для Беларусі і Беларускага народу за час нямецкай акупацыі. Край зусім неарганізаваны. Мясцовыя сілы, прынімаушыя чыннае учасьце у дзяржауным будауніцтве, былі прымушаны пакінуць родны край з прычыны прыходу большэвікоу. Культурна-нацыянальнае жыцьцё зруйнована. А прыход большэвіцкае уласьці, чужой для беларусау і па нацыянальнасьці, і па духу, суліць новую руіну, эканаміцкі развал і голад...

З прычыны незалежных ад яго акалічнасьцей Беларускі народ ня меу магчымасьці аружнай сілай абараніць сваю незалежнасьць. Дзеля гэтага беларусы усе свае надзеі ускладаюць не на сілу, а на свае права і зварочываюцца да Мірнай Конфэрэнцыі, заклікаючы яе паддзяржаць зусім законнае жаданьне Беларускага народу здабыць дзяржауную незалежнасьць.

Нават Савецкі Урад быу прымушаны аб'явіць незалежнасьць Беларусі пасьля яе заняцьця: маніфэстам з 1 студзеня 1919 году, выданым савецкай уладай, Беларусь аб'яулена незалежнай Савецкай Рэспублікай у фэдэрацыйнай сувязі з Савецкай Расеей. Аднак, аднабокая разьвязка пытаньня аб прымусовасьці фэдэрацыі Беларусі з Расейскай Савецкай Рэспублікай і завядзеньне у межах Беларускай Народнай Рэспублікі савецкай сыстэмы упрауленьня па прыказу з Масквы рауназна[ч]ны нарушэньню сувэрэнных правоу Беларускага народу. Справа аб долі дванадцаці-мільённага Беларускага народу, зусім ясна выявіушага сваё жаданьне незалежнасьці, ня можа быць аддадзена на разьвязку Маскоускаму ураду, ня можа лічыцца унутранай справай Расеі. Дзеля забаспечаньня Беларускаму народу незалежнасьці патрэбны м і ж н а р о д н ы я   г а р а н т ы і. З гэтае прычыны Беларускі урад у асобе Рады Міністрау Беларускай Народнай Рэспублікі просіць разьвязаць на Мірнай Конфэрэнцыі беларускае пытаньне ва усей яго шырыні і даць Беларускаму народу помач у яго дзяржауным будауніцтве у этнаграфічна-гістарычных межах, а такжа дапусьціць на Конфэрэнцыю дэлэгатау Беларускай Народнай Рэспублікі дзеля абароны інтарэсау Беларускага народу і дачы патрэбных інфармацый.

Горадня, 22 студзеня 1919 году.

Старшыня Рады Міністрау і Міністэр Загранічных Справу: Ант. Луцкевіч

Дзяржауны Пісар: Лявон Заяц

*582.1.46:024 — мк бел (апош. с.)*
*582.2.33:087&r-092 — мк рас*
*582.2.36:100&r-105 — мк рас*
*582.2.38:056&r-058 мк бел*
*582.2.38:073-076 — д фра*
*582.2.38:121-125 — д анг*
*582.1.44:039-040 — д (З Роднага Краю, выцінка)*

**1171. Чарнавік артыкулу аб клясавым складзе беларускага грамадзтва**

*582.2.36:042r — рк*

Дата невядомая. Магчыма, для газэты «Беларускі Народ», выдаванай Язэпам Варонкам у Горадні ў студзені-лютым 1919.

**1172. Загад №1 па Горадзенскай Ваеннай Акрузе вайсковага начальніка Акругі Міколы Дзямідава (Горадня, 1.02.1919) аб наборы самаахвотнікаў у 1-шы Беларускі Полк Літоўска-Беларускай Арміі**

*582.2.38:040-041 — д*

**1173. Адозва аб наборы самаахвотнікаў у І-шы Беларускі Полк Літоўска-Беларускай Арміі**

*582.2.38:082 — д*

**1174. Чарнавік артыкулу ў адказ на публікацыю ў польскай газэце «Echo» за 4.02.1919**

*582.2.36:041 — рк*

Водгук на публікацыю ў польскай (горадзенскай?) газэце «Echo» за 4.02.1919 (№44), якая «подняла вой о руссификаціи бѣлоруссовъ какими то россійскими чиновниками, засѣвшими въ Бѣлорусскомъ Министерствѣ Литовскаго Государства».

**1175. Загад па Плянты-Шчучынскім павеце камісара павету Кастуся Езавітава (Астрына, 6.02.1919)**

ПРЫКАЗ

Па Плянты-Шчучынскаму павету.

§ 1.

Гэтым паведамляю, што згодна з распараджэньнем Міністра Унутраных Спрау і Міністра Беларускіх Спрау Літоускага Гаспадарства, я, 6-го гэтаго лютаго, прыступіў да спауненьня абавязкау Камісара Плянты-Шчучынскага павету.

Канцэлярыя Павятовага Управленьня будзе знаходзіцца, па маему распараджэньню, у мястэчку Астрына, куды і належыць звертацца.

§ 2.

Нямецкія войскі на обшары павету застаюцца як ваенная сіла для ахраны парадку і граніц. Грамадзянскае Управленьне прыймаецца з рук немцау і пераходзіць да мяне.

§ 3.

Для парадку і абезпэчэньня жыхароу ад грабежоу і гвалту мною ствараецца Павятовая Міліцыя.

Начальнікам міліцыі, з 8-го гэтаго Лютаго, назначаю Грамадзяніна ДРАМОВІЧА.

Начальніку міліцыі прыказываю зараз-же прыступіць да запісі кандыдатау у міліцыю.

Прыймацца могуць асобы не меньш як 22 гадоу і па рэкамэндацыі Валасных Камітэтау.

У помач Начальніку міліцыі назначаю Начальніка І-го участка міліцыі Плянтоускага павету, з того ж терміна, Грамадзяніна ЖУКОУСКАГО.

Адзнакі для міліцыанероу будуць гэтакія:

1) Павязка на левам рукаве з трох коляроу — белай, чырвонай і белай;
2) З такіх же коляроу круглая кокарда на шапках;
3) нацыанальны гэрб — Пагоня на шапцы пад какардой.

§ 4.

Сэкрэтаром Павятовага пры мнѣ Управленьня назначаю, з 6-го гэтаго Лютаго, Грамадзяніна ЛЬВА КАШЧЭНЕУСКАГО.

Камісар Плянты-Шчучынскага павету К.Езавітау.

*582.2.38:042-043 — д*

**1176. Пратакол паказаньняў Аркадзя Смоліча, Аляксандра Цьвікевіча й Васіля Захаркі, абрабаваных 9.02.1919 на ст. Здалбунова Валынскай губэрні**

*582.2.01:005&r-006 — рк*

А 5 гадзіне раніцы 9.02.1919 у аддзел чыгуначнай аховы на ст. Здалбунова зьявіліся А.Смоліч, А.Цьвікевіч і В.Захарка «и заявили, что они ночевали на отведенной имъ квартирѣ [...] около четырехъ часовъ ночи съ 8 на 9 февраля къ нимъ въ комнату ворвались три вооруженныхъ револьверами человѣка въ возрастѣ отъ 25-30 лѣтъ [...] скомандовали руки вверхъ, приставили къ ихъ вискамъ револьверы и стали грабить...»

**1177. Абвестка начальніка Цывільнага Аддзелу Міністэрства Беларускіх Справаў Літоўскай Рэспублікі Пятра Крэчэўскага (Горадня, 12.02.1919) аб прызначэньні Літоўскім Урадам міравых судзьдзяў ва ўсе паветы**

*582.2.38:046 — д*

**1178. Нота пратэсту Міністэрства Беларускіх Справаў Літоўскага Ўраду за 13.02.1919 (Горадня) у справе акупацыі палякамі беларускай тэрыторыі, накіраваная ўпаўнаважанаму Нямецкага Ўраду ў Літве Э.Цымэрле (копія — Радзе Міністраў Літвы)**

*582.1.15:160 — мк*
*582.2.36:036 — мк*
*582.2.36:037 — мк*

Падпісаў «отъ имени бѣлоруссовъ Южной Литвы — Министр Бѣлорусскихъ Дѣлъ Литовскаго Правительства Іосифъ Воронко».

**1179. Ліст Горадзенскага гарадзкога камісара Кузьмы Цярэшчанкі начальніку Цывільнага Аддзелу Міністэрства Беларускіх Справаў (Горадня) за 20.02.1919 з просьбай хадайнічаць перад міністрам аб выдзяленьні грошай на канцылярыю камісара**

*582.2.36:045-046 — рк*

**1180. Запіска Вальтера[1] Язэпу Варонку за 4.03.1919**

N.O.4.L.D.

Господину Воронко.

Относительно Вашихъ паспортовъ я получилъ отъ поручика Абта при семъ приложенный телеграфный отвѣтъ.

Вальтеръ.

*582.2.36:033 — р*

[1] Асоба й абставіны невядомыя.

**1181. Данясеньне начальніка штабу 1-га Беларускага Пяхотнага Палка Равіч-Шчэрбы міністру беларускіх справаў Літоўскай Рэспублікі Язэпу Варонку аб руху бальшавіцкіх войскаў за 4.03.1919**

*582.2.36:034 — мк*

**1182. Пратакол паседжаньня Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі №107 за 15.03.1919**

Журнал
заседаньня Рады Міністраў Б.Н.Р. за 15 сакавіка 1919 г.
№107

Былі: Старшыня А.Луцкевіч
Міністры: А.Цвікевіч
Дзержаўны Кантралёр — Л.Заяц і Тав. Міністра Унутрэнных Справаў К.Тэрэшчэнко

| Слухалі | Пастанавілі: |
|---|---|
| 1. Справу аб зацьверджэнні тав. Міністра Ўнутрэнных Справаў К.Тэрэшчэнко Кіраўнікам Міністэрства Ўнутрэнных Справаў. | 1. Прыняць аднагалосна |
| 2. Даклад А.Цвікевіча аб заграгічнай працы. Украінцы афіцыальна далі ўсім пасольствам сваім прыказ дапамагаць прэдстаўнікам Белар. Ураду. За граніцай. Перэгаворы з прэдстаўнікамі Ням. Ураду ў Бэрліне вяліся ў самых найлепшых для беларусаў варунках, прычым яны радзілі ладзіць беларусам з літвінамі, якія маюць добрыя сілы у Амэрыцэ, ад якой можна многага дабіцца і для Беларусі. У Гэрманіі ёсьць да 75 тысяч беларусаў зарэгістраваўшыхся, з якіх можна зрабіць прэданых сыноў бацькаўшчыны; іх пакуль што дамоў ні пасылаюць. Ням. Мініст. Загран. Спраў — надта добра паінфармована ў справах беларускіх і гатова нам дапамагчы.<br>У Адэссе с'арганізаваўся «Беларускі нацыанальны Цэнтр», які ўзяў на сябе прэдстаўніцтва інтэрэсаў Беларусіі звязаўся ў гэтай мэце з Entente. Там жэ Базарэвіч, Бурчак і інш.<br>Прэдстаўнікоў нашых усюды за граніцай надта прыхільна спатыкалі.<br>Справа беларуская на Украіне стаіць як найлепей: беларусы маюць усе правы падданых другой дзяржавы. | 2. Прыняць да ведама, прычым заграгічныя справы ўсяму кабінэту разьвязаць у Бэрліне, дзеля чаго небавячыся ўсім туды выехаць. |

| | |
|---|---|
| 3. Справу аб прыняцьці выдаткаў на пахаронах беларускаго дзеяча Александра Грыкоўскага, палажыўшаго сваё жыцьцё за беларускую справу, на рахунак Беларускай Народнай Рэспублікі[1]. | 3. Выдаткі на пахарон Александра Грыкоўскаго прыняць на рахунак Бел. Нар. Рэспублікі. |

ЛЗаяц Ант.Луцкевіч АЦвікевіч КТерешч...
*582.2.01:009&r — ра*

[1] Аляксандар Грыкоўскі — сябра Віленскай Беларускай Рады, старшыня Горадзенскага Беларускага Камітэту (ад 11.1918). Памёр ад сухотаў 13.03.1919. Гл.: Беларусь (Горадня). №2. 2.04.1919.

**1183. Пратакол паседжаньня Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі №108 за 16.03.1919**

Пасяджэньне за 16 сакавіка 1919 г.
№107

| | |
|---|---|
| 1. Справу аб пасылцэ прэдстаўніка ў Коўну для перэгавораў з прэдстаўнікамі Entente, якія цяпер у Коўне знаходзюцца | 1. Адразу усім разам з Галавінскім ехаць у Інстэрбург[1], адкуль п. Луцкевіч з Галавінскім паедуць ў Бэрлін, а рэшта для перэгавораў у Коўну, аткуль таксама ў Бэрлін |
| 2. Адносіны да Польшчы ў звязку з аккупацыяй Гродзеншчыны | 2. Дзеля абароны інтэрэсаў бел. грамадз. ў Польшчы, адчыніць адразу ў Варшаве Гэнэральнае конс. |
| 3. Дакладну запіску К.Терэшчэнкі ў справе працы на бліжэйшы час па мін. унутрэнных справаў: арганізацыя Беларусі ў сэнсэ будовы белар. дзержаўнасьці. | 3. Прыймаючы аснауныя палажэньні запіскі як грунт працы дзеля арганізацыі, намеціць камісараў на усе бел. губ. |
| 4. Справу аб арганізацыі Гродзеншчыны і аб працы тут у бліжэйшы час. | 4. На чале стаіць камісар, два яго памоцнікі і сэкрэтар — асобы платныя; апроч гэтаго яшчэ істнуе губ. бел. камітэт, які складаецца: з прэдстаўнікоў паветаў, губ. белар. інстытуцыяў і ўсіх паліт. партыяў, якія стаяць на грунце беларускай дзержаўнасьці — ад усіх па аднаму, прычым прэдст паветаў з'яўляюцца негласна нашымі камісарамі ў павеце, члены камітэту атрымоваў. грошы толькі на раз'езды і на фактычн. пасядзэньня. |
| 5. Справу аб назначэнні камісара і яго памоцнікаў на Гродзеншчыну. | 5. Назначыць П. Алексюка — Камісарам Рады Нар. Мін. Б.Н.Р.. А.Яку- |

| | |
|---|---|
| Кіраўнік Мін. Унутр. справаў пропануе: П.Алексюк камісар, А.Якубецкі памоцнік па палітычнай часьці, Бол. Квецінскі — кіраўнік культ. прасьветн. аддзелу. | бецкі — кіраўнік палітычнага аддзелу камісарыяту. Бол. Квецінскі — кіраўнік культурна-прасьветнага аддзелу камісарыяту. |
| 6. Справу аб выдачы авансу на працу камісарыяту Гродзеншчыны. | 6. Выдаць аванс Міністэрству Унутрэн. Справаў у ліку 10.000 (дзесяці тысячаў) марак на першы пачатак для працы Камісарыяту Гродзеншчыны. |
| 7. Аб авансе на арганізацыйную працу Віленскаго Камісарыяту. | 7. Перэведзеную А.Цвікевічам суму у ліку 8800 р. керанск. і 200 марак (восем тысяч восемсот рубл. керэнск. і дзвесьці мар.) для А.Луцкевіча у Вільню, дзеля яго прыезду ў Гродню, перэдаць як аванс на працу для Віленскаго Камісарыяту ў распараджэнне Міністэрства Ўнутрэнных справаў. |
| 8. Справу аб назначэнні камісара і памоцнікаў на Віленшчыну | 8. Да выясненьня становішча на мейсцы праз К.Терэшчанко, назначыць Івана Луцкевіча — камісарам, Яна Станкевіча — па палітычным справам і Кохановіча — па культурна-прасьветным. |

ЛЗаяц Ант.Луцкевіч АЦвікевіч КТерешчен...
*582.2.01:009r-010&r — ра*

[1] Інстэнбург (цяпер Чарняхоўск) — чыгуначны вузел ва Ўсходняй Прусіі.

**1184. Дакладная запіска Кузьмы Цярэшчанкі ў справе арганізацыі губэрнскіх камісарыятаў БНР на акупаваных тэрыторыях, далучаная да пратаколу паседжаньня Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі №108 за 16.03.1919**
*582.2.01:011&r-012 — м*

**1185. Запрашэньне беларускіх арганізацыяў Горадзеншчыны й прадстаўнікоў Цэнтральных Камітэтаў беларускіх сацыялістычных партыяў старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антону Луцкевічу на вячэру ў гонар старшыні і сяброў Рады Народных Міністраў, якая мае адбыцца 17.03.1919 у Беларускім Клюбе ў Горадні (Саборная, 23)**
*582.2.38:055 — д*

**1186. Пратакол паседжаньня Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі №109 за 18.03.1919**

Журнал
пасядзэння Рады Народн. Міністраў Б.Н.Р. за 18 сакавіка 19 г.
№109

Былі: Старшыня — А.Луцкевіч
Н. Міністры: А.Цвікевіч, Б.Захарко і К.Тэрэшчэнко
Дзержаўны Кантралёр — Л.Заяц

| Слухалі: | Пастанавілі: |
|---|---|
| 1. «Палажэніе аб губэрнскіх камісарыятах» — дакладывае падробна К.Тэрэшчэнко (другое чытаньне) | 1. «Тымчасовае палажэньне аб губ. камісарыятах», аканчацельна зрэдактаванае прэдставіць на зацьверджэньне у бліжэйшым пасядзэньні Рады Н.М. |
| 2. Смету на утрыманне камісарыятаў | 2. Прасіць К.Тэрэшчэнко прэдставіць такавую смету, далучыўшы да яе плян працы камісарыятаў |

ЛЗаяц Ант.Луцкевіч АЦвікевіч КТерешч...»
*582.2.01:003 — ра*

**1187. Пратакол паседжаньня Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі №110 за 21.03.1919**

Пасядз. Рады Нар. Мін. за 21 сакавіка
№110

Былі: Старш. — А.Луцкевіч
Мін: А.Цвікевіч, А.Смоліч, Б.Захарко і К.Тэрэшчэнка
Дзерж. Кантр.— Л.Заяц

| Слухалі: | Пастанавілі: |
|---|---|
| 1. Справаздачу Надзвычайнаго пасла на Украіне А.Смоліча, які ад імені Ураду Б.Н.Р. зрабіў у Украінскаго Ураду Украінскай Нар. Рэсп, безпрацэнтную пазыку ў ліку чатырох міліонаў карбованцаў срокам на адзін год. Гэтыя грошы атрыманы ў такіх грашовых знаках: сто тысячаў украінскіх карбованцаў, дзевяцьсот тысячаў рубл. у расійскай валюце, з якіх пяцьсот тысяч рубл. думскіх і чатырыста тыс. рубл. керэнскіх, якія атрыманы гатоўкаю і зданы скарбніку Рады Міністраў — Базылю Захарко; паўтара міліону карбованцаў, атрыманы ў аўстрыяцкай валюце па курсу сто карбов.=200 кронам, а ўсяго тры міліоны кронаў, якія перэве- | 1. Пазычку на паказаных варунках, падпісаных А.Смолічэм, — прыняць і зацьвердзіць, а атрыманыя грошы запісаць на прыбытак Беларускай Народнай Рэспублікі — Дзержаўнаго Скарбу. |

| | |
|---|---|
| дзены у Аўстра-Угорскі Банк і перэводны ліст адданы Гэнэр. Консулу А.Цвікевічу і паложэны ў сэйфе ў Вене на яго імя. Паўтара мілліона карбованцаў, па курсу 90 карб.=100 герм. марак, а усяго адзін мілліон шестьсот шестьдзесят шесть тысячаў марак перэведзены у Бэрлінэр Рэйхс-Банк, а перэводны ліст зданы ў Бэрліне В.Ластоўскаму. Усе грошы перэведзены на імя Старшыні Рады Міністраў — Антона Луцкевіча. | |
| 2. Рабунковы акт аб аграбленьні Беларускай надзвычайнай Місыі у «Здолбуново», Валынскай губ. у ліку ста двадцаці тысячаў пяціста рублёў — расійскай валютай. (Акт далучаецца). | 2. Спісаць паказаную суму ў ліку ста двадцаці тысячаў і пяцісот рублёў з рахункаў Дзержаўнаго Скарбу Б.Н.Р. як страту прыпадковую. |
| 3. Даклад Надзвычайнаго пасла на Украіне А.Смоліча аб тым, што ім назначэны п. Лявон Леўшчэнко Упаважненым Беларускаго Ураду на Украіне ў справе культурна-нацыанальных беларускіх арганізацыяў — што яму перэсланы праз кур'ера п. Камарынца аванс для дапамогі арганізацыям і на працу там у часе расійскай аккупацыі сто тысячаў украінскіх карбованцаў. | 3. Назначэньне Л.Леўшчэнко і ассыгноўка зацьверджаіцца. |
| 4. Праэкт закону аб «Тымчасовым Статуце аб губэрнскіх камісарыятах» (Праэкт далучаецца). | 4. Закон у апошнім чытаньню прыняты аднагалосна. |
| 5. Сьмету аб утрыманні камісарыятаў (дакладаецца). | 5. Смету зацьвердзіць. Пэнсыі: 1) камісар — 1,200. мар. 2) 2 памоцніка — па 1,000. мар. 3) сэкрэтар — 600. м., 4) кур'ер 600 м. 5) раз'езды 1.000. м 6) раз'езды кур'еру 400 м. 7) кватэра каміс. 200 м. 8) канцэл. выдаткі 100 м — усё ў месяц =6100 м. На 6 губ. 36.000 м у мес, а ў год 439.200+3.000 часова на абаруд. канцэлярый, усяго на год 442.200 м, прычым на расійскую аккупацыю, гдзе страшная дарагоўля, выплачыв. рас. рублямі лічучы 1р = 75 пф. |

| | |
|---|---|
| 6. Смету на працу ўсіх губ. камісарыятаў. | 6. На працу ассыгнаваць пяцьсот тысячаў рублёў, лічучы на адзін год на усе губэрніі Беларусі. Выдача гэтаго крэдыту Міністэрству Унутрэнных Спраў павінны рабіцца па пастанове Рады Нар. Мін. ў кождым асобным выпадку. |
| 7. Справу аб выдачы авансаў на працу камісарыятаў | 7. У звязку з паездкай па губэрніях К.Тэрэшчэнко выдаць яму аванс сорак тысячаў рублёў на арганізацыйну працу ў расійск. аккупацыі. |
| 8. Смету Рады Народных Міністраў і на утрыманьне канцэлярыяў (см. дакладаецца). | 8. Смету зацьвердзіць так:<br>Агульная канц.<br>Кіраўніку канц. Р.Н.М. — 1000 м<br>1 машыністка — 600 м<br>2 ураднікі асобн. даруч. па 800 м<br>Мін. Ўнутр. Спраў<br>Сэкрэтар — 800 м<br>1 урадн. асоб. даруч. — 800 м<br>М.Фінансаў<br>Бухгальтэр — 1000 м<br>канторшч. — 600 м.<br>Кантроль<br>Урадлік Кантролю — 800 м<br><br>Кватэра для Рады Нар. Мін. — 500 м<br>стораж — 450 м<br>— " — — 300 м<br>Канцэлярскія выдаткі па ўсім мініст. на месяц — 500 м |
| 9. Аб аплаце міністраў. | 9. Расплата з міністрамі і упраўляючымі міністэрствамі такая:<br>Пэнсыя застаецца старая; прычым за ўвесь час прэбываня Рады Міністраў вне сталіцы але ў рубяжох Беларусі атрымовываюць па — 50 марак сутачных, лічучы с 1 сьнежня 1918 г. Пры камандзіроўках сутачныя павялічываюцца ў два разы; пераезды аплачываюцца па сабекошту пры прэдстаўленьні, па магчымасьці, апраўд. дакумэнтаў. Старшыня Рады Нар. Мін., згодна з закон ад 11 лістапада 18 г. , атрымлівае па адной тысячы (1000) мар ў месяц з 22 лістапада 18 г. на прэдстаўніцтва. |

| | |
|---|---|
| | Афіцыальныя прыёмы і банкеты ад імені Ураду Б.Н.Р. робюцца з Дзержаўных сумаў (на рахунак надзвычайных выдаткаў). |
| 10. Справу аб аплаце Надзвычайнай Місыі: А.Смоліча, А.Цвікевіча і Захарко. | 10. Лічыць місыю са дня ад'езду з Кіеву (з 1 лютаго 19 г.) знаходзячэйся ў загранічнай камандзіроўцэ. |
| 11. Аб міжнарадовай палітыцэ | 11. У прыпадку аккупацыі Городні, Беларускі Урад перэежджае далей на Літоўскую тэррыторыю калі будзе німагчыма затрымацца у іншым пункце беларускай тэррыторыі. б) Паслаць дэлегацыю у Амэрыку. в) На пасланніка у Бэрлін дэлегаваць А.Смоліча, радчымі — Кветку; А.Борык і Натусэвіч у справе ваеннапалонных. г) Паслаць дэлегацыю ў Парыж у складзе: А.Луцкевіча, А.Цвікевіча, радчымі Р.Скірмунта, К.Кандратовіча, Ознобішына; атташэ — Янкоўскаго, Головінскаго і Баркоў; кур'ерам — Г.Камарынец д) Часова затрымацца у Варшаве дэлегацыі ў складзе А.Смоліча і Л.Зайца. |
| 12. Аплата дэлегацыяў | 12. Галава дэлегацыі атрымовывае — 1000 м. + сутачныя па 100 мар. 2) члены і радчыя — сутачн. ні вышэй 100 мар. 3) атташэ — 800 м + сут. ні вышэй 50 м. 4) кур'еры — 800 м + сут. па 30 м. 5) Юрысконсульт і інш. спэцыялісты — 1000 м. Дэлегацыі ў Парыжы выплаты робюцца ў тым жэ самым ліку толькі у франках. Справа асыгновак грошы у кассы пасольстваў даручаецца компэтэнцыі едучым у Бэрлін членам кабінэту. |

Ант.Луцкевіч А.Цвікевіч ЛЗаяц ВЗахарко АСмоліч К.Тэрэшч...
*582.2.01:003&r-004&r,013&r — ра*

**1188. Часовы статут аб губэрнскіх камісарах БНР**

§1. Ва ўсі губерні Беларусі назначаюцца прэдстаўнікі Рады Народных Міністраў Б.Н.Р. — Губернскія Камісары.

[...]

§5. Будучі прэдстаўнікамі законнай поуномочнай Беларускай Дзержаўнай улады Губернскі Камісары, абовязываюцца прысягай по прыказу Рады Народных Міністраў, а ў экстранных варунках і без гэнаго прыказу прыняць на сябе вярхоуную фактычную уладу у губерні і выдаць аб гэтым прыказ ад імя Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі

*582.2.01:008&r*

**1189. Каштарыс выдаткаў на ўтрыманьне губэрнскіх камісарыятаў**

*582.2.40:003 — мк*

**1190. Выпіска з пратаколу паседжаньня Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі №110 за 21.03.1919**

*582.2.40:004-005 — мк*

**1191. Анкета Аляксандра Галавінскага на атрыманьне замежнага пашпарта**

Головинскій Александръ Кузьмичъ
гражд. литовское
женат
инженер-технолог
бѣларус
православный
Пост. мѣсто жит. до войны: Кіев, Фундуклевская 50 кв.4
теперь: Гродно, гостиница «Рояль»(?) №17

род. 20 окт. 1886
с. Маріянилы, Могилевской губ., Климовичского уѣзда

Цѣль поѣздки — общественныя дѣла
Куда — Германія, Францiя, Швейцарія, Италія, Австро-Венгрія, Украина

*582.2.36:035 — а*

**1192. Заява Аркадзя Смоліча Радзе Народных Міністраў за 22.03.1919 аб абрабаваньні яго разам з В.Захаркам на станцыі Здалбунова ў ноч з 8 на 9.02.1919**

*582.2.40:001 — ра*

**1193. Ліст старшыні Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі (Бэрлін) прэзыдэнту Нямецкае Імпэрыі (Бэрлін) за 28.03.1919 у справе атрыманьня пазыкі ад Украінскага Ўраду ў Нямецкім Імпэрскім Банку**

Als der zur Zeit hier in Berlin weilende Unterzeichnete unter Order des Finanzministeriums und Kreditkanzlei der Ukrainischen Regierung den erwähnten Betrag von der Reichsbank abheben wollte, erhielt er den Bescheid, dass ohne besondere Genehmigung der Reichsregierung die Beträge aus dem ukrainischen Guthaben nicht ausgezahlt werden können. Begründet wurde diese Massnaahme damit, dass der Chef der neuen ukrainischen Sowjetregierung Ra-

kowsky die Forderungen gegen das frühere Direktorium nicht anerkenne und das Guthaben der früheren ukrainischen Regierung voll und unverkürzt für sich beanspruche

*582.2.01:017&r — мк*

---

Згаданая пазыка была афармленая 31.01.1919 у Вінніцы — тагачаснай сядзібе Ўкраінскага Ўраду.

**1194. З Роднага Краю. Памятка Беларусам Палонным. Бэрлін**

*582.2.42:032&r-037&r — д*

---

Дакладная дата выданьня невядомая

**1195. Мэмарандум Дэлегацыі Латвійскай Рэспублікі Мірнай Канфэрэнцыі ў Парыжы, пададзены ??.04.1919**

[...] Сосѣди латышей.

[...] Бѣлоруссы. На востокѣ же сосѣдями латышей являются бѣлоруссы. Съ исторической точки зрѣнія, исторія латышей и бѣлоруссовъ была общая. Многіе изъ нихъ римско-католическаго вѣроисповѣданія. Благодаря владычеству вяликихъ князей литовскихъ, ихъ раса сохранилась чистая, между темъ какъ другіе славянскіе народы были подчинены господству татаръ, и энергичная политика великихъ князей и царей Московскихъ слила во едино славянскія и финскія народности, претворивъ ихъ въ великоруссовъ. Такимъ образомъ возникла большая разница между этими двумя народами, между великорусскими и бѣлоруссами, хотя и кажется что у нихъ очень сходный языкъ. Въ настоящее время бѣлоруссовъ охватило довольно сильное національное движеніе и они тоже стремятся къ независимости. Такъ какъ отношеніе латышей и бѣлоруссовъ весьма дружескія, то латыши способствовали, имѣющимися въ ихъ распоряженіи средствами, національному возрожденію Бѣлоруссіи. Бѣлорусскіе политическіе дѣятели признали важное значеніе латышскихъ гаваней для своей хозяйственной жизни, и цѣлью Латвіи является поддержаніе дружескихъ отношеній съ этой замечательной тыльной стороною [...]

*582.2.36:051&r-065 — мк*

**1196. Пратакол паседжаньня Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі №..... за 2.04.1919**

Журнал

пасядзэня Рады Народных Міністраў Б.Н.Р. за 2 красавіка 1919 г. ў Бэрліне

№ .....[1]

<u>Былі</u>: Старшыня А.Луцкевіч

НарМін.: А.Смоліч, А.Цвікевіч і Дзержаўны Кантралёр — Л.Заяц

| Слухалі: | Пастанавілі: |
|---|---|
| 1. Даклад п. старшыні аб тым, што з переведзеных на яго імя сумаў, па- | 1. Запрапанаваць п. А.Луцкевічу звярнуцца як да Рэйхсбанку у Бэрлі- |

| | |
|---|---|
| зычэных ад Украінскага Ураду, у ліку трох міліёнаў крон на Аўстро-Угорскі банк у Вене і адзін міліён шестьсот тысячаў —66 марак — на Рэйхс Банк у Бэрліне , — дагэтуль рэалізаваць нічога ні удалося, зпрычыны забароны, наложанай на украінскія капіталы аўстрыяцкім і нямецкім Урадамі. Нямецкаму Ураду пададзены афіцыяльна у гэтай справе патрэбная заява, тэкст якой далучаецца. | не, так і да Аўстра-Угорскага Банку ў Вене з запатрэбаваньнем выплаты ці атказу на пісьме і з гэтымі атказамі звярнуцца да Украінскага Ураду. |
| 2. Справу аб атрыманьні грошы з Вены і эвэнтуальна са Станіславова. | 2.Дэлегаваць у Вену і эвэнтуальна Станіславоў А.Цвікевіча і Л.Зайца, далучыўшы да іх Галавінскага. |
| 3. Справу аб далейшай фінансавай палітыцэ у звязку з часовым фінансавым крахам. | 3. Часова прыпыніць ассыгноўку грошы на губэрнскія каммісарыяты, за выняткам гродзенскага. |
| 4. Справу[2] | |

ЛЗаяц Ант.Луцкевіч АЦвікевіч АСмоліч»
*582.2.01:015&r — ра*

[1] У канцы сакавіка Ўрад БНР пераехаў з Горадні ў Бэрлін. Пачынаючы з гэтага пратаколу нумарацыя адсутная. [2] На гэтым пратакол абрываецца.

**1197. Пратакол паседжаньня Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі №..... за 6.04.1919**

Журнал пасядзэньня Рады Народных Міністраў Б.Н.Р. за 6 красавіка м. Бэрлін
№ .....

Былі: Старшыня А.Луцкевіч
Нар. Міністры: А.Смоліч, А.Цвікевіч, Дзержаўны Кантралёр — Л.Заяц і член Рады Б.Н.Р. — Е.Белевіч

| Слухалі: | Пастанавілі: |
|---|---|
| 1. Даклад члена Рады Б.Н.Р. Е.Белевіча, які прыехаў з Адэссы. Там арганізавалася «Часов. Краёвае Правительство Бѣлоруссіи» на чале з А.А.Бохановічэм, які так падтасаваў факты, што нібыта Рады Б.Н.Р. у Менску саусім німа і яна распушчэна саусім, Урад Б.Н.Р. зліўся разам з Літоўскай «Тарыбай» і цяпер нібыта ніякага цэнтру беларускага | 1. Даклад прыняты да ведама |

німа. Гэты часовы краёвы урад Беларусі падтрымовываўся так сама наскора зфармованым «Беларускім Нацыанальным Цэнтрам», які складаўся з чэрнасоценна-буржуазных асобаў з Беларусі, як Энгэльгард, фон-Розэн і інш. Гэн. Дэнікін таксама падтрымовываў гэтыя чэрнасоценныя арганізацыі; ім быў дан прыказ аб назначэньні камандуюшчаго Западнай Арміі гэн. Гальфтэр, якому і даручэна фармаваньне беларускіх часьцей, якія павінны былі быць пасланы проці бальшэвікоў і павінны былі падтрымовываць «Временное краевое правительство Бѣлоруссіи» з А.А.Бахановічэм на чале, які сваё права на уладу абасновываў тым што ён, як старшыня Цэнтр. Каміт. Гродзенск. бежэнскіх арганізац.» і можэ стварыць «Правит. Бѣлоруссіи», бо толькі «Цэнтр. Камітэт Гродзенскіх беж. арган.» мае права бараніць інтэрэсы Гродзеншчыны, якая адна толькі нізанята большэвікамі.
Гэта авантура ні ўдалася Бахановічу толькі таму, што удалося атчыніць вочы усім, як фактычна стаіць справа. Удалося добра інфармаваць аб беларускай справе прадстаўнікоў Entente праз кап. Ладнова, які ад Адэскіх беларусаў паехаў у Парыж.
Яшчэ у пачатку лютаго «Беларускі Нацыанальны Цэнтр» даведаўшыся аб авантуры Бохановіча, перэстаў падтрымовываць яго і сам таксама у апошні час спыніў працу. Уся беларуская работа знаходзіцца цяпер у руках нашего Консула Некрашэвіча (праца палітычная) а справа ваенная ў руках беларускаго ваенаго прэдстаўніка палк. Кондра [?]; абодвы яны прыйшлі у цесны кантакт з Entente.
Дабравольцы[1] жа да праўдзіва беларускіх дэмакратычных арганізацыяў адносяцца надта варожа; быў выпадак нават разгром беларускай бежанскай арганізацыі адэскай дружынай,

| | |
|---|---|
| якая знаходзіцца пад загадам аружных дабравольчэскіх сілаў (гэн. Дэнікін). Посьле разгрому было многа асобаў і дзеячоў беларускіх арыштавана, але цяпер усе выпушчэны. (Дакумэнты аб усім памяненым да гэтаго далучаюцца). | |
| 2. Справу аб грашах, якія знаходзюцца у сэйфе | 2. Даручыць Цьвікевічу і Зайцу як найвыгадней разменяць «керэнкі» на інш. валюту, а таксама і «думскія» і ўсё перэвязьці у Прагу. Узяць з Гародні сто пяцьдзесят тысячаў думскіх рублёў і перэвязьці у кассу Бэрлінскай Дэлегацыі. |
| 3. Справу аб дэлегацыях, якія маюць працаваць за граніцай | 3. Даручаецца міністру заграпічных спраў з'арганізаваць дэлегацыю ў Парыж. Паслом на Украіне назначыць часова Л.Зайца, якому на выдаткі пасольства ассыгнаваць дваццаць тысячаў марак пад атчот. На парыжскую дэлегацыю ассыгнаваць аванс міністру заграпічных справаў (да семідзесяці тысячаў марак). |

ЛЗаяц Ант.Луцкевіч АЦвікевіч АСмоліч

*582.2.01:015r-016&r — pa*

[1] Вайскоўцы Дабравольчай Арміі Дзянікіна.

**1198. Пратакол паседжаньня Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі №..... за 8.04.1919**

Журнал
пасядзэньня Рады Народных Міністраў
Б.Н.Р. за 8 красавіка 1919 г.
м. Бэрлін
№ .....

Былі: Старшыня А.Луцкевіч
Нар.Міністры: А.Смоліч, А.Цвікевіч
Дзержаўны Кантралёр — Л.Заяц

| Слухалі: | Пастанавілі: |
|---|---|
| 1. Слухалі заяву А.Смоліча аб спісанні з яго авансавага рахунку 1600 марак, якія у яго абрабавалі у «Здолбуново», калі у яго разам з другімі абабралі грошы дзержаўнага скарбу. | 1. Спісаць з авансаваго рахунку А.Смоліча адну тысячу шестьсот марак і запісаць на рахунак выпадковых стратаў Дзержаўнага скарбу. |

| | |
|---|---|
| 2. Справу аб выплаце даўгоў Б.Н.Р., пэнсыі служачым і авансавых разрахункаў | 2. Пэнсыю ўсім выплаціць, а таксама зрабіць разрахункі як з даўгамі, так і з авансамі. Прыймаючы пад увагу, што курс рускаго рубля надта панізіўся у стасунку да марак, якімі павінна рабіцца выплата, выплачываць у рускай валюце па курсу адзін рускі рубель (думскі і керанскі) = 65 пфэн. Прыймаючы пад увагу, што посьле разрахунку многія служачыя едуць у мейсцы, гдзе ходзіць і мае моц расійская валюта, выплаціць гэтым служачым у расійскай валюце па курсу адзін рубель = адной марцэ, прычым даць, па меры патрэбы, ім на дарогу маркамі. Пры выплаце кронамі лічыць 1 марку = 2 кронам. |
| 3. Аб перадачы кассы Укр. Пасольства Паслу на Украіне Л.Зайцу. | 3. На рахунак ассыгнаваных Пасольству на Украіне двадцаці тысячаў (20.000) марак выдаць Паслу Л.Зайцу: чатыры тысячы марак, восем тысячаў «керэнак» і тры тысячы чатыриста двадцаць пяць крон, якія спісаць з авансаў Пасольства ў Бэрліне. |

ЛЗаяц Ант.Луцкевіч АЦвікевіч АСмоліч

*582.2.01:018&r — ра*

**1199. Расьпіска Эл.Ольчака (Бэрлін) за 8.04.1919 аб атрыманьні 400 марак за пасярэдніцтва ў найме кватэры па Kaiser Allee 209 для Беларускага Пасольства**

*582.2.47:014 — ра*

**1200. Нота пратэсту Міністэрства Беларускіх Справаў Літоўскага Ўраду за 11.04.1919 (вых. №473, Коўна, Міцкевіча 13-а) у справе заняцьця палякамі г. Горадні, накіраваная ўпаўнаважанаму Нямецкага Ўраду ў Літве Э.Цымэрле**

*582.1.15:161 — мк*

**1201. Паўнамоцтва Міністэрства Замежных Справаў БНР (Горадня) [Аркадзю Смолічу?] за 12.04.1919 (вых. № 46/2006)**

Беларуская Народная Рэспубліка
Міністэрства Заграрічных Спраў

Горадня, 12 красавіка 1919 г.
№ 46/2006

ПАУНАМОЧЧА

Гэтым сьведчыцца, што паказчык гэтага, грамадзянін .................... дэлегуецца у Варшаву, як паунамочны прадстаунік Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі дзеля вядзеньня перагавораў з Урадам Польскае Дзяржавы аб завязаньні пастаянных дыплематычных зносін між Урадамі Беларускім і Польскім і аб зьвязаных з гэтым пытаньнях.

МІНІСТЭР ЗАГРАНІЧНЫХ СПРАУ:
Ант.Луцкевіч

Кіраунік Канцэлярыі:
Антонъ Борикъ
*582.2.37:002-003 — ма*

**1202. Адказ упаўнаважанага Нямецкага Ўраду ў Літве Э.Цымэрле за 14.04.1919 на ноту пратэсту Міністэрства Беларускіх Справаў**
*582.1.15:162 — мк*

**1203. Зварот паўнамоцнага прадстаўніка Ўраду БНР у Варшаве да Ўраду Польскай Дзяржавы за ??.04.1919**

Да Высокаго Ураду Польскай Дзержавы.

Ад Імяні Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі, як яго упаунамочны прэдстаунік, маю гонар зьвярнуцца да Высокага Ураду Польскай Дзержавы с просьбай аб узнаньні Беларускае Народнае Рэспублікі і яе незалежнасьці і аб завязаньні сталых стасункау яе Урадам грунтуючыся на ніжэй паданых фактах:

У сьнежні 1917-го году у Менску адбыуся Усебеларускі Конгрэс, на якім воля Беларускаго Народу была выяулена з усей мажліваю паунатой (Конгрэс меу каля 2.000 дэлегатау ад усіх гмінау этнографічнай Беларусі). Першая пастанова Конгрэса, прынятая аднагалосна, устанауляе Беларускую Рэспубліку і гаворыць аб недзялімасьці яе тэррыторыі. Выбраная Конгрэсам Рада, дапоуніушы сябе прэдстаунікамі усіх нацыанальных меншасьцяу краю (палякау, жыдоу і інш.), а таксама і важнейшых культурных і экономічных арганізацый і мейсцовых самоуправау прыняла імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі і усе функцыі законодаучаго органу.

Выконуючы даручэньне Конгрэса яна стварыла 19/II-1918-году Першы Беларускі Урад, актам ад 9-III-1918-году констытуіровала Беларускую Народную Рэспубліку і урэшці 25-го сакавіка 1918-го году абвесьціла Беларускую Народную Рэспубліку Незалежнаю і Вольнаю Дзержаваю.

Тэкст апошняго акту дзеля яго асаблівай важнасьці прыкладаецца.

Нямецкая окупацыйная улада, якая панавала на Беларусі у 1918 г хоц[ь] ні магла знішчыць беларускае дзержаунасьці, аднак безканечна тамавала працу Беларускаго Ураду. Зьмяніушая яе маскоуская окупацыйная улада (савецкая) павяла з Беларускім Урадам зацятую барацьбу. Урад і усе яго агенты абвепчаны по за правам. З гэтай прычыны Беларускі Урад, на чале якога стаіць цяпер п. Антон Луцкевіч, атрымаушы ад Рады

Рэспублікі самыя шырокія упаважненьня, змушаны быу пакінуць Менск і перавесьціся у Горадню і Коуну. Цяпер беларускія землі займаюцца войскамі Польскай Дзержавы. Офіцыальные асьвядчэньні прэдстаунікоу Польскаго Ураду запэуняюць у тым, што гэтая войсковая опэрацыя не мае ніякіх мэтау анэксыйных, а толькі чыста стратэгічныя, што польскія войскі нясуць вольнасьць на абшары гістарычнай Літвы для усіх яе Народау. Адвечныя сьвязі і сымпатыі, якія істнуюць паміж Польскім і Беларускім народамі даюць права надзеяцца, што адносіны Польскаго Ураду да Беларускай Народнай Рэспублікі будуць шмат прыхільнейшымі ад адносінау папярэдніх акупантау.

Цяпер, як ніколі Польскі Урад мае і поуную магчымасьць чынам выявіць свае адносіны да беларускай дзержаунасьці. З боку фармальнаго таму німа перашкодау. Народ Беларускі выразна заявіу аб сваім праві на дзержаунае істнаваньне. Акт самавызначэньня стауся. Беларускі Урад просіць цяпер толькі аб узнаньні гэтаго акту і усіх выплываючых з яго вынікау.

Паунамочны Прэдстаунік Ураду Беларускай
Народнай Рэспублікі: (Подпіс)

*582.2.13:004&r — мк*
*582.2.38:004&r — мк*

---

Дакладная дата невядомая. Магчыма, гэты зварот перадаў Пілсудзкаму Аркадзь Смоліч падчас адмысловай аўдыенцыі. Гл. Пануцэвіч. В. Горадзеншчына ў нацыянальным руху ў 1918-1919 гадох // Бацькаўшчына (Мюнхен). №3-4. 1964.

**1204. Мэмарыял да польскіх уладаў з прапановамі арганізацыі палітычнага ладу Беларусі**

*582.2.13:024-026 — мк*
*582.2.38:106-108 — мк*

---

Дата й абставіны невядомыя. Магчыма, пададзены разам з папярэднім дакумэнтам.

**1205. Даведка Міністэрства Замежных Справаў БНР аб складзе Дыпляматычнае Місіі БНР у Бэрліне (Kaiseralle 209-I) за 4.05.1919 дзеля атрыманьня харчовых картак**

1) Ministerpräsident u. Minister des Ausseres Anton v. Lutzkewitsch;
2) Gesandter Arkadius Smolitsch;
3) Beamter Anton Boryk;
4) Beamter Johann Natusewitsch.

*582.2.42:020 — ра*

**1206. Нота Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі старшыні Мірнай Канфэрэнцыі ў Парыжы за 8.05.1919 (вых. №64/2024) з пратэстам супраць польскае акупацыі Віленшчыны і ўсталяваньня на акупаваных землях польскае цывільнае адміністрацыі**

Пану Старшыні Мірнай Канферэнцыі у Парыжу.

Выступаючы пад штандарам барацьбы з бальшавізмам, польскія войскі крок за крокам захопліваюць землі Беларускай Народнай Рэспублікі.

Заняушы сперша — паводле угоды з Нямецкім урадам — Городзеншчыну, яны цяпер аккупіравалі адвечную сталіцу Беларуска-Літоускай Дзержавы — Вільню.

Карыстаючыся тым, што нямецкія уласьці непадусьцілі арганізацыі беларускіх урадовых войск, палякі, ня уходзячы ні у якія зносіны з мясцовымі органамі беларускай дзяржаунай уласьці, сілай штыкоу сваіх заводзяць у аккупіраваных Беларускіх зямлях польскае цывільнае упрауленьне, апавяшчаючы, што польскіе чыноунікі будуць правадзіць выбары дэпутатоу ад народу, якія бач, павіны выявіць Народную Волю.

Натуральна, што пад націскам польскай аружнай сілы аб свабодным выяуленьні волі народу ня можа быць ні якой гутаркі. Аб гэтым вельмі красамоуна сьведчыць цэлы рад адбыушыхся ужо безпрычынных арэштоу беларускіх дзеячоу, вядомых сваей нязгодлівасьцю з польскімі захватнымі плянамі[1].

Аб істоце-ж справы насяленьне Беларусі ужо выявіла сваю волю на Усебеларускім Нацыянальным Кангрэсе у Менску у сьнежэні 1917 году, абвесьціушы Беларускую Народную Рэспубліку у этнографічна-гістарычных межах і прызваушы да жыцьця правадаучую уласьць у асобе Рады Рэспублікі і урадовую — у асобе Рады Міністроу.

Беларускі Урад гэтым зьвертаецца да Мірнай Канферэнцыі з самым гарачым пратэстам проці захвату палякамі цывільнаго упрауленьня у акупіраваных імі Беларускіх землях і проці падгатоукі польскімі акупантамі, пры зусім не нармальных варунках, «выяуленьня волі» тэрорызаванаго імі насяленьня. Беларускі урад заяуляе, што на Усходзе мір магчымы толькі на аснове спешнаго прызнаньня усіх новаутвароных дзяржаўных арганізмау і справядлівага разгранічэньня іх паводле этнографічнаго прынцыпу, — захват-жа палякамі той ці іншай часьці Беларускай зямлі, хоцьбы і апрауданы вырванай у насяленьня штыкамі ці інтрыгай згодай, будзе зауседы станавіць ніколі не зажываючую рану і прычынай самай вострай нацыянальнай барацьбы, творучы на Усходзе Эуропы новые Балканы.

Адказ за магчымыя пасьледствы, справакаваныя польскай акцыяй, Беларускі Урад цэлікам ускладае на Урад Польшчы.

8 Мая 1919 г.
*582.2.33:006&r — мк фра*[2]
*582.2.33:037&r — мк рас*
*582.2.38:081&r — мк бел*

[1] На пачатку красавіка ў Крынках арыштаваны Л.Дзекуць-Малей, на пачатку траўня ў Менску арыштаваны Я.Серада, а ў Вільні — А.Карабач. [2] Частка (VI) комплексу дакумэнтаў, падрыхтаваных Парыжскай дэлегацыяй БНР для паданьня на разгляд Канфэрэнцыі.

**1207. Загад Ураду БНР за 11.05.1919 аб павышэньні Аўгена Ладнова да рангу палкоўніка**
*582.1.04:022r — p*

**1208. Пасьведчаньне Рады Народных Міністраў БНР за 11.05.1919 (вых. №1/161) аб наданьні міністру нацыянальнай абароны БНР палкоўніку Аўгену Ладнову правоў весьці перагаворы з замежнымі ўрадамі і іх прадстаўнікамі ва ўсіх пытаньнях, якія датычаць нацыянальнай абароны БНР**

*582.1.04:004&r — ма*
*582.1.04:005&r — мк*

**1209. Візытоўка Аўгена Ладнова**

Colonel E.Ladnoff
Membre de la délégation de la Russie-Blanche
à la Conférence de la Paix
Paris 8° 24 Rue Bayard Tel.: Passy 19-62

*582.1.71:013*

---

На візытоўцы дата: 13.V.20

**1210. Пратакол паседжаньня Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі №..... за 21.05.1919**

Журнал
пасядзэньня Рады Народных Міністраў Б.Н.Р.
за 21 травеня 1919 г.
м. Бэрлін
№ .....

Старшыня —А.Луцкевіч
Міністры — А.Цвікевіч, В.Захарка
Дзержаўны Кантралёр — Л.Заяц
Сэкрэтар Рады Б.Н.Р. — П.Крэчэўскі

| Слухалі: | Пастанавілі: |
|---|---|
| 1. Даклад А.Цьвікевіча аб тым, што была зроблена Міссыей Б.Н.Р., якая ехала на Украіну. Праца зьвелася глаўным чынам к таму, каб атрымаць грошы як з сэйфу (300.000 рубл. керэнск.), так і па венскаму акрэдытыву (3.000.000 крон), а таксама і аб пераводзе гэтых ўсіх грошы часткай у Бэрлін, часткай у Прагу. Дзякуючы забароне, якая была наложэна на гэтыя грошы, прыйшлося надта многа часу патраціць на тое, каб атрымаць гэтыя грошы, а посьле і перэвязьці іх. Па дарозе былі зроблены крокі зьліжэньня з прэдстаўнікам дыплёмат. Францыі (комэндант Пюжо ў Празе), Украіны (п. Славінскі | 1. Прыняць да ведама і дзякаваць. |

| | |
|---|---|
| — пасол у Празе), Заходняй і Ўсходняй Украіны (пп. Ліпінскі, Васілько і Сіньгалевіч — паслы ў Вене). Усе дыплёматычныя прэдстаўнікі памянёных дзержаваў надта прыхільна адносіліся ад імені сваіх урадаў да думкі Беларускай Нізалежнай Дзержавы, якую Украіна як Усходняя так і Заходняя усягды гатовы падтрымаць (падробны фінансавы адчот далучаецца). | |
| 2. Даклад п. В.Захарко аб палажэньні на мейсцох у краю перэд оккупацыей польскіх войск. Вяліся перэгаворы аб граніцах з літвінамі. Прыняты былі усе меры інфармацыі прэдстаўніка французск. місыі у Коўне падп. Рэбуль, які абецаў усё зрабіць, каб аб беларускай справе добра ведаў Урад Францыі. Літвіны апошні час надта асьцярожна і нават ніпрыхільна адносіліся да беларускай справе, баючыся яе пашырэньня. (Літоўская Дэлегацыя ў Бэрлін бэз беларусаў)[1]. | 2. Прыняць да ведама |
| 3. Даклад п. Луцкевіча аб нашай міжнарадовай сытуацыі, глаўным чынам ў звязку з пасуваньнем польскіх легіонаў на Беларусь. Паездка ў Прагу з мэтай зьліжэньня Чэхіі і Беларусі[2], рэзультатам чаго з'яўляецца: 1) п. Массарык абяцаў падтрымаць беларускую справу наагул; 2) аддаў паручэньне міністру Бэнэшу ў Парыжы актыўна падтрымаць беларускую акцыю і беларускую дэлегацыю; 3) згода прыняць пастаяннаго неафіцыяльнаго прэдстаўніка ў Празе; 4) абецанка ў такім прыпадку паслаць Прэдстаўніка Чэхіі да беларускаго Ураду — на такіх-жа асновах. Дэлегацыя ў складзе гэн. Кондратовіча, п.п. Азнабішына і Баркова нарэшце атрымала пазваленьне і выехала ў Парыж[3] дзеля патрэбнай інфармацыі канфэрэнцыі аб беларускай справе. Справа наша надта пайшла | 3. Прыняць да ведама |

| | |
|---|---|
| на добрае посьле ўступленьня польскіх войск на Беларусь, бо усе ворагі Польшчы гатовы беларусаў проці Польскаго нашэствія падтрымаць усімі спосабамі — адно, недовольства селян-беларусаў проці палякаў — другое. | |
| 4. Даклад гэн. Давыдава аб вайсковых беларускіх фармаваньнях дзеля адбароны Беларусі ад бальшэвікоў і палякаў, якія занялі тэррыторыю Беларусі (даклад прыкладаецца і сьмета таксама). | 4. а) Прыймаючы пад увагу цяжкае становішчэ Беларусі, прыступіць адразу да арганізацыі нацыанальнага войска дзеля абароны Беларускай Народн. Рэсп.<br>б) Утварыць адразу-жа ў Бэрліне арганізацыйны аддзел ваеннаго міністэрства, назначыўшы начальнікам гэтаго аддзелу гэн.-маіора Лявона Давыдава, лічучы яго службу ад 1 гэтаго мая;<br>в) Прэдстаўленную гэн. Давыдавым сьмету у агульным ліку на першы мес. 23.700 мар (двадцаць тры тысячы семсот мар) зацьвердзіць і на далейш. месяцы зацьв. па 22.000 мар. (двадцаць дзьве тысячы);<br>г) Адчыніць крэдыт гэн.-м. Давыдаву у ліку да 100.000 мар. (сто тысячаў) пад атчот на выдачу авансаў афіцэрам, замоўленым на службу у беларускую армію. |
| 5. Справу аб пазычцэ на утрыманьне беларускай арміі і адміністрацыйнаго дзержаўнаго апарату. | 5. Зрабіць дзержаўную загранічную пазычку да 500 мілліонаў марак (пяцьсот міл. марак). |
| 6. Аб пасылцы дыплёматычны[х] прэдстаўнікоў Б.Н.Р. да Чэхіі, Літвы, Латвіі, Расіі (небольшэвіцкай). | 6. Назначыць пры першай магчымасьці прэдстаўнікоў Б.Н.Р. да памянёных дзержаваў. |
| 7. Аб Консульстве у Польшчы. | 7. З прычыны варожых адносін Польскаго Ураду да Б.Н.Р., справу аб адчыненьні Консульства ў Варшаве спыніць. |

ЛЗаяц Ант.Луцкевіч АЦвікевіч Захарка Крэчэўскі

*582.2.01:019&r-020&r — ра*

[1] Вацлаў Ластоўскі ад сьнежня 1918 да канца сакавіка 1919 займаў пасаду беларускага дарадніка ў дыпляматычным прадстаўніцтве Літвы ў Бэрліне. [2] А.Луцкевіч быў прыняты прэзыдэнтам Чэха-Славаччыны Т.Масарыкам у Градчанах 17 красавіка 1919 году. [3] Выехалі 29 красавіка 1919 году.

**1211. Даклад генэрал-маёра Генэральнага Штабу Лявона Давыдава Радзе Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі (Бэрлін) за 5.05.1919 у справе фармаваньня на тэрыторыі Нямеччыны «русскихъ отрядовъ изъ добровольцевъ, военноплѣнныхъ и тѣхъ русскихъ офицеровъ, которые нынѣ находятся въ Германіи»**

*582.2.01:021&r-022&r*

**1212. Схема будовы атраду Беларускіх Збройных Сілаў, далучаная да дакладу генэрал-маёра Давыдава**

*582.2.01:023*

**1213. Каштарыс Арганізацыйнага Аддзелу Міністэрства Абароны Беларускай Народнай Рэспублікі, далучаны да дакладу генэрал-маёра Давыдава**

*582.2.01:024*

**1214. Мэмарандум К.Антонава аб утварэньні Заходняга фронту для барацьбы з бальшавізмам, складзены ў Парыжы 21.05.1919**

*582.2.33:023-027 — мк*

У мэмарандуме гаворыцца аб неабходнасьці ўтварэньня з паасобных вайсковых фармаваньняў новых дзяржаваў ад Балтыкі да Чорнага мора адзінага Заходняга фронту для барацьбы з бальшавікамі («изъ войскъ эстонскихъ, латышскихъ, прибалтійскихъ, литовскихъ, бѣлорусскихъ, польскихъ, чехо-словацкихъ, украинскихъ и румынскихъ»).

**1215. Пратакол паседжаньня Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі №..... за 22.05.1919**

Журнал
пасядзэньня Рады Народных Міністраў
Б.Н.Р. за 22 травеня 1919 г.
м. Бэрлін
№ .....

Старшыня —А.Луцкевіч
Н. Міністры — А.Цвікевіч, В.Захарка
Дзержаўны Кантралёр — Л.Заяц
Сэкрэтар Рады Б.Н.Р. — П.Крэчэўскі

| Слухалі: | Пастанавілі: |
|---|---|
| 1. Аб заняцьці становішча кіраўніка міністэрства абароны | 1. Назначыць кіраўніком міністэрства абароны члена Рады Рэспублікі Евгенія Ладнова і вызваць яго дзеля гэтай справы з Парыжу |
| 2. Заяву п. В.Захарко аб тым, каб яго звольнілі ад абавязкаў кіраваньня грашовымі справамі (заява далучаецца) | 2. а) Міністра бэз партфэлю п. Захарко асвабадзіць ад заведываньня міністэрствам фінансаў з момэнту прыняцьця гэтага міністэрства новай асобай |

| | |
|---|---|
| | б) Запрасіць на пост кіраўніка міністэрства фінансаў праф. Доўнар-Запольскаго. |
| 3. Справу аб Дэлегацыі на Украіне. | 3. Заместа п. Л.Зайца паслаць надзвычайным паслом да Украінскаго Ураду п. А.Цьвікевіча, якому даручыць зрабіць у украінцаў заём да 50 мілліонаў (пяцьдзесят міл.), як другую бэз % пазыку срокам да 5 (пяці) гадоў. |
| 4. Справу аб замяшчэньні становішча Старшыні Рады Нар. Мін., з прычыны ад'езду яго ў Парыж | 4. Да прыезду ў Бэрлін Намесьніка Старшыні А.Смоліча прасіць замешчаць старшыню Рады Нар. Мін. Б.Захарко |
| 5. Аб склíканьні Рады Рэспублікі, бо важнасьць момэнт[у] гэтаго патрэбуе | 5. Прасіць сэкрэтара Рады Б.Н.Р. п. Крэчэўскаго склікаць на нараду, гдзе гэта будзе магчымым, членаў Прэзыдыума Рады і прэдстаўнікоў усіх фракцыяў дзеля справаздачы ім аб працы Ураду і праэкта на будучыну, а таксама дзеля выясьненьня магчымасьці і патрэбы чароднай сэссіі Рады. |
| 6. Справу аб грашах, атрыманых з венскаго сэйфу: (300.000) рубл. і па венскаму аккрэдытыву (3.000.000 нешт[эмплёваных] крон). Гэтыя грошы у большай сваей часьці разменены на гэрм. маркі і перэведзены ў Бэрлін, а часьць — ў нештэмплёваных кронах і чэскай валюце — ў Прагу (дзьвесьце восемдзесят пяць тыс. — 285 тыс. нешт. крон паложэна ў сэйф і сто дзевяць тысячаў чэскіх (109 тыс.) крон застаўлена на бягучым рахунку у «Жывностэнскім банку»). | 6. Запісаць на прыход Дзержаўнаго Скарбу 285 (дзьвесьце восемдзесят пяць) тысячаў крон нештэмп., застаўл. у сэйфе «Zywnostenska Banka» — Praha, 109 тысячаў (сто дзевяць тыс.) чэскіх карон, заст. на бягучым рахунку ў тым жэ самым банку; прывезеныя грошы гатоўкай перэдаць мін. фінансаў для запісі на прыход: а іменна 1.125.000 (адзін мілліон сто двадцаць пяць тысячаў) гэрм. марак і 286.600 руб. (сто тысячаў думскіх і сто восемдзесят шэсьць тысячаў шэсьцьсот керэнскіх рубл.) |
| 7. Аб сьметах на утрыманьне рожных прэдстаўніцтваў Б.Н.Р. і міністэрстваў, лічучы на 6 месяцаў | 7. Па Міністэрству Загранічных Спраў:<br>Пасольствы і дэлегацыі:<br>1) ў Парыжы — 400.000. м.<br>2) " Бэрліне 15.000х6=90.000. "<br>3) " Празе 8.000х6=48.000. чэскіх карон<br>4) " Літве 8.000х6=48.000. мар. |

5) " Латвіі 8.000x6=48.000 "
6) на Украіне на неазначэнны час — 85.000 крон нешт.
7) на экстр. выдаткі міністэрства — 50.000 м

усяго 636.000 (шесьцьсот трыдцаць шэсьць тысячаў мар.)
48.000 (сорак восем тыс.) чэскіх карон і
85.000 (восемдзесят пяць тыс.) нешт. крон.

Ваеннае міністэрства (абароны)
на ваенна арганізацыйны аддзел
аднаразова — 100.000 м.
і на 6x25.000 — 150.000 "

250.000 (дзьвесьце пяцьдзесят тысячаў) марак

Міністэрства Унутрэнных спраў
на арганізацыйна-агітацыйную працу
75.000x6=450.000 м.
усяго чэтырэста пяцьдзесят тысячаў м.

Міністэрства Прасьветы
на 20.000x6=120.000 м.
усяго сто двадцаць тысячаў мар.

Міністэрства фінансаў
10.000x6=60.000 м.
усяго шэсьцьдзесят тысячаў мар.

У распараджэньне Рады Міністраў
40.000x6=240.000 мар. (дзьвесьце сорак тыс.)

Дзержаўны кантроль
10.000x6=60.000 (шэсьцьдзесят тысячаў) мар.

У распараджэньне Рады Рэспублікі:
50.000x6=300.000 (трыста тысячаў) марак

8. Справу аб астаўленьні П.Крэчэўскім службы у літвіноў у зьвязку з магчымасьцю фактычнай працы па Радзе Бел. Нар. Рэсп.

8. Прасіць П.Крэчэўскага выпаўняць толькі свае абавязкі сэкрэтара Рады Б.Н.Р., кінуўшы службу у літвіноў. Выплачываць яму пэнсыю з 1 травеня 19 г. , прыраўнаваўшы яго пэнсыю да пэнсыі міністраў.

ЛЗаяц Ант.Луцкевіч АЦвікевіч Захарка Крэчэўскі
*582.2.01:025&r-026&r — ра*

**1216. Рапарт Васіля Захаркі старшыні Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі (Бэрлін) за 22.05.1919 з просьбай вызваліць яго ад абавязкаў заведваньня грашовымі справамі з прычыны нездароўя**
*582.2.01:027&r*

**1217. Паведамленьне аб жыдоўскім зьезьдзе ў Парыжы 24.05.1919**
*582.2.33:036 — мк*

Прэсавае паведамленьне пад загалоўкам «NOTE POLOGNE II», у якім аналізуецца становішча жыдоў у Польшчы, Літве, Галічыне, Румыніі; паведамляецца аб пагромах у Пінску, дзе разам з бальшавікамі палякі забілі шмат жыдоў

**1218. Нататкі старшыні Дэлегацыі БНР на Мірнай Канфэрэнцыі ў Парыжы Антона Луцкевіча (Парыж) за 30.05.1919**
30 мая 1919 г. Paris.

Сягоньня я з п. Ознобішыным зрабіў візыту Маклакову, як апошняму паслу Расеі.

У гутарцы аб нашых адносінах з новай Расеей Маклаков сказаў:

«Акт аб незалежнасьці Беларусі быў аднастаронны і з гэтай прычыны Расея яго ня можа лічыць правамочным: гэткім ён мог-бы стацца толькі тады, калі-б яго пацьвярдзіла Агульна-Расейская Констытуанта. Цяпержа — дадаў Маклаков жартліва — вы проці нас бунтаўшчыкі!»

Ант. Луцкевіч.
*582.2.33:033*

**1219. Нататкі аб межах Польшчы, Літвы й Латвіі**
*582.2.43:001-004 — р*

Дата й абставіны невядомыя.

**1220. Мэмарандум у справе беларусаў у Літоўскай Дзяржаве, пададзены Дамінікам Сямашкам Мірнай канфэрэнцыі ў Парыжы ??.06.1919**
Делегація Литвы на
Мирной Конференціи
24 ул. Байяръ Париж.

МЕМОРАНДУМ
касающійся бѣлоруссовъ въ Литовскомъ государствѣ.

Послѣ Германской революціи, заключенія перемирія и установленія правительства на Литвѣ, Государственный Совѣтъ Литвы — Литовская Тарыба вступила съ представителями бѣлорусскаго и еврейскаго населенія въ соглашеніе относительно ихъ вхожденія въ Тарыбу. Со стороны бѣлоруссовъ въ этомъ соглашеніи участвовалъ главный національный органъ бѣлоруссовъ, существовавшій въ первой германской оккупаціи — Бѣлорусскій Національный Совѣтъ, избранный членами національнаго съѣзда бѣлоруссовъ Виленской и Гродненской и части Минской губерній, состоявшемся въ январѣ 1918 г. Верховный Бѣлорусскій Національный Совѣтъ въ Вильнѣ делегировалъ своихъ представителей въ Тарыбу, а именно: Членовъ Президіума Верховнаго Бѣлорусскаго Національнаго Совѣта: 1) священника Толочко (вице-президентъ) 2) Ивана Луцкевича (казначея) 3) Доминика Семашко (секретаря), и членовъ Совѣта: 4) Янко Станкевича, 5) Вацлава Ластовскаго и 6) Святополкъ-Мирскаго.

Въ ноябрѣ 1918 года всѣ эти представители были кооптированы въ составъ Тарыбы. Делегаты бѣлоруссы вошли въ составъ Законодательнаго органа согласно резолюціямъ принятымъ Литовскимъ Правительствомъ и Тарыбой.

Важнѣйшія черты этих резолюцій сводятся къ нижеслѣдующимъ пунктамъ:

1) Бѣлоруссы съ незапамятныхъ временъ живутъ въ Литвѣ и считаютъ своимъ долгомъ работать совмѣстно съ литовцами надъ возстановленіемъ общаго имъ Литовскаго государства и защищать независимость этого государства извнѣ.

2) Границы Литвы въ общихъ чертахъ должны пройти по границамъ Виленской, Гродненской, Ковенской и Сувальской губерній.

3) Литовское Правительство должно защищать національныя права и Бѣлорусское населеніе и противодѣйствовать сліянію с Польшей Бѣлорусской Территоріи Гродненской губерніи (уѣзды Сокольскій, Бѣльскій и Бѣлостокскій). Эти основныя части Литвы (Вся Гродненская губернія) должны входить въ составъ Литовской территоріи.

Литовское Правительство назначаетъ одного Министра по Бѣлорусскимъ Дѣламъ, избирая Его из среды кандидатовъ, выдвинутыхъ Бѣлорусскимъ Національнымъ Совѣтомъ г. Вильны.

Съ тѣхъ поръ, какъ это соглашеніе было заключено, представители Бѣлорусскаго народа работаютъ въ полномъ согласіи съ Правительствомъ Литвы. Язэп Воронко несетъ обязаности Министра по Бѣлорусскимъ Дѣламъ въ Литовскомъ Кабинетѣ Министровъ, а Доминикъ Семашко делегированный на Мирную Конференцію Бѣлорусскимъ Національнымъ Совѣтомъ, утвержденъ Литовскимъ Правительствомъ и въ настоящее время является вполнѣ равноправнымъ членомъ Литовской Делегаціи въ Парижѣ.

Литовское Правительство въ Бѣлорусскіе уѣзды назначаетъ чиновниковъ только по рекомендаціи бѣлорусскихъ организацій и учрежденій (и управляетъ съ полнаго одобренія народа).

Въ виду того, что только полное равноправіе гарантируетъ основные принципы Конституціи Литовскаго Государства и предоставляетъ всѣмъ національностямъ возможность полнаго развитія, Бѣлоруссы, съ незапамятныхъ временъ населяющіе Литву, считаютъ, что ихъ права на полное развитіе этимъ самымъ являются наилучше обезпеченными Конституціей и надѣются, что сотрудничество и давнее мирное сожительство Бѣлоруссовъ и Литовцевъ сдѣлаетъ изъ Литвы цвѣтущее государство и позволитъ ей достичь полнаго развитія.

Подписалъ: Член Тарыбы и член лит. дел. на мир. конф. Д.СЕМАШКО.

С подлинным вѣрно: ЛЗаяц

*582.2.35:011 — мк*
*582.2.35:031 — мк*
*582.2.38:001&r-002 — рк бел (пер. з фра) Ластоўскага*

Дакладная дата невядомая.

**1221. Пратакол паседжаньня Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі ў Коўне №..... за 3.06.1919**

Пратакол
Заседаньня Рады Народных Міністраў
пры учасьці сябра прэзыдыума Р. Б.Н.Р.

Былі: Кузьма Тэрэшчэнко, Васіль Захарко і Петро Крэчэўскі
а 3-й гадзіне дня 3/VI.19.

Слухалі даклад кіраўніка Міністэрства Унутранных спраў аб стварэньні пры Міністэрстве Агітацыйна-палітычнага аддзелу.

Прыймаючы пад увагу вялікую патрэбнасьць у працы дзеля аб'еднаньня грамадзка-палітычнай думкі і арганізацыі беларускага народу дзеля барадзьбы з націскам варожых сіл беларускай незалежнай дзяржаўнасьці і абароны незалежнасьці і непадзельнасьці — пастанавілі: утварыць аддзел Агітацыйна-палітычны пры Міністэрстве Унутраных спраў начальнікам якога назначаіцца Член Рады Бел. Нар. Рэспуб. Тамаш Грыб з 1/VI-19.

Аклад пэнсіі [...?] начальніку аддзела устанаўляіцца ў размеры аднэй тысячы пяцісот марак у месяц (1500 м.) і пяьдзесят марак сутачных (50 м) пры службовых раз'ездах.

Намесьнік Старшыні Р.Н.М. Захарко
Кіраўнік Міністэрства Унутр. спраў К.Тэрэшчэнко
Сэкрэтар Р. Б.Н.Р. ПКрэчэўскі
*582.2.01:028 — ра*

**1222. Пратакол паседжаньня Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі ў Коўне №..... за 3.06.1919**

Пратакол
Засяданьня Рады Народных Міністраў
Былі: Захарко, Кузьма Тэрэшчэнко
пры учасьці сяброў Р. Б.Н.Р. Т.Грыба, Еф. Белевіч, Петро Крэчэўскі і К.Б.Езавітаў.

Заседаньне адчын[я]е Васіль Захарко а 3 гадз. дня 3-га чэрвеня 1919 году.

Парадак дня.
1. Справа ў звязку з тэлеграмай Зайца з Бэрліна Беларускім кангрэсе ў Вільні

Заслухаўшы тэлеграму п. Зайца аб скліканьні ў Вільні Беларускага Кангрэсу і дапаўніцельную інформацыю п. Езавітава Р.Н.М. прыймаючы пад увагу, што гэты кангрэс склікаецца без ведама ураду — Рада пастанаўляе паслаць у Вільню сваіх правамоцных прэдстаўнікоў, каб выясьніць гэтую справу на мейсцы.

Сваім прэдстаўнікам Р.Н.М. наказывае трымацца таго аснаўнога грунта на якім стаіць урад г. зн. абароны незалежнасьці і непадзельнасьці Беларусі і дзеля гэтага яны павінны ў корні спыніць уселякія магчымыя

падтасоўкі беларускай грамадзкай думкі польскай эндэцыей і яе агентамі ў справе прылучэньня Беларусі да Польшчы.

Дзеля паездкі выбіраюцца: сэкр. Р. Б.Н.Р. Петро Крэчэўскі, Кіраўнік Міністэрства Унутранных спраў Кузьма Тэрэшчэнко і сябра Рады Беларуск. Нар. Р. Тамаш Грыб і Ефім Белевіч.

Старшыней дэлэгацыі — Петро Крэчэўскі

Дзеля таго, што ў акупацыйнай частцы Беларусі можа быць вялікая патрэба ў грошах дзеля падтрыманьня ўрадавых устаноў (гімназія, прытул.) асігнаваць з дзяржаўнага скарбу сорак тысяч марак (40 тысяч марак), якія выдаць кіраўніку Унутранных спраў Кузьме Тэрэшчэнка.

Расходы по дэлегацыі і магчымыя рассходы па «конгрэссу» вядуцца старшыней дэлегацыі п. Петро Крычэўскім з зумы [?], якія атпушчаны Тэрэшчэнко.

Намесьнік Старшыні Р.Н.М. Захарко
Кіраўнік Міністэрства Унутр. спраў К.Тэрэшчэнко
Сэкрэтар Р. Б.Н.Р. ПКрэчэўскі
Сябра Р. Б.Н.Р. Тамаш Грыб
" К.Езавітаў

*582.2.01:029&r — ра*

**1223. Пратакол паседжаньня Рады Народных Міністраў БНР у Коўне за 4.06.1919**

Пратакол
заседаньня Рады народных Міністраў пры учасьці сэкрэтара Рады Б.Н.Р.
4/VI-19 а 7-ай вечара (у м. Коўні).

Парадак дня:

1. Слухалі даклад Кір. М.У.Спр. Кузьмы Тэрэшчэнко аб зацьверджэньні правамоцтва загадчыку Агітацыйна-палітычнага аддзелу пры М.У.Спр.

Пастанавілі:

1) Заслухаўшы тэкст прыложана пры гэтым правамоцтва Р.Н.М. пастанавіла зацьвердзіць гэтае правамоцтва і на аснове яго выдаць загадчыку аддзела (Агіт.-пал.) Тамашу Грыбу належную паперу, якую т. Грыб павінен зьвярнуць у Р.Н.М. ў той час, калі ён будзе звольнен ад спаўненя абавязкаў загадчыка Агітацыйна-Палітычнага аддзелу.

Намеснік Старшыні Рады Народных Міністрау Міністр фінансаў Захарка

Сэкрэтар Рады Б.Н.Р. ПКрэчэўскі
Кір. Унутр. Спраў К.Тэрэшчэнко

*582.2.01:034 — ра*

**1224. Правамоцтва Рады Народных Міністраў БНР загадчыку Агітацыйна-Палітычнага Аддзелу пры Міністэрстве Ўнутраных Справаў БНР, выдадзенае ў Коўне 4.06.1919**

[...] загадчык Агітацыйна-палітычнага аддзелу Тамаш Грыб мае права назначаць і ўвальняць урадавых палітычных павятовых і губэрнскіх камісараў, а так сама ў надзвычайных мамэнтах абвешчаць ад імя беларускага Ўраду Рады Народных Міністраў вышэйшую дзяржаўную ўладу на мейсцох і арганізацыю збройнае сілы дзеля падтрыманьня гэтае ўлады.

*582.2.01:035-036 — ра*

**1225. Тэлеграма Беларускага Зьезду Віленшчыны й Горадзеншчыны (Вільня) старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антону Луцкевічу (Парыж) за 9.06.1919**

Беларускі зьезд Горадзеншчыны і Віленшчыны вітае працу вашую па абароне незалежнасьці і непадзельнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Справа гэтая есьць справой усяго Народу Беларускаго, які сьцяною стане на абарону сваіх найпільнейшых нацыянальных інтарэсаў

*582.2.01:032 — мк*

**1226. Экстрэнны бюлетэнь аб адкрыцьці Беларускага Зьезду Віленшчыны й Горадзеншчыны за 9.06.1919**

*582.2.01:033 — д*

**1227. Выпіска з пратаколу Беларускага Зьезду Віленшчыны й Горадзеншчыны ў Вільні 9-10.06.1919**

*582.2.33:018 — мк фра*
*582.2.33:046 — мк фра*
*582.2.33:049 — мк анг*

**1228. Мэмарыял аб стаўленьні беларусаў да магчымае фэдэрацыі на Ўсходзе Эўропы, складзены Антонам Луцкевічам у Парыжы ??.0?.1919**

On peut diviser en 2 parties la question relative à la manière dont les peuple de la Russie-Blanche entendent créer un Gouvernement Russe, non Bolcheviste, en y comprenant le Gouve[r]nement de Ko[l]tchak .

D'une part on peut envisager le Gouvernement de la Grande Russie, laquelle après la création d'une série des nouveaux Etats sur les terres de l'ancienne Russie, représente avec la Sibérie un Etat unique; d'autre part un Gouvernement qui prétendrait être celui de toute la Russie (dans ses anciennes proportions).

Aussitôt après le coup d'état bolcheviste en Russie, les peuples de la Russie-Blanche manifestèrent clairement leur volonté. Le Congrès National de la Russie-Blanche, convoqué à Minsk en Décembre 1917, proclama la République Démocratique de la Russie-Blanche. Ce Congrès comprenait près de 2.000 Députés envoyés par les paysans, les Zemstvo, les villes, les coopératives, les unions professionnelles et politiques, les organisations formées par les réfugiés des provinces de Grodno et de Vilna, occupées par l'ennemi etc. Un Gouvernement provisoire fut créé, qui devait prendre en mains tous les pouvoirs de la Russie-Blanche.

Cette décision provoqua la dispersion du Congrès par les troupes russes bolchevistes. Néanmoins, le Gouvernement de la Russie-Blanche fut constitué. Le

Pouvoir Législatif fut attribué à la Rada de la République; le Pouvoir Exécutif au Conseil des Ministres. Ces deux organes furent créés avec la participation des minorités nationales: Juifs, Polonais, Grand-Russiens, etc.

Lorsque le Gouvernement de LENINE signa le traité de Paix de Brest-Litovsk qui morecelait la Russie-Blanche (d'après la ligne du front de 1915) et qui donna à l'Allemagne le droit de résoudre la question de la Russie-Blanche Occidentale (gouvernements de Vilna et de Grodno) la Rada de la République, par la loi du 25 Mars 1918, fut la première qui, malgré l'occupation Allemande, protesta de façon peremptoire contre la convention de Brest-Litovsk. Elle refusa au Gouvernement de la République des Soviets Russes le droit de disposer du territoire de la Russie-Blanche, dont le peuple avait exprimé clairement sa volonté et annonça que ses relations avec la Russie des Soviets étaient définitivement rompues.

Pour pouvoir résoudre la question ci-dessus mentionnée, il est indispenable de tenir compte des faits précités.

Or, il est tout à fait naturel que pour arriver au dévéloppement économique libre et multiple, la République Démocratique de la Russie-Blanche recherche une Alliance amicale avec ceux de ses voisins qui présentent pour elle un certain intérêt. Ces relations auront, très probablement, pour base la Fédération des Etats.

Pendant sa session de Novembre 1918, la Rada de la République a pris dans ce sens une décision définitive: tendre vers une Fédération avec des voisins qui seraient liés à la Russie-Blanche par la communauté de leurs intérêts et chez lesquels l'ordre serait réellement établi sur des bases démocratiques.

Les intérêts économiques les plus essentiels lient la Russie-Blanche avec ceux des nouveaux Etats qui lui barrent l'accès de la Mer Baltique. C'est pour cette raison qu'on trouve au premier plan l'idée de l'union avec la Lithuanie et la Lettonie. Les liens qui unissent la Russie-Blanche à l'Ukraine sont non moins forts que les précédents. Les peuples de la Russie-Blanche n'ont aucune aversion spéciale pour les Grand-Russiens. Mais, tandis que les Etats Baltiques et l'Ukraine répondent aux conditions d'une République Fédérative, proposée par la Rada, la question reste ouverte pour la Grande Russie. Qui pourrait dire maintenant, quel sera son régime politique.

Pour le moment, le principal problème qui se pose à tous les Etats nouvellement organisés sur les terres de l'ancienne Russie, c'est la construction de leur Etat et l'établissement d'une solidarité commune, en vue d'empêcher les Bolcheviks de détruire leur vie économique et intellectuelle.

Mais si la marche des évènements, aussi bien que la volonté bien déterminée de ces nations les forcent de créer dans l'Est de l'Europe une Fédération, leur union sera basée sur l'accord librement accepté par les Etats stipulants, représentés par leurs Assemblées Constituantes et par leurs Gouvernements, choisis par ces dernières, d'après des principes de droit égaux pour tous.

La création d'une Fédération Russe n'est possible dans une telle union que si les Etats séparés entrent volontairement dans la Fédération. L'acte de la Fédération doit être bilateral.

Tandis qu'un tel acte fait par une Assemblée Constituante représentant toute la Russie et dans laquelle les «allogènes» seraient en minorité, serait un acte unilateral avec un élément de contrainte.

En outre, l'entrée de la Russie-Blanche dans la Fédération Russe dépendra toujours de la participation des Etats Baltiques.

Si les nations de l'ancienne Russie se décident à renouer les relations avec les Grand-Russiens, elles seront naturellement intéressées à la solidité et à la durée du nouvel Etat. Mais on ne peut obtenir ce dernier résultat que si les différentes parties de la Fédération ne sont pas unies par des liens de contrainte et de force, mais par la conscience de l'avantage d'une telle coopération.

Toute autre conception d'une Fédération Russe ne sera qu'une Fédération temporaire. Ce sera une construction bâtie sur le sable qui tombera au premier souffle comme le fit l'ancienne Russie.

*582.1.04:045-047 — мк*
*582.2.33:038-040 — мк*

---

На арк. 47адв. (582.1.04:45-47) сінім алоўкам (почырк А.Луцкевіча) пазначана: Парыж, 1919. Дакладная дата невядомая.

**1229. Візытоўка Кляўдуша Душэўскага**

Klauduš Dušeŭski
Staršynia Centralnaj Biełaruskaj Rady
Wilenščyny i Horadzienščyny.

*582.1.71:011*

---

К.Душэўскі займаў пасаду старшыні Рады ад 11 чэрвеня да 16 ліпеня 1919 году.

**1230. Рэзалюцыя [Беларускага Зьезду Віленшчыны й Горадзеншчыны] аб палітычным палажэньні // Беларуская Думка. №21. 13.06.1919**

*582.2.43:005 — мк (Прэс-бюро ў Рызе)*
*582.2.43:007 — мк*

**1231. Рэзалюцыя, прынятая на сходзе літоўцаў у Вільні 15.06.1919, з зваротам да Прэзыдэнта Літвы й Прэм'ер-Міністра М.Сляжэвіча**

*582.1.04:066r — мк*

---

На сходзе была выслуханая справаздача аб дзейнасьці Часовага Камітэту і паведамленьні дэлегатаў, што езьдзілі ў Коўна.

**1232. «Бѣлорусскій съѣздъ въ Вильно». Інфармацыя Беларускага Прэс-Бюро ў Коўне за 16.06.1919**

*582.2.43:006 — мк*

---

На дакумэнце пазначана алоўкам: «Въ Голос Россіи».

**1233. Беларускі зьезд 9-10 чэрвеня // Беларуская Думка. №22. 16.06.1919**

*582.2.43:008 — мк (Прэс-бюро ў Рызе)*

---

З паведамленьнем пра тэлеграму А.Луцкевічу

**1234. Заява Літоўскай Місіі на Мірнай Канфэрэнцыі ў Парыжы старшыні на Агульнай Канфэрэнцыі Латвійскай, Эстонскай, Беларускай, Украінскай і Грузінскай дэлегацыяў за 16.06.1919**

DELEGATION DE LITHUANIE
Conférence de la Paix
24, Rue Bayard-Raris.
Téléphone: Passy 19-62
Télégr. Lietuva - Paris.
N° 1.285

Paris. Le 16 Juin 1919.

Monsieur le Président de la Conférence
des Délégations de LETTONIE, d'ESTHONIE,
de RUSSIE-BLANCHE, UKRAINE & GEORGIE.

8, Avenue de Camoëns
PARIS.

Monsieur le Président,

Nous vous prions de bien vouloir soumettre à la Conférence de ce jour ce qui suit:

Etant donné que dans les Conférences des Délégations des nouveaux Etats de l'ancienne Russie prennent part les Délégués de la République Blanc-Russienne qui revendiquent une grande partie du territoire lituanien, avec la capitale VILNA, et prenant en considération que jusqu'à présent il n'était pas possible d'arriver à une entente avec eux, la Délégation de Lituanie est d'avis qu'elle ne pourra dorénavant prendre part aux dites Conférences. Chaque Délégation étant souveraine, la participation aux conférences n'est pas obligatoire et ne peut influencer sur les rapports amicaux entre les Délégations elles mêmes.

Pour toutes ces raisons, la Délégation de Lituanie se voit obligée de cesser de fréquenter les réunions communes, mais en même temps, elle exprime le désir de conserver les relations les plus amicales avec les autres Délégations.

Avec nos remerciments, nous vous prions d'agréer, Monsieur le Président, l'expression de notre considération distinguée.

(signé) Galvanovski.

Господину Предсѣдателю на Общей Конференціи Латышской,
Эстонской, Бѣлорусской, Украинской и Грузинской Миссій.
8 улица Комуэнса, Париж.

Господин Предсѣдатель!

Так как на Конференціи Миссій всѣх в предѣлах бывшей Россіи вновь образовавшихся государств принимает участіе так же делегаты Бѣлорусской Республики, которые требуют для себя большую часть Литовской территоріи со столицею Вильно и принимая во вниманіе, что до сих пор нам не удалось придти с ними к соглашенію, Литовская Миссія ставит Вас в извѣстность, что Она до поры до времени не считает возможным принимать участія в высше названных конференціях.

Каждая Миссія вѣдь вполнѣ независима и поэтому участія на конференцыях не обязательно и никоим образом не может вліять на дружественное отношеніе между отдѣльными миссіями. По сему Литовская Миссія считает себя обязанной прекратить посѣщеніе общих собраній делегатов, выражая однако в то же время желаніе сохранить самыя дружественныя отношенія с остальными миссіями. С личной моей благодарностью мы просим Вас Г-н Предсѣдатель принять выраженіе в отличном нашем почтеніи.

(подписал) Гальмановскій.

С подлинным вѣрно: Секретарь Бѣлорусской Миссіи Борков.

С копіей вѣрно: Бѣлевич

*582.2.43:009 — мк рас*
*582.2.33:102 — мк рас*
*582.2.33:086 — мк фра*
*582.2.33:103 — мк фра*

**1235. Заява Віленскага Аддзелу Цэнтральнага Саюзу Каапэратываў Беларускага Краю (Вільня) Радзе Народных Міністраў БНР за 16.06.1919 з просьбай аб фінансавай дапамозе**

*582.2.40:006&r-007 — ра*
*582.2.40:008 — ра*

**1236. Суправаджальная запіска (рапарт) камандзера Беларускай Асобнай Роты Літоўскага Войска Яніцкага палкоўніку Кастусю Езавітаву да сьпісаў афіцэраў і салдатаў роты за 17.06.1919**

*582.1.05:006 — мк*
*582.1.05:007 — мк*

**1237. Сьпіс афіцэраў Беларускай Асобнай Роты**

*582.1.05:008 — мк*
*582.1.05:009 — мк*

**1238. Штатны расклад Штабу Асобнай Пяхотнай Роты і Штабу Кулямётнай Дружыны (Взвода) пры Беларускай Асобнай Роце**

*582.1.05:010&r — мк*
*582.1.05:011&r — мк*

**1239. Дэклярацыя дэлегацыяў Азэрбайджану, Эстоніі, Грузіі, Латвіі, Паўночнага Каўказу, Беларусі і Ўкраіны Парыскай Мірнай Канфэрэнцыі за 17.06.1919**

DECLARATION

Les soussignés délégués plénipotentiaires des Etats formés dans les limites de l'ancien Empire Russe, à savoir:

La République de l'Azerbaidjan,
- " - de l'Esthonie,
- " - de Géorgie,
- " - de Latvia,

- " - Nordcaucasienne,
- " - de la Russie Blanche,
- " - de l'Ukraine

ayant pris connaissance de la corréspondance échangée par le Conseil des Grandes Puissances Alliées et Associées avec l'amiral Koltchak concernant les condition[s] de l'assistance desdites Puissances au Gouvernement d'Omsk, ont l'honneur de déclarer au nom de leurs Gouvernements respectifs ce qui suit:

1. Le Républiques (..............................) se sont formées et existent par la libre volonté des peuples de ces Etats. Les Constitutions de ces Républiques sont en train d'être élaborées et leurs relations réciproques avec les Etats voisins sont en voie d'être fixées et seront déterminées par leurs Constituantes respectives qui sont déjà élues ou seront élues sur la base du suffrage universel. Les décisions des organes du pouvoir gouvernemental de la Russie quels qu'ils soient ne peuvent pas donc se rapporter aucunement aux Etats souverains (............................) et les relations réciproques entre ces Etats et la Russie ne peuvent être reglées que comme entre des Etats égaux dans tous les droits, indépendents et souverains, alors que la corréspondence ci-dessus mentionnée peut être interprétée comme la négation d'un tel droit.

2. Les Républiques nommées dans le préambule réitèrent devant la Conférence de la Paix et des Grandes Puissances la prière de reconnaître sans delai leur indépendence politique.

17 Juin 1919.

(Signatures).

*582.2.41:013 — мк рас*
*582.2.33:101 — мк рас*
*582.2.33:100 — мк фра*

**1240. Weißruthenisches Pressebüro (Berlin W.15, Kaiser-Allee 209). Nr.5. 20.06.1919**

1. Eine weißruthenische Versammlung in Wilna. — 2. Die Weißruthenische Nationale «Gramada» in Prag. — 3. Ausschreitungen der Polen in Weißruthenien

*582.2.42:038 — д*

**1241. Праект месячнага каштарысу Міністэрства Ўнутраных Спраў БНР, складзены Кузьмом Цярэшчанкам у Вільні 20.06.1919**

*582.2.40:009 — ма*

**1242. Мэмарыял у справе Беларусі паслу Вялікабрытаніі ў Варшаве**

*582.2.52:009-017 — рк*

---

Дата й абставіны невядомыя. Мэмарыял складзены ўлетку 1919 году (да заняцьця палякамі Менску) за подпісам «Pełnomocnik Rządu Białoruskiej Republiki Ludowej». У ім выкладаецца ідэя канфэдэрацыі Беларусі зь Літвой і, магчыма, Латвіяй, супраць Польшчы.

**1243. Віншавальная тэлеграма Дэлегацыі БНР на Мірнай Канфэрэнцыі ў Парыжы старшыні Канфэрэнцыі (Парыж) за 23.06.1919 з нагоды заключэньня міру**

TELEGRAMME.

Monsieur le Président de la Conférence de la Paix.
Ministère des Affaires Etrangères.
Paris;

La Délégation de la Russie-Blanche à Paris a l'honneur de présenter à vous et en votre personne à tous les Etats de l'Entente ses respectueuses et chaleureuses félicitations à l'occasion de la conclusion de la paix victorieuse.

La Délégation exprime sa profonde foi que la journée d'aujourd'hui portant aux peuples le triomphe du droit et de la justice annonce à douze millions de Blanc-Ruthènes succombant sous le joug bolcheviste une nouvelle ère de la vie libre et indépendente.

Le Président de la Délégation
(signé) Loutckevitch.
Pour copie conforme:
Le Secrétaire de la Délégation
Blanc-Ruthénienne
Barkow

*582.2.33:104 — мк фра*

**1244. Weißruthenisches Pressebüro (Berlin W.15, Kaiser-Allee 209). Nr.6. 24.06.1919**

Die Polen «arbeiten». — Die weißruthenische Kolonie in Warschau. — Ankunft einer weißruthenischen Eskadron in Kowno. — Im polnischen Okkupationsgebiet. — Bolschewistische «Selbstbestimmung»

*582.2.42:039 — д*

**1245. Нататкі старшыні Дэлегацыі БНР на Мірнай Канфэрэнцыі ў Парыжы Антона Луцкевіча (Парыж) за 24.06.1919**

24.VI.19. Міхайло Грушэўскі, прыйшоўшы ў Беларускую Дэлегацыю, заявіў:

«Паводлуг данных Украінцаў, Антанта і Колчак зышліся на тым, што Беларусь, Украіна і Вялікарусь пры адбудове Расеі павінны станавіць непадзельнае ядро. Гэтым тлумачыцца, чаму ў перапісцы між Радай Чатырох[1] і Колчаком ня ўспамінаецца ані Украіна, ані Беларусь.»

Ант. Луцкевіч.

14.VI.19.
Paris.

*582.2.33:035*

[1] Раду Чатырох, якая кіравала працамі мірнай канфэрэнцыі ў Вэрсалі, складалі прэзыдэнт ЗША Вудро Ўілсан і прэм'ер-міністры Францыі, Вялікабрытаніі й Італіі Жорж Клемансо, Дэйвід Лойд-Джордж і Віторыё Арлянда.

**1246. Ліст Антона Луцкевіча (Парыж) Дыпляматычнай Місіі БНР у Бэрліне за 25.06.1919**

Парыж, 25.VI.19.

Таварышы!

З прычыны хваробы майго сэкрэтара, які даволі цяжка занямог, я не магу паслаць Вам дэталічнай справаздачы аб нашай рабоце і нашых справах. Скажу адно: наша справа стаіць ня горш за украінскую. У гэтых днях развяжэцца пытаньне аб прадажы нам на якіх 200 мільёнаў франкаў запасаў з амэрыканскіх складоў — з 5-летнім крэдытам. Калі гэта ўдасца, будзем жыць! Апрыч таго наладжываецца справа «заходняга антібольшэвіцкага фронту» (паводлуг запіскі ген. Кондратовіча, якую дашлю), а разам з тым і выступленьня на гэтым фронці і нашых войск. Вось, няхай Давыдов не кідае працы і не губляе надзеі. Паддзержывайце яго работу з тых грошы, якія асыгнованы на нашым апошнім засяданьні, — больш нічога! Справа гэта ў нас разьвяжэцца вельмі ўжо хутка, і калі толькі ўсё выйдзе, як мы тут праектуем, — усё будзе добра! Кажу: гэта справа найбліжэйшых дзён! Глядзіце толькі, каб ніхто непатрэбны аб гэтым не даведаўся. Няхай Давыдоў аб гэтым нічога ня кажэ расейскім ваенным (ды нават і сваім), каб якім здарэньнем не дайшло да немцаў!

Старайцеся чым хутчэй прыслаць нам грошы. Калі што разьмянялі, то шліце не адкладаючы. Думаю, што цяпер курс маркі паднімецца. Прасіце ген. Дюпона[1] нам памагчы ў перасылцы.

Давыдаву скажыце, што адм. Погуляев паслаў Манкевіцу (на нашу просьбу) прыказ запісаць у самыя апошнія эшэлоны нашых беларусаў і не рабіць прашкод таму, хто да нас запісываецца. Пішыце, як стаіць наша работа між палоннымі з пагляду на чысло.

На гвалт шліце весткі аб з'езьдзе ў Вільні. Мы ведаем аб яго рэзалюцыях толькі з кароткіх газэтных заметак.

Пішыце часьцей! Гдзе Смоліч? Старайцеся зрабіць усё, каб Скірмунт сюды прыехаў.

Ад Цьвіка меў пісьмо з Прагі з 5.VI.

Пры гэтым пасылаю копію пісьма літоўскай Дэлегацыі і заяву, зробленую Конфэрэнцыі ад імя сямі дзяржаў апрача літвіноў. Гэты скандальны крок зроблены літвінамі <u>за два дні</u> перад маім адказам ім, як мы угледаемся на Віленшчыну і Гродзеншчыну, каторыя літвіны лічаць сваімі. Пашліце адзін экзэмпляр літоўскага пісьма ў Коўну, каб нашы людзі выясьнілі літоўскаму ураду работу Ічаса і Вальдэмараса[2]. Гэтыя паны (супольна з Розэнбаўмам) вядуць маскоўскую лінію і зумысьля <u>сарвалі перагаворы</u> з намі сваей заявай, <u>ня выждаўшы адказу</u>. Няхай аб гэты[м] ведае літоўскі урад!

Тымчасам канчаю. Думаю, што праз кур'ера здалею ўжо паслаць Вам трохі весялейшыя весткі.

Ант...

Перагаворы з Латвіей і Эстоніей ідуць памысна!

*582.2.33:098&r-099*

[1] Старшыня французскай вайсковай місіі ў Бэрліне. [2] Сябры літоўскай дэлегацыі на мірнай канфэрэнцыі.

**1247. Пратакол паседжаньня Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі №..... за 27.06.1919**

Журнал
пасядзэньня Рады
Народных Міністраў
м. Бэрлін

Часовы Намесьнік Старшыні — В.Захарко
Кіраўнік Мініст. Унутрэнных спраў К.Терэшчэнко
Дзержаўны кантралёр Л.Заяц і член Рады Рэспублікі Е.Белевіч

| Слухалі | Пастанавілі |
|---|---|
| 1. Падробнейшы даклад Кіраўніка Мін. Унутранных спраў К.Тэрэшчэнко і члена Рады Рэспублікі Е.Белевіча аб адбыўшымся ў Вільні 9-11 чэрвеня г.р. беларускім з'ездзе Віленшчыны і Гродзеншчыны. На гэтым з'ездзе з вялікім нацыянальным пад'емам былі прыняты рэзалюцыі аб агульна політычным палажэньні, а таксама і была паслана тэлеграмма у Парыж Радзе Народных Міністраў — на імя галавы Ураду Бел. Нар. Рэсп. А.Луцкевіча. (Рэзалюцыі далучаюцца).<br>У канцы з'езду была выбрана Цэнтральная Беларуская Рада Віленшчыны і Гродзеншчыны, у склад Прэзыдзіуму якой абраны: Старшыня — К.Душэўскі, намесьнікі — Я.Станкевіч (ваенныя справы) і М.Кахановіч (культурна-асьветныя справы); сэкрэтары — Мурашка і Тарашкевіч; члены Рады: Грыб, Алексюк, Я.Чэрэпук, А.Фохт, Ярушэвіч, Фалькевіч, Маркевіч, кс. Піотроўскі, св. Кушнёў, Сянькевіч. Пасьля абгавораў справы с прэдстаўнікамі Ураду, прэзыдзіум Рады згадзіўся працаваць пад кіраўніцтвам Рады Нар. Міністраў. | 1. Прыняць да ведама і лічыць Цэнтральную Беларускую Раду Віленшчыны і Гродзеншчыны Нацыянальна-Дзержаўнай Установай, якая знаходзіцца пад загадам Рады Народных Міністраў. |
| 2. Справу аб фінансіраванні Цэнтр. Бел. Рады Віленшчыны і Гродзеншчыны | 2. Фінансіраванне павінна адбывацца у агульна пастаноўленным парадку праз Міністэрства Унутрэнных спраў і па яго сьметах. |

| | |
|---|---|
| 3. Даклад Кіраўніка Мін. Унутр. справаў аб працы Міністэрства і яго установаў на Беларусі да паловы чэрвеня г.р. (Даклад далучаецца разам з падробнай сьметай на працу у будучыне) | 3. Даклад прыняць да ведама, а прэдстаўленую сьмету (месячную) па Міністэрству Унутрэнных спраў зацьвердзіць у агульным ліку пакуль што семідзесяці трох тысячаў двухсот (73.200) марак, лічучы выдачу дзесяці тысячаў (10.000) мар. на вуч. курсы аднаразовай. |
| 4. Справу аб грашах для працы у Менску | 4. Выдаць аванс Кіраўніку Міністэрства Унутрэнных спраў на працу у Менску пакуль што двадцаць тысячаў (20.000) керэнск. рублей. |
| 5. Дзве заявы за №№ 107 і 108 Віленскаго Аддзелу Цэнтральнаго Саюза Коопэратываў Беларускаго краю аб дапамозе ім на гандлёвы абарот 500.000 рублёў. | 5. Не маючы магчымасьці у данны момэнт, пры цяперашнім стане кассы, задаволіць прозьбу Віленскаго Аддзелу Цэнтральнаго Саюза Коопэратываў, — заявы іх аткланіць. |
| 6. Даклад Кіраўніка Мін. Унутрэнных Справаў аб тым, што народныя школкі беларускія у Гродзеншчыне атрымовываюць грошы ад аккупантаў; у Віленшчыне ж гэтыя школкі ні ад кого нічога ні атрымовываюць і трэба ім дапамагчы. Таксама трэба дапамагчы і беларускай гімназіі у Вільні хаця бы купоўляю фізычнаго кабінэту і рэмонтам будовы гімназіальнай; утрыманьне гімназіі на рахунак аккупантаў. | 6. Прынімаючы пад увагу сьмету па Народнай асьвеце, ассыгнаваць і выдаць (для перэдачы па прыналежнасьці) К.Терэшчэнку: пяць тысячаў (5.000) мар. на Віленскія беларускія народныя школкі і пяць тысячаў (5.000) мар на рэмонт беларускай Віленскай гімназіі. Апроч таго адпусьціць на закупку фізычнаго кабінэту для Віленскай беларускай гімназыі дзесяць тысячаў (10.000) мар. |
| 7. Справу аб назначэньні члена Рады Рэспублікі Е.Белевіча раднікам Пасольства ў Бэрліне глаўным чынам у справах вайсковых. | 7. Прыймаючы пад увагу вайсковыя фармаваньня і зьвязаныя з гэтым пытаньня грашовай пазычкі, назначыць Е.Белевіча раднікам Беларускай Місіі ў Бэрліне, якому даручыць увыйсьці у цесны кантакт з Арганізацыйным аддзелам Міністэрства абароны. Пэнсыю назначыць, як усім раднікам, згодна з пастановай Рады Нар. Мін. за 21/III 19 г., сто (100) мар. у суткі, пачынаючы з 1 ліпня 19 г. |

Л.Заяц Захарко К.Тэрэшчэнко Белевич

*582.2.01:030&r-031&r — ра*

**1248. Weißruthenisches Pressebüro (Berlin W.15, Kaiser-Allee 209). Nr.7. 27.06.1919**

Weißruthenischer Kongreß der Gouvernements von Wilna u. Grodno. — Die Resolution des Weißruthenischen Kongresses der Gouvernements Wilna und Grodno vom 11. Juni 1919 in Wilna. — Telegramm des Weißruthenischen Kongresses der Wilnaer und Grodnoer Landes an den Rat der Volksminister der weißruthenischen Volksrepublik

*582.2.42:040 — д*

**1249. Заява Беларускага Прадстаўніцтва ў Літоўскай Тарыбе (Коўна) Камісіі па апрацаваньню закону аб выбарах ва Ўстаноўчы Сойм (Коўна) за 27.06.1919**

Беларускае Прэдстауніцтво
у Літоускай Дзержаунай
Радзе.
27 Чэрвеня 1919 году
№28

У Камссію па апрацаваньню закону аб выборах
у Устаноучы Сойм.

На нарадзе Беларусскаго Прэдстауніцтва у Дзержаунай Літоускай Радзе, з учасьцем беларускіх грамадскіх дзеячоу, была заслухана прапазыцыя аб учасьці беларусоу у Каміссіі па апрацаваньню закону аб выбарах у Устаноучы Сойм Літвы і пастаноулено:

Дзеля таго, што першапачатковая умова Віленскай Беларускай Рады з Тарыбай да гэтуль не праведзена у жыцьце і што Літоускі Урад нават не адповедае на беларускіе пратэсты і запытаньня;

абойдзен маучаньнем пратэст Старшыні Беларускаго Прэдстауніцтва у Літоускай Дзержаунай Радзе пададзеный праз Бэрлінское Літоуское Пасольство у справе агульнадзержауных знакау, якіе друкуюцца у адной толькі літоускай, зусім не зразумелай беларусам мове;

Праэкт упарадкаваньне адносин Беларускай часьці Літвы да літоускай часьці пададзены п. Прэзыдэнту, п. Старшыні Рады Міністрау і Прэзыдіуму Тарыбы, Беларускім Прэдстауніцтвам у Літоускай Дзержаунай Радзе, да гэтуль ляжыць пад сукном;

На заяву Старшыні Беларускаго Прэдстауніцтва, проці мэморандума п. Семашко на Мірную Конфэрэнцію у Парыжы, і на запытаньне чаму да гэтуль, згодна з нашай першапачатковай умовай, у Парыжы нема другого прэдстауніка ад беларусоу, так сама нема ніякай адпаведзі; ігнараваньне слушных патрэб Беларускай стараны, Беларускае Прэдстауніцтво у праве лічыць, што Літоускі Урад кіруецца да анэксіі беларускай тэррыторыі, уключанай ім у свае граніцы, а не да супольнаго дзержаунаго будоуніцтва — і таму пастаноулено стрымацца ад працы у Каміссіі па абпрацаваньню закону аб выбарах у Сойм, да куль не будзя одповедзі на вышэй прыведзеные докумэнты і наагул абформлены нашы прауно-дзержауные адносіны; аб чым давясьці да ведама Каміссіі, п. Прэзыдэнта Літоускай Дзер-

жавы, Старшыні Дзержаунай Рады, Міністрау, праз Канцэлярыю Міністра Беларускіх Спрау.

(Подпіс:) Старшыня Беларускаго Прэдстауніцтва у Літоускай Дзержаунай Радзе В.ЛАСТОУСКІ

З арыгіналам згодна: Вып. Аб. Начальніка Канцэлярыі К.ЕЗАВІТОУ

С копіей згодна: Радны Беларускай Дэлегацыі у Бэрліне Белевіч

*582.2.35:009-010 — мк*
*582.2.35:029&r — мк*
*582.2.33:014-015 — мк фра*

**1250. Накладныя лісты на тавары з амэрыканскіх стокаў (вайсковых складоў), прапанаваныя для закупкі Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі, Парыж, 27.06.1919**
*582.2.33:057-066 — мк анг*

**1251. Ліст Пятра Крэчэўскага (Коўна) Васілю Захарку (Бэрлін) за 28.06.1919**
Ластоўскі выехау у Вільню.

Даражэнькі Базыль!

Едзе да Вас п. Шэпф з прапазыціей да якой афіціальна мы тым часам не павінны прылучацца, яе павінны рабіць прыватные асобы, але пэвные у нашай справе. Еўхім[1] мусі аба усім гэтым знае, шкода толькі, што ен нічога мне не сказаў пры адьездзе — можна было б пасунуць гэту справу хучэй. Яна дайшла да мяне кружнаю дарогай, бо калі выехаў ад гэтуль Котоў, то ен сказаў на граніцы і да нас прыйшло запытаньне, чы гэта так, чы не. Трэба, калі гэта знае Еўхім адрадзіць пэвнаго чалавека і даручыць яму гэту справу, я пастараюся выклікаць Тамаша[2] і можа яшчэ каго небудзь.

Чаму нічога не чутно ад Вас і ніхто не прыезжае, я тутака бьюсь як рыба аб лед. Передаю, переавеўшы на французскую мову усе пастановы Віленскаго Зьезду, падаў тую паперу, што напісаў Ластоўскі да Літоускаго Ураду аб тым, што з прычыны Мэморандума, Семашко не можэ быць предстаўніком Беларусі, бо дзеліць Беларусь на часткі і учора падаў другую заяву Ластоўскаго, копію якой пасылаю і Вам. Усе гэты дакумэнты перэсланы праз Рэбуля[3] у Парыж, трэба аб гэтым паведаміць і Антона[4].

Чаму Вы да гэтай пары не наладзілі справу зносін з Парыжам, так немагчыма працаваць. У Вільні зноу якаясь ерунда, у газэтах пішуць — тэлеграму ад Варонкі ты атрымаў, — што Аляксюк, Душэўскі і Іван Луцкевіч ездзіў у Варшаву, каб прылучыць Беларусь да Польшчы[5]. Смоліч неведамо дзе сядзіць і што робіць — па газэтам у Кракаве і Варшаве вядзе якіесь перагаворы з палякамі Скірмунт — я проста дурэю ад усіх гэтых вестак, а ад Вас а ні слова.

Можэ і запраўды настаў час зрабіць тое, аб чым Вас паведаміць Шэпф, бо другого выхаду як бы і німа. Калі ад Вас нічога не атрымаю у гэтым тыдні, то прыдзецца рабіць так, як я найду патрэбным, а сэрцэ так і га-

рыць помстай здраднікам беларускаго народу. Лепш памерці, ніж цягаць ланцугі чужой няволі, досьць здзеку, пара выйсьці на адкрытую бараџьбу і паказаць, што гэтаго хочам ня толькі мы, як кажуць кучка інтылігэнтаў, а і увесь Беларускі народ. Досьць апекуноў у панскай шкуры, ніхай ідзе і творыць сваю долю беларус-хлебароб.

Аб дробязгах жыцця пісаць ня буду, хоця ж і тут есьць многа цікаваго, но гэта у другі раз, чы як падъеду да Бэрліна, бо адход немцаў змусіць зрабіць гэта, калі не зменяцца варункі нашай справы. Інфармуйце хучэй, бо буду крычаць «ратуйце» і глядзіце, каб ня было поздна.

Цалую усіх Ваш Пятро Крэчэўскі
28.6.19.
Коуна.
*582.2.35:028&r — ра*

[1] Бялевіч. [2] Грыба. [3] Канстантэн Рэбуль — старшыня французскай вайсковай місіі ў Коўне. [4] Луцкевіча. [5] «Gazeta Warszawska» за 20.06.1919 паведаміла, што «І.Луцкевіч, К.Душэўскі і П.Аляксюк былі ў Варшаве ў Пілсудзкага й прасілі далучыць Беларусь да Польшчы». У Варшаву езьдзілі К.Душэўскі, П.Аляксюк і Я.Станкевіч. К.Душэўскі сустракаўся зь Пілсудзкім (гл. ягонае інтэрвію: Беларускае Жыцьцё (Вільня). №2. 29.06.1919), аднак абвергнуў пададзеную ў «Gazecie Warszawskiej» інфармацыю (Родны Край (Горадня). №3. 28.06.1919). Я.Станкевіч езьдзіў у Варшаву закупляць шрыфты для друкарні (Беларуская Думка (Вільня). №29. 26.06.1919).

**1252. Сьпіс салдатаў беларусаў Беларускай Асобнай Роты**
*582.1.05:012&r-014&r — мк*
*582.1.05:015&r-017&r — мк*

**1253. Суправаджальная запіска начальніка Беларускага Вайсковага Бюро да сьпісаў афіцэраў і салдатаў Беларускага Вайсковага Бюро за 29.06.1919, г.Коўна**
*582.1.05:001 — мк*
*582.1.05:002 — мк*

Копія дакумэнту накіраваная ў Міністэрства Беларускіх Справаў.

**1254. Сьпіс афіцэраў і салдатаў Беларускага Вайсковага Бюро**
*582.1.05:003&r — мк*
*582.1.05:004&r — мк*

**1255. Ліст Пятра Крэчэўскага (Коўна) Васілю Захарку (Бэрлін) за 30.06.1919**

Даражэнькі Базыль!

Сягоньня меўся паслаць курьера, але прыехаў Тэрэшчэнко і выедзе раней Ваш курьер — заўтра, а пасля заўтра, чы праз два дні выедзе Шэпф. У першым лісці я пішу чаго ен едзе — цяпер для мяне ясно, пасля таго, як сказаў Тэрэшчэнко, а Еухім[1] ужо зробіць усе так як трэба, мы выклічэм Тамаша[2]. калі можна будзе, то мы пастараемся выехаць у Вільню і аба усім даведаемся там.

Апроч таго я хачу праз Рэбуля, я хачу мець зносіны з Антонам[3] — можа і гэта удасцца. Думаю, што Вы так сама лепш наладзіце зносіны з Парыжам, а мы пастараемся хоця ж раз у тыдзень мець курьера паміж намі. Надта шкада, што ты не атрымаў ліста, які я паслаў праз афіцэра Рэшко, дзе падробна я пісаў пра перэгаворы з Літвінамі. Цяперь ня буду аб іх пісаць, бо думаю, што ен усеж такі ліст той даставіць Вам, а калі не, то я хутко прыеду у Бэрлін — трэба каб на гэты час, чы прыехаў Антон, чы прыслаў каго небудзь — Ладнова, чы іншаго з Парыжу.

З Вашай прапазыцыей, што на тые грошы, якія маеш не можна тварыць фармаваньняў я не згодзен, бо можэ толькі гэту і устрымлівае пазыку, так як немцы рэальнаго нічога не бачаць, а пад адну гутарку ніхто грошэй не дае. Другая справа, калі б мы уже дзесь мелі салдат двесьці, нарабіліб шуму на чалавек 2000 альбо і больш, то тут ужо трудно было б адмовіцца і тым, што хочуць даць нам гэтую пазыку — бо самі бачылі б, што нельга спыніць працу і адказацца ад барацьбы з большевікамі, чы с палякамі — калі будзеш мець, то усе будзеш мець, а калі згінеш, то згінеш зусім. Горш будзе гінуць у той час, калі яшчэ будуць грошы у нашых кішэнях, на нашэ істнаваньне, а праца будзе скончана. Тады усякій нам скажа, а на штож Вы трымаліс за грошы і нічога не рабілі, а помнілі толькі аб сабе і грошах, а калі згінем без грошы, то усякаму будзе ясна, што мы на тые невялікіе грошы якіе мелі, усе зрабілі, што маглі, а цяперь гінем, бо ніхто ні хоча нам памагчы.

Другая справа — пасольства на Літве, трэба як найхучэй гэта зрабіць — сваю прапазыцыю я даваў — за Езавітава і я і цяперь падтрымліваю, а чаму, гэта ясно — для такой Дзержавы, як Літва паважнаго чалавека (надта паважнаго) не трэба, як раз тут на мейсцы будзе Езавітаў, ен знае усе Літоўскіе справы, як добрые, так і кепскіе іх справы, з усімі знаемы — можа ня толькі гаварыць, але і лаяцца з імі, бо калі яны захацелі б яму зрабіць які закід у Беларускай справі, то ен ім зробіць іх двадцаць і яны ня будуць знаць, як ад іх адкруціцца.

Аб дісцыпліне, чы падпечнасьці (?) яго у справах палітыкі Ураду, чы нават на мейсцы мне, можна агаварыць у прыватным лісце да яго пры назначэньні. Нарэшці можна зрабіць па агліцкі, даць пэўную інструкцыю і у кожным адпаведным выпадку мець згоду на тую, чы іншую меру Ураду, чы яго предстаўніка. Выключыць яго із спіска Літоўскай службы безварункова патрэбно зараз жэ.

Што датычыць Смоліча, то яго трэба адцягнуць ад Польшчы, каб ен выехаў у Бэрлін, яго нават істнаваньне там, ужо шкодна для нашай справы. Калі робіць што Аляксюк, чы іншые, то гэта можна дапусьціць, але калі там сядзіць прэдстаўнік Ураду і усім з боку здаецца што гэтым кіруе Беларускі Урад, то гэта ужо шкодна як бы не глядзець. Гэта адно, апроч таго рэальна ніякія добрые стасункі з палякамі ня будуць нам карыстны. Як бы Антанта не старалась зрабіць сцяну паміж Расеей і Немцамі — гэта ей не удасцца і ніякая сцена не утрымаецца, калі на яе напруць і адны і другіе — тады паляціць усе польскае, а з імі і мы, калі будзем у згодзі з імі — трэба арыэнтавацца на штось мацнейшае і больш пэвнае, якое зра-

зумело-бы нашэ становішчэ і памагло бы нам адбудаваць нашу Бацькаўшчыну. Нават ад рэальнай помачы палякаў, ня толькі ад гутарак з імі — бо яны усе роўна абмануць, я ні цяпер ні у будучыне не бачу карысьці для Беларусі, а дзеля таго прапаную проста скасаваць усю працу у Польшчы і лічыцца з імі толькі як з ворагамі — окупантамі — каб бараніцца ад іх дэлікатнасьці на словах і разбою — на дзеле.

Ад Якубецкаго яшчэ німа ніякіх вестак, думаю, што ен хутка павінен прыехаць.

Трэба вырашыць справу, як быць калі выйдуць ад сюль немцы, бо яны, як тут кажуць павінны выйсьці праз тыдзень, чы найбольш да 15 ліпеня. Тады у нас зусім ня будзе ніякіх зносін, бо на граніцы яны будуць стаяць цьверда.

Заутра пастараюсь Антону даць тэлеграмму, калі згодзяцца французы, гдзе буду прасіць адказу так само праз Ковенскіх Французоў і мне здаецца, што трэба будзе яшчэ камусь падъехаць у Парыж — свежаму чалавеку з поўнай інфармацыяй ад усюль.

Нашымі контрамі, пратэстамі і запросамі да Літвіноў надта зацікавілісь французы і Рэбуль зараз жэ усе гэто перэслаў у Парыж, трэба, каб і Вы усе, што я Вам пасылаю пераслалі зараз жэ Антону — нельга з гэтым чэкаць ні воднаго момэнту — як найчасьцей інфармуйце Антона, ад гэтаго многа залежыць, я калі удасцца буду рабіць гэта праз Рэбуля.

Адносіны у мяне з імі досыць добрые — і за першую абецанку як ен быў у мяне з візытай — дапамагчы Беларусам — я цяпер трымаюсь за гэта і карыстаюсь ім, напамінаючы аб данным слове.

Будьце здаровы — Цалую усіх
Ваш ПКрэчэускі
*582.2.35:026&r-027&r — ра*

[1] Бялевіч. [2] Грыба. [3] Луцкевічам.

**1256. Нататкі старшыні Дэлегацыі БНР на Мірнай Канфэрэнцыі ў Парыжы Антона Луцкевіча (Парыж) за 30.06.1919**

На заседаньні прадстаўнікоў соцыялістаў - членаў Дэлегацый Азэрбайджану, Армэніі, Беларусі, Грузіі, Літвы і Украйны у памяшчэньні Украінскай Дэлегацыі 30 чэрвеня 1919 г. ў Парыжу член Украінскай Дэлегацыі, Дідушок, заявіў: «Учора, 29.VI., украінскія дэлегаты былі у Лянсінга[1], каторы ім заявіў, што Украіна і іншыя новыя дзяржавы, утвораныя на землях б. Расеі, ня будуць прызнаны».

Ант. Луцкевіч.
30.VI.19.
Paris.
*582.2.33:032*

[1] Робэрт Лянсінг — дзяржаўны сакратар ЗША, кіраўнік амэрыканскай дэлегацыі на мірнай канфэрэнцыі,.

**1257. Ліст Івана Краскоўскага (Тыфліс?) Івану Луцкевічу (Вільня) [за ?.0?.1919]**

Дорогій Іване Івановичу!

Подовець цього розкаже Вам все про мене, а Ви напішить все про себе і про справу білоруську, яка мене дуже цікавить і хвилює. Не забувайте про мої книжкі надіюсі скоро пріхати за ними. Щирий привіт всім моїм знаемим і з'окрема братам по тісному гуртку — Рому, Сляжевичу, Рёмеру та іншим. Як що то пішить. Щиро Ваш ИКрас. Передайте мій сердечний привіт Антону в Парижі

*582.1.41:082*

---

У канвэрце: Delegue du Conseil d'Etat Lithuanien

Дакладная дата невядомая. Падаўцом ліста, магчыма, быў Pranas Dailydė — матэматык і праўнік, старшыня каўказскай Літоўскай Рады, прадстаўнік Літоўскай Рады ў Закаўкаскіх дзяржавах

Ліст напісаны на адвароце візытоўкі:
«Красковський Іван Ігнатович
Голова Украінськоі Надзвичайноі
Дипльоматичноі Місіі на Кавказі».

**1258. Даклад міністра фінансаў аб Беларускай Народнай Рэспубліцы (Бэрлін, ??.??.1919)**

*582.2.38:019&r-037&r — рк*
*582.2.40:046&r-059 — мк*
*582.2.40:097&r-108 — рк*

---

Дата й абставіны невядомыя.

**1259. Министерство Бѣлорусскихъ Дѣлъ въ Литовскомъ Правительствѣ за семь мѣсяцевъ существованія (съ 1 декабря 1918 года по 1 іюля 1919 г.). Краткій обзор**

*582.2.35:017&r-021&r — мк*

---

Аўтар — Язэп Варонка (?). На дакумэнце грыфы: «секретно», «Для свѣденія», «Всѣмъ Членамъ Литовскаго Правительства»

**1260. Пратакол паседжаньня Надзвычайнай Дыпляматычнай Місіі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Бэрліне за 2.07.1919**

Журнал
пасядзэньня Надзвычайнай Дыплёматычнай Місіі пры учасьці Часов. Намесьніка Рады Народных Міністраў БНР.
м. Бэрлін
2 ліпеня 1919

Час. Намесьнік Старшыні Рады Народн. Міністраў — В.Захарко
Паўнамочны Прэдстаўнік БНР ў Бэрліне, Дзержаўны кантралёр Л.Заяц
і Раднік Дыплём. Місіі у Бэрліні, член Рады БНР Е.Белевіч

| Слухалі | Пастанавілі |
|---|---|
| 1. Ліст п. старшыні Рады Нар. Мін. А.Луцкевіча за 25/VI 19 г. з Парыжу з далучаннымі да яго матэр'яла- | 1. Разглядзець у першы чарод справу вайсковую і справу адносін да ліtвіноў. |

мі аб міжнарадовай палітыцэ і вайсковых справах, а так сама і ліст прэдстаўніка Ураду пры Літоўск дзержаве п. Крэчэўскаго аб тым жа (лісты і матэр'ялы да гэтаго далучаюцца)

2. Справу адносін да літвіноў у зьвязку з іх апошнімі адносінамі да нас: вераломства і подлая ігнарацыя беларускіх інтарэсаў пры тэндэнцыі да захвату чыста беларускіх зямель.

2. Прыймаючы пад увагу усе матэр'ялы аб адносінах да беларусаў як самого Ураду Літвы, так і яго прэдстаўнікоў за граніцай, Урад Б.Н.Р. прыходзіць да поўнага перакананьня, што праца і палітыка літвіноў у гэты момэнт вядзецца толькі к таму, каб аннэксаваць іскані беларускія землі Віленшчыны і Гродзеншчыны. Беларускі Урад, прызваны праводзіць у жыцьцё пастановы як Ўсебеларускаго Конгрэссу ў Менску 1917 г., так і Беларускаго З'езду Віленшчыны і Гродзеншчыны ў Вільні 1919 г., стаячых цьвёрда на грунце непадзельнасьці і незалежнасьці Беларусі, ня можэ згадзіцца з такой шкадлівай для Беларусі палітыкай літвіноў і лічыць патрэбным усімі сіламі спыніць яе — а дзеля гэтаго даручае свайму прэдстаўніку дзеля перагавораў з Літоўскім Урадам зьвярнуцца да апошняго з абаснаванай нотай і катэгарычным запытаньнем, — чы Літоўскі Урад думае і надалей вясьці такую жа здрадную палітыку у адносінах да Беларусі, не згаджаючыся на устанаўленьне цьвёрдых добрасуседзкіх адносін на аснове будаваньня супольнай Белар.-Літоўскай Дзержавы. У зьвязку з адказам Літоўскага Ураду, Беларускі Урад застаўляе за сабою права прыняць аканчацельныя крокі, якія будуць усецэла адпаведаць інтэрэсам беларускаго народу у яго дзержаўных адносінах да Літвы.

Л.Заяц Захарко Белевич

*582.2.01:037&r — ра*

**1261. Ліст Канцылярыі Генэральнага Штабу Літоўскага Войска (Коўна) Міністэрству Беларускіх Справаў Літоўскай Рэспублікі за 2.07.1919**

Копія.

М.К.С.
Н-къ Генштаба
2/VII - 19
№663
Коуна.

У М.Б.Д.

Согласно поясненіям Міністра Краевой Абароны, тэкст прысягі прінят як часовы закон для усех вайскавых часьцей, усе равно состоят лі ані з літвіноу, чі з беларусоу чі з іншых нацьянальнасьцей, уходяшчых у состав Літоускаго Гаспадарства і ня можець быць ізмянен. Дадатак слоу «Літоуско-Беларускай арміі» і «защищать Беларусь і Літву» дал бы основаніе у першим случае полякам и жыдам требовать тог[о] же а во втором случае надлежало бы поименовать і Жмуд і Малую Літву і пр.

Подл. подп.: Афіцэр Велікіс
Ч. сп. аб. Н-ка канц. Гэнштаба
Стебуліс
*582.2.35:006 — мк*
*582.2.35:022 — мк*

---

На дакумэнце пазначана: «Выслан в отвѣтъ на бумагу Езовітова о томъ, чтобы былъ принятъ текстъ бѣлорусс. присяги».

**1262. Заява Беларускага Прадстаўніцтва ў Літоўскай Тарыбе (Коўна) Старшыні Рады Міністраў Літоўскай Рэспублікі (Коўна) за 2.07.1919**

Беларускае Прэдстауніцтво
Літоускай Дзяржаунай Рады.

ЯГО ДАСТОЙНАСЬЦІ
ПАНУ ПРЭЗЭСУ МІНІСТРАУ
ЛІТОУСКАГО УРАДУ.

ДАСТОЙНЫ ПАНЕ.

Беларускае Прэдстауніцтво Літоускай Дзяржаунай Рады (Тарыбы) азнаеміушыся з мэморіялам зложаным Міжнароднай Мірнай Конфэрэнціі у Парыжы, п. Домінікам Семашко, зазначае: а) што тэкст пададзенаго ім мэморьялу, перад паданьнем Конфэрэнціі ня быу вядомы нашаму Прэдстауніцтву, а дзеля гэтаго не выяуляе сабой голасу Белорускаго Прэдстауніцтва Літоускай Дзяржаунай Рады, і б) у сваім мэморьяле п. Дамінік Семашко дапусьціу грубых перадзержак прыводзячы пункты умовы, на якіх Віленская Беларуская Рада згодзілася пасляць сваіх прэдстауніксау у Літоускую Дзержауную Раду (Тарыбу); а дзеля гэтаго мы, Беларускае Прэдстауніцтво Літоускай Дзяржаунай Рады, просім давясьці да ведама п. Дамініка Семашко, што яго ня можам на Мірной Конфэрэнціі у Парыжу лічыць за свайго прэдстауніка.

При гэтым прыпамінаем Вашай Дастойнасьці, што паводле нашай умовы з Літоускім Прэдстауніцтвом, на Мірной Конфэрэнціі у Парыжу павінны былі быць два прэдстаунікі ад беларусау у складзе Літоускай Дэлегацыі, і просім выясьненьня, чаму умова наша да гэтуль ня выпаунена.

Старшыня Беларускаго Прэдстауніцтва
Літоускай Дзержаунай Рады: (подпісау) Ластоускі

Згодна: (подпісау) Крэчэускі

З копіяй згодна ЛЗаяц

С копіей згодна: Радны Беларускай Дэлегацыі у Бэрліне Белевіч
*582.2.35:012 — мк*
*582.2.35:030 — мк*
*582.2.33:016 — мк фра*

**1263. Ліст сакратара Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Пятра Крэчэўскага (Коўна) старшыні Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі Антону Луцкевічу (Парыж) за 2.07.1919**

A Monsieur Loutckévitch, Président
du Conseil des Ministres de la République
du Peuple Blanc-Russien,
Hôtel Métropol,
Paris.

Le Gouvernement Lithuanien se dispose à intervenir avec nous pour la défence de l'indépendence de la Russie-Blanche et de la Lithuanie, mais dans les frontières tracées par le traité de Brest-Litovsk, ce que nous jugerons être une annexion du gouvernement de Grodno et d'une partie de celui de Vilna par les Lithuaniens. C'est dans ce sens que fut présenté le mémorandum de Siemachko auquel nous avons refusé toute confiance et que nous avons déclaré ne plus être Représentant de la Russie-Blanche à la Conférence de Paix. Une autre déclaration a été également présentée consernant l'inéxécution de la convention primitive conclue à Vilna entre les Blanc-Russiens et les Lithuaniens. Le mauvais vouloir des Lithuaniens à subvenir aux besoins des parties blanc-russiennes du pays ainsi que l'annexion évidente des gouvernements de Grodno et de Vilna ont obligé les Blanc-Russiens à protester contre ces actes et de le faire savoir à la Conférence de la Paix ainsi qu'à vous.

Vos informations sont indispensables. Envoyez-nous un courrier ou bien procurez- moi la permission d'aller à Paris.

(P.Krétchévsky)
Secrétaire de la Rada
de la République du Peuple
Blanc-Russien.

Kovno
le 2 Juillet 1919.
*582.2.35:013&r — рк фра*
*582.2.33:017 — мк фра*

**1264. Пратакол паседжаньня Надзвычайнай Дыпляматычнай Місіі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Бэрліне за 3.07.1919**

Журнал
пасядзэньня Дыплёматычнай Місіі пры учасьці часов. Намесьніка Старшыні Рады Народных Міністраў і Начальніка Аддзелу Арганізацыйнаго Міністэрства Абароны Б.Н.Р.
м. Бэрлін, 3 ліпеня 1919

Былі: Часов. Намесьнік Старшыні — В.Захарко
Дыплёматычны Прэдстаўнік у Бэрліні, Дзержаўны Кантралёр Л.Заяц
Раднік Місіі у Бэрліне, член Рады Рэспублікі Е.Белевіч і Начальнік Арганізацыйнаго Аддзелу Міністэрства Абароны гэн.-маёр Л.Давыдаў

| Слухалі | Пастанавілі |
|---|---|
| 1. Справу аб нармальных штатах Арганізацыйнаго Аддзелу у звязку з тэй працай, якую аддзел у данны момэнт фактычна выпаўняе, а таксама нагул аб вайсковых справах (фар[ма]ваньне нацыанальнага войска) | 1. Дзеля таго, што пачатковая арганізацыйная работа падходзіць к канцу і дзеля таго, што фактычная праца у данны момэнт адбываецца у і меншым ліку, прасіць прэдставіць гэн-маёра Давыдава к 15 гэтаго ліпеня мінімальныя штаты, бэз якіх ня можна абыйсьціся для патрыманьня нармальнай працы Арганізацыйнага аддзелу на бліжэйшы час, пакуль варункі ні запатрэбуюць узноў павялічэньня штатаў да ліку, зацьверджэннаго у пасядзэнні Рады Нар. Міністраў за 21 травеня. |
| 2. Справу аб цесным супрацоўніцтве Е.Белевіча з Арганізацыйным аддзелам. | 2. Дзеля поўнаго і цеснаго супрацоўніцтва як з Арганізацыйным аддзелам, так і ў справе фінансавай пазычкі для Ураду БНР, даручыць Радніку Дыплёматычнай Міссіі у Бэрліне, Члену Рады Рэспублікі Е.Белевічу увайсьці у цесны кантакт і супрацоўніцтва з Начальнікам Арганізацыйнага аддзелу Міністэрства Абароны гэн.-м. Давыдавым. |

Л.Заяц Захарко Г.М. Давыдаў Белевич

*582.2.01:038&r — ра*

**1265. Weißruthenisches Pressebüro (Berlin W.15, Kaiser-Allee 209). Nr.8. 4.07.1919**

Weißrutheniens schwarze Tage. — Bericht an das Ministerium des Außern. — Polnische Wirtschaft in Weißruthenien. — Protest gegen die Verhaftung weißruthenischen Patrioten durch die Polen

*582.2.42:041 — д*
*582.2.42:042 — д*

**1266. Ліст дырэктара Дэпартамэнту Пачатковае Адукацыі Міністэрства Народнае Асьветы Літоўскай Рэспублікі Юозаса Вокетайтіса (Коўна) Міністэрству Беларускіх Справаў Літоўскай Рэспублікі за 2.07.1919 у справе адчыненьня Іванам Антонавым летніх курсаў у Вільні**

*582.2.35:023 — мк*

**1267. Справаздача начальніка Беларускай Ваеннай Місіі ў Бэрліне дзеля помачы ваеннапалонным беларусам у Нямеччыне Антона Борыка паслу БНР у Бэрліне аб дзейнасьці Місіі ад 23.03.1919 да 1.07.1919**

*582.2.41:001-012 — мк*
*582.2.42:001-012 — мк*

**1268. Ліст Пятра Крэчэўскага (Коўна) Антону Луцкевічу (Парыж) за 6.07.1919**

Даражэнькі п. Антоне.

Напісаў адзін даклад і так хацеў паслаць, але цяперь як раз пріехаў Смоліч з Вільні, хутко будзе у Бэрліне, мы яго направім туды, добра было б, каб і Вы маглі падъехаць на пару дзен у незабаўным часе. З газэт даведаецесь аб зеленай арміі беларусаў, трэба было б зараз падтрымаць іх і бальшевікоў можна выгнаць з нашай тэррыторіі. Белевіча чэкаем заўтра, чы пасля заутра з весткамі мусі і ад Вас — бо мы надта гэтаго чэкаем.

Мы змучыліса зусім тут, хучэй бы пачалась рэальная праца, бяз войск нічога ня будзе, трэба як найхучэй наладзіць гэту справу.

Семашко прыехаў у Коўну, але яшчэ ні да каго, апроч Літвіноў ні пказываўся. Мы яго тут спаткаем так, што ня будзе рад.

Інфармацыю з газэт будзеце мець поўную — больш пісаць нічога ня буду, спрабуйце нарыхтаваць зносіны праз таго самага пасланца, якій Вам падасьць гэтые лісты.

С пашанай ПКрэчэускі

*582.2.35:032 — ра*

**1269. Рапарт афіцэраў Управы Горадзенскага Беларускага Камэнданта Ф.Дунаева і М.Зарэцкага (Коўна) Начальніку Беларускага Вайсковага Бюро за 7.07.1919 аб цяжкім становішчы афіцэраў Гарадзенскага Беларускага Палка пасьля гвалтоўнай іх дэмабілізацыі польскімі войскамі 10.06.1919**

*582.2.35:007-008 — мк*
*582.2.35:024&r — мк*

**1270. Справаздача паўнамоцнага прадстаўніка БНР для перамоваў зь Літвой Пятра Крэчэўскага (Коўна) старшыні Рады Міністраў БНР Антону Луцкевічу (Парыж) за 7.07.1919**

Старшыні Рады Міністроу Беларускай
Народнай Рэспублікі п. А.ЛУЦКЕВІЧУ.

Перэгаворы мае з Літоускім Урадам па мандату ад 14 трауня г.г. не прывялі ні да якіх рэальных рэзултатау. Па гэтаму мандату я меу тры размовы з п. Сліжэвічом 1, 7, і 14 чэрвеня (не лічучы размоу з інш. лідэрамі адпаведных фракцый, як п. Стульгінскі) і ва усіх размовах была відаць яўная анэксыя Гродненшчыны і Віленшчыны. Яны усе гавораць, што з ахвотай будуць бараніць незалежную Беларусь і незалежную Літву, а як толькі запытаешся: «у якіх граніцах», так адразу і відаць, чаго яны хочуць. Цяпер кажуць у тых, што намі адзначаны — з Пінскам, Навагрудкам, Дзісняй і Дзвінскам, а потым мы, як добрые суседзі, разлічымся, но я казау пасля ужо будзе позна разлічывацца, калі граніцы правядуць, а на гэты граніцы, як дзелячыя Беларусь на дзве часткі ні адзін Беларус ня пойдзе. Прыдзецца, калі Вы так моцна стаіце на малой Літве, зрабіць яе яшчэ меншай і вагнаць чуць не у вадну Ковенскую губэрню.

Аб Вільні, што яна этнаграфічна належыць да Беларусі і слухаць ня хочуць, но на супольную працу, каб зрабіць Вільню агульнай сталіцай з сумесным Соймом ня ідуць.

З гэтаго відна, што супольнай загранічнай працы з Літвінамі у нас быць ня можэ. Як відаць першай прапазыцыей адкідаецца і другая аб супольнай барацьбе з большевікамі, бо так само гавораць — Вы тварыце свае войска, а мы свае і будзем абараняцца ад бальшевікоу — разам жэ баяцца, бо нават і тым Беларускім часцям, якіе цяпер знаходяцца на Літве не даюць нічога і трымаюць у чорным целе.

Аб базе для фармаваньня Беларускіх войск німа чаго і гаварыць — прапазыцыя гэта адкінута адразу, нібы дзеля таго, што у іх німа транспорту, німа прадавольства і калі дапусьціць фармованьння беларускіх войск, то народ Літоускі будзе крыудзіцца імі і выклічэ недавольство.

Пісаннаго адказу на усе гэты пункты да гэтай пары не далі, адцягіваюць, мусі для таго, каб скарыстаць гэты момэнтъ у Парыжу, але я паведамляю аб гэтым і Вас і паведаміў Захарку і Зайца.

Апроч таго з боку Беларускаго Предстауніцства у Тарыбе Ластоускім пасланы дзве заявы Літоўскаму Ураду —першая, што, ознаеміушысь з мэмарандумам п. Семашко, у якім ен дзеліць Беларусь на дзве часткі і працуе згодна з умовай Віленскай Рады з Тарыбай — ен больш лічыцца прэдстаунікомъ Беларусі на канфэрэнцыі у Парыжу ня можэ і дадаецца, чаму да гэтай пары німа у Парыжу другого прэдстауніка, як павінно было быць згодна з умовай. Другая заява на прапазыцыю увайсьці Беларусам у склад Камісыі па апрацаваньню закону аб выбарах у Установчы Сойм, Беларусы вырэшылі устрымацца ад працы у гэтай Камісыі па такім варункам:

1. Літоускі Урад не правеў у жыцце першапачатковай умовы Віленскай Беларускай Рады з Тарыбай і нават не адпаведае на Беларускіе пратэсты і запытаньня;

2. Не адказау на пратэст Старшыні Беларускаго Прэдстауніцства у Тарыбе, паданый праз Літоускае Пасольства у Бэрліне аб справе агульнадзержауных знакау, якіе друкуюцца у адной толькі літоускай, зусім не зразумелай беларусам, мове;

3. Паложаны пад сукно праэкт упарадкаваньня адносін беларускай час-

ці Літвы да Літоўскай, паданы Беларускім Прэдстаўніцтвам у Тарыбу;

4. На заяву проціў мэморандуму п. Семашко на мірнай Канфэрэнцыі у Парыжу і чаму да гэтуль німа другого прэдстаўніка, згодна з умовай, німа ніякай одповедзі;

5. Ігнараваньне слушных патрэб беларускай стараны, Беларускае Прэдстаўніцтво у праве лічыць, што Літоўскі Урад кіруцца да анэксіі Беларускай тэррыторыі, уключаннай ім у свае граніцы, а не да супольнай працы — дзержаўнаго будоўніцтва і таму пастанаўляе устрымацца ад працы у Камісыі, пакуль не будзе одповедзі на прыведзянные вышэй дакумэнты і наогул аформляны нашы праўна-дзержаўные адносіны, аб чым давясьці да ведама Камісыі, Прэзыдэнта, Старшыні Тарыбы і Старшыні Рады Міністраў праз Канцэлярыю Міністра Беларускіх Спраў.

Апошняя заява падана 27 чэрвеня за №28.

Стараюсь аб гэтым паведаміць просто праз Французскіх Прэдстаўнікоў у Коўні тэлеграмай і дакладам, каб Вам у Парыжу было усе вядомо і прэдпрыняты належные крокі да скасаваньня шкоднай нам і нават зусім незразумелай палітыкі Літвіноў, зарваўшыхся у сваіх апэтытах, мусі так сама, як і палякі, але ніхай ведаюць, што Беларусь велікая і можэ стаць косткай у горлі.

Надта патрэбна інфармацыя ад Вас. З мейсц нясуцца стогны беларусоў, над якімі бэз меры зьдеківаюцца і палякі і бальшэвікі — ратунку німа ніякаго, мусі прыдзецца самаму народу бараніцца ад сваіх ворагаў.

Цяжка, надта цяжка і не вядома калі скончацца мукі Беларускаго народу.

Калі можна атрымаць мне пропуск на паездку у Парыж, то паведамце — я магу незабаўно выехаць, бо тым часам працы рэальнай тут німа.

Дэлегат для перэгавораў з Літвой ПКрэчэўскі

7.7.19
Коўна
*582.2.35:033&r-034 — ма*

**1271. Ліст часовага намесьніка старшыні Рады Народных Міністраў БНР Васіля Захаркі (Бэрлін) кіраўніку Міністэрства Ўнутраных Справаў Кузьму Цярэшчанку (Коўна) за 7.07.1919 (вых. №91/2051)**

Беларуская Народная
Рэспубліка

Рада Народных Міністраў
7 ліпеня 1919 г.
№91/2051

на №72-гі

Кіраўніку Міністэрства Унутранных Спраў К.Тэрэшчэнко

Пры гэтым пасылаецца Вам сто дзевяноста тысячаў марак (190.000) на усю працу у Мэтраполіі, якіх на наш погляд павінна хваціць меншбольш на тры месяцы, лічучы з астаткамі ад чэрвеня. Прымаючы пад увагу, што у Дзержаўным Скарбе застаецца пакуль-што зусім малая су-

ма грашэй (папауненьне не вядома калі ешчэ прыдзе!), трату пасылаемых Вам грашэй трэба рабіць надто эканомна. Добра былобы, каб у звязку прымусовай эканоміей грошай патрэбная праца на Бацькаушчыне усетакі не спынялася і ішла у поуным абьеме. У звязку з малым лікам грошэй у Скарбе і магчымымі новымі варункамі працы посля адыходу Немцау, мы абгаварыушы усе пытаньня, прышлі да такога вываду, што каб у будучыне мець менш нараканьняу на Кабінэт — пажадано былобы, каб усе грашовыя вымаганьня на усю працу на Бацькаушчыне абгаварываліся Вамі разам з сэкрэтаром Рады Рэспублікі і часовым нашым дыплематычным прэдстауніком на Літве П.Крэчэускім. З адходам Немцау, нашая дзержауная праца павінна быць развіта ешчэ больш энэргічна, дзеля чаго Вас, пана Крэчэускага і п. Грыба, застаюшчыхся на Бацькаушчыне, можа ешчэ трэба падмацаваць другімі членамі Кабінэту. Пытаньне гэта просім абгаварыць і аб рэзультаце паведаміць.

Час. Намесьнік Старшыні: В.Захарко

/Дзержауны Пісар ЛЗаяц
*582.2.38:003 — ма*

**1272. Пратакол нарады сяброў Ураду БНР і прадстаўнікоў заграчных місіяў у Коўне 9.07.1919**

ПРАТАКОЛ

нарады членау Ураду Рэспублікі і прэдстаунікоу Заграінчных міссый у Коуне 9-го ліпеня 1919 року.

Былі: Намесьнік Старшыні Рады Народных Міністрау А.Смоліч, Кіраунік Міністэрства Унутраных Справау К.Тэрэшчанка, прэдстаунік Ураду у Коуне, сэкрэтар Рады Рэспублікі П.Крэчэускі і райца Бэрлінскай Міссыі Я.Бялевіч

| Слухалі | Пастанавілі |
|---|---|
| 1. Даклад п. П.Крэчэускаго аб канешнай патрэбе пачаць фармаваньне беларускіх войскау на тэрыторыі Літвы. | 1. Згодзіушыся з гэтай патрэбай, прасіць п. Прэдстауніка у Коуне, распачаць энэргічнае стараньне перад Літоускім Урадам аб дазваленьні фармаваньня.<br>Прасіць палкоуніка К.Езавітава распрацаваць плян фармаваньня і зрабіць першыя шагі да яго арганізацыі. |
| 2. Аб распрэдзяленьні скарбовых грашавых сумау, знаходзячыхся цяпер у Коуне у распараджэньні Кірауніка Міністэрства Унутраных Справау — усяго 275000 марак і 20000 руб. керанскіх. | 2. а) перавесьці у кассу Міссыі Ураду у Коуне 20000 марак.<br>б) перавесьці у кассу Міссыі Ураду у Латвіі, Эстоніі і Фінляндыі 15000 марак.<br>в) Рэшту грошау — 240000 марак і 20000 руб. керанскіх перавесьці у кассу паунамочнаго прэдстауніка Ураду Рэспублікі А.Смоліча для субсіда- |

| | |
|---|---|
| | ваньня унутраных установаў і беларускіх арганізацый. |
| 3. Справу аб дэлегацыі Урадовай да Ураду Латвіі (Ульманіса), Эстоніі і Фінляндыі. | 3. Прызнаць гэтую дэлегацыю надзвычайна пажаданай і прапанаваць Ураду назначыць на гэтае становішча п. К.Тэрэшчанку. |
| 4. Справу аб мейсцы пабыту Канцэлярыі Ураду Рэспублікі. | 4. Лічыць патрэбным перанос Канцэлярыі у Прагу Чэскую. |

Былі: А.Смоліч Е.Белевіч П.Крэчэўскі К.Тэрэшчэнко
*582.2.01:044&r — ма*

**1273. Пастанова Найвышэйшае Рады Саюзных Дзяржаваў за 11.07.1919 у справе польскае адміністрацыі ва Ўсходняй Галічыне**
*582.2.42:019 — мк*

**1274. Нота паўнамоцнага прадстаўніка Беларускай Народнай Рэспублікі для перамоваў зь Літвой Пятра Крэчэўскага (Коўна) Радзе Міністраў Літоўскай Рэспублікі за 12.07.1919**

Надзвычайная дыплематычная
Місія Беларускай Народнай
Рэспублікі.
Прэдстаунік па перэгаворам
з Літвой.
12 Ліпеня 1919 года.
№4

У Раду Міністроу Літоускай
Народнай Рэспублікі.

Беларускі Урад, як правамоцны прэдстаунік сувэрэннай волі Беларускаго народу, выявіушэйся на Вялікім Усебеларускім Кангрэсе 1917 года у Менску і усіх правінцыальных Беларускіх зьездах (як напр. на зьезде Віленшчыны і Гродзеншчыны 9-11 чэрвеня 1919 года у Вільні), даручыу мне, на падставе паунамоцтва ад 14 травеня г.г. за №70/2030, вясьці перэгаворы з Літоускім Урадом аб:

1) Салідарнай акцыі Літоускаго і Беларускаго Ураду у загранічнай палітыцэ;

2) Супольнай працы над арганізацыей Беларускіх аружных сіл дзеля абароны Беларусі і Літвы, як з усходу, так і з заходу і

3) прэдастауленьні часткі Літоускай тэрыторыі Шаулі-Таурогген, чы іншай, для фармаваньня Беларускіх аружных сіл.-

На моцы пастаноу кангрэсу Рада Рэспублікі і Беларускі Урад увесь час хацелі гаварыць з літвінамі і гаварылі аб супольным дзержауным будауніцтве Беларусі і Літвы. З гэтай мэтай Радай Рэспублікі была паслана дэлягацыя у Літоускую Дзержауную Раду (Тарыбу) у лістападу 1918 году.-

У працягу ад сакавіка да ліпеня месяца г.г. вяліся размовы адпаведнымі прэдстаунікамі Ураду — п. Смолічам з Прэзыдэнтам Літоускай Рэспуб-

лікі[1] у Коуне і Надзвычайным паслом Шаулісам у Варшаве, п. Захарко з Старшыней Рады Міністроу[2] у Коуне і нарэшці у чэрвеню месяцу мной.-

Перагаворы мае пачаліся 1-го чэрвеня з Старшыней Рады Міністроу і Міністрам загранічных спраў. Я меу тры размовы — 1-го, 7-го і 14-го чэрвеня у якіх мне даводзілася, што згода паміж беларусамі і літвінамі магчыма толькі тагды, калі беларусы адкажуцца ад Гродзеншчыны і Віленшчыны і згодзяцца на граніцы першай нямецкай акупацыі 1915-1918 г. За увесь час размоу з боку Літоускага Ураду не было і думкі аб тым, каб знайсьці які небудзь кампраміс для згоды з Беларускім Урадам. За самае права размовы з літвінамі аб незалежнасьці Беларусі патрэбуецца ад Беларускага Ураду адказацца ад барацьбы за недзялімасьць Беларускіх зямель завешчанай народнай воляй, якую Урад уже вядзе ад пары Берасьцейскага трактату.-

Не глядзючы на усе высілкі беларусоу дабіцца супольнай працы з літвінамі, дагэтуль літвіны шчыра і адкрыта не высказалі сваіх поглядау і мелі тенденцыі да скрытай анэксыі беларускіх зямель. На усе прыязныя нашыя запытаньня маучалі і адцягівалі перагаворы, а у гэты час спешылі за граніцэй, асабліва у Парыжу, паказаць, што беларусы Віленшчыны і Гродзеншчыны згодны належаць да Літвы і увайсьці у склад яе дзержавы.-

Такое невыразнае палітычнае палажэньне павінна быць скончана і я яшчэ раз зьвертаюся да Рады Міністроу і прашу даць адказ па усім вышэйпаданным пытаньням.-

Дзеля таго, што на маю паперу ад 14-го чэрвеня г.г. за №1 да гэтай пары няма адказу, я змушаны катэгарычна прасіць Літоускі Урад у працягу тыдня ад гэтага дня даць той чы іншый адказ па усім паданным мной пытаньням. Палітычны момэнт патрэбуе, каб справа адносін паміж Літоускай і Беларускай Дзержавамі была развязана як мага хутчэй. Дзеля таго ні атрыманьне адказу ад Рады Міністроу і у гэтый цяпер назначаный тэрмін будзе для мяне ясным знакам таго, што мая місія у Літве скончэна.

Паунамоцны Прэдстаунік
*582.2.35:001-003 — мк*
*582.2.35:014&r-015 — мк*
*582.2.38:005&r-006 — рк В.Ластоўскага*

---
[1] Антанас Сьмятона. [2] Мікалас Сьляжавічус.

**1275. Хадайніцтва в.а. начальніка канцылярыі Міністэрства Беларускіх Справаў Кастуся Езавітава у Міністэрства Гандлю й Промыслу Літвы за 19.07.1919 з просьбай аб неспагнаньні грошай за электрычнасьць з бухгальтара Міністэрства Беларускіх Справаў Гучэ**
*582.1.05:005&r — мк*

**1276. Мэмарыял Цэнтральнае Беларускае Рады Віленшчыны і Горадзеншчыны да міністра фінансаў Польшчы за 19.07.1919 з просьбай аб грашовай пазыцы ў 5.000.000**
*582.2.52:157&r — ма*

---
Падпісаў мэмарыял Б.Тарашкевіч.

**1277. «Асновы дзяржаўнасьці Беларусі». Мэмарыял беларускай дэлегацыі Віленшчыны і Горадзеншчыны, якая прыбыла да Начальніка Дзяржавы ў Варшаву для паданьня яму дэклярацыі і вядзеньня перамоваў з польскімі ўладамі**

*582.2.52:142&-149&r — рк*

Дата й абставіны невядомыя.

**1278. Ліст Міністэрства Замежных Справаў Літоўскай Рэспублікі (Коўна) паўнамоцнаму прадстаўніку Беларускай Народнай Рэспублікі для перамоваў зь Літвой Пятру Крэчэўскаму (Коўна) за 21.07.1919**

Министерство Иностранныхъ
Дѣлъ
№1298.

Ковно, 21 іюля 1919 г.

Господину Уполномоченному
Бѣлорусскаго Правительства
для переговоровъ съ Литвой П.Кречевскому.

Въ отвѣтъ на письмо Ваше отъ 14 іюня с.г. имѣю честь повторить Вам устное заявленіе Министра Предсѣдателя и Министра Иностранныхъ дѣлъ, сдѣланное въ іюнѣ мѣсяцѣ того же дня.

1) Литовское Правительство, наиблагосклоннѣй относясь къ возстановленію Независимой Бѣлоруссіи, готово поддерживать съ ней пріязнѣйшія сосѣдскія отношенія и этой точкой зрѣнія будетъ руководствоваться и по отношенію къ заграничной политикой Бѣлорусскаго Правительства.

2) Литовское Правительство, организуя свою армію для борьбы за независимость Литвы противъ ея оккупантовъ, будетъ считать армію Бѣлорусскаго Правительства, поскольку ея задачи будутъ согласоваться съ задачами литовской арміи, арміей дружественнаго государства и руководствуясь этимъ будетъ регулировать отношенія Бѣлорусской и Литовской армій.

3) По причинѣ явнаго недостатка продуктовъ продовольствія и значительнаго разоренія страны за время оккупаціи предоставить часть территоріи Литвы для формированія бѣлорусскихъ военныхъ силъ, Литовское Правительство, при сложившихся обстоятельствахъ не находитъ возможнымъ.

Уполномоченный Завѣдывающаго
Министерствомъ Иностранныхъ Дѣлъ.

Теодоръ Петкевичъ
Завѣдывающій Дѣлами Кабинета Министровъ.

З арыгіналам згодна ЛЗаяц
*582.2.35:016 — мк*
*582.2.35:025 — мк*
*582.2.38:007&r — пераклад на беларускую, рукапіс В.Ластоўскага*

**1279. Нота паўнамоцнага прадстаўніка Беларускай Народнай Рэспублікі для перамоваў зь Літвой Пятра Крэчэўскага (Коўна) міністру замежных справаў Літоўскай Рэспублікі за 23.07.1919**

Надзвычайная Дыпломатычная
Місія
Беларускай Народнай Рэспублікі.
Прэдстаунік
па перагаворам з Літвой.
23 Ліпеня 1919 г.
№9
м. Коуна

Пану Міністру Загранічных Спрау.

Пасля доугіх перагавороу, цягнуушыхся больш як паутара месяца і двох маіх нот ад 14 чэрвеня і 12 ліпеня г.г. мною атрыманы ад Упаунамоцнаго Кірауніка Міністэрства Загранічных Спрау за №1298 адказ, дзе на словах Літоускі Урад надта прыемна адносіцца да адбудаванья Незалежнай Беларусі і гатоу падтрымліваць найпрыязнейшыя адносіны з Беларускай Рэспублікай і гэтым поглядам гатоу кіравацца і у загранічнай палітыцэ Белорускаго і Літоускаго Ураду.

На дзеле выходзіць іначэй. Літоуская делягацыя у Парыжу на Мірнай Канфэрэнцыі падала заяву Старшыні Агульнай Канфэрэнцыі паустаушых рэспублік, дзе адмауляецца ад супольнай працы з Беларускай делягацыей, калі беларусы будуць прэтэндаваць на большую часьць Літоускай тэрыторыі з сталіцай Вільняй.

Пад уплывам Літоускай делягацыі пан Семашка падау мэмарандум, у якім, нікім не упоунаважаный і у разрэз з волей народа і пастановамі Кангрэссу 1917 году Віленскай Рады і зьезду Віленшчыны і Городзеншчыны 1919 г., стаячых цьверда на незалежнасьці і непадельнасьці Беларусі, далучае Віленшчыну і Городзеншчыну да Літвы.

Беларускі Урад першы пратэставау у Берэсьці проціу разделу Беларусі на часткі і будуючы свою дзержаунасьць як мага старауся падтрымліваць нацыянальный рух у сваіх суседзеу і пачау рыхтаваць суседзкія зносіны з Украінай, Польшчай, Літвой і іншымі.

Былі зложаны і пасланы парлямэнскія делягацыі у лістападу 1918 г. на Украіну, у Польшчу і Літву. Вялісь прыватные перагаворы з Грузіей, Латвіей, Эстоніей, Донам, Кубаньню і Чэхамі. З усіх бакоу мы знаходзілі падтрыманьне нашай нацыянальнай думкі і дапамогу — толькі Польшча і Літва нават нічога не адказалі на нашы прапазыцыі і моучкі абайшлі пытаньня делягацыі, бо як Польшча, так і Літва ужо дауно рыхтаваліс на тое, каб адарваць ад Беларусі Городзеншчыну і Віленшчыну і замест таго, каб шукаць якіх кампрамісоу і ісьці на згоду — цьверда вырэшылі маучаць і рабіць шкодную для беларусау працу. Знаючы цяжкое становішчэ Беларускай Народнай Рэспублікі, каб паказаць міжнарадовым кругам, што усе-ж такі яны спагадаюць беларусам — утварылі пры Літоускім Урадзе Міністэрства Беларускіх Спрау, якое па першапачаткoвай умове Віленскай Рады з Тарыбай — павінна было быць предстауніцтва роунаго

з роуным, бо абшар Беларускай тэрыторыі, уходзячэй у Літву зьяуляецца большым, ніж сама Літва. На дзеле выйшла іначэй. Літоускі Урад усе сілы пакладау на тое, каб зрабіць Міністэрства прэдстауніцтвам меньшасьці і не зьвертау увагі, нават і не адказывау на пратэсты і запытаньня як Міністэрства, так і членау Тарыбы ад беларусоу.

Прыймаючы пад увагу усе гэта я змушаны проста паставіць запытаньня Літоускаму Ураду:

1) чы запрауды Літоускі Урад хочэ анэксіраваць Городзеншчыну і Віленшчыну, як спакон векоу беларускія землі.

2) якую рэальна, а не на словах Літоускі Урад може даць гарантыю найпрыязнейшых добрасаседскіх адносін да Беларускай Рэспублікі і

3) калі такія адносіны магчымы, то у якой форме — фэдэрацыі, конфідэрацыі, чы іншей яны могуць выявіцца.

Адказ на гэта патрэбен у найбліжэйшы час.

Паунамоцны Прэдстаунік
*582.2.35:004-005 — мк*

**1280. Даклад начальніка Арганізацыйнага Аддзелу Міністэрства Абароны БНР генэрал-маёра Лявона Давыдава в.а. старшыні Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі Васілю Захарку за 25.07.1919 з каштарысам скарочаных штатаў Арганізацыйнага Аддзелу**
*582.2.01:041&r — мк*

**1281. Ліст Дэлегацыі БНР на Мірнай Канфэрэнцыі ў Парыжы намесьніку дзяржаўнага сакратара па ліквідацыі стокаў (вайсковых складоў) Полю Морэлю (Парыж) за 25.07.1919**

COPIE

Paris, le 25 Juillet 1919

DELEGATION
de la République Démocratique
de la Russie (Ruthénie) Blanche
24, rue Bayard
Tel. Passy 19-62 PARIS

N° 204

Monsieur Paul Maurel
Sous-Secretaire de la Liquidation des Stocks
19 bis Boulevard Delessert
PARIS

Monsieur le Ministre,

Dans notre entrevue du 23 courant, vous avez bien voulu constater, avec nous, que notre entente avec la commission de liquidation américaine du mois de mai, concernant la cession d'un stock de marchandises pour 14 millions de dollars environ, n'a pu être effectuée à ce jour, vue la nouvelle phase dans laquelle sont entré les pourparlers entre votre ministère et les représentants des Etats-Ynis d'Amérique.

Vous avez bien voulu nous assurer de transmettre à nos populations, que notre entente avec la commission de liquidation des stocks des Etats-Unis d'Amérique, sera réalisée intégralement en ce qui concerne les équipements, les manufactures et les médicaments et dans la plus large mesure possible en ce qui concerne les produits alimentaires et les automobiles. Cela aussitôt que le prix forfaitaire sera arrêté entre vous et le[s] représentants de la liquidation des stocks du gouvernement américain.

Cette cession nous sera faite aux conditions arrêtées entre nous et les représentants de la liquidation des stocks des Etats-Unis d'Amérique, soit par la commission de liquidation des stocks américains directement, en défalcant du prix forfaitaire arrêté entre votre ministère et les représentants des Etats-Unis d'Amérique, le montant en dollars de la cession qui nous a été consentie, soit par votre ministère.

A cet effet, et pour éviter tout malentendu ultérieur, nous avons l'honneur de vous confirmer que la commission de la liquidation des stocks des Etats-Unis, considérant nos pouvoirs et signatures comme suiffisants et satisfaisants, a accepté que nous payions les marchandises, à nous cedées, par des bons à échéance de 5 ans.

Encouragés par votre bienveillant et sympatique acceuil, et forts de l'engagement que vous avez bien voulu prendre, nous nous permettons de nouveau, d'attirer votre attention sur ce fait que nos voisins immédiats se trouvant en dehors de la zone d'influence française, ont non seulement traité dans des conditions analogues à celles acceptées pour nous pour une somme égale, malgré que quelues uns de ces états, ont une population au moins quatre fois inférieure à la notre, mais ont déjà reçu les stocks achetés, vêtements et produits alimentaires qui ont été distribués parmi la population.

Ces faites nous mettent dans une situation à ce point critique, que nous prions, à nouveau, de vouloir bien examiner s'il ne serait pas possible, vu la situation exceptionnelle où nous nous trouvons et vu une durée éventuellement encore assez longue des pourparlers entre les gouvernements français et américain, de donner une solution plus immédiate à la question, en donnant votre consentement à la commission de liquidation des stocks des Etats-Unis, de nous faire la cession des marchandises. Le montant devra être défalqué du prix forfaitaire sur lequel vous arriverez à vous mettre d'accord. Cette solution ne cha[n]gerait rien à vos pourparlers et nous permettrait de secourir, en temps utile, nos populations.

Dans l'espoir que vous voudrez bien solutionner la question dans le sens que nous sollicitons, nous vous prions d'agréer, Monsieur le Ministre, l'expression de notre plus haute considération.

Le Président de la Délégation
(signé) Antoine de Loutckevitch
Le Membre de la Délégation
(signé) Colonel Eugène Ladnoff

Pour copie conforme
Le Secrétaire de la Délégation
*582.2.33:051-053 — мк фра*

**1282. Ліст міністра замежных справаў Украінскай Народнай Рэспублікі Андрэя Лявіцкага (Камянец-Падольскі) старшыні Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі Антону Луцкевічу за 27.07.1919**

До Пана Старшини Ради Народніх Міністрів
БІЛОРУСЬКОЇ НАРОДНЬОЇ РЕСПУБЛИКИ.

Прийнявши Вашого дипльоматичного гонця[1] і одержавши відомости про те становище, в якому перебуває зараз Білоруський Наріл і його теріторія, страждаючи і терплючи від знущань і глуму одвічних ворогів так Білоруського як і Українського Народів — московських червоних імперіялістів-большовиків, я дозволяю собі від імени Соборної України висловити щире співчуття Українського Народу — Народові Білоруському.

Україна, яка волею Долі витерплює ті ж знущання і глум від тих же московських большовиків, але яка глибоко переконана, особливо тепер, що вона знищить своїх одвічних ворогів з півночи, вповні відчуваючи страждання Білоруського Народу засилає Білоруській Народній Республіці свій братний привіт і бажання Їй як найшвидче подолати ворога, аби Вона могла стати Вільною і Незалежною Республікою, що, як єдино-правильне і справедливе, Україна буде завжди підтримувати від щирого серця.

Користуючись нагодою також дозволю собі передати Вам, Пане Міністре, свої особисті побажання як найшвидче позбутися страждань і прийняти мої запевнення в глибокій повазі до Вас.

Міністр Закордонних Справ
Української Народньої Республіки
Андрій Лівицький

Кам'янець на Поділлю.
27 Липня 1919 року.
№1538
*582.2.47:019-020 — ма*

[1] Аўгіньня Алексючанка (гл. дакумэнт №1308).

**1283. Пратакол паседжаньня Надзвычайнай Дыпляматычнай Місіі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Бэрліне за 28.07.1919**

Журнал
пасядзэньня пры учасьці час. Намесьніка Старшыні Рады Народных Міністраў — В.Захарко, Дыплёмат. Прэдстаўніка, Дзержаўнаго Кантралёра Л.Зайца і Радніка Місіі — Е.Белевіча
м. Бэрлін
28 ліпеня 1919

| Слухалі | Пастанавілі |
|---|---|
| 1. Заяву п. К.Тэрэшчэнко, пасланаго ў Латвію і Эстонію дзеля завязаньня дыплёматычных адносін з гэтымі Дзержавамі. | 1. Прыймаючы пад увагу, што пасылка Кіраўніка Міністэрства Унутрэн. Спраў К.Терэшчэнко ў Латвію і Эстонію з'яўляецца часовай і толькі |

| | |
|---|---|
| | дзеля завязаньня прыязных адносін для будучай нашай супольнай з гэтымі Дзержавамі Дыплёматычнай працы і што назначэньне сталаго туды прэдстаўніка ўсецэла залежыць ад Старшыні Рады Народных Міністраў і Міністра Загранічных спраў, які аб заяве Терэшчэнко паведамлены ў Парыжы, — прасіць п. Терэшчэнко, закончыўшы як найхудчэй завязаньне прыязных адносін з Латвіей і Эстоніей, зараз жа вярнуцца для ўнутрэннай працы на Бацькаўшчыне. На падставе вышэйсказанаго адпада[неца] пытаньня аб высылцэ яму грошы і аб назначэньні урадовых асобаў на Балтыцэ. |
| 2. Заяву Терэшчэнко аб размовах з старшынёй Латвійскаго Ураду Ульманісам аб фармаваньні беларускаго атраду на тэррыторыі Латвіі. | 2. Прасіць К.Терэшчэнко заручыцца згодай Ураду Латвіі на пазваленьне фармаваць нашы атрады на тэррыторыі Латвіі тады, як з нашага боку магчыма будзе фактычна пачаць фармаваньне. |
| 3. Заяву ваенна-дыплёматычнаго кур'ера п. Бэґґе аб выдачы яму авансу у лік належнай платы за яго працу пры К.Терэшчэнко, лічучы, што працуе ён ад 20 чэрвеня. | 3. Разрахунак павінен з п. Бэґґе зрабіць п. Терэшчэнко; тут жа выдаць ў лік належнай платы п. Бэґґе восемсот (800) марак, вывеўшы іх у расход па сьмеце латвійскай Дэлегацыі. |

Л.Заяц Захарко Белевич

*582.2.01:039&r — ра*

**1284. Цыркулярны ліст дзяржаўнага кантралёра БНР Лявона Зайца за 28.07.1919 у справе аплатаў штатных служачых**

*582.2.40:002 — ма*

**1285. Ліст Страявога Аддзелу Міністэрства Абароны Літвы міністру беларускіх справаў Язэпу Варонку за 30.07.1919, дасланы разам з «Часовым Палажэньнем аб Беларускім Бюро пры Генэральным Штабе»**

*582.2.06:003 — ма*

**1286. Часовае Палажэньне аб Беларускім Бюро пры Генэральным Штабе Літоўскага Войска**

*582.2.06:009 — рк*

**1287. Пратакол паседжаньня Надзвычайнай Дыпляматычнай Місіі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Бэрліне за 31.07.1919**

Журнал

пасядзэньня пры учасьці час. Намесьніка Старшыні Рады Народных Міністраў В.Захарко, Дзержаўнаго Кантралёра і Пасла ў Бэрліне Л.Зайца, Члена Місіі ў Бэрліне Е.Белевіча і начальніка Арганізацыйнага аддзелу Міністэрства Абароны гэнэр.-маіора Давыдава 31 ліпеня 1919 г.

| Слухалі | Пастанавілі |
|---|---|
| 1. Справу аб скарачэньні штатаў Арганізацыйнага Аддзелу Міністэрства Абароны БНР (Даклад далучаецца) | 1. Дзеля магчымасьці ліквідацыі Аддзелу з 1 верасьня (сентября), сьмету на жнівень зацьвердзіць у такім відзе:<br>1) Начальнік аддзелу — 3.000.м<br>2) — канцэл. — 1.500.м<br>3) Об. афіц. дзеля даручэн. 1.200.,<br>4) кватэра, асьв., атапл. — 1.000.,<br>5) канцэлярскія выдаткі — 100.,<br>6) Начальнік артыл. часьці — 2.000.,<br>усяго — 8.800. м<br>Усіх гэтых асоб, апроч начальніка аддзелу, які застаецца экспэртам вайсковым пры Радзе Народных Міністраў, уперадзіць аб гэтым; уперадзіць так сама і аб кватэры, што з 1 верасня яна асвабадзіцца. Апроч таго заплаціць Ротмістру Некрашэвічу і харунжаму Авэрскаму па 600 мар. да 15 жнівеня, з якога часу лічыць абодвух звольненнымі. машыністку аддзелу перавясьці 31 жнівеня на службу Дыплёматычнай Місіі ў Бэрліне на пэнсыю 900 мар. З 1/IX усе звольненыя ад службы аддзелу асобы ніякай дапаўніцельнай платы ні атрымовываюць. |

Л.Заяц Захарко Белевич Г.М. Давыдовъ

*582.2.01:040&r — ра*

**1288. Weißruthenisches Pressebüro (Berlin W.15, Kaiser-Allee 209). Extra-Ausgabe. Nr.12. 31.07.1919**

Bolschewistische «Selbstbestimmung». — Abreise des Präsidenten des Ministerrates der Weißruthenischen Volksperublik zur Friedenskonferenz. — Weißruthenischer Kongreß der Gouvernements von Wilna und Grodno. — Polnische Wirtschaft in Weißruthenien. — Antibolschewistische Bauernaufstände in Weißruthenien. — Betrügerische Politik. — Protest der Weißruthenen gegen

den polnischen Imperialismus. — Der bolschewistische Terror. — Nachrichten aus Paris. — Wann hat es endlich mal ein Ende? — Ausschreitungen der Polen in Weißruthenien. — Die Forderung des Wilnaer Gouvernementsrada an die Okkupationsbehörden. — Protest der polnischen Sozialisten

*582.2.42:043&r — д*

**1289. Мэмарандум дыпляматычнага прадстаўніка БНР у балтыйскіх краінах Кузьмы Цярэшчанкі (Рыга) прэм'ер-міністру Латвійскай Рэспублікі Карлісу Ульманісу за 31.07.1919 з просьбай аб дапамозе ў барацьбе з бальшавікамі, аб выдзяленьні пункту для арганізацыі вайсковае базы і ўчастку баявога фронту для выхаду на сваю тэрыторыю і ў справе адкрыцьця Консульства БНР у Рызе**

*582.2.32:005&r-007 — мк*
*582.2.32:031&r-033 — мк*
*582.2.52:101&r-102&r — мк*

**1290. Праект сакрэтнага дагавору паміж Беларускай Народнай Рэспублікай і Ўкраінскай Народнай Рэспублікай аб тайным палітычным саюзе, складзены ў Парыжы ?.08.1919**

ЗУСІМ СЭКРЭТНА
ПРА[Е]КТ

Парыж, ... жніуня 1919

Кіруючыся да аб'еднаньня на грунці дзяржаунай фэдэрацыі Беларускай Народнай Рэспублікі і Украінскай Народнай Рэспублікі, ніжэйпісаныя прадстаунікі абедзьвых дзяржау прызналі патрэбным ужо цяпер прыступіць да чыннага супрацоуніцтва іх урадау і ад імя гэтых урадау зрабілі гэтакую умову:

I. Урады Б.Н.Р. і У.Н.Р. завязываюць тайны палітычны саюз дзеля супольнай абароны і умацаваньня дзяржаунай незалежнасьці абедзьвых рэспублік.

У мысьль гэтага абодва урады абязываюцца:

а) аказаць сабе узаемную помач у палітычнай рабоці заграніцай;

б) устанавіць пастаянны контакт паміж прадстауніцтвамі Б.Н.Р. і У.Н.Р. у сталіцах вялікіх дзяржау, утварыушы там мяшаныя беларуска-украінскія камісіі дзеля супольнага разгляду і абмярковываньня супольнай палітычнай работы;

в) даваць сабе узаемна фінансовую і эканамічную помач;

г) апрацаваць і прыняць на аснове здаволеньня абапольных інтарэсау беларуска-украінскую торговую конвэнцыю.

II. Дзеля улажэньня гранічных спорак абедзьве дзяржавы згаджаюцца палажыць у аснову разгранічэньня Беларусі і Украіны гэткія прынцыпы:

разгранічэньне мае быць праведзена паводлуг этнаграфічнага прынцыпу з эканамічнымі папраукамі на аснове узаемных компэнсацый; пры немагчымасьці дайсьці угоды гэткай дарогай спорка разьвязываецца плебісцытам і міжнародным палюбоуным судом.

III. Б.Н.Р. і У.Н.Р. завязываюць ваенны саюз дзеля абароны тэрыторыі іх — у першы чарод дзеля вызваленьня ад большэвіцкай акупацыі.

Асновы і аб'ём ваеннага саюзу маюць быць выпрацованы спэцыяльнай камісыяй, зложанай з прадстаунікоу абодвых умауляючыхся урадау, і уложаны у асобную конвэнцыю.

Гэта умова — апрача пункту II — есьць тайная і можа быць поунасьцю або часьцямі апублікована не йначэй, як за згодай абодвых урадау.

*582.2.34:003&r — мк*

Дакладная дата невядомая.

**1291. Кароткая даведка аб гаспадарцы Беларускай Народнай Рэспублікі**

*582.2.33:048,030 — мк анг*
*582.2.33:044-045 — мк фра*

Парыж. Дата невядомая.

**1292. Мэмарыял аб беларускай прэсе, складзены Антонам Луцкевічам (?)**

*582.2.33:041-043 — мк фра*

Парыж. Дата невядомая.

**1293. Параўнаўчая табліца плошчы й колькасьці, шчыльнасьці й прыросту насельніцтва ў дзяржавах, што ўтварыліся на тэрыторыі былой Расейскай імпэрыі**

*582.2.33:047 — мк рас*

Парыж. Дата невядомая.

**1294. Табліца сельскагаспадарчае прадукцыі Беларусі (па губэрнях)**

*582.2.33:050 — мк анг*

Парыж. Дата невядомая.

**1295. Каштарыс прыбыткаў і выдаткаў Літоўскага Бюро Друку за верасень-сьнежань 1919**

*582.2.50:007&r — мк*

Дата невядомая.

**1296. Пратакол паседжаньня Надзвычайнай Дыпляматычнай Місіі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Бэрліне за 4.08.1919**

Журнал
заседаньня пры учасьці Час. Намесьніка Рады Народных Міністраў В.Захарко, Дыплёматычнаго Прэдстаўніка і Дзержаўнаго Кантралёра Л.Зайца і Радніка Місіі Е.Белевіча
м. Бэрлін, жніўня 4 дня 1919 г.

| Слухалі | Пастанавілі |
|---|---|
| 1. Справу аб ліквідацыі беларускіх установаў пры Літоўскім Урадзе, ў зьвязку з магчымасьцю разрыва з Літвою, дзеля яе аннэксыаніцкіх тэндэнцыяў, выражаючыхся у жаданьні прылучэньня Гродзеншчыны і Віленшчыны да Літвы. | 1. Зложыўшыяся абставіны у звязку з тым матэр'ялам, які ў нас ёсьць, — таковы, што разрыў з Літвінамі канешне павінен быць зроблены. У звязку з разрывам, ліквідацыя міністэрства беларускіх спраў Літвы павінна быць праведзена так: 1) Запрапанаваць п. Варонко выехаць у Бэрлін для супольнай працы пад загад Тымч. Намесьніка Старшыні Рады Народных Міністраў. 2) Запрапанаваць п. Крэчэўскаму, посьле перэсылкі поўнаго пісьменнаго адчоту аб працы на Літве і аб разрыве, паехаць дзеля працы на Беларусі, асабліва прыймаючы пад увагу яго становішчэ Сэкрэтара Рады Рэспублікі. 3) Запрапанаваць п. Езавітаву застацца ў Коўні нашым (Беларускаго Ураду) неафіцыяльным прэдстаўніком, дзеля абароны беларускіх інтэрэсаў на Літве і дзеля зьвязі паміж мэтрополіяй і Урадам; пэнсыя яму назначаецца ў ліку дзве тысячы (2.000) марак на месяц. Калі бы гэта была па якім прычынам німагчыма, то запрапанаваць яму як члену Рады выехаць разам з п. Крэчэўскім для працы на Бацькаўшчыну. 4) Запрапанаваць п. Ластоўскаму выехаць на Бацькаўшчыну для нацыанальнай працы і па выдавецтву, назначыўшы яму пэнсыю, якую ён будзе атрымовываць з Дзержаўнай Кассы, адну тысячу пяцьсот (1.500) марак на месяц.<br>У звязку жа з ліквідацыей міністэрства беларускіх спраў, ассыгнаваць Прэдстаўніку на Літве Крэчэўскаму пад атчот аванс у ліку дзесяці тысячаў (10.000) марак для выдачы заштатнаго утрыманьня тым служачым міністэрства, якія ні застануцца на літоўскай службе. Заштатнае утрыманьне павінна быць выплачэна служачым ў ліку іх месячнай пэнсыі |

| | |
|---|---|
| | і толькі пад варункам калі ад Літоўскаго Ураду п. Варонкай ня будуць атрыманы для ліквідацыі належныя грошы. Ні водзін із служачых міністэрства у данны момэнт, у звязку са станам нашай Дзержаўнай кассы, прыняты на службу БНР быць ня можэ. |
| 2. Справу аб назначэньні п. Крэчэўскаго прэдстаўнікам Беларускаго Ураду на Бацькаўшчыне. | 2. Прыймаючы пад увагу, што з разрывам з Літвой функцыі п. Крэчэўскаго як прэдстаўніка на Літве, закончуцца, назначыць яго паўнамочным прэдстаўнікам Ураду, дзействуючым на правах міністра бэз партфелю на Бацькаўшчыне. |
| 3. Фінансавую справу у звязку з працай у Меншчыне. | 3. Справу гэту адлажыць да прыезду п. Крэчэўскаго ў Бэрлін, які перэд ад'ездам на Бацькаўшчыну павінен лепей зьявіцца з дакладам асабісьце. |

Л.Заяц Захарко Белевич

*582.2.01:042&-043 — ра*
*582.2.01:053&r — мк (выпіска для А.Луцкевіча)*
*582.2.06:016&r — мк (выпіска для П.Крэчэўскага)*

**1297. Мэмарыял Дэлегацыі Беларускай Народнай Рэспублікі Мірнай Канфэрэнцыі ў Парыжы за 4.08.1919 у справе неабгрунтаванасьці літоўскіх прэтэнзіяй на частку этнаграфічнай беларускай тэрыторыі разам зь Вільняю**

Paris, le 4 Août 1919

Dès le XIVe siècle la Russie Blanche ne forma ave[c] la Lithuanie qu'un seul Etat. C'est la Russie-Blanche qui donna à la Lithuanie ses lois, sa langue et sa littérature.

Le peuple Lithuanien ne possédait pas encore, à cette époque, de langue écrite. Il ne reste, d'ailleurs, aucun monument écrit en langue lithuanienne, ni de la période de l'existence de l'Etat Blanc-Russien-Lithuanien, ni de la période antérieure.

D'après les données historiques des professeurs Dovnar-Zapolsky, Lappo-Danilevsky, Loubavsky, Pitcheta, etc... le Grand Duché Lithuanien n'était qu'une Fédération des deux peuples: Blanc-Russien et Lithuanien, le premier étant cinq fois plus nombreux que le second (professeur Dovnar Zapolsky).

Cet Etat formé de la Russie-Blanche et de la Lithuanie, accepta plus tard une union fédérative avec la Pologne. Il porta le nom de Lithuanie quoique celle-ci représentait la plus petite partie de son territoire.

Les hommes politiques lithuaniens utilisent ce dernier fait pour justifier leurs projets d'annexion d'une partie du territoire Blanc-Russien. Cette partie étant moins grande que la Lithuanie lui laissera l'avantage du nombre, ce qui lui

permettra de mettre la population Blanc-Russienne dans une situation dépendente.

Les Lithuaniens font valoir leurs prétentions relatives au gouvernements de Grodno (purement blanc-russien) et à une partie du gouvernement de Vilna. Ces prétentions sont de fraîche date. Avant la guerre elles n'existaient pas. Monsieur Boulate, ancien député de la Lithuanie à la Douma, limite, dans sa brochure parue en 1909 (voir le recueil: les formes du mouvement nationaliste dans les Etats modernes), la Lithuanie par ses frontières éthnographiques qui correspondent à celles établies, avant la guerre par les études scientifiques de l'académicien Karsky (Blanc-Russien), de M.Rosvadovsky (polonais) et de M.Matoulonis (lithuanien), (voir l'édition allemande, «Russich Litauen», K.Werbelis, Berlin 1917))/.

Ces études établissent que la ville de Vilna est située sur le territoire éthnographique de la Russie-Blanche. Historiquement elle n'est devenue la capitale du Grand-Duché Lithuanien qu'après l'unification de la Russie-Blanche et de la Lithuanie; donc Vilna n'a jamais été la capitale de la Lithuanie éthnographique mais, uniquement, de la Fédération Blanc-Russienne-Lithuanienne. Même à l'heure actuelle, sa population est exclusivement slavo-israêlite et l'élément lithuanien y est représenté par un nombre très insignifiant.

Les prétentions des Lithuaniens relatives aux gouvernements de Grodno et de Vilna ne datent que du traité de Brest-Litovsk. A cette époque l'Allemagne voulant avoir des relations directes avec l'Ukraine, incorpora de force le Côté-Ouest du territoire Blanc-Russien (Gouv. de Grodno et de Vilna) à la Lithuanie, créée par elle, ces gouvernements séparant l'Ukraine de la Lithuanie éthnographique. Il est important de faire remarquer que c'est à Grodno que passe le grand réseau ferroviaire: Koenigsberg-Lyk-Biélostok-Belsk-Brest-Kovel-Sarny-Kieff et Sarny-Odessa.

L'Allemagne sachant très bien que le peuple Blanc-Russien n'accepterait jamais le morcellement de son territoire empêcha par tous les moyens le rafférmissement de la République Démocratique de la Russie-Blanche et la création de forces armées. Elle occupa en 1918 les provinces Blanc-Russiennes situées à l'Est de la ligne du front de 1915 et, en les quittant, remit directement les terres et le[s] villes aux Bolcheviks.

D'autre part, en empêchant le Gouvernement Blanc-Russien d'étendre son action jusqu'aux provinces de Grodno et de Vilna, les forces allemandes d'occupation contraignaient les organisations locales à accepter un compromis avec le Gouvernement Lithuanien et à travailler avec celui-ci à la reconstruction du pays.

Les Blanc-Russiens ont accepté cette collaboration en considérant que ce travail commun servirait de base à une nouvelle Fédération entre la Lithuanie éthnographique et toute la Russie-Blanche.

Les Représentants Blanc-Russiens des gouvernements de Grodno et de Vilna, d'accord avec le Gouvernement de la République Démocratique de la Russie-Blanche, n'ont pas manqué, en acceptant de faire partie du Gouvernement Lithuanien, de faire une déclaration officielle à ce sujet.

Malgré les promesses faites à ce moment aux Représentants Blanc-Russiens, le Gouvernement Lithuanien s'est refusé, dans la suite, à les exécuter et

d'adopter une fédération Blanc-Russienne-Lithuanienne autre que celle établie par les Allemands dans leur traité avec la Russie des Soviets.

Les Représentants Blanc-Russiens dans la Tariba (Conseil d'Etat) Lithuanienne ont envoyé deux protestations écrites signées par M. LASTOVSKY, au Président de la République Lithuanienne, au Président de la Tariba et au Président du Conseil des Ministres.

La première de ces protestations demande le rappel de M. SIEMACHKO Représentant de la Russie-Blanche dans la Délégation Lithuanienne à la Conférence de la Paix à Paris. La seconde (27 Juin 1919, Nə 28) dénonce la politique du Gouvernement Lithuanien ayant pour but d'annexer purement et simplement le territoire de la Russie-Blanche et non de créer une Fédération par des efforts communs.

Tous ces faits ont été communiqué par les Représentants Blanc-Russiens de Kovno à la Mission Française séjournant dans cette ville.

Néanmoins la Délégation lithuanienne à Paris continue la même ligne de conduite, voulant aboutir à l'annexion définitive du Côté-Ouest de la Russi-Blanche (gouvernement de Grodno et de Vilna), incorporé à la Lithuanie par la convention de Brest-Litovsk, bien que celle-ci fût annulée par le traité de Versailles.

Pour justifier leurs prétentions devant la Conférence de la Paix les Lithuaniens produisent des chiffres ne méritant aucune confiance et qui dans l'opinion la plus favorable représentent tout au moins le résultat d'un malentendu.

Ainsi, désirant, à toute force, trouver que les données de la statistique officielle russe ne sont pas exactes, la Délégation Lithuanienne s'appuie sur la statistique de M. Lebedkine qui date de 1861 (Lebedkine, de la composition éthnographique des territoires occidentaux de l'Empire russe, Courrier de la Russie du Sud-Ouest Kiev 1862, vol. I ch. IV). Cette dernière allègue la présence d'un nombre important de lithuaniens dans toute une série de districts purement blanc-russiens (Vileika, Disna etc...) où il n'y a actuellement et où il n'y a jamais eu aucun lithuanien: cette allégation est due à une terminologie erronée. A cette époque la notion des nationalités n'était pas encore très nette dans l'esprit des habitants du Grand-Duché Lithuanien. On ne faisait pas de distinction entre les Lithuaniens, les Blanc-Russiens et Polonais — tous étaient «sujets lithuaniens». Même les villes habitées par des éléments nullement lithuaniens étaient classées lithuaniennes; par ex.: Minsk, Brest-Litovsk, Kamenetz-Litovsk, Vissoko-Litovsk etc. Le nom de «Lithuaniens» était porté non seulement par les Blanc-Russiens habitant les gouvernements de Grodno et de Vilna mais aussi par ceux des gouvernements de Mohilew, de Vitebsk etc.. Il en était de même pour les Polonais originaires du pays, en distinction de ceux venant du royaume Polonais.

L'ouvrage de M. Lebedkine nous révèle également l'existence d'un grand nombre de Lithuaniens de réligion orthodoxe, alors qu'il est de notoriété publique que l'immense majorité est catholique. Les très rares exeptions sont représentées par des renégats convertis à l'orthodoxie officielle pour obtenir un poste édministratif ou politique auquel les catholiques n'étaient pas admis par les pouvoirs de l'ancien régime russe. En comparant les données statistiques de M.

Lebedkine avec d'autres plus récentes on obtient ce résultat absurde, qu'en 36 ans (1861-1897) la population lithuanienne du gouvernement de Vilna diminua de 52,2% à 20,3% tandis que la population slave s'est accrue de 44,6% à 79,6%.

Un tel changement, en dehors des grandes catastrophes — guerres ou épidémies — qui bouleversent la vie des peuples ne c'est pas encore produit dans l'histoire et est invraisemblable.

Une autre raison, mis en avant par les lithuaniens pour justifier leurs prétentions annexionistes, est la suivante.

Il est quasi impossible que la population catholique des gouvernements de Grodno et de Vilna soit blanc-russienne, car ces derniers sont orthodoxes.

Cette affirmation est également inéxacte. En effet, dès le commencement du XVIe siècle la Russie-Blanche servait d'arène aux luttes réligieuses entre catholiques et orthodoxes. Le fait, tellement connu dans l'histoire, qui amena, à la fin du XVIIIe siècle l'immixion de la Russie, en faveur de la réligion orthodoxe, dans les affaires Polonaises, indique, par lui-même, l'existence du catholicisme à côté de l'orthodoxie dans le peuple Blanc-Russien — autrement cette lutte n'aurait pas eu lieu. Nous savons qu'elle se termina en 1596 par l'Union, conclue à Brest, de l'Eglise Orientale à l'Eglise Catholique sous la suprematie du Pape.

On appela «Unis» (Uniates) les Blanc-Russiens orthodoxes convertis au catholicisme. Il n'y en eut par parmi les Lithuaniens, ceux-ci ayant adopté la réligion catholique, venant de Pologne, dès les premiers temps de leur conversion au christianisme.

En 1839, la Russie ayant supprimé l'Eglise Greque Unie (uniate), un grand nombre de partisans de Rome refusèrent de réintégrer le sein de l'Eglise orthodoxe et resistèrent jusqu'à 1905, où fut proclamée la libertée des cultes. A la suite de cette promulgation, plus de 200.000 Blanc-Russiens qui avaient été incorporés d'office à l'Eglise orthodoxe se refirent catholiques en augmentant ainsi le nombre qui dépasse actuellement 2.000.000.

D'après le recensement de 1897 et les données scientifiques de l'académicien Karsky (voir l'ouvrage intitulé Biéloroussi t. I° Vilna 1904) et d'un savant polonais Zouboyitch (voir «Bialorous i Bialoroussini» supplement aux NN° 1 et 2 «Biblioteka War[s]zawska» 1910) les gouvernements de Grodno et Vilna sont incontestablement Blanc-Russiens, excepté une toute petite partie du gouvernement de Vilna située à l'Ouest du réseau Grodno-Vilna-Dwinsk.

Vilna même se trouve sur le territoire Blanc-Russien. Elle est environnée de provinces où la population blanc-russienne prédomine. Au gouvernement de Grodno le nombre des Blanc-Russiens atteint 75,9% (élément lithuanien 0,2%) et au gouvernement de Vilna — 56% (élément lithuanien 17,5%).

Le Gouvernement de la République Démocratique de la Russie-Blanche ainsi que le dernier Congrès réuni à Vilna les 9-10 juin 1919 (pendant l'occupation polonaise) ont exprimé le vœu (voir la résolution ci-jointe) de voir les peuples lithuanien et blanc-russien rétablir par un commun éffort, leur ancien Etat, sous la forme d'une Fédération comprenant toute la Lithuanie éthnographique et toute la Russie-Blanche. Malheureusement, le gouvernement lithuanien aspirant de s'emparer purement et simplement d'une partie du territoire Blanc-Russien, repoussa ce vœu.

En raison de tout ce qui est exposé ci-dessus, et en considérant que l'annexion d'une partie du territoire de la Russie-Blanche à Lithuanie n'est qu'un résultat du traité de Brest-Litovsk actuellement annulé, la Délégation de la Russie-Blanche à Paris demande à la Conférence de la Paix de vouloir bien se baser pour résoudre la question des frontières entre la Lithuanie et la Russie-Blanche, sur la statistique afficielle et les études scientifiques d'avant-guerre.

Elle lui demande également de tenir compte de la volonté des peuples intéressés, volonté qui pourrait être exprimé par un plebiscite décidant de l'attribution définitive des gouvernements de Grodno et Vilna à la Lithuanie ou à la Russie-Blanche.

Il est bien entendu que pour être organisé dans des conditions normales, donnant à la population toute liberté de manifester sa volonté ce plebiscite devrait être précédé de l'évacuation du territoire par les troupes d'occupation polonaises et lithuaniennes.

*582.2.33:007-013 — мк фра — VII*

**1298. Нота Дэлегацыі Беларускай Народнай Рэспублікі Мірнай Канфэрэнцыі ў Парыжы за 4.08.1919 з пратэстам супраць экплёатацыі Літвой натуральных багацьцяў Беларусі на тэрыторыях, прызнаных за Літвою Берасьцейскім мірным дагаворам**

До свѣденія Бѣлорусской Делегаціи дошло, что Литовское Правительство ведет с иностранными представителями переговоры о предоставленіи им права эксплуатаціи лѣсных богатств, находящихся на территоріи Бѣлоруссіи, включенной Германіей в состав Литвы на основаніи Брест-Литовского договора (в Виленской и Гродненской губерніи, в частности богатств знаменитой Бѣловѣжской Пущи).

Ввиду того, что Брестскій договор, опротестованный Радой Бѣлорусской Народной Республики уже 25 марта 1918 года, нынѣ анулирован окончательно Версальским Миром, прокламированіе Литовским Правительством, на основаніи этого потерявшего силу акта, Гродненской и Виленской губерній частью Литвы вопреки ясно выраженной на Бѣлорусском Конгрессѣ в Вильнѣ 9-10 іюня 1919 г. волѣ населенія этихъ Губерній, является актом грубаго беззаконія.

Бѣлорусская Делегація в Парижѣ, как выразительница воли всего Бѣлорусскаго Народа, заявляет пред лицом Мирной Конференціи и правительств Держав Согласія самый энергичный протест против всяких транзакцій с бѣлорусским національным имуществом, совершаемых беззаконно Литовским Правительством на Бѣлорусской территоріи, и предупреждает, что Бѣлорусскій народ ни в коем случаѣ не допустит реализаціи таких транзакцій.

*582.2.33:022&r — мк фра — VIII*
*582.2.33:085 — мк рас*

**1299. Тэлеграма дыпляматычнага прадстаўніка БНР у Бэрліне Лявона Зайца (Бэрлін) старшыні Дэлегацыі БНР на Мірнай Канфэрэнцыі ў Парыжы Антону Луцкевічу (Парыж) за 4.08.1919**

Mission diplomatique extraordinaire
de la République Démocratique
Blanche-Ruthénienne.
No. 101/2061
Berlin, Le 4 âout 1919.
Kaiseralee 209 I

Télégramme

Monsieur le Président
de la Délégation de la République Démocratique
Blanche-Ruthénienne
Antoine de Loutckewitch,
Paris VIII.
24 Rue Bayard.

Selon les dernières nouvelles de Grodno on remarque un renforcement du terreur polonais sur le territoire de la République Blanche-Ruthénienne.-

Les organisations nationales sont dispersées. Les édifices de la «Rada» et du cercle «Bjelaruskaja Chatka» sont fermés et scellés.-

Nos mendataires les messieurs Gryb, Miadziolko, Antonoff et Fogt sont arrêtés et mis en prison après qu'ils étaient privés des fonds publics.

De même sont arrêtés l'évêque Wladimir aussi que les messieurs Jakowiouk, Boeff et le prêtre Korczinski; celui dernier fût terrassé et maltraité par les soldats polonais.

Nous nous adressons à vous Monsieur le Président en demandant que vous feriez tout pour exiger la delivrance de ci-dessus mentionnées personnes.

Le Réprésentant diplomatique
L.Saiats
*582.2.33:031*

**1300. Мэмарандум Літоўскага Ўраду (Коўна) Камітэту Жыдоўскіх Дэлегацыяў пры мірнай канфэрэнцыі ў Парыжы за 5.08.1919 аб юрыдычным становішчы жыдоўскага насельніцтва Літвы**
*582.2.50:006 — мк*

**1301. Пратакол паседжаньня Надзвычайнай Дыпляматычнай Місіі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Бэрліне за 7.08.1919**

Журнал
пасядзэньня пры учасьці Час. Намесьніка Старшыні Рады Народных Міністраў В.Захарко, Пасла ў Бэрліне і Дзержаўнага Кантралёра Л.Зайца, Члена Місіі Е.Белевіча і Упаунамочэннага у справе ваеннапалонных беларусаў у Чэхіі М.Вершыніна за 7 жніваня 1919 г. м. Бэрлін

| Слухалі | Пастанавілі |
|---|---|
| 1. Справу аб прыняцьці учасьця ў выданьні агульнага славянскага тыднёвіка ў Празе. | 1. Для беларускіх патрэбаў прыняць учасьце ў выданьні гэтага тыднёвіка, падпісаўшыся на 100 нумароў гэ- |

| | |
|---|---|
| | таго журналу кожды тыдзень, а ўсяго на месяц 400 №№, што будзе каштаваць менш больш да 250 крон на месяц. |
| 2. Аб надрукаваньні па чэску новай палітычнай брашуры Цвікевіча «Беларусь», якая ужо безплатна друкуецца ў чэскай газэце «Трыбуна». Перэклад для газэты з расейскай мовы на чэскую гэтай брашуры каштаваў 400 кр. | 2. Пакуль што з друкам адзельнай кніжкі гэтай брашуры устрымацца. Дазволіць узяць на пакрыцьцё выдатку па перэкладу брашуры са скарбовых грошы, адпушчаных п. Вершыніну на справы ваеннапалонных. |
| 3. Справу аб павелічэньні пэнсыі старшыні беларускай калёніі ў Празе, які, калі ня атрымае павялічэннай пэнсыі, то ня будзе магчымасьці мець аддацца ўсецэла справе беларускай, бо мусіць шукаць працы з боку. | 3. Павялічыць п. Вершыніну пэнсыю да дзевяцьсот (900) крон на месяц, каб ён мог аддацца справе ваеннапалонных беларусоў і беларускай справе наагул ўсецэла. |
| 4. Справу аб авансе для працы сярод ваеннапалонных беларусоў у Чэхіі і наагул для беларускай працы ў Празе. | 4. Павялічыць упаўнамочэннаму у справах ваеннапалонных п. Вершыніну аванс пад атчот яшчэ на чатыры тысячы (4.000) крон, а усяго з раней выданымі 6.000 крон аванс саставіць дзесяць тысяч (10.000) крон чэскіх. |

Л.Заяц Захарко Белевич
Пастанаўлене выслухаў Н.Вершынін
*582.2.01:045&r — ра*
*582.2.01:046 — мк*

**1302. Ліст [Аркадзя Смоліча?] (Вільня) [... (Бэрлін)?] за 8.08.1919**
8-VIII 919

Дарагія сябры!

Карыстаючы з выпадку і ласкавасьці падаўцы гэтага хочу паведаміць Вас аб сабе. Жыў здароў і вясёл — можа ні саўсім, але гэта ізноў рэч іншая. Хутка будзе два месяцы, як я у Вільні. Апошнія часы чакаю выпадку каб трапіць у Менск — на роднае папялішча. Здаецца гэтымі днямі яго возьмуць[1]. Агледзіўшыся там на мейсцы, я пастараюся паведаміць і вас; ну пэўнеж заапякуюся і Вашымі жонкамі. Між іншым Крачэўскую здаецца вывязьлі у Бабруйск. Што да іншых — вестак ні маю. У Смаленску ёсьць такія нашыя закладнікі: Іваноўскі Вацлаў, Трэпка Антон, кс. Анд. Цікота, кс. Кміт і нейкі Банін(?). Добра было б, каб і Вы там аб іх долі паклапаціліся; бо мы тут стараемся. Весткі зь Менску вельмі рэдкія і няпэўныя. — Цьвікевіч у Варшаве сядзіць і нічога ня робіць. У гэтых днях чакаем яго тут. Думаю яго выправіць на падмогу Антону. Пасьля навінаў прывезяных Бялевічам, іншых ня маем. Старайцеся Вы нас паведаміць.

Палітычныя навіны такія. Тэррор ня спыняецца. Грыб ужо тры тыдні сядзіць у вастрозе; выпускаць яго тым часам ня хочуць. Пасадзілі яго за артыкул у «Родным Краю», якога ён выдаваў у Горадні (але артыкул быў нават ні яго; подпіс быў: «Чэр.»[2]()] Аднак яго трымаюць. Але, што найгорш, пасадзілі Паўліну Мядзіолку, якая нібы супрацоўнічала ў газэці і была каррэктарам; і бедная дзеўчына сядзіць так сама каторы ужо час. Быў арыштаваны рэдактар «Беларускай Думкі» Падгайскі[3] за нейкі артыкул; прасядзеў і ён тыдні са два; цяпер выпусьцілі пад заклад. Гродзенская Управа арыштавана. Корчынскага і Боева выслалі у Кракаў. Шмат у каго паадбіралі грошы — між іншым у Грыба 20 тыс. Наагул здаецца польская палітыка крутанула управа. — Рада В. і Г. такія-сякія гутаркі з Польскім Урадам вядзе, асабліва што да войска. Здаецца, справа гэтая ужо пастаноўленая: будзем мець войска, нацыянальная, з нашымі ахвіцэрамі, але ведама у строгай субардынацыі да польскай каманды. Вайсковая камісія складаецца з — Станкевіча, Алексюка, Кушэля і Мурашкі[4]. Саўсім няма добрых беларусаў-спэцыялістаў. Калі б Вы маглі падаслаць — было б вельмі цэнна. Старшынёю Рады цяпер Тарашкевіч[5]. Ен жа найболыш і з палякамі гутаркі вядзе. — Палякі наагул яшчэ ня ведаюць што рабіць з Беларусьсю. На усякі выпадак падтрымліваюць Раду. Найбольш пераважае здаецца у іх ідэя фэдэрацыі з усёю гістарычнаю Літвою.

Вось што не забудзьцеся — прыслаць грошай. Найлепяй гэта зрабіць цераз Дубейкоўскага. У зьвязку з узяцьцем Менску нам каб стаць на ногі патрэбны грошы, якіх 200-300 тыс. Адшкадуйце ужо іх. Можа удасца адкуль небудзь з другой крыніцы дастаць пасьля, а цяпер трэба.

Стварылі мы курсы вучыцельскія, на іх — каля 150 чал.[6] Ідуць вельмі добра. Чытаюць Ластоўскі, Душэўскі, Станкевіч, Гарэцкі і інш. Я не чытаю, бо тут мяйсцовых хапае. Друкуем кніжкі. — Палітычная праца блізка таго што немажліва, асабліва на вёсцы. Жывецца цяжкавата.

Але, браткі, мне ня сумна. Навакола нас жыцьцё і барацьба. І справа нашая расьце калі ня нашымі высілкамі, дык праз гістарычную канечнасьць.

---

Вось што трэба, — паслаць некага у Англію і Амэрыку. Можаб Цьвіка? Тэрэшчанка выехаў у Рыгу і Рэваль. Ковенскія хацелі з літвінамі сварыцца, ды спыніліся. І добра зрабілі.

Інформуйце нас як найчасьцей, асабліва аб Парыж. Копію лісту перашлеце Антону. Між іншым. Скірмунт кажуць выехаў у Парыж.

Бывайце здаровы

*582.2.46:011&r-012&r — ра*

---

[1] Польскія войскі ўвайшлі ў Менск а 10 гадзіне вечара 8.08.1919, г. зн. яшчэ ў дзень напісаньня ліста. [2] Аўтар артыкула «Правам ці мячом» (Родны Край (Горадня). №6. 10.07.1919) — Янка Чарапук. [3] Газэта «Беларуская Думка» зачыненая на №56 (27.07.1919). [4] Вайсковая Камісія Цэнтральнай Беларускай Рады Віленшчыны й Горадзеншчыны была абраная на паседжаньні Рады 2.08.1919 у складзе: Павел Аляксюк, Янка Станкевіч, Аляксандар Галавінскі, Язэп Кушаль і Бондар Нарушэвіч, кандыдат Леў Зубец (Беларускае Жыцьцё. №9. 4.08.1919). [5] Б.Тарашкевіч абраны старшынём Рады замест К.Душэўскага, які адмовіўся ад па-

сады з асабістых прычынаў у выніку крызысу ў ЦБРВіГ (Беларуская Думка. №46. 16.07.1919). [6] Курсы адбываліся 16.07-1.09.1919, іх скончылі 154 чалавекі.

**1303. Тэатральная праграма: «Невинно-осужденный», драма Лисенко-Коныча; «Ивановъ Павелъ», фантастическая опера Раппопорта**

*582.2.36:038 — д*

З папераў Язэпа Варонкі. Дата невядомая.

**1304. Пратакол паседжаньня Надзвычайнай Дыпляматычнай Місіі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Бэрліне за 9.08.1919**

Журнал

пасядзэньня пры учасьці Тым. Намесьніка Старшыні Рады Народных Міністраў В.Захарко, Дыпл. Прэдст. Дзержаўнаго Кантралёра Л.Зайца і Члена Місіі Е.Белевіча

м. Бэрлін

7 жніўня 1919 г.

| Слухалі | Пастанавілі |
|---|---|
| 1. Заяву Старшыні Рады Народных Міністраў п. Луцкевіча, што для працы ў Парыжы, у звязку з закупкай для Беларусі тавараў з амэрыканскіх складаў на 100.000.000 франкаў, патрэба яшчэ 500 тысячаў марак, бо ён да гэтаго часу, ні гледзючы на ўсе нашы пасылкі, нічога ні атрымаў. | 1. Прыймаючы пад увагу, што ў данны момэнт п. Луцкевіч, апроч раней узятых сто тысячаў марак, павінен ужо атрымаць высланыя яму 12/VII шэсьцьдзесят восем тысячаў сто семдзесят пяць марак 30 пф. і 27/VII праз кур'ера Стоша сто трыдцаць тысячаў марак, а ўсяго павінен атрымаць 198.175,30 — дзеля гэтаго выслаць яму да ліку прасімых 500 тысячаў яшчэ з п. Раднікам Е.Белевічам трыста адну тысячу восемсот двадцаць чатыры маркі 70 пф., такім чынам за Дэлегацыяй у Парыжы лічыцца аванс усяго ў ліку шэсьцьсот тысячаў марак. |

Л.Заяц Захарко Белевич

*582.2.01:047 — ра*

**1305. Ліст міністра замежных справаў Латвійскай Рэспублікі Зігфрыда Мэеровіца (Рыга) дыпляматычнаму прадстаўніку БНР у балтыйскіх краінах Кузьму Цярэшчанку (Рыга) за 13.08.1919**

Gouvernement Provisoire de la Lettonie.
Ministère des Affaires Etrangères.

MONSIEUR LE REPRESENTATIVE DIPLOMATIQUE
DE LA REPUBLIQUE RUTHENIENNE.

13 août 1919

Nr. 1745.

Monsieur,

J'ai l'honneur de vous confirmer votre memorandum du 31 juillet a.c.

Le Gouvernement de Latvia est persuadé que d'accord avec le Gouvernement de la Ruthénie, il trouvera des moyens pour conserver la souveraineté des pays envers l'ennemi et d'avoir la satisfaction du travail commun.

A l'heure actuelle où la quantité et la formation des troupes Ruthéniennes n'est pas encore fixée, le Commandement Suprême de Latvia se trouve dans l'impossibilité de décider définitivement la question touchant la dislocation des troupes sur une section du front.

La nomination d'un consul Ruthénien à Riga serait très désirable, de même que la possibilité d'informations réciproques plus intensives.

Je vous prie d'agréer, Monsieur, l'assuration de ma considération la plus distinguée.

Z.A.Meierovic

MINISTRE DES AFFAIRES ETRANGERES.

*582.2.32:001 — ма*

**1306. Ліст дыпляматычнага прадстаўніка БНР у балтыйскіх краінах Кузьмы Цярэшчанкі (Рыга) міністру замежных справаў Латвійскай Рэспублікі З.Мэеровіцу за ?.08.1919 з прапановай ахапіць мабілізацыяй у латвійскае войска грамадзянаў Беларусі з выдзяленьнем іх у асобныя часткі**

*582.2.32:004 — рк*

---

Дакладная дата невядомая.

**1307. Пагадненьне аб межах паміж Урадамі Беларусі й Латвіі (Парыж, ??.08.1919)**

ACCORD INTERVENU
ENTRE LES GOUVERNEMENTS BLANC-RUSSIEN ET LETTON

Les Représentants à Paris, des Gouvernements de la République Démocratique de la Russie-Blanche et de la République de la Lettonie, viennent de conclure un accord au sujet des frontières à établir entre les deux Etats.

Les principes adoptés par les Représentants de deux Républiques sont les suivants:

I° Constituer entre la Russie-Blanche et la Lettonie, de deux côtés de la Frontière provisoire, une zone éthnographique incontestable.

II° Les territoires contestés doivent être répartis d'après le principe éthnographique.

III° Au cas où la Commission ne sera pas d'accord sur l'attribution d'une zone contestée à un de deux Etats, cette question sera tranchée par un plebiscite.

IV° Dans ses rectifications économiques de la frontière éthnographique la Commission sera guidée par le principe des compennsations par consentement mutuel.

V° Si la Commission ne tombe pas d'accord sur cette question ou si les Gouvernements respectifs de deux pays ne confirment pas sa décision, cette dernière sera demandée au Tribunal Intérnational.

La Commision sus-mentionnée sera élue par les Gouvernements des deux Etats et elle accomplira son travail sur l'emplacement même où seront tracées les frontières.

*582.2.33:084 — мк фра*
*582.2.38:078 — выцінка з газэты*[1]

Дакладная дата невядомая. [1] Accord intervenu entre les gouvernements Blanc-Rusien et Letton. «L'Armée Verte» en Russie-Blanche // Revue Parlementaire (Paris). N33-34. 15.08.1919

**1308. Пратакол паседжаньня Надзвычайнай Дыпляматычнай Місіі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Бэрліне за 16.08.1919**

Журнал
пасядзэньня пры учасьці Тымч. Старшыні Рады Народных Міністраў В.Захарко; Дыплёматычнаго Прэдстаўніка - Дзержаўнаго Кантралёра Л.Зайца і Юрысконсульта Бэрлінскай Місіі - Б.Мюллера

м. Бэрлін
16 жніваня 1919 г.

| Слухалі | Пастанавілі |
|---|---|
| 1. Даклад п. Мюллера аб падарожжы Місіі белар. пасла на Украіне Цвікевіча. Місія, дзякуючы ваеннай зоне, праз Прагу на Украіну, ні удалося праехаць. Прыйшлося прабаваць праз Варшаву, куды Місія і выехала. Аказалась, што з Варшавы на Украіну ніяк ня можна ўсей Місіі прабрацца. Пастанавілі пасланць, аказаўшую ужо не раз цэнныя ўслугі Радзе Народных Міністраў у справе пераезду і правозу дакумэнтаў праз фронт, — Эўгенію Алексючанку як дыплёматычнаго кур'ера да Украінскаго Ураду у Камянец-Падольску, даручыўшы ей завязьці і абмяняць не рэалізаваны у Бэрлінскім Рэйхс-банку (гдзе грошы адмовіліся выплаціць па украінскаму пераводу, бо быў наложэны арэшт на украінскія грошы) перавод на суму 1.500.000 карбованц. З Варшавы Алексючанка з вялікімі труднасьцямі дабралась да Луцка, адкуль, перадзеўшыся селянкаю, пайшла праз | 1. Прыймаючы пад увагу, што п. Цвікевіч па прывезеннаму дыпл. кур'ерам Э.Алексючанкай пераводу грошы ў Вене атрымаў, і што у гэтым атрыманьні так патрэбных для нашай дзержаўнай працы асабліва ў гэты час грошы вялікую ролю адыграла Алексючанка, рызыкуючая дзеля дабра Бацькаўшчыны у працягу цэлаго месяца сваім жыцьцём, — пастанавілі шчыра дзякаваць п. Алексючанцэ ад імені Ураду БНР за такую самаатвержанную нацыанальную працу і прасіць яе прыняць ад імені таго жэ Ураду награду у ліку аднэй тысячы пяцьсот (1.500) марак. Прасіць п. Алексючанку прэдставіць заяву аб панесенай у часе падарожжы страце убраньня і інш. рэчаў на прэдмет аплаты гэтых стратаў. Пастанову гэту далажыць агульнаму сходу Рады Народных Міністраў на ухваленьне. |

лінію польска-бальшэвіцкаго фронту. На бальшэвіцкай старане яе арыштавалі, але за 500 крон удалося уцячы і нават ахранны дакумэнт атрымаць да Острогі. Каля самай граніцы, пасьля таго, як у готэлі ноччу пры рэвізыі бальшэвікамі у яе адабралі усе пры ей знаходзячыяся грошы, убраньне лепшае, багаж і нават чаравікі, яна змушана была з дакумэнтамі, чудам захаванымі, без копейкі грошы ўцячы раненька з готэлю, бо ні было чым плаціць. На самай бальшэвіцка-украінскай граніцы яе узноў арыштавалі для выясненьня асобы, але ей удалося уночы, разам з двумя украінкамі выламаўшы акно арыштанскай, уцячы і пірайсьці пад агнём бьючыхся бальшэвікоў і украінцаў граніцу. Каманда перадавой украінскай лініі з пачотам даставіла яе у Камянец-Падольск, гдзе Прэмьер-Міністр Мартос адразу зрабіў усе, каб перавод быў пераменяны на Аустрыяцкі Банк у Вене на тры мілліоны крон. Падвезеная Алексючанка да польскай граніцы на Збруч узноў была арыштавана палякамі і, толькі дзякуючы спрыту і лоўкасьці, яна арыштаваная і пад канвоем жандармаў, згодна з яе прозьбамі, была дастаўлена ў Варшаву для праверкі асобы, гдзе удалося яе асвабадзіць з пад арэшту. Седзючы у готэлю пад арэштам, яна сумела перадаць усе дакумэнты і прывезены перэвод яшчэ перад асвабаджэньнем праз дыплёмат. кур'ера Камарынца п. Цвікевічу.

2. Заяву Б.Мюллера, што ён вярнуўся з дазволеннаго яму п. Старшыней Рады Нар. Мін. бэз утрыманьня отпуску і можэ прыступіць да выпаўненьня сваіх юрысконсульскіх абавязкаў.

2. Лічыць п. Мюллера Юрысконсультам Бэрлінскай Місіі ад 16 гэт. жніветня з пэнсыей адну тысячу марак (1.000), якую ён атрымовываў да отпуску.

Л.Заяц Захарко

*582.2.01:050&r — ра*

**1309. Копія ліста Рады Народных Міністраў БНР Эўгеніі Алексючанцы за 16.08.1919 (вых. №110/2070)**

Беларуская Народная Рэспубліка
Рада Народных Міністраў
16-го жніўня 1919 г.
№110/2070

Панне Эўгеніі Алексючанцэ.

У звязку з дакладам Пана Мюльлера аб Вашэй самаатвержаннай нацыянальнай працы на карысьць дарагой Нашай Бацькаўшчыны у гэты цяжкі і адпаведны момэнт і згодно с пастановай нашаю за 16-го гэтаго жнівеня, шчыра дзякуючы ад Імені Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі за Ваш нацыянальны гэроізм, просімо прыняць ад Імені таго жэ Ураду хоць не вялікую нагpаду у ліку адной тысячы пяцьсот марак (1.500) нямецкіх. Прасімо не лічыць гэту скромную нагpаду ацэнкай Вашых неацэнных для нашай дзержаўнай справы трудоў.

Апроч таго просімо Вас прэдставіць нам заяву аб панесенай у часе Вашай падарожжы страце убраньня і іншых рэчаў на рэч аплаты вам гэтых стратаў.

Тымчасовы старшыня Захарко
Дзержауны пісар Заяц
*582.2.46:117 — рк*

**1310. Нататкі старшыні Дэлегацыі БНР на Мірнай Канфэрэнцыі ў Парыжы Антона Луцкевіча (Парыж) за 17.08.1919**

17 жніўня 1919. Парыж. Сягоньня член Дэлегацыі, Ознобішын, заявіў мне: «Маклаков[1] сказаў мне, што Беларусь, ня гледзячы на ўсё, будзе падзелена. — «Аднак — дадаў Маклаков — не турбуйцеся з гэтае прычыны: гэта будзе не на доўга!»».

Старшыня Дэлегацыі
Ант. Луцкевіч.
*582.2.33:034*

[1] Васіль Маклакоў — амбасадар дэмакратычнае Расеі ў Парыжы.

**1311. Пратакол паседжаньня Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі ў Бэрліне за 20.08.1919**

Журнал

пасядзэньня пры учасьці Тымч. Намесьніка Рады Нар. Мін. В.Захарко, Кіраўніка Міністэрства Унутр. Спраў К.Тэрэшчэнко і Дыпл. Прэдст. ў Бэрліне, Дзержаўнаго Кантралёра Л.Зайца

м. Бэрлін
20 жніўня 1919 г.

| Слухалі | Пастанавілі |
|---|---|
| 1. Даклад п. Тэрэшчэнко аб тым, што глаўная мэта паездкі яго ў Лат- | 1. Лічучыся з тым значэньнем, якое будзе мець конфэрэнцыя, прыла- |

вію і Эстляндзію была тая, каб адстаіваць права Беларусі на запросіны яе прэдстаўнікоў на прэдстаячую у хуткім часе канфэрэнцыю «недзержаўных нацый». Як Міністр Загранічных спраў Латвіі, так і Эстоніі заверылі Тэрэшчэнко, што яны будуць адстаіваць права Беларусі на учасьце ў гэтай канфэрэнцыі, якая будзе адыгрываць у жыцыці маладых дзержаваў агромную ролю і што яны лічуць, што ў гэтым выпадку Беларусь ня будзе абойдзена.

жыць усіх спосабаў, каб прэдстаўнікі Беларусі на гэту конфэрэнцыю былі запрошэны.

2. Справу аб аддачы Латвіей базы і кавалак фронту дзеля беларускіх фарміровак на тэррыторыі Латвіі. Нічога ні маючы прынцыпіальна проці аддачы нам базы, Урад Латвіі прасіў дзеля дэтальных абгавораў прыслаць спэцыяльную вайсковую камісію. (Атказ Мініст. Загр. Спраў за 13/VIII далучаецца і копія мэмарыялу[1]).

2. Дзеля ведзеньня далейшых перагавораў з Урадам Латвіі аб беларускіх фармаваньнях на тэррыторыі Латвіі лічыць патрэбным туды паслаць нашу спэцыальную вайсковую місію.

3. Справу аб утварэньні беларускіх вайсковых часьцей ў латышскай арміі. У звязку з агульнай мабілізацыей ў Латвіі (хаця беларусы і не падлягаюць гэтай мабілізацыі), п. Тэрэшчэнко падаў Латвійскаму Ураду заяву, у якой высказаў пажаданьне, каб мабілізаваць і беларускіх грамадзян пад варункам, аднак, фармаваньня з іх асобных беларускіх часьцей з нізшым афіцэрскім саставам. (Копія заявы далучаецца[2]).

3. Прызнаць на паказаных п. Тэрэшчэнкай варунках мабілізацыю беларусаў у Латвіі пажаданай, прычым сфармаваныя такім спосабам беларускія часьці павінны, як толькі латышская армія выйдзе на беларускую тэррыторыю, — цалікам перайсьці пад загад Беларускаго Ураду, аб чым павінна быць зроблена з Урадам Латвіі падробная умова.

4. Справу аб прыватных перэгаворах п. Тэрэшчэнко з кн. Лівэнам[3] аб фармаваньні беларускіх атрадаў пры яго корпусе, прычым кн. Лівэн абецаў аб гэтай справе даць падробны адказ на адрэс Беларускаго Пасольства ў Бэрліне.

4. Прыняць да ведама.

5. Заяву п. Тэрэшчэнко аб тым, што Міністры Загр. Спраў як Латвіі, так і Эстоніі заявілі яму ад імені памя-

5. Прыняць ніадкладаючы ўсе меры аб пераходзе грамадзкай ўлады на асвабоджаных праз войскі Латвіі і

| | |
|---|---|
| нёных Урадаў, што яны далёка за беларускі рубеж ня пойдуць, а толькі пастараюцца адваеваць ад бальшэвікоў некалькі паветаў Вітэбскай губ, якія перададуць беларускаму Ураду пад яго загад. Войскі Латвіі і Эстоніі застануцца на бальшэвіцка-беларускай граніцы, покуль Урад Беларускі ні зарганізуе сваіх часьцей дзеля абароны ад бальшэвікоў і тым самым замены войск Латвіі і Эстоніі, якія будуць адцягнуты на сваю тэрыторыю. | Эстоніі землях і просіць Кіраўніка Міністэрства Унутр. Спраў прэдставіць дэтальны даклад аб арганізацыі беларускай улады ў гэтых асвабоджаных мейсцах і аб патрэбных для тамашняй працы срэдствах. |
| 6. Справу аб адчыненьні Беларускага Консульства ў Рызе, на што дана пісьменная згода Ураду Латвіі. У звязку з працай для беларускаго- Консульства, да якой варункі вымагалі прыступіць ніадкладаючы, п. Тэрэшчэнко змушаны быў адразу, да назначэньня пастаяннаго ў Рызе консула, назначыць вып. аб. консула паруч. артылерыі Б.Шымковіча, які і прыступіў адразу да працы. | 6. Лічыць Беларускае Консульства у Рызе адчыненым з астаўленьнем часова вып. абавязкі консула Б.Шымковіча. |
| 7. Справу аб назначэньні вызваннаго тэлеграммай з Прагі падпалк. Шолкаваго 17/VIII. | 7. Падпалкоўнка Шолкаваго, пакуль яму ня будзе даручана выпаўненьне адказнай вайсковай справы, назначыць з 20 гэтаго жнівеня штаб-афіцэрам дзеля даручэньняў і камандзіровак пры Радзе Народных Міністраў з пэнсыяй адну тысячу пяцьсот (1.500) марак на месяц; рэшта на агульнай аснове. |

Л.Заяц К.Тэрэшчэнко Захарко

*582.2.01:048&r-049 — ра*

*582.2.01:054 — мк*

---

[1] Дакумэнты №№1289 і 1305. [2] Дакумэнт №1306. [3] Князь Анатоль Лівэн — камандуючы добраахвотнымі расейскімі аддзеламі арганізаванага немцамі ў Латвіі Балтыйскага Ляндэсвэру.

**1312. Справаздача дыпляматычнага прадстаўніка БНР у балтыйскіх краінах Кузьмы Цярэшчанкі (Бэрлін) Радзе Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі за 20.08.1919**

(да журналу пасядз. 20.08.1919)

У Раду Народных Міністрау Беларускай Народнай Рэспублікі.

У час маіх візытау Міністру Заграпічных Спраў Латвіі п. Мееровіцу, апошнім было заяулено, што «войско Латвіі, пасьля аслабаджэньня Латвіі прадзвінуцца на беларускія землі і гэтакім чынам будуць аслабаджэны ад большавікоу паветы Люцынскі, Дрысненскі, Себежскі, а можа і место Полацк. На Беларускай Зямлі Латвійскія войскі будуць затрыманы да часу, пакуль Беларускі Урад не зорганізуе сваей вайсковай сілы, здольнай затрымліваць націск большавікоу. Што-жа датыкаецца цывільнай улады, то яна будзя адразу перадана Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі.»

У гэтакім жа сэнсі былі зробляны заявы і Міністрам Прэзыдэнтам Латвіі п. Ульманісам і Міністрам Заграпічных Спраў п. Поскэ.

Важнасьць гэтай заявы даказываць лічу не патрэбным, бо гэта зьяуляецца напрамкам нашай палітыкі, асабліва калі прыняць пад увагу, тоя, што гэтакім чынам мы выйдзем на нашу зямлю з боку, з якога польскіе уплывы не маюць ніякой вагі.

Толькі хачу падчаркнуць, што хутчэйшае наданьне жыцьця гэтай заяве залежыць так сама і ад нас самых.

Па моему, мы павінны той, ці другой дарогай памагчы войскам Латвіі і Эстоніі ачысьціць нашу тэррыторыю. Усе гэта павялічыць тыя сымпатыі, якія маюць да нас Латышы і эстонцы.

Дапамога па асвабаджэньню нашай тэррыторыі мажліва з двух бокау: 1. Мобілізацыя грамадзян Беларускай Народнай Рэспублікі, жывучых у Латвіі і 2. Барацьба з большавікамі у іхнім тылу з дапамогай нашых партызанау (Зяленая армія).

Як я ужо дакладывау у вуснай справаздачы, - за бытнасьць маю у Латвіі мною было у пісьменнай форме высказано пажаданьне Ураду Латвіі зрабіць мобілізацыю грамадзян беларусау. Але Міністэрства Абароны Латвіі, пры усей карысьці для яго у гэтым, пакуль-што на гэта не згаджаецца. Прычына таму — небязпека за нашу палітыку, якая, па іхніх думках, кіруецца у Расею. Не аднаразова і мне паказывалі пальцам на нашу зьвязь з расейскімі генэраламі, адзін з якіх, Давыдоу, зьяуляецца кіраўніком нашай аружжнай сілы. Думку аб зьвязах з расейцамі перaказываюць літоуцы, бо у Рызе вядомы прыезд п. Давыдова у Коуну і што адказ літвіноу у дзелі дзеля фармаваньня нашай арміі, як бы так сама, быу вызваны недаверьем к генэралу Давыдову — як кіраўніку нашай вайсковай справы. Гаварылось і аб Кандратовічу, але не з такім націскам.

Я лічу вельмі патрэбным як найхутчэй сапрауды развязацца з Давыдовым аб чым шырока апавесьціць у Прыбалтыцкай Прэссі, гэта паможа справі і пытаньню аб організацыі беларускіх часьцей у латвіцкай арміі, прыме рэальныя формы.

Дэтальная абпрацаваньне варункау організацыі гэтакіх часьцей павінны быць выраблены Вайсковай Каміссіей, па можнасьці у скорым часе, якая павінна выехаць у Латвію.

Вайсковая Каміссія павінна так сама абпрацаваць і плян барацьбы з большавікамі з дапамогай партізанау, а така сама і абгаварыць з Латышскім Урадам пытаньне аб ваеннай базі, на выпадак магчымасьці організацыі беларускіх дзержауных войск.

Што датычыць к выходу на беларускія землі, то ен павінен вясьціся у напрамку падгатоукі організацыі Урадовай Улады і загатоукі рэчау для жыхарау, аслабаненных мясцоу краю.

Лічучыся з тым, што у аслабаняемых паветах і местах, у час панаваньня Расейскаго Часоваго Ураду, былі праведзены выбары у земскія і мястовыя самаупрауленьня, я прапаную прызваць гэтыя інстытуцыі да жыцьця звязаушы іх з Урадам Рэспублікі, часова назначаемымі Урадовымі Камісарамі на паветы, якім і даручыць кіраваньне усіх устаноу, згодна палітычнаму напрамку Ураду.

Да часу, пакуль жыцьце у аслабаненных паветах не увойдзя у нармальныя калавіны, уся міліцыя павіна быць пад загадам Ураду, як гэта цяпер істнуе у Латвіі. Агулам наша палітыка у гэтай часьці не павінна рожніцца шмат ад палітыкі латышоу.

Ведама, што апрыч інстытуцыі зямельнай ад Міністэрства Унутранных Справу, адразу жа трэба будзя адчыніць і аддзелы усіх другіх міністэрствау, асабліва Судзебны.

Развіваць дэтальны плян організацыі у гэтым дакладзе я не буду, бо гэта патрабуя грунтоунае абпрацаваньне законау (часовых правоу), да працы якой я прыступлю, калі атрымаю згоду на гэта ад Рады Народных Міністрау.

Вялікую дапамогу у справе Дзержаунаго Будауніцтва на нашых землях дасьць наша падгатоуленнасьць к снабжэньню Края прадуктамі прадавольствія і іншымі рэчамі першай патрэбы пры народным жыцьцю, асабліва зернятамі. Гэта паможа нам атрымаць ад селянства ізбыткі прадавольствія патрэбнаго для мест.

Магчымое папауненьне Нашаго Краю прадуктамі з Антантскай дарогі (пазычка у Парыжу) і завязаньне гандлевых зносінау гандлевымі коламі. на апошнім я троха затрымаюся. Справа у тым, што Антанта робіць рожныя уверткі, каб толькі не дапусьціць Германію да б. Рускаго рынку. Так у Рэвель, праз які корміцца Пскоуская Обласьць, зусім не прапускаюцца тавары Германіі. А у Рыгу хоць і праходзяць нямецкіе тавары, але у вельмі незначным ліку, бо Урад Латвіі, не хочучы дражніць Антанту, не падтрымлівая гандлевай зьвязі з немцамі.

З другога боку германскія колы так сама стараюцца як найхудчэй завязаць таргоулю з расейскімі обласьцямі.

Карыстаючы з гэтаго я прапаную абавязкова пачаць перагаворы з Урадам Латвіі аб наданьню нам права ввоза усякіх таварау дзеля загатоукі іх для нашых зямель. У мяне есьць глубокая надзея, што такую згоду мы атрымаем і калі так , то у нас есьць магчымасьць у скорым часе пачаць торговую зьвязь з Германіей. Справай гэтай павінна заняцца Беларуская Гандлевая Палата, якую трэба адчыніць у Рызе.

Пакуль яшчэ наша тэррыторыя акупіравана, усе тавары мы зможым перапрадаваць у Пскоускую Обласьць, гэта дасьть магчымасьць нам умацаваць торговую зьвязь і апрача таго таргоуля падняушы нашу удзельную вагу на Нямецкім Фінансавым Рынку, павялічыць шансы на пазыку, зьяуляясь у той жа час дапамогай нашаму Дзержаунаму Скарбу.

Маючы добрую тарговую зьвязь, ведома, мы у патрэбны момэнт будзім у сілах даць нашай Старонцы патрэбные тавары.

Абаротных тарговых суммау для торгу я лічу з нашго боку траціць не давядзецца, а калі і прыдзіцца, то у незначным ліку.

Як вынік з выжэйсказанаго я прашу Раду Народных Міністрау скарыстаць з Урадовай заявы Латвіі і Эстоніі.

Дзеля чаго патрэбы: I. Абавязкова, як для гэтай справы, так і для другіх, сталае назначэньне прэдстаунікау у Прыбалтыку.

II. Па магчымасьці худчэйшая пасылка Вайсковай Міссіі, дзеля абгаварэньня пытаньняу аб мобілізацыі, устанауленьня базы і барацьбе з большавікамі, карыстаючы з партызантскіх атрадау.

III. Даручыць прэдстауніку у Латвіі даручыць вясьці перагаворы аб стварэньню Гандлевай Палаты і аб справах, стаячых у звязку з гандлям.

IV. Павясьці шырокую працу у кірунку завязаньня зносінау з нямецкімі гандлевымі коламі (як пастаушчыкам) і Рыжскімі і Пскоускімі (як з часовымі патрэбіцелямі).

V. Асыгнаваць на выпадак выхода на нашу тэррыторыю з боку Латвіі на пачатак Урадовай Працы Трыста тысячау марак (300.000).

Калі Рада Народных Міністрау дасьць на гэта прынцыпіяльную згоду, то мною адразу буздя пачата падгатоука правоу і распаражэньняу Ураду а так сама дэтальнае абпрацаваньне сьметы.

К.Тэрэшчэнко
*582.2.32:002&r-003&r — мк*

**1313. Дыпляматычны пашпарт №52 дыпляматычнага кур'ера БНР Андрэя Якубецкага, выдадзены ў Вільні 20.08.1919**
*582.2.46:057&r-058&r — а*

Адзнакі ў пашпарце: 1919.09.09 — дазвол на праезд з Коўна праз Кашадары ў Вільню й назад; 1919.09.10 — дазвол на праезд з Трокаў у Вільню; 1919.09.13 — прапіска ў Варшаве.

**1314. Суправаджальны ліст пасла БНР на Ўкраіне Аляксандра Цьвікевіча (Варшава) за 21.08.1919, дасланы зь лістом міністра замежных справаў Украінскай Народнай Рэспублікі Андрэя Лявіцкага старшыні Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі Антону Луцкевічу за 27.07.1919**
*582.2.47:021 — ра*

**1315. Дэклярацыя Ўраду Паўночна-Заходняй Вобласьці Расеі[1], Рэвэль, 25.08.1919**
*582.1.46:056 — д*

[1] Урад Паўночна-Заходняй Вобласьці пад кіраўніцтвам С.Ліянозава быў створаны ў Рэвэлі 20.08.1919 зь сяброў Расейскай Палітычнай Нарады пры войску Юдзеніча.

**1316. Ліст Аляксандра Цьвікевіча (Варшава) Аркадзю Смолічу (Менск) за 24.08.1919**

Варшава, 24/VIII 19 г.

Дарагі Аркадзь!

На вялікі жаль я не магу быць цяперака асабіста ў Менску, пабачыцься з табою і абгаварыць наша становішчэ. Ты зразумееш чаму: трэба нарэшці даведацься дамой, дзякуючы таму, што ёсць комунікацыя. Разам з тым лічу патрэбным паведаміць цябе, што я яшчэ істную і ня трачу надзею быць як нахудчэй на Бацькаўшчыне. Я толькі што вярнуўся із-за граніцы, гдзе пакончіў справу з грашмі. Той акрэдытыў, які укр. урад перарабіў па маей прозьбе на Вену і які прывезла Ал[ексючанк]а я рэалізавал і грошы отправіў ў Бэрлін (курс кароны страшэнна паў і мы атрымалі 1 мил. сто тысяч ням. марак; на польскія маркі гэта трэба лічыць, праўда, больш — сколькі ня ведаю дакладна). По прыездзе ў Вену я связаўся тэлеграфічна з Зайцам і Захаркай і паведаміл іх аб тым, што згодна з маімі перэгаворамі з Тар<ашкевіч>эм трэба абавязкова чверць той сумы перэвесьці праз Варшаву на Беларусь, асабліва ў Менск. Даў аб гэтым дзьве тэлеграмы, — но... ваны адмовіліся даць згоду дзеля таго, што гэта не зусім безрызыкоўная рэч. Таму я з сабою нічога ня правёз, акром невялічкай сумы, якую — пагутарыўшы з А<лексючанк>ай аб тваіх патрэбах — высылаю праз ея цябе. Гэта грошы маей міссіі і я прашу іх вярнуць мне пры першай магчымасьці, бо інакш нельга будзе ехаць далей.

Наша становішчэ, быўшы і да сей пары надта дрэнным, зрабілася цяперака зусім паганым. А пройдзе яшчэ месяц-другі вано пагоршыцься да нясьцярпімасьці. Мне асабіста натта цяжко тое, што я не маю магчымасьці быць на мейсцу, трымаць связь з тымі жывымі сіламі, якімі мы павінны кіраваць і, наагул, працаваць так, каб быць атпаведным за тое, што робіцца. Бо як не як, а атпаведальнасьць за беларускую працу ў даны момэнт я як Член Ураду нясу, — но гэта толькі голая атпаведальнасць, формальная, якая толькі мучыць і нічога больш. На Бацькаўшчыне штось ці робіцца, выпрацовываюцься modus'ы vivendi, творыцца агулам кажучы якаясь палітыка, за якую я павінен лічыць сабе атпаведным і якой я нават ня ведаю, куды вана гнець. Толькі гэта і безпакойна. Увесь час я павінен круціцца па закардонамі, цягацца з гэтымі праклятымі грашмі і толькі прыпадкова «інфарміравацься» аб падзеях на роднай зямле. Меж іншым такое важнае пытаньне як нашэ становішчэ ў Парыжі — для мяне зусім скрытае, абсалютна аб гэтым нічога ня ведаю, акрым таго, што «Сазонаў згодзіўся на аўтаномію Б(!)» — вось так мне напісаў Заяц. Разьве гэта ня смешна і ня смутна разам?! А меж тым мне прыходзіцца цяперыка весьці сложную ігру. Не маючы інфармацыі ад Вас, я даю інфармацыю аб сабе, як даваў я у Парыж і Бэрлін.

Мне трэба, як Ты ведаеш, зрабіць дзьве рэчы: першае — гэта узнаць напрамак украінскай палітыкі, адносіны да усіх суседзяў і другое — зрабіць у ніх новую пазычку. Якая із гэтых двух мэтаў важнее — ня ведаю; лічу, што для нас ў гэты галодны год важнее будзе другая! З гэтымі мэтамі я паехаў на Украіну і на жаль да сей пары не дабраўся куды трэба па

прычынам Цябе ведамым. Но аб напрамках палітыкі У<краін>ы я ўсёж такі даведаўся. Перш ўсяго у Праге, потым тут у Варшаве і, нарэшці, у Вене. Мае уражэньне — што карты украінскай палітыкі змяшаліся, ваны на пароге далгой калатні і наагул перэжываюць трагэдзію. Уся іх агромная стаўка на Галічыну бадай што да канца пакуль што правалілася. Ня толькі у ніх няма Львова, но німа і Тарнополя. Над Галічынай навісла цёмная хмара. Галіцыйская дэлегацыя ў Парыжі, як і войска на фронце праігралі ігру і цяпер шукаюць выхада[1]. Як і галіцыйская мірная дэлегацыя, так і наагул ўсе іх палітычныя і грамадзянскія колы — ніколі, ні пад якімі варункамі ня могуть і не згадзяцца з alians'ам з Польшэй. Гэта — як ваны кажуць іх гістарычнае рашэньне, гэта дзіктуецца усем іх жыцьцём, з гэтага грунту ваны ніколі ня зыйдуць. Увесь raison d'etre Галічыны — гэта барацьба ня на жызнь, а на смерць з Палякамі. А трэба табе ведаць, што пасколькі вана фармальна звязана з Украінай Саборнай[2], настолькі ў гэтым пытаньні, — што датычыцца Польшы — у нея рукі развязаны. Больш таго: як я добра ведаю памеж Пятлюрай і Галічанамі ёсьць умова аб тым, што украінска-польскую палітыку робіць толькі Галічына і Наддняпранская Украіна павінна прыкладаць да гэтай працы толькі сваю печатку. Што датычыцца да украіна-расейскіх, румынскіх і прочых адносін, то тут права голасу маець выключна Украіна Наддняпранская і да усяго таго што будзець зроблена ў гэтым кірунку — Галічане бэзварункова далучаюцца. Цяперыка, у даны момэнт, як цябе ведама робіцца зусім наадварот: Галіцыя гаворыць і фактычна працуець у керунку збліжэння з Расеей, а Пэтлюра выслаў дэлегацыю ў Варшаву для якіхсці перэгавораў. калі усе гэта робіцца не па ўзаемнай згодзе — можэ выйсьці вялікая трагэдзія. Аб тым, каб згода была — я не бачыў. Скарэй наадварот. Адносіны меж абодвымі старанамі сільна завастрыліся; прынаймсі такое ўражэньне робіць уся заграніца; як фактічна палажэнне ў Каменце-Падольскам, на жаль ня ведаю. Дзеля таго, што Галічына і Беларусь адносна да Польшы бадай што ідэнтычны, с той толькі разніцэю, што Галічына ва многа раз арганізованне і сільнее нас — я лічу, што яе рэшэнне для нас больш як цекавае. І дзеля гэтага трэба многа падумаць аб тым, як быць нам с Польшай! Што трэба выкарыстаць её як сілу «противо-российскую» — гэта факт. Но адразу ісьці ў ея палон — гэта гістарычная абмылка. Пакуль што я, як Член Ураду беларускага ўстрымліваюся ад адказу на пытаньне аб адносінах да Польші, стая прынцыпіальна на грунце фэдэрацыі з Украінай, і як худшага зла — з Расеей. Адказ на гэта пытаньне дам па прыездзе ў Менск.

—

Я выезжаю дамой[3], а аттуль ў Камянец-Падольск. Аб сваем прыездзе праз Варшаву пастараюся даць табе вестку.

Высылаю табе праз Алекс<ючан>ку для працы ў Менску заімаабразна — дзесяць тысяч польскіх марак (10.000 п.мк.). Якія вярні пры першай магчымасьці. Бэрлін цяпер маець адзін мілліон сто тысяч ням. марак. Лічу, што скора прышлюць грошы ў Менск. Аб новым займе у Ўкраінцеў я пакуль што не гаварыў, но надзею на добры канец маю.

Напішы мне абавязкова ліст у Астрог як найхудшэй аб тым што робіцца і якія ў ўсех думкі. Ліст атпраў праз Алексючанку.

Аляксандр

Щырае прывітанне Роднай Беларускай земле і ўсім Таварышам. Пакланіся асобна Раку-Міхайлоўск...

АЦ

PS. Я прасіў Зайца і Захарко, каб выдалі Алек<сючан>це награду за паездку ў ліку месячнай пэнсіі. У лік гэтай нагарды я авансам выдаў ужо 1.000 карон (500 мар.). Калі будзеш мець магчымасць выдай ей, будзь ласкаў, апошнюю частку (1.200 марак). АЦ

*582.2.34:001&r-002&r — ра*

---

[1] Маюцца на ўвазе спробы палітыкаў Заходне-Ўкраінскай Народнай Рэспублікі (ЗУНР) дамагчыся ў Парыжы прызнаньня з боку вялікіх дзяржаваў. Спробы гэтыя скончыліся няўдачай — 25.06.1919 Рада Чатырох фактычна перадала тэрыторыю ЗУНР (Усходнюю Галічыну) пад польскі кантроль. [2] Саборная Ўкраіна — злучаныя Актам Саборнасьці за 22.01.1919 году ў адну дзяржаву Ўкраінская Народная Рэспубліка (Наддняпранская Ўкраіна) і Заходне-Ўкраінская Народная Рэспубліка (Усходняя Галічына). Дзень 22 студзеня адзначаецца ўкраінцамі як галоўнае нацыянальнае сьвята (22.01.1918 году 4-тым Унівэрсалам Украінскай Цэнтральнай Рады была абвешчаная незалежнасьць Украіны). [3] У Астрог.

**1317. Ліст Беларускага Камітэту дапамогі ўцекачам-беларусам (Сімфэропаль) Беларускай Радзе (Горадня) за 24.08.1919 аб адпраўцы ў чэрвені 1919 у Беларусь эшэлона з 1400 уцекачамі-беларусамі з Крыма і з просьбай дапамагчы адправіць яшчэ 5000**

*582.2.46:001 — ра*

---

Падпісаў: Старшыня В.Макал[...]

**1318. Паўнамоцтва старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антона Луцкевіча Леанарду Зайцу, выпісанае ў Парыжы 25.08.1919 (вых №І-185)**

Беларуская Народная Рэспубліка
Старшыня
Рады Народных Міністраў
№І-185

Парыж, 25.VIII.1919.

Паўнамоцтва

Іменем Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі, Член Рады Рэспублікі, Леанарды Заяц, гэтым назначаецца Паўнамоцным Прадстаўніком Беларускага Ураду ў Бэрліне на правох Пасла і Паўнамоцнага Міністра Рэспублікі.

Старшыня Рады Народных Міністраў і
Міністэр Заграгічных Спраў
Ант.Луцкевіч

*582.2.31:029 — рк*

**1319. Суправаджальны ліст віцэ-старшыні Цэнтральнае Беларускае Рады Віленшчыны й Горадзеншчыны Міхася Кахановіча (Вільня) міністру беларускіх справаў Літоўскае Рэспублікі Язэпу Варонку (Коўна) за 25.08.1919 з дасланым пратаколам паседжаньня Рады за 25.08.1919**

*582.2.38:008 — мк*

**1320. Пратакол №9 паседжаньня Цэнтральнае Беларускае Рады Віленшчыны й Горадзеншчыны (Вільня) за 25.08.1919 з пастановаю ў справе перамоваў паміж Польскім і Літоўскім Урадамі 5 і 6 жніўня 1919 г. аб умовах скліканьня Канстытуанты ў Вільні**

*582.2.38:009&r-010 — мк*

---

Адмысловы пасланьнік Ю.Пілсудзкага Леон Васілеўскі 5-6.08.1919 вёў у Коўне перамовы з прэм'ер-міністрам Літвы Мікаласам Сьляжавічусам, прапануючы стварыць супольную фэдэрацыю. Перамовы ня далі ніякіх вынікаў.

**1321. Суправаджальны ліст міністра беларускіх справаў Літоўскае Рэспублікі Язэпа Варонкі старшыні Рады Міністраў Літвы за 25.08.1919, дасланы з пратэстам аб становішчы беларусаў пад польскай акупацыяй для паведамленьня Ўрадам заходніх дзяржаваў і шырокай грамадзкасьці**

*582.2.50:025 — мк*

**1322. Карэктурны адбітак верша «Пагоня» Максіма Багдановіча**

*582.2.50:027 — д*

---

Дата й абставіны невядомыя. Выданьне, для якога прызначаўся верш, ня выяўленае.

**1323. Пераклад на польскую мову артыкула «Czy pokój Brzeski jest unieważniony?», зьмешчанага ў: Entente (Парыж). №105. 27.08.1919**

*582.2.38:093-096 — мк*

**1324. Заява дыпляматычнага кур'ера БНР Юрыя Камарынца Радзе Народных Міністраў за 27.08.1919 з просьбай аб матэрыяльнай дапамозе**

*582.2.40:010 — ра*

**1325. Заява Кастуся Езавітава часоваму старшыні Рады Народных Міністраў БНР за 27.08.1919 з просьбай замовіць 2000 асобнікаў тыражу яго кнігі аб польскіх гвалтах у Беларусі**

*582.2.40:018-019 — ра*

---

Маецца на ўвазе кніга: Езовитов, К. Бѣлоруссы и поляки: Документы и факты из исторіи оккупаціи Бѣлоруссіи поляками в 1918 и 1919 годах. Ковна, 1919.

**1326. Праект ноты Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Мірнай Канфэрэнцыі ў Парыжы, складзенай сакратаром Рады Пятром Крэ-**

**чэўскім (не пазьней 27.08.1919), з пратэстам супраць акупацыі Беларусі войскамі Польшчы, Літвы й бальшавіцкай Расеі і з просьбай аб дапамозе ў фармаваньні беларускіх збройных сілаў**

*582.2.33:074&r-075&r — мк фра*

---

Дакладная дата невядомая.

**1327. Паведамленьне старшыні Дэлегацыі БНР у Парыжы Антона Луцкевіча в.а. старшыні Аўгену Ладнову за 28.08.1919 у справе дадатковай аплаты супрацоўніцы Дэлегацыі Эўгеніі Лівэн за выкананьне абавязкаў асабістай сакратаркі старшыні**

*582.1.45:001а — мк (Мамонька)*

**1328. Пратакол паседжаньня Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі ў Бэрліне за 29.08.1919**

Журнал

пасядзэньня пры учасьці Тымч. Намесьніка Рады Народных Міністраў В.Захарко, Кіраўніка Мініст. Унутр. Спраў К.Тэрэшчэнко, Дыпл. Прэдст. ў Бэрліне і Дзержаўнаго Кантралёра Л.Зайца, Дыплём. Прэдстаўніка на Літве - Сэкрэтара Рады Рэспублікі П.Крэчэўскаго.

Госьці: Намесьнік Беларускаго Камісара Гродзеншчыны А.Якубецкі і падпалкоўнік Р.Шолкавы.

м. Бэрлін
29 жніВеня 1919 г.

| Слухалі | Пастанавілі |
|---|---|
| 1. Аб пасылцэ ваенна-дыплёматычнай місіі БНР на Балтыку, згодна з запросінамі Ураду Латвіі. | 1. Паслаць ваенна-палітычную місію Беларускаго Ураду на Латвію і Эстонію з местапрабываньнем у Латвіі, прычым гэта місія павінна складацца з трох асобаў і павінна абняць сабою усе справы, як ваенна-дыплёматычныя, так і консульскія. Начальнік місіі — палкоўнік К.Езавітаў, вайсковы райца падпалкоўнік Р.Шолкавы і Сэкрэтар Чэрэпук. |
| 2. Справу аб пэнсыі для місіі. | 2. Начальнік міссіі — сто марак у суткі; вайсковы раднік — восемсот марак пэнсыі і пяцьдзесят марак сутачных; сэкрэтар — восемсот марак пэнсыі і трыдцаць сутачных. Прыватныя кватэры на свой кошт; раз'езды службовыя аплачываюцца па сабекошту пры прэдстаўленьні, па магчымасьці, апраўд. дакумэнтаў. |
| 3. Справу аб партызанскіх атрадах на Беларусі у зьвязку з тым, што на | 3. Лічыць канешне патрэбным ствараньне у тэй ці іншэй форме аруж- |

| | |
|---|---|
| Беларусі ў гэты час ёсьць многа зялёна-армейцаў. | ных сіл БНР, асабліва у данны момэнт з боку Латвіі. Адчыніць крэдыт на гэту справу на першы пачатак трыста тысячаў марак. Даручыць ваенна-палітычнай місіі, азнаёміўшыся на мейсцы ў Латвіі с палажэньнем рэчэй прыступіць да працы і прэдставіць Радзе Міністраў ці указаць кандыдата дзеля фармаваньня аружных беларускіх сілаў (у тэй ці іншэй форме), а таксама указаць наагул свае саабражэньня. |
| 4. Справу аб парадку выдачы грошы з дазволенаго крэдыту. | 4. Грошы выдаются па меры у гэтым патрэбы і па запатрэбаваньні ваенна-палітычнай місіі. |
| 5. Справу аб спосабах разрыву з Літвой, дзеля яе здраднай палітыкі да Беларусі (аннэксыя Гродзеншчыны і Віленшчыны) | 5. Разрыў з Літвою павінен быць зроблены пры дапамозе згодных на гэта беларускіх установаў Гродзеншчыны і Віленшчыны ізнутры, прычым Дыплёматычная Місія на Літве павінна афіцыяльна стаяць ў старане і зносіны дыплёматычныя паміж Урадамі Беларусі і Літвы не павінны парвацца. Такім чынам найлягчэй будзе разарвана дапушчаная у лістападзе 1918 г. незаконная зьвязь з Літвой, якая карысталася гэтай зьвязьзю, каб саўсім прылучыць да сябе Гродзеншчыну і Віленшчыну. |
| 6. Справу аб аканчацельнай ліквідацыі міністэрства беларускіх спраў у зьвязку з разрывам з Літвою. | 6. У дадатак да ассыгнаваных 4 жніўня 10.000 марак пад атчот для ліквідацыі міністэрства беларускіх спраў даасыгнваць яшчэ пад атчот Дыпл. Прэдстаўніка п. Крэчэўскаго пятнадцаць тысячаў (15.000) марак, якія павінны быць выданы на тых жа, як гэта выказана ў пастанове за 4 жнівеня, — варунках. |
| 7. Справу аб выдачы дапамогі на ваенную беларускую абмандзіроўку членам ваеннапалітычнай Місіі на Латвію і Эстонію К.Езавітаву і Р.Шолкаваму, якія павінны як найлепей рэпрэзентаваць Беларускую Дзержаву. | 7. Прыймаючы пад увагу, што для рэпрэзантацыі ваенна-палітычнай місіі вайсковым яе членам патрэбна мець спэцыяльную беларускую форму, — выдаць палкоўніку Езавітаву і падпалк. Шолкаваму, ў відзе выключэньня з агульнаго парадку, аднаразо- |

вую дапамогу на беларускую абмундзіроўку у суме аднэй тысячы пяцьсот (1.500) марак кожнаму. На тых жа варунках выдаецца такая жа дапамога сэкрэтару місіі п. Я.Чэрэпуку.

Л.Заяц К.Тэрэшчэнко Захарко Крэчэўскі
*582.2.01:051&r-052 — ра*
*582.2.01:054&r — мк (выпіска)*

**1329. Заява штабс-капітана Эдуарда Бэґе Радзе Народных Міністраў БНР за 29.08.1919 з просьбай прызначыць яго на пэўную пасаду й выдзяліць аклад**
*582.2.40:017 — ма*

**1330. Ліст А.А. [Аляксея Аляксандравіча Азнабішына?] і Л.Д.[Давыдава?] (Бэрлін) Аўгену Ладнову (Варшава) за 30.08.1919**

Дорогой Евгеній Михайлович!

Отдѣл оффиціально мирно ликвидированъ. Д<авыдов?> остается у нас до 1 Октября. Ваш пріѣзд сюда крайне необходим и по возможности скорѣе. Пріѣзд А.Ив.[1] тоже очень нужен. Привѣт Вам и А.И. Дальнѣйшее зависит от Вас — пріѣзжайте. Искренне Ваш АА.

В г. Варшаву
Министру Нац. Обороны
Евгенію Михайловичу
Ладнову

Посылается с г. Комарницким
Park Hotel комната 29.

30/VIII 1919 г.
Гнъ Министръ.

Также присоединяюсь къ просьбѣ А.А. о Вашемъ скоромъ пріѣздѣ въ Берлинъ, гдѣ Ваше присустствіе крайне необходимо. Прошу передать мой привѣтъ А.И.

Прошу принять увѣренія въ искреннемъ уваженіи и преданности Л.Д.
*582.2.31:001*

[1] Цьвікевіч.

**1331. Пратакол паседжаньня Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі ў Бэрліне за 31.08.1919**

Журнал

пасядзэньня пры учасьці Тымчасоваго Намесьніка Рады Народных Міністраў В.Захарко, Кіраўнік Мін. Унутр. Спраў К.Тэрэшчэнко, Дыпл. Прэдст. ў Бэрліне - Дзержаўнаго Кантралёра Л.Зайца, Дыпл. Прэдст. на Літве - Сэкрэтара Рады Рэспублікі П.Крэчэўскаго.
Госьць Намесьнік Беларускаго Камісара Гродзеншчыны А.Якубецкі.

м. Бэрлін, 31 жнівеня 1919 г.

| Слухалі | Пастанавілі |
|---|---|
| 1. Справу аб унутраннай працы на Беларусі у варунках аккупацыі. Канешне трэба дабівацца скліканьня як найхудчэй Рады Рэспублікі; трэба як мага сканцэнтраваць на Бацькаўшчыне нашыя сілы, каб развярнуць шырока нашую працу. | 1. Для кіраваньня ўнутраннай справай на Бацькаўшчыне павінен туды выехаць Кіраўнік Мініст. Унутр. Спраў — К.Тэрэшчэнко як найхудчэй.<br>Посьле заканчэньня Місіі п. Крэчэўскаго ў Літве, ён таксама павінен адразу жэ выехаць для працы на Бацькаўшчыне, гдзе ён будзе, апроч працы як Сэкрэтар Рады, дзействаваць на правах указаных пастановай за 4 жніввеня г.р. |
| 2. Аб ассыгнаваньнях для працы на Бацькаўшчыне. | 2. Грошы як на працу Рады Рэспублікі, так і на працу міністэрстваў атпускаюцца паводлук зацьверджанай сьметы.<br>Што датычэ аплаты членам Рады Рэспублікі то, прыймаючы пад увагу, што яны пэнсыі не атрымовываюць, выплачываць ім грошы пад варункам даручэньня ім тэй ці іншэй працы. |
| 3. Аб выданьні ад імені Ураду маніфэсту да Беларускаго Народу аб сучасным агульным палажэньні Б.Н.Р. | 3. Прызнаць канешне патрэбным такі маніфэст ад Ураду выдаць, але гэта павінна быць зроблена посьле выясьненьня палажэньня і магчымасьці выпуску такого маніфэсту на мейсцы ў Беларусі. |
| 4. Аб заграніčнай працы. | 4. Паслаць пры першай магчымасьці прэдстаўнікоў Б.Н.Р. ў Лондан і Стокгольм, прычым апошні пасылаецца на Швэцію і Фінляндзію.<br>а) Прасіць Міністра А.Цвікевіча назначыць аднаго з адказных беларускіх дзеячоў Адэссы на становішчэ прэдстаўніка Беларускаго Ураду на небальшэвіцкую Расію.<br>б) Запрапанаваць п. Міністру Заграні́чных Спраў паслаць прэдстаўнікоў БНР на Англію ў Лондон п. Язэпа Варонка, у Стокгольм п. Браніслава Тарашкевіча на Швэцію і Фінляндзію, прычым п. Варонка па дарозе ў Лондан павінен заехацца з інфармацыйнымі мэтамі на кароткі час у Швэцыю. |

| | |
|---|---|
| 5. Аб выдавецкай справе, асабліва падручнікаў школьных. | 5. Утварыць фонд народнай асьветы у ліку ста тысячаў (100.000) марак, отпуск з якого робіцца кожны раз па пастанове Рады Нар. Міністр. Даручыць едучым на Бацькаўшчыну п. Терэшчэнко і п. Крэчэўскаму абследаваць усю справу беларускаго выдавецтва на рэч дэтальнаго аб гэтай справе дакладу Радзе Народн. Міністраў і скліканьня беларускаго навуковаго з'езду у справе народнай асьветы, на якім павінен быць створэны навукова-выдавецкі камітэт. |
| 6. Справу аб выпуску дзержаўных беларускіх пачтовых і гэрбавых марак. | 6. Прыняць прапазыцыю п. Варонкі на выданьне і прадажу ім жа ва ўсіх странах і на Бацькаўшчыне пачтовыя дзержаўныя маркі, абразкі якіх у ліку да дзесяці п. Варонка павінен прэдставіць на зацьверджэньне Рады Міністраў; усіх марак павінна быць выпушчэна ад двух да пяці мілліёнаў і ўсе урадовыя установы павінны прыймаць іх дзеля стэмпеляваньня і ужытку. Калі Урад захочэ сам выпусьціць вярнуўшыся на Бацькаўшчыну пачтовыя маркі, то ён можэ перад выпускам сваіх марак прыняць застаўшыяся маркі ад п. Варонкі, заплаціўшы яму ці 40% намінальнай цаны застаўшыхся марак гатоўкай, ці 50% квітанцыямі, прыняўшы астатак марак на комісію, прычым п. Варонка нештэмпелёваныя маркі з астатку прадаваць ужо на Бацькаўшчыне ня можэ. За гэтае права выпуска марак п. Варонка павінен заплаціць Дзержаўнаму скарбу 50% нарыцацельнай цаны праданых марак. Лік выпушчаных марак павінен быць пасьведчаны дакумэнтамі фірмы, выпусьціўшай маркі, прычым дакумэнты павінны быць пацьверджаны Урадам тэй дзержавы, гдзе маркі выпушчаны. |
| 7. Аб немедленнай закупцэ абмундзіроўкі для беларускаго атраду, які місія будзе фарміраваць у Латвіі. | 7. Пытаньне знята. |

| | |
|---|---|
| 8. Аб правозе на Бацькаўшчыну беларусаў-ваеннапалонных ў Нямеччыне праз Рыгу. | 8. Даручыць ваенна-палітычнай місіі ў Латвіі вясьці перагаворы з Урадам Латвіі аб дазволе транзіту нашых ваенна-палонных з Нямеччыны на Беларусь. |

Л.Заяц К.Тэрэшчэнко Захарко Крэчэўскі

*582.2.01:055&r-056&r — ра*
*582.2.01:054r — мк (выпіска)*

**1332. Карта Беларускай Народнай Рэспублікі. Маштаб 1:2 000 000. Друкарня Вільгельма Гартмана ў Бэрліне SO 16**

*582.2.62:001 — д*

Дакладная дата выданьня невядомая.

**1333. Пераклад з украінскай мовы рэцэнзіі А.Х. на кнігу: Prof. Downar-Zapolski. Die Grundlagen des Staatswesens Weissrutheniens. Grodno, 1919, надрукаванай у: Воля (Вена). Том 3. Дата 1. Вересень 1919**

*582.2.38:044&r-045&r — рк*

**1334. Пратакол паседжаньня Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі ў Бэрліне за 1.09.1919**

Журнал

пасядзэньня пры учасьці Тымчасоваго Намесьніка Рады Народных Міністраў В.Захарко, Кіраўніка Міністр. Унутр. Спраў К.Тэрэшчэнко, Дыпл. Прэдст. ў Бэрліне - Дзержаўнаго Кантралёра Л.Зайца, Дыплёматычнаго Прэдстаўніка на Літве - Сэкрэтара Рады Рэспублікі П.Крэчэўскаго.

Госьць Намесьнік Беларускаго Камісара Гродзеншчыны А.Якубецкі.

м. Бэрлін

1 верасьня 1919 г.

| Слухалі | Пастанавілі |
|---|---|
| 1. Рапарт Начальніка Місыі ў Латвіі і Эстоніі п. К.Езавітава аб зацьверджэньні сьметы на канцэлярыю на верасень м. (сьмета далуч.) | 1. Сьмету на канцэлярыю ваенна-палітычнай Місіі ў Латвіі і Эстоніі зацьвердзіць на верасень у ліку двух тысячаў (2.000) марак, а на далей па аднэй тысячы семсот (1.700) марак на месяц. |
| 2. Рапарт Начальніка місіі за №6 аб отпуску 100.000 марак з зацьверджанаго Радай фонду на фармаваньня войска беларускаго ў Латвіі. (Рапарт далуч.) | 2. На першы пачатак выдаць на фармаваньне і арганізацыю аружных сілаў ў Латвіі дваццаць пяць тысячаў (25.000) марак, як аванс місіі пад атчот начальніка місіі К.Езавітава. |
| 3. Заяву Дзержаўнаго Кантралёра аб тым, што трэба канешне раз'ясніць пастанову Рады Народных Мі- | 3. Тыя служачыя, што па пастанове за 21/III атрымовываюць толькі пэнсыю (а не сутачныя і бэз сутачных), |

| | |
|---|---|
| ністраў за 21 сакавіка г. аб аплаце служачых рожных беларускіх дзержаўных установаў пры камандзіроўках, бо на усім сьвеце служачым пры камандзіроўках выдаюцца, у зьвязку з павышанымі выдаткамі ў дарозе, апроч выдаткаў па переезду, — яшчэ і сутачныя-камандзіровачныя. | пры службовых камандзіроўках (асабліва заграніцу) маюць права на атрыманьне сутачных як і ўсе дыплёматычныя кур'еры, прычым асоба, якая камандзіруе такого служачаго можэ выплаціць сутачныя, і толькі за час камандзіроўкі, у ліку ад 10 да 30 марак у суткі, залежне ад варункаў камандзіроўкі і дарагавізны жыцьця, куды служачы пасылаецца. Раз'ясненьне гэтае датычыцца і тых, якія у такую камандзіроўку ездзілі за час з 21/III г.р. |
| 4. Заяву Дыплёматычнаго кур'ера Ю.Камарынца аб тым, што яму, як знаходзячамуся з 1/II г.р. цэлы час у камандзіроўцэ, прыходзіцца надта многа траціць на готэлі, у той час, як стала жывучыя на мейсцы служачыя трацюць на кватэру у пяць-шэсьць разоў меней; дзеля гэтаго просіць выдаць яму дапамогу у ліку кошту за 3 апошнія месяцы готэляў (15-20 мар. у суткі), а на будучыну прыняць аплату гатэлю на кошт урадовых выдаткаў, ці павялічыць сутачныя. (Заява далучаецца) | 4. Прызнаючы становішчэ матэр'яльнае п. Камарынца у звязку з пастаяннымі раз'ездамі службовымі — цяжкім, і довады яго правільнымі — выдаць яму аднаразова дапамогу ў ліку дзевяцьсот (900) марак, выходзячы з разрахунку даплаты яму выдаткаў за гатэлі па 10 марак у суткі за 3 месяцы. Ў павялічэньні сутачных адмовіць. |

Л.Заяц    К.Терэшчэнко    Захарко

*582.2.01:057&r — ра*

**1335. A. d'Osnobichine. De la Baltique à la Mer Noire ; Fritz Simon. Une grande ligne de navigation entre la Mer Baltique et la Mer Noire; Russie Blanche. Résolution du Congrès Blanc-Russien des gouvernements de Vilna et de Grodno les 9-10 juin 1919 // Revue Parlementaire (Paris). N35-36. 1.09.1919**

*582.2.38:079-080 — д*
*582.2.33:019-021 — мк рэзалюцыі*

**1336. Рапарт шэфа Вайскова-Дыпляматычнай Місіі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Рызе Кастуся Езавітава (Бэрлін) міністру фінансаў БНР Васілю Захарку (Бэрлін) за 1.09.1919 (вых. №6) з просьбай выдачы авансу ў 100.000 марак**

*582.2.40:011 — ра*

**1337. Рапарт шэфа Вайскова-Дыпляматычнай Місіі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Рызе Кастуся Езавітава (Бэрлін) старшыні Ра-**

**ды Народных Міністраў БНР Антону Луцкевічу за 1.09.1919 (вых. №6) зь месячным каштарысам Місіі**

*582.2.40:012 — ра*

**1338. Заява штабс-капітана Эдуарда Бэґґе Радзе Народных Міністраў БНР за 1.09.1919 з справаздачай аб выдатках падчас выканаьня дзяржаўных даручэньняў**

*582.2.40:014&r — ра*

**1339. Заява штабс-капітана Эдуарда Бэґґе Радзе Народных Міністраў БНР за 1.09.1919 з просьбай аб выплаце грошай паводле прыкладзенай ім справаздачы аб выдатках**

*582.2.40:015&r-016&r —ра*

**1340. Рапарт генэрал-маёра Генэральнага Штабу Лявона Давыдава в.а. старшыні Рады Народны Міністраў БНР Васілю Захарку за 2.09.1919 аб ліквідацыі Арганізацыйнага Аддзелу Міністэрства Абароны Беларускай Народнай Рэспублікі**

*582.2.01:058*

**1341. Ліст Пятра Крэчэўскага (Бэрлін) Антону Луцкевічу (Варшава) за 2.09.1919**

Даражэнькі Антон!

Мушу паведаміць, што ліквідацыя Літоўскай справы затрымлівалась тым, што погляд на разрыў быў ні у усіх адзінакавым. Цяпер усе дайшлі да таго, каб гэты разрыў зрабіць із нутры. Рэзалюцыі і заявы з мейсц даюць права Варонко і другім выйсьці з Тарыбы і Міністэрства, а афіцыяльны прэдстаўнік застаецца бараніць беларускую справу на Літве да тэй пары, пакуль гэта будзе магчыма и Літвіны можэ самі не вышлюць яго з Літвы.

Я, як толькі атрымаю рэзалюцыі і аформлю усе гэта выезжаю з дакладам у Бэрлін і да Вас, калі будзе магчыма у Варшаву, а пасьля, ужо на Бацькаўшчыну, каб з Вашай згоды і можэ згоды Польскаго Ураду прыступіць да скліканьня Рады Рэспублікі.

Езавітава мы прызначылі для паездкі у Вайскова-палітычнай місыі у Рыгу, а Варонко у Лондон. Прапазыцыю гэту аб Варонцы унес я, бо яшчэ у Бэрліне у першы мой прыезд я з Вамі абгаварываў гэту справу і Вы нічога не мелі проціў адъезду Варонко у Амэрыку, чы Англію. Думаю, што тут спрэчак не будзе.

У Стакгольм прызначылі Тарашкевіча. Калі усе гэты пункты будуць абсаджаны нашымі людзьмі, то мне здаецца, што мы хучэй пасунем наперад нашу Дзержаўную працу.

У звязку з весткамі па газэтам, нібы згоды Паўночнаго Ураду прызнаньня незалежнасьці і Беларусі будзе дадзен пэўны наказ Езавітаву, каб скарыстаць гэту думку, калі яна есьць у Юдэніча і Лазіонава[1].

Думаю, што у звязку з гэтым можна будзе лепш скарыстаць і палякоў, каб збіць іх з непрыемлемага дзеля нас погляду уніі і прымусіць да фэдэрацыі, як роўнага з роўным.

Унутраную справу на Бацькаўшчыне мы будзем вясьці разам з Тэрэшчэнкам, калі яна будзе наогул магчыма і калі сваей экспансывнасьцю і гарачнасьцю не будзе шкодзіць Тэрэшченко. Выпады з яго боку надта шкодзяць еднасьці паміж намі і затрымліваюць працу. Добра было б, каб Вы трошкі стрымалі яго у гэтым напрамку.

Сягоньня я выезжаю у Коўно для ліквідацыі Літоўскіх спраў.

Добро было б, каб да маяго звароту, у Бэрлін ад Вас быў курьер, які бы даў нам можнасьць арыентавацца у справах Варшавы і выясніць магчымасьць маей працы у сэнсі Рады на Бацькаўшчыне.

З пашанай да Вас ПКрэчэускі
*582.2.35:037&r-038 — ра*

[1] Ліянозава.

**1342. Ліст часовага намесьніка старшыні Рады Народных Міністраў БНР Васіля Захаркі (Бэрлін) старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антону Луцкевічу (Варшава) за 2.09.1919**

Сэкрэтна

Пану Старшыні Рады Міністрау Беларускай Народнай Рэспублікі.

Мы тут шумім многа. Газэтныя выразкі аб Беларусі прысылаюцца нам зусіх старон. Цяпер павялі атаку каб заставіць немцау прызнаць нас, хаця, пры неапрэделеннасьці германскай палітыкі, у гэты момэнт, зрабіць што лібо рэальнае пакуль што не удаецца.

Тут усе, ад манархістау да камуністау, зрабіліся русафіламі і стаяць на адным поглядзі, — гэто адбудаваньне едынай моцнай Расеі. Много працуюць у гэтым напрамку і расейскіе чарнасоценцы с Гучковым[1] на чале. Іх задача саздаць Западны фронт, які пачыная ад Літвы і Беларусі павінен пабеданосна ісьці да Масквы, а потым змацаваушыся павярнуць на палякау, з якімі, як заяуляюць усе расейцы, прыдзецца ваеваць пры усялякіх выпадках і варунках.

Я меу размоу с выбраным ужо глаунакамандуючым дзеля гэтага фронту, Енералам Біскупскім[2], з якой выняс надта дрэннае выражэньне. Канешне ў ім гаворащь надзеі і думкі усіх тых, якія яго выбралі.

Іх задача гэто стварэньне моцнай арміі, за якою рожнымі прэдпрынімацелямі будуць пастауляцьця, дзеля жыхароу, хлеб, мануфактура, обуцьце і усе гаспадарскія прылады. адным словам, яны наіуна думаюць спакойнае эканамічнае заваеваньне і гаворащь, калі яны накормяць, напояць і апрануць народ тагды ен ні аб якой палітьщы гаварыць у гэты момэнт не захоча. Не ведаю дастануць лі яны дзеля гэтаго вялікія грошы, якіх цяпер не маюць. Гаворащь, што будуць печатаць свае, а пакуль што шукаюць пазыкі, мусіць на першы пачатак і дзеля абарудаваньня друкарні.

Аб тым, каб дайсьці да паразуменьня с правіцельствамі непрызнаных дзержавау, Біскупскі не ахвотна і мала гаворыць

Немцы сваю палітыку павядуць ясней і энергічней зараз жэ па затверджаньні мірнай умовы Антантаю, тагды, я думаю яны вельмі ахотна пойдуць на усялякую помач як нам, так і усім тым, хто згодзіцца весьці супольную з імі барацьбу проціу палякау.

Мы тутака заінтэрэсавалі рожные кругі ва усіх напрамках, Можна было бы многа зрабіць у напрамку гандлю каб мы былі гаспадарамі хаця бы маленькаго кусочка тэрыторыі нашае Бацькаушчыны. На усялякі выпадак, тут трэба было бы мець нам палнамоцства ад Рады Міністрау на заключэньне тых ці іншых дагаворау.

Страшэньне трудно працаваць пры тых варунках, у якіх мы увесь час знаходзімся, я толькі т.ч. намесьнік старшыні, без палнамоцствау Міністра заграгічных спрау, а Леанард[3] і таго горай дыпламатычны прэдстаунік без жадных афіцыальных палнамоцствау.

Атпаведнае працы і рожных пытаньняу ва усіх напрамках нашае дзержаунасьці (унутрэнай і інастранай) многа развязываць каторыя прыходзіца нашымі пастановамі, гэто пры адном правомочнам голасі. Калі старшыня Рады выезжау у Парыж мы думалі, што такое палажэньне будзе не даужэй як які нібудзь тыдзень, аднак аказаласе, што яно ужо цягнецца чацьверты месяц.

Негледзячы на магчымую дзеля нас непрыемнасьць і нападкі, мы робім і будзем рабіць усе, што толькі можна зрабіць, аднак некаторых пытаньняу, асабліво заграгічных, мы ні як не можам развязаць без Міністра Заграгічных Спрау.

Зусім зразумело, што не маючы поунае уласьці і не ведаючы добра гдзе щто робіцца, часто прыходзіца чэкаць каб не пайсьці па абмылковаму і шкоднаму шляху. Я не хачу тут ні кого вінаваціць апрача нашае горкае долі, но павінен давесьці да ведама тые цяжкіе варункі, пры якіх мы тут знаходзімся. Адным словам цэнтр як бы тут, а у цэнтры нікого німа.

Пры гэтым так само павінен сказаць, што пан Леанард просіць аслабаніць яго ад цяжкіх абавязкау дыпламатычнаго прэдстауніка тут, тым барджэй, што ен быу застаулен весьці гэтую працу дзякуючы толькі таму, што сюды не зьявіуся Аркадзь.

Прыводзячы тыя самыя прычыны, я так само прасіубы як найхучэй аслабаніць і мяне ад абавязкау намесьніка старшыні. Дзякуючы гэтым, так званым тым часовым абавязкам, мы закінулі нашые сталые абавязкі. Я надта прашу не падумаць, што паміж намі не лады, не, мы жывем добра у поунай згодзе, но лічым, што такое не нармальнае палажэньне даужэй цягнуцца ня можа, пакуль жэ яно не пераменіцца, то канешне негледзячы на нашую перагружанасьць і трудные варункі мы будзем весьці і далей усю працу як вялі да гэтуль і будзем рабіць усе, што толькі мажліво зрабіць.

Цяпер я хачу сказаць пару слоу аб агульнам палажэньні і аб тым, што на наш погляд трэба было бы зрабіць.

Тэрэшчэнка ужо дауно вярнууся з Латвіі і Эстоніі. Там, па яго славам, адносіны да нас надто добрыя. Цяпер здаеца паслалі туда сваіх прэдстаунікоу літвіны і могуць папсаваць іх. У Рызі заложано ім нашае кон-

сульство. Мы пастанавілі і пашлем туды нашую вайскова-палітычную місію у таком складзе: Начальнік палкоунік Езавітау, Саветнік падпалкоунік Шолкавы, знаемы Белевіча і надта добра ім ацеставаны, і сэкрэтар Чэрапук. Наказ ім, гэто дыпламатычная, консульская праца, мажлівае фармаваньне аружных сіл і парцізанау дзяля помачы зяленым у Вітэбскай губ. і затым выхад на нашую тэрыторыю з боку Латвіі, так само завязаньне зносін і азнаемленьне с абразаваушымся Севера-Западным правіцельствам Ліанозава, якое, як пішуць газэты «па даставерным данным» прызнае незавісімасьць Беларускае рэспублікі.

Крэчэускі па аканчацельнай ліквідацыі Беларускаго Міністэрства, у Коуні, паедзе дзеля працы у Менск, заехаушы раней с дакладам сюды і да вас у Варшау.

Тэрэшчэнко згодна з нашым пажаданьнем павінен зараз жэ выехаць на Бацькаушчыну.

Вайсковы аддзел намі аканчацельна зліквідаваны. Енерал Д<авыдаў> аслабанен ад усіх абавязкау ад якого забраны намі усе выданые яму дакумэнты і палнамоцства.

Адносіны латышоу да немцау не можна назваць добрымі. На гэтых днях сюды прыехау Латышскі дыпламатычны прэдстаунік з якім ужо пазнаеміся наш Леанард.

Якія адносіны паміж палякамі і нашымі братамі украінцамі, мы знаям голькі па газэтам. Мусіць што кольвяк есьць, калі палякі дабравольна аддаюць назад занятыя імі гарады як Роуно і інш.

С заняцьцем палякамі Сувалак, адносіны паміж палякамі і літвінамі зусім папсаваліся, так самo вельмі дрэна адносяцца літвіны і да французау, навад былі проціу іх дэмонстрацыі у Коуні. Цяпер літвіны зноу заігрываюць з немцамі.

Кіраунiцтво працаю на Бацькаушчыне, мы лічым надта сурьезным і паважным, бо без гэтаго мы можам страціць усе, дзеля гэтаго апрача Крэчэускаго і Терэшчанкі добра было бы каб як найхучэй выехалі мы усе туды.

Апрача сталаго дыпламатычнаго прэдстауніка у Бэрліні, аб якой трэба падумаць, мы, усе лічым патрэбным зарас жэ паслаць нашых правамочных дыпламатычных прадстаунікоу у Лендан, куды намі усімі выбраны пан Язэп[4] і у Скандынавію і Фінлядыю куды выбраны пан Тарашкевіч.

Мы просімо пана Старшыню прыслаць як найхучэй нам сваю на гэто згоду.

Язэп ужо дау сваю згоду і тыдні чэрэз два могбы выехаць, с панам жэ Тарашкевічам трэба ешчэ гаварыць і вызываць яго.

Грошай у нас у гэты момэнт каля 850.000 тысячау марак і плюс да іх ешчэ кроны.

Прымаючы гэто пад увагу, усе расходы трэба рабіць астрожне.

Азнабішын тут і як я чуу 10/IX збіраяцца ехаць у Парыж, но гэто яму не удасцца, я яго затрымаю на далей. Пісьма ен прывез як відаць без цэнзуры.

У Прагу перэезжаць мусіць не прыдзецца. Надта добра былобы усім нам з'ехацца і пагаварыць аба-усем.

Карты Б.Н.Р. пасылаем толькі 60 экзем. усе астальные экзем. разасланы па усему свету.

Манкевіца ужо ад гэтуль вышыблі, у чом глауным чынам пастаралсія і мы, і даплачываць рожніцу дзякаваць Богу німа каму.

Тэкст французскаго пасведчэньня Вам, перэданы Крэчэускаму які напіша у Коуні і прывязе Вам. Крэчэускі у гэты момэнт тут, но у яго німа ні печаткі ні бланкау Рады.

Смоліч у Менску. Цьвікевічу паслалі дэпешу каб затрымауся у Варшаві і з'явіуся да Вас.

Кніга на немецкай мове напісаная Егерам[5] здана нам, і ужо друкуецца і на днях будзе гатова.

Мы тутака взаімна адмовілі друг другу ад кватэры, так што с 1 X трэба будзе перэехаць на новую. І слава Богу.

На днях будзе готово 10.000 калеровых адкрытак гербоу Беларускай Дзержаунасьці, так само заказано 10.000 бланкау, кніжок заграні́чных пашпартоу дзеля нашых подданых. Усе што будзе гатово прышлем Вам.

З Менску вывезены, як закладнікі, у Смаленск Іваноускі, Трэпка, кс. Цыкота і некі беларус Банін. Добра было бы каб як нібуць аслабаніць іх. Можа можа гэто зрабіць чэрэз палякау на замену узятых імі бальшавікоу.

Мажліво што на днях тутэйшы урад немецкі нам зробіць прапазыцыю прыняць іх войско да 60.000 тысячау[6], на беларускую службу, якое будзе перэвезено з Латвіі на Беларусь, імі немцамі, імі жэ будзе карміца, і на огул садержацца. Як быць. Без Вас мы не заключым ніякай умовы, но добра было бы каб вы зараз жэ прыслалі Ваш погляд.

Выбачайце за абмылкі. Спешу і пішу неглядзячы як што выходзіц.

Апошняя недзеля у нас не жыцце а пекло.

В Захарко
2 Верасьня 1919 г.
м Бэрлін

[P.S.] Па нашым весткам у арміі Дзенікіна і многіх іншых пунктах страшэньне многа беларусаў, якія зусім не сарганізаваны, не знаюць што есць і што робіцца на Бацькаушчыні. Просімо, разам з гэтым П. Цьвікевіча каб паслау аднаго з адпаведных працаунікоу у Адэсі, нашым прэдстауніком на не бальшавіцкую Расею.

В.Захарка

*582.2.31:003&r-006*

---

[1] Аляксандар Гучкоў — манархіст, адзін зь дзеячоў Ураду Заходняй Расеі, арганізаванага ў 1919 годзе ў Бэрліне. [2] Васіль Біскупскі, генэрал — манархіст, старшыня Ўраду Заходняй Расеі; жывучы ў Мюнхене, навязаў кантакты з А.Гітлерам і А.Розэнбэргам. [3] Заяц. [4] Варонка. [5] Маецца на ўвазе кніга: Jäger Walter. Weißruthenien: Land, Bewohner, Geschichte, Volkswirtschaft, Kultur, Dichtung. Berlin, K.Curtius, 1919. [6] Магчыма, гаворка йдзе пра расейска-нямецкія аддзелы пад кіраўніцтвам Паўла Бэрмандта-Авалава, якія ў кастрычніку-лістападзе 1919 году зрабілі спробу перавароту ў Латвіі й Літве на карысьць манархічнай Расеі.

**1343. Заява палітычнага камісара Горадзеншчыны Андрэя Якубецкага Міністэрству Ўнутраных Справаў БНР за 27.08.1919 з просьбай аб выдачы пэнсіі за травень 1919**

*582.2.40:013&r — ра*

**1344. Адкрыты ліст прадстаўнікоў палітычных партый Літвы прэм'ер-міністру Часовага Літоўскага Ураду за 3.09.1919**

*582.2.06:020&r — мк*
*582.2.06:021&r — мк*

Пераклад з газэты «Lietuva». №193. 3.09.1919

**1345. Пратакол паседжаньня Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі ў Бэрліне за 3.09.1919**

Журнал

пасядзэньня пры учасьці Тымч. Намесьніка Старшыні Рады Народных Міністраў В.Захарко, Кіраўніка Мініст. Унутр. Спраў К.Тэрэшчэнко і Дыплём. Прэдстаўніка ў Бэрліне і Дзержаўнаго Кантралёра Л.Зайца

м. Бэрлін

3 верасьня 1919 г.

| Слухалі | Пастанавілі |
|---|---|
| 1. Заяву п. Э.Бэгге за №1 і №2 аб назначэньні яго на сталую штатную службу з пэўнай пэнсыей, бо ён ужо даўно (з 20/VI) працуе па справах беларускіх, але не ведае свайго становішча; таксама ён просіць зацьвердзіць і спісаць з яго авансу 2408 м. 30 пф. рожных выдаткаў. (Заявы далучаюцца). | 1. Прыймаючы пад увагу, што штабс-капітан Бэгге, узяты і залічэны п. Крэчэўскім у рэзэрв беларускай арміі і атрымаўшы за 20/VII належнае рэзэрвнае пасобіе, хоць і ні быў залічэны на штатную пасаду, але фактычна выпаўняў часова абавязкі Дыплём. кур'ера, выплаціць яму за два месяцы працы, лічучы ад 20/VII, кур'ерскую пэнсыю, т.е. 800+30 сут., на месяц, а ўсяго з 20/VII — 20/IX — выплаціць тры тысячы чатырыста шэсьцьдзесят марак (3.460). Выданыя у рожныя часы п. Бэгге авансы у ліку 3.500 мар. (п.п. Тэрэшчэнкай 1.700, Захаркай 800 мар. і Зайцэм 1.000), адкінуўшы справедліва расходаваныя п. Бэгге — 429 м. па службовым справам, саставюць 3.071 м., што і залічыць п. Бэгге ў лік належнай яму двухмесячнай аплаты, дадаўшы да поўнага разрахаваньня рожніцу ў суме 389 мар. (трыста восемдзесят дзевяць мар.).<br>У зьвязку з такім разрахаваньнем, лічыць пытаньне аб спісаньні з аван- |

| | |
|---|---|
| | су 2408,30 м. — адпаўшым. Дзеля заканчэньня часовых даручэньняў, лічыць п. Бэґґе зволненым ад беларускай службы. |
| 2. Заяву палітычнаго камісара Гродзеншчыны А.Якубецкаго аб залічэньні яго службы за травень 19 г., хоць яму прыйшлося працаваць, уцёкшы з Горадні ад палякаў, — ў Коўні. (Заява далучаецца). | 2. Лічыць п. А.Якубецкага, хоць у Горадні ён і ні працаваў у травені у звязку з заняцьцем яе палякамі, застаючымся ўвесь час на пасадзе палітычнаго камісара па Мініст. Унутр. Спраў. |
| 3. Рапарт Начальніка Арганізацыйнага аддзелу Мін. Абароны гэн.-майора Давыдава аб поўнай ліквідацыю памянёнаго аддзелу. (рапарт далуч.) | 3. Рапарт прыняць да ведама. У звязку з концэнтрацыей ўсіх вайсковых спраў у п. Кіраўніка Міністэрствам Абароны, пост экспэрта вайсковых спраў касуецца і тым самым гэн.-м. Давыдаў, здаўшы ўсе дакумэнты, інвэнтар і інш., выходзіць у адстаўкуз 1/IX. Заштатнай пэнсыі выдаць гэн.-м. Давыдаву ў ліку яго месячнай пэнсыі. |
| 4. Заяву члена Рады Рэспублікі К.Езавітава аб тым, што ім выпускаецца новая кніга «Беларусы і Палякі», якая заверае матэр'ялы аб польскіх бэзчынствах у часе аккупацыі палякамі Беларусі 1918-1919 г.г. К.Езавітаў просіць падтрымаць яго выданьне дарогаю куплеўні 2000 экз. гэтай новай брашуры, якая будзе мець вялікае дакумэнтальнае значэньне. Кніга мае выйсьці на некалькіх мовах. (Заява далучаецца) | 4. Прызнаючы важнасьць і патрэбнасьць сабраных п. К.Езавітавым для беларускай справы дакумэнтаў проці палякаў, закупіць дзеля распаўсюжэньня адну тысячу (1.000) экз. брашуры «Беларусы і Палякі» па цане сем марак за штуку. |

Л.Заяц К.Тэрэшчэнко Захарко

*582.2.01:059&r-060 — ра*

**1346. Protest białoruski // Gazeta Polska (Варшава). 3.09.1919**

Аб пратэсьце Дэлегацыі БНР у Парыжы за 4.08.1919

*582.2.38:097-098 — д, мк*

**1347. Ліст Васіля Захаркі (Бэрлін) Антону Луцкевічу (Варшава) за 5.09.1919**

5 IX 19.

Сэкрэтно.

Даражэнькі Антон Іванавіч!

Па тым весткам, якія даюць нам нашыя агенты, Англія і Францыя да сьмерці баяцца бальшавізму, асабліва германскаго.

Спартакі[1] змацоуваюцца і думаюць рэшуча выступіць у Лістападзі. наружна не відаць каб яны былі дужые, але не гледзячы на гэто гаворацъ, што яны умацоуваюцца с кожным днем. Да гэтае пары цірaж крайнее пресы вырас у 50-60 разоу і далей ідзе шпаркім тэмпам, адным словам, выступленьня гэтаго баяцца не толькі тут но у Англіі і Францыі.

Прымаючы гэто пад увагу, у Лендані і Парыжу моцнае двіжэньне за тое, каб як найхучэй пакончыць (да зімы) з расейскімі бальшавікамі.

З гэтаю мэтаю, як кажуць, падгатауляецца саглашэньне паміж Англіею, Францыею і Германіею па агульнай барацьбе с бальшавікамі, а разам с тым і адбудаваньню у той ці іншай хформе Расеі.

Як кажуць, Польшча ужо Антанці і, навад самому Клемансо, абрыдла і цяпер больш змацоуваецца пазыцыя Чэрчыля і Гучкова, гэто прымірэньня с Германіею і сазданьня международовай Западнай арміі, с найвялікшым учасьцем германскіх войск. Гучкоў с гэтай мэтаю, ужо дауно тут сядзіць. Следам за арміею, будзе ісьці эканамічнае заваеваньне і ажыуленьне страны. Дзеля усяго гэтаго, будут даны вялізарные англіцкіе, француз. і германскіе капіталы. Усе расходы, барышы і канцэсіі будут дзеліцца роуна паміж гэтымі трымя дзержав.

Акрайные і нацыанальные пытаньня будут разбірацца толькі пасля знішчэньня бальшавікоу.

Маючы на увазе новы плян, Англія атказываецца ад актыунае помачы Латвіі і Эстоніі. Па гэтай самай прычыне, і немецкія войскі застаюцца і на далей у Латвіі і Літве.

Па нашым весткам, немцы мысьляць Расею толькі фэдаратыуную. Яны увесь час падтрымываюць зьвязь з Украінаю і добра адносяцца да нас. Па усему відаць, што яны чаго то выжыдаюць, а пакуль што не знаюць што рабіць.

Калі не удасцца гэты анціба льшавіцкі саюз, та немцы мусіць будуць гаварыць з расейскімі бальшавікамі, бо у Дэнікіна яны не вераць.

Пры усялякіх варунках, рано ці поздно, немінучае сталкнавеньне немцау с палякамі, процiу якіх тут агульная ненавісьць.

Калі спартакі не перавернуць усе у верх нагамі, то с пэунасьцю можна сказаць, што тут, а ні где у другом мейсцы, зложыцца цэнтр васточнае палітыкі. Калі гэто будзе так, та нам трэба мець тут моцнаго і атпаведнаго ваусіх напрамках, сваго дыпламатычнаго прэдстауніка.

Бывайце здаровенькіе Ваш В.Захарко

P.S. Не атказыце вызваць Даунар-Запольскага, альбо знайсьці падобнаго яму

*582.2.46:071&r — ма*

[1] Маецца на ўвазе левaрадыкальны «Саюз Спартака».

**1348. Каштарыс выдаткаў на арганізацыю 4-тыднёвых курсаў беларусазнаўства для беларускіх настаўнікаў Менскага, Барысаўскага,**

**Ігуменскага, Вялейскага і Дзісенскага паветаў у г. Менску на 500 чалавек**

*582.2.46:013 — мк*

Дата невядомая. магчыма, падрыхтаваны А.Смолічам у верасьні 1919 году.

**1349. Каштарыс выдаткаў на арганізацыю 4-тыднёвых курсаў беларусазнаўства для беларускіх настаўнікаў Слуцкага, Бабруйскага, Мазырскага, Наваградзкага й Пінскага паветаў у г. Слуцку на 300 чалавек**

*582.2.46:014 — мк*

Дата невядомая. магчыма, падрыхтаваны А.Смолічам у верасьні 1919 году.

**1350. Хадайніцтва Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Менску намесьніку генэральнага камісара Усходніх Земляў за ??.09.1919 з просьбай аб фінансаваньні настаўніцкіх курсаў у Менску й Слуцку**

*582.2.46:015&r — мк*

Дата невядомая. магчыма, падрыхтаванае А.Смолічам у верасьні 1919 году.

**1351. Ліст Аркадзя Смоліча (Менск) [... (Бэрлін)?] за 6.09.1919**

6-IX-919

Дарагія таварышы!

Вестка аб тым што Антон прыехаў у Варшаву[1] у ваўсіх нас тут падняла настрой. Мы спадзяемся, што мажа цяпер патрапім урэшці пачаць больш інтэнзіўную — а галоўнае — пэўную працу. Мы ўсёж тут не разумеем — Вашыя лісты нібы паказуюць, што нашыя справы стаяць добра, а тут у Менску радавацца саўсім німа чаго. Здаецца, што з беларусаў ніхто не спадзяецца дабра ад гэтых Рачкевічаў[2], Еленскіх[3], Ганічаў і інш. паўтараецца гісторыя бабруйскіх легіонаў Доўбара. Праца нашая тут ідзе наперад памалу — бо няма грошай. Трэба на гвалт старацца іх сюды даставіць. Газэта[4] выходзіць. Камітэт[5] займаўся організацыей школьнай справы. Залажыў Школьную Раду (на чале — Рак), падаў прозьбы аб субсідыі на курсы для вучыцялеў у Менску (500 чал) і у Слуцку (300 чал) — на 75 тыс. мар. і на выдавецтва школьнае — 750 тыс. Ці што будзе з таго немаведама. Мусіць толькі Варшава паможа. Падана сьмета на нашыя Менскія школы — 65 тыс. на месяц. Наагул, усе школы — у вельмі няпэўным становішчы. Гэтаму трэба даць якую раду — Інстытут нібы у нашых руках. Мы запрапанавалі яму два варункі 1) каб перайшоў на беларускую мову 2) каб тые лектары што будуць чытаць не пабеларуску мелі у Радзе Інстытуту толькі дарадчы голас і лічыліся часовымі — нештатнымі. Тым часам яны не згаджаюцца, але можна прымусіць. На Інстытут патрэбна будзе на поўгода ня менш 1 міліона.

5-IX сабраўся сэньерэн-конвэнт[6]. Пастанавіў адкрыць канцэлярыю Рады, рэгістраваць радных, часьцей зьбірацца, — падгатаўляць збор усёй Рады. Выясьнілася, што С-Конвэнт згодна будзе працаваць, калі толькі атрымае патрэбныя дырэктывы.

Як можаце часьцей пасылайце весткі, прыежджайце самі. Калі п. Антон сюды ехаць не зьбіраецца, хай мяне паведаміць экстэрна.

АСмоліч
*582.2.46:009&r-010&r — ра*

[1] Антон Луцкевіч прыехаў з Парыжу ў Варшаву 1.09.1919. [2] Уладыслаў Рачкевіч — камісар Менскай акругі. [3] Альгерд Яленскі — намесьнік камісара Менскай акругі. [4] Газэта «Звон» выходзіла 3 разы на тыдзень ад 25.08.1919. [5] Часовы Беларускі Нацыянальны Камітэт у Менску. [6] Сэньёрэн-Канвэнт Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

**1352. Карта-схема (?). 10.12.1917—10.09.1919**
*582.2.06:001*

З маршрутамі паездак Язэпа Варонкі (?).

**1353. Weißruthenisches Pressebüro (Berlin W.15, Kaiser-Allee 209). Nr.17. 11.09.1919**
Die Imperialisten des Ostens. — Weißruthenien und Lettland. — Die «grüne» Armee
*582.2.42:044 — д*

**1354. La Pologne et la Russie Blanche // Liberté (Парыж). ??.09.1919**
*582.2.33:076 — д*

З паведамленьнем з Варшавы пра заяву «Беларускай Рады» аб яднаньні Беларусі з Польшчай, разасланую польскім газэтам. Дакладная дата невядомая.

**1355. Ліст Яфіма Бялевіча (Парыж) Антону Луцкевічу (Варшава) за 12?.09.1919**

Многоуважаемый
Антонъ Ивановичъ!

[...][1]

Прилагаю при этомъ письмѣ вырѣзку из газ. «Liberté»[2] которая иллюстрируетъ агитацію, какую ведутъ здѣсь поляки. По поводу этой замѣтки имѣлъ бесѣду съ Чайковскимъ[3], который, видно передавая общее настроеніе русскаго совѣщанія, высказывалъ безпокойство по поводу ея содержанія, говоря что необходимо ее опровергнуть и т. п. Я ему отвѣтилъ что в настоящее время в Парижѣ нѣтъ никого изъ членовъ бѣлорусск. правительства и что изъ содержанія заметки видно что это заявленіе частной организаціи ничего общаго не имѣющей съ правительственными органами.

На политическомъ горизонтѣ также неопредѣленно какъ было и раньше. Ничего конкретнаго нѣтъ. Разъѣздъ полный. Когда будетъ разбираться вопросъ о восточныхъ границахъ Польши совершенно не извѣстно. Газ. «Cause Commune» повела энергичную кампанію противъ посла Тышкевича[4] в связи съ помѣщеніемъ его интервью. Она приводитъ рядъ эпизодовъ изъ его біографіи, характеризующихъ его какъ сторонника Герма-

ніи, австрійскаго агента во время войны работавшаго противъ Антанты и пр. Французская же пресса совершено не высказывается по поводу назначенія гр. Тышкевича.

Душанъ Петровичъ говоритъ, что по имѣющимся у него свѣдѣніямъ соглашеніе Украіны съ Румыніей, а отчасти съ Польшей весьма усилило позицію Украины и что Антанта принимаетъ всѣ мѣры къ полюбовному соглашенію между Петлюрой и Деникинымъ.

Его мнѣніе что окончательно связав свои судьбы съ Украинцами мы можемъ достигнуть максимума своихъ политическихъ и экономическихъ вождѣленій.

Видѣлъ 2 раза молодого Тышкевича, (одинъ разъ — онъ завезъ записку отъ Васъ — Баркову) и изъ разговора съ нимъ вынесъ впечатлѣніе что Падеревскій и окружающіе его находятся подъ вліяніемъ какой-то интриги противъ насъ. Что это отчасти связано съ военной запиской ген. Кандратовича, отчасти съ неправильнымъ представленіемъ о положеніи нашего вопроса на мѣстахъ и т.п.

В силу чего П<адеревскій> предоставилъ непосредственно разобраться в этомъ министерству, а самъ ни о чемъ не хочетъ говорить съ бѣлорусами, до выясненія всего. Это почти дословно слова Тышкевича и онъ на меня произвелъ впечатленіе человѣка, крайне недовольнаго собой, что вмѣшался в бѣлорусскую исторію. Полковникъ Л<адновъ> лѣчится на водахъ. Уѣхалъ сей часъ же послѣ Вашего отъѣзда. По полученнымъ отъ него извѣстіямъ видно что онъ до конца лѣченія в Парижъ ѣхать не собирается.

Ознобишинъ пріѣхалъ изъ Б<ерлина> 12-го сентября. Его удерживали З<ахарко> и З<аяцъ> но онъ покончив дѣло съ Давыд<овымъ> не захотѣлъ остаться и вернулся сюда. Сидитъ здѣсь, кажется, спокойно, не дѣлая, какъ будто, ничего вреднаго. Давыд. ликвидированъ, судя по докладу Озноб. по-хорошему. 1-го прекращаетъ жить его отдѣлъ. Онъ уже получилъ новое назначеніе и готов намъ еще оказать услугу, но все это носитъ прежній только «денежный» характеръ.

Въ Б<ерлинѣ> были всѣ — Язэпъ[5], Езовит<овъ>, Креч<евскій>, Терещ<енко>. Съ Ковно предстоитъ скорая ликвидація и тогда Креч. долженъ выѣхать в Вильню. Туда же долженъ ѣхать Тер., думаю что обо всемъ этомъ Вы получили извѣстіе изъ г. Б<ерлина> т. к. мнѣ сообщили что Вамъ написано. Езов. и полк. Шелковый выѣхали в Ригу, расчитывая провести в жизнь конкретный планъ формированій.

Теперь pro domo suo — передали ли Вы письмо моей женѣ. Меня безпокоитъ, что до сихъ поръ не получаю извѣстій ни отъ нея, ни отъ Васъ. Генералъ напр. получилъ 10-го письмо изъ Варшавы, датированное 5-ымъ. Еще разъ сообщаю Вамъ адресъ моей супруги. Минскъ Ново-Серпуховскій пер. д. Сагалина кв. Морзона. Ольгѣ Александровнѣ Бѣлевичъ. Напишите ей от моего имени — пусть она напишетъ в Варшаву или протелеграфируетъ, а оттуда сообщите мнѣ. Помогите ей деньгами. Я съ Вами расчитаюсь. Все это такъ безпокоитъ меня, что прямо таки бывают кошмары. Несчастіе съ Вами глубоко печалитъ меня[6]. Я самъ в прошломъ году потерялъ брата (та же болѣзнь) и мать и мысль о Вашей потерѣ на-

вѣваеть мрачныя воспоминанія о моей потерѣ. Пишите, когда Вы пріѣдете. Устраиваете ли пропускъ мнѣ и когда я съумѣю пріѣхать чтобы работать на мѣстахъ и увидѣть семью? Такъ хочется, чтобы все это было скорѣе, что трудно описать. Весьма расчитываю на Васъ что Вы это устроите такъ, какъ любезно обѣщали.

Жду отвѣта. Крѣпко жму Вашу руку.

Бѣлевич.

Передайте привѣтъ и пожеланія успѣха нашимъ работникамъ. Такой же привѣтъ отъ всѣхъ здѣсь Вамъ.

*582.2.33:077&r-081&r*

---

Дакладная дата невядомая. [1] Прапушчаны фрагмэнт ліста з апісаньнем сытуацыі вакол закупу амэрыканскіх стокаў. [2] Гл. дакумэнт №1354. [3] Н.Чайкоўскі — сябра расейскай дэлегацыі ў Парыжы, у 1918 годзе — старшыня Часовага Ўраду паўночнай Вобласьці ў Архангельску. [4] Граф Міхайла Тышкевіч, прызначаны ў ліпені 1919 году кіраўніком украінскай дэлегацыі ў Парыжы. [5] Варонка. [6] Маецца на ўвазе сьмерць Івана Луцкевіча 20.08.1919 ў Закапаным.

**1356. Паштоўка Аўгена Ладнова (Шатэль-Гіён) Антону Луцкевічу (Варшава) за 14.09.1919**

14/IX Châtel Guyon

Дорогой Антон Иванович! Сердечно Соболѣзную Вам. Вѣчная, добрая память покойному! Он честно исполнил свой долгъ перед Родным народом и ушел в лучшій мір. Пусть будет земля ему пухом! Я лечусь в Шатель-Гійонѣ. Непрерывно держу связь с нашими. О стоках подтверждено новое обѣщаніе Министра. Были у американцев. Обѣщана поддержка. Были на Rue de Longchamps. Там очень обезпокоены свѣдѣніями из Варшавы, помѣщенными в Парижских газетах 5 сентября (орьентація на Западъ). О<знобишин> собирается пріѣхать; прислал мнѣ открытку из Б<ерлина>. Возможно, что он уже пріѣхал. Жалуется на плохія отношенія, сложившіяся в Б; рекомендует и просит меня пріѣхать. Воронко и Іезовитов, по словам О., находятся там же. Они возмущены нашими сосѣдями сверху. Дома новостей никаких. Румыны поддерживают Украинцев (судя по газетам). Погода прекрасная. Крѣпко жму руку. Дѣйствуйте, дорогой, как найдете лучше: я в Вашем распоряженіи.

Ваш Е.Л. Черкните нѣсколько слов.

*582.2.46:056 — ра*

**1357. Паштоўка Аляксандра Цьвікевіча (Астрог) Антону Луцкевічу (Варшава) за 14.09.1919**

Паважаны Товарішу! Я забыўся Вам сказаць, што я выплаціў Вашаму кур'еру Еўг. Алексючанце — пэнсыю за тры месяцы із сум маей міссіі. Будзьце добрэнькі — калі можэце — паверніце гэтыя грошы маему казначэю — Галавінскаму.

Ваш АЦьвікевіч.

Ostróg Wołyńsk. gub. Ulica Udielna, dom Elca, Cwikiewicz

*582.2.46:118 — ра*

**1358. Ліст Амэрыканскае Камісіі Чырвонага Крыжа ў Рызе штабс-капітану Эдуарду Бэгге за 6.09.1919 у справе продажу мэдыкамэнтаў для Ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі з дапіскай Э.Бэгге за 17.09.1919 аб тым, што мэдыкамэнты купляліся на даручэньне К.Цярэшчанкі**

*582.2.40:025 — ма анг*
*582.2.40:026 — мк бел*

**1359. Weißruthenisches Pressebüro (Berlin W.15, Kaiser-Allee 209). Nr.18. 19.09.1919**

Weißruthenien (von Rechtsanwalt Dr. Neise)
*582.2.42:045&r — д*

**1360. Пратакол прыняцьця дэлегацыі Сэньёрэн-Канвэнту Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ў камэнданта Юзэфа Пілсудзкага 19.09.1919**

ПРАТАКОЛ
дэлегацыі сэньорэн-конвэнту, быушай на прыняцьці у Камэнданта ПІЛЬСУДСКАГА 19-га Верасьня 1919 году.

У склад дэлегацыі уходзілі: Я.Лесік, А.Смоліч, А.Аусянік, кс. Абрантовіч, М.Шыло, А.Прушынскі і Я.Мамонько.

Пачау прамову да Начальніка польскай Дзержавы Старшыня Рады Рэспублікі Я.Лесік. У сваей прамове ен, дзякуючы за вызваленьне, адзначыу, што Беларусь не забылася аб гістарычнай лучнасьці з Польшчаю. Пасьля быу паданы пісаны мэморьял, які гаворыць: Уважаючы, што і у інтарэсах справядлівасьці і у інтарэсах самой Польшчы ляжыць адбудаваньне Беларускай дзержаунасьці і увальненьне беларускага народу з палітычнай і культурнай маскоускай нявolі, - дэлегацыя Сеньорэн-Конвенту Рады Беларускай Народнай Рэспублікі зьвертаецца у Асобе Вашае Міласьці да Польскага Народу і Польскага Ураду просячы іхнай згоды на: -

а) Аднауленьне на тэрыторыі Беларусі, занятай польскімі вайскамі чынасьці дзяржауных органау Беларускай Народнай Рэспублікі - Рады Рэспублікі і яе Ураду.

б) Ступяневую перадачу цывільнае Улады Беларускаму Ураду. Перэдачу зараз-жа справау прасьветных, у бліжэйшым часе — адміністрацыі і справау мяйсцовай (земскай) гаспадаркі.

в) Выдачу Польскім Урадам Беларускаму, пакуль не нарыхтуюцца уласные фінансы Рэспублікі, адпаведнай пазычкі.

г) Арганізацыю войска Рэспублікі у кантакце з Польскім Штабам для абароны усходніх рубяжоу і аслабаненьня ад маскоуцау рэшты Беларусі.

Тая спагада, якую зауседы бачылі беларусы для сваей справы нацыянальнай з боку Вашай Міласьці, падае дэлегацыі надзею, што у гэты дэцыдуючы час Вы прызнаеце слушнасьць вышэй вылажэных пытаньняу і зробіце належные заходы для правядзеньня іх у жыцьце.

У адказнай прамове камэндант ПІЛСУДСКІ сказау, што ен есьць дэкляраваным прыхільнікам беларускай справы і гатоу зауседы дапамагаць

беларусам у іхнай рабоце. Справа прызнаньня беларускай дзяржаунасьці стаіць нядобра затым, што у Заходняй Эуропе не усвоена паняцьце ня толькі аб Беларусі, а нават аб Польшчы. І зауседы, калі паустае справа Вялікай Расеі, яна знаходзіць шмат прыхільнікау. Цяпер справа гэтая вісіц у паветры. Польшча зьвязала хаурусы з Антантай і ня можа прызнаць тых новых дзяржавау, якіх ня прызнала яшчэ Антанта. Нават Эстонія не прызнана яшчэ Радаю 5-х[1] хаця яе вельмі падтрымлівае Англія. З Украінай [у] Польшчы шмат клапотау і стасункі з Урадам Петлюры прыходзіцца весьці неофіцыяльна і то толькі базіруючы[с]я на справах вайсковых. Дзеля гэтага уся увага беларусоу павінна быць зьвернута на выбары, якіе будуць зараз адбывацца, каб прайшло найболып беларусоу. З боку польскага мяйсцовага Ураду будзе беларусам зроблена уселякая дапамога (2 разы падкрэсьліу). Маючы матарьял, што люднасьць выказалася, як Беларусы, Пільсудскі абецае бараніць гэтую справу перад Эуропай. З гэтым матэр'ялам ен патрапіць давесьці ня толькі Эуропе, а так сама і тутэйшым палякам і расейцам, што беларусы маюць права на дзяржаунае будаваньне.

Справа войска затрымауваецца затым, што ен хоць старанна шукае, але тымчасам не знаходзіць людзей, якія магліб стварыць праудзіва нацыянальнага беларускага войска, у якім усе будзеннае жыцьце было-б прасякнута Беларушчынай. Ен асьцерагаецца, каб беларускае войска, насьпех зробленае, не набрала характару расейскага, як напрыклад літоускае войска, якое сам народ лічыць за расейскае, бо у ім каманда і усе жыцьце за выняткам некалькіх літоускіх слоу, — расейскіе, афіцэры гавораць між сабой па расейску і г.д. Войска прымусовага камэндант сам рабіць ні мае права. Няможа зрабіць гэтага нават і Урад Беларускі, бо ен, Пільсудскі, адпаведае перад усім сьветам за тое, што тут робіцца. Аднак будзе зроблена усе каб стварыць нацыянальнае беларускае ахвотніцкае войска, як часьціну польскага войска. Утварэньням гэтага войска можа заняцца беларуская арганізацыя. У гэтае справе трэба зьвяртацца да кап. Славэка. На увагу Прушынскага, што утварэньне беларускага войска дасьць Пільсудскаму у рукі аргумэнт для абароны беларускай справы перад сьветам, Пілсуцкі саусім згадзіуся. Што да беларускай мовы, то мяйсцовы Урад будзе рабіць усе для таго, каб яна была урадоваю, раунапраунаю з польскай. У справе школьнай Пілсудскі абяцау самае гарачае падтрыманьне, але трэба старацца каб люднасьць як найчасьцей прасіла аб тым, каб адчыняліся беларускіе школы. Будуць даны грошы Беларускай Школьнай Радзе для фінансіраваньня прасьветы, для устройства сэмінарый і курсау вучыцельскіх, якія ужо і робяцца. Камісар Асмалоускі[2] зазначыу, што ен неухільна споуніць усе прозьбы, што да школьнай справы і дасьць грошы на друкаваньне падручнікау, што ен сам ужо арганізуе беларускае школьніцтво, што ен зьвертауся да беларускіх арганізацыяу з прозьбаю даць яму людзей на адміністрацыйные, школьна-адміністрацыйные абавязкі (напр. на абавязкі намесьніка Камісара на Менскі Округ[)], аддавау адміністрацыю у двох паветах беларусам, патрэбавау школьнага Інспэктара пры сабе беларуса і г.д. але кандыдатау не атры-

мау. На заяву дэлегата, што у хуткім часе будзе адноулена чыннасьць палітычнага беларускага органа — Рады Рэспублікі і што члены Рады павінны мець нетыкальнасьць, Камэндант згадзіуся і сказау, што нетыкальнасьць радныя маюць. Камісар-жа Асмалоускі, адзначыу, што істнаваньне палітычнага цэнтру, які аб'еднау бы арганізацыі мяйсцовыя Віленскія, Городзенскія, Менскія і інш. і коордыновау іхную чыннасьць з якім выгадней было мець зносіны вельмі пажадана.

Прыняцьце цягнулася каля 2-х гадзінау.

СТАРШЫНЯ СЕНЬОРЭН-КОНВЭНТУ

Сябры Дэлегаты:

Пісар
*582.2.39:002&r-003 — мк*

[1] Рада Пяцёх — Найвышэйшая Рада Мірнай Канфэрэнцыі ў Парыжы, званая таксама Рада Чатырох, залежна ад таго, ці браў у ёй удзел прадстаўнік Японіі.
[2] Ежы Асмалоўскі — генэральны камісар Усходніх Земляў.

**1361. Мэмарыял Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Юзэфу Пілсудзкаму, пададзены яму падчас прыняцьця ў Менску 19.09.1919**
*582.2.39:017 — мк*

**1362. Заява штабс-капітана Эдуарда Бэґґе Радзе Народных Міністраў БНР за 20.09.1919 з просьбай аб выплаце грошай паводле прыкладзенай ім справаздачы аб выдатках**
*582.2.40:023 — ма*

**1363. Справаздача штабс-капітана Эдуарда Бэґґе Радзе Народных Міністраў БНР за 20.09.1919 аб выдатках на закуп у Рызе амэрыканскіх мэдыкамэнтаў**
*582.2.40:024 — ма*

**1364. Ліст Краўцова Макара (Менск) [Антону Луцкевічу (Варшава)?] за 20.09.1919**

Менск 20 верасьня 1919 р.

Шаноўны таварышу!

Лічу за шчасьце хоць гэтымі некалькімі радкамі прывітаць цябе пасьля доўгае нявольнае разлукі і выказаць тое, што рвецца з набалелага сэрца і што лічу патрэбным ў інтарэсах вялікай справы нашай давесьці да твайго ведама. Ведама, што, прыбыўшы сюды з Горадна, я застаў такое палажэньне, што і гаварыць ня варта і сказаць я хачу больш пра сучаснае. Маем мы тутака Камітэт, які ёсьць нічым іншым, як кавалкам ачуняўшае Р.Б.Н.Р. Маем «Звон», які можам выдаваць ледзьве-ледзьве тры разы на тыдзень. Прычына беднасьць. Навет ў сэрцы Беларусі отдзе-ка мы ня можам рэгулярна выпускаць штодзенную газэту. Скажы, мой мілы, ці ж ня сорам гэта? Мы маем хор[1], з якім ня брыдка было б хоць сабе й за граніцай паказацца, але на жаль хор гэты патрабуе солідной матэрь-

яльнай дапамогі. Яго турнэ па Беларусі было б самай найвярнейшай агітацыяй нашага адраджэньня. Пра тэатр і казаць няма чаго. Засталіся адны толькі аматары, моладзь адна і вось за паўтара месяца ўсяго адзін раз выступілі з «Паўлінкай». Рэжысэры парабіліся, бачыш, гэнэраламі і клеяць ў Вільні войско[2]. А ці паверыш, калі я прыехаў з Горадна і папаў ў тутэйшым «Сокале» на гэту самую «Паўлінку», дык далібог жа я не пазнаў нашага тэатру. Опэрэтка па эўропэйску ды й годзі. Але ж тады субсідаваўся і тэатр і хор і аркестар Тхоржа. Я ведаю, што ў цябе й так галава немаль не разляціцца, але, што ж зрабіць, паслухай да канца. Выдавецтва, калі ня лічыць газэты, тут ніякага, а мы нават лемэнтара людзкага не надрукавалі. Я сам па загаду настаўніцкага хаўрусу злажыў лемэнтар, які меўся выдрукаваць Вацюк Тройца, але не ўдалося. Апрача гэтага ў мяне ў портфэлі чатэры рукапісы кніжак для школьнага чытаньня (бібліотэкі) і Бог ведае, ці даждуцца яны ротацыйнае машыны. Тое самае ёсьць і ў іншых з нас: не такі, дык гэткі падручнік прырыхтованы і чакае друку, а школьны сэзон... Э, ды што гаварыць. Усяго й на скуру чортаву ня сьпішаш. А калі я кажу Смолічу, што можа карысьней было б кінуць нашые фінансы сюды, чымся друкаваць бэрлінскіе брошуры[3] і тым даваць матэрьял якому-нібудзь Правдину з «Свабоднага Слова» для яго беларусафобскіх фэльетонаў, дык мне С. кажа, што я зьняважыў Ўрад, што я дабіваюся сабе пэнсіі. Гэта гаворыць быўшы статыстык з Менскага губ. земства, які баяўся і нос паказаці да нас, калі мы з Варонкаю (ўдвох) сядзелі пасьля разгону Конгрэсу на палажэньні «пацукоў пад падлогаю» цэлых паўтара месеца на манне нябеснай. Гэта гаворыцца мне, бараніўшаму (немаль ня «solo») матчыну мову ў нашых (на Беларусі) школах на Ўсерасійскім Зьездзе ў Пэтэрбургу ў 1913 року і беларусіраваўшаму сваім наманам школку, дзе я служыў з 1912 року. Гэта гаворыцца мне, запомніўшаму свае чалавечыя патрэбы і дайшоўшаму да палажэньня абарванца і басяка, калі ўжо нат' і ў людзі няма ў чым паказацца. Ведама ж жабраку міністар можа гаварыць, што хоча. Выбачай, браце за гэтакі стыль, але што ж зрабіць, калі я ўжо тры дні не абедаю і трэйцюю ноч мучуся ад бязсоньніцы, а да дохтара схадзіць ня маю за што. Мне брыдка пісаць табе пра гэта. 4 гадз. 10 мін. пасьля поўначы, а я заснуць не магу. Я ў працягу пяцёх месяцаў клаўся спаць і ня ведаў ці траплю я наранку ў сваю школку[4]. Мяне кожные 24 гадзіны магла схапіць «чрезвычайка», як нідзе не зарэестраванага ахвіцэра-«дэзэртыра» і паслаць «в штаб Духонина»[5]. А я акуратна вёў лекцыі ў школцы, а пасьля пісаў падручнікі, ці бібліотэчные пераклады для школ, ня ведаючы давяду я гэта да канца ці не? I за гэта вяльможная падзяка: я манюся адтрымаць толькі пэнсію ад міністэрыуму. Няжарт я ад беларускіх пэнсіяў страшэнна пасьцеў. Калі гэтак будзе цягнуцца, калі нашые людзі будуць бегаць па розных канцэлярыях па хлеб, дык мы на рэльсы ані як ня станем. Якое мы маем права патрабаваць ад людзей работы, калі мы ня можам накарміць іх! А мо' і можам, ды ня ўмеем? Я не хацеў бы быць такім прарокам, але калі пацягнецца так яшчэ месяц-два, дык мы разбяжымся, як палявыя мышы ў восень. Работы не пачаты край, але сіл няма рабіць яе. Я, барані Бог, цябе не вінавачу, бо ты... адзін. Мы ўжо заявілі «Звонам», што ў нас няма цэнтру. Цэнтр наш павінен быць — і быць павінен тутака. Выбачай, браце, што я

запісаўся. Трэба ж яшчэ тое-сёе прыгатаваць для «Звона». Спадзяюся скора ўбачыць цябе ў Менску. А, пакуль што, бывай здаровы й дужы!

Краўцоў Макар

P.S. Пішу табе «на чатэры вокі».
КрМ
*582.2.46:002&r-008 — ра*

[1] Пад кіраўніцтвам Уладзімера Тэраўскага. [2] Магчыма, маецца на ўвазе Фларыян Ждановіч, сябра Вайсковай Арганізацыі пры Віленскім Беларускім Нацыянальным Камітэце. [3] Маецца на ўвазе брашура: Цвикевичъ А. Беларусь. Изданіе Миссіи Бѣлорусской Народной Республики. Берлинъ, 1919. [4] Падчас бальшавіцкай акупацыі ў сакавіку - верасьні 1919 году Краўцоў Макар працаваў настаўнікам на Горадзеншчыне. [5] Г. зн. расстраляць.

**1365. Пратакол сходу Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі ў Бэрліне за 22.09.1919**

Журнал

сходу, адбыўшагося пры учасьці Тымч. Намесьніка Старшыні Рады Народных Міністраў В.Захарко і Дыплёматычнага Прэдстаўніка ў Бэрліне - Дзержаўнаго Кантралёра Л.Зайца

22 верасьня 1919 г.

| Слухалі | Пастанавілі |
|---|---|
| 1. Заяву шт.-капітана Бэґґе аб звароце выдаткаў, панесеных ім у справе атрыманьня мэдыкамэнтаў для беларускай арміі і шпіталяў ад амэрыканскаго Чырвонага Крыжа, а таксама і інш. выдаткаў па рожным дзержаўным справам усяго на лік 1.226 мар. (Дакум. далучаюцца) | 1. Прыймаючы пад увагу магчымасьць атрыманьня мэдыкамэнтаў ад Амэрыканцаў для нашых патрэбаў з аднаго боку і канечную патрэбнасьць разрахаваньня з п. Бэґґе, які больш на беларускай службе заставацца не можэ, з другога боку, — выплаціць пану шт.-кап. Бэґґе адну тысячу дзьвесьці двадцаць шэсьць (1.226) мар. за рахунак суммаў адпушчаных п. Надзвычайнаму Паслу на Латвіі К.Тэрэшчэнко, і лічыць з шт. кап. Бэґґе ўсе разрахункі закончэнымі. |
| 2. Заяву Дзержаўнаго Кантралёра Л.Заяц, што хоць часова трэба устанавіць для ўсіх нашых Консульстваў тарыф за пашпарты і пасьведчэньня, бо ужо гатовы нацыянальныя пашпарты (10 тысячаў). | 2. Часова устанавіць для ўсіх Консульстваў БНР гэткі тарыф: 1) за заграпічны беларускі пашпарт на 6 месяцаў дзеля падарожжа ў Францыю, Англію, Влохі і інш. — пяцьдзесят (50) мар.; 2) — дзеля падарожжа на Беларусь і ва ўсе часьці і нова створаныя на тэррыторыі б. Расіі Дзержавы — двадцаць пяць (25) мар.; 3) ва |

| | |
|---|---|
| | ўсіх памянёных выпадках саўсім бедным і быўшым ваеннапалонным плата паніжаецца да пяці (5) мар.; 4) пры выдачы пашпартоў і пасьведчэньняў на год і больш — плата удваіваецца за кожныя 6 месяцаў. |
| 3. Аб павышэньні пэнсыі Юрыскон-сульту Місіі ў Бэрліне п. Мюллеру, які служыць ад лютаго г.р. і атрымовывае 1.000 м. | 3. Прыймаючы пад увагу прозьбы п. Старшыні Рады Нар. Міністраў з Парыжу аб павышэньні п. Міллеру пэнсыі, а таксама і тое, што п. Міллер фактычна выпаўняе справы палітычнаго радніка Місіі, назначыць яму пачынаючы ад 1 гэтаго верасьня адну тысячу трыста (1.300) мар. і з 1 лістапада — адну тысячу пяцьсот (1.500) мар. і правясьці гэта выключным парадкам, бо такая пэнсыя штатамі не прэдвідзена. |
| 4. Аб падвышцэ пэнсыі звыш штату бухгалтэру Міністэрства Фінансаў З.Курц. | 4. У звязку з тым, што бухгальтэр З.Курц ня толькі спаўняе свае абавязкі, але яго часта прыходзіцца карыстаць посьле службы па справах Місіі, як знаючаго загранічныя мовы, — падвысіць яго пэнсыю, ў выключным парадку, да аднэй тысячы двухсот (1.200) марак. |

Л.Заяц Захарко

*582.2.01:061&r-062 — ра*

**1366. Блянк пашпарта грамадзяніна Беларускай Народнай Рэспублікі**

*582.2.42:021-023 — д*

Дата невядомая.

**1367. Блянк дыпляматычнага пашпарта грамадзяніна Беларускай Народнай Рэспублікі (малога фармату)**

*582.2.42:024-027 — д*

Дата невядомая.

**1368. Блянк дыпляматычнага пашпарта грамадзяніна Беларускай Народнай Рэспублікі (вялікага фармату)**

*582.2.42:028&r,031&r — д*
*582.2.42:029&r-030&r — д*

Дата невядомая.

**1369. Чарнавік пасьведчаньня Рады БНР Лявону Дубейкоўскаму аб прызначэньні яго в. а. консула БНР у Варшаве за 23.09.1919**

*582.2.13:005&r-006 — р*

**1370. Ліст Цэнтральнага Саюзу Беларускіх Каапэратываў (Менск) старшыні Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі Антону Луцкевічу (Варшава) за 23.09.1919 з хадайніцтвам аб атрыманьні тавараў з стокаў дзеля разьмеркаваньня сярод насельніцтва Беларусі**

*582.2.33:054 — мк фра*
*582.2.33:055 — мк фра*
*582.2.33:056 — мк фар*
*582.2.33:067-070 — рк фра (рукапіс А.Луцкевіча)*

Ліст падпісалі: Président de l'Administration K.Tourtchinowitsch; Membre de l'administration V.Protas

**1371. Ліст Антона Аўсяніка (Менск) Антону Луцкевічу (Варшава) за 23.09.1919**

Дарагі таварышу!

Аб нашых менскіх справах дэталічна раскажуць Вам кс. Абрантовіч і Крэпскі. У гэтай пісульцы я хачу падзяліцца з Вамі сваймі думкамі аб нашае агульнае справе. Як нам ведама справа з прызнаньнем нашае дзяржавы стаіць вельмі дрэнна. Нашае дэлегацыі у Менску Пілсудзкі сказаў: «Я вас прызнаць не магу». Вас — гэта знача Рады Р. і Рады Міністраў. Ня можа таму, што не мае аргумэнтаў, з каторымі п. Пілсудзкі мог бы падтрымаць нашу справу перад Антантай. Аргумэнты — гэта ясна выражаная воля беларускага народу упраўляцца безпасрэдна. Тоя, што адбылося у сьнежні 17 года — Пілсудзкім у рэзон не прыймаецца. Ясна выражэная воля можа адбыцца пры выбарах у земскіе і гарадскіе самаурадаваньні. Ясна выражаная воля мець сваю дзяржаву тагды, калі польскі салдат і польскіе чынадралы упраўляюць Беларусьсю... Як бачыще досіць орыгінальна. Вось адно. Калі толькі сапраўды пачнуць свой плебісцыт — у хуткім часе — мы будземо біты. Лічу, што трэ усімі мерамі змагацца каб тэрмін выбараў быў адсунат далей, або, каб сусім не дапусьціць плебісцыту, бо мы можэмо апірацца на нашы поўнапраўные установы — Раду Р. і Раду Міністраў. Але ўсёж-ткі мы не пэўны, што нашы вышэйшыя органы могуць быць залічаны палякамі правамочнымі, трэ, як мне здаецца, на уселякі выпадак рабіць падгатоўку да выбараў. Мы думаемо сазваць на 20 кастрычніка з'езд Меншчыны (прэдст. ад валасьцей). Маемо на меця павясьці на вёсцы агітацыю як словам, так і друкам. З палякамі (Осмалоўскім) дагаварыліся, каб яны для справы выбараў далі 1 міліон марак. Усе гэта добра, але ці добра мы робім, што бяром ад іх грошы тагды, калі нашы адносіны яшчэ ня выясьнены. Лічу, што мы робім дрэнную справу. Мы менскіе працаўнікі безсільны — не маемо ніякіх дэрэктыў ад Вас, як ад асобы, голас каторай будзя аўторытэтным для нас усіх.

Што рабіць, як трымацца з палякамі?

Ведайце, таварышу, што нізы — вёска — чакая сэсій Рады Рэспублікі. Чакая свайго войска. Моладзь рвецца у нашу армію. Цяпер настаў самы

лепшы час, калі маглі б, карыстаючыся з настрою нашага селянства стварыць запраўды армію. Думаю, што з палякамі трэ канечне зараз-жа згаварыцца аб нашай нац. арміі. Можэмо пайсьці на компроміс: нехай будзя іх вышэйшае камандаваньне. Можна з імі гаварыць і аб фэдар[ац]ыі, — трэ ісьці на компромісы, памятуючы адно — усе мы робімо для незалежнай Беларусі. Камень за пазухай трэба трымаць... Вы разумееце мяне мабыць.

Каб нам быць моцнымі — патрэбна зьвяз. Бяз звязі нічога не будзе.

Смоліч ні ў чым нам не памог. Не трэба забываць на тых нашых працаўнікоў, каторые лічуцца сябрамі Рады Рэспублікі, а тым часам ужо галадаюць, бо ніхто, на жаль, не парупіўся. Наагул кажучы, калі нашы людзі не будуць забэзпэчаны матэр'яльна — усё у Менску раскінецца. Думаю, што трэба выплаціць пэ[н]сіі за увесь час (10 месяцаў) сябрам Рады. Тутака нема з кім працаваць, бо людзі займаюцца толькі тым, што шукаюць грошы на абед або служаць польскімі чыноўнікамі.

Палажэньне робіцца нецярпімым. Я асабіста хацеў прыехаць да Вас на нараду, але, праўду кажучы, тагды развалілася б уся праца Камітэта, бо уся тэхнічная праца ляжыць на мне. Ці не параб было стварыць моцны цэнтр у Менску. Я яшчэ раз кажу, што патрэбны дэрэктывы ад Вас; патрэбен Ваш аўторытэтны голас.

Калі знойдзеця, што мы у Менску робімо глупства, зараз-жа скажыце; ёсьць магчымасьць астанавіцца.

Калі лічаце, што я буду болі карысным у Варшаве, пішэце, прыеду. Хачу працаваць з Вамі.

Чакаемо усе ад Вас Вашага слова і парады.

Ваш Аўсянік

23/IX 19

*582.2.46:075&r-078&r — ра*

**1372. Суправаджальны ліст Антона Луцкевіча (Варшава) намесьніку дзяржаўнага сакратара Францускай Рэспублікі па ліквідацыі стокаў (вайсковых складоў) Полю Морэлю (Парыж) за ??.10.1919, дасланы зь лістом Цэнтральнага Саюзу Беларускіх Каапэратываў за 23.09.1919**

*582.2.33:071-072 — рк*

---

Дакладная дата невядомая.

**1373. Даклад упаўнаважанага БНР па справах ваеннапалонных беларусаў у Чэхаславаччыне Міколы Вяршыніна (Прага) Прэм'ер-Міністру Беларускай Народнай Рэспублікі Антону Луцкевічу (Варшава) за 24.09.1919**

Прага 24 IX 1919 г.

Высокапаважанаму пану Міністру Прэзыдэнту
Беларускай Народнай Рэспублікі А.Луцкевічу.

Выбачайце пане Прэзыдэнце, што асмеліваюся пісаць Вам па рускі, бо с старѣго звыку на гэтым языце хутчей магу злажыць свае мыслі.

Докладъ

Весьма вѣроятно, что нѣкоторыя политическія обстоятельства мнѣ неизвѣстны и поэтому мое сужденіе можетъ оказаться неточнымъ или излишнимъ. Тѣмъ не менѣе попытаюсь изложить свой взглядъ на современное положеніе вещей.

Само собой разумѣется, что самое выгодное для насъ положеніе было бы совершенная самостоятельность, но она кажется нынѣ очень проблематична. Приходится выбирать одно изъ двухъ золъ къ кому приклониться, т.е. на кого опереться на Польшу или Росію? Эти два фактора стоятъ остро одинъ противъ другого.

Разсмотримъ первый изъ нихъ:

Польское государство еще само не сформировавшееся и не окрѣпшее, благодаря урожденной полякамъ экспансивности, имперіялизму и милитаризму затѣяло агрессивную политику противъ всѣхъ своихъ сосѣдей и кругомъ себя надѣлало враговъ (нѣмцы, чехи, украинцы, литовцы и мы). Такое положеніе Польши очень не прочное, тѣмъ болѣе, что польская нетерпимость породила антисемитизмъ и погромы евреевъ, которые будутъ мстить Польшѣ (такъ какъ они мстятъ теперь Россіи) разыми средствами. Не нужно забывать, что міровые капиталисты (Ротшильды, Блейхшредеры и много др.) по большей части евреи и родственная имъ всемірная организація «франъ-массонская» — возстановлены противъ поляковъ. Независимо сего сами поляки едва ли уживутся мірно. И теперь уже Познань не желаетъ подчиняться Варшавѣ, а Краковъ послѣдуетъ примѣру Познани. Еще не сказано послѣднее слово о томъ, что революціи въ Польшѣ не будетъ. Вѣдь ни аграрной реформы, которая бы удовлетворяла простой земледѣльческій людъ, и закона, регулирующаго рабочій вопросъ, тамъ нѣтъ и вскорѣ быть не можетъ, ибо поляки заражены теперь завоевательной политикой и упоены «побѣдами», но вскорѣ можетъ настать вытрезвленіе. Оно, какъ пишутъ иностранныя газеты, уже начинается. Поляки твердятъ, что ихъ аннексіоническую политику поддерживаетъ «Согласіе» (антанта). Это послѣднее слово пустой звукъ, такъ какъ теперь и въ самомъ «Согласіи» нѣтъ «согласія».-

Притиснутая къ стѣнѣ Франція должна была подписать то, что поднесла ей Англія въ то время, когда нѣмцы ломились въ Парижъ и къ Ламаншу. Когда Франція вела «оборонительную» войну Англія «завоевательную», т.е. политику захватовъ. Для Англіи было выгодно, чтобы въ Россіи дольше продолжалась анархія, чтобы завладѣть не только Турціей, но и Персіей и Кавказомъ. Она этого и достигла. Франція жалѣла своихъ мильярдовъ и хотѣла спасти ихъ десантомъ въ Крыму, но по приказу Англіи должна была не только уйти оттуда, но и оставить свои «танки» большевикамъ. Связанная по рукамъ и ногамъ Франція принуждена теперь дѣлать политику «демагогіи».- Она хочетъ соединить «несоединяемое», т.е. создать блокъ изъ Чехо-словакій, Польши-«великой», и Румыніи и еще пожалуй и Мадьяріи во первыхъ, чтобы не дать Россіи соединиться съ Германіей, мечатающей какъ извѣстно о реваншѣ и во вторыхъ

(а это самое главное) сдѣлать изъ нихъ французскія провинціи, чтобы можно было высосать хоть часть своихъ мильярдовъ. Первая подписала вексель Польша на 25 мильярдовъ (часть Россійскаго долга) и подписала договоръ, поставившій Польшу на положеніе французской провинціи, но за то получила французскую санкцію на анексированіе восточной Галиціи до границъ Румыніи, части Украины и Бѣларуси. Такимъ образомъ тяготѣніе Чеховъ соединиться съ восточными славянами — Украиной и Россіей осталось похороненымъ. Само собой разумѣется, что Чехія не подписала унизительнаго договора, но за это она осталась въ «клѣткѣ», а можетъ быть лишиться и «Тѣшинска». Чехіи не разрѣшено устроить «корридоръ» къ Юго-Славіи (Сербо-Хорватіи-Словоніи) ибо соединеніе славянъ является также опаснымъ, какимъ было соединеніе Германіи. - Отсюда ясно, что подобный «карточный домикъ» если не распадется самъ собой, то при первом дуновеніи вѣтра.

———————————

Я не буду много говорить о Россіи ибо положеніе каждому извѣстно. Извѣстно также то, что «большевизмъ» вѣчно существовать не будетъ. Если его не перемогутъ силы внѣшнія, онъ падетъ отъ силъ внутреннихъ, но несомнѣнно оставитъ слѣды своего бытья, которыя будутъ имѣть вліяніе на рѣшеніе аграрнаго вопроса, весьма страшнаго для пановъ поляковъ въ Бѣлоруси, но не для насъ. Едва ли можно допустить, чтобы послѣ стольких увѣреній нынѣшняго временнаго Россійскаго правительства (Сазоновъ, Маклаковъ и др.) и сильной партіи соц. рев. могла по большевизмѣ наступить реакція. Россія снова встанетъ и окрѣпнетъ на началахъ народовластья и сбросить тѣ путы, которыми теперь вяжетъ ее бывшій «союзникъ антанта» или вѣрнѣе Англія, которой страшно возрожденіе Россіи демократической, а тѣмъ болѣе страшенъ союзъ славянскихъ народовъ. Нужно имѣть въ виду, что Россія въ какой бы ни было формѣ никогда не снесетъ положенія «закрытыхъ дверей». Она силой будетъ ломать себѣ доступъ къ морю и черезъ это будутъ терпѣть прибрежныя государства — Литва, Лотышчина, Эстонія и даже Финляндія, если они не войдутъ въ федоративный составъ будущей Россіи. Это такъ ясно, что не требуетъ нкакихъ коментарій. Несомнѣнно также то обстоятельство, что революція на Западѣ не заставитъ себѣ долго ждать. На это не нужно быть пророкомъ, ибо наклонность къ перемѣнамъ лежитъ въ прямомъ соотвѣтствіи съ событьями, порожденными войной и русской революцией. Не задолго можетъ настать время, когда Россія и мы будемъ въ состояніи спокойно заниматься своими внутренними дѣлами и съ улыбкой взирать на пожаръ Запада. Нашъ уже будетъ потушенъ. Вотъ почему мнѣ кажется, что намъ выгоднѣе было бы соединить свою судьбу съ судьбой Россіи, если бы нынѣшнее правительство ея гарантировало намъ безпрепятственный созывъ «Всебѣлорусскаго Учредительнаго Собранія» (отдѣльно отъ Россійскаго), признало наши этнографическія границы и въ случаѣ надобности обязалось помочь намъ возстановить границы на западѣ силой. Этого намъ не можетъ дать ни Польша, ни другое государство.-

Опустошенная войной и ограбленная нѣмцами Польша, кромѣ векселя на 25 мильярдовъ франковъ, позволяетъ себѣ еще тратить 30 миліо-

новъ марокъ ежедневно на войну, аккупацію и колонизацію нашей родины, не смотря на внутренніе неурядицы. Ясно, что она играетъ va banque и никогда не отзоветъ добровольно своихъ войскъ изъ нашаго края. Поляковъ придется выбивать оттуда, а это можно будетъ сдѣлать только при помощи Россіи.-

Отъ Польши желательно было бы получить теперь разрѣшеніе на организацію нашихъ, бѣлорусскихъ, войскъ въ тылу фронта, но не за какую либо компессацію, а по суверенному праву (вѣдь мы не ведемъ войны съ Польшей), чтобы какъ сосѣди жить съ ней въ пріязни. Но изъ всего видно, что поляки хотѣли бы произвести тамъ плебесцитъ и еще подъ давленіемъ своихъ войскъ. Мнѣ кажется, что въ предѣлахъ этнографическихъ границъ Бѣлоруси вообще никакой плебесцитъ не допустимъ. Судьба бѣлорусскаго народа, живущаго на родной землѣ съ испоконъ вѣковъ, не должна зависѣть отъ пришлыхъ элементовъ или случайностей, Примѣромъ можетъ служить Варшава, когда при выборахъ въ послѣднюю Госуд. Думу поляки остались въ меньшиствѣ передъ евреями.

Украина, имѣя въ рукахъ реальную силу ведетъ теперь переговоры съ Россійскимъ правительствомъ по совѣту и въ присутствіи представителей Антанты (которая теперь, кстати сказать, ни физической, ни моральной силы не имѣетъ) и весьма возможно, что они столкуются, ибо благодаря послѣднимъ событіямъ, мнѣніе украинскихъ дѣятелей раскололось. Большинство же простого народа украинскаго тяготѣетъ къ Россіи. Это ясно доказали даже военно-плѣнные въ Чехіи, когда при раздѣлѣ лагерей по національностямъ изъ 700 украинцевъ лишь 70 человѣкъ добровольно пригласились къ нимъ.

Не извольте думать, что я москалефилъ, нѣтъ. Я бѣлорусъ чистѣйшей воды. Люблю свой народъ и свою бацьковщину больше всего на свѣтѣ. Вотъ почему я рѣшился откровенно высказать все, что у меня лежитъ на сердцѣ. Повторяю, что это мой личный взглядъ, никого и ни къ чему не обязывающій и не имѣющій въ виду дѣлать указанія.

Всецѣло подчиняясь Вашему руководству, я всегда буду помогать работать на пользу нашей дорогой бацьковщины по Вашему указанію, астаюся с шчырай пашанай і глыбокаю атданасьцю къ Вамъ пане Прэзыдэнце

Мікола Вершынін

*582.2.30:001&r-004&r — ра*

**1374. Ліст Янкі Станкевіча (Вільня) Антону Луцкевічу (Варшава) за 25.09.1919**

Старшыні Рады Міністраў Беларускае Народнае Рэспублікі.

Сьмета на газэту ў Вільні.

Формат газэты будзе такі, які быў «Бел. Думкі», бо найлягчэй мець гэткую паперу. Страніц будзе 4-6. Дзьве страніцы прыдзецца дадаць, бо вельмі шмат ёсьць інфармацый з школьнага жыцьця, дык прыдзецца ў газэце зрабіць асобны школьны аддзел. На 6 стр. будзе 900 радкоў. Складаньне і друк 2.000 арк. будзе каштаваць 800 мр., папера 2 стапы — 150 мр., гонорар 900 радкоў, лічучы сюды і пераклады ў сярэднім па 15

ф. радок — 135 мр., корэктура і экспэдыцыя 50 мр., пачто[выя] маркі для рассыланьня газэты 15-20 мр. Разам адзін нумар газэты будзе каштаваць 1150 мр.

Калі газэта будзе мець ня 6, а 4 стр., дык друкарская работа будзе каштаваць на 1/3 меней. Лічба страніц газэты будзе залежыць ад таго, як часта будзе газэта выходзіць. Прымаючы пад увагу літэрацкія сілы газэту можна лёгка выдаваць тройчы ў тыдзень. З штодзеннай газэтай пакуль што справа цяжкавата.

Заўсёднымі супрацаўнікамі ў рэдакцыі будуць рэдактар і сэкрэтар. Ідэйнымі кіраўнікамі будзем Тарашкевіч і я. Але адзін з нас павінен клапаціцца, каб быў заўсёды патрэбны матэр'ял, павіен заўсёды праглядаць увесь прыгатаваны да друку матэр'ял і наагул заўсёды рупіцца беспасрэдна, каб кожны нумар газэты выглядаў як мае быць. Гэта і будзе рэдактар. Ён павінен даставаць 400-500 мр. пэнсіі ў месяц. Сэкрэтар укладае ўвес нумар і нясе ў цэнзуру. Пэнсія сэкрэтару 700-750 мр. у месяц.

ЯСтанкевіч
25 верасьня
1919 г.
м. Вільня
*582.2.40:021&r-022 — ра*

---

На лісьце рэзалюцыя А.Луцкевіча: «Разглядзець дэтальна ў Вільні! 27.IX.19. АЛ».

**1375. Weißruthenisches Pressebüro (Berlin W.15, Kaiser-Allee 209). Nr.19. 26.09.1919**

Weißruthenien (von Rechtsanwalt Dr. Neise) — Fortsetzung und Schluß
*582.2.42:046 — д*

**1376. Дэклярацыя Беларускай Партыі Сацыялістаў-Рэвалюцыянэраў да польскага працоўнага народу й польскіх сацыялістаў**

*582.2.13:014-023 — мк пол*

---

У канцы кастрычніка Палута Бадунова выступіла ў Варшаве на Сойме ППС. Дакладная дата невядомая.

**1377. Бюлетэнь Беларускага Прэс-Бюро?**

Сяміклясовая беларуская школа у Горадні. — Беларуская Вайсковая Камісія (22.9.19)
*582.2.50:020 — мк*

---

Дакладная дата невядомая.

**1378. Нататка ў рубрыку «Книги и журналы» невядомага выданьня зь інфармацыяй пра выхад у сьвет «Часопісі Міністэрства Беларускіх Спраў» №1**

*582.2.50:005 — мк*

---

Дата невядомая.

**1379. Ліст Беларускай Рады Віленшчыны й Горадзеншчыны (Вільня) Польскаму Ўраду (Варшава) за ??.09.1919 з хадайніцтвам аб выдзяленьні Радзе грашовых сродкаў на яе дзейнасьць**

*582.2.37:007-009 — мк*

Дакладная дата невядомая.

**1380. Расьпіска віцэ-старшыні Рады Віленшчыны й Горадзеншчыны Міхася Кахановіча за 2.10.1919 аб атрыманьні ад Антона Луцкевіча 8.000 марак на настаўніцкія беларускія курсы ў Вільні**

*582.2.37:004 — р*

**1381. Ліст Беларускай Рады Віленшчыны й Горадзеншчыны (Вільня) старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антону Луцкевічу (Варшава) за ??.09.1919 з хадайніцтвам аб выдзяленьні Радзе грашовых сродкаў на яе дзейнасьць**

*582.2.37:006&r — рк*

Дакладная дата невядомая.

**1382. Справаздача радніка ў справах прэсы Дыпляматычнае Місіі БНР у Нямечыне Валянціна фон Дзітмана (Бэрлін) дыпляматычнаму прадстаўніку БНР у Нямеччыне Лявону Зайцу (Бэрлін) за 3.10.1919 аб дзейнасьці прэс-бюро ад 1.08 да 1.10.1919**

*582.2.31:014&r-015&r — мк*

Сярод іншага В.Дзітман напісаў артыкулы: «Безъ Россіи нѣтъ Европы», «Возрожденіе Бѣлоруссіи», «Бѣлорусское Кредо», надрукаваныя ў «Freizeitung» (Бэрлін) і «Freiburgerzeitung» (Бадэн)

**1383. Ліст старшыні Беларускай Вайсковай Камісіі ў Варшаве Паўла Алексюка старшыні Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі Антону Луцкевічу за 4.10.1919 з хадайніцтвам аб выдзяленьні 8.000 марак на працу Камісіі**

*582.2.37:034 — ра*

**1384. Рапарт шэфа Вайскова-Дыпляматычнай Місіі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Рызе Кастуся Езавітава (Рыга) міністру замежных справаў Беларускай Народнай Рэспублікі Антону Луцкевічу (Варшава) за 5.10.1919**

Секретно
5—10— мѣсяца 19час. 20 мин.
№2-с
Рыга

Паведамляю, што я і даручэнная мне Місыя, паперай Міністра Закардонных Спраў Латвіі ад 3 кастр. №3803-3805, акредытырованна пры Латвійскім Урадзе.

Палкоўнік Езавітаў

Пасылаю форму маей пячаткі і бланкаваго штампа
К.Езавітаў
*582.2.32:008&r*

**1385. Візытоўка Кастуся Езавітава**

Konstantin Esowitow
Mitglied der Rade weissruthenischen Volksrepublik
Oberst der weissruthenischen Armee.

*582.1.71:017*

Нататкі на адвароце: «1, Влад. Кар. Югансон. Brotze»

**1386. Візытоўка Кастуся Езавітава**

Костусь Езавітаў
Сябар Рады Беларускай Народнай Рэспублікі
Палкоунік Беларускай Службы

*582.1.71:016*

Кастусь Езавітаў прыбыў у Рыгу й быў акрэдытаваны 15.09.1919.

**1387. Тэлеграма Браніслава Тарашкевіча, Паўла Алексюка й Антона Аўсяніка (Варшава) Антону Луцкевічу (Вільня) за 5.10.1919**

=terminowa wilno wilenska
33 luckiewicz =

wilno warszawy 9038 16 5 13 28 wkt warsz

nadzwyczajnej waznosci sprawy prosimy terminowy przyjazd warszawy = taraszkiewicz aleksiuk owsiannik

*582.2.46:089 — a*

На пачатку кастрычніка Антон Луцкевіч выяжджаў у Вільню, дзе сярод іншага 6.10.1919 адбылася жалобная імша па Івану Луцкевічу. Абставіны «справаў» у Варшаве невядомыя.

**1388. Даклад Паўліны Мядзёлкі Беларускай Цэнтральнай Радзе Віленшчыны і Горадзеншчыны за 5.10.1919**

У Беларускую Цэнтральную Раду Віленшчыны і Горадзеншчыны.

Даклад.

Не зважаючы на загад польскага акружнога інспэктара — павятовыя інспэктары і дагэтуль адказываюцца затверджаць нашых вучыцялёў.

Вучыцялі знаходзяцца у страшэнна цяжкіх варунках — некатарыя фармальна галадуюць і ў роспачы пакусяцца на жыцьцё. Патрэбна якнайхутчэйшая матэрыяльная падмога. Горадз. Вучыц. Саюз без капейкі. Інспэктар Возьнякоўскі нічога не выдае з затрыманых грашэй.

Робяцца страшэнныя перашкоды з выдачай пропускаў усім беларусам. Затрымліваюцца дакумэнты і прыехаўшыя галадуюць не маючы змогі на'т да хаты дабрацца.

На станції робяць обыскі і калі знойдуць лісты пісаныя па беларуску — жандармэрыя арэштовывае — было ужо колькі такіх выпадкаў. Па почце так-жа беларускія пісьма не даходзяць.

Праца на мейсцы у Горадні наладжываецца. У кожны суботнік рэфэраты і лекціі. Зарганізаваўся хор.

Ратуйце галодных вучыцелёў.

П.Мядзіолко
5 кастрычніка 1919 г.
Горадня
*582.2.46:132&r — ра*

**1389. Пратакол сходу Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі ў Бэрліне за 6.10.1919**

ЖУРНАЛ СХОДУ

Бэрлін 6 кастрычніка 1919 году

БЫЛІ: Быушы часовы намесьнік старшыні Рады Народных Міністрау Беларускай Народнай Рэспублікі, выпауняючы абавязкі Міністра Фінансау В.Захарка, Паунамочны прэдстаўнік у Бэрліне - Дзержауны Кантролер Л.Заяц, Прэдстаунік на Літве - Сэкрэтар Рады Рэспублікі П.Крэчэускі

СЛУХАЛІ:

Паперу Міністра Загранічных Спрау ад 18 верасьня гэтаго году за №1-182 аб тым, што ен ні згажаецца на назначеньне пана Варонкі паслом Б.Н.Р. у Лендан, дзеля яго шкоднай для Беларусі працы у складзе Літоускаго ураду; а такжэ паперу Старшыні Рады Народных Міністрау ад 18 верасьня 1919 году за №1-183 аб зняцьці з пана Захаркі абавязкау па замешчэньню (Намесьніка ?) Старшыні Рады Народных Міністрау у звязку «З выдачаю члену ураду варожай нам дзержавы (пану Варонко) тайнай дыплематычнай перапіскі». Абедзьве паперы падпісаны панам Антонам Луцкевічам.

ПАСТАНАВІЛІ:

Прымаючы пад увагу, што пры развязаньні закранутых панам Старшыней і Міністрам Загранічных Спрау Б.Н.Р. пытаньняу прымалі учасьце с правам рашучаго голасу, у віду дзержаунай неабхадзімасьці, не толькі пан Захарка, але Л.Заяц, П.Крэчэускі і Кіраунік Міністэрства унутрэных спрау К.Тэрэшчэнко і што усе пастановы і аглашеньне тайнай дыплематычнай перэпіскі прымаліся памяненымі асобамі аднагалосна (апроч пастановы аб назначэньні Езавітава старшынею місіі на Латвіі за мейсцо якого пан Тэрэшчэнка прапанавау на гэтае становішчэ пана Чэрапука), дзеля гэтаго, калі і можа быць прэд'явлено якое кольвек абвінавачэньне, то яно павідна быць адрэсовано не аднаму толькі пану Захарцы, а усім чатырэм памяненым учаснікам сходу, на яком імі былі развязаны закранутыя пытаньня.

Угледзяушы с памяненых паперау за №1-182 і 1-183, што сэнс, значэньне, а так само і абставіны, у якіх рабіліся пастановы, чыталіся дакумэнты і рабіліся узаемныя інфармацыі яуна і наумысьна ізврашчэны і

што гэтае злонамеранае ізвращчэньне мог зрабіць толькі прысутны на пасядзэньнях, а іменно пан Тэрэшчэнка, — напісаць у Раду Міністрау праз яе старшыню падробны даклад аб фактычным палажэньні рэчау і аб усіх тых цяжкіх варунках Дзяржаунай неабхадзімасьці, якія прымусілі прынаць тыя ці іншыя пастановы, а также і запрасіць Раду Народных Міністрау, ці лічыць яна саумесьцімымъ званьне Кірауніка Міністэрства унутрэных спрау з асобай, якая такімі паступкамі, як вышейпамянены (асабліва калі прыняць пад увагу усю шкодную працу пана Тэрэшчэнко за апошні час) — дэзорганізуе дзержауную працу як у цэнтры, так і на мейсцох, следства чаго могуць быць для усяго кабінету непапраўімы.

Л.Заяц В.Захарко Крэчэўскі
*582.2.01:063&r — мк*

**1390. Справаздача юрысконсульта Дыпляматычнай Місіі БНР у Нямеччыне Бруна Міллера (Бэрлін) дыпляматычнаму прадстаўніку БНР у Нямеччыне Лявону Зайцу (Бэрлін) за 7.10.1919**

Г. Чрезвычайному Представителю Бѣлорусской
Народной Республики въ Берлинѣ.

Докладываю Вашему Превосходительству, что 2-го сего октября по Вашему распоряженію я былъ въ Министерствѣ Иностранныхъ Дѣлъ у совѣтника г. ф. Блюхера для выясненія точки зрѣнія его и министерства на представительство Бѣлорусской Народной Республики въ Берлинѣ въ виду сдѣланныхъ имъ Вашему Превосходительству при послѣднемъ свиданіи Вашемъ заявленій.

Г. ф. Блюхеръ на вопросъ мой, чѣмъ вызваны его заявленія, объяснилъ мнѣ, что званіе чрезвычайнаго посла или посланника, или просто посла или посланника можетъ быть присвоено лишь дипломатическимъ представителямъ правительствъ, поддерживающихъ съ Германіей нормальныя дипломатическія отношенія. Даже и въ этомъ случаѣ всѣ державы при назначеніи своихъ дипломатическихъ представителей при германскомъ правительствѣ запрашивали и запрашиваютъ согласіе германскаго правительства для назначенія на постъ посланника того или другого лица. Ни Франція, ни Англія не имѣнуютъ въ настоящее время своихъ представителей послами и дипломатическими представителями, тѣмъ менѣе это можетъ дѣлать Бѣлоруссія, правительство которой не признано Германскимъ правительствомъ.

На вопросъ мой, какъ же должны имѣноваться Ваше Превосходительство и возглавляемое Вами представительство Правительства Бѣлорусской Народной Республики въ Берлинѣ, такъ какъ фактически Вы находитесь въ Германіи и выполняете функціи представителя Бѣлорусской Народной Республики, г. ф. Блюхер отвѣтилъ, что по его мнѣнію Вамъ и надлежитъ именоваться въ Германіи представителемъ Бѣлорусской Народной Республики.

При этомъ г. ф. Блюхеръ просилъ меня передать Вашему Превосходительству, что личныя его къ Вамъ отношенія остаются самыми искренними и самыми лучшими.

Подлинное подписал: Юрисконсультъ Миссіи Б.Миллеръ
7 октября 1919 г. Г. Берлинъ

Секретарь Миссіи Д.Паўлоўскі
*582.2.31:018&r — мк*

**1391. Даклад сакратара Вайскова-Дыпляматычнай Місіі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Рызе Янкі Чарапука Радзе Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі (Бэрлін) за 9.10.1919**

Ў Раду Народных Міністраў

Я.Чэрэпука
Сэкрэтара Вайскова-
Дыплематычнай Місыі Б.Н.Р.
на Латвіі і Эстоніі

Даклад.

Маю гонар паведаміць Раду Народных Міністраў, што дзякуючы энэргічнай працы беларускай у Латвіі, як Эстоніі справа наша у дыплематычным кірунку стаіць на належнай высаце.

З гутарак з Міністрамі Латвіі і Эстоніі выяснено, што гэтыя Гасударства, так само і Фінляндыя вельмі зацекаўляны, каб у Entente Cordiale (Саюз Балтыцкіх Гасударств) ўвайшла таксамо і Беларусь.

У гэтым напрамку да такого ўхода толькі прыдзецца сустрэнуцца з проціводзействам Літвіноў (але апошніе весу на палітыку Балтыцкіх Гасударств высокаго не маюць. Асабліво яшчэ цяпер, калі кабінет Сліжэвіча упаў[1][)].

Прынімаючы пад увагу зноў тое, што Англійско-Амэрыканская Дыплематыя вельмі зацекаўляна у істнаваньні гэтых Балтыцкіх Гасударств, мой пагляд, каб зараз жэ быў пасланы у Англію надзвычайны прэдстаўнік, які напэўна мог бы дабіцца шмат чаго рэальнаго, як ужо гэто скарысталі эстонцы і латышы (займ грашовы, абмундзіроўка вайсковая, харчовыя прысылкі у разсрочку).

Выходзячы зноў з той палітычнай думкі

1) што літвіны на конфэрэнцыі 29 верэсня у Юрьеве, здзякуючы не прысутнасьці Урадоваго Прэдстаўніка нашаго ўручылі мэморандум трэбуючы прізнаня Літвы і таксамо за ею Вільно. Першаго ім дабілося атрымаць, а аб Вільні гутаркі будуць на другой конфэрэнцыі разбіраща гэта 25 кастрычніка.

2) Саюз Балтыцкіх Гасударств зноў пастанавіў in corpore з бальшэвікамі заключыць перэмірэ. У парадку абрад уходзіць таксамо і тое, каб была адведзена нейтральная зона. Яна якраз абхопіць тыя часткі Ўсходняй Беларусі, якая занята бальшэвікамі. Тут жыхарство дано будзе права высказацца аб іх прыналежнасьці да таго ці другого гасударства. Ці Урад Беларускі не скарыстаў з гэтаго і ні пачаў ужэ дзяржаўную працу на родным мейсцу.

Усе гэтыя абставіны політычныя, а таксамо ўсе ешчэ тое што ізлажыў п. Шэф Місыі палкоўнік Езавітаў я давадзжу да ведама Урад што трэба зараз жэ

1) У Рыгу на 25го г. месяца прыбыць Старшыне Рады Нар. Міністраў і з прэдстаўнікам (экспэртам) ад Міністэрства Заг. Спраў.

2) Скарыстаць прыхільнасьць Англіі для можэ рэальных нашых дзяржаўных патрэбнасьцей.

3) Паслаць зараз жэ пасла у Лондон, што шкада што да гэтуль не зроблено.

Я.Чэрэпук

Бэрлін 9 кастрычніка 1919 г.
*582.2.32:009&r-010*

[1] Коаліцыйны ўрад Мікаласа Сьляжавічуса з прычыны міжпартыйных супярэчнасьцяў пайшоў у адстаўку 2.10.1919.

**1392. Ліст сакратара Рады БНР Пятра Крэчэўскага (Бэрлін) старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антону Луцкевічу (Варшава) за 9.10.1919**

Старшыні Рады Народных Міністраў
Беларускай Народнай Рэспублікі Луцкевічу.

Палітычнае становішчэ Беларускай Рэспублікі ў сучасны момэнт вымагае ад нас зьвярнуць вялікую увагу на сусьветную палітыку Парыжа, Бэрліна, Лондона і Прыбалтыкі. Нельга глядзець на справу вачыма Варшавы, яна нам абсалютна нічога не дасьць.

У самы адповедны момэнт для нашай справы Падэрэўскі Вас справаціраваў і вызваў у Варшаву, можа толькі для таго, каб Вы не паехалі на Балтыку, дзе па загаду той самай Польшчы утварыўся хаурус усіх уноўпаўстаўшых Дзержаў. Мала таго, Ваш адъезд у Варшаву скасаваў нават той маленькі цэнтр, які быў у Бэрліне. Кіраўніцтва нашай агульнай палітыкай не было і німа.

Зараз на Балтыцэ ідуць спрэчкі за Вільню, 25 кастрычніка гэто пытаньне павінно вырэшыцца, ад нас патрэбуюць дакумэнтаў і Вашай прысутнасьці там, а мы нават не ведаем, чы здалеем выклікаць Вас з Варшавы.

Ідуць перагаворы а пераміріі з бальшевікамі, якія абецаюць Беларусь зрабіць нэйтральнай зонай і даць са згоды Прыбалтыкі і Фінляндіі з аднаго боку і бальшевікоў з другого магчымасьць нашаму Ураду працаваць у гэтай зоне і вызваляць сваю Бацькаўшчыну і ад польскай акупацыі, а у нас там німа каму гаварыць і нават німа пэўнасьці, чы будзе тут Старшыня Рады, чы Міністр Заграні́чных спраў, якіе далі б каму небудзь паўнамочча на гэта.

Як член Прэзыдіуму Рады і Сэкрэтар я патрэбую, каб у такі адпаведны час для Беларусі Вы зараз жэ выехалі у Бэрлін для стварэньня цэнтру палітычнай працы і у Рыгу на конфэрэнцію Старшын Рады Міністраў 25 кастрычніка, а калі гэта ня будзе зроблена, то усю адпаведнасьць за блізарукую палітыку я узлажу на Вас перад Радай Рэспублікі, каб не быць вінаватым у тым, што я у свой час не зрабіў таго, што мусіў зрабіць згодна за сваім становішчэм я і пішу Вам гэты ліст.

Трэба каб Вы зараз же выехалі сюды і паехалі у Рыгу, а Рада Міністраў выбрала і паслала паслоў у Англію, Швэцыю і Нарвегію і Фінляндію.

Ваша адсутнасьць — смерці падобна.

Член Прэзыдіуму Рады і Сэкрэтар
Беларускай Народнай Рэспублікі ПКрэчэўскі

№30
9 кастрычніка 1919 г.
Бэрлін.
*582.2.46:059-060 — ра*

На лісьце пазначана: «Атрымана праз Прагу 23.X.19. Ант.Луцкевіч»

**1393. Weißruthenisches Pressebüro (Berlin W.15, Kaiser-Allee 209). Nr.20. 10.10.1919**

Weißruthenien und die deutsche Industrie. — Weißrutheniens Selbstbestimmungsrecht. — Was Weißruthenien von den Großmächten erwartet. — Die künftige Westgrenze Weißrutheniens

*582.2.42:047 — д*
*582.2.42:048 — д*
*582.2.42:049 — д*
*582.2.42:050 — д*
*582.2.42:051 — д*

**1394. Ліст дыпляматычнага прадстаўніка БНР у Нямеччыне Лявона Зайца (Бэрлін) старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антону Луцкевічу (Варшава) за 11.10.1919**

11 кастрычніка 19 г.

Дарагі Таварышу!

Петро павінен абстаяцельна Вам выясьніць патрэбнасьць Вашай прысутнасьці 25/X і пазьней на Балтыцэ. Аб гэтым жа гаворыць і даклад спэцыяльна прыехаўшаго з Балтыкі і гаварыўшаго аб гэтых справах з міністрамі п. Чэрэпука. Мяркуйце як там лепей, але калі ня Вы дык надзвычайны Ваш намесьнік павінен прыбыць адтуль, бо ліцвіны там перад усімі (там будзе і Антанта), карыстаючыся нашай адсутнасьцю, пастараюцца замацаваць свае пазыцыі за наш рахунак.

Езавітаў са сваей камісіей, якая, трэба адзначыць са слоў Чэрэпука і газэтных адчотаў, — высока трымае дзяржаўна-нацыянальнае знамя, і яны атрымалі згоду з боку Латвіі на учасьце у працы камісіяў, але у пасядзэньні міністраў іх ня пусьцяць, бо чакаюць нашаго Міністра Загр. справ. Гэта Вы усё добра ўбачыце з дакладаў Пётры[1] і Чэрэпука.

Мы тут развярнулі з Базылём[2] шырокую акцыю у напрамку прызнаньня нашаго Ураду і, пакуль што, можна лічыць дабіліся многаго: мяне першы раз на гэтых днях de-facto залічылі, праўда на славах, як прэдстаўніка Рэспублікі тут (раней усіх нас яны лічылі і мне некалькі разоў падкрэсьлівалі, — што мы тут прыватныя асобы); як вынік гэтаго, мы сябе чуім як дома у афіцыяльнай прэссе, якая надта многа аб нашай справе пішыць; нашы дыплёмат. і грамадзянскія пашпарты маюць усюды моц; ёсьць надзеі нават на выдзяленьне табару: цяпер вяду аб гэтым перагаворы; думаю дабіцца афіцыяльнаго de-facto прызнаньня і многае інш, аб чым на славах.

Адным словам, дай Бог, каб усе другіе столькі палажылі і працы і шчырасьці, колькі у нашу тут справу ўлажылі мы з Базылём. І як балюча, як абідна было чытаць строкі аб здрадзе і т.д., строкі, якія напісаны пад уплывам кляўзаў чалавека нягоднага насіць у данны момэнт мучэнічэства нацыянальнага імя белар. міністра (я кажу аб Кузьме[3]). Так, дарагі таварышу, я маю права аткрыта і сьмела гэта Вам сказаць, бо я цяпер толькі яго пазнаў, хоць калісьці яго бараніў, так сама, як і Вы. Разчаровывацца балюча, але, калі чалавек гад, (а ён такі, мы гэта дакажэмо Вам многімі пісьменнымі і устнымі фактамі аб яго для кабінэту шкоднай працы за апошнія месяцы), трэба ад яго адвярнуцца, бо помніце мае словы, што калі Вы ні адверніціся ад гэтаго шпіона, служачаго сягоньня Вам і гатоваго Вас прадаць сшчасьлівейшаму заўтра, то як усе сягоньня, пачынаючы ад с-р, глядзяць на Кузьму, будуць глядзець на Вас, атажджествляючы Вас і Ваш кабінэт з ім: да таго ужо тут давялі яго усіх інтрыгі. І вот пад уплывам, толькі пад уплывам магло быць напісана пісьмо аб здрадзе Базыля, каторы, аб гэтым я магу чым угодна даказаць, гатоў быць нават жыцьцё сваё налажыць за Вас і за справу. Я нават затрудняюся сказаць — за што больш і скарэй: ці за Вас, ці за справу. Мае адносіны да с-ф. засталіся старыя: але я суджу цяпер аб іх па іх паступках, і аб Базылю магу сказаць, што мы з ім хварэлі аднэй хваробай — гэта нашай справай. І за гэта... здраднікі! Бо тое, што аднясьлі Вы на яго кошт, я маю сьмелась прыняць і на сябе і даказаць дакумэнтальна, што мы маглі гэта зрабіць, бо ўся Ваша прэдшэствуюшчая перапіска, гаварыла аб тым, што тарыбаўцы павінны кінуць там і працаваць з намі. Мы у траіх: я, Базыль і Кузьма радзіліся, чы прачытаць дыплёматычныя тайны і, у звязку з разрывам і выхадам Язэпа[4] і Кастуся[5], пастанавілі у трох прачытаць. І на гэтым гэты падлец пастроіў свае абвінавачэньня, не гледзючы на тое, што Азнабішын гэту «тайну»[6] разказаў задоўга да чытаньня дакумэнтаў усім, яшчэ калі Язэпа ні было, але быў Петра і Езавітаў, а гэтага досыць! Што гаварыць аб «тайнах», калі мне у мініст. загран. спраў, як я туды па справах прышоў, разсказалі аб гэтым, бо Вы не іголка, якую можна ні замеціць! Значыцца, калі можэ і мыліліся мы, але ж бэз усякай злой волі. Я настолькі чую сябе цьвердым на нашым становішчы, у якім мы з Базылём (я яго толькі добра пазнаў; палітыку Язэпа я так сама парыцаю, хаця, як мы Вам даручым дакумэнты, то ня толькі ён вінаваты, а больш ўсяго нашы арганізацыі, якія ні прысылалі рэзалюцыі аб разрыве!) — шчыра падыходзілі да справы, што буду Вам удзячны, калі Вы прачытаеце гэты ліст Кузьме.

Я ужо яму тут раз казаў аб усей нягоднасьці і шкоднасьці яго ў беларускай справе і ён, калі я яму сказаў, што праклінаю той дзень, калі я ратаваў за яго ў пасядзэньні аб назначэньні на высокае становішчэ, ён сказаў, што падась ў адстаўку. Шкода, што дагэтуль ён гэтаго ні зрабіў. У дакладнай запісцэ мы дакажам Радзе Мін., што Кузьма надта шмат шкоды зрабіў для нашай справы і што толькі дзякуючы яму і толькі яму усе нінавідзюць Ваш кабінэт: нідарам у Вільні радаваліся беларусы, як убачылі арыштаванаго Кузьму. Насколькі гэты чалавек прадажны і шкодны, можэце судзіць хаця бы з гэтых двух фактаў, аб якіх я нідаўна толькі

даведаўся: Посьле 1ай паездкі Андрэя Кузьма пашоў і выдаў найвялікшую тайну нашу аб ад'ездзе ў Менск Якубецкаго нашым ворагам[7]; ім жа ён данёс аб нашых перагаворах у Горадні з палякамі. 2 пекных абразчыка з лічбы многіх! Калі мне аб гэтым разсказалі тыя, каму ён асабісьце данасіў, я ня мог паверыць, пакуль ні падцвердзілі інш.

Вы, таварышу, можэ падумаеце, што я аб с-фіўся! Не, я той жа самы, але я да апошняго момэнту усё думаў лепей аб Кузьме і маўчаў, а цяпер ні магу маўчаць, як гэта рабіў Грыб, Базыль, Андрэй, Чэрэпук і інш., хто ведае усе яго справы. Пішу аб гэтым, бо мне балюча відзець Базыля, як ён захварэў з момэнту атрыманьня Вашаго лісту (3/X) аб такім ганебным для яго адазваньні з намесьнічаства, ад катораго ён па добраму з вялікай ахотай адказываўся цэлы час і Вы маеце аб гэтым лісты. Ен цяпер прыводзіць у парадак фінансавую адчотнасьць, каб усё здаць замесьціцелю, бо я прыняць ні магу.

Пэўне ж мы нічога ня можэм сказаць аб пасылцэ Язэпа, бо бэз Вашай згоды ніхто яго нікуды і ні зьбіраўся пасылаць. Ня ведаю, як далей будзе, але ён яшчэ да атрыманьня Вашаго лісту выйшаў у адстаўку[8], у якую яму надта трудна была выйсьці бэз рэзалюцыяў нашых арганізацыяў тым бардзей, што яго служачыя ад жніженя пэнсыі ні атрымовывалі і, ведаючы, што ён хочэ парваць, аб гэтым таксама разбалтаў Кузьма, — сачылі яго цэлы час, каб ня ўцёк.

Наагул, таварышу, калі з нашаго боку і былі абмылкі (ня мыліцца той, хто нічога ня робіць!), то віна ні адных нас, але ўсіх, хто раз'ехаўся і ніяк ня можэ з'ехацца. Вы абавязкова павінны хоць на кароткі час заехацца: я тут так павёў палітыку, што Вы сьмела можэце тут прыежджаць. Што датычэ мяне, то я па неволі выпаўняю абавязкі дыпл. прэдст. і ніколі ні згаджуся і ні маю права быць пастаянным, пакуль я кантралёр. Я тут сяджу, закінуўшы усеньку сваю кантралёрскую працу (ёсьць многа адчотаў, да якіх ні магу дабрацца із за пасольства), пакуль ня можна дамоў ехаць і толькі да гэтаго часу. Калі яшчэ доўга ня можна дамоў, то я буду сядзець тут, але Вы павінны абавязкова маю жонку сюды прыслаць. Калі ж хутка можна ехаць, то Вы павінны адразу жа назначыць тут другога, бо з усей апошняй нэрвовай абстаноўкай я так раскашляўся і так стала гнаць макроты, што сягоньня прафэссар мне сказаў, калі я хачу жыць, то павінен усё кінуць і лячыцца ехаць у горы. Звярніце на гэта увагу, бо я хачу жыць і працаваць, а Зайцаў у нас ня многа. Чакаю Вас з ніцярпеньнем

Ваш ЛЗаяц

*582.2.31:007&r-009&r*

---

[1] Крэчэўскі. [2] Захаркам. [3] Цярэшчанку. [4] Варонкі. [5] Езавітава. «Разрыў» і «выхад» – разрыў зь літоўцамі й спыненьне працы ў Міністэрстве Беларускаіх Справаў Літвы. [6] Маецца на ўвазе прыезд А.Луцкевіча ў Варшаву дзеля перамоваў з польскім кіраўніцтвам. [7] Маецца на ўвазе таемная паездка ў Менск Андрэя Якубецкага ў студзені 1919. «Нашы ворагі» — сацыял-фэдэралісты й супрацоўнікі Міністэрства Беларускіх Справаў у асобе Пятра Крэчэўскага, якому Цярэшчанка нібыта выдаў таямніцу. Падрабязьней пра гэта гл. НАРБ 325.1.053. [8] Язэп Варонка 7.10.1919 увайшоў у новы кабінэт міністраў Галванаўскаса й заставаўся міністрам беларускіх справаў да чэрвеня 1920 году.

**1395. Суправаджальны ліст дзяржаўнага кантралёра Лявона Зайца (Бэрлін) старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антону Луцкевічу (Варшава) за 12.10.1919, дасланы з паперамі й дакладамі**

Пры гэтым маю гонар перэслаць да Вашага ведама ніжэйпамяненыя паперы:

1) Паперу за №30 пана Крэчэускаго
2) Даклад пана Чэрэпука,
3) Пастанову за 6 кастрычніка, падпісаную мною, Крэчэускім і Захарко,
4) Мой ліст са справаздачаю за 11 кастрычніка,
5) Дзве выразкі з газэт аб нашай справе,
6) Запіска Езавітава за №2

*582.2.31:002*

**1396. Суправаджальны ліст старшыні Горадзенскай Беларускай Вучыцельскай Рады Лукаша Дзекуць-Малея (Горадня) Антону Луцкевічу (Варшава) за 13.10.1919, дасланы з матэрыяламі аб перашкодах у адкрыцьці беларускіх школаў на Горадзеншчыне з просьбай хадайнічаць перад польскімі ўладамі**

*582.2.46:020 — ра*

---

Падпісалі: Старшыня Дзекуць-Малей; Сэкрэтар У.Шалешка. На лісьце пазначана: «Даложана п. Пілсудскаму». Антон Луцкевіч перадаў матэрыялы Пілсудзкаму падчас аўдыенцыі 20.11.1919 (гл. дакумэнт №1501).

**1397. Матэрыялы аб перашкодах у адкрыцьці беларускіх школаў і пастановы вясковых сходаў на Горадзеншчыне, пададзеныя ў Беларускую Вучыцельскую Раду Горадзеншчыны**

*582.2.46:021-053 — ра, рк*

**1398. Ліст міністра замежных справаў Беларускай Народнай Рэспублікі Антона Луцкевіча (Варшава) надзвычайнаму паслу Беларускай Народнай Рэспублікі ў Літве Пятру Крэчэўскаму (Коўна) за 14.10.1919 (вых. №І-195)**

Варшава, 14 кастрычніка 1919 г.
№І-195

Яго Міласьці
Надзвычайнаму паслу Беларускай
Народнай Рэспублікі ў Літве
Пётры Крэчэўскаму

у Коўні.

Міласьцівы Пане!

Уважаючы узложаную на Вас місію ў Літве скончанай, падаю гэта да Вашага ведама і прашу Вас выехаць у Менск дзеля падробнай справаздачы Ураду аб Вашай працы.

Міністэр Заграні́чных Спраў
Ант.Луцкевіч

*582.2.35:036а — ра*

**1399. Ліст старшыні Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі Антона Луцкевіча (Варшава) сакратару Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Пятру Крэчэўскаму (Коўна) за 14.10.1919 (вых. №І-196)**

Варшава, 14.Х.19.
№І-196

Яго Міласьці
Пану Сэкрэтару Рады Рэспублікі
Пётры Крэчэўскаму

у Коўні.

Гэтым падаю да Вашага ведама, што ў вельмі хуткім часе ў Менску мае быць скліканы пленарны сход Рады Рэспублікі, дзеля чаго Ваш прыезд у Менск канечна патрэбен.

Ант.Луцкевіч
*582.2.35:036b — ра*

**1400. Канвэрт зь лістамі Антона Луцкевіча (Варшава) Пятру Крэчэўскаму (Коўна) за 14.10.1919 з сургучнай пячаткай Рады Народных Міністраў БНР**

*582.2.35:036*

На адвароце канвэрта запісана: «14.ХІ.1919. Вернена з прычыны немагчымасьці кур'еру праехаць праз дэмаркацыйную лінію з Літвой. Ант.Луцкевіч».

**1401. Беларускае Прэс-Бюро (?). №21. 17.10.1919**

Выражэньне беларускага пратэсту. — Польскі уціск у Беластоку. — Беларусія і Юр'еуская канфэрэнцыя
*582.2.44:008&r-009 — шк*

Месца выданьня невядомае (Менск?).

**1402. Тэлеграма Міколы Вяршыніна (Прага) Антону Луцкевічу (Варшава) за 17.10.1919**

pan antoni luckiewicz warszawa hotel saski 35=
praha 9417 12 16 3 30 wktbl =
przyjade niedziela[1] do warszawy = wierzynin =
*582.2.30:013*

[1] 19 кастрычніка.

**1403. Копія ноты пасла Ўкраінскай Народнай Рэспублікі ў Нямеччыне Міколы Порша (Бэрлін) старшыні Саюзьніцкай Камісіі ў Нямеччыне генэралу Дзюпону (Бэрлін) за 17.10.1919**

*582.2.31:024-025 — мк*
*582.2.31:027-028 — мк*

Нота пададзеная з нагоды пастановы Рады Пяцёх на Мірнай Канфэрэнцыі перадаць генэралам Дзянікіну і Калчаку ўвесь забраны Нямеччынай у Расеі ваенны

матэрыял: «Въ дѣлежѣ кромѣ Деникина и Колчака должны принять участіе и національныя республики: Финляндія, Латвія, Эстляндія, Литва, Бѣлоруссія, Украина, Грузія исключая большевистской Великороссіи»

**1404. Суправаджальны ліст пасла Украінскай Народнай Рэспублікі ў Нямеччыне Міколы Порша (Бэрлін) дыпляматычнаму прадстаўніку БНР у Нямеччыне Лявону Зайцу (Бэрлін) за 18.10.1919, дасланы з копіяй ноты пасла УНР да старшыні Саюзьніцкай Камісіі ў Нямеччыне генэралу Дзюпону**

*582.2.31:023 — мк*
*582.2.31:026 — мк*

**1405. Рапарт дыпляматычнага кур'ера БНР Янука Натусэвіча (Горадня) старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антону Луцкевічу (Варшава) за 18.10.1919**

*582.2.46:065&r-068 — ра*

---

1919.08.14 у Бэрліне пастаноўлена паслаць Я.Натусэвіча ў Коўна для перадачы пакетаў Крэчэўскаму; 1919.08.17 Я.Натусэвіч прыняты Крэчэўскім; 1919.08.20 выехаў у Вільню; 1919.09.02 арыштаваны ў Горадні.

**1406. Тэлеграма Грэмлі (?) (Горадня) Антону Луцкевічу (Варшава) за 18.10.1919**

Warszawa Hotel Saski Luckiewicz

Grodna 1020 13 18 12 25

Siedzę Grodnie wyjechac nie mogę przyczyny nie wiem

Gremla

*582.2.46:130 — рк*

---

Адрасант (псэўданім?) невядомы.

**1407. Акт аб памеры нявыплачанай пэнсіі рэдактару прэс-бюро й начальніку Пашпартнага Аддзелу Беларускай Місіі ў Бэрліне Януку Натусэвічу, складзены ў Бэрліне 18.10.1919 Васілём Захаркам і Лявонам Зайцам**

*582.2.40:086&r — ра*

**1408. Даклад шэфа Прасьветнага Аддзелу Цэнтральнае Рады Віленшчыны й Горадзеншчыны аб школьнай палітыцы польскага Камісарыяту Асьветы ў Вільні й на Беларусі**

*582.2.46:069&r — мк*

---

Дакладная дата невядомая («два тыдні назад Камісар Асьветы Вільні п. Венслаўскі выдаў загад аб неабходнасьці атрыманьня канцэсіяў школамі, якія будуць існаваць у 1919-1920 гг.»).

**1409. Рахунак выдаткаў дыпляматычнага кур'ера БНР Эўгеніі Алексючанкі на паездку ў Коўна 19.10.1919**

*582.2.46:119 — ра*

**1410. Запіска Эўгеніі Алексючанкі Антону Луцкевічу з просьбай кампэнсаваць грошы, пазычаныя ў яе Януком Натусэвічам**
*582.2.46:120 — ра*

**1411. Ліст упаўнаважанага БНР па справах ваеннапалонных беларусаў у Чэхаславаччыне Міколы Вяршыніна (Прага) Прэм'ер-Міністру Беларускай Народнай Рэспублікі Антону Луцкевічу (Варшава) за 21.10.1919**

Б.Н.Р.
УПОЎНАМОЧАНЫ ПА СПРАВАМ
ВАЕН.-ПАЛОН. БЕЛАРУСАЎ В ЧЭХА-
СЛАВАЦКАЙ РЭСПУБЛІЦЕ.
B.R.D.R.
CHARGÉ DES AFFAIRES DES PRI-
SONNIERS DE GUERRE
BLANCS-RUTHÉNIENS
DANS LA RÉPUBLIQUE TCHÉCO-
SLOVAQUE.

Кастр. 21 дня 1919
Praha II PRAGUE
Sokolska 22.

Высокапаважаны
пане Прэзыдэнте

Пакет Рады міністрау я атрымау 16 X і хацеў даставіць Вам сам, але польскі Консул у Празе адказаў візіроўку пашпарта. Я телеграфіроваў Вам і прасіў о інтэрвенцію.- Цяперь пасылаю через Чешскага курьера і пакорна прашу Вас выдаць яму ствердзене аб атрымані пакета, а также калі што маеце пасылаць у Бэрлін пашліце через яго. Само сабою разумеетца, што курьера трэба вазнаградзіць.-

С глубокаю пашанай
М.Вершынін
P.S. Ці атрымалі ад меня пісьмо, посланое черезъ курьера перед 3 нядзелямі?
*582.2.30:005 —ра*

**1412. Ліст Паўліны Мядзёлкі (Горадня) Антону Луцкевічу (Варшава) за 22.10.1919**

Wielmi pawažany p. Anton!

Napisała ja Wam aficialny dakład ab usich sprawach i pryhatawała spis wydatkaŭ (dakumentalnuju hrašawuju sprawazdaču, jak Wy i kazali pašlu p. T<araškievižu>) — tolka niama praz kaho pasłać — i ciapier dziela wiadomych pryčyn nichaču usiaho pisać.

Užo z miesiac jak abiecali «za dwa tygodnie» zakončyć Tumašowu sprawu, a i da hetul ni słuchu, ni duchu — čujecca jon wielmi kiepska — mierznić — piečaŭ tam niama, palta tak sama niamaje — ja pažyčyła dla jaho na karotki čas šynel — kali-ž zapraŭdy kaniec budze hetaj muki?

U nas zasnowywajecca nacyanalny K-t dla abarony našych interesaŭ u mežach m. Horadni. Panočku! Jak rabić i što z hrašyma? Sprawa woś u čym. Da hetul ja wydawała na ŭsio što patreba pa swajej uwazie, wydatki rabiła i na Hramadu Moładzi i Wučyc<ielskaha> Sajuza wučycielam dawała niewialikuju padmohu — słowam apłačywała usie rachunki sama — nia dzielučy atrymanych na asobnyja arhanizacii. Ale, bačycie, jość niekatoryja typy, katoryja zumysla chočuć uniaści razład u našaj pracy i ŭdabawak za šmat lišniaha znajuć pra naiŭnuju ščyraść druhich. I woś takija typy žadajuć dać im adčot, bo uważajuć, što hetyja hrošy pryznačanyja byli dla adnoj arhanizacii.

Dziela hetaha ščyra Was prašu wyjaśnić mnie ci ja časam nie rabiła pamyłki. Hramadzie Moładzi ja nie mahła dać pakul nie było wybrana kiraŭnictwo, a ŭrešci dahatul i nie było čaho dzialić. Budźcie łaskawy napišecie, što Wy nie pryznačali (dajučy mnie) na asobnyja arhanizacii, a na ahulnuju sprawu i što adčot ja daju tolki tamu, ad kaho atrymliwaju hrošy, a nie pieršym-lepšym, katoryja cikawiucca.

Jašče adno, p. T<araškievič> pasyłajučy mianie u Horadniu, kazaŭ, što naznačaje mianie pamocnikam šefa nar. praśw. i abiecaŭ prysłać naznačeńnie — da hetul, adnak ničoha nie atrymała. Pensiju dastała za červień i lipień pa 1.000 rb. — ad hetaha času nichto ničoha ab majej pensii nie hawaryŭ — i ciapier ja nia wiedaju, ci z hetych hrašej ja mahu sabie chaciaby na jadu wydzielić? Bo na inšyja patreby, ja uważaju, što nie maju prawa wydawać. Woś, zima idzie, adzietku nie maju, silna prastudziłasia, a u kišani tolka adzin rubiel — nawat na aspirynu nie maju. Mo' i paśmiajeciesia z adnej jašče sprawy, ale wiercie mnie, što budu hawaryć heta nie z pohladu swajej, asabistaj karyści, a z karyści našaj sprawy.

Niaraz warunki tak składajucca, što treba pajci da ludziej, znajomaści karysnyja zawadzić — to siam, to tam bywać a ja... zapraŭdy kelnerka p. Zieńko charašej apranuta čym ja. Pryšła ja sa Słuččyny piechatoju u Wilniu, ničoha z saboj nie zabrała (dy-j pa praŭdzi i nia było čaho zabirać) i ciapier tak abnasiłasia, što i na swoj subotnik nielha pajci.

Trocha paskudna robicca na dušy, hledziačy na inšych — nu, ale ničoha. Aby choć maleńkuju karyść saboj pryniaści Baćkaŭščynie.

U Kiraŭnictwa Hramady Moładzi uwajšli: P.Miadziołko (staršynia) Amielančyk i Kurbski (pamocniki) Sałošyk (pisar) i Dz.Malej (skarbnik). Hramada pačała intensyŭna pracawać. Na prahramu kožnaha subotnika addzielnyja sekcyi pawinny što-nibudź dać — referat, deklamacii, muzyku, śpieŭ, nowyja hulni nacyanaln. i h.d. Dramatyčnaja sekcyja dała takija spektakli:

1) 20 lipnia Jak jany žanilisia i Pa rewizii
7 wieraśnia «Strachi žyćcia» i «Miadźwiedź»
19 kastr. «Paŭlinka» i «Michałka»
budziem hrać 1-XI Strachi žyćcia
8-XI Mańka
darmowy dla dziaciej 16-XI «Paŭl.» i «Mich.»
22-XI Pašylisia u durni
dalej budzie kancert, «Cham» i h.d.

---

Ad p. S<...?> atrymała 1.000 polsk. mar. abiecała jašče dać 1 1/2 t., ale da hetul nie dała. Siahońnia my čuli, što wyježdžaje — a my biez kapiejki znoŭ astajémsia. Tyje 1000 rb. na školu ad R<odzieviča> tak sama nia zwiernuty.

Kali tolka jošć mahčymašć wyznačcie adrazu pawažnuju sumu na tutejšuju pracu, bo-ž nie mahčyma tak! Nacyanaln. K-tu treba mieć na pačatak, Wučyc. Sajuzu — pamiatajcie ab hałodnych wučycialoch, Hram. Moładzi na časopiś — słowam, što na ŭsio.

I budźcie łaskawy wyznačać jakoj ustanowie skolka, abo daručyć kamu heta.

Darujcie, što mo' lišniaha ab sabie napisała i jašče raz prašu — dajcie jak najchutčej adkaz.

P. Anton — chacieła-b Wam wyrazić tuju wialikuju wieru i pryznańnie jakuju čuju u dušy da Was — ale niaŭmieju wyskazać. Za Wami pajdu w śled usiudy — kudy pawiadziecie — rabić tolka toje što Wy zahadajecie.

Ščyraj dušoj Wam addanaja Paŭlina.

22-10-19
Horadnia Palawaja 8
*582.2.46:091&r-094&r — pa*

**1413. Тэлеграма Аляксея Фохта (Варшава) Кузьму Цярэшчанку (Менск) за 23.10.1919**

Minsk
Terminowa
Zacharzewska dom Jubieliuszowy Tereszczenko

warszawy 48128 11 23 12 40

Antoni prosi przyjechać natychmiast = Focht
*582.2.46:090 — рк*

**1414. Ліст радніка Пасольства БНР на Ўкраіне Аляксандра Галавінскага (Камянец-Падольскі) міністру вайсковых справаў Украінскай Народнай Рэспублікі (Камянец-Падольскі) за 25.10.1919 у справе стварэньня на Ўкраіне беларускіх вайсковых фармаваньняў**
*582.2.34:006&r — мк*

**1415. Чарнавік ліста Антона Луцкевіча (Варшава) прэм'ер-міністру Польскай Дзяржавы Ігнацыю Падэрэўскаму (Парыж) за 27.10.1919**

Warszawa, 27 października 1919
Hotel Saski

Panie Prezydencie.

W związku z rozmową osobistą z Panem Prezydentem, odbytą w Paryżu, otrzymałem od Pana za pośrednictwem hr. Tyszkiewicza zazproszenie do Warszawy w celu kontynowania rozpoczętych w Paryżu rokowań.

Do Warszawy przybyłem 1-go września za paszportem dyplomatycznym Białoruskiej Republiki Ludowej po otrzymaniu, między innemi, również i polskiej wizy dyplomatycznej, co świadczyło najwymowniej o charakterze urzędowym misji mojej, jako reprezentanta Białoruskiego Rządu prowizorycznego.

Tutaj nie udało mi się z Panem Prezydentem dalszych rokowań nawiązać z powodu wyjazdu Pańskiego nazajutrz do Paryża.

Zgodnie z wskazówką Pańską, daną mi przez p. Dubiejkowskego, zwróciłem się do P.Skrzyńskiego. Niestety, rozmowa, w której wyjaśniłem Panu Wice-Ministrowi cel mego przyjazdu, żadnych konsekwencji nie miała — aczkolwiek stwierdził P. Skzryński, że Rząd Polski zajmuje stanowisko umożliwiające porozumienie się.

Nie dała praktycznych wyników i wizyta moja do P. Naczelnika Państwa[1] — oprócz może rozkazu o formowaniu wojska Białoruskiego[2], bynajmniej utwierdzenia zaczątku Państwowości Białorusi nie zawierającego.

Natomiast wkrótce potem miał miejsce szereg faktów wprost wrogich ideji białoruskiej państwowości, jak-to: odmowa wizy dyplomatycznej na białoruskich paszportach dyplomatycznych (wizę taką dają nam wszystkie inne państwa Europy, do których ja sam i moi wysłańcy jeżdżą); areszty wszystkich działaczy białoruskich, przybywających za naszymi paszportami dyplomatycznymi na okupowane przez Polaków terytorje Białorusi; zrywanie — za wyraźnem zezwoleniem Polskiego Ministerjum Spraw Zagranicznych — pieczęci państwowej ~~białoruskiej~~ z naszych pakietów dyplomatycznych; niezliczone fakty prześladowań narodowych białorusinów etc.

Fakty powyższe, jako też ujawniana dotąd niechęć Rządu Polskiego do pertraktowania w sprawie, dla której zostałem przez Pana Prezydenta zaproszony do Warszawy, dają powód do przypuszczeń o zmianie stosunku Rządu Polskiego do sprawy Białoruskiej.

Wierząc głęboko w szczerość Pańskich zamierzeń, o których traktowaliśmy w Paryżu, w ciągu dwóch miesiączy czekałem na powrót Pana Prezydenta i obecnie zwracam się do Niego z uprzejmą prośbą o zawiadomienie mnie, czy istotnie zaszła zmiana taka w stanowisku Rządu Polskiego. O ile ona jest faktem dokonanym, prosiłbym o wydanie zarządzenia, by mi daną była wiza dyplomatyczna na powrót do Paryżu, jako też faktyczna możność wyjazdu. ~~dla przyjęcia udziału dalszego w pracy Delegacji Białoruskiej, która na chwilę nie ustanie w walce o zabezpieczenie wolności narodowej i politycznej narodu i Kraju Białoruskiego.~~

Łączę wyrazy głębokiej czci
Antoni Łuckiewicz
*582.2.13:007&r-008&r*

[1] Першая аўдыенцыя А.Луцкевіча ў Пілсудзкага адбылася ў верасьні 1919 году.
[2] Загад аб фармаваньні беларускага войска быў падпісаны 23.10.1919.

**1416. Беларускае Прэс-Бюро (?). №22. 27.10.1919**

Асвабаджэньне Беларускаго міністра унутрэніх спрау. — Новая польская махінацыя. — Французскіе голосы проціу польскаго імпэрыялізму. — Пасобнікі рускай рэакцыі
*582.2.44:010&r-011&r — шк*

Месца выданьня невядомае (Менск?).

**1417. Паўнамоцтва старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антона Луцкевіча Леаніду Баркову, выпісанае ў Варшаве 27.10.1919 (вых. №I-200)**

27.X.1919.
№I-200

ПАУНАМОЦТВА

Гэтым сьведчыцца, што грамадзянін ЛЕАНІД БАРКОУ да часу адкрыцьця у Бэрліне Беларускага Консульства назначаецца Паунамочным Прадстауніком Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі з усімі правамі Консула Рэспублікі у Бэрліне.

Міністэр Заграцічных Спрау:
Ант.Луцкевіч
*582.2.31:030 — мк*

**1418. Тэлеграма Антона Луцкевіча (Варшава) Леаніду Баркову (Парыж) за 27.10.1919**

Leonidas Barkoff
24 rue Bayard
Paris.

Saiatz est malade veuillez venir le plus vite possible le remplacer comme notre consule tous les documents trouverez chez Saiatz. Telegraphiez moi votre depart.

Loutckevitch

27/X.19
*582.2.33:082 — рк*

**1419. Тэлеграма Антона Луцкевіча (Варшава) Лявону Зайцу (Бэрлін) за 27.10.1919**

Sajatz
Kaiserallee 209
Berlin.

Depeszowałem Paryż Barkowu zamieszczeniu telegrafujcie od siebie. Jednocześnie posyłam Dubiejkowskiego.

Łuckiewicz
27/X.19.
*582.2.31:032 — рк*

**1420. Расьпіска [сакратара Морст... ?] за 28.10.1919 аб атрыманьні ліста Антона Луцкевіча (Варшава) да прэм'ер-міністра Польскай Дзяржавы Ігнацыя Падэрэўскага (Парыж)**
*582.2.13:009*

**1421. Ліст радніка Пасольства БНР на Ўкраіне Аляксандра Галавінскага (Камянец-Падольскі) дырэктару Дэпартамэнту Зьнешняга Гандлю Міністэрства Народнае Гаспадаркі Ўкраінскай Народнай Рэспублікі (Камянец-Падольскі) за 28.10.1919 у справе тавараабмену паміж Беларусьсю і Ўкраінай**
*582.2.34:007&r-008 — рк*

**1422. Інструкцыя старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антона Луцкевіча (Варшава) в.а. консула БНР у Бэрліне Леаніду Баркову за 28.10.1919 (вых. №І-203)**

Сэкрэтна
Варшава, 28.Х.19.
№І-203.

Інструкцыя
для спаўняючага абавязкі консула Б.Н.Р.
у Бэрліне. ~~Леаніда Баркова.~~

1) Поруч з чыста консульскімі чыннасьцямі, абнімаючымі ў першы чарод апеку над грамадзянамі Беларусі, паддзержываць усялякімі спосабамі беларускую нацыянальную працу між беларусамі, якія знаходзяцца ў Нямеччыне, а ў першы чарод між ваеннапалоннымі.

2) Дзеля гэтага мае далей істнаваць утвораная пры прадстаўніцтве ў Бэрліне Ваенная Місія, утрымліваная з сум консульства.

Адносіны між Ваеннай Місіяй і Консульствам павінны быць установлены знаходзячыміся ў Бэрліне членамі Ураду.

3) Асьведамляць нямецкае грамадзянства і нямецкі ўрад аб палажэньні ў Беларусі і заінтэрэсаваць іх эканамічна. Працаваць дзеля устанаўленьня правільных торговых зносін між Б. і Н.

4) Праводзіць ідэю прызнаньня незалежнасьці Б.Н.Р. і бароцца з тэндэнцыяй разьдзелу Беларускай зямлі між Польшчай, Літвой, Расеяй і Украінай. Дабівацца офіцыяльнага прызнаньня Консульства.

5) Быць зьвязуючым зьвяном паміж Урадам БНР і тымі дэлегацыямі і прадстаўнікамі Ураду, з якімі будзе магчыма устанавіць зносіны праз Бэрлін. Падробна інфармаваць урад аб палітычным і эканамічным жыцьці заграніцы.

*582.2.31:012&r — рк*

**1423. Тэлеграма Эўгеніі Алексючанкі (Вільня) Антону Луцкевічу (Варшава) за 28.10.1919**

terminowa == warszawa ==
hotel saski zuckiewicz

fr wilna 3393 13 28/10 20/20 wc

czy mam jechac warszawy jestem wilnie aleksiuk +

*582.2.46:126 — a*

**1424. Чарнавік ліста старшыні Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі Антона Луцкевіча (Варшава) маршалку Рады Рэспублікі Язэпу Лёсіку (Менск) за 29.10.1919 (вых. №І-205)**

Яго Міласьці
Пану Маршалку Рады Рэспублікі
Язэпу Лёсіку
у Менску.

~~Лічу сваей павіннасьцю~~ Маю чэсьць падаць да ведама Вашай Міласьці ніжэйпісанае аб палітычным палажэньні Беларускай Народнай Рэспублікі і аб тых задачах, якія я, як галава Беларускага Ураду, лічу асабліва пасьпешнымі і важнымі.

Заграінічная работа Ураду ад часу выезду з Менску ў канцы леташняга году, ~~а справядлівей,~~ дала вось якія рэзультаты.

~~1.~~ Фактычнае ~~і афіцыяльнае~~ прызнаньне незалежнасьці Беларусі Украінскай Народнай Рэспублікай і ўмацаваньне яго пазыкай Беларускаму Ураду, праведзеная урадовым парадкам.

~~2.~~ ~~Фактычнае~~ Маўчлівае прызнаньне ~~хоць і без афіцыяльнай аб тым заявы~~ урадам Няме~~цкай~~чыны ~~Рэспублікі~~, выявіўшаеся ў прызнаньні права на дыплёматычную візу і афіцыяльных зносінах з Беларускім Урадам і яго прадстаўніцтвам у Бэрліне.

~~3.~~ Фактычнае прызнаньне Прэзыдэнтам Чэхо-Словацкай Рэспублікі Масарыкам, з прыняцьцем неофіцыяльна прадстаўніка Б.Н.Р. у Празе і абяцаньнем прыслаць чэскага прадстаўніка ў сталіцу Беларусі пры паваpoці туды Беларускага Ураду.

~~4.~~ Фактычнае ~~і афіцыяльнае~~ прызнаньне Латвіей з афіцыяльным акрэдытаваньнем дыплёматычна-вайсковай місіі Б.Н.Р. у Рызе і абяцаньнем прысылкі ўзаемна ў Менск офіцыяльнага прадстаўніка Латвіі. Згода на арганізацыю беларускіх войск ~~пры латышскім войску~~ у Латвіі.

~~5.~~ Прынцыпіяльнае прызнаньне фактычнае незалежнасьці Беларусі Эстонскім Урадам.

6. Пасылка Дэлегацыі Б.Н.Р. на мірную Конфэрэнцыю ў Парыж на моцы офіцыяльнай згоды Францускага Ураду. ~~Аб працы на Мірнай Конфэрэнцыі скажу асобна.~~ У Парыжу Дэлегацыяй быў даручаны Конфэрэнцыі і ўсім урадам дзяржаў Антанты абшырны мэморыял ([багата] нот і матэрьялаў, офіц. зносіны з конфэр., візы пашпарт і т.д.) аб Беларускай справе і справа нацыянальная і дзяржаўная Беларусі пастаўлена ва ўсей шырыні (завязаны зносіны з француськімі дэпутатамі і амэрыканскімі дзеячамі). Паскольку было магчыма, справа ~~гэта~~ наша асьвятлялася у прэсе францускай і амэрыканскай. Апрыч таго ў беларускай справе былі заінтэрэсованы шырокія фінансавыя кругі Францыі, Англіі, Амэрыкі і Бэльгіі экономічнымі праектамі — ў тым ліку праектам Балтыцка-Чарнаморскай воднай дарогі, ~~на каторым зышліся дэлегацыі Беларуская, Латышская і Украінская. У разглядзе апошняга прыймаў участце паўнамоцнік Моргана, член амэрыканскай ліквідацыйнай камісіі, палкоўнік Noble~~ і т.д. Але самая важная справа — гэта справа куплі Беларускім Урадам амэрыканскіх стокаў (ваенных запасаў ~~). Перагаворы з амэрыканскім урадам дашлі былі тэй стадыі, што ліквідацыйная камісія палажыла ўжо сваю рэзалюцыю, што нам маюць быць прададзены розныя тавары (~~ мануфактура, адзежа, бялізна, боты, ~~мэдык~~ спажыўныя прадукты, мэдыкамэнты, аўтомобілі, розныя інструмэнты да працы і т.д.) на суму каля 100 міл. франкаў у крэдыт. ~~на 14 мільёнаў доляраў (каля паўмільярда польскіх марак) у крэдыт на 5 гадоў на 5% гадавых. На жаль, у гэты мамэнт францускі ўрад зажадаў перадачы яму за 5 ці 6 мільярдаў франкаў усіх амэ-~~

~~рыканскіх стокаў на тэрыторыі Францыі en bloc, а нам абяцаўся — прыняўшы пад увагу заяву амэрыканцаў аб запроданых нам таварах — прадаць патрэбныя нам рэчы ад сябе, заявіўшы~~ Ад францускага ураду, пераняўшага ад Амэрыкі ўсе гэтыя стокі, мы маем завярэньне, што наш заказ будзе поўнасьцю споўнены у адношэньні да ўсіх тавараў, апрача спажыўных прадуктаў і ~~мэдыкамэнтаў~~ аўтамабілёў, каторых лік будзе пэўне ~~зьменшаны, але хоць часьць — мы ўсё ж атрымаем~~ агранічаны.

Мамэнт, калі ўмова аб куплі будзе падпісана, — гэта будзе рашучы мамэнт для нашай справы: ён раўназначны фактычнаму прызнаньню нашай дзяржаўнай незалежнасьці Францыяй. Чужаземныя-ж капіталы будуць самі за нас крычаць на ўвесь сьвет!

Наагул ~~жа, магу сказаць, што~~ ня гледзячы на тое што, украінцы маюць і войска, і кусок тэрыторыі, і свой апарат, і свае грошы — наша справа на міжнародным палітычным рынку стаіць ня горш за украінскую: там ясна разумеюць, што без Украіны няма Расеі, а без Беларусі яна жыць можа, — і гэта наш вялікі шанс.

Аднак, мы маем і страшэнны minus — minus, каторы для нас становіцца з кожным днём усё болей грозным у меру разьвіцьця нашай справы і насьпяваньня яе разьвязкі. Гэта — тое, што мы ня маем ні тэрыторыі, ні сталіцы, ні апарату, ні войска, ні грошы.

Антанта адну за аднэй пачынае прызнаваць усе новыя дзяржавы, якія, хоць і створаныя немцамі (як Літва), выявілі якуюсь здольнасьць да дзяржаўнага жыцьця. І калі мы гэткай здольнасьці ня выявім, то мы праграем.

Мы — гэта значыць той зачатак дзяржаўнасьці, які прадстаўляе Рада Рэспублікі і Урад. Не як нацыя — а толькі і выключна, як дзяржава.

Вось наша задача. Вось тое, да чаго мы павінны дайсьці за ўсялякую цану. Іначэй — разьдзел Беларусі, сьмерць палітычная, а пры благіх варунках і нацыянальная [летаргія]...

У Парыжу мы стараліся выясьніць становішча ў беларускай справе тых кругоў, якія найбліжэй зацікаўлены ў тэй або іншай разьвязцы беларускага пытаньня: расейскіх і польскіх.

Расейскія кіраўнічыя кругі ўсіх партый і напрамкаў і адказываючыя за расейскую урадовую палітыку асобы (ў тым ліку міністэр загр. спраў Колчакоўскага ураду, Сазонов) аднадушна выявілі сваё становішча: яны гатовы будаваць новую Расею на болей або меней цьвёрдых фэдэрацыйных асновах, даўшы аўтаномію і Беларусі, але ўсё гэта павінна быць праведзена праз Усерасейскі Устаноўчы сход. Нашай Констытуанты яны не прызнаюць.

Палякі ~~перад Эўропай таксама гавораць аб фэдэрацыйным зьвязку Беларусі з Польшчай, — але адначасна~~ ўвесь час вялі (дый цяпер вядуць) перагаворы з Сазоновым аб падзелі Беларусі. Толькі факт істнаваньня беларускага прадстаўніцтва за граніцай і толькі тыя пратэсты проці руйнаваньня зачаткаў нашай дзяржаўнасьці, якія мы падалі антанцкім урадам і Конфэрэнцыі, толькі страх, што Антанта скажа «стоп» польскім анэксыйным плянам на Беларусь, або частку яе, — прымусілі палякоў загаварыць у Сэйме аб фэдэрацыі і т.п. Істнаваньне нашага Ураду і Рады

Рэспубліке — вось прычына таго, што эндэцкая оргія на Беларусі дагэтуль ня зьнішчыла ўсіх праяў беларускага нацыянальнага жыцьця. Палякам патрэбна так ці сяк вырваць згоду Беларусі на фэдэрацыю з Польшчай. І пакуль ёсьць установы, упаўнамочаныя прамаўляць ад імя Беларусі, датуль польскі ўрад «палітыкуе» з намі, не шкадуючы на словах мёду, а на дзеле — горкага палыну.

Прынімаючы пад увагу факт окупацыі Беларусі палякамі, — мне прышлося прыстаць на прапазыцыю прыязных нам французаў пагутарыць з Падэрэвскім у Парыжу. Рэзультатам гэтай гутаркі, ў якой п. Падэрэвскі ясна адзначываў, што мы гаворым, як «роўны з роўным», было запрошэньне прыехаць у Варшаву згаварыцца на месцы. Але, прыехаўшы ў Варшаву, я сустрэў шмат горшыя адносіны да нас, як прадстаўнікоў беларускай дзяржаўнасьці. Справа ў тым, што Рада Рэспублікі (аб [чым] мы крычалі на ўвесь сьвет) блізка за паўгоду польскай окупацыі зусім не дала знаку жыцьця, і гэтак павага беларускага ураду, як выканаўчага органу Рады, шмат зьменшылася ў польскіх вачах (Гэта зусім офіцыяльна кажуць нам прыязныя для нас дэпутаты P.P.S.). Гэта выяўляецца выразна і ва ўсіх тых справах, дзе узьнімаецца пытаньне аб нашых сувэрэнных правох. Земскія і мястовыя самаўпраўленьні арганізуюцца імем польскага ураду, каторы быццам зьбіраецца такжа сазываць нейкі эрзац «конституанты» сваім імем для асобных частак Беларусі паасобку.

На грунці бязчыннасьці Рады узьнімаюцца і розныя палітычныя авантуры, як ладжаная ў Бэрліне некаторымі членамі партыі с.-ф. і сэкрэтаром Рады.

Кажу йшчэ раз: толькі выяўленьне жыцьця Рады Рэспублікі дасьць новую моц нашаму ураду ў яго загранічнай працы і прымусіць польскі ўрад глядзець на Беларусь, як на дзяржаву, а не як на «kresy wschodnie» — без фізыономіі і без аўторытэтнага голасу, каторыя палякі арганізоўваюць так, каб усё беларускае звясьці да нуля, каб давясьці прад усім сьветам, што Заходняя Беларусь — «этнаграфічна польская» і ня зьвязана інтэгральна з рэштай краю, ды гэтак дабіцца згоды Антанты на разьдзел і зніштажэньне нашай безгалосай Бацькаўшчыны. Ядыны ратунак для нас — выразна і цьвёрда стануць на дзяржаўным грунці. Зрабіць гэта можа толькі Рада Рэспублікі. Важна гэта ў сягоньняшнім часі яшчэ і затым, што Польскі Сэйм у хуткім часе будзе разглядаць бел. пытаньне.

Згодна з пастановай Рады ў адным з апошніх засяданьняў, каб Рада была сазвана ізноў тады, калі ~~ўрад і~~ прэзыдыум і ўрад прызнаюць гэта патрэбным і магчымым, — я звяртаюся да Вашай Міласьці з офіцыяльнай прапазыцыяй склікаць пленум Рады не пазьней першай паловы лістападу. Уважаю канечна патрэбным: 1) каб прэзыдыум і камісіі Рады пачалі ўраз сваю працу. 2) Каб Прэзыдыум правёў у жыцьцё закон аб папаўненьні Рады. 3) Каб Асьветная Камісія супольна з міністрам асьветы устанавіла супрацоўніцтва і кантроль над Школьнымі Радамі, а вайсковая (ці абароны) — над «Ваеннай Камісіяй» і ладжанай ей беларускай арміяй. 4) Каб працавалі такжа прынамсі камісіі: загранічных спраў і арганізацыйная, — апошняя дзеля арганізацыі краю ў супрацоўніцтве з кіраўніком міністэрства ўнутраных спраў.

Я разумею, што палякі толькі тады пойдуць на сур'ёзныя уступкі нам, калі будуць ня толькі баяцца нашага ураду і яго заграпічнай работы, але і давяраць яму адносна да прынятых забавязаньняў. Натуральна, што я гатоў кожын мамэнт зложыць свае паўнамоцтвы новаму прэм'еру, але гэта выпадае зрабіць толькі тады, калі будзем мець штось рэальна забаспечанае. Нешчасьлівае выступленьне Рады пасьля прыходу немцаў без атрыманьня перш данных аб адносінах Нямеччыны да Беларусі павінна служыць ~~Радзе~~ яркай ілюстрацыяй таго, што нельга ісьці ў палітыцы насьлепа, а даваць нешта можна толькі ў абмен — з рук у рукі.

Аб тым, што наш урад гатоў уступіць месца новаму, польскія кіраўнічыя ўрадовыя кругі ~~акуратна асьвядомлены~~ мной ужо даўно павядомлены. Адзначываю, што п. Начальнік Польскай Дзяржавы заявіў мне, што проці сазыву Рады ён нічога ня мае.

Высказаўшы ўсё гэта Вашай Міласьці, я адказ за даўжэйшую бязчыннасьць Рады зьнімаю з нашага Ураду і цэлком ускладаю на прэзыдыум Рады.

*582.2.39:005&r-012&r — рк*

Публікацыя : Міжнародны стан Беларусі // Беларусь №12(39). 1919.11.02

**1425. Ліст дырэктара Дэпартамэнту Зьнешняга Гандлю Міністэрства Народнае Гаспадаркі Ўкраінскай Народнай Рэспублікі (Камянец-Падольскі) Паслу БНР на Ўкраіне Аляксандру Цьвікевічу (Камянец-Падольскі) за 29.10.1919 у справе тавараабмену паміж Беларусьсю і Ўкраінай**

*582.2.34:009&r — мк*

**1426. Тэлеграма Лявона Зайца (Бэрлін) Антону Луцкевічу (Варшава) за 30.10.1919**

anton lutzkewitsch
hotel saski 33 warschau

berlin 227430 64 30/10 6/15 hn =

= list atrymau lazu u pascieli i cakaju namiesnika sabie basyl niamoze wyjechac pakul nie pyjedzie moj zastupca jakomu i jon zdas swaje spawy piotra nadruach[1] jedzie z patrebnymi brasurami posle eiazkaj chwaroby ja musu pajechac u hory dastaucie siudy abawiazkowa maja zonku bez uchsdu[2] jakaj ja zhinu paslali wan 2 telegramy camu nima adkazu motzstrasze 21 zajac +

*582.2.31:039*

[1] na dniach. [2] uchodu.

**1427. Ліст Яфіма Бялевіча (Парыж) Антону Луцкевічу (Варшава) за 30.10.1919 з просьбай памагчы атрымаць дазвол на выезд з Парыжу ў сувязі з адмовай Польскага консульства ў Парыжы візіраваць беларускія пашпарты**

*582.2.33:093&r-094&r*

**1428. Тэлеграма Лявона Зайца (Бэрлін) Антону Луцкевічу (Варшава) за 1.11.1919**

luckiewicz hotel saksonski warschau

berlin 39630 13 1/11 6- s

czerepuk telegraphuje baltyckaja konferencyja adczyniccz jurjewi dziewiataho listapadu = zajac .+

*582.2.31:040*

**1429. Ліст Аляксандра Галавінскага (Камянец-Падольскі) Антону Луцкевічу (Варшава) за 2.11.1919**

2/XI 19 году

Высокапаважаны Пане Старшыня!

Маю гонар паведаміць Вас аб працы, якую давялось вясьці у Камянцы пасля ат'езду пана Пасла[1].

Згодна з тымі інст[р]укцыямі, якія залішыў нам пры сваем ат'езді п. Пасол я звярнуўся у вайсковае міністэрства на конта формування нашых вайсковых часьцін і у міністэрства Гаспадарства на конта тавараабмену. У абодвых установах мне прапанавалі падаць ліст, што я павінен быў зрабіць. Копію гэтых лістоу прыкладаю[2]. Ат міністэрства Гаспадарства я ужо атрымаў атказ; у ласкавых славах яні выказываюць сваю згоду але (як самі пабачыцця) пакуль што канкрэтнага мала. Меньш іншым яны прапануюць вясьці тавараабмен па цэнам 1913 году. Для нас гэта прапазіцыя на агул ня дужа карыстная. Перш-наперш нашы тавары значна болі уздаражалі чым украінскія (цукар і пшаніца). Бо іх тавары не ужываюцца гаспадаркай у прок (запас) на столькі гадоў як нашы лён, пенька. Гэтыя матэрыялі, знішчэнныя за часы вайны, селянства будзіць берагчы у сябе. Прапазіцыю украінцаў я лічу мажлівым прыняць толькі тады, калі яны згодзяцца на пратягу 2-3 гадоў даставіць па давайсковым цэнам жывелу (худобу).

Далей яны хочуць, каб тавараабмен веўся на граніцы, іншымі славамі каб за перавозку аккупацыйнай уладзі плацілі толькі мы, што канешне зусім не выпадае нам. Я лічу у гэтам сэнсі яны пойдуць на усту[п]кі і згадзяцца палову расходаў на транзіт узяць на сябе. Далей яны дужа просяць кап наш уряд зрабіў заходы перед польскай уладай і літвінамі на конта вольнага транзіту праз Літву-Беларусь тых тавараў, якія яны закупілі у Амерыкі. За правоз яны абіцаюць выплаціць пшаніцай або цукрам, і згожуюцца час[т]ку атамабі[л]ей уступіць нам.

На конта усяго гэтага я ужо паслаў п. Смолічу у Менск ліста і прасіў каб праз кааператывы, або іншыя аўтарытэтныя установы паведамілі аб цэнах на тавары, якія прапануіць нам Украіна, а таксама якія тавары і у якім ліку мажліва у гэтам і на пратягу чарговых 2-3 гадоў вывезці на Украіну. Якая цана існуіць на нашы тавары і паступовый ход цэн (на ўзрост, або на ніз).

Усе гэта патрэбна як найхудчэй, бо на гэтам затрымаліся перегаворы на конта тавараабмену.

На нашу заяву па вайсковым справам пакуль што атказу німа. Вайсковый мініст, [Сіраценка], выказаў сваю згоду і гэта пытаньня будзіць разглядацца у савеці міністраў (Далей у палітычнай часьці дакладу на звароце к гэтаму). Калі справу паставіць шырока, калі пры дапамогу укр. контр. разведкі (прапазыцыя саміх украінцаў) павясьці агітацыю сярод Денікінцаў і Бальшавікоў, то формуванне мусіць выліцца у нешта досыць саліднае.

Палітычнае становішчэ пасьля «Дзержаўнай нарады»[3] значна змацнела. Тяпер відаць ёсьць адзін супольны хронт. Петрушевіч у гэтым сэнсі пайшоў на згоду з наднепрянцамі. Умесьці з Петлюрай выезжалі на фронт і рознымі захадамі афішыруюць свае едінства. Але як мне здаецца, атсюль яшчэ ні значыць штоб яны выпрацывалі свой палітычны хронт на конта Польшчы у тым напрамку як гэта зрабілі Вы Высокашаноўны П. Старшыня. (На конта гэтаго мы атрымалі кой якія весткі ат палякаў і бачым што тыя прапазіцыі якія Вы паставілі ім палякамі прыняты; з чым маю гонар празравіць Вас.)

Яны, як казаў Петрушэвіч, спадзіваюцца на тое, што Антанта бачучы крах свей палітыкі зробіць усі патрэбныя захады, каб памірыць Украіну з Денікіным. Таго, каб увайсьці з Польшчай у найтеснейшыя зносіны, нават стварыць якуюсь федерацыю Украіны з Польшчай тут ня відна.

Між іншым на учерашнім святкуванні гадаўшчыны атраджэньня Галіцкай Украіны[4] было зроблена шмат выбухаў супраціў палякоў, што шчыра падтрымувала уся заля народнага спектаклю.

Я злажыў учора візіт і праздравіў украінцаў са святам атрадзеньня Г. Укр. Зараз былі: Петлюра, Макарэнка, Петрушэвіч, Мазэпа і аккр. дірэкторы.

Павітаўшы іх мы пачалі размаўляць а справах. Паталі яны мяне ці маю я якія інфармацыі з Варшавы (а к ім толькі што прыехаў діпл. курьер). І калі я спытаўся ў падхадяшчый мамен як абстаяць справы з Беларускім фармуваньнем, то Петлюра сказаў што цю справу трэба абгаварыці, что ліста нашага ён не чытаў. З другога ж боку мне паведамілі што Пятлюра раней выказаў сваю згоду. Я лічу што гэта перамена — асьцярога результат атрыманых ім вестак з Варшавы.

Із сяброў діректорыі больш прыхільна да справы паразуменьня з палякамі стаіць Макарэнка і ён ахвоча падтрымаў бы створеньне «славянскага культурнага осередка» у склад якога увайшлі б Польшча, Чэхія, Украіна, Беларусь і інш.

Наагул у мяне зрабілась такое враження: Украінцы хацеліб каб Польша была іх добрым суседам (уступіла Галіцыю і Валынь) але з самай Польшчей у больш тесныя зносіны ухадзіць не хацелі б.

Калі ж бы складаўся якійсь вайсковы саюз уноў існуючых дзержаў, яны б ахочэ увайшлі б у яго. Яны лічуць што усякая тесная федерацыя з эканамічнага боку ня будзіць выгадна ім і свае дзержаунае хадзяйства яні хацелі б вясьці зусім незалежна ат другіх.

У паветры носяцца чуткі, што украінцамі робяцца деякія захады у Бальшевікоў, але дакладных хвактаў, акрым таго, што яні прыпінілі вайну на хронте з бальшевікамі[5], німа.

У недалекай будучыні мі лічым патрэбным атчыніць у Камянцы Беларускую раду, і ёсьць шмат працы па беженецкім справам і інш.

Калі пачнецца формуваньне нашых вайсковых часьцін, трэба будзе атчыніць вучэбную каманду — прышліця патрэбных кніжак і добраб було 1-2 свядомых вучыцялеў.

Чэкаем п. Пасла і інструкцый.

З вялікаю пашануючу раднік Пасольства Б.Н.Р. на Украіне АГалавінскі

Даруйця што пішу алоўкам, лічу што так лепшы будзіць чытаць мой кепскі рукапіс. АГ.

P.S. Палкоўнік Вендт жыў[6] і ён зараз у Нікалаеве (Херсонск. губ.) і дзе звярнуўся да палякоў каб яны забаранілі яго ат денікінцаў. Кап. Черноцкій (галава польскай місіі у Камянцы) запытаўся польскага ураду і прасіў атправіць яго у Варшаву. Ня шкодзіла і нам зрабіць захады і даведаца як стаіць [с]права. З вялікай пашанай АГ

*582.2.34:004&r-005&r — ра*

[1] Пасол БНР на Ўкраіне Аляксандар Цьвікевіч выехаў з Камянца ў Варшаву пасьля 20.10.1919 (гл. дакумэнт №1731). [2] Гл. дакумэнты №№1414, 1421. [3] Дзяржаўная нарада з удзелам лідэраў УНР і ЗУНР адбылася 17.09.1919. На ёй абмяркоўваліся праблемы ваеннага супрацьстаяньня войску Дзянікіна й бальшавікам. Дыктатар ЗУНР Петрушэвіч выступаў за пагадненьне зь Дзянікіным, аднак пад націскам галавы Дырэкторыі УНР Пятлюры пагадзіўся на спробу навязаньня кантактаў з бальшавікамі. [4] 1 лістапада 1918 году вайсковыя аддзелы, падпарадкаваныя Ўкраінскай Нацыянальнай Радзе — галоўнаму украінскаму палітычнаму прадстаўніцтву ў Заходняй Украіне — захапілі Львоў, усталяваўшы ўладу абвешчанай 19.10.1918 незалежнай Заходне-Ўкраінскай Народнай Рэспублікі. [5] На моцы пастановаў Дзяржаўнай Нарады за 17.09.1919, былі распачатыя палітычныя кантакты з бальшавікамі, якія, аднак, не прынесьлі ніякіх вынікаў. [6] Пра прыгоды Паўла Вэнта гл. дакумэнт №1589. У канцы кастрычніка ён ужо быў у Менску (Беларусь (Менск). №9(36). 30.10.1919).

## 1430. Справаздача радніка ў справах прэсы Дыпляматычнай Місіі БНР у Нямеччыне Валянціна фон Дзітмана (Бэрлін) дыпляматычнаму прадстаўніку БНР у Нямеччыне Лявону Зайцу (Бэрлін) за 2.11.1919 аб дзейнасьці прэс-бюро ад 1.10 да 1.11.1919

*582.2.31:016&r-017 — мк*

Паведамляецца пра артыкулы пра Беларусь, зьмешчаныя ў газэтах «Deutsche Allgemeine Zeitung», «Deutsche Zeitungskorrespondenz», «Die Deutsche Nation», «Deutsche Bergwerkszeitung», «Schlesischer Industriekurier», «Wirtschaftliche Zeitfragen».

Асобна падаецца пераказ гутаркі з карэспандэнтам «Reuter-Bureau» Уінзроп-Бэлам:

«Онъ мнѣ первымъ дѣломъ поставилъ вопросъ, почему до сихъ поръ республика не представлена въ Лондонѣ, считая это упущеніе крайне серьезнымъ и для нашихъ интересовъ губительнымъ.

Онъ заявилъ, что литовцы и поляки ведутъ въ Лондонѣ дѣятельную и энергичную компанію противъ насъ и добились того, что нѣкоторые видные и весьма вліятельные англійскіе политики высказываются въ томъ смыслѣ, что Бѣлорусская республика не есть достояніе народной воли, что идея государственной неза-

висимости не коренится въ народномъ сознаніи, а является исключительно плодомъ фантазіи и предметомъ агитаціи небольшого кружка бѣлорусской интеллигенціи, преслѣдующей свои личныя корыстныя цѣли. Онъ считаетъ, что мы должны немедля ни минуты послать делегацію въ Англію, что члены ея должны быть знакомы съ условіями англійской политической жизни и должны имѣть связь во вліятельныхъ кругахъ лондонскаго общества. Онъ далѣе считаетъ, что этой делегаціи придется бороться съ огромными трудностями при исполненіи своей задачи, добиться отъ англійскаго правительства признанія своего права на самоопредѣленіе и суверенность и что можетъ быть уже поздно и намъ не удастся нагнать потерянное время.

«Мы не можемъ признать васъ de facto, сказалъ онъ, такъ какъ ваше государство фактически не существуетъ. Ваша территорія находится въ рукахъ инородцевъ, а ваше правительство за границей своего отечества. Признаніе же вашей республики de jure будетъ вполнѣ зависѣть отъ васъ самихъ, т.е. отъ той степени умѣнія и энергіи, съ которой вы будете дѣйствовать въ Лондонѣ.

Въ концѣ нашей беседы м-ръ Беллъ обѣщалъ содержаніе ея сообщить въ Лондонъ, но самъ мало надѣется, что она будетъ удостоена вниманія англійской прессы».

**1431. Беларускае Прэс-Бюро (?). №23. 3.11.1919**

Украіна і Беларусь. — Прыцесненая як прыцесьніцельніца. — Пратэст беларускіх жыдоу. — Беларускія газэты

*582.2.44:006&r-007 — шк*

Месца выданьня невядомае (Менск?).

**1432. Справаздача юрысконсульта Дыпляматычнай Місіі БНР у Нямеччыне Бруна Міллера (Бэрлін) дыпляматычнаму прадстаўніку БНР у Нямеччыне Лявону Зайцу (Бэрлін) за 3.11.1919 аб візыце да загадчыка Расейскім Аддзелам Міністэрства Замежных Справаў Нямеччыны Мальцана**

*582.2.31:019 — мк*

**1433. Справаздача юрысконсульта Дыпляматычнай Місіі БНР у Нямеччыне Бруна Міллера (Бэрлін) дыпляматычнаму прадстаўніку БНР у Нямеччыне Лявону Зайцу (Бэрлін) за 3.11.1919 аб візыце да начальніка Аддзелу Ваеннапалонных Вайсковага Міністэрства Нямеччыны капітана Мэнша**

*582.2.31:020&r — мк*

У справаздачы паведамляецца аб гутарцы ў справе выдзяленьня ваеннапалонных-беларусаў у асобныя лягеры. У выдзяленьні адмоўлена, прапаганда сярод ваеннапалонных і вярбоўка іх у арміі забароненыя.

**1434. Ліст Алены Сакаловай (Вільня) Антону Луцкевічу (Варшава) за 3.11.1919 з просьбай аб найхутчэйшай матэрыяльнай дапамозе інтэрнату Віленскай Беларускай Гімназіі**

*582.2.46:096&r-097&r — ра*

**1435. Ліст Янкі Станкевіча (Вільня) Антону Луцкевічу (Варшава) за 4.11.1919**

П. Антоні,

Адыму ад Вас трохі часу, каб сказаць некалькі слоў аб інтэрнаце ў гімназіі.

З боку дагляду інтэрнат пастаўлены вельмі добра і можа даць добрую нацыянальную карысьць, асабліва калі зьвярнуць увагу, што дзеці з розных месц Ашмяншчыны.

2

З боку эканаміцкага, каб паставіць добра, таксама робіцца ўсё магчымае. Зрабілі ўжо дзяцінуюкухню (дакармленьне), дасталі 1000 м. падмогі грашыма ад палякоў. Ашчаднасьць даведзена да максімума. Трэба аддаць справядлівасьць, Сакалова аб усім рупіцца і за ўсім глядзіць.

Пакуль што неяк усё сплочаваецца, але каб ня было неспадзяванага крызісу трэба мець у запасе прынамся тысячы дзьве марак, каторыя, калі ёсьць у Вас якая колечы магчымасьць, я і прасіў-бы прыслаць. Грошы найляпей прышлеце на імя Сакаловай або Ю.Мэнке бо п. М.Кахановіч інтэрнату не памагае і навет адносіцца да яго няпрыхільна.

З паваж. ЯСтанкевіч.

4 лістапада

1919

*582.2.40:020&r — ра*

**1436. Пастанова аб прызыве грамадзянаў Беларускай Народнай Рэспублікі ў войска Рэспублікі Латвіі, прынятая ў Варшаве 5.11.1919**

Пастанова аб прызыве грамадзян Беларускай Народнай Рэспублікі ў войска Рэспублікі Латвіі

Прынімаючы пад увагу,

1) што ў часе мабілізацыі ў Латвіі значнае чысло людзей родам з Беларусі, карыстаючы з іммунітэту грамадзян Беларускай Народнай Рэспублікі, зволньніліся ад вайсковай службы і

2) што ў крытычным палажэньні, ў якім знаходзіцца Рэспубліка Латвія, ўсе, хто карыстае з гасьціннасьці яе і абароны жыцьця і меньня дзякуючы аружным сілам Латвіі, павінны пасьпяшыць на абарону Латвійскай дзяржавы,

і лічучы патрэбным умацаваць прыязныя адносіны Беларускай Народнай Рэспублікі з Латвіяй, даўшы апошняй магчымую помач у дні сур'ёзнай грозьбы дзяржаўнаму існаваньню Рэспублікі Латвіі, —

Рада Народных Міністраў пастанавіла:

1) даць згоду на прызыў у латвійскае войска грамадзян Беларускай Народнай Рэспублікі на тэрыторыі Латвіі — на аснове ўзаемнасьці;

2) запрапанаваць Латвійскаму Ураду, каб прызваныя ў Латвійскае Войска грамадзяне Б.Н.Р. былі выдзелены ў асобныя нацыянальныя фармаваньні;

3) запрапанаваць Міністру Заграічных Спраў паслаць у Латвіі паўнамоцнікаў Беларускага Ураду дзеля апрацаваньня ў мысль п.п. 1 і 2 і пад-

пісаньня ад імя Беларускага Ураду адпаведнай вайсковай Конвэнцыі з Урадам Рэспублікі Латвіі, лічучы пажаданым, каб пры пераходзі беларускіх часьцей Латвійскай арміі на тэррыторыю Беларусі гэтыя часьці на жаданьне Беларускага Ураду маглі быць перададзены яму, паскольку гэта пазволіць вайсковае палажэньне.

Варшава, 5 лістапада 1919.

Старшыня Рады Народных Міністраў
і Міністэр Загранічных Спраў
Ант.Луцкевіч

Міністэр Судоў
Ал.Цьвікевіч

Кір. Мін. Унутр. Спр. Коз.Тэрэшчэнко

Народны Міністэр Земляробства
Ар. Смоліч
*582.2.32:013&r-014 — рк*

**1437. Грамата Ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі за 5.11.1919 (вых. №І-209) аб прызначэньні Кляўдыюша Душэўскага надзвычайным паўнамоцным прадстаўніком БНР да ўрадаў Балтыйскіх дзяржаваў**

№І-209
5.XI.19

Грамата

Урад Беларускай Народнай Рэспублікі гэтым назначае грамадзяніна Кляўдыюша Душэўскага сваім Надзвычайным Паўнамоцным Прадстаўніком да Урадаў балтыцкіх Дзяржаў і даручае яму быць заступнікам інтарэсаў Беларускай Народнай Рэспублікі на Конфэрэнцыі прадстаўнікоў Урадаў Балтыцкіх Дзяржаў, якая мае адбыцца 9 лістапада с.г. у месьці Дорпаце.

Старшыня Рады Народных Міністраў
і Міністэр Загранічных Спраў:

Дзяржаўны Пісар:
*582.2.32:015 — рк*

**1438. Блянк дыпляматычнага пашпарта Беларускай Народнай Рэспублікі (вялікі), выпісаны на імя Кляўдыюша Душэўскага, надзвычайнага паўнамоцнага прадстаўніка Беларускай Народнай Рэспублікі пры ўрадах балтыйскіх дзяржаваў у Варшаве, 5.11.1919**
*582.2.32:011&r-012&r*

**1439. Грамата Ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі за 5.11.1919 (вых. №І-210) аб паўнамоцтвах Кляўдыюша Душэўскага й Кастуся Езавітава**

№I-210
5.XI.19

Грамата

Згодна з пастановай Рады Народных Міністраў з 5 лістапада 1919 г., гэтым даручаецца Надзвычайнаму Паўнамоцнаму Прадстаўніку Беларускай Народнай Рэспублікі ў Балтыцкіх Дзяржавах, Кляўдыюшу Душэўскаму, і Галаве Беларускай Вайскова-Дыпляматычнай Місіі ў Рызе, палкоўніку Канстантыну Езавітаву, вясьці перагаворы з Урадам Рэспублікі Латвіі і падпісаць ад імя Беларускага Ураду адпаведную конвэнцыю у справе прызыву грамадзян Беларускай Народнай Рэспублікі на тэрыторыі Рэспублікі Латвіі ў латвійскае войска і грамадзян Рэспублікі Латвіі на тэрыторыі Беларускай Народнай Рэспублікі — ў беларускае войска.

Міністэр Заграңічных Спраў:
*582.2.32:018 — рк*

**1440. Ліст міністра замежных справаў Беларускай Народнай Рэспублікі Антона Луцкевіча (Варшава) міністру замежных справаў Латвійскай Рэспублікі Зігфрыду Мэеровіцу (Рыга) за 5.11.1919 (вых. №I-211)**

№I-211
Варшава, 5 лістапада 1919.

Пану Міністру Заграңічных Спраў
Рэспублікі Латвіі

Маючы на мэці ўмацаваньне добрасуседзкіх адносін паміж Беларускай Народнай Рэспублікай і Рэспублікай Латвіяй і прынімаючы пад увагу, што ў сучасных цяжкіх варунках усе, хто карыстае з гасьціннасьці Рэспублікі Латвіі, павінны памагаць ей усімі сіламі сваімі бараніць яе дзяржаўную незалежнасьць ад ворагаў яе, — Урад Беларускай Народнай Рэспублікі пастанавіў дэлегаваць да Ураду Рэспублікі Латвіі свайго Надзвычайнага Паўнамоцнага Прадстаўніка для Балтыцкіх Дзяржаў, Кляўдыуша Душэўскага, і Галаву Беларускай Вайскова-Дыпляматычнай Місіі ў Рызе палкоўніка Канстантына Езовітова, даўшы ім шырокія паўнамоцтвы дзеля вядзеньня перагавораў і падпісаньня адпаведнае умовы у справе прызыву грамадзян Беларускай Народнай Рэспублікі на тэрыторыі Рэспублікі Латвіі ў латвійскае войска і грамадзян Рэспублікі Латвіі на тэрыторыі Беларускай Народнай Рэспублікі ў беларускае войска.

Падаючы гэта да ведама Вашай Эксцэленцыі, Беларускі Урад выказывае сваю глыбокую веру, што учасьце грамадзян Беларусі ў барацьбе за волю і незалежнасьць Латвіі і грамадзян Латвіі — за волю і незалежнасьць Беларусі будзе залогам вечнай згоды і брацтва між народамі Беларускім і Латвійскім.

Міністэр Заграңічных Спраў:
*582.2.32:016-017 — рк*

**1441. Візытоўка Кляўдыюша Душэўскага**

Claude Douchewsky
Representant plénipotentiaire extraordinaire
auprès des Gouvernements des Pays Baltiques
Blanche-Ruthénie

*582.1.71:012*

**1442. Візытоўка Кляўдыюша Душэўскага**

Claude Douchewsky
Representant plénipotentiaire extraordinaire auprès des
Gouvernements des Pays Baltiques de la Republique
Démokratique Blanche-Ruthénienne

*582.1.71:014*

**1443. Выпіска з пратаколу паседжаньня Рады Беларускай Калёніі ў Латвіі (Рыга) за 5.11.1919 у справе тэрыторыі БНР, органаў улады, войска й магчымасьці падпісаньня міру з Расеяй разам зь іншымі Балтыйскімі дзяржавамі**

*582.2.32:020&r — рк*

**1444. Ліст Кузьмы Цярэшчанкі (Менск) Антону Луцкевічу (Варшава) за ??.11.1919**

Дарагі таварышу,

Як гэта ня сумна, што не маю часу напісаць Вам дэтальную праваздачу аба ўсім што тут робіцца. У агульных нарысах Вам раскаже п. Мамонько. Аб нашых тут палітычных поглядах аб працы за рубежом напішым заутры і перашлем с Прушынскім. Я вельмі прашу прыслаць хуць двадццаць тысяч бо я застаюся тут бяз грошай а яны на гвалт патрэбны, бо дзеля жыцьця тутейшых нашых інстытуцый падмогу не адкуль няма. Праваздачу аб выдатках тых грошаў якія я ўзяў з Варш. прышлю заутры. Ваш. сестр п. Шабуні даў 1 1/2 т., напіш калі ласка даваць ящчэ чы не. Можа на днях прыеду к Вам у Варшаву на дзень, другой

Ваш КозТэрэшчэнко

*582.2.40:033 — ра*

Дакладная дата невядомая.

**1445. Ліст Палуты Бадуновай (Менск) Антону Луцкевічу (Варшава) за 0?.11.1919**

Паважаны грамадзянін Луцкевіч!

У нядзелю 9га лістапада гэтага 19 году склікаецца Рада Бел. Народн. Рэспублікі.

Варункі, пры каторых прыходзіцца працаваць над скліканьнем Рады не вельмі добрыя. Чамусь і нашы міністры — Смоліч і Цярэшчанка і наш старшыня Лесік халодны к гэтаму скліканьню.

Толькі Ваш строгі ліст іх устрашыў і яны патроху зашэвеліліс. Але усе складаюць на эсэраў, а самі трымаюцца так сабе, як быццам гэта іх ледзьве-ледзьве задзевае.

Што датычыцца камісcій, дык Смоліч выразна вядзе лінію іх непрызнанія. Ен лічыць, што яны непатрэбны.

Але камісіі усежтакі будуць скліканы асабліва тыя, куды уходзяць эсэры.

Што датычыцца нацыанальных меньшынстў, то яны, здаецца, увойдуць у Раду. P.P.S. ужо учора выбралі прэдстаўніка ад сваей партыі, із жыдоў да гэтага часу згажаюцца вайсьці буржуазныя партыі — сіаністы. Расейск. эс-эры так сама абецаюць увайсьці. Але прэдстаўнікі земства і горада — Ярошэвіч і К° намі не лічацца за членаў Рады, дзеля таго, што яны некалі самі выйшлі.

Рачкевіч прыслаў учора паперу, каторай налагае запрэт на друкаваньне абвестак аб скліканьні Рады, хоць наогул цэнзура адменена і усе газэты выходзяць без цэнзуры.

У яго паперы сказана «пакуль не атрымана дазваленьне з Варшавы прашу не друкаваць абвестак».

Сэн'орен-Канвэнт усежтакі пастанавіў друкаваць абвесткі, хоць Лесік вельмі баіцца, каб не зачынілі газэту. Гэты палітычны младзенец ніколі не бачыць дальше свайго носа. Наогул тутака усе заняты мелачамі, а палітычнай працай некаму занімацца.

Просім, каб Вы паведамілі усіх нашых грамадзян-членаў Рады, каторые знаходзяцца заграніцай.

Тутака прыкладаем тэкст тэлеграмы і павесткі усім, а каго мо абмінулі, дык Вы і самі паведаміце.

Вельмі патрэбны тутака ваенные беларусы, бо Алексюка трэба абавязкова выкінуць з вайсковай арганізацыі, а сіл нема. Калі ж не выкінуць Алексюка — арміі ня будзе, адно яго імя тутака прыводзіць усіх у гнеў.

(Ні Алексюка ні Аўсяніка яшчэ нема у Менску. Уся каміс. сідзіць у Вільні)

У нядзелю будзе адкрыцьце сэссіі Рады і чытаньне дэклярацый усімі фракцыямі. На другі дзень альбо на другом пасядзеньні даклад мандатнай камісcіі і даклад Старшыні Міністраў. На трэціям пасядзеньні даклады камісій — заграні́чнай, кантрольнай, прасьветнай і арганізацыйнай. Такая павестка першай сэссіі Рады.

Цяперака прашу Вас перадаць т. Мамоньке, каб ен аб усім гэтам апавесьціў як украінск. так і польск. сац. Калі б здарылась, што Раду б разагналі, альбо арэштавалі — трэба, каб яны паднялі крык на увесь мір.

Перадайце калі ласка М. каб вельмі быў асцярожны у той справе за якой ен выслан на Украіну і Вы яму дапамажыце быць вельмі асьцярожным, бо ен шырокая натура.

З сэрдэчнай пашанай Палута Бадунова

*582.2.46:063&r —pa*

---

Дакладная дата невядомая.

**1446. Ліст Кузьмы Цярэшчанкі (Менск) Антону Луцкевічу (Варшава) за 0?.11.1919**

Даражэнькі таварышчу,

Са скліканьнем Р.Р. п. Лесік прэ ваўсю. Ў яго есць думка склікаць яе у нядзелю 9/XI, але з гэтага нічога ня выйдзе, бо выбранае сіньорен-канвентам камісія па выпрацаваньню парадку паседаньняў Р.Р. пропануе адчыніць яе пры налічнасці 50 радных. Гэты ж лік сбярэцца не раней як ка аўторку 12/XI а то і пазжей.

Есць невялічкае не паразуменьне з панамі на контро скліканьня ў дзеталях Вам раскажэ п. Касцевіч, якой едзе к Вам і згаждаецца быць ад'ютантам пры Вашым падарожжы.

Ў нас вельмі кепска з грашмі, спадзеваемсь на прывоз п. Дуб'якоўскаго. Грошы патрэбны прама на гвалт і дзеля Рады Р. толька ў гэтаком выпадкі магчыма будзе правясці ўсе як след. Івaноўскі пакуль што не прыехаў[1]; яго чакаюць з дня на дзень.

Аб перамені кабінета дажа «сам» пане Лесік, стаў на Ваш грунт, што гэта магчыма пры пэўных варунках з боку палякоў

Вайсковые нашы сядзяць пакуль што у Вільні і ад іх бадай ні якіх вестак нема.

Добра б калі б Вы Душеўскаго прыгналі сюды, ен будзе патрэбен дзеля Рады.

Ваш КозТэрэшчэнко

Тэлеграфіруйце ідзе застановіцесь у Менску; ці трэба загатовіць пакой КТэр

Будзьце ласкавы, калі прывязуць грошы то дайце п. Касьцевічу адну тысячу марак ў лік закуплянага у яго лементара якой у худком часе будзе выдан.

Ваш КозТэрэшчэнко

*582.2.46:079&r-080 — ра*

Дакладная дата невядомая. [1] Вацлаў Іваноўскі, падчас адступленьня бальшавікоў у жніўні 1919 году быў узяты закладнікам разам зь іншымі беларускімі дзеячамі і вывезены ў Смаленск.

**1447. Расьпіска Кляўдыюша Душэўскага за 6.11.1919 аб атрыманьні ім ад міністра замежных справаў Беларускай Народнай Рэспублікі Антона Луцкевіча дакумэнтаў №I-209, 210, 211, 213, 214 і інструкцыі №I-212**

*582.2.32:019*

**1448. Рапарт шэфа Вайскова-Дыпляматычнай Місіі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Рызе Кастуся Езавітава (Рэвэль) старшыні Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі Антону Луцкевічу (Варшава) за 6.11.1919**

Секретно

6 лістапада 10 час. 15 мин.

№6 сэкр.

Изъ Ревеля, з Готеля Золотой Леў №48

У дадатак да сэкрэтных рапартоў маіх аб справе у Латвіі, у краткіх словах дадаю аб працы, зробленай мною ў Эстіі і Фінляндзіі.

Аб Латвіі трэба дадаць толькі тое, што справа там зусім налажена і ў субботу я чэкаю афіцыяльнаго адказу ад Габінета Міністраў на маю прапазыцыю аб мабілізацыі у Латвіі для беларусаў.

З Латвіі я выехаў 15 кастрычніка. 17 — быў у Ревеле і на 18 умовіўся аб прыеме у Мін. Межн. Спраў Эстіі праф Пііпа.

Цэрэмонію прэдстаўленьня і уручэньня граматы майго Ураду я абставіў і правеў у тым жа парадку і с той жа паважнасьцьцью, як і у Рызе. На мяне, на майго Адъютанта і Мін. М. Спраў яна зрабіла добрае ўражэньне, і абменяўшыся прамовамі мы разсталіся, каб спатканца на другі дзень для дзелавой размовы.

19-го я даў інтэрвью у прэсу, бачыўся з некаторымі прэдстаўнікамі грамадзянства і, наогул, арэнтаваўся ў палажэньню.

20-го меў 1 1/2-ю размову, пры чым падняў, мінуючы узаімную інфармацыю, гэткія пытаньня:

1, Ці істнуе ешчэ Entente cordiale?

2, Ці думае Эстіиські Урад, што у Entente cordiale патрэбна прасіць уваісьці і Цэнтральнае славянства (беларусаў і украінцаў), ці Саюз Балтыцкіх Дзержаў будзе і без іх моцным?

3, Як стаіць справа перагавораў с С<авецкай> Р<асеяй> і ці цягнуцца яны?

4, Ці прызнае Эстія незалежнасьць Беларусі?

5, Ці падтрымлівае яна запросіны зробленыя мне Мін. Межн. Спраў Латвіі аб увайходзе Беларусі у Entente cordiale?

На гэты пытаньня мне было адказано, што Мін. Межн. Спраў прызнае незалежнасьць Беларускай Народнай Рэсп., хацеў бы бачыць яе у Entente cordiale і мае надзею, што Габінет Міністраў, да якога ён мае у гэтай справе звернуцца, стане на яго пагляд.

Разсталіся мы вельмі цепла.

На разставаньні я запытаў ці мае што Урад Эстоніі проціў стварэньня у Ревеле Беларускаго Консульства, на што атрымаў так сама прынцыповую згоду.

Дзеля таго, што Габінет Міністраў павінен быў сабрацца толькі праз тыдзень, я рэшыў скарыстаць гэтых 7 дзен для прыватных размоў з Паўночна-Заходнім (згодна з наказам для Місыі) Урадам і з Урадам Фінляндзіі (апошнее рабіў па сваей ініцыатыве), а так сама на арганізацыйную працу.

21-го былі зроблены абвесткі, а 22-го прыступлена да рэгістрацыі усіх беларусоў, пражываючых у Эстіі для арганізацыі іх у Беларускую калёнію і выдачы пашпартоў.

23-го я бачыўся з Ліанозовым (Мін. Старшыня і Мін. Закардонных Спраў Паўн.-Зах. Ураду) і Эйшынскім (Мін. Прадавольствія).

Оба вельмі цікавіліся рухам і працай, але вельмі круціліся і мяліся, калі я паставіў пытаньне аб прызнаньні незалежнасьці Беларусі.

Умовіліся, што справу гэту павінен разглядзець Габінет.

24-го я зрабіў належныя распаражэньня і указаньня, а

25-го выехаў параходам у вялікую буру у Гельсінгфорс.

26-го умовіўся, што на другі дзень буду бачыцца з Мін. Межн. спраў Фінляндзіі, а да гэтаго бачыўся с беларусам - Генералам Васількоўскім і Міністрам Таргоўлі і Прамысловасьці Паўночна-Заходняго Ураду Маргулісом (які добра ведае і працаваў разам с панам Скирмунтом у Фэдэрацыйнам Хаўрусе у Пецярбурзі ў 1905 г.)

У вечары быў запрошаны Ген. Васількоўскім на вячэру, на якой, паміж іншымі, быў Сэкрэтар Французкай Гэнеральнай Місыі у Гэльсінфорсе.

27-го зрана веў размовы па тэлефону з Н.Чэрвяковым (беларус Мінскай губ., вельмі свядомый, ведае гісторыю бацькаўшчыны і мову), які жыве ў Таммерфорсе. Даручыў ему весці у Фінляндзіі рэгістрацыю беларусоў, збіраць у іх просьбы на выдачу пашпартов і атсылаць іх да мяне у Рыгу ці Ревель.

У полдзень бачыўся с Мін. Межнар. Спраў Фінляндзіі Хольсті. Добра паінфармаваў его ў справах. Паведаміў што у Фінляндзіі едзе (мае выехаць) місыя, здаецца с Праф. Тарашкевічам на чале, але, у звязку з Бермантаўскай авантурай, затрымалася, і таму я узяў на сябе труд паінфармаваць аб справах, не уходзячы ні у якіе пэрагаворы.

Хольсті вельмі цекавіуся нашымі справамі і папрасіў, каб я злажыў ему мэморыял. Я адказаў, што маю права злажыць толькі гістарычны меморыял з аглядам руху, а рабіць крокі і падымаць пытаньня я затрудняюсь.

Тут жа пасьля заняцьцяў я спусціўся ў канцелярыю аставіў адну машыністку, добра ведаючую расейскую мову і у працягу трох часоў діктаваў ей мэморыял. 1 экземпляр я даў Мін. Межн. Спраў, а 2 у фінскую прэссу.

Місыю нашу чэкаюць.

Пасля сдачы меморыі павінен быў зрабіць адказны абед Ген. Васількоўскаму і англійскаму каррэспандзенту, якому даў копію мэморыялу і мае інтэрвью Рыжскае і Ревельскае, якія ён хацеў памесьціць і абецаў памесьціць у ангельскай прэссе.

Вечэром веў вялікую размову з Васількоўскім, у рэзультаце якой даў ему мандат, як беларускаму грамадзяніну і гэнэралу, на ізыскаціе шляхоў да здабытку грошэй на беларускія фармаваньня і, па ізысканію оных, на крокі з ведама і санкцыі Ураду да утварэньня на фінскай тэррыторыі беларускаго войска.

Гэты мандат вельмі асьцярожна зрэдактаваны дасьць ему права рабіць акцыю і шум, але не дасьць магчымасьці без ведама Ураду рабіць рэальные крокі. Была б вельмі добра каб Вы паведамілі мяне, што выдачу гэтаго мандата лічыце патрэбнай, ці непатрэбнай.

28-го, даўшы на паўмесяца абвесткі у газэтах аб рэгістрацыі грамадзян Беларускай Народнай Рэспублікі у Фінляндзіі, я выехаў у Ревель.

29-го заслухаў даклады аб справе рэгістрацыі і прачытаў вялікую кучу пісем ад беларускіх грамадзян з арміі Юдэніча, гдзе іх немаль што не 40-50%, з усей Эстоніі. Вельмі цекавыя і цеплыя лісты ад людзей, таскуючых па бацькаўшчыне. Усюды радасьць, што вось і нашы «зашевелілі-ся». Звертаюцца з вельмі вялікаю ахвотаю і пашанаю.

30-га бачыўся з прэдстаўнікамі Атрада Ген. Балаховіча.

Балаховіч цяперака зусім вольны чалавек. Юдэнічу не падчынен. Працуе разам з эстонцамі, але не пад іх кірункам. За баевую дапамогу атрымлівае часамі ад іх грашовую і прадуктовую. Хацеў бы быць бліжэ да Бацькаўшчыны (Вільня). Лічыў адзін раз сябе літвіном, але цяпер даведаўся аб беларусах і сам ня ведае хто ен. Трэба, кажэ, добра пазнаеміцца з картай, рухам і гісторыяй.

Я прапанаваў запытаць его:

1, Ці ведае ен беларускую (простую) мову,

2, ці ведае мову літоўскую,

3, ці ведае, што фамілія его зусім беларуская; па літоўску былаб Балаховічунас,

4, як ён адносіцца да нацыянальных пытаньняў і

5, ці прызнае ен незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі.

31-го завеў зносіны з украінцамі і даведаўся, што з Фінляндзіі прыезджае Член Рады і украінскі пасол Зелезняк.

1-го злажыў Зелезняку візыт і запрасіў яго да сябе са світаю на поўднік.

2-го быў запрошены на украінскі сход і даклад. Уночы прыехаў Чэрэпук і прывез ад Вас пакеты.

3-го быў запрошаны украінцамі на вячэру.

Адносіны устанавіліся вельмі добрыя. Вырэшылі агульныя крокі прад Эстонскім, Латвійскім і Фінскім Урадамі. Умовіліся аб пасылкі ад часу да часу інфармацый друг-другу, а калі трэба нарочных курьераў.

4-га зноў бачыўся з прэдстаўнікамі Балаховіча. Яны прышлі да мяне с прапазыцыяй прыгласіць войско Балаховіча, я[к] зложэннае большым чынам с беларусоў, на службу да Беларускаго Ураду і паведамілі што Балаховіч беларускую мову ведае і Беларускую Народную Рэспубліку прызнае і гатоў бараніць. Стаіць атряд каля Пскова і можэ, калі патрэба, двінуцца на Рэжыцу.

Я быў вельмі рад.

Прыступілі да абгавораў грашовых спраў.

На першы пачатак трэба 400.000 марак. Далей магчыма будзе месяцпалтара пачэкаць і дабыць, як гэта ён зауседы робіць, грошы у бальшевікоў.

Я даў прынцыповую згоду, але узяў сябе 2 тыдня часу, каб знесціся са сваім Урадам.

Усе нападкі на Балаховіча зроблены чорнасоценцамі і зварачываць на іх увагу ня трэба.

Калі б гэта справа удалася — мы б мелі Дзержаву рэальна праз паўмесяца і мелі б «сваю» тэррыторыю, занятую «сваімі» войскамі.

5-го паслаў Чэрэпука прэдставіцца Міністру Межн. спраў і ад майго імяні атрымаць адказ на маі запытаньня.

Адказ і прыем былі вельмі добрыя. Размова тягнулася 1/2 гадзіны. Місыі акрэдітована. Консульства будзе. Трэба прэдставіць кандзідата і наш консульскі устаў.

Вось кароткі агляд зробленай Місыей працы.

7-го еду у Юрьеў па ведомым Вам справам.

Стуль можа сам заеду да Балаховіча, а можа каго пашлю. Чэрэпука у субботу пасылаю з дакладам.

Шкада его, бо ён вельмі зморен, але больш паслаць нікога не магу: вельмі важныя справы.

Аб тым, што, на мой пагляд, тутака трэба далей рабіць у другім рапарце.

Шэф
Вайскова-Дыпл. Місьі
Палкоўнік Езавітаў
*582.2.32:023&r-029*

**1449. Рапарт шэфа Вайскова-Дыпляматычнай Місіі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Рызе Кастуся Езавітава (Рэвэль) старшыні Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі Антону Луцкевічу (Варшава) за 6.11.1919**

Секретно
6 лістапада 15 час. 20 мин.
№7 сэкр.
Изъ Ревеля, От. Золотой Лев 48

На мой пагляд тутака трэба:

1, Залажыць Консульства у Ревеле і Лібаве;

2, Паслаць як найхудчэй Місью у Фінляндзію (грошы на яе много не будзе трэба: будзе аплачывацца з пашпартоў) і Швецыю;

3, Паслаць Місью у Англію, ці Данію і Амерыку (так сама нічога каштаваць не будзе);

4, Перэцягнуць да сябе Балаховіча. Для гэтай справы можна ахвяраваць 400.000 марак, бо яна дасьць нам рэкламу, з якой мы здабудзем 400.000.000;

5, Даполніць маю місью, бо я разрываюся на часткі; ці прэдаставіць мне права пашырыць склад яе, як будзе патрэбна;

6, Адазваць палкоўніка Шалкова, бо ён да дыплёматычнай працы зусім не здольны па сваей грубасьці, аграніченнасьці і склоннасьці да віна і склоннасьці заводзіць сябе прыяцеляў сярод лакееў і горнічных у отелях і кватэрах; даклад аб гэтым зробіць Чэрапук, са слоў якога я, глаўным чынам, і пішу;

7, Дазволіць мне зрабіць выдаткі на канцэлярыю і служачых у большым, як гэтаго патрэбуе справа, маштабе;

8, указаць сумму, якую я маю права расходаваць на прэдстаўніцтва і «здабрываніе» прэсы, праз інтэрвью за ужынам і іншае;

9, даць мне сколькі толькі можна пашпартоў, аткрытак і літаратуры;

10, дазволіць мне выдачу дыплематычных пашпартоў, бо без гэтаго я ніколі не налажу як трэба зьвязі.

Шэф Місьі
Палкоўнік Езавітаў
*582.2.32:021&r-022&r*

**1450. Тэлеграма Аркадзя Смоліча (Менск) Браніславу Тарашкевічу (Варшава) за 6.11.1919**

warszawa hotel saski taraszkiewiczowi

warszawa minska 89 14 6§11 15 30

=nie otrzymalem przeciwnie wydalem 1 tysiac awansu srodku sierpnia = smolicz

*582.2.40:032 — а*

**1451. Ліст рэдакцыі газэты «Беларусь» (Менск) старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антону Луцкевічу (Варшава) за 6.11.1919**

Рэдакцыя газэты
«БЕЛАРУСЬ»
6 лістапада 1919 г.
№35, Менск.

ЯГО МІЛАСЬЦІ
пану Старшыне Рады Народных Міністрау
БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ.

Рэдакцыя адзінай штадзеннай Беларускай газэты «БЕЛАРУСЬ» зьвяртаецца да пана з ласкавай просьбай выдаць ей субсыдыю у разьмеры 75.000 рублеу да Новага Году.

Нацыя ня можа жыць без газэты, а тым больш адбудаваньне незалежнасьці Беларусі ня можа абыйсьціся без штадзеннай газэты. Гэта зразумела для кожнага і мы цьверда спадзяемся, што вы, Пане Міністру, паставіце сабе за абавязак падтрымаць нашую газэту і зробіце распараджэньне аб выдачы нам субсыдыі у зазначаным разьмеры.

Калі мы на гэтых днех не адтрымаем грошай, то газэта прымушана будзе зачыніцца. Маршалак Рады аддау на газэту усе грошы, які меу на утрыманьне Канцэлярыі.

/РЭДАКТАР-ВЫДАВЕЦ Я.Лёсік
Супрацоўнікі: Янка Купала
Краўцоў Макар
Сэкрэтар Зьмітрок Бядуля

*582.2.46:061 — ма*

**1452. Рапарт шэфа Вайскова-Дыпляматычнай Місіі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Рызе Кастуся Езавітава (Рыга) старшыні Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі Антону Луцкевічу (Варшава) за 7.11.1919 (вых. №55)**

Старшыне Радзе Народных
Міністраў і Міністру З.С.

Рапарт

Маю гонар паведаміць Вас, Грамадзянін Міністр, што 13 кастрычніка гэтага году, ідучы па справам Місыі у Консульство Б.Н.Р. у Рызе — я быў ранены асколкам артылерыйскага снарада корпуса Бэрмонта[1] у твар.

Рана, хвала правідзеныю, аказалася вельмі легкай і я, зрабіўшы патрэбную мэдыцынскую дапамогу сам сабе, не спыніў працы.

К.Езавітаў
Шэф Місыі
палкоўнік
*582.2.32:030*

[1] 8.10.1919 аддзелы Бэрмонта пачалі наступ на Рыгу, абстрэльваючы яе з артылерыі. Да сярэдзіны лістапада яны былі разьбітыя латыскім войскам.

**1453. Рапарт шэфа Вайскова-Дыпляматычнай Місіі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Рызе Кастуся Езавітава (Рыга) міністру фінансаў БНР Васілю Захарку за 7.11.1919 (вых. №56)**

7 лістапада 1919 г.
№56

Міністру Грашавых Спраў

Рапарт.

Дадаючы да гэтага справаздачу аб палажэньні кассы Місыі к сеньняшняму дню, з якой відна, што Місыя мае усяго 10.000 налічных грашэй, прашу аб отпуске новага аванса на патрэбы Місыі у ліку 30.000 марак.

Да гэтай просьбы маю дадаць, што гэты аванс мусі быць дасьць магчымасьць, карыстаць з Рыжскага Консульства, прытрымацца аж да 1920 года, а магчыма, што і некаторую частку его, бо к таму ужэ часу будзе налажэно Консульство у Рэвеле.

Шэф Місыі
Палкоўнік К.Езавітаў

Сэкрэтар ЯЧэрэпук
*582.2.40:028 — ра*

**1454. Справаздача Кастуся Езавітава аб стане касы Вайскова-Дыпляматычнай Місіі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Рызе на 6.11.1919**

*582.2.40:029&r — ра*

**1455. Агульная ведамасьць выдаткаў Вайскова-Дыпляматычнай Місіі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Рызе за верасень і кастрычнік 1919 году**

*582.2.40:030&r — ра*

**1456. Рапарт шэфа Вайскова-Дыпляматычнай Місіі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Рызе Кастуся Езавітава (Бэрлін) міністру фінансаў БНР Васілю Захарку за 7.11.1919 (вых. №57)**

7 лістапада 1919 г.
№57

Міністру Грашавых Спраў

Рапарт.

Прашу адпусьціць на утрыманьне Атрада Гэнерала Балаховіча да начала 1920 года чэтырыста тысяч (400.000) марак.

Шэф Місыі
Палкоўнік К.Езавітаў

Сэкрэтар ЯЧэрэпук
*582.2.40:027 — ра*

Заключэньне дзяржаўнага кантралёра:
«17 ліст. 1919 г.
№19

Заключэньне

Нічога німаючы проці ассыгновак на беларускія нацыанальныя атрады, лічу аднак абавязкова патрэбным назначэньне пры такіх атрадах спэцыяльнаго урадоўца Дзержаўнаго Кантролю дзеля ніадкладнай фактычнай праверкі і кантролю выдаткаў.

Дзержаўны Кантралёр ЛЗаяц».

**1457. Ліст Аркадзя Смоліча (Менск) Антону Луцкевічу (Варшава) за 7.11.1919**

Паважаны Пане Антоне!

Пішу сьпяшаючыся, затым коратка. Гатуемся склікаць Раду, шмат хто яе стрэне здаецца прыхільна. Аднак ня ведаю, ці патрапім мы выкарыстаць сітуацыю. Занадта шмат дэзорганізацыі пасярод нас. З выбарамі да Думы Менскай поўнае безладдзе. Пастанавілі быліісьці на выбары, цяпер пастанова зьменяецца. — Тлумачыцца гэта тым, што занятыя працай культурнай (курсы, школы, газэта) толькі урыўкамі мы дастаемся да справы палітычнай. Гавару ведама не аб сабе спэцыяльна, але наагул аб нашых Менскіх.

Не забывайцеся, што у нас грашовы крызіс. Проста кажучы, сядзім бяз грошай, пакуль што у крэдыт. А Вільня ужо страціла крэдыт і праца выдавецкая там стаіць. Зьвярніце увагу на гэта.

Спадзяюся хутка пабачыцца
АСмоліч
*582.2.46:081 — ра*

**1458. Ліст Аркадзя Смоліча (Менск) Антону Луцкевічу (Варшава) за 7.11.1919**

Паважаны Таварыш,

Учора 6-XI — я паслаў тэлеграму аб тых грошах, што Вы пытаецеся. — У дзень майго выезду з Вільні у Менск да мяне з'явілася Алексючанка, прывезла навіны аб працы Цьвіка[1], ліст Тараса[2], і папрасіла памагчы ёй грашмі, бо вельмі зрасходавалася. Я даў ёй аванс — 1000 марак. Ад яе-ж ніякіх грошай я не атрымліваў.

АСмоліч
7/XI 919
*582.2.46:122-124 — ра*

[1] А.Цьвікевіча. [2] Тарашкевіча.

**1459. Тэлеграма Антона Луцкевіча (Варшава) Міколу Вяршыніну (Прага) за 9.11.1919**

Terminowa
Verszinin
Sokolska trida 22
Praha

Prosze telegrafować kiedy wraca Dubiejkowski.
Łuckiewicz

9.XI.19 Hotel Saski
*582.2.30:012 — рк*

**1460. Тэлеграма Міколы Вяршыніна (Прага) Антону Луцкевічу (Варшава) за 10.11.1919**

antoni luckiewicz warszawa hotel saski =
praha 5574 13 10 2 20 nwktbl =
dubejkavski 4 odjechal tam powrocie bede telegrafowal = wierzynin =
*582.2.30:014*

**1461. Ліст Аляксандра Галавінскага (Камянец-Падольскі) Антону Луцкевічу (Варшава) за 10.11.1919**

10 лістапада 1919 году.

Высокашаноўный Пане Старшыня!

З вялікай падзякай атрымала пасольства весткі ат Вас праз т. Язэпа і чыкаем зноў новых інфармацый. Тут тэмп палітычнага жыцця ідзець надта шьідка і баюсь сказаць катастрафічна.

Учора уряд У.Н.Р. павінен быў паведаміць грамадзянства а дзержаўнай зрадзе глаўнакамандуюшчага галіцкай арміі генерала Тарнаўскага[1]. Калі узяць пад увагу, што галічані былі ядром украінскай арміі, то будзіць зусім ясна уся трагічнасьць мамента. Чым гэта усё скончыцца пакажыць бліжайшая будучыня. Як выканалась гэта зрада Вы убачыця з прыкладаемай тэлеграмы.

Становішча настолькі важнае, што зусім мажліва, на працягу гэтага тыдня чекаць эвакуацыю Камянца, калі толькі не удасца Петлюры звярнуць пад сваю уладу галічан.

Трэба каб як найхудчэй прыехаў да нас п. Пасол, або хто нібудь із атпаведных нашых деячоў з пэўнымі інструкцыямі ат Вас.

В астатній час багацьна вайсковых старшын і звычайных салдат, а так сама цывільных грамадзян (галоўным чынам трудавой інтэлегенцыі[)] звертаюцца до пасольства з прозбай переправіць іх на бацькаўшчыну. Ня ведаючы дакладна як абстаяць справы з фармуваньнем нацыянальных войск, і ня мея магчымасьці гара[н]туваць нашым вайсковым, што яны не пападуць у кантрацыонный лагер, мы пакуль што устрымуемся ат пасылкі і на бацькаўшчыну. Акрым таго, дзеля атпраўкі вайсковым трэба выдаваць ім прагонныя грошы у той валюці, якая у нас на бацькаўшчыне і далі трэба абязпечыць каб палякі на сваей тэррыторыі далі эшалон для вайсковых. Калі згода на конта гэтага будзіць, то прашу паведаміць як

польскую вайсковую місію, так і пасольства і вырышыць пытаньня хто павінен выдаць прагонныя грошы. Далей надта патрэбна для фармуемай беларускай вайсковай часціны адежа і обувь, калі можна у гэтым якіес зрабіць захады перед польскай уладай, то прышліце нам 200 (двесця) камплектаў беларускай формы. Каліж ня можна будзя двесця камплектаў, то прышліця 30 (трыдцаць) камплектаў, дзеля каманды, якая павінна будзіць нясьці караул пачотный пры нашым пасольстве.

Зараз я быў у Вайсковага міністра, які паведаміў што савет міністраў згодзіўся на фармуваньня нашых войск і што реальная праца пачнецца на гэтым тыдню.

Ці атрымалі Вы нашы паперы на конта тавараабмену; гэта справа надта пільная і пакуль што можна шмат чаго зрабіць у гэтым напрямку.

З панам Мамонькай мы зрабілі захады перед украінскімі С.Р. Меж іншым було супольнае пасядзеньне меж намі У.С.Р. і грузінскімі С.Д. На пасядзеньні вызначыўся агульный палітычный і сацыалістычный фронт. Наша сабраніе вызначыла сябе ініцыатыўнай группай і вынеска пастанову зрабіць сацыялістычный с'езд усіх народаў пакуль што ня вызнаных Антантай.

Меж іншым былі прыняты такія тэзісы

1) Ня вызнанныя дзержавы павінны абмацаваць супольный палітычный фронт і не даўжны выказываць сваей незаінтересованносьці у справах акрэмай няпрызнаннай дзяржавы.

2) Павінны падтрымаваць адна другую і як найхучэй улуштаваць тавараабмен.

3) Увайсьці у зьвязак з сацыялістамі Европы.

4) Сазваць с'езд сацыалістычных партый.

Пункт 2 можна разглядаць досыць шырока і нам булоб надта карыстна каб уключыць у яго права рабіць заходы перед капіталістамі Антанты на конта займаў дзеля увайшоўшых у звязок малых дзержаў пад агульную паруку, забязпеченную дзержаўным майном усіх увайшоўшых у звязок дзержаў.

Ук.С.Р. прынцыпова згодiлiсь на пастаўленнае Мамонькай канкрэтнае пытаньне, але пакуль што затрудненіе на конта чужаземнай валюты, якое пытаньне украінцы абецалі вырышыць праз тыдзінь.

Чым скончыцца пытаньня украінцаў на денікінскім фронці пакуль што не ясна. [У Ка]мянцы былі выступы супраціў Галічан. Зараз аб'явлена мабілізацыя усіх урядоўцаў і урядовак. Петрушэвіч, як кажуць афіцыяльныя звіты працуіць супольна з Петлюрай.

Чэкаем п. Пасла і пэўных інфармацый асабліва на конта Польшчы.

Прывет усім нашым дзеячам

З вялікаю пашаную раднік пасольства

Б.Н.Р. на Украіне АГалавінскі

11/XI 19 года

---

* Мамоньку.

*582.2.34:010&r-011 — ра*

---

[1] 6 лістапада 1919 году камандуючы Украінскай Галіцкай Арміі генэрал Тарнаўскі даў сваёй адмысловай місіі загад падпісаць ваенную канвэнцыю зь Дзянікі-

нам, паводле якой УГА пераходзіла на бок Добраахвотніцкай Арміі Дзянікіна. 7.11.1919 Тарнаўскі быў зьняты з пасады камандуючага й арыштаваны.

**1462. Тэлеграма Антона Луцкевіча (Варшава) Аркадзю Смолічу (Менск) за 11.11.1919**

Smolicz
Zacharzewska dom Jubileuszowy
Mińsk

Powrót Dubiejkowskiego członków Rady Kreczeskiego, Zajca, Zacharki, Ładnowa, Bielewicza odwleka się wstrzymaniem ruchu pociągów

Łuckiewicz

Hotel Saski
11.XI.19
*582.2.39:018 — рк*

**1463. Тэлеграма Антона Луцкевіча (Варшава) Лявону Зайцу (Бэрлін) за 11.11.1919**

Terminowa

Sajatz
Motzstrasse 21
Berlin.

Depesza dziś otrzymana proszę przyjazd Zacharki Kreczeskiego Ładnowa Bielewicza Zajca wprost na Warszawę. Rada rozpoczyna działalność zawiadomcie Woronkę

Łuckiewicz
11.XI.19. Hotel Saski
*582.2.31:034 — рк*

**1464. Тэлеграма Лявона Дубейкоўскага (Бэрлін) Антону Луцкевічу (Варшава) за 11.11.1919**

anton luckiewicz hotel
sasski warschau

berlin 678 34 11/11 3. - 40 jo

dakumentalna ubiedziwsia sto usie tut stajali stajac cwiorda nasym gruncie awantury kala was a nietut bazyl piotra jafchim ja[1] wyjezdzajemo biersym posle stajanki pociaham ladnou warocajecca nazad = lawon .+
*582.2.31:036*

[1] Захарка, Крэчэўскі, Бялевіч і Дубейкоўскі.

**1465. Тэлеграма Лявона Зайца (Бэрлін) Антону Луцкевічу (Варшава) за 11.11.1919**

anton luckiewicz hotel saski warschau

berlin d 174 37 11 12,20

tolki siahonnia pryjechau lawon bo cuhunki stali hetaj pryerynaj piotra majucy;usie papiery taksama nia moh wyjechac raptam pryjechali ladnoff biele-

wicz przjedzie chutka barkou ciapier ja asabliwa staju strazy nas 38 interesau = zajac.

*582.2.31:037*

**1466. Тэлеграма Лявона Зайца (Бэрлін) Антону Луцкевічу (Варшава) за 11.11.1919**

= d =anton luckiewicz
hotel sasski warschau =

+ d berlin 677 30 11/11 3, - 40 n

umalaju papwiedermie maju zonku sto ja jaje cakaju nichaj sama wybiraje jechac samnoju uhory ei cakae mianie minsku druhi dzien jak ustau bozku zajajc .+

*582.2.31:038*

**1467. Мэмарыял пасла Украінскай Народнай Рэспублікі ў Бэрліне Міколы Порша старшыні Саюзнай Камісіі генэралу Нісэлю за 11.11.1919 аб шляхох палітычнага ўладжаньня на Усходзе Эўропы і аб неабходнасьці прызнаньня незалежнасьці новых краінаў**

*582.2.32:060-071 — мк ням*

**1468. Тэлеграма Антона Луцкевіча (Варшава) Язэпу Лёсіку (Менск) за 11.11.1919**

Terminowa
Losik
Redakcja Biełaruś
Mińsk

Czekam powrotu Dubiejkowskiego

Łuckiewicz

Hotel Saski
11-XI.19

*582.2.46:087 — рк*

**1469. Тэлеграма Антона Луцкевіча (Варшава) Аркадзю Смолічу (Менск) за 11?.11.1919**

Smolicz
dom Jubileuszowy Zacharzewska
Minsk

Proszę przysłać broszurę Cwikiewicza Białoruś[1] oraz informacje

Łuckiewicz

Hotel Saski

*582.2.39:019 — рк*

---

Дакладная дата невядомая. [1] Цвикевичъ А. Беларусь. Берлин, 1919.

**1470. Тэлеграма Антона Луцкевіча (Варшава) Янку Станкевічу (Вільня) за ??.11.1919**

Terminowa
Stankiewicz
Ostrobramska 9
Wilno

Proszę przysłać broszurę Cwikiewicza Biełaruś

Łuckiewicz

Hotel Saski
*582.2.46:088 — рк*

Дакладная дата невядомая.

**1471. Дэкляарацыя фракцыі БПСР, чытаная на ўрачыстым сходзе Рады БНР 12.11.1919 сябрам фракцыі Палутай Бадуновай**

ДЭКЛЯРАЦЫЯ
фракцыі Бел.Соц-Рэв., чытанная на урочыстым-сходзе Рады ад 12 лістапада членам фракцыі Палутай Бадуновай.

Фракцыя Белар.Соц.-Рэв. горача вітае пачатак працы Рады Беларускай Народнай Рэспублікі і жадае, каб праца гэта была карыснай для беларускага працоунага народу.

Фракцыя Бел.Соц.-Рэв. будзе дабівацца у Радзе Рэспублікі, каб Рада Рэспублікі стала на грунт поунай незалежнасьці і непадзельнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, ведаючы, што толькі поуная незалежнасьць дзяржаунага жыцьця беларускага народу дасьць нашай маладой дзяржаве застанавіць усе тые шкодные для Беларусі уплывы з розных бакоу, якіе мы бачым да гэтага часу.

Толькі поуная незалежнасьць дасьць беларускаму народу сілу нацыя[на]льна з'еднацца і параунящца з іншымі народамі, як культурна, так і эканамічна.

Фракцыя Бел.Соц.-Рэв. будзе дабівацца спыненьня таго страшнага тэрора, які робіцца польскай эндэцыяй на Беларусі.

Фракцыя протэстуе проціу масавых арыштау соцыялістау беларускіх і соцыялістау іншых нацыяу.

Страшны льос беларускага сялянства, стогнушчага пад гнетам польскай жандармэрыі, выклікае у фракцыі вялікае нездаваленьне і рашучы пратэст проціу гэтага гвалту над беларускім працоуным народам.

Уся старонка наша стогне ад разрухі, уціску і зьдзеку.

Фракцыя Бел.Соц.-Рэв. гэта падкрэслівае перад дэмократыей польскай і дэмократыей усяго сьвету і пакладае надзею, што усесьветная дэмократыя зьверне увагу на мукі беларускага народу і разам з намі выступіць на яго абарону.

Апавяшчаючы барацьбу польскай эндэцыі, патаптаушай правы вольнага Беларускага Народу, фракцыя рашуча заяуляе, што будзе вясьці актыуную барацьбу і з другой імпэрыалістычнай маскоуска-Дэнікінскай сілай, якая ідзе з усходу.

Фракцыя Бел.Соц.-Рэв. будзе адстаіваць у Радзе Рэспублікі перадачу зямлі бяз выкупу працоунаму народу, 8-мі гадзінны працоуны дзень, свабоду сувязей, сходау, поунай легалізацыі усіх палітычных партыяу і нагул усе правы і свабоды працоунага народу.

Так сама фракцыя будзе вясьці барацьбу за поуную нацыянальную аутаномію усіх нацыяу, якіе жывуць на Беларусі.

У гэты час, час вялікі і сьвяты, калі беларускі дзяржауны орган, Рада Бел. Нар. Рэспублікі прыступае да свае дзяржаунае працы, фракцыя Бел. Соц.-Рэв. кліча усіх верных сыноу беларускага працоунага народу да згоднай энэргічнай працы на карысьць Бацькаушчыны.

Хай жыве працоуны беларускі народ!

Хай жывуць нашы браты соцыялісты, каторые мучацца па маскоускіх і польскіх турмах за правы нашага народу!

Хай жыве Незалежная і Непадзельная Беларуская Народная Рэспубліка і яе Дзяржауны Орган Рада Беларускай Народнай Рэспублікі!

*582.1.46:032-033 — мк*

**1472. Выпіска з пратаколу сходу Рады Беларускай Народнай Рэспублікі 12.11.1919**

Пратакол
сходу Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ад 12-га лістапада 1919 году.

..........................................................................................................
..........................................................................................................
..........................................................................................................

Пасьля абмену мненіяу папраукі прыймаюцца, пасьля чаго рэзалюцыя унесеная фракцыяй Беларускай партыі С.-Р. прыймае такі зьмест:

«Адзначаючы радасны факт далучэньня да Рады Беларускай Народнай Рэспублікі выжэйшага нацыянальнага прэдстаунічага органу Заходняй Беларусі[1] Рада Беларускай Народнай Рэспублікі на першым сваім урачыстым сходзе ад 12-га лістапада гэтага 1919 году падцьвярджае пастанову сваю ад 25 марца 1918 году аб поуай незалежнасьці і непадзельнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі у яе этнографічных межах.

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі як адзіны дзержауны орган Беларускага народу, павядзе сваю працу у кірунку здабыцьця прызнаньня перад народамі усяго сьвету поунай незалежнасьці і непадзельнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі у яе этнографічных межах. Дзеле таго Рада даручае свайму спауняючаму органу — Радзе Народных Міністрау безадкладне афіцыяльна уступіць у перагаворы з Польскім Гаспадарствам і з усімі гаспадарствамі сьвету аб юрыдычным і фактычным прызнаньні незалежнасьці і непадзельнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі у яе этнографічных межах.»

Рэзалюцыя прымаецца аднагалосна (Моцные аплескі).

..........................................................................................................
..........................................................................................................

Арігінал падпісан:
Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Я.Лесік
Пісар М.Шыла
З арігіналам спраудзіу:
Пісар Рады Беларускай Народнай Рэспублікі М.Шыла
*582.2.39:004 — мк*

[1] Цэнтральнай Беларускай Рады Віленшчыны й Горадзеншчыны.

**1473. Справаздача сакратара Дыпляматычнай Місіі БНР у Нямеччыне д-ра Паўлоўскага (Бэрлін) дыпляматычнаму прадстаўніку БНР у Нямеччыне Лявону Зайцу (Бэрлін) за 12.11.1919**

Пану Надзвычайнаму Прэдстауніку
Беларускай Народнай Рэспублікі у Бэрліне

Сэкрэтара Місіі д-ра Паулоускаго

ДАКЛАД

Згодна з Вашай просьбай, маю гонар далажыць аб тэй размове, якая велася Вамі з прэдстаунікам германскаго міністэрства загранічных справу у маей прысутнасьці на немецкай мове. Дзеля надзвычайнай важнасьці самаго факту адведзін місіі Б.Н.Р. прэдстауніком загранічнаго міністэрства, аташэ міністэрства загранічных справу п. Шмідт-Рольке, і сказанаго ім, а так сама дзеля магчымасьці застауленьня незауважанымі некаторыя дэталі размовы, я пастараюся перадаць усе сказанае прэдстаунікам міністэрства у час яго адведзін Місіі Б.Н.Р. 10 лістапада 1919 года а 12 гадзіне дня.

Прэдстаунік Міністэрства загранічных справу заявіу, што ен прысланы сюды даведацца аб стане здароуя прэдстауніка Б.Н.Р. у Бэрліне, п. Зайца, бо па весткам, якія дайшлі да міністэрства загранічных справу, аб у вялікім стопню кровахарканьню — можна было баяцца за ісход хваробы. Прэдстаунік міністэрства загранічных справу выказау свае задавальненьне з прычыны удаулетварыщельнага стану здароуя Вашаго у данны момэнт. З далейшай размовы выяснілася, што міністэрства загранічных справу надта дображэлацельна адносіцца да Беларусі і надта зацікаулена сабыцьямі, якія развіваюцца у данны момэнт на Беларусі.

Па закранутаму Вамі пытаньню аб афіцыяльным прызнаньні Беларускай Народнай Рэспублікі дэ-факто Германіей — заявіу, што у самый найбліжэйшы час гэта пытаньне будзе разгледжэна. Да гэтай пары, дзеля таго што агульны дагавор спакою яшчэ не ратыфікаваны аканчацельна, то у гэтым напрамку у Гэрманії «былі звязаны рукі». Прэдстаунік міністэрства загранічных справу заявіу, што па пытаньню аб прызнаньні Германіей Беларускай Народнай Рэспублікі дэ-факто і аб нашых запатрэбаваньнях ен зробіць спэцыяльны даклад пану Статс-Сэкрэтару Германскай Рэспублікі, бо ен якраз састаіць у міністэрстве дакладчыкам па усім рускім пытаньням.

Яшчэ раз пажадаушы як найхудчэйшаго выздарауленьня, ен, на Вашы словы, што Вы яшчэ слабы, закончыу бяседу, просючы ні адмовіць пасылаць у міністэрства інфармацыі.

Сэкрэтар Місіі Б.Н.Р. у Нямеччыне

Др. Паўлоўскі

12 лістапада 1919 г.
м. Бэрлін
*582.2.31:021&r — мк*

**1474. Праект дамовы паміж Урадам Беларускай Народнай Рэспублікі і жыхаром Вільні выдаўцом Файвэлем Марголінам за 11.12.1919 у справе канцэсіі Ф.Марголіну на выданьне беларускіх кніг**
*582.2.37:026&r-029 — мк*

Складзены Ф.Марголінам (колішнім рэдактарам-выдаўцом гэбрайскіх газэтаў «Га-Зман», «Лэцтэ Найс» і інш.)

**1475. Запіска Браніслава Тарашкевіча**
Я такой умовы не падпішу: нельга так аддаваць усяго выдавецтва у концэссію і з юрыдычнага боку гэта немагчыма
Б Тарашкевіч
*582.2.37:025 — р*

**1476. Білет сябра Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Аўсея Трафімава, выдадзены 12.11.1919**
*582.2.38:047 — ма*

**1477. Ліст Эўгеніі Алексючанкі (Горадня) Антону Луцкевічу (Варшава) за 12.11.1919**

Паважаны Пане Старшыня!

Перэсылаю жаданыя паперы і усе лісты праз Пана Дзекуць-Малея. На тэлеграму Пана Тарашкевіча прыехаць не магла бо пропуска новаго атры[маць] ешчэ да Варшавы не магла а стары уневажнілі.

Грошы везяныя Пану Малею усіх не даручыла, з прычыны гэтай што мне білі патрэбныя, а нямецкіх мяняць ніякаго ні мела права, пры справаздачы дам адчет.

Паважаны Пане Старшыня прашу Вас даць мне пару тыдневы одпуск с прычыны маей хваробы якая пачала развівадца быстрым темпам. Цяперачы так сябе дрэнно чую што ніякім чынам нікуды ехаць не магу. Пазастаюся з пашанай.

Э.Алексючанка
Гародня
12/XI 1919
*582.2.46:128-129&r — ра*

**1478. Рапарт радніка ў справах прэсы Дыпляматычнай Місіі БНР у Нямеччыне Валянціна фон Дзітмана (Бэрлін) дыпляматычнаму прадстаўніку БНР у Нямеччыне Лявону Зайцу (Бэрлін) за 13.11.1919 з хадайніцтвам аб наданьні яму статусу радніка Місіі**
*582.2.31:022&r — ма*

**1479. Ліст Тамаша Грыба (Горадня) Антону Луцкевічу (Варшава) за 13.11.1919**

м. Горадня 1919 г. 13 лістапада.

Дарагі таварышу Антон Іванавіч,

Вельмі прыкра было, калі ўчора прыехаўшая ў Горадню «Вайсковая Камісія» з поўнай лапідарнасьцю адзначыла, што ня гледзячы на тое што яна будзе фармаваць толькі беларускія аддзелы пры арміі Пілсудзкага, — усё-ж такі яна пастараіцца патроху забраць у свае рукі і палітычнае жыцьцё, бо яна, ведама, (!) мае над сабой начальніка толькі Язэпа Пілсудзкага. Што азначае гэты сон, чаму так сталася, што «Вайсковая Камісія», на чале якой стаіць чалавек, які досыць добра зарэкамэндаваў сябе як авантурыста і праціўнік Р.Н.М.[1], чаму гэтая «камісія» ідзе па шляху захвата ўлады на Беларусі? Як магло стацца, што Рада Народных Міністраў дапусьціла гэткую авантуру?

Вам пэўна ведама, што у ліпні на сэсіі Рады Віл<еншчыны> і Гор<адзеншчыны>, калі абгаварывалося гэтае пытаньне (гэта было за дзень да майго арэшту[2]) я запрапанаваў, каб палітыка Р.В. і Г. вялася ня толькі ў паразуменьні з Р.Н.М., но і пад кіраўніцтвам. Мая прапазыцыя была адкінута. Прынята рэзалюцыя аб фармаваньні беларускага войска зусім аўтаномна ад Р.Н.М. і наагул уся далейшая палітыка вялася «на свой рыск і страх», даючы найлепшы козыр у рукі польскім эндэцкім палітыкам цьвердзіць, што Віл. і Гор. ёсьць нешта зусім асобнае ад усей астальной Беларусі. Паўторана была тая ж самая гісторыя што і з Літвой, калі ў свой час за сачыўку аддалі Віл. і Гор. І там было беларускае войска, а што з яго выйшла, вы добра ведаіця...

Будуць фармавацца беларускія «часьці», якія роўна нічога не маюць супольнага з гэн. Кондратовічам — так сказаў адзін з сяброў гэнае «камісіі», гэта азначае, што ўся гэтая авантура дзеіцца на вашых вачах... проці вас-жа!

Адным словам, для мяне зусім ясна, што «В.К.» гэта нішто іншае, як стварэньне «Беларускай Тарыбы», каб зьвясьці к нулю Р.Н.М. і Р.Б.Н.Р., а гэткім чынам правясьці анэксію Беларускіх зямель даўшы права на самаазначэньне беларускаму народу, якое будзе праісхадзіць пад камандай польскага гэнэральнага штабу. Лоўка прыдумана!..

От-жа мне здаецца, хоця-ж праўда, я вельмі блага паінфармован аб Вашай працы ў Варшаве і наогул аб перагаворах з польскім урадам, але усе-ж такі асьмелюся зрабіць гэткую прапазыцыю:

1) ні ў якім разе не ўступаць з пазыцыі, што на Беларусі адзіна правамоцным урадам ёсьць урад Р.Б.Н.Р. Рада Народных Міністраў, што толькі гэты урад мае законнае права рэпрэзантаваць інтарэсы беларускага народу за граніцай, рабіць пазычкі, падпісаваць умовы і г.д. Ведама, што ўрад мае права упаважаць асобных адзінак, ці інстытуцыі рабіць належныя крокі ад свайго імя.

2) А калі так, то рабіць тыя ці іншыя перагаворы з Польскім урадам мае права толькі Р.Н.М., ці ўпаважаная праз Раду «В.К.».

Калі вамі было дадзена ўпаважаньне «В.К.», то яна павінна стаць беларускім дзержаўным органам і быць пад кантроляй і кіраўніцтвам Р.Н.М., а не «п<ольскага> Г<енэральнага> Ш<табу>»; а калі без вашага упа[ва]жаньня ўсё гэта зроблена, то зараз жа ліквідаваць гэтую авантуру, проста і ясна адзначыўшы, што беларускі урад, так сама, нічога супольнага не мае з беларускімі аддзеламі («часьцямі») польскае арміі і гэткім чынам не бярэ на сябе ніякай адпаведнасьці за усю дзеяльнасьць гэных «аддзелаў» ні фінансавую ні ваенна-палітычную. Стварэньне беларускіх аддзелаў польскае арміі для польскае дзяржаўнасьці мае вялізарнае значэньне, гэта ні што іншае, як апраўданьне пахода на усход, але як будуць выглядаць гэныя аддзелы? Ці ня будуць яны толькі шчытом, дымнай заслонкай для прыкрыцьця польскіх ваенных аперацыяў на «Kresach Wschodnich»? Я больш чым пэўны, што з гэных аддзелаў выйдзе толькі сьмешны фарс, гэта будзе толькі кампраметацыя беларускае справы, будзе дэманстрацыя слабасьці, безыдэйнасьці усяго беларускага руху. Гэта будзе тое самае, толькі ў большым маштабе, што было ў Горадні пад час Варонкаўскай авантуры на кошт нешчаснае Літвы. А хто можа сказаць, што потым ня будуць прэд'яўляны нам вэксэля? Хто павінен будзе аплачываць усе пьяныя оргіі «ваякаў» і што скажа наш народ, калі ён аба ўсім даведаіцца? Цяпер усё гэта робіцца ўціхамолку, цяпер марнуюцца грошы, але прыйдзе час, калі трэ будзе даць адказ.

Мамэнт такі цяпер настаў, калі мы можам узаемна выкарыстаць адзін аднаго, але гэта павінна быць у дзяржаўным маштабе, павінна голасна выступіць Рада Народных Міністраў і паўстаць да жыцьця Рада Народнай Рэспублікі. Чым хутчэй тым ляпей. Палітыка лірызму і сантымэнтаў павінна быць зложана ў архіў. Трэба цьверда і рашуча выступіць на арэну палітычнага жыцьця, трэба абаперціся на массы. А гэта зможа зрабіць Р.Н.М., калі ўзапраўды павядзе дзяржаўную палітыку цьвердым шляхам, зьмятаючы з свайго шляху уселякія авантурністычныя тэндэнцыі праматаўшыхся ігракоў.

Я зусім разумею, што вам, дарагі таварышу, досыць туга прыходзіцца... што няма адпаведных працаўнікоў, но усё гэта больш дзеля таго, што ў нас вельмі шмат «шчырых» і «сьвядомых» беларусоў, каб было іх меньш, а больш чэсных, то далёка было-б ляпей. А гэта глаўным чынам дзеля таго, што ніхто ня чуе ніякай ні перад кім адпаведнасьці. Усё можна паправіць. Працаўнікі ёсьць, но яны толькі цяпер у старане, бо няма жывога беларускага жыцьця — адна мерцьвечына. От-жа трэба направіць справу так, каб магчыма было склікаць з'езды, конфэрэнцыі і т.п., ось тагды вынырне з беларускіх балот шмат сіл з якімі магчыма будзе вясьці дзяржаўнае будаўніцтва. Трэба выйсьці на праўдзівы дэмакратычны шлях!..

Я шмат пакладаю на вас надзей. Я веру, што вы самі усё гэта адчуваіця, но... словом будзем спадзевацца, што вы накіруіця справу на праўдзівы шлях дзяржаўнага будаўніцтва..

З сяброўскай пашанай і таварышчыскім прыветам
Тумаш Грыб.

P.S. Я чую сябе ня зусім яшчэ здаровым. Выпушчаны на волю да суда, які чамусьці адкладаіцца усе з дня на дзень. Аб усім падробна з вамі перагавора Дзекуць-Малей.

*582.2.46:016&r-017&r — ра*

1 Павел Аляксюк. 2 Т.Грыб быў арыштаваны 15.07.1919 на вакзале ў Вільні, зьбіраючыся выехаць у Горадню.

**1480. Ліст 96 вучаніцаў зь Беларускага Дзіцячага Прытулку (Горадня) Антону Луцкевічу (Варшава) за 13.11.1919 з просьбай аб матэрыяльнай дапамозе**

*582.2.46:018&r-019 — ра*

**1481. Праект дамовы паміж Урадам Беларускай Народнай Рэспублікі і жыхаром Вільні выдаўцом Файвэлем Марголінам за ?.11.1919 у справе канцэсіі Ф.Марголіну на выданьне беларускіх кніг**

*582.2.37:030&r-031 — рк*

Складзены Браніславам Тарашкевічам і Янкам Станкевічам. Дакладная дата невядомая (да 13.11).

**1482. [Адкрыцьцё паседжаньня Рады БНР 12.11.1919 ] // Беларусь. №22. 14.11.1919**

*582.2.43:010 — мк (ПБ у Рызе)*

**1483. Ліст генэрал-маёра Станіслава Булак-Балаховіча (дзейная армія) старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антону Луцкевічу за 14.11.1919**

Атаманъ
Добровольческ. Народнаго
Отряда
14 Ноября 1919 г.
№734
д. Армія

Старшине Рады Народных Міністроу
Беларускай Народнай Рэспублікі
праз
Шэфа Вайскова-Дыплематычней
Місыі у Латвіі і Эстоніі
Палкоуніка Езовітова

Заяуляючыся грамадзянінам Беларускай Народнай Рэспублікі, лічу патрэбным каб мае войска была скарыстана для забароны цельнасьці і нядзялімасьці маей Бацькаущыны, а таму прапаную майму Ураду залічыць мяне і мой атрад на Беларускую службу.

Гэнэрал-майор Булак-Балаховіч

*582.2.54:418 — ра*
*582.2.54:419 — канвэрт*
*582.2.33:127&r — мк*

**1484. Тэлеграма Аляксандра Цьвікевіча (Люблін) Антону Луцкевічу (Варшава) за 15.11.1919**

warsz hotel saski antoni
ludkiewicz

rejowca 40-35. -14. -20-20- cns

ja jade do kamienca dobrze jezeliby lowicki[1] dal rzadu swoj poglad na sprawe pozyczki prosze o asygnowanie dla mojej misji mniej ja czterc nn czterdziesci tysiecy ja wysle kurjerem = = cwikiewicz =»

*582.2.34:012*

[1] Андрэй Лявіцкі — міністар замежных справаў УНР, ад 3.10.1919 вёў у Варшаве перамовы аб паразуменьні з польскімі ўладамі.

**1485. Ліст Аўгена Ладнова (Бэрлін) Антону Луцкевічу (Варшава) за 15.11.1919**

Многоуважаемый
Антон Иванович!

Ваши письма газеты, карту и др. документы, присланные из Варшавы, получил.

Фрейденбер уѣзжал из Парижа на нѣкоторое время, и поэтому мнѣ нельзя было через французов послать Вам вѣсточку.

Отношеніе вліятельных полит. кругов Антанты к русскому вопросу крайне неопредѣленны. Перед моим отъѣздом в Б[ерлин] твердо стоял курс на Единую, Недѣлимую Россію. Въ настоящее время, судя по газетам, англичане готовятся к переговорам с Совѣтским Правительством. Французы вряд ли послѣдуют за англичанами. Все больше и больше французов начинают поддерживать русских.

Чайковскій, Савинков смотрят на Вас, как на своего вѣрнаго друга и союзника. Часто вспоминают о Вас и ждут Вашего пріѣзда.

Въ Комиссіи Мирной Конференціи были разсмотрѣны восточныя границы Польши: Гродно и ~~Бѣлосток~~ Бр<есть> Лит<овскъ> остаются за Бѣлоруссіей, судьба которой будет разрѣшена совмѣстно съ вопросом общерусским.

Поляки недовольны. Не только не получили Бѣлоруссіи, но и Восточную Галицію им не дадут; объ этом англичане заявили официально.

Отношеніе поляков к нам возмутительное. Нѣт у них искренняго желанія создать добрососѣдскія отношенія с нами, как нѣт у них опредѣленной, ясной и единой внѣшней политики.

Пригласив Вас в Варшаву, в Парижѣ они, как мнѣ извѣстно, вели переговоры с представителями русских кругов. Всегда и вездѣ двойственность.

Информирую Вас на случай каких либо соглашеній. Лучше всего уклониться от окончательных рѣшеній и выждать проясненія политическаго горизонта.

Уклоняться же от окончательнаго рѣшенія вопроса об отношеніи к полякам можно под предлогом необходимости возвращенія на родину

многих милліонов бѣженцев, созыва Всебѣлорусскаго Учред. Собр., которое только одно и может рѣшить вопрос о будущих Судьбах Нашей Батькоўщины.

Отношеніе французов к нам хорошее. Полагаю, что это обстоятельство обусловливается установленными Вами взаимоотношеніями съ русскими кругами.

Вашъ пріѣздъ в Париж крайне необходим, хотя бы на короткій срок. Руководить правильно работой рады Вы сможете только всесторонне освѣдомившись о настроеніях полит. кругов Парижа. Прошу Вас пріѣхать как можно скорѣе. Накопилось много сложных вопросов в области наших взаимоотношеній с сосѣдями, и разрѣшить таковые можно будет лишь в Вашем присутствіи. Постарайтесь пріѣхать к 1-5 декабря с/г. Вѣдь в любое время Вы можете возвратиться.

Генерал Рампон в Верденѣ выдѣлил бѣлоруссов-воинов. Нужны деньги для начала работ по формированію воинских частей, а денег нѣт. Прошу об отпускѣ хотя бы небольшой суммы от пана Захарко и Заяца.

Русскіе круги в Парижѣ нѣсколько смущены газетными свѣдѣніями о формированіи поляками бѣлорусских войск, под польским командованіем. Спрашивали меня, как Министра Обороны, что это значит? Я отвѣтил, что работы носят только подготовительный характер, и что со стороны поляков это уступка нашим національным требованіям, обусловленным образованіем и дѣйствіями «зеленой арміи».

Въ Б[ерлинѣ] руководящіе круги, по имѣющимся свѣдѣніям, встревожены Вашим присутствіем в Варшавѣ и новостями о Бѣлоруссіи, доходящими оттуда. Хотя и здѣсь вѣрят Вам, что съ поляками Вы не пойдете.

Въ делегаціи по старому. Благодарю за приглашеніе. Извиняюсь, что не пріѣду, нужно ѣхать в Париж. Здоровье мое скверно: нервы шалят невѣроятно, особенно в связи съ тѣм накожным заболеваніем, которое явилось слѣдствіем леченія в Châtel Guyon'ѣ. Де-Вулич Вам кланяется. Нужно, чтобы наши кооператоры пріѣхали в Париж. Можно многое купить очень дешево за наличныя деньги. Доставку товаров на Украйну французы организовали. Возможно будет сдѣлать то же самое и по отношенію к нам.

Крѣпко жму Вашу руку. От всего сердца желаю успѣха в тяжелой, отвѣтственной Вашей работѣ. Пріѣзжайте скорѣе! Ждем Вас с нетерпѣніем.

Ваш, Е.Ладнов.

PS. Барков до сих пор еще не прибыл.

15 ноября 1919 г.
Берлин
*582.2.33:005&r*

**1486. Рэскрыпт шэфа Вайскова-Дыпляматычнай Місіі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Рызе Кастуся Езавітава (Дэрпт) атаману Добраахвотніцкага Народнага Атраду генэрал-маёру Станіславу Булак-Балаховічу за 15.11.1919**

Вайскова-Дыплёматычная
Місія Беларускай Народнай
Рэспублікі у Латвіі і Эстоніі
15 лістапада 1919 года
№62
м. Юрьеў

Атаману Дабравольчэскаго
Народнага Атрада Гэнэрал-
Маёру Станіславу Нікадзімавічу
Булак-Балаховічу

Грамадзянін Гэнэрал!

Сёнека мною атрымана ад Вас для перэдачы Старшыне Рады Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі заява аб тым, што Вы, як грамадзянін Беларусі, лічыце патрэбным стаць на забарону сваей Бацькаўшчыны, каб запэзпэчыць ёй цэльнасьць і непадзельнасьць, і просіце залічыць Вас і камандуемае Вамі войска на службу ў Арміі Беларускай Народнай Рэспублікі.

Глыбока тронуты і усьцешаны Вашай заявай, я срочным чынам напраўляю яе майму Ураду, які, я у гэтым пэўны, будзе вельмі здаволены ею і, у самым хуткім часе, прышле да Вас паведамленьне аб здаволеньні Вашай просьбы і падзяку ў гатоўнасьці паслужыць Бацькаўшчыне.

Да гэтаго-ж часу, на моцы дадзеных мне Радай Міністраў паўнамоцтваў, я выражаю Вам, Грамадзянін Гэнэрал, вялікую падзяку ад Іменьні нашай Многапакутнай Бацькаўшчыны і паведамляю Вас, што з гэтаго часу Вы з Вашым войскам лічыцесь на службе ў Арміі Беларускай Народнай Рэспублікі, як Камандзер Асобнаго Атрада Беларускай Народнай Рэспублікі ў Эстіі.

Шэф Місіі
Палкоўнік Езавітаў
*582.2.33:128&r*

**1487. Справаздача міністра абароны Беларускай Народнай Рэспублікі Аўгена Ладнова Радзе Народных Міністраў і міністру фінансаў БНР Васілю Захарку за 15.11.1919**

Въ Совѣтъ Народных Министров
Бѣлорусской Народной Республики
Г. Министру Финансов пану Захарко

Докладъ

Въ неоднократных ходатайствах членов бѣлорусской делегаціи в Парижѣ по вопросу объ оказаніи Бѣлорусскому Правительству матерьяльной и финансовой помощи со стороны держав согласія было отказано

Отказъ мотивировался тѣм обстоятельством, что бѣлорусское правительство не имѣет ни территоріи, ни войска, ни управляемых

Во французском Министерствѣ Иностранных дѣл Генералу Кондратовичу и мнѣ было сказано: «Сформируйте хотя бы небольшую воин-

скую часть, и мы Вам ассигнуем необходимыя денежныя средства и окажем помощь военно-техническими матерьялами[»].

Такое же заявленіе было сдѣлано в Верховной Военной Междусоюзной Комиссіи (в Версалѣ) при Парижской Мирной Конференціи.

Желая упрочить положеніе бѣлорусскаго Правительства и поставить таковое на подобающем для бѣлорусскаго Народа уровнѣ, я приступилъ къ подготовительнымъ работамъ по формированію бѣлорусских войскъ изъ числа воинов-бѣлоруссов, находящихся нынѣ во Франціи

Французской службы Генералъ Рампонъ, согласно просьбѣ бѣлорусской делегаціи в Парижѣ, выдѣлилъ в кр<ѣпости> Верденъ около 200 человѣк бѣлоруссов, о чемъ увѣдомил офиціальнымъ письмомъ Предсѣдателя бѣлорусской Миссіи

Принимая во вниманіе, что на формированіе роты в 200 человѣк, при стоимости содержанія одного человѣка в мѣсяцъ минимально в 300 фр, потребуется сумма денегъ въ 60000 фр в мѣсяц, т.-е. 240-250/т. марок, и считая настоятельно необходимым приступить къ найму солдат-бѣлоруссов для созданія хотя бы небольшой воинской силы, которая могла бы служить символом бѣлорусской власти, я обращаюсь в Совѣт Народных Министров с просьбой о разрѣшеніи перенести организаціонный Отдѣл Министерства Обороны въ Парижъ, а также прошу объ ассигнованіи в цѣлом или по частямъ необходимой для названной цѣли суммы денегъ.

Кредит прошу открыть заимообразный, так как параллельно с формированіем будет мною возбуждено ходатайство передъ Французским Правительством объ отпускѣ необходимых денежных средств, изъ числа каковых я возмѣщу ассигновку, данную мнѣ Совѣтом Народных Министров.

Министр Національной Обороны

Евгеній Ладнов.

*582.2.40:031&r — ра*

---

Заключэньне дзяржаўнага кантралёра:

«17 лістап. 1919 г.

№20

Заключэньне

Ўнясьці пытаньне на разгляд Канфэрэнцыі Паслоў БНР, прычым, у звязку са станам дзержаўнай кассы, на вышэй памяненыя справы ня можна даць больш напачатак як 25.000 мар., т.ё. тое, што менш-больш выдавалася месячна на арганізацыйны аддзел у Бэрліне.

Дз. Кантр. ЛЗаяц».

**1488. Беларускае Прэс-Бюро (?). №25. 17.11.1919**

Пераезд рады Міністрау у Менск. — Палякі і беларусы. — Беларускі зборнік дакумэнтау

*582.2.44:002&r-003 — шк*

---

Месца выданьня невядомае (Менск?).

**1489. Пратакол сходу прадстаўнікоў Беларускай Народнай Рэспублікі ў Бэрліне за 17.11.1919**

Журнал
сходу выпадкова зъехаўшыхся ў Бэрліне прэдстаўнікоў Б.Н.Р.: на Мірнай Канфэрэнцыі ў Парыжы — Міністра Абароны і вып. абав. Старшыні Дэлегацыі Е.Ладнова, Члена Парыжскай Дэлегацыі - Члена Рады Рэспублікі Е.Белевіча, прэдстаўніка ў Польшчы Л.Дубейкоўскаго, прэдстауніка на Літве - Сэкрэтара Рады Рэспублікі П.Крэчэўскаго, Прэдстаўніка ў Бэрліне - Дзержаўнаго Кантралёра Л.Заяц, члена Місіі на Латвіі і Эстоніі — Я.Чэрэпука і вып. абав. Міністра Фінансаў Б.Захарко — 17 лістапада 1919 г.

| Слухалі | Пастанавілі |
|---|---|
| 1. Бюджэт Місіі (Консульства) Б.Н.Р. ў Нямеччыне з аддзеламі: консульскім, вайскова-палонным і прэссы. Даклад Місіі за №815 далучаецца. | 1. Бюджэт Місіі ў Нямеччыне зацьвердзіць, згодна з дакладам за №815 ад 17 лістап., у агульным ліку восемнадцаць тысячаў трыста (18.300) марак на месяц. |
| 2. Даклад Міністра Нацыанальнай Абароны аб тым, што калі ўдасца сфармаваць яму ва Францыі хоць нівялічкі атрад беларускі з ваеннапалонных беларусаў, то на гэты атрад атрымаць можна нават вялікія грошы ад Entente, не кажучы ўжо аб тым, што палажэньне нашаго Ураду з гэтым умацуецца. Трэба толькі хоць на першы месяц ассыгнаваць хоць нівялічкія грошы на разпачатак. Даклад №161 далучаецца. | 2. Лічучыся з тэй агромністай важнасьцю у данны момэнт для умацаваньня у вачах Entente палажэньня Беларускаго Ураду, ассыгнаваць і выдаць Міністру Ладнову на першы пачатак дваццаць пяць (25.000) авансам пад атчот марак дзеля арганізацыйнай працы па фармаванню беларускаго атраду ва Францыі. |
| 3. Даклад прыехаушаго з Латвіі і Эстоніі п. Чэрэпука. Наша становішча на Латвіі найлепшае, дзякуючы добрым і сэрдэчным адносінам да Місіі Б.Н.Р. Латвійскаго Ураду наагул і прэмьера Ульманіса ў часнасьці. У працы Місіі у некаторых выпадках дапамагае Беларуская Рада на Латвіі. З боку Латвійскаго Ураду дана прынцыпіальная згода на беларускія фармаваньня пры латышскай арміі. Міністр Заграннічных Спраў Б.Н.Р. п. Луцкевіч даў Місіі шырокія паўнамоцтвы дзеля учасьця на канфэрэнцыі ў Дорпаце. Спачатку ў Эстоніі прынялі нашу Місію досыць холадна, але посьле перагавораў з Міністрам Загр. Спраў п. Піп пайшлі на спатканьне нават у | 3. Даклад прыняць да ведама і прасіць у падробным змесьце прадставіць Радзе Народных Міністраў. |

справе адчыненьня Консульства Б.Н.Р. ў Рэвелі, а пакуль гэта пытаньне аканчацельна ні развяжэцца, то мы адчынілі там пашпартна-рэгістрацыйны аддзел.
У Фінляндзіі шэфа Місіі палк. Езавітава прынялі надта прыхільна і там чакаюць нашай сталай Дыплёматычнай Місіі. У Фінляндзіі таксама адчынены (Таммэрфорс і Гэльсінгфорс) пашпартна-рэгістрацыйныя аддзелы Місіі БНР. Прыцягнуты намі да працы у справе выясьненьня магчымасьці беларускіх фармаваньняў гэнэрал Васількоўскі, родам з Вітэбшчыны, быўшы Глаўнак. Петраграг. Ваенн. Вокругам часоў Керэнскаго. Гэнэрал Балаховіч запрапанаваў таксама свой атрад дзеля службы Бел. Нар. Рэсп.

4. Справу аб ассыгнаваньні 400.000 на атрад Балаховіча і 30.000 мар. авансам на далейшую працу Місіі на Латвіі і Эстоніі (Даклады за №№56, 57)

4. Справу з ассыгнаваньнем 400.000 мар. перанясьці на пленум Рады Нар. Міністраў, каб яна разгледзіла гэтае пытаньне ў пільным парадку; што ж датычэ 30 тысячаў авансам пад атчот, то здавольніць Місію паводлук зацьверджэных сьмет.

5. Даклад Маркевіча, беларускага афіцэра для звязі на Літве, прыехаўшаго з Коўна. Палякі на Беларусі надта уціскаюць матар'яльна і маральна беларускае жыхарства. Праца Вайсковай беларускай Камісіі ў Вільні пасуваецца наперад надта туга, бо палякі самі перашкаджаюць гэтаму.
Жыхарства, нават і каталіцкае, за уціск палякоў адносіцца да іх варожа, стараючыся арганізована (камітэты) выступаць проці польскіх насільстваў. На Літве новы «дзелавы» кабінэт Гальваноўскаго папулярнасьцю ня цешыцца, бо з яго выйшлі і ня ўходзяць дагэтуль партыйныя прэдстаўнікі, і тым самым умацавалася праца партыйных арганізацыяў вплоць да бальшэвікоў. Грашовы

5. Прыняць да ведама.

стан на Літве крытычны і гразіць ўсякімі ніспадзеўкамі.
Рэзалюцый аб разрыве з Літвою Віленшчыны і Гродзеншчыны нігледзючы, што яны былі гродзенскімі арганізацыямі вынесены і з Дзекуцем перэсланы ў Вільню і перэданы Смолічу ці Душэўскаму, ў Коўну дагэтуль ні дастаўлены і тым самым ў корні папсулі справу разрыву у вялікім масшт. Міністр Загр. Спраў Літвы аб палажэньні Маркевіча як беларускаго афіцэра для звязі атказаў, што ён ня можэ быць пакуль што прызнаны, бо Урад Беларусі, як істнуючы толькі на паперы, Літвой ня прызнаны, а яго прэдстаўнікі толькі тады будуць прыняты, калі Літва зможэ абменяцца фактычна прэдстаўнікамі з Беларускім Урадам. Варонка са складу Літоускаго Ураду выйшаў саўсім.

Старшыня Л.Дубейкоўскі
Члены Л.Заяц В.Захарко Е.Белевіч Ладнов Янка Чэрэпук
Дакладчык Маркевіч
Сэкрэтар Крэчэўскі
*582.2.01:064&r-065&r — pa*

**1490. Каштарыс месячнага ўтрыманьня Надзвычайнай Місіі БНР у Нямеччыне, пададзены на разгляд Канфэрэнцыі Паслоў Беларускай Народнай Рэспублікі ў Бэрліне 17.11.1919**
*582.2.31:011*

---

Рэзалюцыя Антона Луцкевіча: «Зацьвярджаю сьмету ў ліку 9.000 марак. Ант.Луцкевіч. 23.I.20 Варшава».

**1491. Ліст Аўгена Ладнова (Парыж) Антону Луцкевічу (Варшава) за 18.11.1919**
18 ноября 1919 г.

Многоуважаемый, Антон Иванович!

Я послалъ Вамъ письмо Бѣлевичем.

Новостей, кромѣ сообщенныхъ, нѣт никаких. Во Франціи на выборах полный провал соціалистов. Лонге скрылся. Общеполитическое положеніе крайне неопредѣленное, сложное и запутанное.

Будьте добры провести черезъ Раду Министров и Раду республики приказ о моем производствѣ и прислать мнѣ засвидѣтельствованную копію такового приказа.

Очень прошу Вас не отказать перевести моей матери въ г. Двинскъ польских марок на одну тысячу франков. Уплачу Вам немедленно. Вы меня этим премного обяжете. Я боюсь, что мать моя быть может умирает с голоду. Курсъ франка узнаете в любом банкѣ. Адрес матери: Г. Двинскъ, Новое Строеніе, Одесская ул. №105. Собственный Дом. Д.Ладновой.

Еще раз извиняюсь за безпокойство. Очень прошу помочь моей старухѣ. Жду Вашего пріѣзда в началѣ декабря.

Всего наилучшаго. Уважающій Вас, ЕЛаднов

*582.1.04:012*

**1492. Тэлеграма Міколы Вяршыніна (Прага) Антону Луцкевічу (Варшава) за 18.11.1919**

praha 2560 11,-16,-6,-50- d = antoni luckiewicz warszawa hotel saski = 18 przyjada prahy zajad irne = wierszynin =

*582.2.30:011*

**1493. Ліст дыпляматычнага прадстаўніка БНР у Нямеччыне Лявона Зайца (Бэрлін) старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антону Луцкевічу (Варшава) за 18.11.1919**

Надзвычайная Дыплёматычная Місія
Беларускай Народнай Рэспублікі
у Нямеччыне.
18 лістапада 1919 г.
№814

Пану Старшыні Рады Народных Міністрау і Міністру заграничных спрау Беларускай Народнай Рэспублікі.

Дзякуючы маей цяжкай хваробе, да апошняго дня я яшчэ ні саусім аправіуся і таму ні магу прэдставіць Вам падробнаго дакладу аб працы місіі Беларускай Народнай Рэспублікі у Нямеччыне, афіцыяльны мандат вазглауляць якую я атрымау ад Вас толькі 3 кастрычніка г.г. Кароткі агляд працы місіі за час з 15.VI — 15.XI я дау на пасядзэньні паслоу Беларускай Народнай Рэспублікі за 10-12 лістапада г.г., што было падробна запратаколіравана і можэ служыць асновай пры Вашым дакладзе Радзе Народных Міністрау і Радзе Рэспублікі аб працы місіі у Бэрліне (Арыгінал пратаколу пасядзэньня паслоу перэсылаецца Вам разам з усімі пратаколамі Рады Народных Міністрау).

Апроч таго аб працы у Нямеччыне, па маей просьбе, зробіць дэтальны даклад Радзе Народных Міністрау Міністр Захарко, які быу усецэла у курсе працы місіі Б.Н.Р. у Нямеччыне.

Для поунай абрысоукі працы фактычна вазглауляемай мною місіі за час з 15.VI да 15.XI перасылаю да Вашаго ведама і ведама Рады Народных Міністрау даклады у копіях — Радніка у справе прэсы пры місіі ад 3.X, 2.XI, юрысконсульта ад 7.X, 3.XI і 3.XI, Сэкрэтара місіі ад 12 лістапада г.г., і арыгінал рапарта д-ра Дітмана ад 13 лістапада.

Апроч таго маю гонар давясьці да Вашаго ведама ноту украінскага пасла за №2133 пры паперы на мае імя за №2134 (абедзьве у копіях).

Надзвычайны Паунамочны Прэдстаунік
Беларускай Народнай Рэспублікі
у Нямеччыне
Л.Заяц
*582.2.31:013&r*

**1494. Фатаздымак супрацоўнікаў Місіі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Бэрліне 18.11.1919**
*582.2.31:031*

Надпіс на адвароце: «Радзе Народных Міністраў Б.Н.Р. 18/XI 19 г. м. Бэрлін».

**1495. Ліст Янкі Чарапука (Бэрлін) Антону Луцкевічу (Варшава) за 18.11.1919**

Высокапаважаны п. Антоні!

Пішу да Вас гэты ліст, не як Сябр Вайскова-Дыплематычнай Місыі у Латвіі і Эстоніі, але хачу выказаць Вам мой пагляд на справу дзяржаўна-нацыянальнага будаўніцтва нашэй Бацькаўшчыны як дзеяч. Прэбываньне мае заграніцай і знаёмасьць з многімі выбітнымі дзеячамі соцыялістамі, як Латвіі, Эстоніі, Нямеччыны і нарэсьці мае спатканьне з украінскім паслом эс-эрам і сваё ізучэньне палітычна-дыплематычнай справы за граніцай — дыхтуе мне, у гэты час калі наш беларускі народ стаіць на парозі той яго будучыны, дзе дзверы долі будуць для яго ці ачыняны на гасьцінец для счасліваўшага, вольнага і незалежнаго жыцьця, ці будуць ізноў закрыты як для рабоў-пакутнікоў. Вы вялікі беларускі патрыот — гэтаго ад Вас ніхто не адніме, Вы цяпер таксамо трымаеце наш дзяржаўно-народны карабль у сваіх капітанскіх руках у час бур, ветраў і вялікіх мяцеліц — якіе з усіх старон веюць на наш Родны Край.

Цяжко і вельмі цяжко будаваць нам сваю Рэспубліку. Я быў праў у сваей стацье у «Родным Краю» «Правам ці Мячом»[1] калі пісаў, што ні Парыж ніхто іншы нам не паможэ каб Рэспубліка жыла у праменістай славе.

Ціж ні праўда, што нам даў Парыж?

Нічога.

Што дае нам Варшава? Таксамо надта мала.

Весткі п. Дубікоўскага, а таксамо і дэлегатоў эс-эраў латвійскіх, мяне моцно перэконываюць — што справа наша там стаіць ні так як гэта мне рысавалася, калі я даведаўся, што Вас у Польщу запрасіў Падэрэўскі. Заграмічная акцыя, што нам дала у Бэрліне і Літве — апрыч таго толькі што усадзены вялікіе грошы. Ціж далей нам беларусам дзяржаўным мужам ісьці ізноў шляхам таптаньня на мейсцы. Уважаючы і ценючы Вас — я Вам так аткрыта і сэрдэчна пішу.

Панок! Калі справа наша там стаіць не на пажаданым нам дзяржаўным ураўні — тагдэ доўга не думаючы прыезжайце да нас ў Латвію ці Эстонію. Ізгэтуль мы начнем сваю дзяржаўна-народную справу.

Ўсе тыя агромныя суммы якіе трацяца на Місыі у Бэрліне, Парыжу — трэба іх урэзаць да самага мінімума.

А ўсе звярнуць на Латвію і Эстонію і да начатых фарміраваняў войска прыдаць с'ерезны характар працы. І вось калі мы, як я думаю увайдзем у Беларусь з стараны Дзвінска а войско нашэ зойме Полацк, што вельмі легко удасца тагдэ начнемо з Полацка уваскрасаць сваю будучыну. Малю Вас прыдаць гэтаму маяму пагляду с'ерезную увагу.

Пане Антоні — дзверы на Бацькаўшчыну гэта з Латвіі.

Усё што патрэба мною зроблено. Адносіны латышоў — што і украінцаў да нас. Сэрдэчнасьць, цеплата, аткрытасьць во дыплемація латвійско-эстонская да нас. Прэса латвійская а нас пішэ што дзень. Я пасылаю Вам як частку вестак. Мне удалося лідэра латв. соц-рэв. Груззэўскаго перэцягнуць для справы нашэй. Мы цяпер як прэсу, так і агулам кажучы усю латв. палітыку маемо у сваіх руках. Таксамо Вам павінен сказаць, што у апошніе часы латвійская прэса заняла надта прыхільнае становіщэ да палякоў. Так у газэце Ульманіса (т-е. Селянскага Саюза) была напісана стацьця пад загалоўкам «Перэоцэнка цэннасьцей» у якой гаварылася, што трэба перэглядзець пастановы «Entente Cordiale». Наогул кажучы прэса Латвіі загаварыла так: «Проч сбліжэньне с съвером, да здравствует саюз вокруг Польшы».

Гэта нам трэба прынящь пад увагу.

Далей Паночку не адкладывайце доўга а зараз жэ пашлеце дзве місыі у Англію, асабліва зноў у Амэрыку. Ня трэба вялікай а даволі кожнай у складзе 2х чэлавек. Пры гэтым, што датычыщца Амэрыкі та я сам падняўся каб быць Сэкрэтаром нашэй Місыі. У мене там ёсьць вельмі многа знаемых, адзін наш беларус Сукрановіч з якім я і цяпер маю зносіны. Кошт Місыі у Амэрыцы я думаю аплаціўса бы па той прычыне, што калі там з'арганізаваць Консульства і пачаць выдаваць пашпарты усім тым якіе захочуць ехаць на Бацькаўшчыну — то гэта была бы карысьць для нас. Таксамо можна было бы стварыць Нацыянальные Рады, і звярнуцца з прызывам ахвяроваць на Нацыанальны Скарб Беларусі, апрыч таго паралельна вясьці дыплематычную працу.

Паночку Войско Балаховіча (каля 1.000—500) можна перэцягнуць на нашу сторону ен згодзен.

Усе беларусы з Арміі Юдзеніча ахвотна перайдуць на службу нашую — кінуць толькі трэба кліч.

Абшырней Вас паінфармуе пан Дубікоўскі.

Пасля гэтаго экстранно прышлеце у Латвію прэдстаўніка які ніхай нам дасьць інструкцыі працы.

Езавітаў, мушу ствердзіць, як эс-эр — працуе сумленно, шчыра і патрыатычна.

Усіх скарбаў

ЯЧэрэпук

Бэрлін 18/XI 1919

P.S. Пазнаемцеса з газэтамі.

*582.2.32:034&r-036*

[1] Чэр. Правам ці мячом // Родны Край (Горадня). №6. 10.07.1919. За гэты артыкўл рэдактар газэты Тамаш Грыб быў арыштаваны.

**1496. Тэлеграма шэфа Вайскова-Дыпляматычнай Місіі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Рызе Кастуся Езавітава (Дэрпт) міністру замежных справаў Латвіі Зігфрыду Мэеровіцу (Рыга) за 18.11.1919 зь віншаваньнямі з нагоды гадавіны незалежнасьці Латвіі й перамогі латвійскага войска**

*582.2.32:090*

Незалежнасьць Латвіі была абвешчаная 18.11.1918. Латыскае войска 11.11.1919 разьбіла Жалезную Дывізію і Нямецкі Легіён — галоўныя фармаваньні Бэрмонта.

**1497. Ліст Міхася Маркевіча (Бэрлін) Антону Луцкевічу (Парыж) за 19.11.1919**

сэкрэтно

Паважаны Пане, Антон.

Знаходзячыся часова заграніцай, дзякуючы таму, што польскія Уляды разам з Тамашом Грыбом хацелі мяне арыштаваць дзеля чаго я змушан быу пакінуць працу на мейсцох і выехаць у Коуну, гдзе часова знаходзіуся пры прэдстауніку дзеля перагаворау на Літве пану Крэчэускім, а цяперь пры выездзі яго з Коуны астауся, як-бы ахвіцэрам дзеля сьвязі і жыву там-жа. У самых кароткіх рысах абзначаю Вам тое палітычно-грамадзянскае становішче на Літве, каторае цяперь тут есьць.

Літоускі габінет, міністрау, толькі што ня дауна зложаны перажывае остры крызіс[1], дзеля таго, што да гэтаго часу стаіць вельмі кепска фінансовая справа. Служачым усех устаноу каля двух месяцау, як ня заплачана пэнсія, а для падтрыманьня жыцьця выдаюцц прадукты натураю. Рабочыя вельмі ня здаволены, а крамя таго, што ня выда[ю]ць пэнсіі, — рэпрэсіямі, каторыя робіць, так званы «Дзялавы габінет» у атносінах да істнуючых рабочых арганізацый. Ня дауна зроблена распараженьне састауляць спісы мала-маентных і зусем бяз маентных дзеля высненьня ліку жыхароу якім патрэбна у першы чарод надзяліць зямлей. Літоуцы таксама ня дремлюць у справі вайсковай, так ня дауна вывешана абвестка аб рагістрацыі усех бывшых вайсковых ад 18 да 45 гадоу. Далей, дзьве беларускія роты чуць ужо былі ня расфармованы, але пасьля хадатайства Начальніка Беларускаго бюро Казлова цяперь ня разфармованы і зважаючы тое, што гэтыя роты так шчыра велі барацьбу з бальшавікамі астаулены і дазволена пачаць фармаваць батальен. Міністэрство Беларускіх Спрау, як-бы скончыла свае жыцьце; большая частка служачых ужо распушчана. Воронко падау у адстауку. Міністэрство даецца зусем скасоуваецца. У апошнія часы тут прыехау пан Семашко з якім я меу гутарку. З гутаркі выяснілася, што пан Семашко мае якуюсьці асабістую беларускую палітыку і на запытаньне мае: як пан Семашко глядзіць на спорнае тэрыторыальнае пытаньне паміж Беларусамі і Літоуцамі, Семашко адказау, што Літоуцы зусем не прэд'яуляюць жадных запатрэбаваньняу аб Горадзеншчыні і што калі Горадзеншчына захоча быць з Ліцьвінамі, та ей будзя дана аутаномія, будзя сфармована свае войска і якога ужо есьць дзьве роты і будуць свае самоурадовыя установы, што касаемо Ві-

леншчыны і другіх частках тэрыторыі належачых да Беларусіі нячога не сказау і адмоучауся. Лічу патрэбным сказаць, што палітыка пан Семашко даволі цемная і трэба быць гатовым з гэтага боку на усякія выпадкі, а асабіста цяпер калі Міністэрство скасоуваецца. Можа здарыцца такая справа, што Літоуцы захочуць адчыніць адзелъ беларускі, так як такі адзел есьць жыдоускі і туды будзя пасажаны пан Семашко і сваею працаю будзя даваць лішні козыр дзеля Літоуцау пры разрашеньні тэрыторыяльнага пытаньня. Тут абавязкова патрэбны чалавек, які-б мог быць у курсі усех спрау і давау сваечасна даклады а палітычным становішчу. А справах агульна палітычных з Ліцьвінамі больш ня магу нячога дабавіць, бо ня ведаю Вашага погляду на гэта. Вельмі прасіу-бы калі можна даць мне належныя указаньня як сябе трымаць і калі Вы прызнаеце, што тут абавязкова патрэбны чалавек, та таксама прасіу-бы выказаць Ваш погляд. Аба усем буду паведамляць пры першай магчымасьці і важнасьці зьявіушыхся пытаньняу. Выбачайце за усе.

Бывайце здаровы.

19-го лістапада 1919г.

м. Бэрлін М.Маркевіч

*582.2.35:035&r — ма*

---

1 «Дзелавы кабінэт» Галванаўскаса, утвораны 3.10.1919.

**1498. Ліст Янкі Чарапука (Бэрлін) Антону Луцкевічу (Варшава) за 19.11.1919**

Вельміпаважаны п. Антоні!

Даваджу да Вашэго ведама апошнія весткі. Балаховіч гэнерал, перашоў на службу з сваім Войскам Ураду Бел. нар. Респ. Салдат з афіцэрствам налічваецца да 2.000.

Мабілізацыя беларусоў у Латвіі і Эстоніі, а таксамо ў Фінляндыі дасьць зноў 2.000.

Усяго з войскам, каля 4.000. Мы смело можэмо заняць Полацк, бальшэвіцкіх сіл тут надта, надта мало.

Усе беларускіе часьці Вайсковыя у Літве мне заявілі афіцыяльна, на першы кліч Беларускаго Ураду Р.Н.М. перойдземо на іх сторану. Пане Антоні, калі справа з палякамі не дзвігаецца у пажаданым нам кірунку — звярнеце увагу на Латвію. Згэтуль можэ пайсьці справа вызваленьня нашэй Бацькаўшчыны. Урады Латвіі і Эстоніі, Фінляндыі нам у некаторых выпадках памогуць. А сама важна ня будуць рабіць ніякіх перашкод. Юдзеніч — здаў камандаваньне эстонскаму глаўнакамандуючаму. З Арміі Паўночна-Заходняго Ураду можна выцягнуць усіх беларусоў, якіх не мало ёсьць. Зараз жэ трэба было паслаць Надзвычайную дэлегацыю да Украінцаў аб грашовай помачы — для гэтай фармацыі — а пасля можна было бы выцягнуць што кольвечак із Антанты.

Пасол Зелезняк — украінскі мне сказаў што Украінцы атрымалі ада Амерыкі 13 мілліонаў даляроў. Яны ж абрысаваўшы ім нашэ палажэньне не адмовілі бы.

Езавітаў працуе шчыра і добра, як эс-эр гэта сьведчу. Высылайце Мі-

сыю Дыплематычную на Фінляндыю альбо дайце нам права. Нашу Місыю варто з вайскова-дыплематычнай, пэрэменаваць у «Надзвычайную Дыплематычную Місыю».

Прышлеце чэлавека у Латвію (Нікалаеўская 20) ці Эстонію гасьцінніцу «Залаты Леў» з Вашым поглядам на гэту справу, мамэнт только ня упосьцем. Пажаданы быў бы прыезд Мамонькі (абавязкова) і Душэўскаго. Аванс 400.000 адпусьцеце, бо гэта пашырыць надзвычайна нашу акцыю заграніцай. Вам усенько прэдстаўляемо, кіруйцеса дзержаўным розумам; арентацыяй справы, як у Вас там яна стаіць. Тэлеграфуйце аба ўсем як найхучэй, ці прышлеце спэцыальнага дэлегата. Місыю у Амэрыку адпраўце. Езавітаў у Юрьеве працуе з Entente Cordiale, а я прыехаў у Бэрлін за грашмі т.-е. у сумі 430.000, але далі толькі 30.000. Я выезжаю зноў экстранно на мейсцовую працу.

Шлю Вам мае шчырае пажаданьне

ЯЧэрэпук

19/XI P.S. Пан Дубікоўскі скажэ аба ўсем падробна.
*582.2.32:037&r-038*

**1499. Ліст старшыні Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі Антона Луцкевіча старшыні Рады Народных Міністраў Украінскай Народнай Рэспублікі за 19.11.1919 (вых. № I-231)**

Яго Міласьці Высокапаважанаму
Пану Старшыне Рады Народных Міністрау
Украінскае Народнае Рэспублікі

Згодна з паунамоцтвам, выданым Радою Народных Міністрау Беларускае Народнае Рэспублікі ад 22 тр[а]уня 1919 году і прыложаннам да заявы Нашаго Пасольства аб пазыке ад 15 лістапада 1919 году, маю гонар прасіць Вас Высокапаважаны Пане Міністр, у выпадку ласкавае пастановы аб пазыке, зрабіць распараджэньне аб выпісаньні патрэбных аккрэдытываў на імя Нашаго Надзвычаінаго Пасла пры Укранскім Урадзе П. Аляксандра Цьвікевіча
*582.2.40:035 — мк*

**1500. Паўнамоцтва Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі Аляксандру Цьвікевічу за 19.11.1919 на атрыманьне ім 50.000.000 карбованцаў у якасьці пазыкі ад Ураду УНР Ураду БНР**
*582.2.40:036 — мк*

**1501. Пратакол сустрэчы Антона Луцкевіча зь Юзэфам Пілсудскім у Варшаве 20.11.1919**

Пратакол

Варшава, 20 лістапада 1919. Сягоньня ў 1 гадз. папалудні я быў прыняты п. Начальнікам Польскай Дзяржавы, Язэпам Пілсудскім, у Бэльвэдэры.

Прыпомніўшы заявы п. Пілсудскага прадстаўніком беларусоў у Менску і мне ў пачатку верасьня ў Варшаве, што ён нічога ня мае проці аднаўленьня працы Рады Рэспублікі, я расказаў яму аб прашкодах, чыненых Радзе мясцовымі польскімі ўладамі ў Менску і аб трэбаваньні, каб беларускія установы ачысьцілі Юбілейны Дом у 24 гадзіны, што было раўназначным зрыву засяданьняў Рады[1].

П. Пілсудскі пацьвярдзіў свае даўнейшыя заявы і высказаў зьдзіўленьне з прычыны паступкаў менскіх улад. Ён высказаў думку, што ініцыятыва магла выйсьці ад праваслаўнага духавенства, і пытаўся, чы Рачкевіч быў у гэтым часе ў Менску? Усё-ж згодзіўся з тым, што тут ясна жаданьне сарваць Раду.

Пасьля высьненьня мной ролі духавенства і абзнаёмленьня з дакумэнтамі (копіі перапіскі Нацыян. К-ту з менскім урадам), а такжа пасьля маей заявы, што Рачкевіч выехаў з Менску і што яго становішча не давала повады думаць аб варожых адносінах да Рады (што пацьвярдзіў і Пілсудскі), Начальнік П<ольскай> Дз<яржавы> запісаў сабе гэту справу абшырна на паперы і спытаўся йшчэ, што было пастаноўлена на першым засяданьні Рады[2]. Відаць, ня бачучы нічога для сябе благога ў гэтых пастановах, п. Пілсудскі сказаў, што ён аб усей справе перагаворыць з Асмалоўскім і Рачкевічам[3], калі той у Варшаве.

На заяву маю аб ухваленым Радай даручэньні мне пачаць перагаворы з польскім урадам аб прызнаньні дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі п. Пілсудскі сперша нічога не адказаў, а закрануў гэту справу пазьней.

Чароднай справай была справа беларускіх школ у Горадзеншчыне. Я паказаў прысланыя мне вучыцельскай арганізацыяй копіі сялянскіх прыгавораў аб школах, пакінутых без рэзультатаў школьным інспэктарам[4]. Пілсудзкі уважна прачытаў іх і ўзяў спіс вёсак, з якіх яны былі, на якім тут-жа напісаў нейкую рэзалюцыю, абяцаўшыся учыніць належныя крокі дзеля здаволеньня жаданьня сялян. Калі-ж я яму расказаў аб палажэньні ў паветах, анэктованых ужо палякамі (Сакольскім), то П. адказаў, што тут будзе цяжэй што-колечы памагчы.

Далей я расказаў п. Пілсудскаму аб палітычных настраеньнях у Менску у зьвязку з выбарамі ў самаўрады і да палітычнай рэпрэзэнтацыі, высьніўшы матывы адмовы беларусаў ад учасьця ў выбарах. П. высказаў свой вялікі жаль, а далей — пераходзячы да палітычных выбараў — згодзіўся, што польскі сэйм ня мае права ладзіць гэных выбараў, і прапазыцыя Недзялкоўскага ім адкінута (usunięta). Выбары могуць быць праведзены толькі яго, Пілсудскага, уласьцю, і ён хацеў абаперціся на самаўрадах. На маю заяву, што ўчасьце самаўрадаў — толькі тэхнічнае, а тут патрэбно імя Рады Рэспублікі, — П. сказаў, што гэта справядліва і трэба знайсьці нейакі компроміс. Ён думае, што найлепей у дэкрэце аб выбарах базіравацца на высказанным Усебеларускім Зьездам і Радай рэспублікі жаданьні сазыву Констытуанты. З выбарамі П. не сьпяшаецца, бо хоча выждаць мамэнт упадку пабедных надзей Денікіна, што адабьецца на настраеньні масквафільскіх элемэнтаў.

На маё пытаньне аб адносінах да пытаньня аб прызнаньні незалежнасьці Беларусі і яе дзяржаўных органаў, якім павінна быць здадзена часьцямі і ступянёва ўлада, П. заявіў:

Зрабіць гэтага ён цяпер ня можа: гэтаму прашкаджае благая палітычная кон'юнктура і тыя атакі, якія робяць на яго антанта і Денікін. Беларуская справа — раўнуючы да украінскай і літоўскай — найменш палючая для Расеі і падтрымоўваючай яе Англіі, і яна аўтоматычна пройдзе вельмі лёгка, калі ўсё пойдзе добра на фланках: украінскім і літоўскім. З украінскай справай — вельмі блага, бо яна лішне палючая для заінтэрэсованых старон. Ён, Пілсудскі, выдзяржаў цяпер цэлы штурм, каб рабіў саюз з Дэнікіным: на яго насядалі і эндэкі, і наагул палякі, — ды ён, як цьвёрды літвін, не падаўся. Цяпер няўдачы маскалёў[5] умацоўваюць яго, П., становішча, але і Украіны ён яшчэ афіцыяльна прызнаць ня можа. — Лепей стаяць справы на паўночным фланку — літоўскім, і П. мае ў гэтым кірунку ўчыніць крокі, што можа адбіцца і на ролі Беларусі.

Што датычыцца перадачы ўласьці беларускім установам, П. сказаў, што ён можа запрапанаваць падход да гэтага з другога боку: дарогай прыняцьця ўчасьця ў часовым (падчыркнуў гэта) упраўленьні краем, ладжаным палякамі. Прызнаваючы карыснай і патрэбнай нашу заграпічную работу, ён прызнаў патрэбным істнаваньня Рады Рэспублікі, ад імя каторай, як прадстаўніцы ўсяе Беларусі, мы прамаўляем заграніцай.

Гаворачы аб працы у краю, П. адзначыў, як факт для нас карысны, паддзержку П.П.С., але радзіў увайсьці у зносіны і з такімі арганізацыямі, як «Straż Kresowa» (ня ўсімі, а толькі кіраўнікамі, бо там у масе сядзяць эндэкі) і з «краёвцамі» — зубрамі. Ён гэтымі днямі меў з імі гутаркі і мае ўражэньне, што мы з імі маглі-бы зыйсьціся на палітычнай плятформе. Ведама, зубрам трэба было-бы даць якуюсь прыемную разьвязку зямельнага пытаньня. Назваў, як разумнага, імя Мэйштовіча.

У канцы я папрасіў даць загад, каб Грыба, які сядзіць бяз права выезду і пад залогам у Горадні, пусьцілі ў Менск на сэсію Рады. П. абяцаўся гэта зрабіць і таксама запісаў.

Агульны характар гутаркі быў вельмі ветлы і прыхільны, — ведама, на грунце польска-беларускай дзяржаўнай фэдэрацыі, — больш ветлы і просты, чымся першы прыём мяне з Цьвікевічам у верасьні.

Ант. Луцкевіч
Старшыня Рады Нар. Міністраў Беларуск
*582.2.13:032&r-036&r — р*

---

[1] Пасьля паседжаньня Рады БНР 12.11.1919, на якім была ўхваленая радыкальная рэзалюцыя эсэраў. [2] Першае пасяджэньне Рады адбылося 9.11.1919. [3] У тым часе — генэральны камісар Усходніх Земляў і камісар Менскай акругі. [4] Гл. дакумэнты №№1398-1399. [5] Маецца на ўвазе параза Дзянікіна ў ягоным паходзе на Маскву ў кастрычніку 1919 году.

**1502. Беларускае Прэс-Бюро (?). №24. 20.11.1919**

Предстаячы сазыу Рады. — Нямеччына і акраіныя гаспадарства. — Абъеднаньне беларускіх жыдоу. — Геройскі подвіг аднэй патріоткі
*582.2.44:004&r-005&r — шк*

---

Месца выданьня невядомае (Менск?).

**1503. Паведамленьне Канфэрэнцыі паслоў Беларускай Народнай Рэспублікі ў Бэрліне за 20.11.1919 (вых. №1) міністру абароны БНР Аўгену Ладнову аб пастанове Канфэрэнцыі ў справе выдзяленьня яму 25.000 марак на арганізацыйную працу па фармаваньню беларускага атраду ў Францыі**

*582.2.33:073 — мк*

**1504. Паведамленьне Канфэрэнцыі Паслоў Беларускай Народнай Рэспублікі (Бэрлін) Надзвычайнай Місіі БНР у Нямеччыне за 20.11.1919 (вых. №2) аб зацьвярджэньні каштарысу ўтрыманьня Місіі ў памеры 18.300 марак на месяц**

*582.2.31:010 — мк*

**1505. Ліст міністра замежных справаў Латвіі Зігфрыда Мэеровіца (Рыга) шэфу Вайскова-Дыпляматычнай Місіі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Рызе Кастусю Езавітаву (Дэрпт) за 20.11.1919 з падзякаю за віншаваньні**

*582.2.32:091 — рк*

**1506. Інфармацыя аб пастановах канфэрэнцыі [Беларускай Партыі Сацыялістаў-Рэвалюцыянэраў?] за 20.11.1919**

Было 12 чалавек.

1. Войска беларускае павінна фармавацца на дэмакратычных асновах. Сябры партыі і фракцыі кап працавалі пры фармаваньні і арганізоўвалі вайсковыя гурткі.

2. Партыя падтрымлівае Глаўнакамандуючага беларускага войска па стольку, па скольку ён будзе фармаваць па духу беларускае войска і будзе бараніць інтэрэсы рэспублікі, як незалежнасьць і непадзельнасьць.

3. Беларускія школы павінны быць пастроены па прынцыпу едынай, працоўнай школы і быць дарэмнай. Старацца адчыняць тэхнічныя школы. Школьных працаўнікоў добра абязпечыць матэр'яльна і для яго разьвіцьця закладаць бібліатэкі, устраіваць курсы, экскурсіі і зьезды. Зьвярнуць увагу на ўнешкольную асьвету.

4. Прымаючы пад увагу тыя варункі у якіх знаходзіцца наш пралетарыят і трудавое селянства, а так сама тые гістарычныя перашкоды, пры якіх ня мог развівацца ен нацыянальна, культурна і соцыяльна, прызнаецца едыны прынцып улады на Беларусі толькі прынцып радавай рэспублікі.

5. Дамагацца скліканьня другога ўсебеларускага зьезда.

6. Старацца закладаваць селянскія і прафэссіянальныя хаўрусы.

7. У арганізуемам інтэрнацыянале[1] учасьце прыняць.

8. У канфэрэнцыі нацыянальных сацыялістаў у Варшаве учасьце прыняць.

9. Зьвярнуць вялікую увагу на працу ў кооператывах.

*582.2.38:083 — рк*

---

Надпісана рукою В.Ластоўскага: «аб конфэрэнцыі 20.XI-19 у выкладзе гр. Вальковіча». [1] Маецца на ўвазе 3-ці (Камуністычны) Інтэрнацыянал, заснаваны ў сакавіку 1919 году.

**1507. Нарыс [праграмы Беларускай Партыі Сацыялістаў-Рэвалюцыянэраў?]**

Нарыс.

1. Незалежнасьць і непадзельнасьць Беларусі ў яе этнаграфічных межах.

2. Земля павінна належыць да таго, хто на ей працуе. Дзеля гэтага, земля на абшарах Беларусі павінна перайсьці у рукі працоўных грамадзян Беларусі. Дзяржава павінна мець зямельны фонд дзеля падняцьця агрыкультуры і прамысловасьці. Усе лясы, вазеры, рэкі, балоты і недры зямлі павінны быць нацыяналізаваны. Норма зямлі не павінна перавышаць працоўнай і не ніжэй прадавольственнай.

3. Рабочае пытаньне разглядаваецца праз прызму пераходу ад капіталістычнага к сацыялістычнаму строю шляхам разьвіцьця праізвадзіцельнай і патрабіцельскай кооперацыі. Нацыяналізацыя крупнай прамысловасьці і гандлю. 8 гадзінны рабочы дзень і страхоў рабочых за кошт прэдпрыемства.

4. Асьвета павінна быць агульная, дарэмная. Едыная працоўная аўтаномная школа. Адміністрацыя міністерства прасьветы павінна быць у руках настаўніцкіх саюзаў.

5. Поўная свабода усім грамадзянам, жывучым на Беларусі. Свабода сумленьня, слова, друку, агульных сходаў, саюзаў, забастовак, незачэпнасьць асобы, памешканьня і гэтак далей...

*582.2.38:083г — рк*

**1508. Ліст Палуты Бадуновай (Менск) Антону Луцкевічу (Варшава) за 20.11.1919**

Сябар Луцкевіч!

Пасылаем да Вас нашага віленскага таварыша Белькевіча, каторы усю нашу справу складзе перад Вамі. А справа так стаіць, што Раду зачыняюць голадам і холадам. Бяруць ізморам. Ня ведаю хто тут праў, хто вінават, нехай нас разсудзіць гісторыя, каторая нікога не абміне. Адно толькі ясна, што у першую чаргу праваліваюць Раду тые людзі, каторые не падумалі аб хлебе насушчнам для Рады.

І вось мы цяпер з'яўляемся сьведчыкамі таго, як Рада з кожным днем раз'езжаецца.

Есьць людзі «з нашых» каторыя не хацелі склікаць Раду, каторыя і цяпер рады, што яна разходзіцца.

Але сільны беларускі пролетарыят і ен хоць сягоньні разойдзецца заўтра збярэцца і ужо нема той сілы, якая б нас разагнала. Усе польскія эндэцкія інтрыгі, усе інтрыгі «нашых не хочучых Рады» нуль.

Народ падняўся і патрэбуя адчота і загавора громка.

Тутака атрымалі Вашу тэлеграмму, аб тым што Вы не едзеце з-за тога, што нема Дубейкоўскага. Гэта вельмі шкодна, што Вы не едзіце. Тутака усе у страшэннам непаразуменьні. Кажуць, што Вы спецыальна не едзіце і г.д. Адно толькі відаць, што Вам трэба прыехаць, зрабіць даклад, а посьле Вы можэце, калі гэта патрэбна зноў уехаць для перагавораў. Мы

не можам больш чакаць і пойдзем на рашыцельные шагі. Тутака нема ні капейкі грашэй. Усе галадаюць, негадуюць і шмат хто едзе дамоў не з чым. Пачакаем яшчэ 4-5 дзен і перавыбары прэзыдзіуму зробім і вынесем яшчэ некалькі рэзалюцыяў а посьле пойдзем да народу, каб усю справу асьвеціць з усіх бакоў.

Калі Урад не лічыцца з народам, дык народ тым болей павінен не лічыцца з Урадам. Тые прэдстаўнікі Ураду, якія есьць тутака паказалі усю сваю нездольнасьць, альбо рабілі нарочна. Бо я ведаю, што Вы цьверда стаялі на грунце созыва Рады і што вельмі мякка сталі на гэты грунт Смоліч і разам з ім Цярэшчэнка.

Ведайце, што усе за Вас, но усе проціу Вашага Міністэрства і не наша віна, а віна усяго міністэрства, калі мы аславім яго на увесь мір перавыбраўшы міністэрства без яго ведама. А мы гэта зробім, калі не убачым іншага выхаду.

Я добра ведаю, што міністры Вас не слухалі і на гэты раз не паслухалі. Я усей душой стаю за Вас, но я усімі сіламі буду стаяць проціў усіх міністраў. Яны губяць нас і мы будзем ім адказываць.

Мы многа цярпелі радзі ідэі нацыанальнай, але калі і яе губяць мы ужо паднімемся.

Вітаю Вас і толькі ад Вас чэкаю спасеньня. Ведаю, што любіце бацькаўшчыну больш, чым сябе.

Палута Бадунова
20го лістападу 1919 году
Менск-Беларускі
*582.2.46:064&r — ра*

**1509. Тэлеграма Кастуся Езавітава (Дэрпт) Антону Луцкевічу (Варшава) за 21.11.1919**

= warszva hotel saski luekoewiczu =

dorpat 2+ 288/21: + 19/18/11; 1 20/27 =

general balachowicz atradam piereszol bielaruskijus sluszbu pracuju jurjewskaj konferencjji czekaju wiestak riga nikolaewskaja 20 = ezawitow .

*582.2.32:040*

**1510. Ліст Аркадзя Смоліча (Менск) Антону Луцкевічу (Варшава) за 21.11.1919**

21-XI 919
Менск

Дарагі пане Антоне!

П. Кузьма[1] казаў мне, што ён піша да Вас даўжэзныя лісты. Дзеля гэтага, я ня буду затрымліваецца на усякіх дэталях і конкрэтных фактах. Скажу толькі наогул — што нашая праца нормальна разьвіваецца і паскараецца, што павінна былоб даваць нам усякія ясныя надзеі — ня гледзячы нават на усю няпэўнасьць становішча і провокацыю, якой мы акружаны. Нехватае сэр'ёзных працаўнікоў. Усе чакаюць напр. Тарашкевіча. Праца трымаецца на 2-3 людзях; рэшта таўчэцца бяз наўды. Праўда, добра ужо

тое, што ня шкодзіць — ці можа — менш шкодзіць у працы — што я прыпісую энэргічнай чыннасьці п. Кузьмы. Аднак і цяпер мы церпім у сваім гуртку вельмі няпэўных людзей, аб якіх саўсім вядома напр., што яны усё перاказуюць маскоўскім кругам. Але добра тое ужо, што аткрытая і прылюдная брахня іхная — як бы зьменшылася. Унутраная барацьба сьціхла. Але памятайце, што хутка п. Кузьма будзе бязсільным і яму трэба памагчы.

Затое знадворныя адносіны нашыя прымушаюць хацець куды лепшых. Абяцанкі Асмалоўскага засталіся абяцанкамі, а міліоны — пуфам. Добра што хоць на курсы крыху дасталі — і то ж яшчэ невядома, ці усё выдадуць. Найгорай, гэта, што яны здаецца ня чуюць тут ані — грунту пад нагамі. Анархія, ведама, поўная у іх самых. Аднак, падкрэсьлю яшчэ раз, мей мы большыя грошы — маглі6 шмат зрабіць. Бо працаваць можна. Між іншым наш адэссіт Трафімаў залажыў у Навагрудку паветавую Раду; зрабіў гэта, здаецца, з вялікім гукам. Так сама пачынаецца рух і у іншых паветах. Але на жаль такіх Трафімавых мы маем вельмі мала, а хутка ня будзем мець за што іх у дарогу выправіць.

Што рабіць далей — пакуль што аб гэтым німа часу думаць. За шмат ёсьць тэрміновай працы. Што да Вас, думаем тут мы, ці не ляпей былоб вярнуцца Вам назад. Ад гэтага нашая вага, уплывы, значэньне, здаецца-б шмат вырасьлі. А цяпер мы — з галавою ў балоце. Хай хоць галава будзе на волі. Рады Рэспублікі тымчасам можа зьбіраць і ні варта. Можа ляпей перачакаць і хоць ёй не кампрамітавацца. Тым больш, што і рабіць ёй німа чаго, усё робіцца і без яе. Я лічыў бы больш карысным, каб Вы выклікалі да сябе такіх — Лесіка, Прушынскага, Ігнатоўскага, можа Косьцевіча у Варшаву на нараду, а пасьля выехаліб. Яныб супакоіліся і шмат чаго выясьніласяб. Праўда яны і цяпер сядзяць ціха (дзякуючы Кузьме) — але гэта да часу толькі.

Што да нашых «праваслаўных» соцыялістаў[2], дык мяне іхнае маўчаньне даўно непакоіць. Так сама баюся фокусаў п. Язэпа[3] і лічу іх саўсім мажлівымі. Раіў-бы пакуль-што не чапаць іх. Самае каштоўнае, што мы маем — гэта еднасьць справы беларускай, еднасьць руху, еднасьць прадстаўніцтва. На карысьць гэтага шмат чым можна ахвяраваць.

Каліб якая Бэр<лінская> авантура[4] удалася, мы маглі-б апынуцца у самым дзікім становішчы, пры разьбітым карыце, папраўдзі. Дзеля гэтага трэба паклапаціцца зараз-жа. Трэба паслаць туды каго-небудзь паважнага — найляпей бы можа каго з с.р., бо іх там крыху баяцца. Але трэба пасылаць на гвалт хутчэй.

Паведамце мяне, як стаіць справа з маімі арыштаванымі дакумэнтамі і калі іх не удалося адабраць, дык пастарайцеся, будзьце ласкавы, а то мне гэта вельмі непрыятна.

Тым часам бывайце здаровы
Аркадзь
*582.2.46:054&r-055&r — ра*

[1] Цярэшчанка. [2] Сацыял-фэдэралісты (Захарка, Цьвікевіч, Крэчэўскі, Езавітаў). [3] Варонка. 4 Маецца на ўвазе вэрсія А.Луцкевіча аб змове рыхтаванай супраць яго ў Бэрліне Васілём Захаркам.

**1511. Тэлеграма Антона Луцкевіча (Варшава) Кастусю Езавітаву (Рыга) за 22.11.1919**

Jezowitow
Biełaruskaja Misija
Nikolajewskaja 20
Ryga

Telehramu pierachodzie Bałachowicza atrymaŭ. Winszuju udaczy. Zwiażyciesia abodwa ministram abarony Ładnowym Paryżu 24 rue Bayard telehrafujcie Ładnowu mnie detali czysło ludziej. Padnimicie sprawu wajennaha sajuza Łatwijaj Estonijaj. Sesija Rady Miensku adkryłasia, jedu tudy praz try dni.

Łuckiewicz.
22.XI.19. Warszawa, Hotel Saski.
*582.2.32:039 — рк*

**1512. Тэлеграма Антона Луцкевіча (Варшава) Аўгену Ладнову (Парыж) за 22.11.1919**

Colonel Ladnoff
24 rue Bayard
Paris.

General Balakhovitch avec son detachement est au service du notre gouvernement. Entrez en communication avec Esovitoff Riga 20 Nikolaievskaia.

Question d'emprunt sera resolu hereusement malgré situation penible des nos alliés[1].

Loutckevitch

22.XI.19. Varsovie, Hotel de Saxe
*582.2.33:083 — рк*

[1] Перамовы аб пазыцы вяліся ў Варшаве з прадстаўнікамі УНР.

**1513. Тэлеграма Антона Луцкевіча (Варшава) Міколу Вяршыніну (Прага) за 23.11.1919**

Verszynin
Sokolska 22
Praha

Czemu Dubiejkowskiego niema telegrafujcie grozi katastrofa
Łuckiewicz

23.XI.19 Hotel Saski
*582.2.30:009 — рк*

**1514. Тэлеграма Антона Луцкевіча (Варшава) Лявону Зайцу (Бэрлін) за 23.11.1919**

Sajatz
Motzstrasse 21
Berlin.

Pieniądze żonie dawano póki były wasz sabotaż odbił się na niej na całej robocie wszystko rozbijacie panuje głód nędza Arkadź telegrafuje żona jechać nie może prosi pieniędzy głoduje dziecko chore

Łuckiewicz
23.XI.19. Hotel Saski
*582.2.31:033 — рк*

**1515. Тэлеграма Васіля Захаркі (Прага) Антону Луцкевічу (Варшава) за 24.11.1919**

pylna - kuckiewicz warszawa hotel saski
" praha 7297 14 24 12-30 ppwktbl =
ja pietro[1] euchim[2] dubejkowski wyjezdzajem pragi warszawu zawtra
= bazyl =
*582.2.30:008*

[1] Крэчэўскі. [2] Бялевіч.

**1516. Даклад упаўнаважанага БНР па справах ваеннапалонных беларусаў у Чэхаславаччыне Міколы Вяршыніна (Прага) Прэм'ер-Міністру Беларускай Народнай Рэспублікі Антону Луцкевічу (Варшава) за 25.11.1919**

Яго міласьці пану Прэзыдэнту Міністрау
Беларускай Народнай Рэспублікі

Упаунамочанаго па справам ваенна-палонных беларусау у Чэха-Славацкай рэспубліце
Мікалая Вершыніна

Даклад

Выбачаця пане Прэзыдэнце, што асьмеліваюся дакладываць Вам а сваем паложені у Празе, бо лічу гэту речь не як сваю прыватную, але як нашу грамадзянскую (гасударственную). Кожны ведае, што нам трэба мець у Празе прэдстауніка, але калі яго німа, я стараюся як магу рэпрэзантаваць Бѣларусь. Вось калі бываюць тут неякія торжества і я там бываю каб ведалі што ёсьць наша Рэспубліка і каб напісалі у газэтах. Акром гэтаго раблю усе што магу на карысьць нашай дарагой бацькаущыны. Але не ведаеце пане Прэзыдэнце як мне трудна жыць за гэты грошы 900 карон у месяц што атрымываю, бо калі гэта пэнсья (летам гэтага году) мне назначалася усе было на палавіну таней як цяперь. Я не магу сраунятца с украінскімі пісарамі, якіе толькі знаюць перэпісаць з чорнаго набела, але дастаюць па 1500 кар. у месяць, а іх упоунамочаны па справам палонных атрымывае 4000 кор. а калі гдзе едзе то яще — сутачныя. Я ведаю што наш урад ня може так щодра плаціць, але усе такі мне здаетца што трэба памяркаваць так, каб справа хутчей ішла, бо калі я павінен адрыватца ад работы і даваць лекці то гэта шкодзіць нашай справе.

Па гэтаму асьмеліваюся вельмі прасіць Вас пане Прэзыдэнце а павелічені мне пэнсіі.

Пакорны слуга Ваш
Мікалай Вершынін.

Прага II
25 лістападу 1919 г.
Praha II
Wenzigová 4
*582.2.30:006&r — ра*

Рэзалюцыя А.Луцкевіча: «Варшава 28.XII.19. Павялічыць ад 1.I.20 пэнсію да 1.500 чэскіх корон».

**1517. Тэлеграма Кастуся Езавітава (Рыга) Антону Луцкевічу (Варшава) за 25.11.1919**

= lukiewiczu hotel saski larszawa =

roga 210 30 14. 45 =

kanferencyja jurbiewie pryznala niezaliegnasc bielarusi kropla duschewski dabinsja aficyalnaha pryznania ad finlandzii kropka pracujem kantakcie kropka asobny atrad bielaruskai respubliki pad kamandaju balachowicza dobra wajuj = egawitan +

*582.2.32:041*

**1518. Зварот Міколы Андрушкевіча і іншых арыштаваных палякамі беларускіх афіцэраў (Ашмяна) да віцэ-старшыні Цэнтральнай Беларускай Рады Віленшчыны і Горадзеншчыны Міхася Кахановіча (Вільня) за 25.11.1919 з просьбай хадайнічаць аб іхным вызваленьні**

*582.2.33:119&r-120 — рк*

**1519. Тэлеграма Лявона Зайца (Бэрлін) Антону Луцкевічу (Варшава) за 26.11.1919**

= d =
luckiewiez hotel sasski warschau

berlin 83730 21 26 8 55 m

jazep[1] pawiedamlaje adjechausych ministerstwa majo zacyniajecca litwiny grodrenseyny admowilisia jazep prosie pietzu[2] dac restku hrocy zajac +

*582.2.31:043*

[1] Варонка. [2] Крэчэўскага.

**1520. Тэлеграма Аўгена Ладнова (Цюрых) Лявону Дубейкоўскаму (Варшава) за 26.11.1919**

=doubejkovsky 14,/12, rue kopernik varsovie , =

36976, -23, -23, / 12, 18/20= devie zuerych

recu telegramme anoin du 22 lui envoye 18 lettre par prague varsovie attends reponse et ordres , = colonel ladnoff ++++

*582.2.33:097*

**1521. Мэмарыял надзвычайнага паўнамоцнага прадстаўніка БНР у Балтыцы Кляўдыюша Душэўскага (Рэвэль) міністру замежных справаў Эстоніі за 26.11.1919 (вых. №40)**

Чрезвычайный Полномочный
Представитель
Бѣлорусской Народной Республики
при
Правительствахъ Балтiйскихъ Державъ
26 Ноября 1919 г.
№40
г. Ревель

Господину Министру Иностранныхъ Дѣлъ
Республики Эсти.

Въ теченiе лѣта этого года Совѣтскимъ Правительствомъ Россiи были мобилизованы граждане Бѣлоруссiи въ Смоленской, Витебской, Могилевской, Минской и Виленской губернiяхъ.

Мобилизованные, противъ ихъ желанiя, бѣлоруссы были направлены, между прочимъ и на эстонскiй фронтъ.

Войдя въ соприкосновенiе съ антибольшевитскими армiями, бѣлорусы перешли на ихъ сторону, предполагая черезъ Эстонiю, Латвiю и Литву возвратиться на родину въ очищенныя отъ большевиковъ мѣстности для занятiя мирнымъ трудомъ или для вступленiя въ бѣлорусскую армiю.

Сѣверо-Западнымъ Правительствомъ значительное большинство изъ перешедшихъ было включено въ ряды армiи генерала Юденича, гдѣ они и находились до послѣдняго времени.

Развалъ Сѣв.-Зап. Армiи освобождаетъ всѣхъ бѣлоруссовъ отъ необходимости бороться за идею «Великой и Недѣлимой» и даетъ имъ возможность вступить въ Бѣлорусскую армiю.

Это ихъ желанiе облегчается тѣмъ обстоятельствомъ, что съ согласiя Эстонскаго Главнокомандованiя и вѣдома Эстонскаго Правительства уже работаетъ при 2-ой эстонской дивизiи, рука объ руку съ эстонской армiей и Особый отрядъ Бѣлорусской Народной Республики подъ командой генерала Булакъ-Балаховича.

Для насъ является очень важнымъ использовать тѣхъ бѣлоруссовъ изъ Сѣв.-Зап. армiи, которые желаютъ бороться за независимость Бѣлоруссiи и всѣхъ образовавшихся на развалинахъ Россiи Государствъ и влить этотъ элементъ въ составъ уже имѣющагося Особаго Отряда.

Основанiя, на которыхъ могло бы быть по взаимному соглашенiю опредѣлено положенiе Особаго Отряда Бѣлорусской Народной Республики на территории Эсти рисуются намъ въ слѣдующемъ видѣ.

1. На территории Эсти формируется Особый Отрядъ Бѣлорусской Народной Республики.

2. Отрядъ составляется какъ отдѣльная боевая единица изъ всѣхъ родовъ оружiя общей численностью до десяти тысячъ человѣкъ.

3. Отрядъ, до выхода на свою территорiю, подчиняется Эстонскому Главнокомандованiю.

4. Командный составъ отряда утверждается Бѣлорусскимъ Военно-Дипломатическимъ Представительствомъ въ Эсти.

5. Въ виду того, что въ настоящій моментъ Бѣлорусской Народной Республикѣ не представляется возможным сразу наладить снабженіе отряда изъ Бѣлоруссии и за счетъ Бѣлорусскаго Правительства Эстонское Правительство открываетъ на нужды Отряда за счетъ Бѣлорусскаго Правительства кредитъ въ размѣрѣ 10.000.000 эстонскихъ марокъ (десять милліоновъ эст.м.), а Эстонское Главнокомандованіе въ счетъ означеннаго кредита отпускаетъ всѣ необходимые для отряда виды войскового довольствія, руководствуясь въ данномъ случаѣ штатами, раскладами и окладами, принятыми въ Эстонской Арміи.

Примѣчаніе. Бѣлорусскому Правительству предоставляется право еще до исчерпанія всего кредита, частично или полностью налаживать снабженіе отряда за свой счет.

6. Суммы, взятыя изъ означеннаго кредита на нужды Особаго Отряда считаются Государственнымъ долгомъ Бѣлорусской Народной Республики и обезпечиваются ея имуществомъ.

7. Погашеніе долга производится въ теченіе срока не превышающаго пяти лѣтъ.

8. На предметы довольствія ежемѣсячно, смѣшанной Эстонско-Бѣлорусской Комиссіей устанавливаются цѣны соотвѣтствующія себѣстоимости этихъ предметовъ для Отдѣла Снабженія Эстонской Арміи.

9. На предметы вооруженія, снаряженія и обмундированія тѣмъ же порядкомъ устанавливаются цѣны на каждые три мѣсяца.

10. Отпускъ суммъ Эстонскимъ Казначействомъ для нуждъ Особаго Отряда, а также и отпускъ предметовъ снаряженія и обмундированія изъ Эстонскаго интендантства, производится по требованіямъ Командира Отряда подтвержденнымъ Бѣлорусскимъ Военно-Дипломатическимъ Представительствомъ въ Эсти.

11. Отпускъ кормового довольствія и вооруженія производится по требованіямъ командира отряда.

12. Отчетность отряда контролируется Бѣлорусскимъ Военно-Дипломатическимъ Представительствомъ совмѣстно съ представителями Эстонскаго Главнокомандованія.

13. Вся боевая добыча взятая Особымъ Отрядомъ отъ непріятеля поступаетъ въ собственность Бѣлорусской Народной Республики.

Примечаніе. Въ случаѣ необходимости и возможности уступить часть захваченныхъ Отрядомъ боевыхъ призовъ Эстонскому Главнокомандованію, уступленое имущество по оцѣнкѣ смѣшанной Эстонско-Бѣлорусской комиссіи засчитывается въ счетъ погашенія долга.

Чрезвычайный Полномочный Представитель
Бѣлорусской Народной Республики при
Правительствахъ Балтійскихъ Державъ

Шефъ Бѣлорусской Военно-Дипломатической
миссіи при Правительствахъ Латвіи и Эсти
*582.2.33:130&г-131 — мк*

**1522. Пячаткі Асобнага Атраду Беларускай Народнай Рэспублікі пад камандаваньнем генэрал-маёра Булак-Балаховіча 1919-1920 гг.**
*582.2.43:013*

**1523. Тэлеграма Міколы Вяршыніна (Прага) Антону Луцкевічу (Варшава) за 27.11.1919**
d ,= pan antoni luckiewicz warszawa hotel saski ,=
prag 9454-23 27 12-30
berlina telekrafuje pan zajac cieszko chory prosi zawiadomic jego zona by predko przyjechala do berlina - wierzynin
*582.2.30:010*

**1524. Тэлеграма Лявона Дубейкоўскага (Прага) Антону Луцкевічу (Варшава) за 27.11.1919**
warszawa hotel saski
luckyewicz =

praha 7701 10 24 7 45. - pwktbi :-

jutro wyjezdzamy zachaska kryczewski bielewicz :- lawon =
*582.2.31:035*

**1525. Ліст Міхася Кахановіча (Вільня) Антону Луцкевічу (Варшава) за 27.11.1919 з просьбай падтрымаць Віленскую Беларускую Гімназію**
*582.2.33:118&r-121&r*

---

У лісьце падаецца тэкст тэлеграмы Янкі Чарапука (Бэрлін) Міхасю Кахановічу (Вільня) за 22.11.1919: «Генерал Балаховіч перашоў служыць нашай рэспублліцы. Місія працуе на канферэнцыі ў Юр'еве. Грамадзянства настрояно патрыатычна да Ураду. Завяжэце зносіны з місіяй. Мобілізуемо беларусоў у Латвіі. Справа жыве. Перадайце Луцкевічу. Чарапук.»

**1526. Ліст Надзвычайнай Місіі Беларускай Народнай Рэспублікі (Бэрлін) доктару Рудольфу Абіхту (Брэслаў) за 28.11.1919**

Высока паважаны пане Прафэсару!

У звязку з выхадам у сьвет новай кнігі пад назвай «Беларусь»[1], да выданьня якой Вы, паважаны Прафэсару, далажылі саусім бэзкарысна вельмі многа працы, — Надзвычайная Дыпламатычная Місія Беларускай Народнай Рэспублікі у Нямеччыне лічыць сваім святым абавязкам ад імені Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі злажыць Вам, як найшчырэйшае беларускае дзякуй.

Беларускі народ, які скідае з сябе цяпер ланцугі як палітычнай, так і духоунай няволі, ніколі не забудзіцца на правадыроу усесьветнага руху чэлавецтва, якія незалежна ад іншай веры і нацыянальнасьці, прыйшлі яму з дапамогай у данны найцяжэйшы для яго момэнт.

Яшчэ раз прыміце, дарагі Прафэсару, найсэрдэчнейшыя выразы пашаны і паважаньня.

Арыгінал падпісалі: Надзвычайны Паунамочны Прэдстаунік Беларускай Народнай Рэспублікі у Нямеччыне Л.Заяц і Сэкрэтар Місіі Д-р Паулоускі.

*582.2.42:018 — мк*

[1] Jäger Walter. Weißruthenien: Land, Bewohner, Geschichte, Volkswirtschaft, Kultur, Dichtung. Berlin, K.Curtius, 1919.

**1527. Ліст старшыні Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі Антона Луцкевіча (Варшава) рэдактару газэты «Незалежная Беларусь» Янку Станкевічу (Вільня) за 28.11.1919**

Варшава, 28 лістапада 1919.

Кіраўніку выдавецтва часопісі
«Незалежная Беларусь», Я.Станкевічу

у Вільні.

Гэтым паведамляю Вас, што пастановай Ураду з 28.XI.19. асыгнована на падмогу выдавецтву часопісі «Незалежная Беларусь» у Вільні на рукі п. Тарашкевіча 20.000 польскіх марак, якія Вы маеце атрымаць цераз Беларускую Цэнтральную Раду Віленшчыны і Горадзеншчыны.

Ант.Луцкевіч

*582.2.37:036 — ра*

На лісьце прыпісана: «П. Б.Тарашкевічу

Грошы дваццаць тысяч (20.000) польскіх марак прашу перадаць рэдактару «Беларусі» п. Язэпу Лёсіку.

Я.Станкевіч
16 сьнежня 1919 г.
м. Менск».

**1528. Рапарт в.а. міністра фінансаў БНР Васіля Захаркі старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антону Луцкевічу (Варшава) за 28.11.1919**

Пану Старшыні Рады Народных Міністраў Б.Н.Р.

Рапарт

У дадатак рапарта маяго ад 31 кастрычніка г.г. за №14 данашу Вам, што я зноў захварэў і дзеля гэтага службовых абавязкаў выпаўняць ні магу.

В.аб. Міністра фінансау,
Міністр В.Захарко

№16
28.XI.19 г.
м. Варшава

*582.2.40:037 — ра*

**1529. Каштарыс выдаткаў на ўтрыманьне Беларускага Народнага Хору пад кіраўніцтвам Уладзімера Тэраўскага на сьнежань 1919 году**

*582.2.40:034 — ра*

**1530. Заява Янука Натусэвіча (Варшава) міністру замежных справаў БНР Антону Луцкевічу за 2.12.1919 з тлумачэньнямі прычыны няяўкі на месца службы, дзеля чаго ён быў вызвалены з займанае пасады і з просьбай аднавіць яго на пасадзе службоўца МЗС БНР**
*582.2.40:088&r — ра*

**1531. Справаздача аб дарожных выдатках Янука Натусэвіча падчас службовае камандзіроўкі з Бэрліну ў Беларусь у жніўні 1919**
*582.2.40:089 — ра*

Выехаў з Бэрліну 14.08.1919.

**1532. Ліст старшыні Слуцкага Беларускага Культурна-Асьветнага Гуртка «Папараць-Кветка» Андрэя Бараноўскага міністру ўнутраных справаў БНР за 2.12.1919 з просьбай аб матэрыяльнай падтрымцы выдавецкай дзейнасьці гуртка**
*582.2.46:098 — ра*

**1533. Ліст Эўгеніі Алексючанкі (Горадня) Антону Луцкевічу (Варшава) за 2.12.1919**
Гародня 2/XII-19 году

Паважаны Пане Старшыня!

Ніатрымаўшы на маю пісульку ні якой ад Вас весткі звертаюся яшчэ раз.

Маучаньне Вашэ відаць мае якіясь для мяне невядомыя прычыны? Хвароба маей Маткі і мая недае мне махчымасьці выехаць з хаткі і асабісьце з Вамі пагаварыць.

Пане Старшыня калі я ужо перэстала быць патрэбнай як курер калі ласка асвабадзеця мяне ад займованаго становішча, я з гордасьцю магу сказаць што выпауніла як шчырая беларуска непужаючаяся нічаго і нікаго.

Рожніца якая між мной і другімі курерамі была бож ні толькі у пасылце іх пры больш лепшых варунках, але і в аплаце я ніколі гэтаго пытаня не падымала бо я працавала не для грошэй, закранушы гэта пытане дзіулюся што Камарынец за стары час і цяпер атрымывае сутачныя па 50 марак, а я па 30 і платіла праз тры месяцы за нумер 22 маркі у дзень, а жыць мусела за 8.

Выбачце Пане Старшыня што Вам такімі глупствамі займаю час, але гэто само на папер з душы плыве.

Яшчэ прашу выбачыць што я усіх грошэй ні аддала Дзекуць-Малею, але хвароба маей Сястры так мяне зруйнавала бо каштавала дванадцаць тысяч і для гэтаго я зрабіла такую не тактоунасьць. Прашу Вас Пане Старшыня пазволіць выплаціць гэтыя грошы Вам у працягу трох месяцоў па 500 рублеу. Пры гэтым лісьце даручаю рахунак на даныя мне 1500 марак на дарогу, калі лічыце гэто махчымым прашу праз почту прыслаць належную пэнсыю за два месяцы і адказ чы я патрэбная як курер калі не то буду шукаць другой службы.

З пашанай Алексючанка
*582.2.46:122-123&r — ра*

**1534. Ліст Кіпрыяна Кандратовіча (Парыж) Антону Луцкевічу (Варшава) за 3.12.1919**

3 Декабря 1919.

24 Rue Bayard Paris VIII

Многоуважаемый
Антонъ Ивановичъ.

Пользуясь удобным случаемъ пишу Вамъ нѣсколько словъ о здѣшней обстановкѣ. Въ общемъ работа идетъ непрерывная и большая въ соотвѣтствіи съ тѣмъ направленіемъ, которое велось Вами за время Вашего здѣсь пребыванія, хотя за послѣднее время обстановка становится все болѣе и болѣе сложною, особенно въ виду событій на югѣ Россіи въ связи съ Украйною. Какъ эти событія отразятся на политической работѣ здѣшняго украинскаго представительства — насъ всѣхъ здѣсь въ высокой степени интересуетъ. Съ нашими общими знакомыми, съ Вѣрой Ник. во главѣ, поддерживается по-прежнему обычная связь. На дняхъ получилъ опредѣленныя свѣдѣнія о томъ, что вскорѣ будетъ созвана въ Лондонѣ или въ Парижѣ международная конференція для обсужденія и выработки общаго плана борьбы с большевизмомъ. Конференція эта закончитъ свои работы въ Варшавѣ, туда переѣдетъ из Лондона или Парижа по окончаніи здѣшнихъ совѣщаній.

На конференціи будутъ приглашены представители всѣхъ союзныхъ государствъ, а также Россіи (от Колчака, Деникина и др.) и всѣхъ новыхъ образованій на территоріи Россіи, значитъ и Бѣлоруссовъ. Считаю долгомъ объ этомъ поставить Васъ въ извѣстность, такъ какъ это вопросъ чрезвычайной важности, для личныхъ Вашихъ соображеній, и совершенно конфиденціально. Это самый главный вопросъ въ данное время. Сегодня пріѣхалъ Барковъ (за своими вещами) на нѣсколько дней. Ладнова еще нѣтъ. Ждемъ на дняхъ. Завязаны тѣсныя связи со здѣшнею печатью. Разнесся слухъ, будто вмѣсто Баркова секретаремъ сюда пріѣдетъ отъ Васъ фонъ Дитманъ. Было бы очень желательно никакого секретаря сюда не присылать, особенно потому, что въ матеріальномъ отношеніи делегація находится въ критическом положеніи: съ 1 Января никто никакого содержанія уже получать не можетъ, такъ какъ нужно уплатить за квартиру до 1 Апрѣля согласно контракту, а курсъ марокъ палъ невѣроятно (до 5 марокъ за 1 франкъ). Средствъ на командированіе представительства въ Лондонъ, если понадобится (что вѣроятно), уже нѣтъ, считая и всѣ средства, оставленныя Вами Ладнову, такъ что можетъ получиться крайне нехорошая обстановка. Будьте добры сообщить возможно скорѣе Ваши по этому дѣлу соображенія. Шлемъ Вамъ нашъ сердечный привѣтъ и самыя лучшія пожеланія.

Искр. Васъ уважающій К.Кондратовичъ.

Получаете ли Вы наши письма? Въ томъ числѣ мое съ выраженіемъ глубокаго соболѣзнованія по поводу кончины Вашего бѣднаго брата?

Бѣлевичъ уѣхалъ къ Вамъ, поэтому посылаю Вамъ обратно письмо на его имя.

*582.2.33:003&r-004&r*

**1535. Тэлеграма Аўгена Ладнова (Бэрлін) Антону Луцкевічу (Варшава) за 3.12.1919**

=d= luckiewiczu hotel sasski warszawa =

d berlin 30+47730 37 2 2 s

= my barkowym wyjechali paryz posle likwidacyi tam sprau barkou wierniecca 10 snieznia prymac sprawy zajca jakomu abawiazkowa treba jechac laczycca wasz pryjezd paryz dlarazwiazki najwazniejszych pytanniau niabchadzimy choc naparu dzion abawiazkowa ladnou +-+.:

*582.2.33:112*

**1536. Рапарт консула Беларускай Народнай Рэспублікі на Паўночным Каўказе Аляксандра Вальковіча старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антону Луцкевічу за 4.12.1919 аб прыбыцьці ў Менск**

*582.2.46:070 — ра*

**1537. Пераклад ліста Рудольфа Абіхта (Брэслаў) Надзвычайнай Місіі БНР у Бэрліне за 5.12.1919**

У Надзвычайную Місію
Беларускай Народнай Рэспублікі
Бэрлін.

Гэтым падцьверджаю з шчырай падзякай атрыманьне удзячнаго лісту ад імені Беларускаго Ураду, а так сама і 5 кніг «Беларусь».

Мая супрацоуніца есьць Эльза Вэцман, жонка Надзвычайнаго Прафэсара Эрыха Вэцмана, вядомага фізыка нашаго унівэрсытэту. Яна жыве у тым жа доме, дзе і я: Брэслау XVI, Ганзештрассе №11.

Пры выпадку Вас паведамляю, што я саставіу граматыку беларускай мовы як на беларускай, так і на нямецкай мовах. Я аддаю бэзплатна абодвы манускрыпты Беларускаму Ураду, калі ен захочыць друкаваць, але хацеу бы мець раджэнаго беларуса, як супрацоуніка. Ен не абавязаны знаць ні філелагічныя, ні граматычныя правілы, але павінен быць у састаяньні у беларускім тэксьце галосныя літаркі абазначыць па праізнашэньню. Беларуская граматыка у нямецкай мове была бы годнай, каб доказаць, што беларускі язык такі самы самасьційны, як і украінскі. Каб аблехчыць распаусюжываньне гэтай граматыкі на заходзе, добра было бы яе выдаць латынікай, як далучэны да гэтаго буквар.

Вашаго любезнаго адказу па беларуску чэкаючы і заусегды гатовы працаваць для культурнаго адраджэньня Беларусі

Ваш пакорнейшы слуга прафэсар дохтар Абіхт.

З арыгіналам згодна:
Сэкрэтар Місіі Д.Паўлоўскі
*582.1.46:016 — мк*

**1538. Перадрук артыкулу: Rada Białoruska rozwiązana // Głos Litwy (Вільня). Nr.167. 5.12.1919**

*582.2.50:012 — мк*

**1539. Пратакол сходу Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі ў Менску за 5.12.1919**

Журнал
сходу Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі ад 5 сьнежня 1919 г.

Былі на сходзе А.Луцкевіч, В.Захарко, А.Смоліч і К.Тарэшчанка

Слухалі: даклад народных міністраў К.Тарэшчанкі і А.Смоліча аб асыгнаваньні належных суммаў на выдаткі па іх ведамствам.

Пастаноўлена: 1) асігнаваць народнаму міністру К.Тарэшчанку на выдаткі у справах мяйсцовых арганізацый шэсьць тысяч пяцьсот марак нямецкіх (6.500 мар) і семдзесят адну тысячу семсот (71.700) марак польскіх.

2) асігнаваць спаўняючаму абавязкі народнага міністра прасьветы А.Смоліча на выдаткі у справах прасьветных восемдзесят тысяч восемсот (80.800) марак польскіх.

Слухалі: даклад міністра фінансаў аб сьпісаньні з рахункаў шасьцёх тысяч руб. керанскіх (6000), якія перасыланы былі цераз Александра Функа сем'ям, застаўшымся ў Менску, 4 сакавіка 1919 году і Функам недастаўленыя на мейсца.

Пастанавілі згодзіцца з дакладам міністра фінансаў і сьпісаць з рахункаў.

Старшыня сходу Ант. Луцкевіч
В.Захарко К.Тэрэшчэнко Сябра А.Смоліч
*582.2.01:066 — ра*

**1540. Ліст міністра фінансаў БНР Васіля Захаркі (Менск) міністру замежных справаў БНР Антону Луцкевічу (Менск) за 6.12.1919**

Яго Міласьці
Пану Міністру Загранічных справаў

Пры гэтым пасылаю Вам 935 бланкаў загранічных пашпартных кніжак, загатоўленых Беларускай місіей у Бэрліні.

Згодна с пастановаю маеи ад 22 верасьня г.г. загранічные пашпарты выдающца подданым Б.Н.Р. на шэсьць месяцаў за такую плату у Англію, Францыю і іншыя старыя дзержавы пяцьдзесят марак за кожны пашпарт, на Беларусь і ва усе новостворэныя дзержавы на тэрыторыі б. Расеі дваццаць пяць марак, з саусім бедных і быўшых ваеннапалонных плата берэцца у сумі толькі пяці марак

Пры выдачы пашпарта на год і больш плата удваіваецца за кожныя шэсьць месяцаў

У атрыманьні памяненных бланкаў прашу выдаць распіску.
Міністр фінансаў В.Захарко

№18
6.XII.19 г.
м Менск
*582.2.40:038&r — ра*

**1541. Тэлеграма Эўгеніі Алексючанкі (Вільня) Браніславу Тарашкевічу (Варшава) за 6.12.1919**

terminowa warszawa
hotel saski tarerszkiewicz

war fr wilna 863 16 6 14/50 censwln

depesze otrzymalam srode osekam na wydanie nowej przepustku stara umewazniona = aleksinczanka

*582.2.46:127 — а*

**1542. Расьпіска Эўгеніі Алексючанкі (Горадня) за 7.12.1919 аб атрыманьні ёй ад Лукаша Дзекуць-Малея пакета №І-217 старшыні Рады Народных Міністраў БНР**

*582.2.46:125 — рк*

**1543. Паштоўка Кляўдыюша Душэўскага (Хельсінкі) Вацлаву Ластоўскаму (Вільня) за 8.12.1919**

Хай жыве саюз новых дзержаў!!!
Бел. К.Душэўскі
قونشو جیلتره بولنان هر ملیتلر اراصنده
مسلمانلرده بار ایدی[1]
Фінл. Maitu Mikkola
Oskar Kallas — Eesti
Капитан Корд (Бѣлоруссія)
Петро Сливенко (Україна)
Yrjo Jahnsson (Suomi)
K.Zanis (Latvia)
Hasan Kanynoff
J.Ahtinen (Suomi)
Basiak (Ukraina)
Mansikka (Suomi-Fennia)

Гэльсінгфорс 8/XII 19»

*582.1.45:001b*

---

Паштоўка адрасаваная: Wilna, Pioromont 10, 7. W Lastouski. Абставіны, у якіх была напісаная паштоўка, выкладзеныя ў дакумэнце №1660. [1] Konšu [...?] bolunan har miliyetler arasında musulmanlar de bar idi: Ва ўсіх дзяржавах суседніх краёў жывуць таксама й мусульмане.

**1544. Беларускае Прэс-Бюро (?). №28. 8.12.1919**

Рада Рэспублікі. — Дэклярацыя Беларускай Сацыяль-Дэмакратычнай Партыі з поваду выбарау. — Прыветствіе вайсковай камісіі. — Фармаваньне беларускай арміі. — Беларускае пасольства у Каменец-Падольску. — Беларускае дыплематычнае прадстауніцтва у Празе

*582.2.44:001&r,014&r — шк*
*582.2.44:012&r-013&r — шк*

---

Месца выданьня невядомае (Менск?).

**1545. Пратакол сходу Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі ў Менску за 8.12.1919**

Журнал
сходу Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі 8 сьнежня 1919 г.

Сход адбыўся пры старшыні Рады Н.М. — А.Луцкевічу і сябрах — А.Смолічу, К.Тарэшчанку і В.Захарку.

Слухалі : даклад тымчасовага намесьніка Старшыні Рады Народных Міністраў В.Захаркі аб зацьверджаньні журналаў і пратаколаў сходаў урадовых і пастановаў, зробленых ім самым — у Коўні - ад 3 і 4 чэрвеня 1919 г., у Бэрліні - ад 27 чэрвеня, 2, 3, 28 і 31 ліпеня, 7, 9, 4, 16, 20, 29 і 31 жнівеня, 1, 3, 22 верасьня і журнал сходу прэдстаўнікоў Рэспублікі, з'ехаўшыхся у Бэрліне 17 лістапада ——

Пастанавілі: Вышэйазначаные пратаколы прыняць да ведама, а праведзеныя у іх ассыгноўкі і назначэньні зацьвердзіць.

Старшыня Ант. Луцкевіч
Сябры В.Захарко К.Тэрэшчэнко А.Смоліч

*582.2.01:067 — ра*

**1546. Тэлеграма Аўгена Ладнова (Парыж) Антону Луцкевічу (Варшава) за 8.12.1919**

doubejkovsky pour loutckevitch
varsovie rue kopernika 14 =

22652 30 6 19=

entrevue indispensable affaire urgente si pouvez arriver immediatement paris telegraphyez sihon faites necessaire obtenir visa polosnais pour moi partirai de suite varsovie = ladnoff .+

*582.2.33:111*

**1547. Ліст Юргіса Шаўліса (Бэрлін) міністру беларускіх справаў Літоўскай Рэспублікі Язэпу Варонку (Коўна) за 8.12.1919**

*582.2.50:004 — мк*

---

Адказ на ліст за 25.11.1919 з дасланымі зьвесткамі й фатаграфіямі (для публікацыі ў «Часопісі»?)

**1548. Тэлеграма Лявона Дубейкоўскага (Варшава) Антону Луцкевічу (Менск) за 9.12.1919**

TERMINOWA SZABUNIA LUCKYEWICZOWI
MINSK KRESZCZENSKA 27

WARSZAWA 20564 22 9E12 13 10
= LADNOV TELEKRAFICZNYE PROSI PARYZA KROPKA WARSZAWY PROSZA SPRAWY HOLOWINSKI PRZYJECHAL DLA NICH PROSYMY PYENYEDZY = DUBIEJKOWSKI =

*582.2.13:013*

**1549. Пераклад артыкулу: Стаўленьне польскага арцыбіскупа да польскіх жорсткасьцяў // Kurier Miński. 9.12.1919**

*582.2.54:152-154 — мк фра*

*582.2.54:150&r -151&r — р перакладу на беларускую мову*

Газэта названая недакладна. У тым часе ў Менску выдаваўся па польску «Goniec Miński» і па-расейску «Минскій Курьеръ».

**1550. Справаздача начальніка Беларускай Ваеннай Місіі ў Бэрліне дзеля помачы ваеннапалонным беларусам у Нямеччыне Антона Борыка паслу БНР у Бэрліне аб дзейнасьці Місіі ад 5.07.1919 да 10.12.1919**

*582.2.42:013&r-016&r — ма*

**1551. Справаздача старшыні Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі Антона Луцкевіча аб выдаткаваньні атрыманых ім дзяржаўных сродкаў за 10.12.1919 (вых. № І-218)**

*582.2.40:039&r-040 — ра*

**1552. Ліст старшыні Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі Антона Луцкевіча дзяржаўнаму скарбніку БНР Васілю Захарку (Менск) за 10.12.1919 (вых. № І-219)**

СКАСАВАНЫ
Менск, 10.XII.19.
№І-219

Пану Дзяржаўнаму Скарбніку
Васілю Захарцы
у Менску.

Гэтым паведамляю Вашу Міласьць, што на дзяржаўныя выдаткі агульнага характару, якія я быў прымушаны рабіць, мной спісана з сум Дэлегацыі на Мірную Конфэрэнцыю ў Парыжу 19.181,50 польскіх марак (дзевятнаццаць тысяч сто восемдзесят адна польск. мар. 50 фэн.), якія і прашу спісаць з авансу Дэлегацыі. Паказаная сума праведзена мной у справаздачы паступіўшых на мае рукі авансаў.

Старшыня Рады Нар. Міністраў
Ант.Луцкевіч

*582.2.40:041 — рк*

**1553. Перадрук артыкулу: Беларускае войска на Украіне // Шлях (?). №81. 10.12.1919**

*582.2.50:018 — мк*

У артыкуле сярод іншага паведамляецца: «...на Украіне пачалося пад кіраўніцтвам палк. Бярозіча фармаваньне беларускаго нацыянальнаго войска...»

**1554. Пратакол сходу Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі ў Менску за 11.12.1919**

Журнал
сходу Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі 11 сьнежня 1919 г.

Былі на сходзе А.Луцкевіч, А.Смоліч, К.Тарэшчанко і В.Захарка.

Слухалі: 1. Даклад Старшыні Рады Народных Міністраў Ант. Луцкевіча аб расходованьні ім авансаў:

190.000 крон аўстр. (нештэмпляв.)
220.000 марак нямецкіх
18.681,5 польскіх марак

Пастанавілі: Прыняць паказанныя у адчоце выдаткі правільнымі і адчот зацьвердзіць. Рэштні суммаў: 32.100 ням. марак вярнуць у Дзяржаўны Скарб..

Старшыня Ант. Луцкевіч
Сябры В.Захарко К.Тэрэшчэнко А.Смоліч
*582.2.01:068 — ра*

**1555. Тэлеграма Лявона Зайца (Бэрлін) Антону Луцкевічу (Менск) за 11.12.1919**

dringnt luckiewicz
mekiewiczawa wulica
bielaruski dom minsk

berlin 126/30 22 11/12 1115 I

pryjedu dakladam warszawu pilnaj sprawie chlapaczycie wydaczy propusku polskim pasolstwam paryzy telegrafujcie adkaz pozlie ladnowa = zajac
*582.2.31:042*

**1556. Заява Янкі Станкевіча Радзе Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі за 11.12.1919**

У Раду Народных Міністраў
Беларускае Народнае Рэспублікі.

Заява.

Віцэ-старшыня і заступнік старшыні Цэнтральнае Беларускае Рады Віленшчыны і Горадзеншчыны п. М.Кахановіч прасіў мяне перадаць Ураду ніжэйшае: Сёлета 1919 г. ў чэрвені міністэр унутраньніх спраў п. К.Цярэшчанка перадаў для Цэнтр. Бел. Рады Віленшчыны і Горадзеншчыны пераз рукі яе тагачаснага старшыні п. Кляўдыя Душэўскага пятнаццаць тысяч (15.000) марак у нямецкай валюце. Грошы тыя Радзе перададзены ня былі, па кнізе Рады не праведзены і наагул Рада аб іх да апошняга часу нічога ня ведала, так сама як і цяпер ня ведае, на што гэныя грошы п. К.Душэўскі самадумам расходаваў. Паведамляючы аб гэтым, прашу Урад спагнаць ад п. К.Душэўскага, задзержаныя ім грошы Рады В. і Г.

Сябра Рады Віл. і Гор.
ЯСтанкевіч
11/XII 19
м. Менск
*582.2.46:131&r — ра*

**1557. Суправаджальны ліст надзвычайнага паўнамоцнага прадстаўніка БНР у Нямеччыне Лявона Зайца (Бэрлін) Міністэрству Народнай Асьветы БНР (Менск) за 12.12.1919 зь перасланай перапіскай з доктарам Абіхтам**

*582.2.42:017 — ма*

**1558. Тэлеграма Міколы Вяршыніна (Прага) Антону Луцкевічу (Варшава) за 12.12.1919**

antoni luckiewicz warszawa hotel saski =

praha 5079 4 32 12 4 wktbl =

hruszewski powidamlaje zanawe[1] asnowan internacionalny komitet dzela podtrymania intersaw nieprzyznanych dzierzaw na trytoryi bywszej rasyi prysutnasc naszaho predstawnika wielmi patrebna konferencya naczniotca 18 sneza adkozywajcie =

wierzynin =

*582.2.30:016*

[1] Жэнэве.

**1559. Ліст старшыні Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі Антона Луцкевіча (Менск) рэдактару газэты «Незалежная Беларусь» Янку Станкевічу (Вільня) за 12.12.1919**

Менск, 12.XII.19.

Кіраўніку часопісі «Незалежная Беларусь»
Я.Станкевічу
у Вільні.

З прычыны таго, што выдавецтва «Незалежнай Беларусі» прыпынілася, прашу Вас асыгнаваныя на рукі п. Тарашкевіча дзеля падмогі выдавецтву двадцаць тысяч польск. марак (20.000 п.м.) аддаць выдавецтву «Беларусь» у Менску на рукі п. Лёсіка.

Ант.Луцкевіч

*582.2.37:035 — ра*

На лісьце гэткія прыпіскі: «Даручаю адтрымаць 20.000 п.м. п. Тарэшчанку.
Я Лёсік
18.XII.1919
м. Менск»

«26 сьнежня 1919 г. мною адтрыманы вышэйпамяненные грошы ў ліку двадцаці тысячаў польскіх марак дзеля перадачы п. Ліосіку на выдавецтва газэты «Беларусь».
К.Тэрэшчэнко
м. Варшава»

**1560. Заява старшыні-гаспадара Горадзенскага Клюбу «Беларуская Хатка» (Менск) старшыні Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі Антону Луцкевічу (Менск) за 12.12.1919 з просьбай выдзяліць 3000 пол. марак на арэнду памешканьня**

*582.2.40:043&r — ра*

**1561. Пратакол надзвычайнага сходу Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ў Менску 13.12.1919**

ПРАТАКОЛ
надзвычайнаго сходу Рады Беларускай Народнай Рэспублікі,
сьнежня 13 дня 1919 году.

Старшыня Рады Б.Н.Р. Язеп Лесік адчыняе сход заявай:

«Прымаючы пад увагу, што частка членау фракцыі соц.-рэв. зрабіла змову, каб захапіць законную уладу Рады Рэспублікі, а пры неудачы зрабіць гвалтоуные учынкі над членамі другіх фракцыяу і партыяу, прэзідыум пропануе адчыніць сход Рады Рэспублікі без часткі членау фракцыі соц.-рэв., якія належаць да змовы, і прапануе прызнаць сход законным і правамоцным».

Прапазыцыя гэта прымаецца аднагалосна; на сходзе 37 сяброу Рады, уласнаручна распісаушыеся у бытнасьці на сходзе, які лік, па статуту Рады, значна перавышае кворум.

Прэзідыум абвешчае павестку дня:

1) Разгляд і зацьвярджэньне мандатау.

2) Справаздача Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі.

3) Выбары Найвышэйшай Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

Павестка прымаецца аднагалосна пры 2-х утрымаушыхся.

1. Па першаму пытаньню павесткі дакладывае член прэзідыуму Намесьнік Старшыні Рады Рэспублікі, Ал.Уласау.

ДАКЛАД: На падставе ухвалы сеньорэн-конвенту Рады Б.Н.Р. былі праверaны мандаты былых радных і новапрыбыушых. У прaглядзе і праверцы мандатау прымалі учасьце: 1) прадстаунік прэзідыуму, намесьнік Старшыні Рады Б.Н.Р., Ал.Уласау, 2) быу нікаторы час Старшыня Рады, Яз.Лесік, 3) пісар Рады Крэчэускі, 4) пісар Рады Ленкоускі, 5) часовы пісар Рады М.Шыла; з сяброу мандатнай камісіі было двое соц.-рэв.: 6) Бадунова Палута і 7) Белькевіч Янка, 8) прэдстаунік фракцыі Беларускай Народнай партыі, Станкевіч, 9) блеку цэнтру, Вернікоускі, і 10) ад фракцыі соц.-рэв., Ластоускі.

Сябры Мандатнай Камісіі — Бадунова і Белькевіч — вялі пратакол сходу, намесьнік Старшыні Рады рабіу паметкі у справе мандатау і веу свой пратакол. Гэта было дзеля таго, што Бадунова, Белькевіч і прадстаунік соц.-рэв. Ластоускі, разглядалі кандыдатау; а priori лічылі іх прынятымі у Раду Рэспублікі, а прэдстаунікі прэзідыуму, прэдстаунікі фракцыі Беларускай Народнай партыі і блеку центру лічылі, што для прыняцьця у члены Рады Рэспублікі павінна быць належная ухвала пленума Рады, якая, прыймаючы, кіруецца законам Рады Б.Н.Р. ад 9 кастрычніка 1918 году, разд 3, арт. 11.

Бадунова і Белькевіч заявілі, што яны забараняюць весьці асобны пратакол і паказываць разгледаемые мандаты прэдстауніку прэзідыуму. Прэдстаунік прэзідыуму запротэставау. Пісар Рады Крэчэускі, старшынствоваушы на сходзе, каб ні даць магчымасьці офіцыяльнаму прэдстауніку прэзідыуму і прэдстаунікам фракцыяу ведаць, кім падпісаны мандат, закрыу сход камісіі. Бадунова і Белькевіч забралі ніразгледжаные мандаты і вышлі.

З разгледжаных мандатау дакладчык, згодна з быушымі на сходзе камісіі прэдстаунікамі фракцыяу і іх падцьверджэньнем вышэй паданай інфармацыі на сходзе Рады, прапануе:

I. На падставе закону Рады Б.Н.Р. ад 9 кастрычніка 1918 году, зацьвердзіць мандаты і лічыць сябрамі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі 1) Асьвяцімскаго Марку — дэлегата ад Беларускаго Нацыянальнаго Камітэту Случчыны; 2) Станкевіча, 3) Сенькевіча, 4) Ластоускаго, 5) Фалькевіча, 6) Фохта і 7) Бекіша, як сяброу Беларускай Цэнтральнай Рады Віленшчыны і Горадзеншчыны; 8) Якубецкаго — ад Горадзенскай селянскай паветовай Рады; 9) Трахімова — ад Беларускай Рады у Адэсі; 10) Тэрэшчэнку — ад Віленскай Беларускай Рады; 11) Якобіні Эдм. і 12) Гноінскага — ад Польскай Соцыялістычнай Партыі; 13) Рудзя Сьцяпана і 14) Кота Сьцяпана — ад Беларускай соцыяль-дэмакратычнай партыі; 15) Казлоускаго і 16) Туронка — ад Беларускай Народнай партыі; 17) кс. Станкевіча — ад Беларускаго Камітэту помачы ахвярам вайны; 18) Саваневіча і 19) Мірановіча — ад Беларускай Хрысьціянскай Дэмократычнай Злучнасьці, замест выбыушых сяброу Рады ад Злучнасьці Верамея і кс. Гарасімовіча; 20) Белькевіча Янку — ад Цэнтральнаго Беларускаго Вучыцельскаго Саюзу у Вільні і 21) Чэржынскаго — ад Грамады Беларускай Моладзі у Вільні.

II. Не лічыць адпаведнымі мандаты і у Раду Б.Н.Р. не прыняць: 1) Цывулі — ад Камітэту Сувязі Культурна-Нацыянальнага адраджэньня, бо арганізацыя гэта дауно не істнуе і пасьведчаньне, якое кім-сьці выдано 9/XI Цывулі не мае печаткі і адзначэння году яго выдачы; 2) Керкуця Уласа — пасьведчаньне выдано ад 10/XI-19 г. за подпісам Ждановіча ад прэзідыуму Беларускай Вайсковай Арганізацыі у Вільні; такой арганізацыі, істнавала-б цяпер і мела-б той ці іншы статут, нема; 3) Касперовіча Міколы — ад Ігуменскай Беларускай паветовай Школьнай Рады пасьведчаньне без печаткі; аб чыннасьці гэтай Рады нічога ня ведома і пытаньне яшчэ ці істнуе яна; да выясьненьня гэтаго прыняць у Раду Рэспублікі не можна; 4) Кісель-Корф Станіслава — ад Таварыства «Золак» у Вільні (апека над дзецьмі); пасьведчаньне ад 9/XI падпісана мужам дэлегаткі, Ластоускім; Таварыства цяпер такога нема, мандат не адпаведны.

III. Лічыць Раду Б.Н.Р. у складзе, быушым да гэтай сэсіі і зацьверджаных гэтым сходам Рады.

<u>УХВАЛА</u>: РАДА БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ УХВАЛІЛА: ПРЫНЯЦЬ ПРАПАЗЫЦЫІ ДАКЛАДЧЫКА, ЗАЦЬВЕРДЗІЦЬ ЗЬМЕСТ ДАКЛАДУ І ДЭТАЛІЧНА ЯГО ЗАПІСАЦЬ.

II. Даклад Старшыні Рады Народных Міністрау Беларускай Народнай Рэспублікі, п. Антона Луцкевіча.

Панэ Рада! Чыннасьць Ураду зводзілася глауным чынам да работы за граніцай, мэтай якога было бараніць непадзельнасьць і незалежнасьць Беларусі. Вельмі трудна было трапіць да Парыжу нашым прэдстаунікам; давялося ехаць цераз Берлін і там два месяцы чэкаць, пакуль прыйшло дазваленьне на выезд дэлегацыі у Парыж. Дзеля гэтага беларускі мэморыал быу паданы Мірнай Конфэрэнцыі адным з апошніх.

На Конфэрэнцыі часта пыталі дэлегацыю, як адносіцца Беларускі Урад да фэдэрацыі з Расіяй. Пры адказе на гэтае пытаньне заседы падкрэслівалася, што гэту справу можа развязаць толькі Беларускі Устаноучы Сойм, а ні як не Усерасейскі.

Адносіны да Расеі усіх дробных дзяржавау, паустаушых на яе руінах, зусім ясна выразіліся у пратэсьце дэлегацыяу гэтых дзяржавау проці прызнаньня ураду Колчака.

З Літвінамі адносіны былі увесь час непрыязные. У асобе іх дэлегацыі беларусы знайшлі большых ворагау, чым нават у Расейскай дэлегацыі. За тое Беларуская дэлегацыя працавала дружна і супольна з дэлегацыямі Украінскай, Латышскай і Эстонскай.

Толькі у канцы свайго пабыту у Парыжу дэлегацыі удалося наладзіць кантакт і з польскім прэдстаунiцтвам на мірнай Конфэрэнцыі. Тлумачыцца гэта складам дэлегацыі, перэвагаю у ей імперыялістычных элемэнтау. Збліжэньне з польскай дэлегацыяй адбылося па ініцыятыве нікаторых францускіх кругоу.

У францускім грамадзянстве ад пэунага часу змагаюцца два пляны устройства Усходняй Эуропы: 1) Вялікая Расея, як аплод проці Нямеччыны і 2) саюз дробных дзяржавау паміж Нямеччынай і Расеяй. Прэдстаунікі другога кірунку клапаціліся, каб беларусы дагаварыліся з палякамі. Прэдстаунік Беларусай меу размову з Падэрэускім, пасьля якой той выступіу перад Клемансо на карысьць Беларусі. Клемансо аднак не сустрэу прыхільна гэтай думкі, бо тады яшчэ перавагаю сярод Францускага грамадзянства карыстау плян адбудаваньня вялікай Расеі. Тады Падэрэускі выклікау Беларускую дэлегацыю у Варшаву для таго, каб незалежна паразумецца з ею. Аднак непрыхільныя для беларусау члены польскай дэлегацыі пастараліся адцягнуць гэты ад'езд і калі беларуская дэлегацыя трапіла на рэшці у Варшаву, то Падэрэускаго ужо там ня было: ен паехау у Парыж. Беларускай дэлегацыі прышлося весьці перагаворы з Віцэ-Міністрам Загранічных Справау, Скшынскім.

Адбываліся зносіны увесь час з Пілсудскім; ценгля выяулялася яго прыхільнасьць да незалежнасьці Беларусі.

Урад падтрымлівау зносіны з Украінцамі і меу перагаворы з Латышскай дэлегацыяй, начале якой стаялі Вайцінскі і Меерович.

Ураду цяжка было працаваць за граніцай, дзе пастаянна ставілі пытаньня найперш: дзе тэрыторыя, дзе Ваша сталіца і дзе мае сталым мейсцам свайго пабыту Беларускі Урад. Прыходзілася гаварыць, што тэрыторыя занятая бальшавікамі, але заняцьцям палякамі значнай часткі Беларусі гэтым тлумачыцца нельга было.

З усей палітычнай сітуацыі вынікае канечная патрэба стварыць хацябы пэуную відімасьць Беларускай улады на тэрыторыі Беларусі, а гэта мажліва толькі у паразуменьню з Польскім Урадам. Гэта-ж пабудзіла склікаць Раду Рэспублікі. Учасе гутарак з Начальнікам Польскай Дзяржавы Пілсудскім выявілася, што ен прызнае патрэбу Беларускай Дзяржаунай работы за граніцай. Наогул, ен аднасіцца прыхільна да ідэі незалежнасьці Беларусі. Аднак, як заявіу ен улада ня можа быць перададзена

Беларускаму Ураду па варункам палітычнага момэнту, за тое пажаданым зьяуляецца увойсьце беларусау у Польскую адміністрацыю на Беларусі.

Работа прэдстаунікоу Беларускаго Ураду у Варшаве мела мэтай завязаць цясьнейшыя зносіны з Польскай дэмократыяй, якая стаіць на грунце: «За нашу і вашу вольнасьць». Гэта P.P.S., пілсудчыкі і інш. Яны стаяць на тым грунце, што да справы беларускай Польшча павінна падыходзіць, маючы на воку не анэксію, а прызнаньне незалежнасьці Беларусі.

Што да палажэньня беларускай справы за граніцай, то у гэты час трэба адзначыць такіе факты: мае быць за граніцай склікана конфэрэнцыя прэдстаунікоу усіх дзяржавау, якія дажыліся на тэрыторыі Расеі. З гэтага поваду польская пресса ужо адзначыла, што на гэтай конфэрэнцыі Беларусь прэдстаулена ня будзе. Дзеля гэтага трэба паказаць, што работа наша не замерла, што ідэя незалежнасьці сьвеціць нам і далей. Найвышэйшы Дзяржауны Орган, які павінен быць створаны, павінен старацца перахаваць незалежнасьць Беларусі. Расейскае прэдстауніцтва у Парыжы, баючыся паездкі Старшыні Рады Народных Міністрау Беларускай Народнай Рэспублікі у Варшаву, якая па іх думцы адзначала зблізкэньне Беларусі з Польшчай, дакляравалі пэуныя абяцанкі Беларусі (інтэрв'ю Сазонава і яго дэкляраціі). Змагаючыся за Беларусь, Польская і Расейская дыплематыя даводзіць перад сьветам адна проці другой, што Беларусь есьць краем асобным, і кожная з свайго боку абяцае Беларусі пэуную аутаномію. Гэта дапамагае рабоце Беларускіх прэдстаунікоу. Але найбольшую помачь і спагаду мелі Беларусы з боку братняй Украіны, Урад якой прызнау Беларускую Народную Рэспубліку і зауседы падтрымлівае з намі контакт і дапамагае працы. Латвійскі Урад прызнау Беларускую Народную Рэспубліку і выказау пажаданьне абменяцца прэдстаунікамі. Эстонія і Фінляндыя гатовы прызнаць Беларускую Народную Рэспубліку. Чэхія і Нямеччына фактычна прызналі Беларусь, прыняушы яе прэдстаунікоу.

Што да справау фінансавых, то ад Украінскага Ураду была атрымана пазычка 2 1/2 міліенау марак нямецкіх. Значныя сумы расходаваны на утрыманьне Рады Рэспублікі. З іх 175.000 марак есьць на руках у пісара Рады Рэспублікі, Крэчэускага. Дыплематычная работа у Парыжы і інш. мейсцох, Вайсковая Арганізацыя у Нямеччыне, дзе сарганізована да 10.000 беларусау-палонных, арганізацыя беларусау-палонных у Францыі — у Вердэнскім лагеру, — усе гэта патрэбавала значных грашавых коштау. У Латвіі фармуюцца Беларускія Вайсковыя часьці; на службу Беларускага Ураду перайшоу ген. Балаховіч з сваім атрадам каля 2.000 чалавек. Далейшае разьвіцце загранічнай працы вельмі звязана з фінансавымі справамі. У гэтым сэнсе вядуцца перагаворы з Украінскім Урадам.

Пасьля дакладу Старшыні Рады Народных Міністрау выступалі прэдстаунікі фракцыяу Рады Рэспублікі.

Прэдстаунік фракцыі цэнтру, Алексюк, адносіцца вельмі крытычна да чыннасьці Ураду. Не атрымана афіцыяльнага прызнаньня незалежнасьці Беларусі з боку важнейшых Дзяржавау сьвету. Не вялося працы у Англіі, Італіі, Амэрыцы. Адносіны да Польшчы да гэтай пары не урэгу-

ляваны. Дзеля гэтага фракцыя Цэнтру находзіць працу Ураду недастатачнай і лічыць патрэбным, каб ен быу рэфармаваны, аднак, без корэннай ломкі, і каб гэта было зроблена Найвышэйшай Радай Б.Н.Р.

Прэдстаунік фракцыі Беларускіх соцыяль-дэмократау, Рак-Міхайлоускі, знаходзіць, што праца Ураду ні магла разьвіцца належна дзеля таго, што Урад быу праз доугі час адрэзаны ад Беларускай тэрыторыі варожай акупацыяй. На тэрыторыі Беларусі ні маглі істнаваць нацыянальныя работніцкія арганізацыі, на якіх бы мог апірацца Беларускі Урад. Праца Ураду за граніцай так-сама ня мела адпаведнага грунту, падгатаванага папярэдняй партыйнай працай заграніцай. Апрач таго тыя грашавыя способы, якімі распараджауся Урад, далека недастатачны для таго, каб можна было гаварыць аб сталай Дзяржаунай рабоце. Урэшці сабатаж нікаторых членау беларускіх прэдстауніцтвау, у рэзультаці якога адкалоліся ад Рады часткі двух фракцыяу, праз увесь час падточывау работу Ураду знутра. Дзеля гэтага, падтрымліваючы Урад уцэласьці і адабраючы яго працу, фракцыя Беларускіх соцыяль-дэмократау патрабуе пэуных зьменау у яго складзе.

Радны, Янка Станкевіч, ад фракцыі Беларускай Народнай Партыі, знаходзіць, што заграпічная работа Ураду нінаходзіла належнага водгуку у Краю. Пажадана, каб у далейшай працы сваей Урад больш увагі зьвяртау на Культурную працу. Нідахваты у рабоце Ураду тлумачацца перад усім тымі інтрыгамі і саботажам, якіе мелі мейсцо з боку нікаторых предстаунікоу Ураду у Нямеччыне і Літве, і шкадлівай чыннасьцю Міністра Фінансау. Фракцыя падтрымлівая Урад, але выражае недаверье Міністру Фінансау.

Прэдстаунік P.P.S., Радны, Эдмунд Якобіні знаходзіць, што Урадам зроблена столькі, сколькі на тое пазваляли варункі і што толькі адносіны да Польшчы належным способам ні наладжаны. Стары Урад павінен застацца і у будучыне ен сваіх абмылак ні пауторыць.

Унесяна прапазыцыя аб адкладзе сходу на 14-е Сьнежня. Прапазыцыя адхілена.

Прэдстаунік фракцыі Беларускіх Соцыялістау-Рэволюцыянерау, Радны Андрэй Якубецкі, ад групы с.-р., стаячых на дзержауным грунце, выражае даверье Старшыні Рады Нар. Мін., Антону Луцкевічу і лічыць што выпадае даручыць яму сфармаваньне новага Ураду, начале якога ен зможа давесьці дзяржауную працу да Устаноучага Сойму Беларусі. Толькі голас і воля працоунага народу Беларусі могуць замацаваць здабыткі рэвалюцыі і даць народу «ЗЯМЛЮ, і ВОЛЮ», а Беларусі — Незалежнасьць.

Старшыня Ураду, Антон Луцкевіч, адказваючы на прамовы прадстаунікоу фракцыяу, адзначыу труднасьці, якія спатыкала праца Ураду. Аб Беларускай Дзяржаунасьці сьвет знае яшчэ за надта мала, дзеля таго, што нідаводілася яму лічыцца з ім, як з рэяльнай сілай. Адрэзаны ад Беларусі надзвычайнымі варункамі часу, Урад меу за надта мала працаунікоу, а з паміж тых беларускіх дзеячоу, якіе маглі прыняць учасьць у працы, нікаторые адмауляліся узяць на сябе ціжар абавязку, зьвязаных з абаронай Беларускай Дзяржаунасьці. У справе фінансавай п. Луцкевіч

лічыу патрэбным зауважыць, што праца па укладаньню каштарысау, якая мелася адбывацца у апошніе часы, была спынена, дзякуючы тэй політычнай атмосфэры, якая злажылася у Менску. Выдаткі Ураду адбываліся пад наглядам Дзяржаунага Кантралеру, спэцыяльна выбранага Радай Рэспублікі і атрымаушага ад яе у гэтай справе паунамоцтва. Урэшці пан Луцкевіч заяуляе, што Дзяржауная работа настолькі змарыла яго, што ен толькі чакае момэнту, калі-б ен мог здаць сваю працу іншай адпаведнай асобе, атрымаушай мандат ад Рады.

Пасьля гэтага была заслухана і аднагалосна прынята рэзалюцыя:

ЗАСЛУХАУШЫ СПРАВАЗДАЧУ СТАРШЫНІ РАДЫ НАРОДНЫХ МІНІСТРАУ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ, П. АНТОНА ЛУЦКЕВІЧА, РАДА РЭСПУБЛІКІ ПЕРАХОДЗІЦЬ ДА ЧАРГОВЫХ СПРАВАУ.

III. Рада Рэспублікі пераходзіць да разгляду унесянага сеньорэн-конвэнтам законапроэкту аб устанауленьні Найвышэйшай Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

Дзеля таго, што у гэтай справе дойдзена да поунага паразуменьня паміж фракцыямі Рады, законапроэкт прыймаецца у ва усіх трох чытаньнях аднагалосна пры энтузіастычных вопляскаx з боку усіх прысутных сяброу фракцыяу Рады Рэспублікі.

Устава аб Найвышэйшай Радзе Беларускай Народнай Рэспублікі і яе правох прынята у гэтакай рэдакцыі:

§ 1. НАЙВЫШЭЙШАЯ РАДА СКЛАДАЕЦЦА З 5-ці АСОБАУ.

§ 2. НАЙВЫШЭЙШАЯ РАДА Б.Н.Р. МАЕ ПРАВО ВЫСТУПАЦЬ У ІМЯ РАДЫ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ.

§ 3. НАЙВЫШЭЙШАЯ РАДА БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ АБАВЯЗАНА СКЛІКАЦЬ РАДУ Б.Н.Р. У АДПАВЕДНЫ МОМЭНТ.

§ 4. НАЙВЫШЭЙШАЯ РАДА БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ ПАКЛІКАЕ ДА ЖЫЦЬЦЯ КАБІНЕТ І У АДНОСІНАХ ДА ЯГО МАЕ ПРАВЫ РАДЫ РЭСПУБЛІКІ.

Маршалак Рады Рэспублікі, Язэп Лесік, заяуляе, што згодна § 1 толькі што прынятага закону належыць выбраць 5 сяброу НАЙВЫШЭЙШАЙ РАДЫ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ і прапануе прыступіць да выбарау. Прапазыцыя аднагалосна прыйімаецца.

Выбары адбываюцца патаемным галасаваньнем, у рэзультаце аказаліся выбранымі такіе асобы:

1) Іван СЕРАДА.
2) Сымон РАК-МІХАЙЛОУСКІ.
3) Кузьма ТЕРЭШЧЭНКО.
4) Язэп ЛЕСІК.
5) Александр УЛАСАУ.

Маршалак Рады Б.Н.Р., Язэп Лесік, чытае спіс выбраных у НАЙВЫШЭЙШУЮ РАДУ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ. Яго словы пакрываюцца звучнымі вопляскамі.

Маршалак Рады Рэспублікі абвешчае аб 12-й гадзіне 30 м. ночы сход Рады Б.Н.Р. і сэсію яе скончанымі і заяуляе, што на грунце § 3 Уставы 13

сьнежня 1919 году новую сэсію Рады Рэспублікі склічыць НАЙВЫШЭЙШАЯ РАДА Б.Н.Р.

З паміж сяброу Рады Рэспублікі чуцен вокліч: «НА ЧЭСЬЦЬ НАЙВЫШЭЙШАЙ РАДЫ!» спатканы сходам гарачымі вопляскамі усіх прысутных.

Пад воклікі «НЯХАЙ ЖЫВЕ НЕЗАЛЕЖНАЯ БЕЛАРУСЬ!» і са спевам Беларускага Нацыянальнага Гымну і Нацыянальнай Марсэльезы Радныя расходзяцца.

На арэгінале подпісы:
Маршалак Рады Б.Н.Р. Язэп Лесік
Намесьнік Маршалка Рады Б.Н.Р. А.Уласау
Пісар Рады Б.Н.Р. Ст.Ленкоускі

З Арэгіналам згодна: Рак-Міхайлоўскі
*582.2.39:014-016 — рк (няпоўная)*
*582.2.39:029-036 — мк*

**1562. Рапарт шэфа Вайскова-Дыпляматычнай Місіі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Рызе Кастуся Езавітава (Рыга) Радзе Народных Міністраў БНР (Менск) за 13.12.1919**

13.12.1919
№134
м. Рыга

У Раду Народных Міністраў

Рапарт.

Гэтым маю гонар далажыць, што па выпаўненьні службовых спраў у Фіншчыне і Эстіі (асабліва на Юрьеўскай Канферэнцыі) 3го сьнежня г/г. я зьвернуўся у Латвію — у м. Рыгу.

Шэф Місіі
Палкоўнік Езавітаў
*582.2.32:088*

**1563. Пратакол №1 Сходу Найвышэйшай Рады Беларускай Народнай Рэспублікі за 14.12.1919**

Прысутныя былі: Іван Серада, Язэп Лёсік, Сымон Рак-Міхайлоускі, Кузьма Тэрэшчанка і Александр Уласау

Павестка сходу
1. Арганізацыйнае пытаньне
2. Сучасны момант
3. Грамата да беларускага народу
4. Прысяга
5. Справа утварэньня габінэту
Павестка прынята аднагалосна

| Слухалі | Ухвалілі |
| --- | --- |
| 1. Арганізацыйнае пытаньне | 1. На Старшыню Найвышэйшае Рады БНР аднагалосна выбраны п. Іван Серада. |

| | |
|---|---|
| | На Намесьніка Старшыні Найвышэйшае Рады БНР аднагалосна выбраны Сымон Рак-Міхайлоускі. |
| 2. Сучасны момант | 2. Найбольш інфармаваць народ аб утварэньні Найвышэйшай Рады. |
| 3. Устауная Грамата | 3. Даручыць злажыць Грамату п.Тэрэшчэнко і Уласаву. |
| 4. Аб справе прысягі | 4. Даручаецца злажыць проэкт прысягі п. Лёсіку. |
| 5. Справа утварэньня габінэту | 5. Адлажыць да заутрашняга сходу |

Найвышэйшая Рада Б.Н.Р. І.Серада, Сымон Рак-Міхайлоускі, Я.Лёсік, А.Уласау, К.Тэрэшчэнка

*582.1.04:020 — мк*

**1564. Тэлеграма Ваўлава Ластоўскага й Васіля Захаркі (Менск) дыпляматычным прадстаўніцтвам БНР (Бэрлін, Парыж, Прага, Рыга, Коўна) за 14.12.1919**

14.XII.19.

Telehrama.

Postanowieniem Rady 13 grudnia obrano nowe prezydjum Rady. Przewodniczący Kreczewski. Zastępcy Zacharko, Bodunowa. Sekretarze Kozicz, Mamońko. Zatwierdzono nowy gabinet Ministrów: Przewodniczący Łastowski, spraw Zagranicznych Ładnow, Skarbu Bielewicz, Wewnętrzne Hryb, Sprawiedliwości Ćwikiewicz, Sekretarz Duszewski, Kontroler Zajac

Łastowski, Zacharko.
z Mienska

U Berlin, Paryž, Prahu, Ryhu, i u Koŭnu — Waroncy.

U Ryhu i Koŭnu nie pryniali.

Як перэслана была гэта тэлеграма.[1]

Каля гадзіні 11-ай раніцай я і Захарко пайшлі на тэлеграф у Менску каб выслаць змест гэтай тэлеграмы ва ўсе прэдстаўніцтвы Б.Н.Р. заграніцай. Прыймаў чыноўнік-беларус, знаёмы Мамонькі. Ен спытаў: Ці гэты тэлеграмы (з націскам) павінны дайсці? Мы атказалі, што канечна павінны дайсці. — Добра, тады я пастараюся, каб дайшлі... І ён сперша выслаў тэлеграмы, а пасьля паслаў іх Рачкевічу у цэнзуру. Рачкевіч тэлеграмы затрымаў у сябе і паклікаўшы Лёсіка паказаў іх яму. Былі пэўны і Палякі і Найвышэйшыя, што тэлеграмы затрыманы. Калі-ж за некалькі дзен аказалось, што загранічные газэты іх перэдрукавалі, то пачаўся розыск. Чыноўніка цягалі і, здаецца, судзілі.

*582.2.54:010&r — рк*

[1] Прыпіска В.Ластоўскага.

**1565. Тэкст тэлеграмы Антона Луцкевіча (Менск) Браніславу Тарашкевічу (Варшава) за 14(?).12.1919**

Terminowa
Taraszkiewicz Hotel Saski Warszawa
Stary gabinet pozostał kropka Rada wybrała radę najwyższą pięciu osób przekazała jej mandaty rozjechała się kropka. Jednocześnie Łastowski Kreczewski Zacharko Bielewicz Badunowa Mamońka tworzą samozwańczo nowy rząd występują nieprawnie imieniu Rady kropka Uprzedź przyjaciół niedopuszczeniu samozwańców zagranicę intryga ukuta Berlinie

*582.2.13:012 — рк*

Дакладная дата невядомая.

**1566. Тэкст тэлеграмы Антона Луцкевіча (Менск) Браніславу Тарашкевічу (Варшава) за ??.12.1919**

Taraszkiewicz
Hotel Saski — Warszawa
Proś ministerjum danie Berlinie Zajcowi wizy przyjazd Warszawy pilnej sprawie telegrafuj Zajcowi rezultat kropka Jutro jadę Wilna Warszawy
Łuckiewicz

*582.2.13:011 — рк*

Дакладная дата невядомая (да 15.12.1919).

**1567. Ліст кур'ера Беларускае дыпляматычнае місіі ў Бэрліне Валянціна Дзітмана старшыні Беларускае дэлегацыі ў Парыжы Аўгену Ладнову за 15.12.1919 (перасланы Ладновым Антону Луцкевічу) у справе згубы Дзітманам дыпляматычных дакумэнтаў зь віны сябра Беларускае дэлегацыі ў Парыжы Азнабішына**

*582.1.04:024&r-025*

Да ліста прыпіска Ладнова: «В Берлинѣ г. Барковъ назвал г. Дитмана нѣмецким шпіоном. Такого же мнѣнія о нем был и г. Ознобишинъ».

**1568. Дыпляматычны пашпарт Вацлава Ластоўскага, выдадзены ў Менску 15.12.1919 і прадоўжаны 15.06.1920**

*582.1.45:146&r-146a&r-146f*

У пашпарце стаяць гэткія адзнакі:
1919.12.15 Менск - выдадзены дыпляматычны пашпарт (да 1920.06.15)
1920.04.19 Коўна - дыпляматычная віза на паездку з Коўна ў Рыгу (ад 1920.04.19 да 1920.05.04)
1920.04.21 Мажэйкі - адзнака аб пераезьдзе літоўска-латвійскай мяжы
1920.04.24 Рыга - права на побыт у Латвіі на 14 дзён
1920.04.26 Рыга - прапіска (Aleksandra, 25)
1920.05.21 Рыга - права на побыт у Латвіі (да 1920.06.03)
1920.06.05 Рыга - права на побыт у Латвіі (да 1920.07.05)
1920.06.15 Рыга (?) - дыпляматычны пашпарт прадоўжаны на год (да 1921.06.15)
1920.06.15 Рыга - прапіска (Romanawa, 13-5)
1920.07.06 Рыга - права на побыт у Латвіі (да 1920.08.05)
1920.08.04 Рыга - права на побыт у Латвіі (да 1920.09.05)

1920.09.11 Рыга - права на побыт у Латвіі (да 1920.09.18)
1920.10.06 Рыга - права на побыт у Латвіі (да 1920.11.06)
1920.10.28 Рыга - транзытная віза празь Літву для паездкі ў Нямеччыну й назад (да 1920.11.07) — перакрэсьлена
1920.10.28 Рыга - віза на паездку з Рыгі ў Прагу (ад 1920.10.28 да 1920.11.04)
1920.10.29 - адзнака аб праезьдзе латвійска-літоўскай мяжы
1920.10.29 Мажэйкі - адзнака аб праезьдзе латвійска-літоўскай мяжы
1920.10.31 Коўна - прапіска
1920.11.22 Коўна - прапіска
1920.11.24 Коўна - дазвол на ўезд у Нямеччыну (да 1920.12.05)
1920.11.24 Коўна - дыпляматычная віза для паездкі ў Нямеччыну й назад (да 1921.01.24)
1920.11.26 Вірбаліс - адзнака аб праезьдзе літоўска-нямецкай мяжы
1920.11.26 Эйткуны - адзнака аб пераезьдзе літоўска-нямецкай мяжы
1920.11.27 (25?) Вірбаліс - адзнака аб праезьдзе нямецка-літоўскай мяжы
1920.12.07 Мюнхен - дазвол Паліцыйнай дырэкцыі на паездку зь Мюнхена ў Жэнэву (ад 1920.12.08 да 1921.01.08)
1920.12.07 Мюнхен - дыпляматычная віза на паездку зь Мюнхена ў Жэнэву на 14 дзён
1920.12.08 Ліндаў - адзнака аб праезьдзе нямецка-швэйцарскай мяжы
1920.12.08 Романсхорн - адзнака аб пераезьдзе нямецка-швэйцарскай мяжы
1920.12.11 Жэнэва - права на побыт
1920.12.19 Ліндаў - адзнака аб праезьдзе швэйцарска-нямецкай мяжы
1920.12.19 Романсхорн - адзнака аб пераезьдзе швэйцарска-нямецкай мяжы
1920.12.24 - адзнака пашпартнага кантролю ў Пілаў
1920.12.25 Эйткуны - адзнака аб праезьдзе нямецка-літоўскай мяжы
1920.12.27 Коўна - прапіска
1921.02.25 Коўна - віза для паездкі з Коўна ў Рыгу (ад 1921.02.26 да 1921.03.12)
1921.02.25 Коўна - дыпляматычная віза для паездкі ў Латвію й назад (да 1921.03.11)
1921.02.27 - адзнака аб праезьдзе літоўска-латвійскай мяжы
1921.02.28 Рыга - віза для паездкі з Рыгі ў Літву (ад 1921.02.28 да 1921.03.08)
1921.03.03 - адзнака аб праезьдзе латвійска-літоўскай мяжы
1921.03.03 Мажэйкі - адзнака аб праезьдзе латвійска-літоўскай мяжы
1921.03.08 Коўна - прапіска (Laisves all., 44)

**1569. Тэлеграма Браніслава Тарашкевіча (Варшава) Антону Луцкевічу (Вільня) за 15.12.1919**

terminowa wilenska 33
luckiewicz wilno

+ warszawy 56822 16 14 19 21 cens warsz =
depesze otrzymalem zajca powiadomilem tutaj cwikiewicz sprawy pilne przyjezdzaj natychmiast = taraszkiewicz +

*582.2.13:027*

**1570. Пратакол сходу Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі ў Менску за 15.12.1919**

Журнал
сходу Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі
15 сьнежня 1919 г.

Былі на сходзе народные Міністры Антон Луцкевіч, [Аркадзь Смоліч], Кузьма Тарэшчанка і Васіль Захарко

Слухалі:

1) Заяву народнаго Міністра В.Захаркі, што ён уважае, што 13-га сьнежня 1919 г. адбыўся правамочны сход Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, які нібы выбраў «новы урад», а дзеля таго ён, В.Захарка, лічыць Урад А.Луцкевіча неправамочным і адмаўляе послуху яму. Так сама ён ня лічыць сябе далей міністрам фінансаў і членам Рады Народных Міністраў. Далей п. Захарко заявіў, што грошай кніг і рахунковасьці, знаходзячыхся на яго руках, ён ураду не выдасьць; з сваёй стараны зажадаў выдачы яму, Захарцы, грошай і рахунковасьці знаходзячыхся у членаў Ураду.

Пастанавілі:

1) Прымаючы пад увагу, што законны і правамочны сход Рады Рэспублікі, што адбыўся 13 сьнежня гэтага году ніякага новага Ураду не выбіраў, а перадаў паўнамочча Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Найвышэйшай Радзе і што Найвышэйшая Рада дагэтуль ніякіх пастановаў аб зьмені складу Ураду не выносіла і што сход, на які пазываецца п. Захарко, называючы яго «сходам Рады Рэспублікі» — быў прыватным сходам групы большэвіцкі-настроенных членаў фракцыі соціалістаў-рэволюціянераў і соціалістаў-федэралістаў, і ніякага грунту лічыць сябе правамочным сходам Рады Рэспублікі ня меў, Рада Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі пастанаўляе: а) зьняць з яго, В.Захаркі, званьне Народнага Міністра і Дзяржаўнага Скарбніка, b) даручыць народнаму міністру юстіцыі распачаць проці яго судовы працэс на грунце гэтага пратаколу і с) учыніць усе мажлівыя крокі дзеля адтрыманьня ад В.Захаркі Дзяржаўнай Кассы і рахунковасьці.

Старшыня Рады нар. Міністраў
Ант. Луцкевіч
Сябры К.Тэрэшчэнко А.Смоліч
*582.2.01:069&r — ра*

**1571. Каштарыс выдаткаў Беларускай Вучыцельскай Рады Горадзеншчыны на ўтрыманьне школ на студзень, люты й сакавік 1920 году**
*582.2.46:133&r — ра*

**1572. Пратакол №2 Сходу Найвышэйшай Рады Беларускай Народнай Рэспублікі за 16.12.1919**

ПРАТАКОЛ №2
СХОДУ НАЙВЫШЭЙШАЙ РАДЫ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ
16 сьнежня 1919 году.

Прысутныя былі: Іван Серада, Сымон Рак-Міхайлоускі, Кузьма Тэрэшчанка, Язэп Лёсік і Александр Уласау

| Слухалі | Ухвалілі |
| --- | --- |
| 1. Заяву Старшыні Рады Народных Міністрау Беларускай Народнай Рэспублікі, Антона Луцкевіча, аб адстауцы | 1. Прыймаючы пад увагу сучасны палітычны момант, адстаука не прыймаецца і даручаецца грамадзяніну Антону Луцкевічу і далей весьці працу Старшыні Рады Народных Міністрау Б.Н.Р., надаушы яму правы Міністра Заграчічных Справу і Міністра Фінансау. |
| 2. Аб грошах на працу Найвышэйшай Рады Беларускай Народнай Рэспублікі | 2. Грошы на утрыманьне і працу Найвышэйшай Рады Б.Н.Р. павінен мець у сябе грамадзянін Іван Серада, як старшыня Найвышэйшай Рады Б.Н.Р. |

Аўтэнтык падпісалі:
Найвышэйшая Рада Беларускай Народнай Рэспублікі:
К.Тэрэшчэнка, А.Уласау, Я.Лёсік, Сымон Рак-Міхайлоускі
*582.1.04:001 — мк*

**1573. Тэлеграма Браніслава Тарашкевіча й Лявона Дубейкоўскага (Варшава) Антону Луцкевічу (Менск) за 16.12.1919**
TERMINOWA KRESZCZENSKA 27
SZABUNIA LUCKYEWICZ MINSK LIT

"WARSZAWA 40434 21 16 18 10
= TUTAJ CWIKYEWICZ TWOJ PRZYJAZD NATYCHMIAST TELEKRAMY OTRZYMALEM OKAZYJNYE POSYLAM LIST DATA PRZYJAZDU TELEKRAFUJ = TARASZKYEWICZ DUBIEJKOWSKI "
*582.2.13:010*

**1574. Выпіска з пратаколу №2 Сходу Найвышэйшай Рады Беларускай Народнай Рэспублікі за 16.12.1919**
*582.2.39:013 — рк бел*
*582.2.37:057 — ра фра*

**1575. Ліст Браніслава Тарашкевіча (Варшава) Антону Луцкевічу (Менск) за 16.12.1919**

Moj darażeńki,

Twaje telehramy atrymaŭ ale nie razumieju ci Ty atrymaŭ maje. Awantura samo saboju — duża błaha: im ničoha nia udasca zrabić, ale psawać mohuć. Duża škoda, što usio tak zrabiłosia.

Najważniejšaja sprawa pazyki. Tut Petlura, Lewicki i inšyje. Treba kab Ty tut abawiazkowa byŭ. Ćwikiewicz z usim swaim štabam pryjechaŭ. Jany hołyja. Daŭ im krychu hrošy. Toje, što Ty telegrafawaŭ wypaŭniaju.

Ładnoŭ telegrafa[waŭ] z Paryża: Twaja «prysutnaść» tam patrebna. Abo jamu wizu na Warszawu abo kab Ty pryjechaŭ. Ja adkazaŭ jamu, što Ty pryježdżaješ Waršawu: dalejšy adkaz ad Ciabie jamu budzie.

Wierszynin telegrafuje z Pragi: Hruszeŭski pawiedamlaje, što u Żeniewie 16 h.m. adčyniajecca konferencija niepryznanych nacyj: treba pasłać pradstaŭnika.

Zajca pawiedamiŭ, ale adkazu mie maju.

Z dnia na dzień čakajem twajho pryjezdu. Pryjaždżaj chutčej, abo — nawiet nijakaho «abo».

Ćwik hladzić na awanturu, jak na awanturu, daj to nieudačnuju.

Kančaju piśmo, śpiašajučysia pieradać jaho praz łasku p. Wojewodzkaho majho staroha pryjaciela, katory woś jedzić siońnia zaraz ža u Miensk — jon palityčny referent dla spraŭ Biełarusi.

Telegrafuj kali pryjedzieš i jak pajedzieš.

Ci pryjechaŭ Iwanoŭski?

Twajo byćcio tut wielmi patrebno.

Cisnu ruku.

Twoj Taras.

16.XII.19.

*582.2.46:072&r-073 — pa*

**1576. Склад супрацоўнікаў Міністэрства Замежных Справаў Беларускай Народнай Рэспублікі**

Дэлегацыя у Парыжу:
Луцкевіч
Ладноу
Кондратовіч
Ознобішын
Лівэн
Кіраунік аддзелу па справам палонных Де Вуліч

Місія у Бэрліне:
Баркоу
Борык
Дітман
Мюллер
Пауловскі
Машыністка

Місія у Варшаве:
Дубеікоускі
Тарашкевіч
Натусэвіч
Канцэлярыстка

Місія на Украіне:
Цьвікевіч
Галавінскі
Камарынец

Місія у Латвіі:
Езовітоу
Душэускі
Чэрэпук
Шымковіч

Місія у Празе:
Вершынін
Сэкрэтар

Консульства у Одэссі:
Некрашэвіч
Баліцкі

МІСІІ ПРАЕКТАВАНЫЯ:

У Англію:
Скірмунт
Сэкрэтар

У Рым:
Кс. Абрантовіч
Сэкрэтар

У Амэрыку:
Кандыдаты: Алексюк, Душэускі, Воронко
Сэкрэтарка Орынжына
*582.2.46:074&r — мк*

Дата невядомая.

**1577. Зварот Прэзыдыюму Рады Беларускай Народнай Рэспублікі да беларускага народу 17.12.1919**

Народ Беларускі!

17 сьнежня 1917 году на першым Усебеларускім зьездзе Ты выявіў сваю волю і даручыў Радзе Зьезду і Выканаўчаму Камітэту бараніць свае Дзяржаўные правы. Ні адступаючы ні на адзін крок ад рэзалюцый зьезду мы да гэтай пары цьверда стаялі на абароне правоў народных. Прайшло роўна два гады ад дня зьезду і ў гэты час мы дабіліся ад Вялікіх Дзяржаваў Еўропы прызнаньня і за намі правоў на самаадзначэньне разам з усімі другімі, поўстаўшымі на тэрыторыі былой Расеі Рэспублікамі. Гэта праца дала нам мажлівасьць мець сваіх прэдстаўнікоў пры усіх Вялікіх Дзяржавах і нават на Канфэрэнцыі Па[слоў] у Парыжу.

Голас Беларускаго народу ужо моцна адчуваецца і у сусьветнай міжнароднай па[літыцы]. Толькі у сябе на Бацькаўшчыне мы ня бачым да сябе пашаны як з боку акупантаў, так і некаторой часткі беларусоў, якія хочуць йсьці з тутэйшымі панамі і зноў накінуць нам на шыю ярмо паншчыны. Змагаючыся з імі мы прыйшлі да перэкананьня, што разам з імі працаваць нельга і за такую працу нас Беларускі народ не падзякуе. Мы даўно гэта бачылі, але не хочучы сваркі, шукалі шляху да аб'еднаньня і ўвесь час патрабавалі як найхутчэй скліканьня Рады Рэспублікі.

Сход Рады доўга адкладаўся і нарэшці пастановай Сеньорэн-Конвэнту 12 сьнежня г.г. быў назначаны на 13 сьнежня а [...] гадзіне увечары.

Бачучы, што несацыялістычные групы Рады астануцца у меньшесці і не змогуць правясьці на сходзе свае пляны, уся правая частка Рады з так званымі с.-д. на чале на сход Рады не зьявілісь, а адкрылі свае прыватнае пасядзэньне на прыватнай кватэры[1].

Тры разы мы пасылалі дэлегатаў да іх з запросінамі на сход Рады у памешканьне Рады рэспублікі і яны усе ж такі не зьявілісь. Мы іх чэкалі цэлых тры гадзіны, але больш чэкаць мы ня маглі і падлічыўшы кворум вырэшылі сход Рады адчыніць зараз-жа.

Адчуваючы надзвычайна гістарычны момэнт і тую небяспэку, якая пагражала нам, сход Рады Рэспублікі аднагалосна прыняў павестку дня аб выбарах новаго прэзыдіума і Рады Народных Міністраў і протэст проціў плебісцыту на Беларусі.

У склад Прэзыдіуму Рады аднагалосна выбраныя Старшынёй Крэчэўскі, намесьнікамі Старшыні Захарко і Бадунова, сакратарамі — Козіч і Мамонько. Міністэрство зложано і зацьверджано так: Старшынёй Рады Міністраў Ластоўскі, закордонных спраў — Ладноў, Грашовых спраў Белевіч, Унутраных спраў — Грыб, справядлівасьці Цвікевіч, Дзержаўны Пісар Душеўскі і Дзержаўны Кантралёр — Заяц.

Сход скончыўся пры могутным агульным спеве нацыанального гімну «Ад веку мы спалі» усімі Раднымі і публікай на хорах. Усім здавалася, што мы знаходзімся не на сходзе Рады, а творым божыю службу у старасвецкіх катакомбах Рыму.

Такая пекнасьць надзвычайна-гістарычнаго сходу Рады і яго магутнасьць дае прэзыдіуму Рады сілу і веру у тое, што усе шчырыя сыны многапакутной нашай Бацькаўшчыны як адзін чалавек стануць на падтрыманьне Рады і Міністэрства у труднай барацьбе за лепшую долю і дапамогуць нам давесьці сьвятую справу — адраджэньне Беларусі — да канца.

За праўду Бог і людьзі!

Прэзыдіум Рады Беларускай Народнай Рэспублікі

17 сьнежня 1919 г.
Менск-Беларускі

Просім перапісаць і распоўсюжыць паміж народам
*582.1.01:036&r — р*

[1] На кватэры А.Уласава.

**1578. Пераклад артыкулаў з латыскіх газэтаў за 17.12.1919**

*582.2.20:019-034 — мк*
*582.2.43:011 — Latwijas Sargs - д*
*582.2.43:012 — Jaunakas Sinas - д*

Артыкулы:

«Baltijas Wehstnesis»: Годовщину существованія Бѣлорусской Народной Республики...

«Waldibas Wehstnesis»: Праздникъ второй годовщины прокламированія Бѣлорусской Народной Республики

«Brihwa Seme»: Вторая годовщина существованія Бѣлорусской Народной Республики

«Latwijas Sargs»: Къ годовщине Бѣлорусской Республики. Бѣлорусскій концерт

«Jaunakas Sinas»: Борьба Бѣлоруссіи за независимость

**1579. Запрашэньне Рады Беларускай Калёніі ў Латвіі на канцэрт-баль у гонар 2-й гадавіны Вялікага Ўсебеларускага Кангрэсу, які мае адбыцца 17.12.1919 у памешканьні Латыскага Таварыства (Рыга, Паўлуччы 13)**

*582.2.32:085-086 — д*

*582.2.43:022-023 — д*

**1580. Заява Кузьмы Цярэшчанкі Старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антону Луцкевічу за 17.12.1919 з просьбай вызваліць яго ад абавязкаў кіраўніка Міністэрства Ўнутраных Справаў**

*582.2.01:070*

**1581. Тэлеграма Лявона Зайца (Бэрлін) Браніславу Тарашкевічу (Варшава) за 17.12.1919**

bielaruski kamitet
taraskiewieu spitalna 1 warschau =

berlin 223 30 17/12 6,10 s

prycyny chwaroby slabasei pryjechac nijak ni mahu padpisueia padusimi pastanowami stajacymi bezumouna nawarcie interesau bielaruskaho narodu backauscyny ninajakuju awanturu nipajdu adkulby jana niwychadzila = zajac +

*582.2.31:041*

**1582. Рапарт прадстаўніка Асобнага Атраду пры Вайскова-Дыпляматычнай Місіі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Рызе падпалкоўніка Мінгрэльскага (Рыга) шэфу Місіі Кастусю Езавітаву (Рыга) за 17.12.1919**

Представитель
Особаго Отряда
при В.-Дипломатической
Миссіи Б.Н.Р. въ Латвіи і Эстіи
17 декабря 1919 г.
№4
г. Рига

Шефу Миссіи.

Рапорт

Сообщаю, что 6го числа с/м. во время бесѣды въ Англійской Миссіи мнѣ Шефъ Миссіи Генер. Бэртъ заявилъ, что онъ очень удивленъ, что не получаетъ извѣщенія отъ своего правительства о существованіи Бѣлорусской Народной Республики и полагаетъ, что нашъ представитель въ Лондонѣ не принялъ для этого надлежащихъ шаговъ.

Генералъ Бэртъ проситъ о скорѣйшемъ урегулированіи этого вопроса, т.к. въ таком случаѣ онъ обѣщалъ и намъ оказать всякое содѣйствіе въ смыслѣ вооруженія, снаряженія и въ случаѣ надобности и питанія нашей арміи, а также предлагаетъ представителю нашему въ Лондонѣ войти съ ходатайствомъ къ Англійскому Правительству о назначеніи Англійской Миссіи въ Бѣлоруссію.

Съ моей стороны были приложены всѣ старанія къ ознакомленію Генерала Бэрта, а также Шефа Миссіи съ нынѣшнимъ положеніемъ границъ и населеніемъ нашей Республики.

Англійскій представитель въ Ригѣ при разговорѣ съ нимъ отнесся съ симпатіей къ нашей Родинѣ и готовъ намъ всячески содѣйствовать.

Подполковникъ Мингрельскій
*582.2.32:059&r*

**1583. Хадайніцтва начальніка Консульскага Аддзелу Міністэрства Замежных Справаў Латвіі перад консулам БНР у Рызе за 17.12.1919 аб выдачы латвійскаму грамадзяніну Людвігу Стааку бясплатнае візы для праезду праз Беларусь**
*582.2.38:011&r — ма*

**1584. Нота Прэзыдыюму Рады Беларускай Народнай Рэспублікі (Менск) Радзе Пяцёх у Парыжы за 17.12.1919 (вых. №8)**
Au Conseil de Cinq de la Conférence de Paix à Paris.

Rada de la République Populaire Démocratique Blanche-Ruthénienne dans son historique et ouverte 13.XII.19 session à Minsk après avoir choisi une nouvelle composition du Présidium de Rada et une nouvelle composition du Conseil des Ministres populaires, leur confia la défense des lois souveraines du peuple Blanc-Ruthène durant le temps où les sessions de Rada seront fermées.

C'est pourquoi le Présidium de Rada de la République Populaire Blanche-Ruthénienne proteste catégoriquement devant les Grandes Souverainetés du monde contre le plébiscite innoui dans l'histoire, que l'occupation de la Pologne veut faire au moyen des armes et contre l'arrestation et l'emprisonnement des membres de Présidium: le remplaçant de Président Badounova, de Secrétaires Kositch et Mamognko et du Président des Ministres Populaires Lastovsky[1].

Le Président de Rada de la République Démocratique
Blanche-Ruthénienne (signé) Pierre Kretchevsky

Le remplaçant du Président (signé) Sacharko.

N 8
17.XII.19
Minsk
*582.2.47:028 — мк*
*582.2.47:029 — мк*

[1] Арыштаваныя 17.12.1919.

**1585. Хадайніцтва Консула БНР у Адэсе Сьцяпана Некрашэвіча перад паслом БНР на Ўкраіне Аляксандрам Цьвікевічам за 18.12.1919 з просьбай выдзяліць яму грошы згодна з дасланым каштарысам выдаткаў на дзейнасьць Консульства**
*582.2.40:061&r — ра*

**1586. Каштарыс выдаткаў на пэнсію Беларускага Консульства ў Адэсе за час ад 1.09.1918 да 1.01.1920**
*582.2.40:062 — ра*

**1587. Суправаджальны ліст пасла БНР на Ўкраіне Аляксандра Цьвікевіча міністру замежных справаў БНР Антону Луцкевічу (Варшава) за 20.12.1919, дасланы з рахункамі за выдаткі Беларускага Консульства ў Адэсе за 18.12.1919**
*582.2.40:060 — ма*

**1588. Рахунак Беларускага Консульства ў Адэсе за выдаткі на разьезды**
*582.2.40:063 — ра*

Дата невядомая. У рахунку падаецца маршрут падарожжа С.Некрашэвіча ад Адэсы да Камянца: ад Адэсы да Севастополя параходам, ад Севастополя да Кіева, ад Кіева да Камянца 80 вёрст на конях.

**1589. Суправаджальны ліст Аляксандра Цьвікевіча (Варшава) міністру замежных справаў БНР Антону Луцкевічу (Варшава) за 20.12.1919, дасланы з справаздачай консула БНР у Адэсе Сьцяпана Некрашэвіча аб працы Консульства за ўвесь час яго йснаваньня**
*582.2.34:020 — ма*

**1590. Справаздача консула БНР у Адэсе Сьцяпана Некрашэвіча за 19.12.1919 аб працы Консульства за ўвесь час яго йснаваньня**

Б.Н.Р.
Беларускі Консул
у Адэсі
19 сьнежня 1919 року
№549
Варшава

Яго Міласьці
Пану Надзвычайнаму Паўнамочнаму Паслу Беларускае Народнае Рэспублікі на Украіне А.Цвікевічу

Даклад

Маю гонар зрабіць даклад аб працы Консульства ў Адэсі за ўвесь час яго істнаваньня, так як раней па прычыні немажлівасьці зносін з Урадам я яго зрабіць не мог.

Першыя два месяцы — верэсень і кастрычнік 1918 р. Консульство было занято рэгістрацыяй беларускіх жыхароў ў Адэсі і выдачаю прапускоў тым асобам, якія малі жаданьне ехаць на Бацькаўшчыну, а так сама павертаньем уцекачоў да Беларусі. Пры гэтым беларусаў было павернута ў Гродзеншчыну, Меншчыну і Віленшчыну два эшалоны. Далейшую рэваэкуацыю затрымала украінскае народнае паўстаньне[1], якое захапіла і Адэсу. Часьціна займаўшая Адэсу, на чацьвертую часьць была укамплектавана беларусамі, якіх адэская беларуская арганізацыя пасылала таемна з майго ведама да украінскаго штабу. Гэта братэрская падмога адэскаю украінскаю уладаю была прынята пад асобую увагу, і прэдстаўнік дырэкторыі праф. Антановіч, як я з'явіўся да яго з візытам, шчыра дзякуваў нашу арганізацыю і афіцыяльна паведаміў мяне, як беларускаго Консула, што ен будзе ахраняць інтэрэсы усей беларускай калёніі і прасіў мяне звертацца да яго па уселякай патрэбі штодзенна.

Аб гэтым часі прыехаў да Адэсы і прэдстаўнік саюзьнікаў Энно[2]. Згодна наказу Старшыні Рады Міністраў, я пабываў у яго і у сваей прамові прывітаў яго, як прэдстаўніка дзержаў згоды і пекнай Францыі, зрабіў нарыс нашаго нацыянальна-дзержаўнаго адраджэньня і ў канцы дадаў, што і мы маем моцнае жаданьне як найхучэй скінуць з сябе ярмо бальшэвізму і запытаў у яго, якую б дапамогу для нас маглі зрабіць дзержавы згоды. Із размовы з ім я убачыў, што ен саўсім не інфармован па беларускаму пытаньню. Што жа датыча да дапамогі ў барацьбе з бальшэвікамі, то на гэтае пытаньне ен адказаў, што дзержавы згоды безумоўна могуць аказаць дапамогу, але па гэтаму пытаньню лепш звернуцца да вайсковых прэдстаўнікоў, якія меюцца скора прыехаць да Адэсы. І запраўды, да Адэсы скора прыехаў генэрал Борыус, якога потым замеціў генэр. Д'Ансэльм[3].

Але аб гэтым часі на адэскім беларуска-палітычным небасхіле праізашлі важныя з'явы. Да Адэсы сталі прыезджаць так званыя члены кіеўскаго савешчаньня беларускіх грамадзянскіх палітычных дзеячаў[4], якія сталі прэтэндаваць на глаўную ролю па беларускаму пытаньню. Між іншым прыехалі: А.Бахановіч, бар. Розен, палк. Беляеў, Кадыгробаў, Лютамірскі, Гартынскі, генэр. Андрыеўскі, Карташоў і інш. Прэдвадзіцельстваў Бахановіч. Ўсе гэтыя «дзеячы» зразу жа сустрэлі моцны адпор як з майго боку, так і з боку адэскае нацыянальнае Рады, досьць моцнай арганізацыі, якая ва ўсім мяне падтрымлівала. Тады кіеўскія дзеячы прапанавалі кампраміс — з'арганізаваць адну агульную арганізацыю. Штоб не перэшкаджаць глаўнай нацыянальнай справе, мы згадзіліся. Ў рэзультаці гэтаго быў з'арганізаваны «Бѣлорусскій Національный Центръ», з'яўляўшыйся вышэйшаю палітычна-грамадзянскаю арганізацыяю для прэдстаўніцтва перад дзержавамі згоды і дабравольчаю арміяю. Пасьля доўгіх спрэчак састаў Цэнтра быў прыняты такі: 10 членаў адэскае Рады, 10 членаў кіеўскаго савешчаньня, 10 членаў аб'еднаных арганізацыяў Гродзеншчыны, Консула, члены Усебеларускаго з'езда, члены Цэнтральнае Рады, губэрнскіх і паветовых Рад, прэдстаўнікі земстваў, мест, каапераціваў, б. члены Гасударственнае Думы і Савета ад Беларусі. Між іншым у Цэнтр вашлі: 10 прэдстаўнікоў адэскае Рады, я, бар. Розэн, Баха-

новіч, Базарэвіч, Кадыгробаў, Лютамірскі, Энгельгардт, Гартынскі, Карташоў, генэр. Андрыеўскі, палк. Беляеў і пасьля: Белевіч, Ладноў, Родштэйн, палк. Камароў. Старшыною Цэнтра спачатку быў я, пасьля Бахановіч і ў канцы Грамыко, член адэскае нацыянальнае Рады.

Спачатку праца ў Цэнтры йшла згодна. Была вырабатана дэклярацыя на усесьветную канфэрэнцыю, другая дэклярацыя была паслана да Дэнікіна. Але скора выявілася, што працаваць з буржуазнай группай кіеўскаго савешчаньня не мажліва. Повад да разрыву зрабіў Бахановіч. Ў Цэнтр была ўнесена прапазыцыя аб выбару членаў ад Цэнтра на ўсесьветную канфэрэнцыю. Ні ведаючы, ці зроблены такія выбары ад цэнтральнае беларускае Улады, наша левае крыло на выбары згадзілася. Выбраны былі я, Бахановіч і Базарэвіч. Тады Бахановіч ўнёс у Цэнтр другую прапазыцыю — аб абразаваньні беларускаго краевого Ураду, знаходзячы, што безсэнсна пасылаць дэлегатаў на кангрэс ад арганізацыі, а не ад Ураду. Яго прапазыцыю падтрымаў Базарэвіч і кіеўскае савешчаньне. Скланялі яны і мяне, але я з імі не згадзіуся. На маем баку была большасьць Цэнтра, у тым ліку Энгельгардт і Кадыгробаў. На двох пасядзэньнях дэбатавалася гэтае пытаньне і вырашылася не на карысьць Бахановіча. Тады ен з Базарэвічам паставілі Цэнтру ульціматум: калі краевы Урад не будзе з'арганізаваны, тады яны адказваюцца ехаць да Парыжу. Апошнее Цэнтрам было прынято з легкім сэрцам і былі назначаны другія выбары. На гэты раз былі выбраны: я, Ладноў і Ігнацьеў, член адэскае Рады, б. мазырскі прэдвадзіцель дваранства. Балаціраваўся і Бахановіч, але на гэты раз быў забалаціраваны.

Пасьля гэтаго Бахановіч пачаў усюды абліваць гразьзю нашую дэлегацыю і стаў рабіць правакатарскія заходы, штоб нашай дэлегацыі ні далі візы для праезду ў Парыж. Аб гэтым у мяне былі яго дакумэнты і за гэта ен быў выключаны із саставу членаў Цэнтра. У той жа час дэлегацыя ад Цэнтра пабывала у генэр. Д'Ансэльма, які прыняў яе вельмі прыемна і заявіў, што па усім беларускім пытаньням ен будзе лічыцца толькі з Цэнтрам. Інфармацыю па беларускаму пытаньню йшчэ раней яму зрабіў француз де-Вуліч, член южна-рускай французскае вайсковае місіі, начальнік Ладнова, вельмі зацікавіўшыйся беларускімі справамі. Ў падзяку за працу ў французскай місіі Ладнова де Вуліч пажадаў зрабіць штонебудзь карыснае дзеля беларускае справы.

Праз колькі дзен — гэта было ў канцы студня — Бахановіч з'явіўся ў Цэнтр, ў якам ен пасьля правала на выбарах перастаў бываць, і прачытаў паперу, што ў Слоніме з'езд із прэдстаўнікоў ўсіх губэрняў Беларусі даручыў Гродзенскаму Камітэту аб'едналых грамадзянскіх арганізацыяў (Бахановіч быў старшыною гэтаго камітэту) злажыць Урад, і што згодна воле з'езда гродзенскі камітэт злажыў дырэкторыю із 5 асоб: яго Бахановіча (старшына Ураду) Ілавайскаго, Бандарука і йшчэ двох асоб, прозвішча якіх я запомняў.

Пры гэтым арыгінал паперы паказаны не быў. Ў адказ на гэта яму было прачытано аб выключэньні яго із саставу членаў Цэнтра «за неблагавідные поступки». На другі дзень у адэскіх газэтах была надрукована тэ-

леграма Дэнікіна, які прывітаў краевы Урад Бахановіча. Гэтае прывітаньне было ісхадатайствавана генэр. Гальфтэрам, пасланым кіеўскім савешчаньнем для палучэньня разрашэньня на фармаваньне Западнае арміі. Йшчэ праз колькі дзен Бахановіч выступае ў мэмарандуме чатырох «государственных образований»: Беларусі, Дона, Кубані і Украіны. Ў гэты жа час я атрымаў ад Бахановіча паперу звярнуцца да яго за палучэньнем консульскіх паўнамоцстваў. Апроч таго, я атрымаў весткі, што ен вядзе умовы з украінцамі аб 500 міліонным займе.

Тады я рашыў ўступіць з ім у барацьбу. Перш усяго я ў Адэскія газеты за сваім подпісам паслаў ліст вельмі рэзкаго характэру, што едынай уладай на Беларусі з'яўлаецца улада Беларускае Рады, выбранай Усебеларускім з'ездам ў 1917 р., што іменуюшчы сябе старшыною Беларускаго Ураду А.Бахановіч, выключанны «за неблагавідныя поступкі» із саставу членаў Цэнтра, злажыў Урад самачынна і самазванна, і што мною і Беларускім Цэнтрам прыімаюцца меры да ліквідацыі авантуры Бахановіча. Падобна гэтаму заяўленьню, я зрабіў заяву французам, украінскай місіі, кубанскай дэлегацыі, грузінскаму консулу і др. прэдстаўнікам нацыональнасьцяй, у рэзультаці чаго перад Бахановічам дзьверы ўсюды зачыніліся. Так ен хацеў, штоб яго прыняў начальнік штабу Д'Ансэльма, палкоўнік Фрэідэнберг. Для гэтаго ён засылаў генэр. Андрыеўскаго, але Фрэйдэнберг катэгорычна адказаўся прыняць Бахановіча. Перасталі прымаць яго і украінцы. Ні нашоў ен падмогі і ў дабравольчам камандаваньні, бо начальнік палітычнаго аддзела Штабу дабравольчае арміі член Цэнтра, палкоўнік Энгельгардт быў на маем баку і аб самазванным Урадзі Бахановіча паслаў вядомасьці ў Стаўку Дэнікіна. Тым часам прыехаў да Адэсы Белевіч і прывез вядомасьці пра наш Урад і Раду. — А што Бахановіча Урад быў самазванна з'арганізаваны ў Адэсі, у мяне былі пэўныя вядомасьці. Із іх глаўная тая што печатка для сваго Ураду Бахановічам была зроблена раней, як адбыўся міфічны з'езд у Слоніме. Бахановіч пробоваў ўстаць на ногі і так сама некалькі разоў выступаў ў газэтах, гаварыў, што Рада не істнуе, даводзіў да ведама, што ен мяне лішыў паўнамоцстваў, гразіў аддаць пад суд, але мне на падмогу прышлі Цэнтр, адэская Рада і беларускі гурток рабочых, якія так сама вынеслі рэзалюцыі проціў Ураду Бахановіча і надрукавалі іх ў газэтах. Бахановіч павінен быў афіцыяльна сазнацца, што палітычная справа яго ў Адэсі кончана, аб чым ен і заявіў ў газэтах, што адказваецца ад уселякай палітычнае і грамадзянскае працы. — Так безслаўна скончылася авантура Бахановіча.

Ў самы разгар барацьбы з Бахановічам на Беларусь гатовіўся паехаць новы авантурыст — генэр. Гальфтэр, які атрымаў ад Дэнікіна грошы на фармаваньне Западнае арміі. Я з'явіўся ў Адэсі ў яго штаб і запытаў аб яго адносінах да авантуры Бахановіча. Гальфтэр даў мне вельмі уклончывы адказ. Відна было, што на Беларусі ен гатоў падтрымаць Урад Бахановіча. Ў даказацельства гэтаго Гальфтэр праз колькі дзен выдаў Бахановічу 20 000 руб. Запытаў я у Гальфтэра, якія ў яго адносіны будуць да Ураду Рады. Тут ен йзноў даў дыплематычны адказ, што пастолькупаскольку. Калі Урад не будзе устаўляць палак у калеса, дык, канепше,

мажліва супольная праца. А тым часам я пачуў, што Гальфтэр запрасіў на кіраўніцтва грамадзянскаю часьцю пры яго арміі палк. Энгельгардта, які павінен быў з'арганізаваць асобае савешчаньне, такое, як у Дэнікіна. Адсюль ясна стала, што Гальфтэр яўляўся ворагам Беларускае Рэспублікі, і што трэба было прыняць меры к недопуску яго на тэрыторыю Беларусі. Дзеля гэтага я звярнуўся да Фрэйдэнберга, зрабіў яму нарыс фігуры генэр. Гальфтэра, як чарнасоценца і немецкага генэрала, які быў памоцнікам па фармаваньню севернае арміі у гр. Келера. Французам гэтае толькі і трэба было, і не гледзючы на усе клопаты, хадатайства і пратэкцыі, Гальфтэру з яго Штабам было адказана ў пропуску за кардон. Так ен і праседзеў ўвесь час у Адэсі.

Тым часам адносіны мае з французамі былі самыя прыемныя. Французы ачуціліся ў Адэсі, нічога не ведаючы пра Расію. Адно можна сказаць, што яны прыехалі ў Расію з яўным прэдубежденьнем проціў дабравольчае арміі. І па гэтай прычыні яны вельмі цікавіліся ўсякімі другімі праэктамі стварэньня арміі на другіх асновах. — Што жа датыча маіх добрых адносін з французамі, то такія ўстанавіліся йшчэ пры де-Вулічу і пасьля падтрымліваліся мною.

Штоб завязаць йшчэ больш цесныя адносіны, ад Цэнтра быу пасланы праз генэр. Д'Ансэльма мэморандум на імя Пуанкарэ, падпісаны мною, членамі Цэнтру і членамі Гасударственнае Думы — Энгельгардтом, Кадыгробовым і Лютамірскім. Ў гэтым мэморандуме выкладаліся краткія гістарычныя сьведеньня і гісторыя беларускаго нацыянальна-дзержаўнаго руху, гаварылася, што беларускі народ заўседы глядзеў на Францыю, як на безкарыстную збавіцельніцу народаў ад уціску пануючымі нацыямі і прасілася дапамагчы ў фармаваньні беларускае арміі дзеля барацьбы з максімалістамі справа і слева і аказаць ей фінансавую і матэрыяльную дапамогу. К вялікай шкодзе, усе дакуманты консульства засталіся ў Адэсі, і я не маю мажлівасьці прыкласьці іх да дакладу. З сабою я іх узяць не мог, бо із Кіева мне трэба было праходзіць праз бальшэвіцкі фронт.

Стараўся я завесьці з французамі і тарговыя зносіны. Я ім прапанаваў лес і лесныя матэрыялы, смалу, дзегаць, шкіпідар, лен, пеньку і інш. З свайго боку яны далі мне дазваленьне паехаць ў Францыю для закупкі тавараў для 30 000 челав. адэскае каленіі, далі права вольнаго правозу тавараў да Адэсы і права на трэбованьне транспарту для перавозу тавараў. Але пазаяк (?) грошай ні ў мяне ні ў адэскіх арганізацыях не было, я заключыў кантракт на субсыдзію пакупкі на тры міліоны з банкам А.М.Бродскаго. Но так як у той час распачалася вельмі вялікая спэкуляцыя банкаў, французы адказалі ў візе прэдстаўніку банка на паездку да Парыжу. Разам з тым, хоць у мяне і была віза, не мог паехаць да Парыжу і я.

Былі у мяне добрыя зносіны і з украінскай місіяй. З старшыною місіі тав. міністэра закардонных спраў Бачынскім мы ўже распачалі прыватныя гутаркі аб фэдэрацыі Беларусі з Украінай.

20 лютаго 19 р. часьцінаю адэскай чорнай сотні былі разгромлены, як асабліва нацыяналістычныя і дэмакратычныя, беларускія арганізацыі:

«Гай», бежанскі камітэт і каапэрацію. Маентнасьць каапэрацiва была падзелена паміж салдатамі, бібліотэка спалена, а ўсе дзела і некатарыя члены Камітэту былі заарыштованы і атпраўлены ў дабравольчую контрразведку, як бальшэвікі. Але аттуль іх зараз жа па майму хадатайству іх адпусьцілі, а дзела вернулі, бо нічога бальшэвіцкаго у іх ні было. Мною аб гэтым зроблены былі заявы дабравольчаму і саюзнаму камандаваньням. Апроч таго, аб гэтым здарэньні быў запрос ў Мейсцовай Думе. Пасьля гэтаго часьціну Саюза Рускаго народу расфармавалі, а глаўных віноўнікаў заарыштавалі.

Гэты факт нав'ёў мяне на думку, што трэба мець сваю вайсковую сілу, штоб у далейшым часе падобнаго рода выпадкі не зверталіся. Дзеля гэтаго я звярнуўся да французаў і прасіў іх, штоб яны дазволілі фармаваньне беларускіх народных часьцей і далі ім грошы, аружжа і абмундыраваньне. Французы адразу жа ухапіліся за фармаваньне народных часьцей і далі сваю прэдварыцельную згоду. Многа гэтаму дапа[ма]глі мае добрыя адносіны з французамі і то асаблівае даверра, якое французы мелі да беларусаў. Бываючы у іх па розным беларускім справам бадай што не кожан дзень, яны заўседы прымалі мяне з вялікаю прыемнасьцю. Як раз аб гэтай пары прыехаў да Адэсы генэр. Бэртэло, глаўнакамандуюшчы на Усходзі, і я разам з палк. Вендам, прыехаўшым да Адэсы, пабывалі у яго. Бэртэло заранее ўжо быў інфармован па нашаму пытаньню палк. Фрэйдэнбергам. Я з свайго боку інфармаваў яго па беларускаму пытаньню, даў яму карту Беларусі, за якую ён шчыра дзякуваў, і прасіў яго даць дазваленьне на фармаваньне беларускіх часьцін. Бэртэло даў сваю згоду. Но працiў гэтаго фармаваньня запрацеставала дабравольчае камандаваньне. Глаўнаначальствуюшчы генэр. Шварц прыказам, апублікаваным у газэтах, прыпыняў і не дазваляў беларускіх фармаваньняў. Аднак французы йзноў паўтарылі сваю згоду, і назначылі глаўным інспэктарам па фармаваньню украінца генэр. Сокіро-Яхонтова. Так пачалася фармавацца першая беларуская дывізія. Фармаваў Вэндт, які маў дакуманты ад Ураду, што ен начальнік штаба беларускае арміі. Но калі сфармована было каля 1000 чал., французы і дабравольцы пачалі ухадзіць ад Адэсы[5]. Павінна б была адступіць і наша дывізія, але Вэндт, карыстаючы момант, перайшоў на бок бальшэвікоў і астаўся у Адэсі. У дывізіі падняўся бунт, і часткі дывізіі адступілі. Як прышлі ў Адэсу бальшэвікі, Вэндт пры дапамозі беларускае камуністычнае парціі легалізаваў сваю часьціну і пачаў фармаваньне 1[ай] беларускай савецкай брыгады. З беларусамі ен перастаў лічыцца і кленчыў перад камісарамі. Дзякуючы таму, што за брыгадаю зацьвердзілася слава, як контррэвалюцыйнай часьціны, ў яе рады пашло афіцэрства, і скора брыгада лічыла ў сваіх радах да 10 000 чырвонаармейцаў. Шчырым беларусам хацелася скарыстаць гэтую сілу, штоб прагнаць з Менску маскоўскіх камісараў, дзеля якое патрэбы і быў пасланы ў Менск Баліцкі. Але Крывашэін[6] на перавод брыгады да Беларусі не згадзіўся. Тым часам Вэндт без суда застрэліў аднаго чырвонаармейца, за што вайсковы рэвалюцыйны трыбунал прыгаварыў адправіцца яму на фронт. Аб гэтай пары як раз распачалося паўстаньне Грыгор'ева[7]. Вэндт

парашыў прыстаць да яго, але не удзячна. Паустаньне яго скончылася жыдоўскім пагромам і стрэлянінай у месьці. Тады Вэндт схаваўся, глаўных віноўнікаў паўстаньня заарыштавалі і растрэлялі, брыгаду пераіменавалі ў брыгаду імені тав. Леніна і адправілі на фронт.

Пры разборы ў вайсковым трыбунале спраў брыгады дакапаліся і да мяне, як глаўнаго арганізатара дывізіі проціў савецкае Улады, веўшаго умовы з французамі. Прышлося доўгі час хавацца. Перабрацца за кардон ні было ніякай мажлівасьці. Калі справа брыгады трохі прыціхла, я полулегальна працаваў ў беларускіх культурна-прасьветных арганізацыях.

У бальшэвіцкі час павінны былі прыпыніць сваю працу Беларуская нацыянальная Рада, грамадзянская арганізацыя «Гай» і бежанскі камітэт. Цэнтр распаўся йшчэ на месяц раней. Вышэйпамяненныя арганізацыі былі зачынены, як контр-рэвалюцыйныя. Замест іх быу утвораны Беларускі нацыанальны камісарыят, атрымаўшый на сваю працу 84 тысячы руб., і беларуская камуністычная парція. Праз месяц Цэнтральным Украінскім Савецкім Урадам Камісарыят быў скасованы, а пры губэрнскам адздзелі народн. прасьветы была утворана беларуская школьная сэкцыя, зацьверджаная вышэйшым Укр. Сав. Урадам. Беларускаю камуністычнаю парціяй быў адчынен беларускі рабочы клюб і беларуская пралетарская школа. Для клюбу і парціі быў зрэквізован асабняк беларускага памешчыка Агаркава, вельмі вялікі і багаты. Пры клюбу была заложана салідная бібліатэка із 10 кніжных шафау. У клюбі кожнае сьвята адбываліся спэктаклі, на якія заўседы сходзілася многа народу. Камуністычнаю парціяй было перэдрукована некалькі беларускіх брашураў. Беларускаю школьнаю сэкцыяй была адчынена беларуская децкая калёнія імені Янкі Купалы, у якой было 60 беларускіх дзяцей-сірат і найбольш бедных. Дзякуючы добраму выбару пэдагогаў, навукова-васьпітацельная справа у каленіі была пастаўлена вельмі высока. Размова з дзяцьмі велася толькі па беларуску. Беларуская каленія з'яўлялася адной із самых лепшых каленіяў у Адэсі. Апроч каленіі сэкцыяй была адчынена беларуская змешанная гімназія. Па прыходзі ў Адэсу дабравольцэў[8] было адказано каленіі і гімназіі ў казенным коштці і прапановано трымаць іх на свой кошт. Так як адэскія арганізацыі грошай не маюць, то мусі быць гімназія і каленія прыпынілі сваю працу, покуль ні знойдуць коштаў на свае існаваньне. Такім чынам ў Адэсі ў апошні час істнуюць: грамадзянская арганізацыя «Гай», лічашчая да 500 членаў. Арганізацыя мае сваю бібліатэку, устрайвае спэктаклі, вечарынкі, адчыніла чатыры пачатковых школы, істнуючых па гэты час; беларускі бежанскі камітэт, заняты справай павертаньня уцекачоў да хаты. Камітэт з пачатку гэтаго року выдаў бежанцам падмогі да 100 000 руб.; кааперацію і вучыцельскі гурток.

23 жніўня гэтаго року, як да Адэсы прышлі дабравольцы, выяснілася, што Консульство працаваць не можа. Глаўнаначальств. генэр. Шылінг зачыніў грузінскае консульство і так жа варожа адносіцца да другіх консульстваў, а Дэнікін нават не прыняў дэлегацыі ад Латвіі, сказаўшы, што суверэннае Латвіі ен не знае. Тады я праз Кіеў направіўся да Каменца, дзе знаходзілася наша пасольства. Ад Кіеву да Каменца прышлося ісці і

ехаць 19 дзен пры вельмі кепскіх варунках, прабіраючыся праз бальшэвіцкі фронт па сьнегу і марозу. Прыехаў у Каменец 13 лістапада і захварэў тыфам. Вылечыўся ў Варшаві.

Консул С.Некрашэвіч
*582.2.34:021-030 — ра*

---

[1] Паўстаньне супраць рэжыму Скарападзкага, арганізаванае ўкраінскімі сацыялістамі, пачалося 15.11.1918. 14 сьнежня гетман Скарападзкі зрокся ўлады. Пераможцы ўтварылі Дырэкторыю ў складзе: У.Вінічэнка (старшыня), С.Пятлюра, Ф.Швец, А.Андрыеўскі й А.Макаранка. [2] Консул ад дзяржаваў Антанты ў Кіеве. [3] Камандуючы французскім экспэдыцыйным корпусам у Адэсе. [4] Кіеўская Нарада беларускіх палітычных дзеячоў — створаная ўвосень 1918 году арганізацыя расейскіх афіцэраў шавіністычна-манархічнага кірунку. [5] Эвакуацыя французаў з Адэсы пачалася 3.04.1919. 6 красавіка ў горад увайшлі бальшавіцкія войскі. [6] На той час — начальнік Менскага гарнізону. [7] Бунт савецкага камандзера М.Грыгор'ева пачаўся ў канцы красавіка 1919 году й да канца траўня быў задушаны бальшавікамі. [8] Дзянікінскія аддзелы выбілі бальшавікоў з Адэсы 23.08.1919.

**1591. Каштарыс выдаткаў на месячнае ўтрыманьне Гарадзенскай Агульнай Беларускай Прытулковай Школы**
*582.2.46:134 — ра*

**1592. Тэлеграма Антона Луцкевіча (Варшава) Аўгену Ладнову (Парыж) за 20.12.1919**

Ladnoff
24 rue Bayard
Paris.

Venez Varsovie apportez une demi des nos ressources visa sera donnée avanture de Lastovski Kreczevski est finie

Loutckevitch

20.XII.19.
*582.2.33:106 — рк*

**1593. Ліст пасла БНР на Ўкраіне Аляксандра Цьвікевіча міністру замежных справаў БНР Антону Луцкевічу (Варшава) за 20.12.1919 з паведамленьнем аб прызначэньнях Аляксандра Галавінскага в.а. радніка, а Юрыя Камарынца в.а. сакратара Пасольства і просьбай павысіць ім памер сутачных**
*582.2.40:044 — ма*

**1594. Аркуш, азагалоўлены «Дзело Алексючанкі. Належыць да разследаваньня»**
*582.2.46:116 — р*

---

Да дакумэнтаў 582.2.46:117-129

**1595. Тэлеграма Эўгеніі Алексючанкі (Горадня) Антону Луцкевічу (Варшава) за 20.12.1919**

warszawa hotel saski luckyewicz

grodna 1726 35 20/12 18/35=

pyeniadze minsk smoliczu wyslane 18 grudnia za numerem 1275. - prosze o przyslanye naleznej mi pensji za listopad grudzien i za dwa myesiace naprzod powodu naglego zwolnyenia posady zadam tego kategorycznye = aleksiuczanka.

*582.2.46:121 — а*

**1596. Рапарт шэфа Вайскова-Дыпляматычнай Місіі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Рызе Кастуся Езавітава (Рыга) надзвычайнаму паслу БНР у Балтыцы Кляўдыюшу Душэўскаму (Рыга) за 21.12.1919**

21.12.1919
№155
м. Рыга

Надзвычайнаму Паслу
Беларускай Народнай Рэспублікі
у Балтыке Грамадзяніну
К.Душэўскаму

Рапарт.

Ад Асобнага Атрада Беларускай Народнай Рэспублікі я маю весткі ужо аб першых яго вайсковых апэрацыях, досыць удачных. Есьць трафэі і палонныя, есьць адлічыўшыяся грамадзяне салдаты і афіцэры. На мой пагляд патрэбны якіясь меры к таму, каб падтрымліваць у Атрадзе добры вайсковы настрой. Адной с такіх мер яўляецца награда чынамі і ардзенамі.-

Прапаную часова зацьвердзіць тутака прэдстаўляемае пры гэтым «Палажэньне аб Полацкім Беларускім Крыжэ» і зацьвердзіць праэкт гэтаго Крыжа і ордзенскай да яго стужкі.

Дадатак: палажэньне і фатаграфія Крыжа і ордзенскай стужкі.

Палажэньне аб Ордзене
«Полацкаго Беларускаго Крыжа».

I. Полацкі Беларускі Крыж з'яўляецца едзіным ордзенам Б.Н.Р. і выдаецца як у вайсковыя, так і у мірныя часы за асобыя заслугі грамадзянам Б.Н.Р. прад Бацькаўшчынаю.

II. Ордзен мае пяць сьцепеняў с падраздзеленьнем кожнай на мірную і вайсковую катэгорыі.

III. Сьцепені адзначаюцца на стужке:

а) у вайсковай катэгорыі за баевыя заслугі — гвёздкамі,

б) у мірнай катэгорыі, якая можа выдавацца грамадзянам не вайсковым, маленькімі крыжыкамі, зробленымі па тыпу самаго ордзенскага Крыжа.

IV. Сьцепені адзначаюцца ў такім парадку: з лева на права на верхняй палосцэ стужкі пацэпліваецца належны лік крыжыкаў, або гвёздачак па

мерэ атрыманьня вышэйшых сьцепеняў ордзена, прычым трымаецца такі парадак:

5я сьцепень мае адзін крыжык або гвёздку
4я — " — два — " — " —
3я — " — тры — " — " —
2я — " — чатыры — " — " —
1я — " — пяць — " — " —

Пры чым, калі адна сьцепень атрымана за баевыя заслугі, а другая атрымана за заслугі у мірны час, яны адзначаюцца: адна — гвёздкай, а другая крыжыкам на той жа самай ордзенскай стужке.

Напрыклад, гэткае распалажэньне
[малюнак]
азначае, што грамадзянін мае ордзен другой сьцепені, пры чым пятая і трэйцяя былі атрыманы ім за баевыя заслугі, а чацьвертая і другая — за заслугі у мірныя часы.

V. Ордзен выдаецца кожны раз па пастанове Рады Міністраў Б.Н.Р.

Шэф Місіі
Палкоўнік Езавітаў
*582.2.33:116&r-117*

---

Прыпіска Антона Луцкевіча: «NB. Дадатак-фатаграфія не аттрыманы!»

**1597. Фатаздымак Кастуся Езавітава ў беларускай вайсковай форме**
*582.2.33:133*

**1598. Рапарт шэфа Вайскова-Дыпляматычнай Місіі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Рызе Кастуся Езавітава (Рыга) надзвычайнаму паслу БНР у Балтыцы Кляўдыюшу Душэўскаму (Рыга) за 21.12.1919**

21.12.1919
№156
м. Рыга

Надзвычайнаму Паслу
Беларускай Народнай Рэспублікі
у Балтыке грам. К.Душэўскаму

Рапарт.

Як ведама Вам ужо, Грамадзянін Пасол, на Беларускую службу перайшоў гэнэрал-маёр Булак-Балаховіч.

Пераход гэты патрэбаваў разрэшэньня некаторых тэхнічных пытаньняў, а у першы чэрод, паміж іншым, пытаньне аб назве атрада і аб форме для яго чыноў.

Як Вам ведама і з Вашай згоды атраду была дана назва «Асобнага Атрада Б.Н.Р. у Эстіі». Што датычыць формы, то справа стаіць гэтак: у лютым 1919 году мною быў прэдстаўлен праэкт формы абмундзіраваньня для Беларускай Арміі на іммя Старшыні Рады Міністраў, у якім я прапанаваў зрабіць гэту форму і наогул увясьці у Арміі такі парадак, каб ня

было чыноў. Праэкт гэтай формы быў Старшынёю Рады Грамадзянінам Антонам Луцкевічам 20 сакавіка 1919 года за №30/1990 прыняты і зацьверджаны. У ліпеню я ад Прэдстаўніка Міністэрства Міжнарадовых Спраў у Літве даведаўся аб тым, што па зложыўшымся варункам жыцьцё патрэбуе, каб ў Армію былі уведзены чыны, бо саюзьнікі вельмі не прыхільна спаткалі нашу Армію бэз чыноў. Мною, на моцы гэтаго, быў зроблены новы, прыменіцельна да старога, праэкт, у які я ўвёў чыны па тыпу старай расейскай арміі, бо ўсе чыны Беларускай Арміі служылі у арміі расейскай і маюць расейскія чыны, якія трудна было-б перэвесьці на якую-б-небудзь новую табэль чыноў, не абідзеўшы таго ці іншаго грамадзяніна-вайсковаго.

Калі да нас перэйшоў Атрад, дык гэты праэкт я перэдаў гэнэралу Булак-Балаховічу, які увеў яго у Асобным Атрадзе раней, чым ён успеў быць зацьверджаны Радай Міністраў.

Паведамляючы Вас аб гэтым, прашу Вашаго хадатайства, каб Рада Міністраў зацьвердзіла гэты праэкт і распраcтраніла на ўсю Беларускую Армію.

Як абразец гэтай формы, прыкладаю да гэтаго схэмы і маю картку, зьнятую ў штабной форме.

Шэф Місіі
Палкоўнік Езавітаў
*582.2.33:134&r-135*

**1599. Тэлеграма Антона Луцкевіча (Варшава) Кастусю Езавітаву (Рыга) за 22.12.1919**

Terminowa 22.XII.19.
Jezowitow
Nikolajewskaja 20
Ryga

Praszu telehrafawać wypadkach Estonii czynnaściach Duszeuskaho Rada Respubliki Miensku wybrała najwyszejszuju radu piaci asob Sieredy Raka Losika Własowa Tereszczenki razjechałasia stary gabinet paćwierdżen

Łuckiewicz.
Warszawa, Hotel Saski.
*582.2.32:042 — рк*
*582.2.54:008 — рк В.Ластоўскага*

**1600. Тэлеграма Антона Луцкевіча (Варшава) Аўгену Ладнову (Парыж) за 22.12.1919**

Ladnoff
24 rue Bayard
Paris.

Après avoir elu Conseil Superieur composé de Sereda Losik Vlasov Rak-Michajlovsky Terechtchenko Rada interrompt son travail les droits de mon Cabinet sont confirmés par Conseil Superieur

Loutckevitch

22.XII.19.
*582.2.33:105 — рк*

**1601. Ліст старшыні Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі Антона Луцкевіча ([Варшава]) паўнамочнаму прадстаўніку БНР у Бэрліне Лявону Зайцу і Леаніду Баркову (Бэрлін) за 22.12.1919 (вых. № І-228-229)**

Менск, 22.XII.19.
№№І-228—229

Паунамочнаму Прэдстауніку
Б.Н.Р.
Лявону Заіцу (Леаніду Баркову)
у Бэрліне

Прэд'яуніку гэтага, Міністру і Паунамочнаму Паслу П.Аляксандру Цьвікевічу прашу Вас выплаціць з сум прэдстауніцтва у Бэрліне пяцьдзесят тысячау (50.000) ням. марок

Старшыня РНМ і Мін. Загранічн. Спрау
*582.2.40:042 — мк*

**1602. Заява Янука Натусэвіча (Варшава) міністру замежных справаў БНР Антону Луцкевічу за 23.12.1919 з просьбай выплаціць яму належную пэнсію паводле прыкладзенага акту й справаздачнай ведамасьці**
*582.2.40:085 — ра*

**1603. Справаздачная ведамасьць на выплату пэнсіі службоўцу Міністэрства Замежных Справаў БНР Януку Натусэвічу за 28.12.1919**
*582.2.40:087 — ра*

Падпісаў бухгальтэр Міністэрства Фінансаў Зігфрыд Курц

**1604. Справаздача консула БНР у Рызе Барыса Шымковіча аб працы Консульства ад 11.08 да 24.12.1919**
*582.2.32:099-105*

Консульства ў Рызе было адчыненае паводле загаду Надзвычайнага Пасла і Міністра Унутраных Справаў Кузьмы Цярэшчанкі 11 жніўня 1919 году. Часовым консулам быў прызначаны Барыс Шымковіч, які атрымаў 17 жніўня ад Міністра Замежных Справаў Латвіі афіцыйнае прызаньне й консульскую візу.

**1605. Тэлеграма Аркадзя Смоліча (Менск) Антону Луцкевічу (Варшава) за 25.12.1919**

= terminowa warszawa hotel saski
luckiewiczowi =

warszawa minska 2351 17 25/12 17 17

kuzma[1] wyjechal niedziele[2] sprawy ida marudnie informujcie szerzej prase czekamy listow = smolicz"

*582.2.46:095 — a*

[1] Цярэшчанка. [2] 21.12.1919.

**1606. Рапарт шэфа Вайскова-Дыпляматычнай Місіі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Рызе Кастуся Езавітава (Рыга) надзвычайнаму паслу БНР у Балтыцы Кляўдыюшу Душэўскаму (Рыга) за 26.12.1919**

26.12.1919
№180
м. Рыга

Надзвычайнаму Прэдстаўніку
Беларускай Народнай
Рэспублікі у Балтыке
Грамадзянінну К.Душэўскаму.

Рапарт.

Згодна з запытаньнем Вашым аб працэ, зробленай мною у Балтыке, маю гонар у кароткім аглядзе пазнаёміць Вас, Грамадзянін Пасол, з найгалаўнейшымі пунктамі гэтай працы.

Назначэньне мае на пасаду Шэфа Вайскова-Дыплёматычнай Місіі Беларускай Народнай Рэспублікі адбылося у канцы жнівеня месяца гэтаго году асобнай пастановай Рады Міністраў Б.Н.Р., але фармальныя паўнамоцтва былі атрыманы мною толькі у канцы верэсьня у м. Коўне. Гэта затрымала ад'езд мой у Балтыку на цэлы месяц і таму я толькі 1го кастрычніка смог прыехаць у Рыгу. С 1го кастрычніка і пачынаецца мая фактычная праца у Балтыке. Пачаў я яе з Латвіі, гдзе у м. Рызе зрабіў сваю Штаб-Кватэру.

У працяге 15 дзён (с 1го па 15го кастрычніка) я:

1) зрабіў у Рызе належныя крокі прад Латвійскім Урадам і дабіўся акрэдытаваньня Місіі у складзе: а) Шэфа Місіі Палкоўніка Езавітава,

б) Вайсковага Райцы Падпалоўніка Шолкаваго і

в) Сэкрэтара Я.Чэрэпука;

2) завязаў добрыя стасункі з латышскім грамадзянствам і прэсай;

3) наладзіў працу Консульства у Рызе, якоя зацьвердзіў у складзе:

а) Часоваго Консула Шымковіча,

б) Сэкрэтара Цветкова і

в) Стоража Гаспэра;

4) падняў справу аб мабілізацыі беларусоў у Латвіі;

5) зрабіў рэгістрацыю беларускаго грамадзянства у Латвіі і арганізаваў «Беларускую Калёнію у Латвіі», паставіўшы на чале яе «Беларускую Нацыянальную Раду у Латвіі», якую перэіменаваў у «Раду Беларускай Калёніі у Латвіі»;

6) Умацаваў грашовае і юрыдычнае становішчэ «Рады Беларускай Калёніі у Латвіі», дазволіўшы ей карыстацца памешканьнем Консульства для сходаў і рабіць з рэгістрыруемых у Консульстве грамадзян зборы на патрэбы Рады.;

7) палажыў пачатак ізучэньню грамадзянамі беларускай мовы, гісторыі і пісьменства, перэдаўшы ей добры лік прывезеннай с сабой на гэты выпадак літэратуры;

8) быў легка ранен, но ні на мінуту не спыніў працы і 15го кастрычніка выехаў ў Эстію, каб тамака правесьці тую-ж работу.

У Эстіі у працягу тыдня я зрабіў належныя крокі прад Урадам і змушэный чэкаць некаторы час адказу, каб не траціць часу, выехаў у Фінляндзію, каб і тамака, хаця я і ня меў на гэтае мандатаў, зрабіць некаторые крокі.

У Фінляндзіі я быў чатыры дні, за якія:

1) бачыўся два разы з Міністрам Міжнарадовых Спраў Фінляндзіі, добра паінфармаваў яго у беларускіх справах і падаў мэморыял гістарычна-інфармацыйнаго сэнса;

2) бачыўся прыватна з Міністрам Паўночна-Заходняго Ураду Велікарасеі Маргуліесам, з якім меў вялікую размову аб прызнаньні Беларусі незалежнай;

3) утварыў у Таммерфорсе Рэгістрацыйна-Пашпартны Аддзел Місіі с грамадз. Чэрвяковым на чале;

4) пазнаёміўся с Гэнэралам Васількоўскім, які вельмі прыхільна адносіцца да беларускіх спраў і якому я даў паўнамоцтва на ізысканьне грошэй для беларускаго войска;

5) даў некторыя весткі аб Беларусі у прэссу і выехаў у Рэвель.

У Эстіі прышлося прабыць шмат балей таго, як я думаў, бо явілось патрэбным прыняць учасьціе у працэ Юрьеўскай Канферэнцыі і заняцца справамі беларускаго войска. Прабыў я да 1го сьнежня, і за гэты час, ня лічучы таго, што зроблена было у Фінляндзіі, зрабіў гэта:

1) дабіўся акрэдытаваньня Місіі пры Эстійскім Урадзе;

2) завеў вельмі добрыя стасункі з Рэвельскай расейскай і эстійскай прэсай, што відна с тых інтэрвью, якія былі імі надрукованы;

3) завязаў зносіны з эстійскім і расейскім грамадзянствам;

4) адчыніў у Рэвеле Рэгістрацыйна-Пашпартны Аддзел Місіі с грамадзянінам Шанкат на чале;

5) залажыў у Рэвеле Нацыянальны Беларускі Камітэт, які па сканчаньні рэгістрацыі, будзе перэтворэн мною ў Раду Беларускай Калёніі ў Эстіі;

6) дабіўся таго, што, не прызнавая пакуль што незалежнасьці Беларусі, Урад Паўночна-Заходняй Вялікарасеі пачаў са мной афіцыяльныя зносіны;

7) пачаў перэгаворы с Гэнэрал-Маёрам Булак-Балаховічам і дабіўся перэхода яго з усім яго атрадам на Беларускую службу, як «Асобнаго Атрада Беларускай Народнай Рэспублікі ў Эстіі»;

8) прыняў учасьціе у працэ Юрьеўскай Канфэрэнцыі, гдзе меў вялікі успех сваей вельмі нашумеўшай прамовай аб тым, што маленечкія адрадзіўшыяся нацыянальнасьці павінны самы узяцца за будову свайго жыцьця і долі і зрабіць ў Юрьеве 2й Парыж.;

9) быў запрошэны эстійскім Урадам і пасеціў цэлы рад таржэств, гдзе зауседы вельмі прыхільна спатыкаўся эстійскімі урадоўцамі;

10) пасьля катастрофы арміі Гэнэрала Юдзеніча заняўся справамі уцекачоў, для абслужываньня якіх назначыў асобнаго Прэдстаўніка Мі-

сіі, Л.Міхельсона, у Нарву, які выясьніў лік уцекачоў, з'арганізаваў іх у Бежанскі Камітэт, наладзіў снабжэньне іх адзежай і давольсьцвіем і пачынае налажываць адправку іх на Бацькоўшчыну;

11) связаўся з асобнымі беларусамі, раскіданымі па усей Эстіі і аб'едзініў іх каля Рэвельскаго Рэгістрацыйна-Пашпартнаго Бюро;

12) з Вамі разам пачаў перэгаворы з Эстамі аб пазычке на патрэбы Асобнаго Атрада Б.Н.Р., але захварэў і выехаў у Рыгу.

У Рызе тыдзень-паўтара хварэў, а потым зноў прыняўся за працу і да гэтаго часу зрабіў гэтае:

1) прывеў у парадак канцэлярыю Місіі і грашовую адчотнасьць;

2) зноў пачаў перэгаворы аб мабілізацыі беларусоў;

3) адчыніў у Лібаве Рэгістрацыйна-Пашпартны Аддзел Місіі;

4) наладзіў, як ні адна, здаецца, місія інфармацыю аб Беларусі у латышскіх і расейскіх газэтах, для якой патрэбы зрабіў пры Місіі Аддзел Прэссы;

5) увайшоў у сьвязь з місіямі Антанты, у тым ліку і з Місіей Гэнэрала Ніссель[1];

6) дабіўся таго, што у дзень нашаго нацыянальнаго сьвята — 17 сьнежня ня было ні воднай ні расейскай ні латышскай газэты, якая-б не падкрэсьліла гэты дзень асобнай стацьцёй;

7) у віду таго, што доўгая адсутнасьць Сэкрэтара Місіі Чэрэпука, паехаўшаго да Ураду за грашмі, паставіла Місію у цяжкае грашовае становішчэ, зрабіў крокі, каб атрымаць грашовую дапамогу з боку грамадзян Беларускай Калёніі, але пакуль што ня маю на гэтыя крокі адказу.

Цяперашняе становішча даручанай мне справы і місіі гэткае:

Місія складаецца з:

1) Мяне, як Шэфа Місіі,

2) Сэкрэтара Чэрэпука,

3) Дзелавода Казячаго,

4) Кіраўніка Аддзела Прэссы Грузеўскаго

5) Кіраўніка Рэг.-Пашпартнаго Аддзела у Фінляндзіі Чэрвякова,

6) Кіраўніка Рэгістр.-Пашпарт. Аддзела у Рэвеле Шанкат,

7) Асобаупаўнамочаннага па бежанскім справам у Нарве Л.Міхельсона

8) Кіраўніка Рэг.-Пашпартнаго Аддзела у Лібаве Цветкова

9) Агітатара-інфарматара у Асобным Атрадзе Б.Н.Р. у Эстіі Сорока.

Апрача таго, пад загадам Місіі знаходзіцца:

1) Консульства Б.Н.Р. у Рызе, с Ш.-Капытанам Шымковічам на нале і с 9 служачымі Консульства і

2) Прэдстаўнік Асобнаго Атрада Б.Н.Р. пры Місіі падпалкоўнік Мінгрэльскі, з Ад'ютантам паручыкам Юргенсонам і дзелаводам чыноўнікам Семёнавым.

Беларускіх грамадзян у Балтыке зарэгістрыравана некольні тысячаў.

Шэф Місіі
Палкоўнік Езавітаў
*582.2.32:092&r-095*

[1] Кіраўнік Французскай вайсковай місіі ў Расеі..

**1607. Выпіска з пратаколу паседжаньня Рады Менскага Беларускага Пэдагагічнага Інстытуту за 26.12.1919 аб немагчымасьці далейшае працы Інстытуту ў неспрыяльных умовах, створаных польскай адміністрацыяй**

*582.2.47:041&r — мк*
*582.2.47:042&r — мк*

**1608. Заява Старшыні Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі Антона Луцкевіча (Варшава) паўнамоцнаму прадстаўніку Чэхаславацкай Рэспублікі ў Варшаве Радзімскаму за 27.12.1919 (вых. №І-232) з паведамленьнем аб складзе Найвышэйшай Рады БНР, выбранай у Менску 13.12.1919**

*582.2.30:007 — мк*

**1609. Чарнавік мэмарыялу надзвычайнага паўнамоцнага прадстаўніка БНР у Балтыцы Кляўдыюша Душэўскага (Рыга) міністру замежных справаў Фінляндыі за 27.12.1919 з агульнай інфармацыяй пра Беларусь і просьбай прызнаць незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі**

*582.2.32:077&r-080 — рк*

**1610. Рапарт шэфа Вайскова-Дыпляматычнай Місіі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Рызе Кастуся Езавітава (Рыга) старшыні Рады Народных Міністраў і міністру замежных справаў БНР Антону Луцкевічу (Варшава) за 27.12.1919**

27.12.1919
№191
м. Рыга

Старшыні Рады Народных Міністраў
і Міністру Міжнарадовых Спраў.
праз
Надзвычайнаго Прэдстаўніка у Балтыцэ
грам. К.Душэўскаго

Рапарт.

Пры пасылцэ мяне ў Латвію і Эстію на чэле Вайскова-Палітычнай Місіі Рада Народных Міністраў не зьвярнула увагі на тоя, каб абгаварыць і назначыць мне належную пэнсію; у пратаколе па гэтаму пытаньню адзначэна толькі, што я маю права атрымліваць сутачныя ў ліку 100 марак у суткі, пытаньне-ж аб пэнсіі не абгаворано зусім.

У пратаколе схода Рады Народных Міністраў ад 21го сакавіка 1919 года у п. 12 («Аплата загранічных дэлегацыяў») пэнсія кіраўнікоў дэлегацыяў апрэдзелена ў 1000 марак.

Прашу Старшыню Рады растлумачыць, ці распрастраняецца гэтая пастанова і на мяне, ці не.

Павінен дадаць, што на мой пагляд аклады, праведзенныя ў гэтай пастанове, не адказваюць жыцьцевым патрэбам даручанай мне Місіі, бо я, акромя таго, што акрэдытованы пры двох Урадах і павінен бэзпрэстанку

ездзіць з мейсца на мейсца, прымушан яшчо працаваць ў складзе надзвычайных, як напрыклад Юрьеўская, канферэнцый, што вызывае ў мяне ў тры разы больш выдаткаў, чым у Місіях — Парыжскай, Бэрлінскай, Пражскай, Ковенскай.

Шэф Місіі
Палкоўнік Езавітаў
*582.2.32:107&r*

**1611. Рапарт шэфа Вайскова-Дыпляматычнай Місіі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Рызе Кастуся Езавітава (Рыга) старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антону Луцкевічу (Варшава) за 27.12.1919**

27.12.1919
№192
м. Рыга

Старшыне Рады Народных Міністраў

Рапарт.

З вялікаю радасьцяю маю гонар паведаміць Грамадзяніна Старшыню Рады Міністраў, што пасьля двухтыдневых перэговораў Атаман Дабравольчэскага Народнага Атрада Гэнэрал-маёр Булак-Балаховіч прызнаў Урад Беларускай Народнай Рэспублікі і зьвярнуўся да мяне з прапазыцыяй залічыць яго і яго атрад на Беларускую службу.

На моцы дадзеных мне паўнамоцтваў, я асобым рэскрыптам, ад Вашага іммені, прапазыцыю Гэнэрал-маёра Булак-Балаховіча прыняў і абвесьціў яго Камандзерам Асобнага Атрада Беларускай Народнай Рэспублікі ў Эстіі.

Копія пасьведчэнай заявы Гэнэрал-Маёра Булак-Балаховіча і майго рэскрыпта да гэтага дадаецца[1].

Спіскі атрада будуць перэсланы праз некалькі дзён.

Шэф Місіі
Палкоўнік Езавітаў

За Сэкратара Г.Казячый
*582.2.33:126*

[1] Дакумэнты №№1483 і 1486.

**1612. Рапарт шэфа Вайскова-Дыпляматычнай Місіі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Рызе Кастуся Езавітава (Рыга) старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антону Луцкевічу (Варшава) за 27.12.1919**

27.12.1919
№193
м. Рыга

Старшыні Рады Народных Міністраў

Рапарт.

Пры гэтым дадаю копіі папераў, рысуючых дабрасаседскія зносіны паміж намі і Латвійскім Урадам.

Дадатак: 1) Копія тэлеграммы на іммя Латвійскаго Ураду[1] і 2) Копія адказа гэтаго-ж Ураду[2].

Шэф Місіі
Палкоўнік Езавітаў
*582.2.32:089*

[1] Дакумэнт №1496. [2] Дакумэнт №1505.

**1613. Рапарт шэфа Вайскова-Дыпляматычнай Місіі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Рызе Кастуся Езавітава (Рыга) старшыні Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі Антону Луцкевічу (Варшава) за 27.12.1919**

27.12.1919
№194
м. Рыга

Старшыне Рады Народных Міністраў.

Рапарт

Пры зносінах с Прэдстаўнікамі Англіі, находзячыміся у Латвіі, выяўляецца з іх боку вялікая сымпатыя да Беларускай Народнай Рэспублікі, пры чым магчыма было-б атрымаць ад Англіі моцную дапамогу пры фармаваньні войска і наогул пры дзержаўным будаўніцтве. Толькі несьведамленнасьць аб Беларусі Ураду і народу Англіі робяць у гэтых адносінах перашкоды.

Кіруючысь гэтым, лічу патрэбным далажыць Радзе Міністраў, што для успешнасьці Беларускай справы як найхудчэй павінна мець наша Прэдстаўніцтва ў Англіі і Амэрыцэ, с прэдстаўнікамі якіх дзержаў у Рызе я увайшоў у цесныя зносіны. Калі Урад па якім-небудзь прычынам ня можа паслаць у паказаныя дзержавы прэдстаўнікоў, прашу даручыць гэта зрабіць мне.

Шэф Місьіі
Палкоўнік Езавітаў
*582.2.32:058&r*

**1614. Тэлеграма Антона Луцкевіча (Варшава) Аўгену Ладнову (Парыж) за 27.12.1919**

Telegraphiez jour de votre départ. Aidez moi au ministère des affaires étrangères obtenir visa d'ambassade française à Varsovie pour rétourner à Paris. Démande d'ambassade est envoyée.

Loutckevitch

27/XII.19.
*582.2.33:107 — рк*

**1615. Тэлеграма Антона Луцкевіча (Варшава) Маргулісу[1] (Лёндан) за 27.12.1919**

27/XII.
Margulies
16. Holland Park Avenue
London.

Rada de la République Blanc-Ruthénienne élut nouveau organe souverain nommé Conseil Superieur composé de Sereda, Rak-Mikhailovsky, Vlasov, Losik, Terechtchenko. Cabinet ancien confirmé.

Loutckevitch
*582.2.33:108 — рк*

[1] Асоба не ідэнтыфікаваная.

**1616. Тэлеграма Антона Луцкевіча (Варшава) Міколу Вяршыніну (Прага) за 28.12.1919**

Verszinin
Sokolska trzida 22
Praga Czeska

Nasz pradstaunik Łatwii telehrafuje pryznańnie niezaležnaści Biełarusi Konferencyjaj Dorpacie takže Finlandijej toczka Wasza pensija ad Nowaho Hodu naznaczena pautary tysiaczy koron.
28.XII.19

Łuckiewicz
*582.2.30:015 — рк*

**1617. Пратакол сходу Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі ў Варшаве за 28.12.1919**

Журнал
сходу Рады Народных Міністраў Беларускае Народнае Респ.
28 сьнежня 1919 году. М. Варшава.

На сходзе былі: Старш. Рады Народных Міні. і Мін. Загрн. Спрау і Фінансау Ант. Луцкевіч, Мін. Справедлів. А.Цвікевіч і Кір. Мін. Унутр. К.Тэрэщенко.

Слухалі: Заяву Кір. Мін. Унутр. Спрау К.Тэрэщэнко аб тым, што з прычыны выбару яго у склад Наівышэішаі Рады Б.Н.Р. ен просіць зняць з яго абавязкі кірауніка Міністэрства, пададзенную на пісьме ад 17 сьнежня Старшыне Р.Н.М. ПАСТАНАВІЛІ: Адстауку Кіраун. Мінст. Унутр. Спрау прыняць; кірауніцтва Міністэрствам даручыць П. Арк. Смолічу.

Слухалі: Заяву Мін. Справедл. аб арганізацыі адчотнасьці і прэдстауленні патрэбных плянау на працу у 1920 гаду ПАСТАНАВІЛІ: Паведаміць цыркулярна усе дзержауные інстітуцыі і усе арганізацыі, якія атрымовывалі ад ураду грошы у 1919 гаду, аб тым, штоб яны прэдставілі справаздачу аб сваеі чыннасьці за гэты год разам з грашоваі адчотнасцью. Усе тыя інстітуцыі, якія маюць быць чыннымі у 1920 гаду павінны прэдставіць належныя сьметы (каштарысы) аб патрэбных сумах разам з плянам сваеі

працы. Усе матэрыялы павінны быць прэдстауляны не пазней 15 студня 1920 г. па адрэсу: Менск, Канцэлярыя Рады Народных Міністрау. Пры цыркуляре прылажыць нармальныя формы адчотнасьці. Аб вышэй паданаі пастанове паведаміць п. Дзяржаунага Кантралера.

Ант. Луцкевіч К.Тэрэшчэнко А.Цьвікевіч
*582.2.01:071 — ма*

**1618. Цыркуляр Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі кіраўнікам усіх Міністэрстваў БНР за 28.12.1919 у справе атрыманьня грошай ад Ураду БНР**
*582.2.01:072 — мк*

**1619. Ліст старшыні Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі Антона Луцкевіча міністру земляробства і асьветы Аркадзю Смолічу за 28.12.1919 (вых. № I-233) з паведамленьнем аб даручэньні яму выконваць абавязкі Кіраўніка Міністэрства Ўнутраных Справаў**
*582.2.01:073 — рк*

**1620. Тэлеграма Антона Луцкевіча (Варшава) Лявону Зайцу (Бэрлін) за 28.12.1919**
Sajatz
Motzstrasse 21
Berlin.

Jesowitoff telegraphiert Anerkennung Unabhengigkeits Weissrutheniens durch Konferenz in Dorpat und durch Finland.

Lutzkiewitsch
28.XII.19.
*582.2.31:045 — рк*

**1621. Рапарт шэфа Вайскова-Дыпляматычнай Місіі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Рызе Кастуся Езавітава (Рыга) надзвычайнаму паслу БНР у Балтыцы Кляўдыюшу Душэўскаму (Рыга) за 28.12.1919**
28.12.1919
№198
м. Рыга

Надзвычайнаму Паслу Б.Н.Р.
у Балтыцэ грам. К.Душэўскаму

Рапарт.

Не маючы непасрэдсьцвенных зносін з Урадам, прашу Вас, грамадзянін Пасол, прыняць ад мяне паперы, адрэсованныя Ураду, для уручэньня па прыналежнасьці.

Дадатак: Рапарты за №№: 134, 191, 192, 193 і 194[1].

Шэф Місіі
Палкоўнік Езавітаў
*582.2.32:087*

[1] Дакумэнты №№1561, 1609-1612.

**1622. Тэлеграма Антона Луцкевіча (Варшава) Маргулісу (Лёндан) за 28.12.1919**
Margulies
16. Holland Park Avenue
London.

Weissruthenischer Verträter in Riga telegraphiert Anerkennung Unabhengigkeits Weissrutheniens durch Konferenz in Dorpat und durch Finland

Lutzkewitsch
28.XII.19.
*582.2.33:109 — рк*

**1623. Тэлеграма Антона Луцкевіча (Варшава) Аўгену Ладнову (Парыж) за 28.12.1919**
Colonel Ladnoff
24 rue Bayard
Paris.

Esovitoff telegraphiet de Riga conference à Jurjev aussi que Finlande a reconnue independence de la Ruthénie Blanche

Loutckevitch

28.XII.19.
*582.2.33:110 — рк*

**1624. Квіт за тэлеграму з Варшавы ў Менск за 28.12.1919**
*582.2.48:004 — квіт*

**1625. Ліст Аркадзя Смоліча (Менск) [Антону Луцкевічу й іншым (Варшава)] за 29.12.1919**
Уласаў — у Мігаўцэ.

29/XII 919

Дарагіе Таварышы!

Да гэтай пары не тэлеграфаваў, бо сітуацыя была невыразная, магла зьмяніцца, а да таго-ж праз тэлеграф шмат чаго не паведаміш. У Менску ціха і спакойна. У Камітэце праца ідзе павольна; кіруе справаю фактычна Трахімаў. Быў пасьля выезду Кузьмы[1] сход Н.К. (у аўторак) і пастанавілі між іншым клапаціца аб с-рах (прапазіцыя Вернікоўскага), мотывуючы тым, што 1) іх ціснулі большэвікі, 2) што абурана селянства і г.д. Той

сход, аднак, быў няпраўны — нікога з прэзідыуму ня было, старшынаваў Дзэмідовіч. С-ры усё яшчэ падпалом, хаця пачынаюць пакрысе вылазіць і весьці работу навет у Юб. доме[2] (напр. Шоўкавы, Трахімаў) Арыштаваныя сядзяць; больш нікога не арыштавалі. Вялікім гуморам аднак с.р. не вызначаюцца. — Сягодні я нясу сьпіс інструктароў[3] Воеводзкаму[4]. Набралася 10 чалавек пэўнейшых але між імі Пашковіч і Трахімаў[5]. Думаю, што ляпей будзе, калі яны зьедуць на правінцыю. Але не ведаю ці згодзіцца Воеводзкі.

Сьвятамі быў тут Земенцкі[6]. Меў доўгія гутаркі з намі і з с-р. Прабаваў уперад нас пагадзіць (аб гэтым стараюцца наагул ппс), але пасьля абдумаўся, што можа так і ляпей, як сталася (словы Рачкевіча) і што наагул з с-р кашы ня зварыш, а яшчэ — што мажліва іх зьвязь праз с.ф. з Бэрлінам. Гаварыў ён здаецца з Трахімавым і Пашковічам, а можа і з Бандарчыкам. Яны сталі на такі грунт, што уласьне проці палякоў як народу нічога ня маюць, а от толькі проці эндэцыі, што за імі ідзе усё сялянства і г.д. Папраўдзі так ня ёсьць. Ужо усе і думаць забыліся аб іх і аб іхным «Урадзе». Вялікае уражаньне робіць адмова Цьвікевіча і Зайца. Давайце больш такіх інфармацый. Яны уплываюць на гумар эсэраўскі.

Станкевіч прыехаў з Вільні і кажа, што Тарас лічыць патрэбным найхутчэй пагадзіцца. Як вам здаецца? С-р патрабуюць каб мы, с-д., «рэабіліталіся»: 1) выступілі з протэстам проці іхнага арышту 2) пратэсталі проці артыкулаў «Беларусі»[7]; 3) зракліся прынцыпу Дірэкторыі[8] і перайшлі на грунт даўнейшага статуту Рады. Ім адказана, што на гэткім грунце з імі ніхто гаварыць ня будзе. Пэрсанальна яны адводзяць толькі Лёсіка. Мажліва, што неоффіцыяльныя гутаркі з імі мы будзем весьці, асабліва калі ёсьць чуткі, што гэта патрэбна. — Цікавая яшчэ зьвестка, што Аляксюк і Кахановіч падалі ад імя чыйгось (мабыць ад Рады Віленшчыны і Горадзеншчыны, ці што) просьбу аб звальненьні нашых ср.

Ёсьць тут такая ідэя. Калі не наладзяцца гутаркі з с-р трэба зрабіць крок у іншы бок. Як гэта ні прыкра прыдзецца цягнуць у кабінэт правіцу. Можа удаласяб мацней абапёрціся, каб увесьці хацяб такога Алексюка, як кіраўніка унутраных справаў. Гэта яго-б здаволіла, а для супрацоўнікаў нашых было б вялікай угрозаю. Прынамсі такі праэкт варта хоць бы на словах ужыць для страху на с.р.

Пішэце аб усім. Як справа украінскіх кніжак[9]? Лёсік просіць хутчэй везьці яму грошы, бо я ні маю.

Вітаю АСмоліч

*582.2.46:084&r-085&r — pa*

[1] Цярэшчанка. [2] Юбілейны Дом быў сядзібаю Часовага Беларускага Нацыянальнага Камітэту. [3] Пасыланыя ў паветы інструктары з мэтаю арганізацыі беларускіх школаў, культурна-асьветных гурткоў, чытальняў, каапэратываў. Гл. Ляхоўскі У. Беларуская справа падчас польскай акупацыі // Спадчына. №6. 1994. С.58-87. [4] Сыльвэстар Ваяводзкі — палітычны рэфэрэнт 2-га аддзелу польскага Генштабу (выведкі) на Беларусі. [5] Сябры партыі эсэраў. [6] Дзяяч Польскай Сацыялістычнай Партыі (ППС). [7] Маецца на ўвазе артыкул пра «авантуру Ластоўскага»: Што гэта мае значыць? // Беларусь (Менск). №54(81). 28.12.1919. [8] Г. зн. Найвышэйшай Рады. [9] Паводле прынятай крыптаграфіі — грошай. Маецца на ўвазе пазыка, якую плянавалася атрымаць ад ураду УНР.

**1626. Даклад старшыні Горадзенскага Губэрнскага Цэнтральнага Камітэту Аб'яднаных Грамадзкіх Арганізацыяў Аляксандра Бахановіча (Варшава) Сяргею Дзьмітрыевічу Сазонаву (Парыж) за 29.12.1919**

[...] МОГУ СМѢЛО ЗАЯВИТЬ, ЧТО КРЕСТЬЯНСКІЙ ЭЛЕМЕНТ СТОИТЪ НА НЕПРЕКЛОННОЙ ТОЧКѢ ОТРИЦАТЕЛЬНАГО ОТНОШЕНІЯ И КЪ ПОЛЬШѢ И КЪ ЛИТВѢ, ПРИЗНАВАЯ СЕБЯ ТОЛЬКО РУССКИМИ И ЖЕЛАЯ СЕБЯ ВИДЕТЬ ВЪ СОСТАВѢ ЕДИНОЙ, НЕДѢЛИМОЙ РОССІИ. Насильно вводимый въ школахъ бѣлорусскій языкъ, или так называемую «мову» крестьяне и слышать не хотятъ, а многія деревни взяли изъ школъ своихъ дѣтей только потому, что преподаваніе введено на бѣлорусскомъ нарѣчіи. Между тѣмъ къ бывшимъ пропагандистамъ безсмысленной идеи: самостоятельности Бѣлоруссіи, трогательно нынѣ присоединились поляки, всѣми силами поддерживающіе тенденціи къ образованію самостоятельной Бѣлоруссіи и федераціи ея съ Польшей. Русскій языкъ насильно отовсюду изгоняется, поляки вдругъ начали коверкать русскій языкъ, силясь изобразить изъ своей рѣчи «бѣлорусскую мову», а ксендзы дошли даже до того, что кое-гдѣ были попытки и вести церковныя службы на бѣлорусскомъ нарѣчіи, въ чемъ, кстати сказать, къ нашему стыду ксендзамъ оказывали содѣйстве нѣкоторые православные священники (такъ напр. небезызвѣстный въ Гродно протоіерей От. Іоаннъ Корчинскій).

[...] Мы требуемъ свободы функціонированія русскихъ общественныхъ организацій, школъ, кооперативовъ и т.п. ибо искусственныя «бѣлорусскія» учрежденія, создаваемыя или самими же поляками или ихъ агентами СОВЕРШЕННО НЕ СООТВѢТСТВУЕТЪ ЖЕЛАНІЯМЪ БѢЛОРУССКИХЪ МАССЪ И НАСЕЛЕНІЕ ИХЪ ОПРЕДѢЛЕННО БОЙКОТИРУЕТЪ. Что касается школъ, то населеніе опредѣленно заявляетъ о нежеланіи учить своихъ дѣтей на той тарабарщинѣ, которая носитъ наименованіе «бѣлорусской мовы» и которая допускается поляками къ обращенію въ то время когда русскій языкъ воспрещенъ не только въ школахъ, но даже на вывѣскахъ и въ объявленіяхъ. Запрещая русскій языкъ и великолѣпно понимая, что съ бѣлорусской мовой далеко уйти нельзя поляки такимъ путемъ желаютъ искуственно обезличить народъ, оставить его темнымъ и постараться отторгнуть его отъ русскаго родного тѣла.

[...] Такимъ образомъ намъ кажется, что сейчасъ весьма удачное время для проведенія в жизнь нашихъ дорогихъ идей: единеніе съ ЕДИНОЙ ВЕЛИКОРОССІЕЙ, лишь бы только были поддержаны наши труды и наши стремленія въ Парижѣ на Мирной Конференціи [...]

*582.2.47:022&r-026 — мк*

---

Тэкст уяўляе сабою паведамленьне аб «сытуацыі ў краі» і заяву да Мірнае Канфэрэнцыі ў Парыжы. Пададзеныя найбольш «красамоўныя» фрагмэнты. Ад канца чэрвеня да 3.12.1919 А.Бахановіч сядзеў у лягеры Домбе каля Кракава.

**1627. Квіт за 4 тэлеграмы з Варшавы за 29.12.1919**

*582.2.48:003 — квіт*

**1628. Ліст Аркадзя Смоліча (Менск) невядомым адрасатам (Варшава) за 30.12.1919**

30/XII 919

Дарагіе Сябры!

На ўсякі выпадак пасылаю Вам другі раз тые самые зббльшага інфармацыі (учора пісаў цераз Дзекуця, сягоньні цераз Більдзюкевіча).

Цераз сьвяты было ціха. Цяпер аднаўляецца пэўны рух у Камітэце. У Камітэце настрой ня важны. Прыймаюць усіх Трахімаў, Пашковіч. Крыху агітуюць. А на сходзе Нац. Камітэту вынесьлі пастанову клапаціцца аб звальненьні с-раў. Такую самую заяву у Вільні падалі за подпісам Алексюка і Кахановіча. Менскай пастанове ходу ні далі, бо я прызнаў сход неправамочным — ня было ні аднаго сябра прэзідыуму. — Арыштаў новых ня было, хаця Захарку і Крачэўскага шукаюць.

На Сьвяты сюды прыехаў Земенцкі, веў гутаркі з намі і с-рамі. Хацеў уперад пагадзіць. Пасьляж абдумаўся, што пад імі можа быць бэрлінскі і наагул заграпічны грунт і не захацеў кампромітавацца. — Выясьнілася што с-раў падтрымлівае Недзялкоўскі і можа быць Сокацкі[1], якіе у піку Антону раюць абаперціся на «маладым народным с-раўскім руху». Яны настроены моцна проці Антона. От-жа стараліся мы — пры помачы Воевудзкага пераканаць Земенцкага і даць яму мажліва больш інфармацый, каб ён мог узяць на сябе рэфэрат у партыі аб Беларусі. Меў Земенцкі гутарку і з Рачкевічам, які сказаў, што усе што сталася — к лепшаму.

С.р. моцна здэтонаваны адмоваю Зайца і Цьвікевіча. Відаць неспадзеваліся. Вядуць яны гутаркі з Воеводзкім. Выстаўляюць сябе надзвычайна лойяльнымі да Польшчы, аднак гэта ўсё белымі ніткамі шыта. Гавораць ад с-р. Трахімаў, Пашковіч, Бандарчык. Грыб захварэў на тыфус.

Нам патрэбны хутчэй грошы. Асабліва газэце[2] і Нацыянальнаму Камітэту. Прысылайце хутчэй з Варшавы хоць што колечы. Як справа з украінскімі паперамі?

Гэтымі днямі могуць адбыцца важныя конфэрэнцыі. Земенцкі яшчэ ні выехаў. Заўтра прыежджае з Варшавы Рачкевіч, які едзьдзіў туды спэцыяльна даведацца аб курсе у нашай справе. Мы ні саўсім ведаем як там што у Вас і як нам трымацца. Станкевіч прывёз весткі ад Тарашкевіча, што нібы вы лічыце паразуменьне пажаданым? — Я з свайго боку лічыў бы, што трэба абаперціся нам альбо на права, альбо налева. Што да першай мажлівасьці дык у нас былі гутаркі ці ня увесьці у кабінет Алексюка — на страх с-р — даручыўшы яму унутраныя справы. Але гэта толькі думка — нават ні прапазіцыя.

Пішыце, інформуйце.

Найвышэйшая Рада не працуе у цэласьці. Уласаў быў выехаўшы.

Тымчасам вітаю АСмоліч

*582.2.46:082&r-083&r — ра*

[1] Дзеячы ППС. [2] «Беларусь».

**1629. Квіт за тэлеграму з Варшавы ў Бэрлін за 30.12.1919**

*582.2.48:002 — квіт*

**1630. Квіт за тэлеграму з Варшавы ў Прагу за 30.12.1919**
*582.2.48:001 — квіт*

**1631. Тэлеграма Аўгена Ладнова (Парыж) Антону Луцкевічу праз Лявона Дубейкоўскага (Варшава) за 31.12.1919**

doubiekovski 14,/12, rue kopernik varsovie

paris 35286-33-31-18/30

recu telegrame antoin ministere etrangeres pramit concours rensejgnez ambassade varsovie votre retour paris urgent avant mon depart le 10 janvier cablez jour heure arrivee serai gare = colonel ladnoff =
*582.2.33:113*

**1632. Зварот да чырвонаармейцаў з заклікам пераходзіць у Белую Армію**
*582.1.56:001&r-003&r*

---

Дата, месца й абставіны невядомыя. У канцы тэксту заўвага: «Произведеніе — Спиридонов из Быхова, его брат секретарь Минской земской управы»

# 1920

**1633. Храналёгія важнейшых датаў з гісторыі беларускага руху 1917-1918 гадоў**

17 августа. Декларація Бѣлорусской Соціалистической Грамады на Государственномъ Совѣщаніи въ Москвѣ. Основы: Федерація, автономія Бѣлоруссіи, Совѣтъ по Національнымъ дѣламъ. Національная армія. Делегаты: Бурбисъ, Воронко, Дыло, Станилевичъ.

17 сентября. Декларація Цэнтральной Рады Бѣлорусскихъ Организацій — на Всероссійскомъ Демократическомъ Совѣщаніи въ Петроградѣ. Основы: Россійская Федеративная Республика. Делегаты: Воронко, Душевскій, Жилуновичъ, Мамонько.

17 октября. Грамота къ Бѣлорусскому Народу в гор. Минскѣ. Созданіе Великой Бѣлорусской Рады. Учрежденіе Генеральнаго Комиссаріата по дѣламъ Бѣлоруссіи въ Петроградѣ.

17 ноября. Декларація Бѣлорусскаго Областного Комитета Всероссійскаго Совѣта Крестьянскихъ Депутатовъ объ автономіи Бѣлоруссіи к Федеративной Республикѣ.

17 декабря. Разгонъ 1-го Всебѣлорусскаго Съѣзда в гор. Минскѣ большевитскимъ «Комиссаромъ Западной Области и фронта» и арестъ 27 членовъ Президіума и Совѣта Съѣзда.

17 января. Принятіе Исполнительнымъ Комитетомъ Совѣта 1-го Всебѣлорусскаго Съѣзда текста Деклараціи Бѣлорусской Мирной Делегаціи.

17 февраля. Преданіе большевитскому суду всѣхъ членовъ Центральной Бѣлорусской Войсковой Рады.

Съ введеніемъ Новаго Стиля и хронологическія данныя изъ Исторіи Бѣлорусскаго Національно-политическаго движенія идут по новому, а именно:
20 — Н.С.Б.[1]
21 — І-ая Уст. Грам.[2]
25 Разгон нѣм.[3]
*582.2.06:052&r — р*

---

З папераў Я.Варонкі. Дакладная дата невядомая. [1] Сфармаваньне Народнага Сакратарыяту 20.02.1918. [2] Прыняцьце Першай Устаўной Граматы 21.02.1918. [3] Выгнаньне немцамі Народнага Сакратарыяту з Губэрнатарскага Дому 25.02.1918.

**1634. Фотаздымак Алеся Гаруна ў беларускай вайсковай форме**
*582.1.45:153*

---

Дата невядомая (за часы працы Беларускай Вайсковай Камісіі).

**1635. Блянк пасьведчаньня Асобнага Атраду Беларускай Народнай Рэспублікі**
*582.1.46:047*

---

Дата невядомая. Блянк выраблены ў друкарні H.Laakmann, Tartus.

**1636. Блянк Вайсковага эвідэнцыйнага ліста**
*582.1.70:001&r,004&r*

---

Гэты й наступныя два блянкі належыць да дакумэнтацыі, зьвязанай зь дзейнасьцю Беларускай Вайсковай Камісіі, якая распачала вэрбунак афіцэрскіх кадраў у Менску на пачатку сьнежня 1919 году. Гл. Łatyszonek O. Białoruskie formacje wojskowe. S.127-128.

**1637. Блянк анкеты для афіцэраў Беларускага Войска**
*582.1.70:002&r-003&r*

**1638. Блянк анкеты Беларускай Вайсковай Камісіі ў Менску**
*582.2.36:124 — д*

**1639. Пячаткі Консульства БНР у Рызе 1920 г.**
*582.2.43:014*

---

Дата невядомая.

**1640. Блянк Пасьведчаньня аб грамадзянстве БНР Консульства БНР у Рызе 1920 г. (вялікага фармату)**
*582.2.43:015 — д*
*582.2.43:026 — д*
*582.2.43:027 — д*
*582.2.43:028 — д*

---

Дата невядомая.

**1641. Блянк Пасьведчаньня аб грамадзянстве БНР Консульства БНР у Рызе 1920 г. (малога фармату)**

*582.2.43:016&r,021&r — д*
*582.2.43:017&r,020&r — д*
*582.2.43:018&r-019&r — д*

Дата невядомая.

**1642. Блянк заявы на атрыманьне Беларускага Замежнага Пашпарту ў Консульстве БНР у Рызе**

*582.2.43:029 — д*
*582.2.43:030 — д*
*582.2.43:031 — д*

Дата невядомая.

**1643. Блянк пасьведчаньня грамадзяніна Беларускай Народнай Рэспублікі, выдаванага консулам БНР у Рызе**

*582.1.46:057*

Дата невядомая.

**1644. Блянк пасьведчаньня ваеннапалонных беларусаў у Нямеччыне, выдаванага Дыпляматычнай Місіяй БНР у Нямеччыне для звароту ў Беларусь**

*582.2.31:060*

Дата невядомая.

**1645. Блянк анкеты «У Надзвычайную Місію Беларускай Народнай Рэспублікі» на атрыманьне замежнага пашпарта грамадзяніна БНР**

*582.2.32:073*

Дата невядомая.

**1646. Блянк бюлетэня «Варта Бацькаўшчыны»**

*582.2.50:024 — д*

Дата невядомая. Бюлетэнь «Варта Бацькаўшчыны» выдаваў у 1920 годзе для беларускіх вайскоўцаў у літоўскім войску Аляксандар Ружанцоў. Ад 9 студзеня да 30 чэрвеня 1920 году выйшла 15 нумароў.

**1647. Нота шэфа Вайскова-Дыпляматычнай Місіі БНР у Латвіі і Эстоніі палкоўніка Кастуся Езавітава міністру замежных справаў Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатаў (Вашынгтон) за ?.01.1920 (вых. №?) з патрабаваньнем прызнаць незалежнасьць Беларусі, памагчы ў барацьбе з бальшавікамі, прыняць дыпляматычнага прадстаўніка**

*582.2.54:025&r-028 — мк*

Дакладная дата невядомая.

**1648. Пастанова Старшыні Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі Антона Луцкевіча за 1.01.1920 (вых. №4) аб прызначэньні былога консула Беларускай Народнай Рэспублікі ў Адэсе Сьцяпана Некрашэвіча кіраўніком Канцылярыі Рады Народных Міністраў БНР**

Б.Н.Р.
СТАРШЫНЯ
РАДЫ НАРОДНЫХ МІНІСТРАЎ.
1 студзеня 1920
№4

Пастанова

Б. Консул Беларускае Народнае Рэспублікі у Одэссі, Сьцепан Некрашэвіч, гэтым назначаецца ад 1 студзеня 1920 году Шэфам Канцэлярыі Рады Народных Міністраў з захаваньнем старога акладу.

Старшыня Рады Народных Міністраў:
Ант.Луцкевіч
*582.2.01:074 — рк*
*582.2.40:096 — рк*

**1649. Тэлеграма Лявона Зайца й Леаніда Баркова (Бэрлін) Антону Луцкевічу (Варшава) за 1.01.1920**

= luckiewicz bielaruski kamitet spitalna 1
warschau =

berlin 2230 32 1./1 4,45 s

prosimo pryslac tocznyja wiestki faktycznym naszym stanowiszcy miensku bo nanasza zapytannie adtul nichto adkazu nidau chocmy zapraszywali i was niprawieranyja wiestki nawodziuc naroznyja dumki zajac barkow .
*582.2.31:044*

**1650. Квіт за тэлеграму з Варшавы ў Менск за 1.01.1920**
*582.2.48:006 — квіт*

**1651. Квіт за тэлеграму з Варшавы ў Вільню за 1.01.1920**
*582.2.48:005 — квіт*

**1652. Перадрук артыкулаў: Найвышэйшая Рада Беларускай Народнай Рэспублікі // Беларусь (Менск). №1. 1.01.1920 і Абвяшчэньне // Беларусь (Менск). №3. 4.01.1920**
*582.2.50:016 — мк*
*582.2.50:017 — мк*

**1653. Квіт за тэлеграму з Варшавы ў Парыж за 2.01.1920**
*582.2.48:008 — квіт*

**1654. Пратакол аўдыенцыі Антона Луцкевіча й Лявона Дубейкоўскага ў Юзэфа Пілсудзкага ў Варшаве 3.01.1920**

Пратакол

аудыэнцыі Старшыні Рады Народных Міністрау А.Луцкевіча і Паунамоцніка Ураду у Варшаве Л.Дубейкоускага 3 студня 1920 году, у Начальніка Польскае Дзяржавы.

А.Луцкевіч выясьніу утварыушаеся у Менску палажэньне і адзначыу, што яно вызывае сур'езную небаспеку для справы беларускае дзяржаунасьці: дагэтуль праціунікамі беларускага ураду былі толькі элемэнты расейскія, цяпер жа у зьвязку з тым, што прыязныя адносіны да Польшчы не даюць ніякіх рэальных рэзультатау для беларускай дзяржаунай справы, творыцца фэрмэнт і у беларускіх кругах, вызываючы цягаценьне да Большавізіі. Дзеля барацьбы з бальшавіцкім курсам мы можам ждаць і жджэм помачы ад Польшчы, каторая павінна паддзяржаць конкрэтна дзяржаунуню беларускую работу.

Начальнік Польскае Дзяржавы адказау, што ен у гэтым сэнсе ужо дау інструкцыі Рачкевічу і Асмалоускаму, лічучы, што польская палітыка павінна паддзержаць тых беларусау, якія у справе свайго дзяржаунага будауніцтва хочуць ісьці поруч з Польшчай. — Далей п. Пілсудскі заявіу: што ен — як аб гэтым ен ужо раз казау п. Луцкевічу — дагэтуль у беларускай справе нічога ня мог зрабіць з прычыны становішча Антанты і з гэтай жа прычыны у сваіх гутарках з англічанамі ня мог паддзержываць нават справы Украіны. Англіцкі генэрал, заступаючый англіцкага пасла у Варшаве, перад сваім выездам у Лондан сказаў яму, Пілсудскаму: Пан добра зрабіу, што не падняу офіцыяльна украінскае справы перад Антантай. Ен, Пілсудскі, у зьвязку з гэтым зрабіу новае прадлажэньне Антанце аб пашырэньні плебісцытнага абшару на Усходзі на Вітэбшчыну і Магілеушчыну — да граніц паміж Польшчай і Расеяй да 1772 году, опэруючы не паняцьцем Беларусі, а старым паняцьцем дзяржаунасьці Рэчыпосполітай. Справу аб Беларусь ен ставіу на грунт спору паміж Расеяй і перадразьдзельнай Польшчай. За матыу пашырэньня плебісцытнага абшару на усю Беларусь ен перад Антантай выстауляу патрэбу лічыцца з інтарэсамі також і Расеі, да якой усходнія часьці Беларусі болей цягацеюць і могуць перавважыць разьвязку плебісцыту на карысьць Расеі. Хаця гэтага плебісцыту правясьці у Вітэбшчыне і Магілеушчыне нельга («яны ня у нашай уласьці»), аднак прызнаньне патрэбы плебісцыту на усім гэтым абшары са стараны Антанты было бы вялікай палітычнай выгранай.

Паводле рахунку Пілсудскага, да моманту разьвязкі пытаньня аб Беларусі на доугі час есьць яшчэ каля году. За гэты час беларусы і павінны зрабіць вялікую работу і выявіць якнайбольш актыунасьці у культурнапрасьветнай рабоці і у прапагандзе, у чым окупацыйныя уласьці гатовы аказваць помач.

У канцы гутаркі п. Луцкевіч сказау, што Найвышэйшая Рада праектавала учыніць выразны палітычны крок у форме дэлегацыі да п. Пілсудскага, і запытауся, ці п. Пілсудскі лічыу бы гэты крок на цяперашні мамэнт на часе?

Начальнік Дзяржавы адказау, што ен цяпер выяжджае на Валынь і вернецца толькі у палове студня. Да тагож часу павінен прыехаць з Лондона і Парыжа міністэр загранічных спрау Патэк і англіцкі генэрал, выкліканы цяпер у Лондон. Яны дадуць пэуныя весткі аб становішчы Антанты у зьвязку з фактам разгрому Дэнікіна, а тады будзе усе ясна, і магчыма, што ен, Пілсудскі, здалее учыніць больш станоучыя крокі у беларускім пытаньні.

Старшыня Рады Народных Міністрау і Міністэр Загранічных Спрау:
Ант. Луцкевіч

Паунамоцнік Беларускага Ураду у Варшаве:
Л.Дубейкоўскі
*582.2.13:037&r — ма*

**1655. Зварот міністра беларускіх справаў Літоўскай Рэспублікі Язэпа Варонкі «Всѣмъ членамъ Правительства, Государственнаго Совѣта и общественнымъ дѣятелямъ Литвы» за 3.01.1920**

СРОЧНО

ВСѢМЪ ЧЛЕНАМЪ ПРАВИТЕЛЬСТВА, ГОСУДАРСТВЕННАГО СОВѢТА И ОБЩЕСТВЕННЫМЪ ДѢЯТЕЛЯМЪ ЛИТВЫ.

Пользуюсь не бѣлорусскимъ языкомъ из-за частыхъ случаевъ превратнаго толкованія бѣлорусскихъ выраженій. Литовскимъ языкомъ не владѣю.

Въ понедѣльникъ 22 декабря 1919 года около трехъ часовъ пополудни проходившая по улицѣ Мицкевича публика была немало удивлена, видя суетящихся Коменданта и военныхъ у зданія Министерства Бѣлорусскихъ Дѣлъ (№13а). Еще болѣе были удивлены кліенты Министерства и одна изъ служащихъ Канцеляріи Министерства, направлявшіеся въ само зданіе и принужденные отказаться отъ этого намѣренія послѣ реплики, стоявшаго у входа караульнаго. Въ секунду по городу понеслись «новости» самаго разнообразнаго содержанія:

Въ Министерствѣ Бѣлорусскихъ Дѣлъ Предсѣдатель Совѣта Министровъ производитъ «обыскъ». Часъ тому назадъ въ Министерство въ саняхъ Коменданта проѣхали Предсѣдатель Совѣта Министровъ, Министръ Бѣлорусскихъ Дѣлъ и Комендантъ.

Въ Министерствѣ Бѣлорусскихъ Дѣлъ происходитъ совѣщаніе съ большевистской делегаціей, поэтому часовой охраняетъ входъ.

Министерство Бѣлорусскихъ Дѣлъ подозрѣвается въ сношеніи съ поляками. Оно оцѣплено войсками.

Арестовали «какихъ-то» бѣлоруссовъ и содержатъ въ Министерствѣ Бѣлорусскихъ Дѣлъ.

Такъ, до сихъ поръ никто правильно не освѣтилъ того, что случилось 22 декабря въ Министерствѣ Бѣлорусскихъ Дѣлъ. Во избѣжаніе ложныхъ и невыгодныхъ для Литовскаго Народа толковъ, настоящимъ я прошу Васъ ознакомиться со слѣдующимъ моимъ сообщеніемъ и сдѣлать надлежащій выводъ.

22 декабря утромъ я получилъ сообщеніе, что будто бы на границѣ литовскими властями арестованы два дипломатическихъ курьера Правительства Бѣлорусской Народной Республики (находящагося въ Минскѣ) — М.Маркевичъ и Я.Черепукъ и слѣдовавшій съ ними же бывшій бѣлорусскій офицеръ въ Гроднѣ — Злоцкій. Всѣ трое, по своимъ паспортамъ направлялись изъ Германіи въ Латвію черезъ Литву и арестованы по телеграммѣ изъ Берлина (литовскаго представителя въ Берлинѣ Пурицкаго). Литовцы, будто бы, отняли у нихъ весь ихъ багажъ и, доставивъ въ Ковно ихъ сегодня ночью, содержатъ подъ арестомъ.

Черезъ нѣкоторое время, собравшись навести болѣе точныя свѣдѣнія объ этомъ происшествіи въ Министерствѣ Иностранныхъ Дѣлъ, я былъ вызванъ по телефону Министромъ-Председателемъ Э.Гальвановскимъ въ его Кабинетъ. Направляясь туда, я попросилъ зайти со мною вмѣстѣ къ Министру-Предсѣдателю члена Государственной Тарибы — представителя бѣлоруссовъ Д.Семашко, считая, что у Министра-Предсѣдателя можетъ быть поднятъ вопросъ, касающійся бѣлорусско-литовскихъ взаимоотношеній.

Г. Гальвановскій встрѣтилъ меня весьма любезно, при чемъ объ арестованныхъ сразу же заговорилъ я самъ. Черезъ нѣсколько секундъ, слушая меня, Министръ-Предсѣдатель вызвалъ по телефону (съ верхняго этажа) Министра Иностранныхъ Дѣлъ А.Вольдемараса, по приходѣ котораго Министръ-Предсѣдатель и членъ Государственной Тарибы остались пассивными слушателями, а г. Вольдемарас завелъ разговоръ со мною и заявилъ мнѣ слѣдующее:

Арестованные бѣлоруссы освобождены быть не могутъ (я потребовалъ немедленнаго ихъ освобожденія съ предложеніемъ задержаннымъ покинуть сейчасъ же предѣлы Литвы, занятой Литовскими войсками) ибо у нихъ обнаружены подложные дипломатическіе паспорта Правительства Бѣлорусской Народной Республики, выданные въ Ковнѣ; затѣмъ на этихъ паспортахъ, какъ и другихъ пакетахъ и документахъ арестованныхъ, находятся печати Бѣлорусской Народной Республики съ литовскимъ гербомъ; кромѣ того, у арестованныхъ найдены еще и удостовѣренія, изобличающія ихъ въ связи съ войсками Бермондта[1].

Мой отвѣтъ на заявленіе г. Вольдемараса былъ такой:

Всѣмъ должно быть извѣстно, что законное и единственное Правительство Бѣлорусской Народной Республики существуетъ еще съ конца 1917 года, организованное на 1-мъ Всебѣлорусскомъ Конгрессѣ.

Правительство это, по моему, имѣетъ право выдавать и выдаетъ (какъ и Литовское) свои національные и дипломатическіе паспорта и пользоваться своими курьерами.

Паспорта эти, въ особенности дипломатическіе, визировались и визируются такими государствами, какъ Францiя, Германія, Австрія, Венгрія, Румынія, Украина, Швейцарія, Латвія, Эстонія, Финляндія, даже Польша, а также и Литва (пока г. Вольдемарасъ былъ въ Парижѣ).

Дипломатическіе курьеры Бѣлорусской Народной Республики до сихъ поръ никѣмъ не задерживались, бумаги ихъ нигдѣ не отбирались, дипломатическіе пакеты ихъ никѣмъ не вскрывались и багажъ ихъ былъ неприкосновененъ.



20.-170

Право на гербъ «Погоня», по моему мнѣнію, имѣетъ также и Бѣлоруссія, такъ какъ, во-первыхъ, это гербъ не одного литовскаго народа, а бывшаго объединеннаго Великаго Княжества Литовско-Бѣлорусскаго; а, во-вторыхъ, это право отъ Россіи, какъ литовцы, такъ бѣлоруссы берутъ не обоюднымъ соглашеніемъ, а революціоннымъ по отношеніи къ Россіи способомъ. Кромѣ того монополію на этотъ гербъ нынѣшняя новая ЛИТВА 1919 ГОДА могла бы имѣть тогда, если бы она претендовала и [на] територію всей исторической Литвы (т.-е. до Смоленска и за линію Днѣпра), а не на одно наименованіе. Въ концѣ концовъ этотъ гербъ уже долженъ былъ давно примелькаться представителямъ Литовскаго Правительства, когда оно оффиціально сносилось съ представителями Бѣлорусской Народной Республики (напр. лѣтомъ 1919 года съ г. Кречевскимъ, официальнымъ представителемъ Бѣлорусской Народной Республики въ Ковнѣ).

Во всѣхъ предыдущихъ обвиненіяхъ, предъявленныхъ Вами «преступникамъ» виновнымъ во всякомъ случаѣ является Правительство Бѣлорусской Народной Республики, а не обыкновенные служащіе органовъ Государства.

Что же касается связи арестованныхъ съ бермонтовцами, то если у первыхъ найдено удостовѣреніе бермонтовскихъ частей, которыхъ уже фактически не существуетъ, это еще плохо ихъ не рекомендуетъ, такъ какъ бывшіе солдаты и офицеры-бермонтовцы свободно принимаются на службу въ Литовскую Армію.

Послѣ нѣкоторыхъ замѣчаній г. Вольдемараса о томъ, что онъ продолжаетъ стоять на прежнемъ своемъ выводѣ и отдаетъ арестованныхъ (Черепука, Маркевича и Злоцкаго) подъ судъ, я повторилъ Министру Иностранныхъ Дѣлъ, что подобный шагъ можетъ быть весьма чреватъ послѣдствіями, что найлучшимъ выходомъ изъ того тупика, въ который мы идемъ «благодаря незнанію Вами бѣлорусскаго вопроса», является немедленная высылка арестованныхъ со всѣми ихъ документами и пакетами за предѣлы Литвы, туда, куда пожелаютъ арестованные.

Слѣдуетъ имѣть въ виду, что если въ Вильнѣ, Гроднѣ, Бѣлостокѣ, Минскѣ, Волковыскѣ узнаютъ, что литовцы арестовали бѣлоруссовъ, то тамъ, благодаря поддержкѣ поляковъ, поднимется страшная агитація, не только противъ какихъ бы то ни было литовско-бѣлорусскихъ соглашеній, но и противъ Литвы вообще. Никакими оффиціальными опроверженіями Литовскому Правительству не удастся доказать свою правоту. А такая агитація, въ первую голову рѣшитъ участь насъ — бѣлоруссовъ, работающихъ съ Вами, а затѣмъ сведетъ къ нулю все, что до сихъ поръ было нами сдѣлано для бѣлоруссовъ, аннулируетъ часть нашего закона о выборахъ въ Литовскій Учредительный Сеймъ, гдѣ говорится о бѣлорусскихъ уѣздахъ Литвы, а затѣмъ поставитъ вопросъ о будущности Гродны, а можетъ быть и... Вильны.

При этомъ я замѣтилъ, какъ Министру-Предсѣдателю, такъ и г. Вольдемарасу, что оставаться въ такомъ блаженномъ невѣденіи бѣлорусскаго вопроса — врядъ ли полезно и на вещи слѣдуетъ смотрѣть менѣе оптими-

стично. Сегодняшній случай долженъ намъ дать, наконецъ, возможность рѣшить вопросъ, НУЖНЫ ЛИ МЫ ДРУГЪ ДРУГУ, а также не миновала ли НАДОБНОСТЬ въ бѣлоруссахъ. Такіе вопросы я поставилъ Президенту Литвы и Министру-Президенту еще 14 ноября с.г., но до сихъ поръ (увы!) не получилъ отвѣта. Все что дѣлалось и дѣлается здѣсь въ Литвѣ («какъ разъ все это время — почти годъ — Вы, г. Вольдемарас, отсутствовали[2]!») — настоятельно подчеркиваетъ послѣдніе два вопроса.

Удовлетворивъ свое любопытство Министръ Иностранныхъ Дѣлъ сказалъ мнѣ слѣдующее:

Какъ бы то ни было сегодняшній случай важенъ намъ прежде всего здѣсь. Безусловно въ Ковно, можетъ пойти молва, что Министерство Бѣлорусскихъ Дѣлъ ведетъ свою иностранную политику и даже выдаетъ дипломатическіе паспорта, а по сему, для реабилитаціи И ВАШЕЙ И НАШЕЙ мы (кто, я не разспросилъ) пришли къ выводу, чтобы Министръ-Предсѣдатель вмѣстѣ съ Вами осмотрѣлъ документы въ Канцеляріи Бѣлорусскаго Министерства съ цѣлью ревизіи и установленія Вашего алиби.

Услыхавъ это изъ устъ г. Вольдемараса (г.г. Гальвановскій и Семашко сохраняли во время этого разговора полное молчаніе) я закончилъ:

— Никогда, никто мнѣ не запретитъ имѣть духовную, культурную національную связь съ бѣлоруссами, гдѣ бы они не жили, какъ всегда имѣли связь русскіе литовцы съ прусскими или американскими, украинцы съ галичанами, варшавяки съ познанцами. Въ политической связи я ни съ кѣмъ не состою. РЕВИЗОВАТЬ Министру-Предсѣдателю мои дѣла охотно предоставляю.-

При этихъ словахъ я всталъ и на мое замѣчаніе «Пожалуйте хоть сейчасъ!», — всѣ мы стали выходить.

Къ моему большому удивленію въ пріемной я встрѣтился съ Комендантомъ г. Ковно — Микуцкимъ, Начальникомъ Развѣдывательнаго Отдѣла — Липчусомъ, а также еще нѣсколькими офицерами, какъ оказалось — чинами политическаго сыска. Сначала я не придалъ этому значенія, но когда вслѣдъ за мною эти новыя лица послѣдовали на улицу, я сообразилъ, что это агенты будущей — «ревизіи», и что они вызваны сюда спеціально и ЗА ДОЛГО до моего согласія на ревизію. Не дай я своего согласія Министру-Президенту «ревизовать» дѣла, это, повидимому, предполагалось сдѣлать вопреки моей волѣ, силою, при помощи Коменданта и солдатъ.

Сохраняя полное спокойствіе, я вмѣстѣ съ г. Министромъ-Предсѣдателемъ — Гальвановскимъ и Комендантомъ — Микуцкимъ (въ однихъ саняхъ) пріѣхали къ моему Министерству. Остальные подошли спустя нѣсколько минут.

Въ Канцеляріи Министерства, сидя въ моемъ Кабинетѣ, всѣ — сообща стали решать вопросъ о способѣ производства ревизіи. Комендантъ предложилъ свой испытанный способъ: снести всѣ дѣла въ одну комнату, сдѣлать осмотръ помѣщенія, опечатать (что?) и просматривать... — Къ этому Комендантъ прибавилъ — «Я уже распорядился поставить у входа караулъ. Никто не уйдетъ». На это я предложилъ Министру-Предсѣдателю приказать Коменданту сейчасъ же снять съ моего Министерства вы-

вѣску и флагъ. Министръ-Предсѣдатель отвѣтилъ на это отрицательно. (Дѣло какъ будто, принимало еще новую фазу.)

На мое предложеніе оставить для просмотра дѣлъ съ обѣихъ сторонъ по одному — по два человѣка при непремѣнномъ участіи, въ качествѣ свидѣтеля члена Государственной Тарибы Семашко, — Министръ-Председатель согласился. Министръ-Предсѣдатель г. Гальвановскій и я вышли изъ Министерства, каждый во-свояси. Вышелъ и Комендантъ.

Находясь у себя на квартирѣ, около 7 часовъ вечера, я узналъ, что вмѣсто ревизіи, на которую я далъ свое согласіе, былъ произведенъ самый обыкновеннѣйшій обыск, при чемъ даже былъ составленъ и ПРОТОКОЛЪ ОБЫСКА (въ томъ, что ничего изобличающаго Министерство Бѣлорусскихъ Дѣлъ въ сношеніи съ врагами (какими!?) Литвы не обнаружено).

Исходя изъ того, что обыск въ Министерствѣ, а также въ моемъ Кабинетѣ (я являюсь также членомъ Государственной Тарибы — а потому неприкосновененъ) могъ быть произведенъ лишь по постановленію Кабинета Министровъ и по предъявленіи мнѣ опредѣленнаго обвиненія; а также считая, что г. Вольдемарас (единственно отвѣтственный въ этомъ актѣ), предложилъ Министру-Предсѣдателю и мнѣ сдѣлать у меня ревизію, НА САМОМЪ ДѢЛѢ готовилъ мнѣ обыскъ, вызвавъ для этого заблаговременно (даже не въ мою Канцелярію, а въ свой кабинетъ, дабы оттуда «сопровождать» меня!) Комендантуру и чиновъ Развѣдывательнаго Отдѣленія; я заявилъ по этому поводу Совѣту Министровъ свой рѣшительный протестъ.

Помимо обыска въ Министерствѣ, былъ произведенъ и личный обыскъ у каждаго служащаго Министерства. Не понимая чего ищутъ, каждый изъ моихъ чиновниковъ провелъ ночь съ 22 на 23 декабря въ большой тревогѣ, ибо каждый ждалъ еще обыска и у себя на квартирѣ. Квартирныя хозяева были предупреждены жильцами — не безпокоиться, если ночью придутъ съ обыскомъ. Несмотря на мое положеніе, всю ночь ждалъ обыска у себя дома и Я САМЪ. Агрессивно настроенные агенты Правительства, побывавшіе въ этотъ день въ Министерствѣ Бѣлорусскихъ Дѣлъ, дали для таких ожиданій полное основаніе. Да къ тому же «объ обыскахъ дома» громогласно заявилъ въ Канцеляріи Министерства Комендантъ Микуцкій.

Изъ разговоровъ «послѣ обыска» удалось установить, что арестованные на границѣ бѣлорусскіе курьеры имѣли съ собой запечатанный сургучной печатью какой то пакетъ на мое — Министръ имя. Судьба этого пакета, который по русскимъ законамъ (по которымъ живетъ Литва) долженъ былъ быть вскрытымъ непремѣнно въ моемъ присутствіи — неизвѣстна, (онъ взятъ въ Министерство Иностранныхъ Дѣлъ).

До сихъ поръ все это дѣло, изъ-за католическихъ праздниковъ Рождества, находится въ неизвѣстной мнѣ стадіи. Арестованные Черепукъ, Маркевичъ и Злоцкій водворены въ Ковенскую тюрьму (откуда недавно освобожденъ просидѣвшій семь мѣсяцевъ до суда и оправданный — членъ Минской Бѣлорусской Рады К.Гадыцкій-Цвирко[3]).

Сообщено ли Министерствомъ Иностранныхъ Дѣлъ Литвы объ этомъ арестѣ Министерству Иностранныхъ Дѣлъ Бѣлорусской Народной Рес-

публики — мнѣ неизвѣстно. Копія протокола обыска, на мое требованіе до сихъ поръ мнѣ не прислана.

* * *

Бѣлоруссы вошли въ соглашеніе съ литовцами для объединенной государственной работы въ ноябрѣ 1918 года въ г. Вильнѣ. По этому соглашенію въ Государственную Тарибу входитъ СЕМЬ бѣлоруссовъ, одинъ изъ которыхъ по представленію Виленской Бѣлорусской Рады (которая заключала соглашеніе) является Министромъ Бѣлорусскихъ Дѣлъ. Такимъ образомъ послѣдній не назначается членомъ Правительства персонально, а приглашается по представленію Бѣлорусскихъ организацій.

Въ настоящее время, кромѣ меня (я являюсь представителемъ бѣлоруссовъ Гродненской земли), въ Ковнѣ находится еще член Государственной Тарибы — Д.Семашко (представитель Виленскихъ бѣлоруссовъ). Остальные пять членовъ Государственной Тарибы — бѣлоруссы — находятся: виленскіе — г.г. Ластовскій, Фалькевичъ и кс. Толочко въ Вильнѣ, а гродненскіе — прот. І.Корчинскій и д-ръ К.Бѣлецкій[4] въ польскихъ тюрьмахъ. Основы соглашенія бѣлоруссовъ съ литовцами напечатаны въ №№1 и 2 «Часопісі» въ статьѣ «Міністэрство Беларускіх Спраў за 10 месяцаў істнаваньня».

Ковно.
~~29 декабря 1919 года.~~
3 янв. 1920 г.

Министръ Бѣлорусскихъ Дѣлъ и
Членъ Государственнаго Совѣта.
ЯВ.
*582.2.35:039-046 — мк (Луцкевічу?)*
*582.2.36:001-008 — мк (Ластоўскаму і Талочку)*
*582.2.38:099-105 — мк*

[1] Расейска-нямецкія аддзелы П.Бэрмонта ў кастрычніку-лістападзе рыхтавалі ў Літве вайсковы пераварот. [2] Аўгустынас Вальдэмарас быў кіраўніком літоўскай дэлэгацыі на Парыскай мірнай канфэрэнцыі. [3] Канстанцін Гадыцкі-Цьвірка — кіраўнік «Беларускай Краёвай Народнай Рады», створанай на «Беларускім краёвым зьезьдзе», які нібыта адбыўся 28-30.01.1919 у Наваградку і прыняў пастанову аб далучэньні Беларусі да Польшчы. Калі інфармацыя пра зьезд пашырылася ў газэтах, К.Гадыцкі-Цьвірка быў арыштаваны літоўскімі ўладамі. [4] І.Карчынскі й К.Бялецкі увайшлі ў Тарыбу 4.04.1919 замест І.Луцкевіча й Я.Станкевіча, якія пакінулі яе 21.12.1918 дзеля нязгоды з палітыкай літоўскіх уладаў.

**1656. Тэлеграма Антона Луцкевіча (Варшава) Лявону Зайцу (Бэрлін) за 3.01.1920**

Sajatz
Motzstrasse 21
Berlin.

Wosiem lewych eserau try federalisty padczas schodu rady sabralisia asobnie abjawili siabie radaj respubliki wybrali nowy urad premjeram Łastouskim

ministram finansaŭ Bielewiczam zaoczna wybrali biaz zhody Zajca Ćwikiewicza Ładnowa Duszeuskaho Hryba kropka Usie piać ad awantury admowilisia kropka Schod rady składzie trydcać siem asob czaści eserau esdekau narodnikau centru wybrau najwyszejszuju radu adstauku gabinetu aprycz Zacharki adkinuŭ.

Łuckiewicz
3.I.1920
*582.2.31:046 — рк*
*582.2.48:007 — квіт*

**1657. Ліст Антона Луцкевіча ў рэдакцыю газэты «Robotnik» (Варшава) за 3.01.1920 з просьбай абвергнуць паведамленьні аб «расколе ў беларускім лягеры»**
*582.2.38:089 — рк*

**1658. Ліст Кузьмы Цярэшчанкі (Менск) Антону Луцкевічу (Варшава) за 3.01.1920**

Даражэнькі пане Антоне,

Пішу Вам з Менска. Навін тут асобых нема — все ідзе па старому, толькі як бы пашыралысь сур'езнасць націанальнай працы дзякуючы інструктарам камандзірованым у паветы. Эсэры з каждым днем прыціхаюць; фардабачыцца толькі мелката як Шыла, якой кажэцца ужо заарэштованы. Ен хацеў праехаць у Латвію. На контра Душеўскаго тут публіка ведае са слоў Станкевіча — прывезенаю гэту вестку з Вільні ад Тараса. Гэта вельмі паддало духу эср. Чуецца вялікая патрэба ў грашах, бяз ніх можна ўпусціць з сваіх рук ўсю працу. Добра каліб з мямі (?) справа прашлаб прытчей. Я вельмі шкадую што неўзяў у Вас хоць тысячы тры-чатырэ; прышлось пазычыць у Лесіка на патрэбы Нацыанальн. Камітэту. Заутры едзе ў Варшаву Зайчыха з ей прышлю больш падробные весткі.

А тапер во абчым буду прасіць. Паказчык гэтаго пан едзе да Адзесы. (гэта дырэктар Мар'іна Горэцкай Сельска-гаспадарскай школы[)]. Я вельмі прасіў бы Вас каб Вы даручылі п. Дуб'якоўскаму ці каму іншаму дабыць пропуск да места. Яго ведаюць добра ўсе нашы.

Ваш КозТэрэшчэнко

Менск
3 студзеня 1920г.
*582.2.46:086 — ра*

**1659. Тэлеграма Антона Луцкевіча (Варшава) Міхасю Кахановічу (Вільня) за 3.01.1920**

Kochanowicz — Ostrobramska 9
Wilno — Terminowa

Proszę Sienkiewicza wysłać pierwszą okazją materjały ekonomiczne dane przez Nosowa Dubiejkowski przeszle mnie Paryża

Łuckiewicz
*58?.2.46:111 — рк*

**1660. Справаздача надзвычайнага паўнамоцнага прадстаўніка БНР у Балтыцы Кляўдыюша Душэўскага (Рыга) старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антону Луцкевічу (Варшава) за 4.01.1920**

Рыга 4.I.20

Яго Міласьці Пану Старшыні
Рады Міністраў Бел. Нар. Рэспублікі

Даклад

Згодна з загадам Вашым ад 5 ліст. 1919 г. я 10 ліст. 19 году выехаў з Вільні у Балтыку. Ехаў я на Турмонт[1]. З Турмонта коньмі да Крэйцбурга[2] праз Ново-Алекс<андраўск>[3], Елоўку[4], Зас[5], а ад Крэйцбурга у Рыгу. 17 лістапада толькі я змог быць у Рызе. Па прыездзі зрабіў візыт п. Мейеровіцу Мін. Закард. спр. але яго не было. Даў у прэссу інформацыі. Быў у консульстве, у Радзе. Даў прывецтвенную тэлеграму Радзе Латв. Міністраў па поводу гадаушчыны Латв. Рэспублікі, на каторую (тэлегр.) атрымаў Атказ (вязу). А сам 18 лістап. выехаў у Дорпат і 19-го быў у Дорпаце. Конфэрэнцыя ужо 19-го закончылася. Я быў на раўце разам з палк. Езавітавым.

19-го-ж разам з усей конфэрэнцыяй выехаў у Рэвэль. У Дорпаце днем быў з візытай у мін. міжн. спр. Эсьці п. Пійпа і меў з ім гутарку. Апроч таго быў у некаторых эсьційскіх палітычн. дзеячоў.

19-го быў аб'яўлены перэрыў конф. Я прыехаў у Рэвэль. Па дарозе бачыўся з фінансістамі, але ні да чога конкр. не дайшоў.

У Рэвэлі з 20-га я павеў акцію у прэссе. У мяне перэбывала шмат журналістаў каторых я інформоваў. Паявіліся досьць вялікіе стацьці у «Tallina Teataja» і нек. другіх газэтах. У Эсьці была досьць вялікая работа зроблена Езавітавым ужо да мяне і я прадаўжаў гэту работу. Мне там памагло мае радство з некаторымі віднымі Эстонцамі.

У прэссі я праводзіў думку што Беларусь — Прыбалтыка. У гэтым кірунку я веў гутаркі і з усімі дзеячамі як Латышскімі так і Эстонскімі і Фінск.

У Рэвэлі я быў у некаторых членаў новаго кабінэта і Главнакамандуючаго[6]. Усюды мяне спатыкалі дужа добра. Я быў запрошаны на канцэрт на каторым паміж іншымі быў шэф экспозытуры польскай у Вільні капітан Славэк.

19-29 у мяне перэбывалі лідэры партій, журналісты, члены правіцельства, дзеячы палітычные, нашы беларусы. Праца была дужа інтэнсыўная і ліхарадачная.

Я разам з палкоўнікам Езавітавым падаў мэмор'ял-даклад Мін. Міжн. спр. рэспублікі Эсьці па поваду войск Балаховіча.

29-го я выехаў у Гэльсінгфорс.

Трэба сказаць што Фінляндзія аб нас нічога не ведала. Я зрабіў візыты Міністру Міжнародовых спраў, дыплематычнаму корпусу і некаторым лідэрам.

Завеў знаемствы с прэссай першае з афіц. «Helsingin Sannomat» каторая памесьціла стацьцю на цэлую страніцу (прогрэсыўная парція).

Потым я пазнаеміўся ешчэ з 12 газэтамі каторые сталі памешчаць карты Беларусі і усе весткі якіе я ім даваў.

Украінцы далі мне банкет, потым праф. Мікола, быў запрошаны к Эсьційскаму паслу праф. Каллас і шмат шмат іншых.

Рабіў 2 даклады у Сэйме, куды у часе 2-га дакладу сабралася некалькі міністраў са старшыной на чале і старшына сэйма. (я рабіў даклад ад 8 веч. да 1 ночы).

Да гэтага часу я падаў мэмор'ял Міністру Міжн. спраў с прэдлажэньнем прызнаць Беларускую рэспубліку.

І вось старшына Міністраў посьле майго дакладу сказаў мне што ен пэўны што Бел. Нар. Рэсп. будзе прызнана Фінляндыяй. Я не мог атрымаць акта прызнаньня таму што на другі дзень я выехаў і даведаўся аб прызнаньні толькі з газэт будучы ужо у Рызе.

Апроч таго быў я у Таммэрфорсе у п. Чэрвякова, катораму Езавітаў паручыў рэгістрацыю Беларусоў. Выдаў я яму мандат на право выдаваць белар. пашпарты.

Не магу тут не адмеціць фінскаго праф. Jahnssona (праф Technische Hochschule у Гельсінгф.) і члена сэйма Juutilajnena, каторые шмат мне дапамагалі у маей працы і каторым Беларуская Рэспубліка павінна падзякаваць.

Украінцы як і усюды шмат мне памагалі, нават спаткалі на аўтомобілі як я прыехаў у Гэльсінгфорс.

Адным словам усе дужа шчыра мяне прынялі праф. Міколя праф. Каллас і др. і шкадавалі што я выяжджаю.

Я абецаўся ім што беларускі прэдстаўнік у Фінляндзіі будзе.

Зацікавіўся Беларусей і Ангельскі пасол лорд Эрік я быў у яго але не знайшоў дома а другі раз не было магчымасьці спаткацца я загатовіў яму мэмор'ял каторы трэба будзе посьле Вашай санкцыі перэдаць.

Прабыўшы 2 тыдні я 13.XII.19 выехаў з Гельсінгфорса у Рэвэль.

13-17 я працаваў у Рэвелі з улажываньнем пытаньня аб уцекачох у Нарві каторых мы транспортамі будзем атпраўляць на бацькаўшчыну (Езавітаў у той час быў у Рызе).

17-го XII.19 я выехаў у Рыгу дзе і быў 20.XII.19. Тутака мы сталі працаваць разам з п. Езавітавым.

Падалі мэмор'ял аб Дзьвінску Латышам падаем Ангельцам і Амэрыканцам (копіі прыкладываем).

Работы тут страшэньне шмат. На мірных перэгаворах у Дорпаце мы не былі (прычыны далажу асабіста). Справа мобілізацыі беларусаў у Латвіі покуль што ешчэ не закончэна (прычыны далажу асабіста).

Заўтра выежджаю у Коўну.

Агульнае мае уражэньне ад Латвіі Эсьці і Фінляндзіі дужа добрае.

Народ и Урады іх разумеюць свае задачы і ідуць правільнай дарогай у міжнародным пытаньні.

Так сама дужа сымпатычна адносяцца да справы Беларускай.

Бачыўся я тут і з польскімі прэдстаўнікамі з імі што да канкрэтных пытаньнёй то мы дагаварыліся.

Я[ңы] нам тут не шкодзяць.

Былі маленькіе непаразуменьні, але яны уладжэны. Перэдайце падзяку. Аб падробнасьцях далажу па прыездзі.

Адносіны на Дорпатскай Конфэрэнцыі да нас літвіноў былі не дужа сымпатычные у Коўні пастараюся выясьніць.

Цяпер перайду да агляду Беларускіх працаўнікоў і інстытуцый у Балтыцэ.

Езавітаў. Як Вы ведаеце шэфам Вайск-Дыплематычнай Міссіі у Прыбалтыцэ з'яўляецца палкоўнік Езавітаў. Ен тут завёў добрые стасункі з усімі прэдстаўнікамі гэтых дзержаў. Яго шанують. І трэба аддаць яму справядлівасьць што ен працуе дужа шмат і досьць добра. Можа есьць некаторые памылкі, але яны не вялікіе і тонуць у тэй працы якую ён тутака робіць і ужо зрабіў. Каб не было яго, было бы шмат горш.

Консул Шымковіч. Так сама дужа добры працаўнік. Праўда часам бывае мала паважны, але гэта чэсны і адданы справі чэлавек і карыстае добрай славай у тутэйшай Беларускай калеміі і сярод консульскаго корпусу.

Грыг. Казячы. Гэта стары с-р. працуе і дзень і ноч. Карыстае агульнай сымпатыяй. Апроч добрага нічога не маю аб ім сказаць. Сэкрэтар Консульства.

Шанкат. Кіраўнік пашпартнага аддз. у Рэвэлі. Не беларус але як працаўнік дужа добры.

Чэрвякоў кір. пашп. аддз. у Таммэрф. Трудна аб ім што сказаць — мала мы яго ведаім.

Цьвяткоў кір. пашп. аддз. у Лібаве. Малады ешчэ студэнт. Добра яго не ведаю.

Рэшта не з'яўляюцца атветнымі і аб іх гаварыць не прыходзіцца.

Арганізацыі.

У Рызе. 1) Рада Беларускай калеміі у Латвіі. Працуе добра. Зрабіла вялікі баль у дзень гадаўшчыны Б.Н.Р.[7] на каторым былі прэдстаўнікі усіх дзержаў. Баль даў чыстых грошы больш 20.000 рубл. царск.

2) Тва Бацькоўшчына выдае хутка журнал «На чужыне»

3. Беларуская сынагога.

Рэвэль Белар. Нац. К-т. Недаўна зарганізаваўся і прыступіў да працы супольна з Украінскім Камітэтам.

Нарва Бежэнскі Камітэт.

Усе гэты арганізацыі працуюць як мага.

Рэшта дакладу зраблю асабіста пасьля прыезду, бо хутка буду у Беларусі.

Надзв. паўнамочны прэдст. Б.Н.Р. у Балтыцэ
КДушэўскі

P.S. Затрымаўся я тут бо думаў што трэба будзе ехаць узноў у Гэльсінгфорс на конфэрэнцыю але ена адложэна на 15.I.20.

КДуш

*582.2.32:051-057 — ра*

---

[1] Цяпер — Турмантас Зарасайскага раёну ў Літве. [2] Цяпер — Крустпілс, частка гораду Екабпілс у Латвіі. [3] Цяпер — Зарасай у Літве. [4] Цяпер — Ілукстэ ў

Латвіі. [5] Цяпер — Заса ў Латвіі. [6] Ёхан Лайдонэр. [7] Адзначалася 17.12.1919, у другую гадавіну абвешчаньня Беларускай Народнай Рэспублікі на Ўсебеларускім Зьезьдзе ў Менску.

**1661. Чарнавік мэмарыялу надзвычайнага паўнамоцнага прадстаўніка БНР у Балтыцы Кляўдыюша Душэўскага (Рыга) міністру замежных справаў Каралеўскага Ўраду Англіі за 4.01.1920 з агульнай інфармацыяй пра Беларусь і просьбай прызнаць незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі**

*582.2.32:074&r-076&r — рк*

**1662. Інтэрвію шэфа Вайскова-Дыпляматычнай Місіі БНР у Латвіі й Эстоніі Кастуся Езавітава, надрукаванае ў шэрагу эстонскіх і латвійскіх газэтаў у сьнежні 1919**

*582.2.32:081-084 — мк рас*
*582.2.54:029-034 — рк фра*

**1663. Ліст Кастуся Езавітава (Рыга) Антону Луцкевічу (Варшава) за 4.01.1920**

4.I.1920
Рыга,
Нікалаеўская 20.

Дзядзька Антон!

Апрача усех афіцыяльных рапартоў пішу ешчэ і прыватны ліст.

Есьць да Вас вялікая просьба. Калі ласка сбярыце ў Варшаве мне ўсе, што есьць на польскай мове аб беларусах і перашліце ў Рыгу праз латвійскую Місыю, праз якую ідзе і гэта пошта.

Аб справе падробна пішэ Грамадзянін Душэўскі і гавораць мае рапарты, а таму сам я устрымліваюсь.

Культурная праца у Рызе таксама умацовываецца. Адчынено Т-ва «Бацькаўшчына», худка выйдзе журнал «На чужыне» з вялікім лікам ілюстрацый, адбыўся канцэрт з беларускімі номерамі, у беларускіх вопратках. Картку аднэй з выступаўшых артыстак дадаю.

Лік каленіі павелічыўся ужо да 2500 грамадзян у аднэй Рызе.

Ваякі нашы добра бьюцца з бальшевікамі.

Усе добра, але чуецца безграшоўе.

Трэба, або рабіць заем, або выпускаць свае грошы.

У апошніе часы наладзіў вельмі добрыя адносіны да Місый Антанты.

Трэба як худчэй, пасылаць каго-небудзь ў Англію і Амерыку.

Вельмі кепска толькі тое, што нічога не атрымліваю з Бацькаўшчыны. Што там і як — не ведаю.

З вялікай пашанай
К.Езавітаў

Чэкаю вестак ад Вас.
*582.2.32:096-097*

**1664. Расьпіска Язэпа Сянкевіча (Варшава) за 4.01.1920 аб атрыманьні ад Антона Луцкевіча 500 марак на паездку ў Менск**
*582.2.48:009 — ра*

**1665. Рукапіс абвесткі Антона Луцкевіча аб уневажненьні дыпляматычных пашпартоў палк. Шолкавага, Пятра Крэчэўскага, Васіля Захаркі й Яфіма Бялевіча**
*582.2.46:062 — рк*

Абвестка надрукаваная ў: Беларусь. №3(59). 1920.01.04.

**1666. Прывітальны ліст пасла Латвійскай Рэспублікі ў Варшаве А.Кеніньша старшыні Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі Антону Луцкевічу (Варшава) за 5.01.1920**
*582.2.39:022&r-022a — ра*
*582.2.39:023 — мк*

**1667. Вопіс дыпляматычнай карэспандэнцыі, адпраўленай Кляўдыюшам Душэўскім і Кастусём Езавітавым (Рыга) Антону Луцкевічу (Варшава) 5.01.1920 праз Гартмана**
*582.2.32:072*

**1668. Квіт за тэлеграму з Варшавы ў Бэрлін за 5.01.1920**
*582.2.48:010 — квіт*

**1669. Рахунак Складу Паперы «Julian Burof»на 37 марак за канцылярскія тавары за 5.01.1920**
*582.2.48:011*

**1670. Рахунак Канцылярыі Міністэрства Замежных Справаў БНР на выдаткі за канцылярскія тавары за 5.01.1920**
*582.2.48:012*

**1671. Тэлеграма Аркадзя Смоліча (Менск) Антону Луцкевічу (Варшава) за 11.01.1920**
= terminowa warszawa hotel
hotel saski luckiewiczowi =

warszawa minska lit 819 27 6 15 6 =
dorpackie spotkane entuzjasztycznie winschujemy
krepka minska przybyli jwanowski trepko zurwid jelcowa
masonjus wszyscy zdrowi juz pracuja jwanowski zbieracie
wkrotce warzsawy = smolicz "
*582.2.13:029*

**1672. Квіт за тэлеграму з Варшавы ў Парыж за 6.01.1920**
*582.2.48:015 — квіт*

**1673. Расьпіска Янука Натусэвіча (Варшава) за 6.01.1920 аб атрыманьні ад Антона Луцкевіча 200 марак у рахунак пэнсіі**
*582.2.48:013 — ра*

**1674. Перадрук артыкулу: Zakładnicy — Naczelnikowi Państwa // Goniec Miński (Менск). Nr.120. 6.01.1920**
*582.2.50:010 — мк*
*582.2.50:013 — мк*

**1675. Суправаджальны ліст Антона Луцкевіча (Варшава) старшыні Найвышэйшай Рады БНР Янку Серадзе (Менск) за 7.01.1920, дасланы з копіяй прывітаньня пасла Латвійскай Рэспублікі ў Варшаве беларускаму ўраду**
*582.2.39:021 — мк*

**1676. Квіт за тэлеграму з Варшавы ў Менск за 7.01.1920**
*582.2.48:016 — квіт*

**1677. Квіт за тэлеграму з Варшавы ў Менск за 7.01.1920**
*582.2.48:017 — квіт*

**1678. Расьпіска Янука Натусэвіча (Варшава) за 7.01.1920 аб атрыманьні ад Антона Луцкевіча 500 марак у рахунак пэнсіі**
*582.2.48:014 — ра*

**1679. Ліст Аўгена Ладнова (Парыж) Антону Луцкевічу (Варшава) за 8.01.1920**

Многоуважаемый, Антон Иванович!

Около мѣсяца тому назадъ послалъ Вамъ подробное письмо черезъ Чешское Посольство в Парижѣ. Судя по отсутствію Ваших распоряженій, о которых я просил в письмѣ Вами мое письмо не получено. Послал Вамъ три телеграммы въ отвѣт на Ваши от 20/XII 22/XII, 27/XII и 28/XII. Ваши телеграммы получились черезъ 3 недѣли послѣ отправки их из Варшавы.

Я подалъ официальное заявленіе в Мин Иностр дѣл и мнѣ отвѣтили, что распоряженіе в посольство в Варшаву о выдачѣ Вам визы послано. Будьте любезны справиться, если нѣт извѣщенія, телеграфируйте срочно, я немедленно представлю Вашу телеграмму во Франц. Мин. Иностр. дѣл. Происходит что то загадочное?! Письма и телеграммы либо задерживаются, либо вовсе не доставляются.

Вамъ необходимо быть здѣсь, и чѣм скорѣе, тѣм лучше! Если не получите визы в Парижъ, просите в Прагу, а оттуда телеграфируйте мнѣ, и Вамъ виза будет дана. Я предусматриваю в данном случаѣ крайній выходъ, крайнюю мѣру.

Васъ надули, вызвав в Варшаву, удалив таким путем изъ Парижа. Получил секретное увѣдомленіе, что срочным курьером Пилсудскаго, Савинков и Чайковскій приглашены в Варшаву. Они выѣзжают экспрессом

9/I 20, т.е. — завтра. Мое письмо, быть может, будет получено Вами днем ранѣе их прiѣзда. Постарайтесь повидаться с Чайковским. Всѣ данныя говорят за то, что Чайковскiй при поддержкѣ англичан, будет играть весьма видную роль в возсозданiи Россiи. Самый факт приглашенiя его Пилсудским в Варшаву (его, а не кого-либо другого из офицiальных представителей Верховнаго Правителя Россiи) говорит о предстоящей роли Чайк. Довѣрiе послѣдняго к Вам поколеблено: здѣсь враги Ваши старались убѣдить русскiе круги, что Вы содѣйствуете полякам аннексировать и раздѣлить Бѣлоруссiю. Все возможное, чтобы разсѣять такое подозрѣнiе, я сдѣлалъ, но прошу и Вас принять необходимыя мѣры. Ваше отсутствiе здѣсь почти гибельно для дѣла. Париж, а не Варшава рѣшает судьбы народов! Изъ варшавы Чайк. ѣдет на Юг Россiи. Обо всем этом сообщаю по секрету. Жду Васъ, как можно скорѣе. Телеграфируйте день и час прiѣзда, встрѣчу на вокзалѣ. Телеграфируйте полученiе письма, каковое посылаю случайной оказiей. Вашими сообщенiями о расколѣ и «авантюрах» я подавлен. Случилось то, что я предвидѣл, предчувствовал, принимал всѣ мѣры чтобы предупредить, сознавал всю гибельность партiйных и личных счетов в столь отвѣтственный момент.

Уплатил жалованье за январь, квартиру по 5 марта и сѣли на мель. Денегъ больше нѣт, так как курс марки 20-21 сант. Озноб<ишин> уѣзжает в Б<ерлин> к Баркову. Генерал[1] охает и ахает, что будет дальше!

Есть вѣскiя основанiя разсчитывать на полученiе стоков. Вопросъ разрѣшится на будущей недѣлѣ. Принимает участiе в хлопотах член и Секретарь Парламента. Но у насъ нѣт гроша для начала работ.

Обратитесь срочно к бѣлорус. кооперативам, пусть они дадут полномочiя Вам на право покупки, отправки товаров в Бѣлоруссiю. Должно быть дано право передовѣрiя, иначе Вы будете пришиты к этому дѣлу. Узнайте можно ли организовать товарообмѣн с Францiей, при посредствѣ кооперативов? Все это вопросы, не терпящiе отлагательства.

О моей семьѣ не имѣю никаких извѣстiй и потому собираюсь лично поѣхать туда. Прошу Вас прибыть как можно скорѣе. Я собирался выѣхать 10/I, но Ваше отсутствiе лишает меня возможности уѣхать и я вынужден отказаться от билета, раздобытаго с большим трудом. Въ 20 числах января я вынужден буду выѣхать.

Повидайтесь с Ч<айковским> переговорите с ним и прiѣзжайте сюда. Центр тяжести здѣсь. Нужно протестовать против дѣйствiй поляков, но до Вашего прiѣзда отсрочиваю со дня на день.

Тяжелая обстановка, тяжелыя вѣсти и на душѣ тяжело, безпросвѣтно...

Крѣпко жму руку. Жду Вас с нетерпѣнiем

Уважающiй Вас, Е Ладнов

Как только получите письмо, телеграфируйте.

8/I 20.

Здѣсь намѣчается формированiе бѣлорусских войск.

*582.1.04:008&r*

[1] К.Кандратовiч.

**1680. Ліст Янкі Серады (Менск) Антону Луцкевічу (Варшава) за 8.01.1920**

Вельмі паважаны
пане Антоні.

Шчыра дзякую за пріемныя вестки. У канцы канцоў я сам лічіў, што не бытнасць мая на аудіэнцыі у П<ілсудскага> няшкодна. Такога погляду і Вы.

Гэтымі днямі варочаюцца у Менск заходнікі[1], у тым ліку і наш п. Іваноўскі. Сегодня я яго бачыў і ён казаў, што збіраецца заўтра-пазаўтра ехаць у Варшаву.

Становішчо агульна-палітычнае у Менску тое самае — невыразнае досіць.

Рада Віленшчыны маецца нібы узяць на сябе пасредніцтво у згодзе абодвых старон. Можа і здолее дапамагчы, калі не пашкодзіць.

Эс-эры нібы ня чуюць пад сабою цьвердае подставы. Покуль што ніякіх практычных крокаў ня робяць.

Рэшта даведаецеся, паночку, з лістоў ад другіх паноў, я покуль што яще не ўвайшоў у курс менскаго жыцьця.

Шчыра жадаю Вам усякіх прыемнасцяў

Ваш Середа

*582.2.39:027-028 — ра*

[1] Відавочна маюцца на ўвазе *закладнікі*, вывезеныя бальшавікамі ў Смаленск.

**1681. Нататка Антона Луцкевіча за 8.01.1920 [для зьмяшчэньня ў друку?]**

Powrót działaczy białoruskich.

Do Mińska powróciła część działaczy białoruskich, wywiezionych przez bolszewików w charakterze zakładników, — mianowicie: Wacław Iwanowski, Antoni Trepka, Aleksander Burbis[1], prof. Masonius

8.I.20

*582.2.38:090 — рк*

[1] Памылкова замест Журвід.

**1682. Ліст Аркадзя Смоліча (Менск) Антону Луцкевічу (Варшава) за 8.01.1920**

Дарагі Антоне!

Найважнейшай можа навіною у нас ёсьць паварот закладнікоў Іваноўскага, Трэпкі, Журвіда, Масоніуса і інш. Вярнулася і п. Ельцова. От-жа што да Іваноўскага. Прыехаў ён яшчэ у нядзелю — 4-га. У панядзелак на чэсьць яго быў вялікі банкет. Там і я яго бачыў; чуў яго прамовы. Але апроч гэтага я вось ужо чатыры дні хочу яго пабачыць і не удаецца — ён усё заняты справамі закладнікоў, ад якіх ёсьць прадстаўніком, і у гэтых справах зносіцца з адміністрацыей і г.д. Нават паінформаваць яго як мае быць мне ні удалося, баюся, каб ён дзеля гэтага не зрабіў памылковых крокаў. Сягодні прыму усе спосабы каб яго ўгледзіць. — На банкеце ён гаварыў шмат але на агульныя тэмы. Спэцыяльна-ж да палітыч-

нага момэнту ён сказаў толькі, што далейшае пасуване се на ўсход паля-каў ня вельмі патрэбна: лепей будзе, калі беларусы разьвіўшы свае сілы на Меншчыне пасьля ужо перакінуць іх усьлед за польскімі войскамі на ўсход. Апроч таго ён казаў больш цеснай кампаніі, што зьбіраецца у хуткім часе паехаць у Варшаву; там ён разгаворыцца з Комэндантам і тады будзе ведаць што рабіць. — Дзеля таго, што на банкеце была досіць розная публіка (між іншым і Воевудзкі), я не кратаў пытаньняў аб яго тактыцы. Ёсьць гэта аднак справаю паважнаю.

Лісты Вашые мы усе атрымалі. Што да афіцыяльных прапазіцый, дык з імі наагул кажучы ня так проста. Каб адчыніць чыннасьць Міністэрстваў трэба грошай. Іначай ніхто ні захоча мяшацца у такую няпэўную гісторыю, асабліва пры цяперашнім стане рэчаў. — Настроі, што пануюць у Менску далёка не спрыяюць рабоце. Грамадзянства альбо чакае бальшавікоў, альбо пераконана у іх хуткім прыходзе. Наш «базіс» звужаецца. Хаця с-р. сядзяць ціха, але спачуцьцё да іх ня меншае. Чаго ужо лепей, калі на банкеце, дзе былі блізка што адны нашыя людзі, Косьцевіч падняў тост за тых што сядзяць у вастрозе. Праўда быў ён п'яны, ды і наагул гэта Косьцевіч, але гэтакія праявы можна спасьцярагчы і у іншых. — Што да тактыкі нашых супрацiўнiкаў, дык здаецца яны думаюць зрабіць стаўку на Латвію, Эстонію і Балаховіча. Туды, кажуць, выехаў Шыла. Я яго бачыў тыдзень назад. Трэба былоб як небудзь пастарацца грошай і выправіць туды каго. Гэта асабліва важна, калі праўда, што на Дорпацкай конфэрэнцыі удалося нечага дабіцца. Калі якая магчымасьць будзе вызывайце тэлеграмаю Кузьму — няхай едзе, ён жа там усіх знае.

Што да пашырэньня базіса коштам усякіх Іван Іванавічаў, дык я ня ведаю. Здаецца мне, што тым часам, пакуль мы не умацаваліся, ім будуць шмат больш імпонаваць с-р. і нават с.ф., якіе пэўнеж дагэтага часу ужо патрапілі нас абгаварыць. — Прабуецца тут аднавіць гутаркі з архірэям. Раіў бы і Вам зьвярнуць увагу на гэта, асабліва у зьвязі з соймавымі пастановамі, што да аўтокефаліі польскай праваслаўнай царквы. Ці ня варта было-б утварыць якую-ць камісію царкоўную, ці што?

Як справа «кніжак»[1]? Жывем у надзеі, але прыходзіцца цяжка. Усюдых коратка. Бярэце хоць пакрысе.

Бывайце здаровы
Вітаю АСмоліч
8-I-920
*582.2.46:099&r — pa*

[1] Г. зн. грошай.

**1683. Рапарт шэфа Вайскова-Дыпляматычнай Місіі БНР у Латвіі і Эстоніі палкоўніка Кастуся Езавітава (Рыга) Радзе Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі за 8.01.1920 (вых. №27)**

8 студнага 1920
№27
м. Рыга

Радзе Міністрау Беларускай Народнай Рэспублікі.

Рапарт.

Пры гэтым прэдстауляю дзве копіі кошторысау: Вайскова-дыплематычнай місыі Б.Н.Р. у Латвіі і Эстіі і Консульства Б.Н.Р. у м. Рызе, зацьверджанных Надзвычайным Паслом грамадзянінам К.Душэускім 7-га студнага 1920 год.

Дадатак: дзве копіі кошторысау.

Шэф Місіі,
Палкоўнік К.Езавітаў

За сэкрэтара Г.Казячый
*582.2.47:061 — ма*

**1684. Каштарыс выдаткаў на ўтрыманьне Вайскова-Дыпляматычнае Місіі БНР у Латвіі і Эстоніі на 1920 год**
*582.2.47:062&r — мк*

**1685. Каштарыс выдаткаў на ўтрыманьне Консульства БНР у Рызе на 1920 год**
*582.2.47:063 — мк*

**1686. Нататка Антона Луцкевіча за 9.01.1920 [для зьмяшчэньня ў друку?]**

Organizacja białoruskich oddziałów we Francji.

Na skutek starań Rządu Białoruskiej Republiki Ludowej Rząd Francuski nakazał wydzielenie z-pośród znajdujących się na terytorjum Francji b. wojskowych rosyjskich żołnierzy narodowości białoruskiej.

Białorusini koncentrują się w twierdzy Verdun pod kierownictwem generała francuskiego Rampon'a w porozumieniu z białoruskim ministrem obrony narodowej, pułkownikiem Ładnowym.

Organizacja oddziałów białoruskich już się rozpoczęła. Oddziały te podlegają kompetencji Rządu Białoruskiego.

9.I.20
*582.2.38:091 — рк*

**1687. Квіт за тэлеграму з Варшавы ў Менск за 9.01.1920**
*582.2.48:024*

**1688. Расьпіска Янука Натусэвіча (Варшава) за 9.01.1920 аб атрыманьні ад Антона Луцкевіча 500 марак у рахунак пэнсіі**
*582.2.48:018 — ра*

**1689. Нататка Лявона Дубейкоўскага аб выбраньні 13.12.1919 у Менску Найвышэйшай Рады БНР [для зьмяшчэньня ў друку?]**
*582.2.38:092 — рк*

---

Дакладная дата невядомая. Магчыма, нататка для бюлетэню Беларускага Прэс-Бюро ў Варшаве. На адвароце: «Wybačajci što krychu zpazniiŭsia z Kaladoju —

wybačajcia, a «Krynicu» mo najlapiejšuju duchowaju wadzicu, kali łaska padsyłajcie — Wašamu Lawonu Dubiejkoŭskamu u Waršawie Kapernika 14 kw. 12».

**1690. Квіт за тэлеграму з Варшавы ў Бэрлін за 10.01.1920**
*582.2.48:021*

**1691. Квіт за тэлеграму з Варшавы ў Прагу за 10.01.1920**
*582.2.48:023*

**1692. Квіт за тэлеграму з Варшавы ў Вільню за 10.01.1920**
*582.2.48:022*

**1693. Тэлеграма Аркадзя Смоліча (Менск) Антону Луцкевічу (Варшава) за 11.01.1920**

terminowa warszawa hotel saski
luckiewiczowi =

fr minska 1524 26 11 17/10 do cens
celem szkodzenia pracy rzadowej wyjechal paszkowicz warszawy
szylo przedziera sie zagranice latwie predzej ksiazkami
moge osobiscie przyjechac warszawy jesli potrzebno
telegrafujcie smolicz +
*582.2.13:028*

**1694. Ліст 73 інтэрнаваных беларускіх вайскоўцаў, утрымваных на этапным пункце «Powązki» (Варшава) Беларускаму Камітэту ў Варшаве за 11.01.1920 з прыкладзеным асабовым сьпісам**
*582.2.33:123&r-124 — рк*

**1695. Ліст Аўгена Ладнова (Парыж) Антону Луцкевічу (Варшава) за 12.01.1920**

Париж 12/І 20 г.

Многоуважаемый, Антон Ивановичъ!

Не всѣ Ваши телеграммы получены. Отвѣтил на всѣ полученныя. Послалъ Вам в срединѣ декабря письмо через Чешское Посольство в Парижѣ. Изъ телеграмм вижу, что это письмо Вами не получено. Узнайте в Варшавѣ в посольствѣ. Послал Вам письмо 8/І через случайнаго знакомаго. Въ этом письмѣ изложил о положеніи дѣл. Сегодня Генерал[1] получил от него увѣдомленіе из Швейцаріи, что он заболѣл в пути, остался от поѣзда, а вещи уѣхали в Варшаву. Возможно, что мое письмо попадет руки поляков вмѣстѣ с вещами этого господина!? Вот не везет, просто ужас! Изъ этого письма соглядатаи почерпнут цѣнныя свѣдѣнія о положеніи дѣл.

Хлопочем о стоках. Возможно полученіе таковых. Необходимы будут деньги, а мы сидим без всяких средств. Уплачено жалованье за январь и квартира по 5 марта. Цѣны на марки упали до 20 сантимов.

Озноб<ишин> собирается уѣхать в Б<ерлин> к Баркову. Генерал обезпокоен дальнѣйшей судьбой нашей при отсутствіи средств.

Получите сами или поручите надежному лицу войти в связь с бѣлор. кооперативами. Можно многое получить для товарообмѣна. Необходимы надлежащія законныя полномочія для делегаціи от кооперативов. Вопрос этот нужно разрѣшить срочно.

Я собираюсь въ Россію, искать семью, о которой не имѣю в теченіе года никаких свѣдѣній. Просил Вас черезъ Дубейк<овскаго> и в письмѣ, врученном ему, пріѣхать в Париж к 5 декабря 1919 г. До настоящаго времени не получил отвѣта. Было нѣсколько благопріятных случаев для поѣздки, но не воспользовался ими, ожидая Вас. Прошу пріѣхать хотя бы къ 20-22 января. Послѣ этого времени я уѣду, дальше оставаться не могу во первых потому, что самостоятельно вести дѣло, не будучи орьентированным Вами, не могу, а во вторых считаю нравств. долгом позаботиться о семьѣ.

Здѣсь о Вас в русском обществѣ сложилось убѣжденіе, что Вы агент Польши, содѣйствующій раздѣлу и аннексіи Бѣлоруссіи. По мѣрѣ сил и возможности, на основаніи имѣющихся у меня данных, я старался разсѣять такія подозрѣнія. Прошу Вас повидаться съ Чайковским и Савинковым. Они приглашены в Варшаву спеціальным курьером Пилсудскаго. Благодаря любезному согласію Чайк[<овскаго>, посылаю Вам настоящее письмо.

Для меня ясно, что вызов Вас в Варшаву злонамѣренный актъ: устранить от работ в Парижѣ. Хорошо задумано и прекрасно исполнено.

Я подал офиц. заявленіе в Мин. Иностр. дѣл о выдачѣ Вам визы на возвращеніе в Париж. Мнѣ сообщили, что телеграмма в посольство в Варшаву послана. Изъ Вашей телеграммы явствует, что Вы никаких свѣдѣній об этом не имѣете; меж тѣм как я Вам телеграфировал объ этом дважды и просил увѣдомить меня телеграммой о днѣ и часѣ Вашего пріѣзда в Париж: встрѣчу на вокзалѣ. И никакого отвѣта! Каким же образом можно установить связь, если Вас умышлено задерживают, и в то же самое время разгоняют Раду, формируют польское войско под бѣлорусским флагом, арестовывают бѣлорусских общ. дѣятелей, закрывают бѣлор. газеты и журналы, ну, словом чинят насилія, хуже германцев. А «плебисцит», подготавливаемый ими в Бѣлоруссіи? Всѣ эти факты извѣстны русским. Они спрашивают: «Что же дѣлает Л<уцкевич>, почему он сидит в Варшавѣ въ то время, когда надъ народом чинятся неслыханныя насилія?» Я объясняю Ваше присутствіе в Варшавѣ, как вынужденное, невольное.

Изъ франц. газет узнал, что поляки распродают бѣлорусскіе лѣса, словом хозяйничают как у себя дома.

Въ этотъ тяжелый, крайне отвѣтственный момент разыгрались событія 13 декабря!! Уму не постижимо, кому, зачѣм это понадобилось?! Разъясненія смысла событій до сих пор не имѣю.

Если Вамъ не дадут визы в посольствѣ, то немедленно примите мѣры к отъѣзду в Прагу, а оттуда телеграфируйте мнѣ; я выхлопочу Вам визу. Хотя вообще визы теперь даются свободно без запросов Парижа, и в этом, по отношенію к Вам, я усматриваю козни. Перед моим отъѣздом я желаю повидаться с Вами и подробно орьентировать Вас. Телеграфируй-

те о полученіи письма так: «Пріѣхалъ благополучно»[2]. Значит Вы получили письмо от Чайк<овскаго>. Если телеграмма будет такая: «Пріѣхали благополучно» — это значит, что Вы получили письма, посланныя через Жуковича (случайнаго знакомаго) и через Чайковскаго.

Жду Вас, как можно скорѣе! Пріѣзжайте, здѣсь много отвѣтственной работы! Париж, не Варшава рѣшает судьбу народов. Всѣ, посланныя мною телеграммы адресованы были Ulica Kopernika 14/12 Дуб<ейковскому>. Я безконечно волнуюсь и нервничаю благодаря отсутствію извѣстій от Вас благодаря невозможности установить связь. А Евг<енія> Ник<олаевна>[3] уволена от службы в мое отсутствіе. Атмосфера тяжелая кругом. Мрачно, безпросвѣтно.

Пріѣзжайте скорѣе, жду Вас!

Будьте здравы и благополучны! Письмо, посланное через Жуковича, было такое же приблизительно, по содержанію, как и настоящее.

До скораго свиданія! Телеграфируйте полученіе письма или писем, и день выѣзда; встрѣчу. Крѣпко жму руку!

Уваж. Вас, ЕЛаднов

*582.1.04:009&r*

---

1 Кандратовіч. 2 Гл. адказ Луцкевіча — дакумэнт №1722. 3 Гіта Левін, сакратарка дэлегацыі. Гл. дакумэнт №1849.

**1696. Ліст старшыні Рады Народных Міністраў Беларускае Народнае Рэспублікі Антона Луцкевіча (Варшава) старшыні Рады Міністраў Украінскае Народнае Рэспублікі Ісаку Мазэпу (Варшава) за 12.01.1920 (вых. №21)**

Варшава, 12.І.1920.
№21

Яго Міласьці
Старшыні Рады Міністрау
Украінскае Народнае Рэспублікі.

З прычыны крайняе патрэбы Урад Беларускае Народнае Рэспублікі просіць Урад Украінскае Народнае Рэспублікі выдаць авансам у лік прошанай пазыкі пяць мільенау карбованцау.

Асыгноуку на вышэйсказаную суму просімо выпісаць на імя Радніка Пасольства Беларускае Народнае Рэспублікі на Украіне Александра Галавінскага.

Старшыня Рады Народных Міністрау і Міністэр Заграпічных Спрау і Фінансау:

А.Луцкевіч

*582.2.34:013 — мк*
*582.2.34:034 — мк (з копіяй рэзалюцыі С.Пятлюры)*

**1697. Нота міністра замежных справаў БНР Антона Луцкевіча (Варшава) міністру замежных справаў Польскай Дзяржавы (Варшава) за 12.01.1920 (вых. №22)**

Monsieur le MINISTRE.

Le Gouvernement de la République Démocratique de la Ruthénie Blanche a l'honneur de Vous communiquer, Monsieur le Ministre, que la Rada de la République a élu à Minsk, le 13 décembre 1919, un nouveau organe souverain: le Conseil Supérieur de la République, auquel elle a transmis ses pleins pouvoirs.

Le Conseil Supérieur est composé de cinq membres: Le Président — Jean Sereda, les membres: Rak-Mikhailovsky, Losik, Vlasov, Terechtchenko.

Le Conseil des Ministres, présidé par Mr. Antoine de Loutckevitch, nommé par la Rada, est confirmé par le Conseil Supérieur.

Le Président du Conseil des Ministres et Ministre des Affaire[s] Etrangères:
Antoine de Loutckevitch

Le représentant du gouvernement de la République Démocratique Blanc-Ruthénienne à Varsovie:
Léon Dubiejkowski
17.I.20
*582.2.13:038 — ма*
*582.2.13:031 — мк*
*582.2.33:001 — мк*
*582.2.33:002 — мк*

---

На ноце прыпіска Дубейкоўскага: «Нота гэта была мною подана да Польскага Міністэрства Закардонных спраў у Варшаве 12 студзеня, а 16 тагож месяца звернута назад мне праз рэфэрэнта п. Арцішэўскага, каторый сказаў, што ноты гэтай прыняць нельга, што прыняцьце такой ноты выказывало-бы прызнаньне незалежнай Беларусі.
Л.Дубейкоўскі».

**1698. Рахунак Складу Паперы «Awanti» на 51 марку за канцылярскія тавары за 12.01.1920**
*582.2.48:019*

**1699. Рахунак Канцылярыі Міністэрства Замежных Справаў БНР на выдаткі за канцылярскія тавары за 12.01.1920**
*582.2.48:020*

**1700. Ліст Антона Луцкевіча (Варшава) Кастусю Езавітаву (Рыга) за 13.01.1920**

Копія

Варшава, 13.I.1920.

Паважаны Таварышу!

З Вашых пісем я бачу, што Вы яшчэ ня у курсе апошніх выпадкау у Менску: відаць, да Вас мае афіцыяльныя тэлеграмы не дайшлі. З гэтае прычыны лічу патрэбным паведаміць Вас аб усім падробна праз першую аказію.

Справа вось у чым.

Як Вам добра зразумела, з разгромам Дэнікіна аслабадзілася многа бальшавіцкіх сіл. Гэтыя сілы, як для нікога не сакрэт, пачалі концэнтра-

вацца на польскім фронці, і у Менску павеяла знаемаю атмосфэраю, якая была перад адходам немцау. У зьвязку з гэтым утварылася між нашымі с.-р. «левая» група, вельмі блізкая па настраеньню да бальшавікоу. Да гэтае групы увайшлі: Бадунова, Мамонька, Шыла, Ваш быушы працаунік палк. Шауковы і некалькі душ маладзежы, а на чале іх стануу.... член Тарыбы, арганізатар клерыкальна-консэрватыунай партыі у Вільні (разам з баронам Шафнаглем, князем Сьвятаполк-Мірскім і ксяндзом Талочкай) пан Вацлау Ластоускі! Гэтая група пастанавіла, што Рада Рэспублікі павінна перайсьці у падполье і пачаць чыста бунтарскую работу дзеля выгнаньня палякоу. Каб гэтага дайсьці, пастаноулена было скінуць цяперашні Урад і старшыней Рады Народных Міністрау назначыць Ластоускага.

Ужо адны імены учасьнікау гэтага загавору паказваюць, якую вартасьць мела гэная група, а просты розум кажа, якія рэзультаты падобны факт меу бы для усяе нашае справы. Вы, маючы стычнасьць з палітычнымі дзеячамі заходняе Эуропы, найлепей можаце ацаніць, як гэта учлі бы на Заходзе і якую помач дала бы Беларусь усім нашым ворагам. Дый было бы нічога, каліб толькі гэная група тварыла падобныя пляны: сталася рэч куды горшая.

Як Вам пэуне вядома, па ініцыятыве французау я і Ладноу завязалі у Парыжу перагаворы з палякамі. Той факт, што наш Урад, як правільна данасілі антанце у Парыжу Ічас і Вальдэмарас[1], вісіць у паветры і пражывае у кур'ерскіх паездох усяе Эуропы, вельмі дрэнна адбіваўся на нашай рабоці: ня маючы ні тэрыторыі, ні сталіцы, мы не станавілі у вачах антанты ніякай рэальнасьці, а толькі голую ідэю, з каторай у рэальнай палітыцы ніхто лішне сур'езна ня лічыцца. Гэта і прымусіла нас шукаць спосабу угрунтаваньня хоць відзімасьці нашае уласьці у краю, чаго мы з Ладновым і спадзяваліся дабіцца перагаворамі з палякамі з ведама Францыі. Пакуль што я гэтага не дабіуся, усеж такі і факт адбыцьця некалькіх засяданьняу Рады — ня гледзячы на варожае становішча палякоу — можна было бы выкарыстаць дзеля падняцьця нашага ауторытэту заграніцай. Апрыч таго мне удалося дабіцца ад Пілсудскага, што ен не пайшоу паводлуг волі сойму на аслаулены плебісцыт, а падау антанце заяву, што дзеля правільнага выяуленьня волі насяленьня окупованых на Усходзі зямель павінны быць выбраны прадстаунікі ад усяго абшару, абнімаючы і задняпроускую Беларусь Магілеушчыну і Вітэбшчыну, бо іначэй Расея можа лічыць сябе пакрыуджанай, калі у галасаваньні ня прынуць учасьця тыя землі, якія больш цягнуць да Расеі.

Мой прыезд у Варшаву вызвау вялікі неспакой у Бэрліне і перадауся нават маім таварышом, супольная праца з каторымі, здаецца, не павінна была даць месца для брудных падазрэньняу і недаверыя. Мае пагляды усім вядомы, і ні у Парыжу у гутарках з Сазоновымі і Маклаковымі, ні у Варшаве у гутарках з Пілсудскім я з свайго становішча не зыходзіу ні на мамэнт. Ведалі аб гэтым і усе нашы людзі у краю, а Бадунова адначасна з маей урадовай працаю спасобіла у тэй жа Варшаве польскіх п.п.с. і устанавіла з імі самыя прыязныя адносіны дзеля выкарыстаньне іх голасу на нашу карысьць. Ня гледзячы на усе гэта Захарка і Крэчэускі паддаліся

нямецкім страхам і пачалі проці ураду саботаж: праз паутрэця месяца Захарка не прысылау мне ні капейкі і гэтак затармазіу усю работу на мейсцох, уганяючы нашых галодных дзеячоу у службу да палякоу... Каліж пасьля угражаючага пісьма Мамонькі і Бадуновай яны урэшці надумаліся ехаць на сэсію Рады, то Захарка прыхавау на свае імя у Празе 20000 ням. марок, а Крэчэускі з дадзеных яму на патрэбы Рады 175 000 прыхавау там жа каля 75 000 і прывез у Менск толькі 100 000.... Але мала таго: яны далучыліся да кампаніі Ластоускага і Шауковага і прынялі учасьце у авантуры, якая разыгралася у Менску 13 сьнежня 1919 г., аб якой тэлеграфавау.

Авантура гэта — утварэньне «рэвалюцыйнага» ураду з прэмьерам Ластоускім.

Ня гледзячы на тое, што польскія уласьці апублікавалі заяву у газэтах аб «роспуску так-званай Рады Рэспублікі», наадварот, каб чынна запратэставаць проці гэтага, сэсія Рады адбывалася нормальна. Пасьля майго прыезду у Менск 13 сьнежня быу назначаны народны сход Рады. З прычыны таго, што мы баяліся фактычнага разгону Рады, (гэта грозіла зьніштажэньнем істочніка уласьці нашага Ураду і магло ануліраваць усю нашу загранічную работу), было пастаноулена, што засяданьне будзе закрытае. Хоры былі зачынены. Аднак група загаворшчыкау загадзя падабраным ключом [адчынілі] дзьверы хорау і напусьцілі туды банду нейкіх падазрыщельных фігур пад камандаю Шауковага: яны мелі ужыць гвалту, каліб загавор не удалося правясьці. А правясьці свой плян яны меліся такім парадкам: Ластоускі прывез з Вільні (за пропускамі атрыманымі ад польскае улады!) цэлую групу «кандыдатау» у радные з мандатамі ад неістнуючых арганізацый за подпісамі Ластоускага і яго жонкі пані Корф. Было іх каля 20, а радных-загаворшчыкау было 11, дык разам група Ластоускага павінна была складацца з 30 душ. Але «кандыдатау» павінна была прыняць яшчэ Рада, каторая напэуна не пайшла бы на такое абніжэньне сваей павагі дапускаючы першых лепшых нікім ня выбраных людзей з вуліцы. У назначаны час убачыушы гэныя прыгатауленьні Прэзыдыум Рады, парадзіушыся з прадстаунікамі фракцый, патрэбавау выхаду з салі засяданьня усіх нячленау Рады. Загаворшчыкі адмовіліся. Тады усе радныя апрача вышэйсказанае групы, зложанай з 8 с.-р. і 3 с.-ф., перайшлі у другое памяшчэньне і там адчынілі сход Рады у складзе 37 асоб і усяго Прэзыдыума апрача аднаго з пісарау Крэчэускага. Заслухаушы справаздачу Ураду і перайшоушы над ім да чарговых спрау Рада выбрала Найвышэйшую Раду з 5 асоб: Серада (старшыня), Рак-Міхайлоускі, Лесік, Уласау, Тэрэшчэнко (апошні ад групы с.-р., не пайшоушых на авантуру), Найвыш. Рада мае абавязак сазваць у адпаведны мамэнт пленум Рады Рэспублікі, а тым часам карыстаецца мандатамі Рады, зьмяняе і назначае урад і т.д. Найвыш. Рада ня прыняла адстаукі габінэту і даручыла яму далей вясьці працу.

Пад час засяданьня Рады астаушыяся у салі Юбіл. Дому 11 радных і так званыя «кандыдаты» адчынілі «рэвалюцыйным парадкам» свой «сход Рады». Бадунова прачытала дэклярацыю, што «рада» разрывае зьвязь з буржуазіяй і буржуазны урад скідае, а на яго месца выбірае новы «рэва-

люцыйны» і пераходзіць у падпольле! Паводле загадзя прыгатаванага спіску у «новы урад» выбраны: старшыня Ластоускі, міністры Грыб, Ладноу, Белевіч, Заяц, Шыла, Цьвікевіч, Душэускі. Ведама, апрача Ластоускага, Шылы і Белевіча ніхто на свой выбар згоды загадзя не давау і нічога ня ведау аб авантуры, але для тых, хто задумау авантуру, патрэбны былі сур'езныя імены. Ластоускі разаслау усім маім дыплематычным прадстауніком тэлеграмы (праз польскі тэлеграф з пазваленьня польскае ваеннае цэнзуры!) аб адбыушымся «пераварокі». Але усе, да каго яны дайшлі, былі хутка мной апавешчаны дыплематычнай дарогай пры помачы прыязных нам дзяржау, а выбраныя «міністры» «рэвалюцыйнага ураду» (пакуль што апрача Душэускага, які пэуне яшчэ ня быу паінформованы) прыслалі свае пратэсты проці мяшаньня іх імен да авантуры. Наагул, заграніцаю можна авантуру лічыць зліквідаванай.

Як цяжкі насьледак гэтае авантуры трэба лічыць тое, што з прычыны затрыманьня Захаркаю 200 000 марок мы не маглі паслаць намечанай дэлегацыі у Лондон, дзе цяпер фактычны цэнтр палітыкі Антанты. Але маем надзею хутка гэту справу уладзіць праз новую пазыку у Украінцау.

Найбольш цікава і загадачна ва усім гэтым роль Ластоускага: нікому не сэкрэт, што ен быу заусягды ворагам соцыялізму, і з гэтае прычыны трудна растлумачыць, чаму ен раптам запісауся у левыя с.-р.? Але на гэта дае адказ жменя фактау.

Перш на перш ен з Тарыбы ня выступіу і да апошняга часу атрымлівау ад яе пэнсію, а разам з тым прабрауся і у Раду Віленшчыны і Гродзеншчыны, як кооптованы член і платны сэкрэтар, і праз яе у Раду Рэспублікі. Факт атрымліваньня пэнсіі за увесь час прабываньня у Вільні точна устаноулен Крэчэускім. З другога боку устаноулена, што у Вільні Ластоускі меу палітычную місію ад літоускага ураду і знаходзіуся у самых цесных зносінах з віленскімі літвінамі і прынімау учасьце у іх засяданьнях пад кіраунііцтвам Біржышкі. У тым часе у літвіноу шырока абгаварывалася ідэя паходу на Вільню, і бадай з гэтае прычыны літвіны адмовіліся памагчы латышом проці Бэрмондта. Ясна, што для літвіноу было вельмі важна, каб у прыпадку задуманага паходу, проці каторага паустала бы пагалоуна усе насяленьне Віленшчыны (так варожа адносіцца народ да панаваньня літвіноу!), падняць завіруху на окупованай палякамі тэрыторыі Беларусі ды гэтак на устмірэньне беларусау адцягнуць частку польскіх войск. Плян гэты зусім правільны і логічны, і яго як відаць узяуся правясьці Ластоускі. І аб гэтым пляне беларусы маглі бы падумаць сур'езна, але толькі пры двох варунках: пры прыхільных адносінах да беларускае дзяржаунасьці Літвы і маючы пэунасьць аб прыхільнасьці да нас бальшавікоу, якія бязспорна выкарысталі бы з паустаньня дзеля новага захвату Беларусі. Але ні аднаго ні другога варунку не было: Літва адносіцца да нашай дзяржаунасьці горш нават за Польшчу і з нашым урадам ніякіх зносін і умоу мець ня хоча; з бальшавікамі ж аутары загавору не згаварываліся, дый ясна кожнаму, што з ненавістным для іх «тарыбаунцам» Ластоускім яны бы і не гаварылі! Такім парадкам пасьледзтвы паустаньня проці польскай окупацыі пры гэткай непадгатоуленасьці і без заручкі са стараны бальшавікоу і літвіноу маглі бы быць катастрофальнымі,

бо вызвалі бы пагалоуныя рэпрэссіі са стараны палякоу проці усяго беларускага, як «бальшавіцкага», знішчылі і так слабую нашу нацыянальную работу і той адпор, каторы мы сяк так даем ладжанаму плебісцыту і панаваньню польшчыны, а урэшці аканчацельна пахаранілі бы нашу справу у вачах Антанты і памаглі бы паляком атрымаць ад яе мандат на «упарадкаваньне» Усходніх Зямель, чаго палякі цяпер асабліва дабіваюцца. І затым на авантуру Ластоускага нельга іначэй глядзець, як на варожае беларускай дзяржаунасьці выступленьне на карысьць Літвы.

Найбольш сумна, што тут замешаны такі сур'езны чалавек, як Белевіч, з каторым перад авантурай я гаварыу аб паступленьні яго у склад нашага ураду. Наагул жа, калі разгледзім склад «рэвалюцыйнага ураду», дык убачым, што апрача Ластоускага і Шылы усе выбраныя «загаворшчыкамі» міністры або ужо знаходзяцца у маім габінэці, або на уваход іх я ужо дау прынцыпіяльную згоду (Белевіч, Душэускі). Такім парадкам ясна, што справа ішла адно аб тое, каб на чале ураду стануу Ластоускі і, карыстаючы з адсутнасьці усіх асоб, афіцыяльна аб'яуленых заочна членамі «ураду» Ластоускага, учыніць дужа рызыкоуныя і далека не адпаведаючыя карысьці нашае дзяржаунасьці крокі. Ведама, опэрованьне матывам аб маім «полонофільстве» становіць толькі пуфф: у гэты мамэнт у Варшаве сідзяць і працуюць побач са мной... Чайковскій і Савінков! Здаецца, гэта апраудывае мяне зусім нават у вачах самых выразных масквофілау! Тут жа сядзіць і Пятлюра і нядауна прыяжджау Мэеровіч...

Пішу Вам аб усім гэтым конфідэнцыяльна і даю падробнасьці, бо да Вас прабіраецца Пан «Міністэр Пропаганды» Шыла, каб вясьці у Балтыцэ работу проці нашага Ураду. Сам я чакаю рэалізацыі пазыкі (прынамсі авансу) і хачу паслаць дэлегацыю у Англію, каторая павінна будзе працаваць у самым цесным контакце з Вамі. Пасьля прыезду Душэускага прышлю Вам весткі аб маіх плянах далейшае работы у Балтыцэ у зьвязку з тымі перагаворамі, якія я вяду з Латвійскім Паслом у Варшаве.

Тымчасам шлю Вам шчыры прывет і жаданьне далейшае так сама як дагэтуль удачна вясьці работу.

P.S. Я ужо быу падауся у адстауку, але з прычыны менскае авантуры Н. Рада мяне затрымала, бо мае імя ужо вядома заграніцаю і пры помачы гэтага імя лягчэй было ануліраваць шкоду, якую зрабіу «пераварот». А так як на маіх міністрау згадзіліся фактычна абедзьве староны, а толькі контркандыдатам мне выстаулен Ластоускі, то я і запрапанавау ізноу маю адстауку з тым, каб адначасна быу ліквідованы Ластоускі. Ня ведаю, чы з гэтага што выйдзе, але лічу гэта найлепшым выхадам дзеля прымірэньня.

*582.2.32:043-048 — мк*
*582.2.54:011&r-015&r — рк В.Ластоўскага*

---

[1] Сябры літоўскае дэлегацыі на Мірнай канфэрэнцыі ў Парыжы.

**1701. Квіт за тэлеграму з Варшавы ў Бэрлін за 13.01.1920**
*582.2.48:028*

**1702. Квіт за тэлеграму з Варшавы ў Менск за 13.01.1920**
*582.2.48:027*

**1703. Квіт за тэлеграму з Варшавы ў Прагу за 13.01.1920**
*582.2.48:031*

**1704. Выпіска з пратаколу №5 сходу Найвышэйшай Рады Беларускай Народнай Рэспублікі за 14.01.1920**

Выпіска з пратаколу №5
сходу Найвышэйшае Рады Беларускае Народнае Рэспублікі
14 студня 1920 году.

Прысутнымі былі: Старшыня Найвышэйшай Рады Іван Серада, Намесьнік Старшыні Рак-Міхайлоўскі, п. Ал.Ўласаў і К.Тарэшчанка.

| Слухалі: | Ухвалілі: |
|---|---|
| 2. Справаздача ад Ураду аб працы яго і грашавой падрахунковасьці за 1919 год. | 2. Запрапанаваць Ураду падаць справаздачу аб працы і грашавую падрахунковасьць за 1919 год, а так сама і каштарысы на 1920 год; апошніе падаць не пазьней 1 сакавіка 1920 году. |

На арыгінале подпісы:
Найвышэйшая Рада Беларускае Народнае Рэспублікі :
Ів.Серада, Сымон Рак-Міхайлоускі, А.Ўласаў і К.Тарэшчанка.

З арыгіналам згодна:
Рак-Міхайлоўскі
15/I-1920г.
м.Менск
*582.2.39:037 — рк*

**1705. Пратакол візыту старшыні Рады Народных Міністраў Беларускае Народнае Рэспублікі Антона Луцкевіча да пасла Латвійскай Рэспублікі ў Варшаве Кенінына 14.01.1920**

Пратакол
візіта Старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі
до Латышскага пасла у Варшаве п. Кенінша

14/I 20 года Старшыня Р.Б.Н.Р. грамадзянін Луцкевіч у саправаджэніі Радніка Беларускага пасольства на Украіне грам. Галавінскага былі прыняты латышскім паслом у Варшаве п. Кенінinfшем.

Пасля узаімнага прывітаньня грам. Луцкевіч інпармуваў Латышскага пасла Кенінша аб зносінах з Польскай уладай і аб гісторыі прыезду Беларускіх представнікоў (па прозьбе п. Падэрэўскага) у Варшаву. У сваёй прамове п. Старшыня падкрэсліў супольнасьць інтэрэсаў Беларусі і Латвіі — абадвым дзержавам заграажаіць небяспека з усходу ат бальшавіцкай навалы і з заходу ат імперыалістычных тэнденцый Польшчы, якая дабіваецца мандату на устройства усходняй Европы.

З свайго боку латышскі пасол інфармуваў аб тых кроках якія робяць імперыялістычныя колы Польшчы: Яны прапануюць зрабіць із Літвы і заходней Беларусі дзержаўны трыедіны комплекс з прываліруюшчым польскім вліяніем. «Літвіны ня могуць існуваць як асобная дзержава; вы (латышы) вазьміця сабе паўночна-усходнею Літву, а мы паўденна заходнюю. Прылучыў да яе апаляченных беларусаў з паўденных паветаў Сувальскай губ. і паўночных Гродзенскай (з такім разрахункам каб палякоў было до 50%), гэта будзіць адзін элемент комплекса. Две другія часткі зрабіць з заходней Беларусі, раздяліу яе на две часткі — паўночна-заходнюю з цэнтрам — Вільня і паўдзенна-заходнюю з цэнтрам Менск. Нацыанальнае самосознаніе Беларусаў слабо. Беларусы павінны кваліфіцыроваща па свайму рэлігіознаму адзнаку. Палякаў і каталікоў-беларусаў таксама набярэцца да 50% і такім чынам створыцца дзержава, якая будзіць упаўне пад польскай гігемоніей. Усходняя граніца гэтай террыторыи прыблізна будзіць па лініі, якую часова акуповалі польскае войска.

Далей Пасол звярнуў увагу і на ня зусім іскренія адносіны палякоў да Украінцаў.

Астатні мамент палякі (праўда не вельмі шырокія палітычныя колы) высовываюць пытаньня каб Польшчы, як «стручку (?) кольчастага дроту», быў дан порт на Чорнам моры з каррыдорам да гэтага порту абасабляючым Румынію (Бессарабію) ат Украіны.

Далей Латышскій пасол зрабіў запытаньне аб атносінах Беларусі да Літвы. П. Старшыня паведаў гісторыю адносін з літвінамі пачынаючы ат Берлінскіх нарад да апошняга моменту, падкрэсліў хітаньне палітыкі літвіноў, іх жамойшчыннасьць і ролю Шаўліса.

Меж іншым Латышскій пасол сперва ненарокам, а затым зусім выразна звярнуў увагу на том што Англія вельмі цікавіцца Беларусью, але дужа мала ведае аб нас; асабліва цікавіць Англійцаў пытаньне адбудовы Беларуска-літоўскай дзяржавы.

У атказ на гэта п. Старшыня сказаў, што беларусы зацікаўлены высовыванным англійцамі пытаннем, што гаспадарскія і на агул дзержауныя інтэрэсы Беларусі вельмі связаны з Балтійскім морем і што Беларусь з вялікай ахвотаю увайшла б у камплекс Балтійскіх дзержаў і, па асабістай п. Старшыні думкі, пайш[л]аб на де якія кампенсацыі як Літвінам, так і Латышам.

Гутаркі аб гэтам вялісь п. Старшын. яшчэ у Парыжу з ангельскімі прыстаўнікамі.

Латышскі пасол прапанаваў свае пасрэдніцтво у гэтам кірунку, адзначыў што латышы увесь час падтрымывалі пытаньня аб долученьні і доступу беларускіх представнікоў на нарады Балтійскіх дзержаў.

Затым пасол зацікавіўся «Мінскай гісторіяй»[4]. Пан Старшыня адзначыў асобу п. Ла[с]тоўскага і яго ролю, як предстаўніка Тарыбы у гэтай справі.

Пан Пасол заявіў, што у Рызі ведаюць аб гэтай гісторыі ат нашіх прыстаўнікоў, якія вызначылі яе, як авантюру.

У канцы бяседы былі пастаўлены канкрэтныя пытаньні аб атряде ген. Балахановіча[5]. Падайшоўшый у гэтай час вайсковый атташэ латвійскага пасольства даў аб ген. Балахановіче як аб энергічнам демакратычным чалавеке. Меж іншым былі пытаньня аб переводзе атрада Балахановіча і аб

вайсковых беларускіх фармуваніях у Латвіі. Гэтыя пытаньня аткладзены да прыезду вайсковага Міністра п. Ладнова з Парыжу.

Так сама падымалась пытаньня аб прапагандзе беларускай справы за граніцай аб аткрыцьцю беларускага адзела у палітычнам органе Балтійскіх дзержаў.

Бяседа трымалась две с паловай гадзіны і мела шырый прыхільный з абодвых старон характар.

Запісаў бяседу раднік беларускага пасольства на Украіне АГалавінскі
14/I 20года.
*582.2.34:015-018 — ра*

---

[1] Пра бэрлінскія нарады нічога не вядома. Магчыма, яны адбываліся падчас побыту А.Луцкевіча ў Бэрліне ад канца сакавіка да 24 траўня 1919 году. Беларускім дараднікам у літоўскім прадстаўніцтве ў Бэрліне ад сьнежня 1918 да канца сакавіка 1919 году быў В.Ластоўскі. Магчыма, маюцца на ўвазе віленскія нарады ў лістападзе-сьнежні 1918 году (гл. дакумэнт №1139). [2] Магчыма, маецца на ўвазе «замкнёнасьць» літоўцаў на этнічнай Літве, адмова супрацоўнічаць у рамках колішняй прасторы Вялікага Княства Літоўскага. [3] Юргіс Шаўліс быў кіраўніком дэлегацыі на перамовах з палякамі ў Варшаве ў красавіку-траўні 1919 году. У склад дэлегацыі ўваходзіў і К.Езавітаў. [4] Маецца на ўвазе раскол Рады БНР на паседжаньні 13.12.1919. [5] Памылкова замест Балаховіча.

**1706. Тэлеграма Антона Луцкевіча (Варшава) Аркадзю Смолічу (Менск) за 14.01.1920**

14.I.1920.
Smolicz — Aleksandrowska 36 Terminowa
Mińsk-lit.

Poseł łotewski komunikuje Duszewski Jezowitow zaprotestowali przeciw awanturze mińskiej

Łuckiewicz
*582.2.46:112 — рк*
*582.2.48:030 — квіт*

**1707. Адозва Фінансавай Камісіі пры Радзе Беларускай Калёніі ў Латвіі да беларусаў Латвіі за 14.01.1920 з просьбай аб фінансавай падтрымцы Ўраду БНР**

*582.2.54:001 — д*
*582.2.54:041 — д*
*582.2.54:072 — д*
*582.2.54:108 — д*
*582.2.54:233 — д*

**1708. Чарнавік тэксту прывітальнага звароту Найвышэйшай Рады Беларускай Народнай Рэспублікі да Вышэйшай Нацыянальнай Рады Латвіі за ??.01.1920**

*582.2.39:020 — рк*

---

Дакладная дата невядомая. Аўтар звароту — Антон Луцкевіч.

**1709. Пратакол №6 Сходу Найвышэйшае Рады БНР за 15.01.1920 аб выдачы Антону Луцкевічу ўпаўнаважаньня**
*582.1.04:019 — мк*

**1710. Упаўнаважаньне Найвышэйшае Рады БНР Антону Луцкевічу за 15.01.1920 весьці перамовы з чужаземнымі ўрадамі ў справах нацыянальнае абароны, падпісваць пазыкі, атрымваць іх на рукі, заключаць гаспадарчыя ўмовы**
*582.1.04:017 — ма бел*
*582.1.04:016 — ма фра*
*582.2.33:028-029 — мк фра*

**1711. Рукапіс бюлетэню №1 Беларускага Прэс-Бюро ў Варшаве за 15.01.1920**
Finlandja uznała niezależność Białejrusi. — Starcie białoruskich wojsk z bolszewikami. — Zawarcie wojskowej konwencji z Łotwą
*582.2.38:088 — рк*

**1712. Ліст старшыні Грамады Беларускай Моладзі (Горадня) Радзе Народных Міністраў БНР за 15.01.1920 з просьбай аб фінансавай дапамозе**
*582.2.40:068&r,071 — ра*

**1713. Каштарыс прыкладных выдаткаў Грамады Беларускай Моладзі ў Горадні на беларускую культурна-прасьветную працу**
*582.2.40:069&r-070&r — ра*

**1714. Мэмарыял Польска-Беларускага Таварыства ў Варшаве генэральнаму камісару Ўпраўленьня Ўсходніх Земляў (Варшава) за 15.01.1920**
*582.2.47:033&r,035&r-037&r — р*
*582.2.47:034&r-034a&r — мк*
*582.2.54:016&r-017 — мк*

Пераклад з польскай. У мэмарыяле зварачаецца ўвага на парушэньні польскай адміністрацыяй абяцаньняў Начальніка Дзяржавы, выказаных ім 22.04.1919, а таксама на ўціск у школьнай справе, друку і інш. Выказваюцца прапановы дзеля вырашэньня праблемы. Мэмарыял падпісалі Дубейкоўскі, Ваньковіч, Лядніцкі і інш. Польска-Беларускае Таварыства было заснаванае ў Варшаве ў ліпені 1919 году з мэтай «узаемнага пазнаньня й збліжэньня».

**1715. Ліст старшыні Рады Народных Міністраў Беларускае Народнае Рэспублікі Антона Луцкевіча (Варшава) старшыні Рады Міністраў Украінскае Народнае Рэспублікі Ісаку Мазэпу (Варшава) за 16.01.1920**
Варшава, 16.I.1920.

Яго Міласьці
Пану Старшыні Рады Міністраў
Украінскае Народнае Рэспублікі.

Высокапаважаны Пане Таварышу!

Старыя і новыя доказы прыязных адносін паміж братнімі народамі Украінскім і Беларускім даюць мне цьвердую веру, што і у сягоньняшні незвычайна цяжкі для Беларусі мамэнт мы сустрэнем руку помачы нашых братоу Украінцау.

Праз майго Пасла п. Цьвікевіча я зьвярнууся да Вас 15 лістапада з просьбаю памагчы нашаму Ураду у яго дужа цяжкім палажэньні пазыкай патрэбнае дзеля дзяржаунай работы сумы. Наша Місія на Украіне сустрэла ва усіх украінскіх кругах шчыры спогад і мела поунае права спадзявацца памыснае разьвязкі сваей просьбы. Аднак роуна сумныя для Вас і для нас выпадкі не далі у свой час давясьці справу пазыкі да канца. А за апошнія два месяцы нашы рэсурсы скончыліся. Мы ужо ня можам вясьці самабытна работы у сваей Бацькаушчыні, занятай польскімі окупацыйнымі вайскамі. Мы ня можам разьвіваць нашае заграннічнае работы, — ня можам у мамэнт, калі цэнтр палітыкі перакінууся у Лондон, паслаць туды сваіх прадстаунікоу, ня можам пачаць работы і у Амэрыцэ.

Усе гэта дае вялікія шансы нашым і Вашым ворагам: наша слабасьць і маучаньне разьвязываюць рукі для палітычнай спэкуляцыі суседніх імпэрыялізмау...

Я шчыра веру, што наша і Ваша справа зьвязаны разам гэтак крэпка, што кожная наша неудача адбіваецца і на Вас, — так сама як Вашы неудачы адбіваюцца на нашым палажэньні. І я з глыбокай верай пішу Вам гэтыя словы і спадзяюся, што помач, якой мы у Вас прасілі, нас не абміне. Я прашу Вас даць нам гэту помач магчыма хутка: мы шыбкімі крокамі падыходзім да разьвязаньня так званага усходняга пытаньня, і як бы яно ні разьвязалася, мы павінны вытварыць у сабе такую сілу, каб нават у найгоршым палажэньні наш народ меу магчымасьць бароцца за сваю волю і незалежнасьць.

Шлю Вам шчыры прывет і словы праудзівае пашаны

*582.2.34:019 — мк*

**1716. Ліст старшыні Магістарскай Рады Беларускага Скаўцкага Ордэну В.Курбекі (Горадня) Радзе Народных Міністраў БНР за 16.01.1920 з просьбай аб фінансавай дапамозе**

*582.2.40:072 — ра*

**1717. Каштарыс прыкладных выдаткаў на арганізацыю Горадзенскае акругі Беларускага Скаўцкага Ордэну**

*582.2.40:073 — ра*

**1718. Тэлеграма Антона Луцкевіча (Варшава) Аркадзю Смолічу (Менск) за 16.01.1920 (вых. №26)**

Smolicz — Aleksandrowska 36 Terminowa
Mińsk-lit.

Proszę natychmiastowy przyjazd twój Iwanowskiego kropka Kwestja stoków będzie rozwiązana najbliższych dniach potrzebne pełnomocnictwo kooperatyw na moje imię na zakup przysłanie towarów do kraju z prawem przelania

na inną osobę kropka proszę przyjazd przedstawiciela kooperatyw Warszawy kropka Ładnow oczekuje mego przyjazdu

N26

Łuckiewicz

Warszawa, Hotel Saski

*582.2.46:110 — рк*
*582.2.48:025 — квіт*

**1719. Расьпіска Язэпа Сянкевіча (Варшава) за 16.01.1920 аб атрыманьні ад Антона Луцкевіча 200 марак**

*582.2.48:026 — ра*

**1720. Рахунак Складу Паперы Антона Шустэра на 21 марку за канцылярскія тавары за 16.01.1920**

*582.2.48:032*

**1721. Рахунак друкарні «K.Kopytowski i S-ka» (Варшава) на 300 марак за друк блянкаў**

*582.2.48:044*

**1722. Тэлеграма Антона Луцкевіча (Варшава) Аўгену Ладнову (Парыж) за 17.01.1920**

Ladnoff Urgent
24 rue Bayard
Paris.

Tous deux messieurs sont arrivées visa recue arriverai Paris le plus vite possible attendez moi tous trois emprunt est garantie

Loutckevitch

17/I.20.

*582.2.33:114 — рк*
*582.2.48:029 — квіт*

**1723. Ліст Сымона Рак-Міхайлоўскага (Менск) Антону Луцкевічу (Варшава) за 17.01.1920**

Пане Антоне!

Варункі так зложыліся, што прышлося гэты ліст Кузьмы[1] перасланьць табе праз Ждановіча. Мысьлю, што паскольку той ліст будзе аж за трымя пячаткамі, то ён дойдзе.

Наконт перавозкі таго, што можна было даручыць Качынскаму, Ждановічу, мысьлю, нельга даваць.

Школьныя справы вымагаюць хутчэйшага прыезду Аркадзя[2].

На міласьць Бога хутчэй выпраўляйце сюды яго.

Цалую

Рак-Міхайлоўскі

*582.2.46:103-104 — ра*

---

[1] Цярэшчанкі. [2] Смоліча.

**1724. Ліст Кузьмы Цярэшчанкі (Менск) Антону Луцкевічу (Варшава) за 17.01.1920**

Даражэнькі пане Антоне,

Учора, пасьля ад'езду Аркадзя, я даведаўся праз Ваеводзкага што Вамі была послана тэлеграма на імя Аркадзя. Гэту тэлеграму палякі затрымалі лічучы яе змест падазрыцельным. Аб чым ў ей гаворыцца сягоньні я даведаюся; Воев. абецаў прынесці яе мне.

Мы тут з Ракам дадумаліся што лепей усяго ўсі Вашы тэлеграмы да нас пасылаць не наша імя, дзеля палякоў вядомае, а на чые небудзь другое і так сама з Вашым подпісам тэлеграмы.

Мы прапануем адрэсаваць телеграмы на іммя: Садовая 4 Пётры Ушпіку (гэта мой кур'ер) а подпісывае нехай Некрашэвіч. Мы ужо будзем ведаць што тэлегр. ад Вас.

Апрача таго трэба абавязкова перамяніць код, бо калі стары і не разшыфрован дык ня ловак.

Прапануем: грошы — тэлеграма; Вы — Навінскі; Аркадзь — Смолянскі; Цвікэвіч — Гвоздзецкі; Іваноўскі — Івашкевіч; Тарашкевіч — Розенблюм; Заяц — Трусевіч; Ладноў — Ладзінскі; Езавітаў —Хлешчынскі; Душэўскі — Рудкоўскі; Я — Бічук; Рак-Міхайлоўскі — Сіменскі; Ўласаў — Пяхцер; Лесік — Лімановіч; Сэрада — Свідзінскі; с.-р. — Сродковічы; Украіна — Ржэпецкі; прыезжай здароў; не прыезжай, астаўся на месцы — хворы.

Добра каб Вы напісалі адрэс Некрашэвіча на іммя якога мы будзем канфідэнцыальна тэлеграмы пасылаць. Без вялікай патрэбы не затрымлівайце Аркадзя, ён вельмі патрэбен тут.

Ваш КозТэрэшчэнко
17.I.20.
Менск

*582.2.46:105 — ра*

**1725. Тэлеграма Антона Луцкевіча (Варшава) Кузьму Цярэшчанку (Менск) за 18.01.1920**

Tereszczenko — Sadowa 4
Mińsk-lit Terminowa

Ładnow listem protestuje przeciw awanturze nadużyciu jego imienia kropka Iwanowski Smolicz przyjechali

Łuckiewicz

*582.2.39:024 — рк*
*582.2.48:033 — квіт*

**1726. Фінансавая справаздача надзвычайнага паўнамоцнага прадстаўніка БНР у Балтыцы Кляўдыюша Душэўскага за час ад 10.11.1919 да 18.01.1920**

*582.2.40:110-142*

**1727. Ліст Кузьмы Цярэшчанкі й Аляксандра Ўласава (Менск) Антону Луцкевічу (Варшава) за 18.01.1920**

Даражэнькі пане Антоне,

Ліст пасланы Вамі праз Пашковіча адтрымаў. Як ужо, пэўна, расказаў Вам Аркадзь з с-р. справа налажываецца; дрэнна толькі тоя што карысці дзеля унутранной працы ад гэтаго нема, бо атсутнасць грошаў ўсё псуе.

Будзьце ласкавы прыложыце усе крокі штоб дабыць грошы інакш уся праца стане. На польск. крохі якія варты сумленьня усякаго адтрымаўшаго іх — працу вясьці ня можна. Я ня ведаю што рабіць з Нацыанальным Камітэтам, грошаў заўсім нема, а выдаткаў многа. Вы ведаеця што толькі бягучае выдаткі патрэбуюць ня менш 8.000, апрача таго есць інструктарская арганізацыя, працу якой спыняць ніяк ня можна. На 9 інстр. на якіх есць грошы ад В.[1] ня выедзіш. Так сама і з газэтай[2]. Закрыцьце газэты не мінуема калі не будуць прысланы грошы. Усякія камбінацыі на контра газэты, аб якіх ведае Аркадзь пакуль нічога ня варты, бо гэта адны словы. — Закупіў я папэры з подзіваўшысь на адтрыманьня грошаў, а тапер і ня ведаю што рабіць; жыды ходзяць што дзень і ім нема што адказываць. Пасылаю ужо да Вас, добра ведая што Вы верняце іх да мяне.

Дак во, братку, як хочыця а дабывайця грошаў інакш ўсе стане. Аптымізм Аркадзя і спадзеўка другіх на польскія грошы дарэмна. Ня гледзючы на ўсе просьбы іншых устаноў — ад іх мы дасталі толькі грошы, больш паперы ды ботаў згубілі.

Пасланые Вамі па адрэсу Аркадзя тэлеграмы адтрыманы (іх дзьве) пасьля польскіх жандарскіх рук.

Здароўя Янкі Купалы патроху папраўляецца, ёсць надея на выздараўленьня. Ўчора вышаў з турмы Ластоўскі[3], пакуль што з нашых ніхто з ім не бачыўся. Сястрэ Вашай 1.000 перадаў. Яна Вам пішэ ліст.

У Аркадзя ўсе здаровы і яму кланяюцца. Паклон ад мяне ўсем нашым.

Ваш КозТэрэшчэнко

[4]Як кустарным промыслам
я займаюся школай беларускіх аратароў, вербунковых агентоў[5]
праз 3 дні выпускаю 28 чэловек
Калі Алексюку пашанцуець
то адкрыю другую
групу у 40 чэл.
Пані Станіслава[6] вернулася
ад большэвікоў, выглядывала
як велікамучэніца Варвара
цяпер залізываецца патроху.
Жычу вам суксесоў
у гэты час бомбічэ-
скіх перэваротоў
у палітыцэ у звязку
с провалам едзіной Расеі
Дзенікіна. Мне здаецца

што гэта на наш млын
вада.
Цісну руку АУ.
*582.2.46:100&r-101 — ра*

[1] Магчыма, Ваяводзкага. [2] «Беларусь». [3] В.Ластоўскі, выйшаўшы з турмы, жыў у кватэры Янкі Купалы. [4] Адгэтуль ліст Уласава. [5] Курсы вэрбунковых агентаў Беларускай Вайсковай Камісіі адчыніліся 5.01.1920. Кіраўнік — В.Адамовіч. [6] Магчыма, згадваная ў дакумэнце №1682 Яльцова.

**1728. Тэлеграма Кузьмы Цярэшчанкі (Менск) Антону Луцкевічу (Варшава) за 19.01.1920**

= termynowa = = warszawa hotel saski luckiewiczowi =
awa mynska lit 2810 35 19/1 20/20

wyjezdzaja dwudziestego stycznia przedstawicieli kooperatyw bialoruskiej i kooperatywy rolniczej na konto stokau stop depeszujcie rezultat porozumien przedstawicielem pierwszym co niezbedne nam dla dalszych pretrakceyi stop detali posylam lisownie = tereszczenko
*582.2.39:025 — a*

**1729. Квіт за тэлеграму з Варшавы ў Парыж за 19.01.1920**
*582.2.48:034*

**1730. Расьпіска Аляксандра Цьвікевіча (Варшава) за 19.01.1920 аб атрыманьні ад Антона Луцкевіча 1.500 марак для касы Пасольства БНР на Ўкраіне**
*582.2.48:035 — ра*

**1731. Справаздача надзвычайнага пасла Беларускай Народнай Рэспублікі на Ўкраіне Аляксандра Цьвікевіча за ??.12.1919 аб працы Пасольства ад чэрвеня да сьнежня 1919 году**

ГАДАВЫ АДЧОТ
аб чыннасьці Беларускага Пасольства [на] Украіне
за 1/2 1919 года (VI-XII м.)

Пасьля звароту Дэлегацыі на Украіне на чале з п. Л.Зайцэм з Вены у Бэрлін, 22 траўня 1919 г. у Бэрліне адбылося пасядзенне Рады Народных Міністраў Б.Н.Р. на яком была пастаноўлена замест Л.Зайца паслаць на Украіну Надзвычайным Паслом мяне — А.Цьвікевіча, даручыўшы мяне зрабіць у Украінскага Ураду грашовую пазыку да 50 міл. карбов., срокам на пяць гадоў бэз працэнтаў. Разам з гэтым, на працу Пасольства, складаючагася з Пасла, Атташэ і Кур'ера, была зроблена асігноўка у суме 85 тысячау нештэмпелеваных карон з тых грашэй, якіе былі паложаны Л.Зайцэм і мною у сэйфе Жыўнастэнскага Банку у Празе (гл. п.п. 3 і 6 і 7 Пратаколу Р.Н.М. ад 22 трауня 1919 г.).

Згодна з гэтай пастановай я даў тэлеграмму у Прагу астаўшымся там і чэкаўшым распараджэнняў п.п. Галавінскаму і Камарынцу аб тым, штоб

яны чэкалі майго прыезду; пасля гэтага выехаў туды і сам. Прыказам па Пасольству ад 1 чэрвеня 1919 г. за №1 я даручыў п. Галавінскаму весьці скарбовые справы Пасольства, заставіў лік пэнсіі старый.

Яще за час свайго перэбывання у Бэрліне я атрымаў ад іх тэлеграмму, што яны пазнаёміліся у Празе з прэдстаўнікамі чэскага грамадзянства і тымі арганізацыямі, якіе больш-менш былі зацекаулены беларускім пытаннем. Тыя гутаркі, якіе п. Галавінскі і п. Камарынец вялі да маяго прыезду, далі мне мажлівасьць зрабіць падгатоўчую працу па арганізацыі Беларускага Камітэту у Празе і нарэшці залажыць гэный Камітэт. Першы сход беларусау-грамадзян Чэска-Славацкай Рэспублікі адбыуся пасля абвестак аб гэтым у чэскай і расейскай прэссе, 4 чэрвеня 1919 г. На сходзе мною быў зроблен агітацыйна-інфармацыйный даклад аб беларускам нацыянальна-палітычным рухе і яго сучасным становішчэ; а так сама былі заслуханы рожнага роду інфармацыі з боку тутэйшых дзеячоў. Згодна з пастановаю сходу было абрана Праўленне стварыўшагася «Беларускага Камітэту у Празе»: старшынею — старый дзеяч беларусі п. Мікалай Вяршынін (карэспандэнт «Нашай Долі» і «Нашай Нівы») і сэкрэтаром — п. Васілій Скварада.

На другі дзень пасля сходу мною была даручэна Атташэ Пасольства п. Галавінскаму, дыпломатычнаму кур'еру п. Камарынцу, разам з Сэкрэтаром Камітэту п. Скварадою выехаць у глаўны лагер вайскова-палонных у м. Хоцэне[1], для азнаямлення з становішцэм вайскова-палонных беларусау і утварэння належнай статыстыкі. (гл. прыказ №3)[2]. Затым, згодна з маей прапазыцыей і тэлеграмай Дыплематычнай Міссіі у Бэрліне №6358 ад 9 чэрвеня т/г. я назначыу старшыню Камітэта п. Вершыніна прэдстаунікам Беларускага Ураду па справам вайскова-палонных у Чэска-Славацкай Рэспубліке. Пасля зацьверджэння сьметы Камітэта і выдачы яму грашэй, Камітэт стаў чынным і пачаў працу.

Карыстаючы з таго, што у чэскай прэссе з'явіліся весткі аб нашым прыездзі у Прагу і аб нашай працы, тутэйшая рассейская газэта «Русское Дѣло» надрукавала рад заметак аб беларускім рухе у вельмі непрыхільнам для нас сэнсі[3]. Дзеля гэтага трэба было напісаць некалькі артыкулау як у гэтай самой газэці, так і у прэссі ческай, што і было зроблена. Апрача таго я напісау спэыальную брашуру (на трох друкаваных лістах) аб гісторыі і сучаснам становішэ беларускага адраджэння, якая была надрукована у чэскай газэці «Трыбуна». (Нумеры «Трыбуны» знайходзяцца у архіве Пасольства). Усе гэта разам з асабістымі гутаркамі на тэму аб беларускім рухе з рознымі чэскімі дзеячамі, як на публічных сходах, так і у прыватных сабраннях, прэпыніла шкадлівую працу «Русского Дѣла» і збудзіла інтэрэс да беларускага пытання. Агітацыю сваю мы вялі разам і згодна з Украінскім Пасольствам у Празе, на чале якога стаіць п. Славіньскій.

Прыймаючы пад увагу, што у час майго прыезду у Прагу выехаць на Украіну праз Вену—Будапэшт было немагчыма, з прычыны бальшавіцкага паустання у Угорщыне[4], мною былі зроблены захады перад французкай міссіей у Празе каб атрымаць візы на праезд праз Кошау[5] (Карпаты). Гэ-

тае мейсцэ з'яуляецца мейсцэм стыка чэска-украінскае граніцы; праезджаць яго трэба было на вайсковых аўтамабілях, што нам было абецана як з боку чэскага міністэрства закардонных спрау, так і з боку украінскага ураду. На жаль гэтага шляху так сама ня маглі мы скарыстаць, таму што Кошау за два дні да нашаго выезду было занято польскімі войскамі і такім чынам безпасярэдняй коммунікацыі памеж чэхамі і украінцамі не аказалось.

Аставаўся адзін шлях — ехаць праз Польшу. Я застанавіуся над пытаннем, насколькі гэта падарож будзе для нас безпечнай і чы ня будзе нам загарожываць інтэрнірованіе. Тыя спраўкі, якіе былі наведзяны у польскам консульстве не далі нам нічога. Пачакаушы тыдзень часу, мы нарэшці зьвярнуліся з афіцыяльнай прапазіцыей да вык. аб. консула выдаць нам візы на праезд на Украіну праз Польшу. Не гледзючы на тое, што мы зьвернуліся не як прыватные асобы, а як прэдстаунікі Беларускага Ураду, чэкаць нам прыйшлося на гэтыя візы больш як два тыдні і фактычна каб не прыезд п. Л.Дубейкоускага і яго клопаты як нашага прэдстауніка у Варшаве, нам прошлося б чэкаць мажліва яшчэ больш. Нарэшці, каля 20 чэрвеня візы для усіх членау Пасольства былі атрыманы і Пасольства выехало праз Богумін на Варшаву. Трэба зазначыць, што візы ад польскаго консула былі атрыманы толькі да Варшавы у той надзее, што з Варшавы да Каменца-Падольскага — седзібы украінскага ураду — мы атрымаем магчамасць ехаць латвей. Надзея гэта на жаль не спраудзілася. Адгаварываючыся тым, што памеж Польшай і Галіцкай Украінай у той час была вайна не на жыцце, а на сьмерць, польскіе улады катэгарычна адмовіліся прапусьціць наша Пасольства праз фронт.

Прачэкаушы дарэмна каля двох тыдняу і не бачучы у бліжэйшай будучыне магчымасьці выехаць на Украіну легальна, я 8 ліпеня зрабіу пастанову (гл. пр. №10): выехаць туды самому як прыватнай асобе, атташэ пасольства выехаць у Кіеў[6] для інфармацыі і зьвязі з тамошнімі беларускімі арганізацыямі, а затым прыехаць так сама у Камянец; дыплематычнага кур'ера Камарынца пакінуць у Варшаве для ахароны рэчэй і канцэлярыі міссіі. Разам с тым, карыстаючы з таго, што дыплематычны кур'ер Е.Алексючанка была у той час бэз працы і атрымала ад мяне пэнсію, я паслау яе перад сваім ад'ездам так сама у Камянец-Падольскій (прык №7) з пакетамі да Украінскаго Ураду, у якіх: 1) паведамляу аб сваей міссіі і аб прычынах, якіе яе затрымліваюць и 2) згодна з пастановай Р.Н.М. ад 24 трауня за №84/2044 в, прасіў Міністра Закардонных Спрау і Міністра Фінансау, грашовы аккредітіу ад 31.І.1919 г. за №324, данны нам на Бэрлін, перэрабіць на Вену, на Аустро-Угорскій Банк.

Атташе А.Галавінскій, паехаушы у напрямку Пінск—Гомель, фронт праехау, но дастацца у Кіеу ня мог таму, што у зоне бальшавіцкае аккупацыі чугункі на Кіеу зусім не хадзілі, а ехаць коньмі гэнуюо даль ня было магчымасьці. Пасля звароту свайго у Варшаву, п. Галавінскій разам з Старшынею Белар. Камітэту у Варшаве п. Дубейкоускім, выехаў у Вільню для бясед і інфармацый аб беларускім пытанню з амэр. сэнатарам Моргэнтау.

Я праехаць праз фронт у напрямку Луцк—Кремянец ня мог. Дасталась да Каменца толькі Е.Алексючанка якая 9.8.19 вернулась да мяне з пакетам ад Украінскаго Ураду. У пакеце было 1) прывітанне нашаму Ураду ад Міністра Закардонных спраў, якую я перэслаў Р.Н.М. і 2) ад Міністра Фінансаў акредітіў за №597 на сумму 2 мілліона нештэмпелеваных карон на аўстро-угорскій банк у Вене, выпісанный на мае імя, як Надзвычайнага Пасла Б.Н.Р. на Украіне.

Пасля афіцыяльнай вячэры, якую я даў прэдстаўнікам Украіны у Варшаве (п.п. Курдымоўскі і Паплаўскі), Прэдстаўнікам Мін. Закард. Спраў Польшы (п.п. Кноль і Арцішэўскі) і прэдстаўнікам польскай прэссы (п.п. Галоўка і Сьвенціцкій) і пасля атрымання належных віз ад польскага ураду, я выехаў у Вену (гл. прык. №12 ад 10.8.1919 г.), аб чым паведаміў вык. аб. Мін. Фінансаў В.Захарко і Дзержаўнага Кантралера Л.Зайца.

Пасля рэалізацыі вышэйпамяненага акредітіва і перавода грашэй у Бэрлін, аб чым мной быў зроблен даклад Радзе Нар. Міністраў у лісте ад 21.8.1919 г. за №19, я паслаў к п.п. Захарко і Зайцу маяго кур'ера Ю.Камарынца з усіма належнымі паперамі (гл. прык. №15) даручыўшы яму якнайхутчэй варочацца у Варшаву. У той жа дзень выехаў у Варшаву і я.

Толькі праз тры тыдні, калі галіцыйскія войскі пацярпеўшы паражэнне, атайшлі за Збруч[7] і калі на польска-украінскім фронце па усей лініі паўстаў мір, нашэ Пасольство нарэшце атрымало ад польскаго ураду візы на праезд на Украіну. За гэты час, ящэ будучы у Вене, пасольство атрымало ад дзержаўнай скарбніцы на свае выдаткі 35 тысч. нешт. карон. Да ад'езду пасольства на Украіну дыплематычны кур'ер Камарынец ездзіў па даручэнню Старшыні Ураду п. А.Луцкевіча у Прагу, каб атрымаць для яго зложэнные у Украінскага Пасла п. Славінскага 200 тыс. нешт. карон, якое даручэнне п. Камарынец выканаў і вернуўся у Варшаву (гл. прык. №18, ад 15/9).

Атрымаўшы патрэбные паперы ад Главнага Штабу польскіх войск, Пасольство выехало у Камянец-Падольскій 26.9.1919 году (гл. прык. №19). Падарож трвала больш тыдня, таму што коммунікацыя была надта кепская. Толь[кі] на ст. Грэчаны па маей тэлеграмме нам быў выслан асобны вагон І кляссы, у якім мы даехалі да Камянца. На ст. Камянец нашэ Пасольства было прэдстаўлена ад'езжаўшаму на фронт Главнаму Атаману С.В.Петлюре, якому, як галаве Дырэкторыі У.Н.Р. у прысутнасьці Вайсковага Міністра і Міністра Шляхоў і Штаба, я сказаў прамову, вітаючы Украінскій народ, Рэспубліку і ея Урад ад імяні Ураду Беларусі.

На другі дзень пасля прыезду у Камянец-Падольскі я зложыў візіты членам Дырэкторыі, усім Міністрам Рэспублікі і на урачыстам прыеме у Міністра Закардонных Спраў[8] зложыў свае дыплематычн[ы]е граматы. Аб нашым прыездзі, а так сама аб прыеме маіх грамат у украінскай афіцыяльнай прэссі былі надрукаваны спецыяльные артыкулы. Самаго Міністра Зак. Спраў у той час у Камянцы не было: Ен выехаў на конфэрэнцыю у Варшаву. Замещаў яго Таварыщ Міністра п. В.Старосольскій — ведомый дзеяч Галічыны, адзін з лідэроў партыі С-Д. Галічыны і Букавіны.

Для сталага зьвязку Міністэрства Зак. Справу з нашай міссіей, да нас быу прызначэн Раднік Міністэрства п. Чаботарэнко, быушы Ген. Консул украінскій у Румыніі.

Пасля прыезду у Камянец і па азнаямленню са становіщэм украінскага ураду, я каб падзяліць працу па Пасольству памеж усемі членамі яго, прызначыу: атташе Пасольства А.Галавінскага выконываць абавязкі Радніка его і весьці перэгаворы с Міністэрствамі Вайсковым і Народнай Гаспадаркі[9]; а дыплематычнаго кур'ера Ю.Камарынца — выконываць абавязкі сэкрэтара Пасольства (гл. прыказ №20 и 21 ад 10.10.1919 г.) Аб ліке іх пэнсіі мною быу зроблен даклад п. Міністру Загран. Справу 20 сьнежня 1919 г. за №101, ад якого быу атрыман адказ ад 28 сьнежня т/г. за №234, згодно з якім п. Галавінскаму павялічаны сутачные да 75 мар. і п. Камарынцу да 50 мар. удзень.

-------

Палітычная сітуацыя на Украіне у час нашаго прыезду была надта сумная. Улада украінскага ураду фактычна істнавала толькі у чатырох-пяці паветах. Адміністрацыя была надта дрэнная і налажывалася наагул надта паволі. Чугункі хадзілі неакуратна, таварнага руху бадай жа зусім не было. Уся Украіна, аставаушаяся пад уладай нацыанальнага ураду была адрэзана ад ясяго культурнага сьвету, коммунікацыі з Еуропай заходняй была зусім малая. Ва усім адчувалася то, што дзержавы Антанты, ад якіх залежыла даць ці не даць Украінскай Рэспубліке магчымасьці жыць і узмацовывацца, трымающа негаціунага погляду на факт істнавання незалежнай Украіны і ні у чым яе не падтрымовываюць. Вайна з Денікіным была мала популярна наагул і асабліва сярод украінскіх старшын (афіцэрства). Народ, на п[р]отязі трох гадоу змучаны вайною і рожнага роду непарадкамі у краю, ня мог разабрацца да каго ен адчувае болшую сымпатыю: чы да нацыанальнай роднай украінскай уладзе, чы к бальшавікам. Усё разам узятае, параджала няпэуны настрой сярод шырокіх кол украінскага грамадзянства і шкадліва уплывала на дзяржауную працу ураду. У той самы час украінскі урад складауся з досць моцных людзей на чале з п. Мазэпаю[10], стаяушых на грунце бэзварунковай незалежнасьці Украінскае Рэспублікі і не траціушых надзеі на вызваленне яе не гледзючы ні на якіе перашкоды.

У данны момэнт трудна сказаць, як скláліся б бліжэйшыя лесы У.Н.Р. каб не трагічны разлом у палітычных поглядах, якій у гэты час прыбрау зусім адкрытый характэр, разлом памеж галіцыйскай партыей Дыктатара Заходняй Украіны п. Петрушэвічэм і партыямі так званай Наддненпранскай Украіны на чале з Галауным Атаманам С.Петлюраю. Прыймаючы пад увагу, што аб гэтым палітычным мамэнці, яго зьместу і значэнні для Беларусі я у свой час рабіу дэтальны даклад Старшыне Ураду і Міністру Загранічных Справу п. Ан.Луцкевічу, на ем тут застанауліваца ня буду. Зазначу толькі, што па сэнсу сваіх абавязкау, я трымау зьвязь з п. Петрушэвічэм не як з членам Украінскага Ураду (не гледзючы на тое, што ен быу членам Дырэкторыі), а як з кіраунікам моцнай палітычнай группы, меушэй за сабою апрыч таго і найбольш сільные і запрауды рэальные сілы.

У худкім часе пасля прыезду у Камянец наша місія была запрошана на сьвята Камянец-Падольскага Дзержаунаго Унівэрсітэту[11]. На гэтым сьвяце — гадавіны заснавання Унівэрсітэту — адбыўшэмся надта урачыста, я сказау прамову і вітау прафессарскую Раду і прысутных членау ураду ад імяні Беларусі.

Трэба зазначыць, што у час працы нашаго Пасольства у Камянцы былі вось якіе прэдстауніцтва: румынскае, польская вайсковая міссія, на чале з кап. Чарноцкім і военная французкая міссія. (Меж іншым, кап. Чарноцкій аказауся родом з Беларусі, быу добра знаемы са многімі беларускімі дзеячамі і добра уладаў беларускай мовай.) Пасля некольхіх дзен па прыездзе са усіма гэтымі прэдстауніцтвамі мы завязалі добрые зносіны.

Праца Пасольства пайшла адразу энэргічным тэмпам. Адпаведна маяму загаду п. Галавінскій пачау рабіць захады перад Вайсковым Міністрам маючы на мэці утварэнне беларускіх нацыянальных частін і з п. Міністрам Народнай Гаспадаркі аб узнавенні тавараабмену памеж Беларусью і Украінай. Я трымау палітычны зьвязок з Міністэрствам Заграпічных Справу, а у Міністра Фінансау[12] пачау падгатауліваць грунт для грашовай пазыкі.

Праз дзе якій час, Вайсковый Міністр п. Петрів выдау прыказ аб звальненні беларусоў-вайсковых з украінскіх частін і аб фармаванні з ніх асобнага беларускага атраду. Дзеля апрацавання дэтальна усей справы, да Пасольства быу прыкамадзірован Ген. Штабу Паўкоунік п. К.Бародзіч (беларус) якій знасілся безпасяредне з Міністрам. Так сама добра пайшла праца у Міністэрстве Народнага Гаспадарства. Прыймаючы пад увагу, што у свой час, калі Дырэкторыя выезджала з Кіева, праэкт таргавельнага дагавору, які быу апрацован кіеускай радай яще у 1918 гаду, быу згублен, — прыйшлося наново падгатаўляць патрэбные матэрыалы і праэкты. Прынцыпова Міністэрства згоджывалось на выдачу беларускім коапэратывам уселякіх таварау на засадзе абмена; пэрашкода чэкалась толькі з боку польскай улады якая мела фактычна у сваіх руках чугуначны рух. Каб дабіцца згоды яго, апрацовываўся асобный так зван. «транзітны дагавор» і вырэшэно было зрабіць адпаведные крокі перад центральным польскім урадом у Варшаве.

Канцэлярыя Пасольства, пасля таго як былі абгавораны справы з Міністэрствам Унутр. Спрау і Закардонных пачало выдаваць нацынальные беларускіе пасьведчання тым грамадзянам-беларусам, якіе апыніліся на Украіне. Гэтых пасьведчаннёў, якіе мелі сілу пашпартоў, за кароткі час было выдана некольхі сот. Разам з тым Пасольства рабіла захады аб адпрауке беларускіх уцекачоў на Бацькаўшчыну, і аб выдачэ ім рожнага рода дапамогі.

Незалежна ад гэтага, вядучы бягучую працу, Пасольства інфармавала украінскую прэссу аб палітычнам становіщэ Беларускай Рэспублікі, якім украінскае грамадзянства надзвычайна цекавілася, аб змаганні Беларусі за незалежнасць, аб адносінах д[а] усіх суседзеу, аб палаженні беларускага пытання за кардоном і т.д. Былі даны лічные і досць вялікіе інтэрвью.

Я асабіста адбыў некалькі конфэрэнцый з Тав. Мін. Закард. Спрау п. Старасольскім, і знайходзіўся у курсе украінскае палітыкі, асабліва у на-

прямку адносін Украіны да Польшы і да Дэнікіна. Што датычыць справы пазыкі, то я парушыў яе хутка пасля прыезду у трох інстанцыях: у Члена Дырэкторыі п. Андр.Макарэнко, Міністра Фінансау п. Бор.Мартоса і у Тав. Мін. Зак. Спрау п. Волод.Старосольскаго. Найбольш актуальна пастаўіуся, як трэба было чэкаць, да гэтай справы старый прыхільнік і фактычный прыяцель Беларусі — п. Мартос. На жаль, ен аккурат у той час, падаўся да дэміссіі і ня мог ад[?] прыступіць да гэтай справы безпасяредне. П. Макарэнко даў мне афіцыальнае запэ[у]ненне, што пазыка будзе абавязкова зроблена. Раза[м] з тым выяснілася, што усе ж такі рабіць пазыкі бэз перэгаворау і згоды на тое з боку Міністра Закардонных Спрау — не выпадае. А так як п. Андр.Левіцкій, як вышэй зазначэна, знайходзіуся у той момэнт у Варшаве, то я парэшыу, каб безпасярэдне пабачыцца з ім і атрымаць ад яго згоду, выехаць да Варшавы.

Тым часам на украінска-дэнікінскім фронце было дрэнна: украінскім вайском не паводзілася, весткі што дня прыходзілі усе больш сумные. Па усем адзнакам насовывалася катастрофа. Прыймаючы пад увагу, што час ня пэуны і што у кожны тыдзень можэ стварыцца што нябудзь неспадзеванае, я выезджаючы даручыу выконваць свае абавязкі Радніку сваймy п. Галавінскаму і дау яму загад: як толькі становішчэ у час маей падарожы зробіцца крыт[ы]чным, не чэкаць маяго павароту і ад маяго імяні падаць заяву аб пазыке.

Пасля 20.X.1919 г. я выехау у Варшаву. У Варшаве я прабыу каля трох тыднеу. У той час акурат з Парыжа прыехау да Варшавы Старшыня Ураду п. Ан.Луцкевіч і пачаліся перэгаворы нашы з польскім урадам аб паразуменні. У гэтых перэгаворах узялі актыуную учасць і члены украінскае каміссі[і], на чале з п. Андр.Левіцкім. Адбываючы з ім конфэрэнцыі, я атрымау ад яго згоду на пазыку і ліста да яго ураду у гэтай справе.

14.XI я выехау праз Брэст—Ковель—Шепетоуку да Каменца-Падольскага, но дастацца туды ужо не здалеў: па дарозі я даведауся, што украінскій урад з Каменца выехау на Поўнач, само место занято польскімі войскамі, галауны атаман С.Петлюра выехау у м. Старо-Константінау. Сталася усе гэта досць неспадзевана. Хоць і былі гутаркі аб тым, што фронту украінская армія не утрымае, што пасовыванне Дэнікіна будзе хуткае. Але ж катастрофа стварылася на месяц раней, чым яе можна была чэкаць.

Знайходзячыся у Шэпетоуцы, і парэшыл не вертацца назад, а ехаць на спатканне украінскага ураду; дзяля гэтага паехау на канёх у Старый-Канстанцінаў, гдзе па маім весткам знайходзіуся С.Петлюра. Так і трапілася. У Старо-Констанцінаве я сустрэнуў некалькіх украінскіх міністрау меж іншым галаву Рады Міністрау п. Мазэпу; тут жа знайходзіуся і Галауны Атаман. Но таго, каго больш усяго была трэба — вык. абав. Міністра Фінансау Маршіньскага, у Старо-Канстантынаве я не знайшоў. Сколькі б я не пытауся, гдзе частка другая Ураду у якой быу ён, а так сама гдзе апынілося нашэ Пасольства, — нихто адказу мне даць ня мог, таму што эвакуацыя Каменца-Пад. адбылася хаотычна, непадгатав[а]на і пляну куды каму ехаць бадай жа ня было. Нарэшці, усе тыя пляны, якіе былі зложаны, разбіліся аб рожные перашкоды у дарозі.

Найбольш папсула арганізаваную эвакуацыю зохопленне дэнікінцамі вузлавой станцыі Грэчаны, гдзе меж іншым была захоплена так сама і вялікая частка украінскага скарбу. Прабыушы у Ст. Констанцінаве некольк дзен і абгаварыушы справу пазыкі з п. Мазэпаю, я парэшыу ехаць у Варшаву, тым больш, што укр. урад са дня на дзень гатавауся выезджаць далей на поунач. Із гутарак з Мазэпаю я даведауся, што згодна з маім даручэннем, Раднік Пасольства А.Галавінскі заяву аб пазыке падау, но зрабіць па гэтай заяве якую нябудзь пастанову Рада Міністрау не магла, бо ня было часу. Заява была падана 16.XI.19 г. на рукі п. Члена Дырэкторыі Андр.Макарен[к]о, які згадзіуся пера[да]ць гэту заяву са сваею згодаю у Раду Міністрау. На другі дзень, 17.XI Пасольства атрымала згоду на пазыку ад Гал. Атамана С.Петлюры і ад Члена Дыр. п. Макаренко; для астаточнага разгляду справа была перэдана у Раду Міністрау, але апошняя як сказано вышэй, разг[л]ядзець яе за бракам часу не здалела. Лічучы мажлівым атрымаць пастанову Рады Міністрау і аккредітівы Міністэрства Фінансау, п. Галавінскій і п. Камарынец выехалі з Каменца у поездзе Міністра Фінансау у напрямку на Праскурау[13]. Па дарозе, гэны поезд быу абстреляны артыллерыей Дэнікінцау і павінен быу павярнуць назад. У канце канцоу Міністэрства Фінансау апынілася у Гусятіне; там жа апынілася часова і Беларускае Пасольства. Увесь поезд Міністэрства Фінансау, а так сама і вайсковага Міністэрства былі інтэрнаваны палякамі. Разам з імі былі інтэрнаваны і п. Галавінскій і п. Камарынец. і знайходзіушыйся пры іх, недауна прыбыушый з Кіева, Беларускі Консул у Адэссі п. Некрашэвіч. До ад'езда свайго у Варшаву А.Галавінскій і С.Некрашэвіч захварэлі на тыф і іспанку. Ратавау іх Ю.Камарынец, каторы лег у лошко так сама на тыфус ужо у Варшаве, гдзе прахварэу больш месяца.

Згодна з даручэннем, заява аб пазыке была пададзена у гэтакіх цыфрах: 5 міл. ням. марак, 6 мил. карон и 4 мил. карбов., што па курсу таго часу больш менш раунялася 50 мил. карбованцаў.

Трэба падкрэсліць адзін яшчэ на[п]рамак працы Пасольства у Камянцы. Не выходзячы за мяжы сваіх правоу і абавязкау як афіцыальнаго прэдстауніцтва, члены Пасольства завязалі шчырыя адносіны са усіма украінскімі сацыалістычнымі партыямі і было у курсе іх справу, аб чым рабілі даклады Старшыне Беларускага Ураду і беларускім сацыалістычным партыям.

———————————————

У пачатку снежэня 19 г. члены Пасольства А.Галавінскій і Ю.Камарынец, разам з Консулам С.Некрашэвічэм прыехалі у Варшаву. Некалькі дзен пазней прыехау туды і я. Пасля гэтага да канца году Пасольства знайходзілася у Варшаве, бо выехаць к украінскаму ураду не было магчымасьці. Па першае, што ніхто дакладно ня ведау, гдзе гэны урад знайходзіцца, а па другае, што у Варшаве у той час перэбывалі бадай же не большая частка украінскага ураду, на чале с Галауным Атаманом С.Петлюрою і вык. абав. Старшыні Рады Народн. Міністрау, Міністр Зак. Спрау і Справедлівасьці п. Андр.Левіцкій. З гэтымі двумя асобамі мы зноу пачалі гутаркі аб пазыке, які скончыліся ужо у Студзеню 1920 го-

ду выдачэй Беларускаму Ураду гатоўкаю 1.000.000 карбованцаў і чэка на Бэрлін у ліку 3.000.000 нем. марок.

Разам з Старш. Ураду А.Луцкевічэм, члены Пасольства прынімалі учасць так сама і у палітычнай працы, якая у той час велася у Варшаве.

Беларускі Пасол на Украіне
Ал.Цьвікевіч
*582.2.38:012&r-018 — ма*

Дакладная дата невядомая. [1] Мястэчка ва Ўсходняй Чэхіі. [2] Далучаных дакумэнтаў у архіве няма. [3] Русское Дѣло (Прага). №№7-12. 1919. [4] Пачалося 21.03.1919. [5] Цяпер — Кошыцы ў Славаччыне. [6] Кіеў ад 7.02 да 31.08.1919 заняты бальшавікамі. [7] Пераход адбыўся 16-17.07.1919. [8] Андрэй Лявіцкі. [9] В.Пятрыў і М.Шадлун. [10] Ісак Мазэпа — прэм'ер ад жніўня 1919 да траўня 1920. [11] Унівэрсытэт быў заснаваны ўкраінскімі ўладамі ўлетку 1918 году, урачыста адчынены 22.10.1918. [12] Барыс Мартас. [13] Ад 1954 году — Хмяльніцкі.

**1732. Ліст Кузьмы Цярэшчанкі (Менск) Антону Луцкевічу (Варшава) за 20.01.1920**

Даражэнькі пане Антоне,

Як я ужо Вас паведаміў тэлеграмай з кааператарамі справа налажываецца. Аб Вашай прапазыцыі я далажыў Праўленью Центра Бел. Саюзу і па сколькі толькі мог даў інфармацыі, праўда вельмі кароткія. Праўленьне пастанавіла дзелегаваць да Вас аднаго з сваіх сяброў дзеля дзетальных размоў; гэтаму ж чалавеку будзе даручэна выдаць патрэбную давернасць. Апрача таго, я пасылаю праз паказчыка гэтага п. Шатэрніка сэкрэтара Саюза Тавар. Сельск. Гаспадаркі давернасць ад нас на закупку сельскагаспадарскіх прылад і всяго патрэбнаго ў сельскай гаспадарцы. Магчыма што і гэта давернасць ня будзе лішней.

З тутэйшых навасьцей паведамляю аб тым, што ў нядзелю ў рэдакцыі «Беларусь» быў ачародны обыск і канфіскацыя № у яком змешчэн праек[т] арганізацыі края выпрацоваемый Наивыш. Рад.[1] — Зроблена гэта было па затрэбаваньню пракуратуры. Ўчора прыехаў з Латвіі кур'ер Каўдоба. Афіцыальных лістоў ен ня прывез, а толькі з прыватных гутарак выяснілось што у Латвіі все абстаіць добра. Ні Езавітаў, ні Душэўскі дзэталічна ня ведалі што зрабілася 13 сьнежня. Да іх дахадзілі толькі адзельныя весткі якія не давалі магчымасьці рабіць ці тыя, ці іншыя вынікі. Дык, за поўнай інфармацыяй, як відна і прыслан гэты кур'ер. Сягодня ен будзе у нас.

Ен прыехаў з Душэўскім якой астаўся у Вільні. Добра каб Вы яго вызвалі да Варшавы, аб гэтам я Вам телеграфавал. Пашковіч мае грошы, відна што яму іх далі украінцы. Добра б даведацца якая сумма ім адтрымана.

Ластоўскі сядзіць на кватэры у Янкі Купалы і нійдзе не паказываецца.

Вельмі дрэнна з грашмі; патрэбны да зарэзу; уся надзея на Вас што падашлеця хуць троху.

Перадайце Аркадзю што інструктары на якіх ёсьць пасьведчаньне пакуль што з'явілісь ня ўсе. Тыя ж што былі адпраўлены у паветы. Корна-

жыцк. я затрымаў у месці; патрэбен дзеля двух трох сходак с кааператарамі на контра перавыбараў праўленьня.

Вітаю ўсіх
Ваш КозТэрэшчэнко
20.I.20
*582.2.46:102&r — ра*

[1] Беларусь. №9(65). 16.01.1920, дзе быў надрукаваны «Наказ мясцовым беларускім радам». Гл. дакумэнт №0310.

**1733. Расьпіска Вацлава Іваноўскага (Варшава) за 20.01.1920 аб атрыманьні ад Антона Луцкевіча 1.000 марак**
*582.2.48:036 — ра*

**1734. Расьпіска Язэпа Сянкевіча (Варшава) за 20.01.1920 аб атрыманьні ад Антона Луцкевіча 40 марак за перадрук на машынцы артыкулу для газэты**
*582.2.48:037 — ра*

**1735. Рахунак Складу Паперы «Julian Burof» на 53,50 марак за канцылярскія тавары за 20.01.1920**
*582.2.48:038*

**1736. Рахунак машынапіснай фірмы «Rutyna» на 80 марак за перадрук дакладу Язэпа Варонкі за 20.01.1920**
*582.2.48:039*

**1737. Расьпіска Янука Натусэвіча (Варшава) за 20.01.1920 аб атрыманьні ад Антона Луцкевіча 200 марак у рахунак пэнсіі**
*582.2.48:040 — ра*

**1738. Паведамленьне Беларускага Прэс-Бюро ў Варшаве за 20.01.1920 аб падзеях у Менску 13.12.1919**
*582.2.38:085-087 — мк*

**1739. Суправаджальны ліст міністра замежных справаў БНР Антона Луцкевіча (Варшава) паўнамочніку Ўраду БНР у Празе Міколу Вяршыніну (Прага) за 21.01.1920 (вых. №27) з дасланымі матэрыяламі**
*582.2.13:030 — мк*

**1740. Ліст старшыні Беларускага Камітэту ў Варшаве Лявона Дубейкоўскага (Варшава) Палітычнаму Аддзелу Міністэрства Вайсковых Справаў Польшчы (Варшава) за 21.01.1920 з просьбай неадкладна забясьпечыць вяртаньне на бацькаўшчыну інтэрнаваных беларускіх вайскоўцаў, утрымваных на этапным пункце «Powązki»**
*582.2.33:122 — рк*

**1741. Рахунак Вялікага Рэстарану Гатэля «Angleterre» (Варшава) на 1.987 марак за банкет для міністраў Ураду Украінскай Народнай Рэспублікі за 21.01.1920**
*582.2.48:041-042*

**1742. Рахунак Складу Паперы «Awanti» на 26 марак за канцылярскія тавары за 21.01.1920**
*582.2.48:048*

**1743. Заява Канстантына Лукашэвіча (Менск) да Рады Народных Міністраў БНР за 21.01.1920 з просьбай даць яму пасаду ва ўрадавых установах БНР**
*582.2.53:094 — ра*

**1744. Пратакол сходу Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі ў Варшаве за 22.01.1920**

Пратакол
сходу Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі
22 студзеня 1920 году

Былі на сходзе народныя міністры А.Луцкевіч, В.Іваноўскі, Ал.Цьвікевіч і Ар.Смоліч.

| Слухалі | Пастанавілі |
|---|---|
| 1- Заяву Старшыні Рады Нар. Міністраў аб тым, што Найвышэйшая Рада Рэспублікі ня згодзілася прыняць адстаўку цяперашняга кабінету. | 1- Прыняць да ведама і выпаўняць абавязкі далей. |
| 2- Справу аб назначэньні Урадовага кіраўніка ўсёй унутранай работаю у краю | 2- Назначыць Урадовым Кіраўнікам усёй унутранай работаю ў краю народнага Міністра Вацлава Іваноўскага, назначыўшы яго поўманоцным прадстаўнікам Ураду. |
| 3- Заяву Старшыні Рады Нар. Міністраў А.Луцкевіча аб назначэньні ім пана Лявона Зайца скарбнікам Ураду Рэспублікі. | 3- Назначыць п. Лявона Зайца скарбнікам Ураду Рэспублікі з мейсцам пабыту у ЧэхоСловацыі. |
| 4- Справу арганізацыі урадовай працы заграніцаю. | 4- Прызначыць для заграпічнай Урадовай працы народных Міністраў А.Луцкевіча, А.Цьвікевіча, Л.Зайца і Я.Ладнова. |
| 5- Аб зносінах паміж Урадам і Найвышэйшаю Радай Рэспублікі. | 5- Прасіць Найвышэйшую Раду дэлегаваць аднаго з сваіх сяброў заграніцу для зьвязку з Урадам і сталага з ім кантакту. |

| | |
|---|---|
| 6- Аб утрыманьні Найвышэйшай Рады Рэспублікі. | 6- Запрапанаваць Найвышэйшай Радзе Рэспублікі прыслаць каштарыс на яе утрыманьне на бягучы год дзеля далучэньня у агульны бюджэт урадовых выдаткаў. |
| 7- Даклад шэфа вайскова-дыплёматычнай місіі у Латвіі палк. К.Езавітава аб паступленьні на беларускую службу атраду ген. майора С.Булак-Балаховіча. | 7- Даклад прыняць да ведама і залічыць атрад у склад войска Рэспублікі, аб чым паведаміць п. Міністра Абароны |

Старшыня Рады Нар. Міністраў Ант. Луцкевіч

Народныя Міністры: Ал. Цьвікевіч А.Смоліч

*582.2.01:089-090 — ра*

**1745. Тэлеграма Кузьмы Цярэшчанкі (Менск) Антону Луцкевічу (Варшава) за 22.01.1920**

= terminowa warszawa hotel saski luckiewiczowi =
minska lit 3212 12 22 22 25 =

duszewski wilnie zapotrzebujecie warszawie ze sprawozdaniem
= tereszczenko

*582.2.39:026 — а*

**1746. Ліст Леаніда Баркова (Бэрлін) Антону Луцкевічу (Варшава) за 22.01.1920**

*582.2.31:048&r-049*

---

З паведамленьнем аб неабходнасьці сустрэцца ў Празе і аб магчымасьцях атрыманьня 200.000 марак, пакінутых у прыватных сэйфах у Празе Крэчэўскім і Захаркам. «Заяцъ предполагаетъ въ началѣ февраля уѣхать лечиться. Его жена пріѣхала третьяго дня вмѣстѣ съ Вершининымъ».

**1747. Тэлеграма Антона Луцкевіча (Варшава) Кляўдыюшу Душэўскаму (Вільня) за 22.01.1920**

Duszewski — Nadbrzeżna 20
Wilno

Terminowa

Wobec blizkiego wyjazdu Paryża proszę natychmiastowe przybycie do Warszawy sprawy pierwszej wagi

Łuckiewicz
22/I 20

*582.2.32:049 — рк*
*582.2.48:046 — квіт*

**1748. Рахунак Складу Паперы «Awanti» на 34 маркі за канцылярскія тавары за 22.01.1920**

*582.2.48:049*

**1749. Рахунак Складу Паперы Антона Шустэра на 13,50 марак за канцылярскія тавары за 22.01.1920**

*582.2.48:050*

**1750. Тэлеграма Антона Луцкевіча (Варшава) Лявону Зайцу (Бэрлін) за 23.01.1920**

Sajatz
Motzstrasse 21
Berlin
Dringend.

Sztaty misii zmienszany astaŭlajucca słuźbie Barkou Boryk Miuller miesiaczny biudżet dziewiać tysiacz liczuczy ad pierszaha lutaha telehrafuj kudy jedziesz

Łuckiewicz
23.I.1920

*582.2.31:055 — рк*
*582.2.48:047 — квіт*

**1751. Ліст старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антона Луцкевіча (Варшава) паслу Латвійскай Рэспублікі ў Варшаве Кеніньшу за 23.01.1920 (вых. №28) з хадайніцтвам аб пасярэдніцтве ў справе арышту літоўскімі ўладамі Чарапука, Маркевіча й Злоцкага 21.12.1919**

*582.2.32:050&r — мк*

**1752. Пастанова па Міністэрстве Замежных Справаў у справе зацьверджаньня штатаў Місіі ў Бэрліне за 23.01.1920**

1) Прадстаўнік Ураду з правамі Консула (Баркоў)
2) Сэкрэтар і заведываючый справамі палонных (Борык)
3) Юрысконсульт (Мюльлер)

*582.2.40:065 — ра*

**1753. Расьпіска Аляксандра Цьвікевіча (Варшава) за 23.01.1920 аб атрыманьні ад Антона Луцкевіча 1.000 марак для касы Пасольства БНР на Украіне**

*582.2.48:043 — ра*

**1754. Рахунак Складу Паперы «Julian Burof» на 35 марак за канцылярскія тавары за 23.01.1920**

*582.2.48:045*

**1755. Тэлеграма Шышкова (Вільня) Антону Луцкевічу (Варшава) за 24.01.1920**

antoni luckiewicz warszawa saski =

wilno 5497 19 24 13 40

duszewski natychmiast nie moze przyjechac z powodu niekursowania pociagow /punkt/ stara sie przepustke = szyszkow +

*582.2.46:109 — а*

**1756. Тэлеграма Тулоўскага (Вільня) Антону Луцкевічу (Варшава) за 24.01.1920**

= warszawa saski hotel luckiewicz =

wilno 5747 9 24 12 18 wkt 1=

klawdiusza ciekawia sprawy pieniazne = tulowski +

*582.2.46:115 — а*

**1757. Рахунак Пераплётнай майстэрні Ю.Кавальчыка на 30 марак за пераплёт трыццаці пашпартоў за 24.01.1920**

*582.2.48:051*

**1758. Расьпіска Аляксандра Цьвікевіча (Варшава) за 24.01.1920 аб атрыманьні ад Антона Луцкевіча 3.500 марак для касы Пасольства БНР на Ўкраіне**

*582.2.48:052 — ра*

**1759. Расьпіска Антона Луцкевіча (Варшава) аб атрыманьні зь дзяржаўных скарбовых сумаў 4.400 марак пэнсіі й сутачных за студзень за 24.01.1920**

*582.2.48:055 — ра*

**1760. Перадрук артыкулу: Pod rządami Taryby // Dziennik Wileński (Вільня). Nr.19. 24.01.1920**

*582.2.50:009 — мк*
*582.2.50:021 — мк*

**1761. Ліст Вацлава Ластоўскага (Менск) Кастусю Езавітаву (Рыга) за 24.01.1920**

Мой ліст Езавітаву.

Высокапаважаны Таварышу.

Карыстаючыся зручнасьцю перэсылаю Вам навіны.

Найперш справа Рады.

У гэтай Сэсыі адбылося тры заседаньня: 9.XI.—12.XI.—13.XII.1919.

На заседаньні 12.XI Рада папоўнілася блізка 20 сябрамі С-Р. Гэткім чынам у Радзе, разам з С-ф. сталася наша большасьць. Перад апошнім заседаньнем выясьнілося, што левые фракцыі і цэнтр высказываюць недаверье міністэрству Луцкевіча. Тады с-д і правые с П.П.С. пастанавілі знішчыць Раду і утварыць Дырэкторыю, як яны казалі — «з адпаведных беларускіх дзеячоў». На заседаньне Рады не зьявіліся, якое адбывалося публічна у Юбілейным доме; а на прыватнай гасподзе у Власава абіралі Дырэкторыю, якую назвалі «Найвышэйшай Радай». Распалажэньне сіл было такое: зарэгістравалося у Мандатнай Камісыі 70 радных (26 с-р, 13 с-д, 13 цэнтр, 5 злучнасць, 5 с-ф, 2 П.П.С., 4 Народнай партыі, 2 б. парт., 1 нар. соц.; выключэна Радай 16 прэдстаўнікоў ад неістнуючых організацый: 2 с-р, 3 с-д, 4 цэнтр 1 с-ф 1 н.с.) і прынята 9 прэдстаўнікоў ад нова-

утварыўшыхся організацый: 3 с-р, 2 с-д, 1 цэнтр, 2 злучнасць, 1 Народн. парт. На заседаньне кворум было 27 сяброў (палавіна зарэгістраваных). 13.XII.19 зьявілося 32 сябры, зн. зверх кворума 5 сяброў. У канцы заседаньня былі прыняты у склад Рады 9 новых сяброў.

Пасьля выбароў у Радзе, Найвышэйшая Рада пачала сыпаць даносы вустна і друкам (гл. «Беларусь») на скутак чаго арэштавалі 4 сяброў Прэзыдыуму Рады і Ураду, рэшта або скрываецца, або перэбіраецца заграніцу.

Прыйміце крокі, каб у друку разьясніць гэту справу. І наагул з нашай Дырэкторыей у нас пастаноўлена, як мага бароцца, як [з] нацыональнай і дзержаўнай здрадай, якая вядзе нас не да Незалежнасці а да нацыональна-культурнай аўтаноміі у Польшчы. У краю усё жывое за намі і з намі, з намі і народ, асабліва пасьля арэштоў. Яны-ж апіраюцца толькі на польскіе штыкі і саміх сябе.

Усякіх друкоў па экзэмпляру будзе для Вас захавана.

Затым шчыры прывет ВЛаст...

24.I.20

Паведамце аб усім тут выложэным усе нашы заграпічные Міссыі.

*582.2.54:007&r — рк*

**1762. Нататкі Вацлава Ластоўскага аб складзе Рады БНР падчас паседжаньня 13.12.1919**

Зарэгістравалося 71.

26 с-р. 13 с.д. 13 цэнтр, 5 злучнасць 5 с-ф, 2 п.п.с. 4 Нар. Парт. 2 б. парт. 1 Нар. соц. = 71

выключэна 16.

2 с-р, 3 с-д, 9 цэнтр. 1 с-ф, 1 Н.с.

прынята 9

3 с-р. 2 с-д, 1 цэнтр, 2 злучнасць 1 Нар. п.

Зарэгістравалося 71

выключэна 16

асталося 55

Кворум палавіне зарэгістраваных

55:2=28. У салі было 32 радных і 9 кндыд. = 41

Пасьля заседаньня прынята 9.

лік Радных на чародную сэсыю

55+9=64.

Не зьявілося на заседаньне

55—32=23

На сабраньне Н. Рады пайшло 14 выключэных Радай, на сабраньні Н.Р. было фактычна 37.

Выключэны:

Ад Арганізацыі Мінскіх обыватэлеў: Ўласоў, Лёсік, Вярнікоўскі

*582.2.54:009&r — р*

---

Дата невядомая.

**1763. Тэлеграма Антона Луцкевіча (Варшава) Міколу Вяршыніну (Прага) за 25.01.1920**

Verszinin
Sokolska 22
Praha-Czeska

Kancy tydnia jedu Paryż Cwikiewicz jedzie Prahu adtul zajedzie da Barkowa pawiedamicie aposzniaha

Łuckiewicz
25.I.1920
*582.2.30:018 — рк*
*582.2.48:054 — квіт*

**1764. Пратакол сходу Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі ў Варшаве за 25.01.1920**

Пратакол
сходу Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі
25 студзеня 1920 году

Былі на сходзе народныя міністры - А.Луцкевіч, А.Цьвікевіч, В.Іваноўскі і Ар.Смоліч.

| Слухалі | Пастанавілі |
|---|---|
| 1- Расклад выдаткаў Дзяржаўнага Скарбу Б.Н.Р. на месяцы студзень, люты і сакавік 1920 году | 1- Зацьвердзіць расклад подлуг прыложанага сьпісу (дадатак №1) у агульнай суме: 40.000 франкаў, 180.000 марак нямецкіх, 983.000 марак польскіх, 150.000 рублёў керанскіх і 9.000 карон чэскіх. Выконаньне раскладу даручыць п. Народнаму Міністру Фінансаў. |
| 2- Адчот Старшыні Рады Нар. Міністраў аб выдатках з дзяржаўных сум, зробленых ім з 11 сьнежня да 31 сьнежня 1919 году. | 2- Зацьвердзіць выдаткі у суме 24.704,40 нямец. марак, 13.229,25 польск. мар., 166.000 руб. керан. і 2000 руб. дум. |
| 3- Прапазіцыю Старшыні Рады Нар. Мін. аб запрошаньні надзвычайнага паўнамочніка Ураду у Балтыцэ К.Душэўскага на пасаду Народнага Міністра без портфэлю. | 3- Прапазіцыю прыняць і выконаньне даручыць п. Старшыні Рады Народ. Міністраў на яго дыскрэцыю. |

Старшыня Рады Нар. Міністраў Ант. Луцкевіч

Народныя Міністры: Ал. Цьвікевіч А.Смоліч В.Іваноўскі
*582.2.01:092 — ра*

**1765. Расклад выдаткаў Дзяржаўнага Скарбу Беларускай Народнай Рэспублікі на студзень, люты й сакавік 1920 году, зацьверджаны сходам Рады Народных Міністраў БНР за 25.01.1920**

*582.2.01:093&r — ра*

**1766. Загад міністра фінансаў БНР Антона Луцкевіча (Варшава) за 25.01.1920 (вых. №37)**

Беларуская Народная Рэспубліка
МІНІСТЭРСТВА СКАРБУ
Варшава, 25.I.20.
№37

ПРЫКАЗ

Муж даверыя Беларускага Ураду у Варшаве, Лявон Дубейкоускі, гэтым назначаецца паунамочнікам Дзяржаунага Скарбу з захаваньнем старога становішча.

Занімаючы два становішча, грам. Дубейкоускі мае атрымліваць пэнсію па Міністэрству Заграпічных Спраў (у мысль выясьненьня Рады Народных Міністраў аб выплаце пэнсіі урадоуцам толькі на аднэй пасадзе).

Міністэр Скарбу
Ант.Луцкевіч

*582.2.40:045 — мк*
*582.2.40:064 — ма*

**1767. Абежнік Канцылярыі Рады Народных Міністраў БНР (Менск) кіраўнікам усіх дзяржаўных установаў за 25.01.1920 (вых. №29)**

*582.2.40:081 — мк*

---

Паведамленьне аб тым, што «...урадоўцы маюць права на атрыманьне пэнсіі толькі па адной пасадзе».

**1768. Абежнік Канцылярыі Рады Народных Міністраў БНР (Менск) кіраўнікам усіх дзяржаўных установаў за 25.01.1920 (вых. №30)**

*582.2.40:082 — мк*

---

Паведамленьне аб тым, што «...усе дзержауныя інстытуцыі і арганізацыі, якія атрымовывалі ад Ураду грошы у працягу 1919 году, павінны прадставіць справаздачу аб сваеі чыннасьці за гэты год разам з грашоваі адчотнасьцю»

**1769. Даклад сакратара Вайскова-Дыпляматычнае Місіі БНР у Латвіі і Эстоніі Янкі Чарапука шэфу Місіі за 25.01.1920**

Шэфу Вайскова-Дыплемтычнай Місыі Б.Н.Р. у Латвіі і Эстоніі

Я.Чэрэпука, сэкрэтара місыі

Даклад.

Маю гонар давясьці да ведама, што пасланы у першых чыслах м-ца Лістапада у камандзіроуку у м. Бэрлін, цяпер зноу вярнууся ужэ да места сваяго урадовага становішча, пасьля доугай адсутнасьці, прычынамі якой былі: 1) у зьвязку з вайсковым становішчэм паміж Латвіей і Нямеччы-

най, мне як сябру В.-Д. Місьіі у Латвіі не пазваляли выехаць аж да часу калі канфлікт Латвійска-нямецкі зноу ня вайшоу у мірнае становішчэ.

2) арэштаваньне мяне, майго адзьютанта Злоцкаго і дыплематычнаго кур'ера Маркевіча Літоускім Урадам і трыманьне ім на[с] з 21 снежня аж да 21 студзеня 1920 г.

Прыступаю ужэ да працы далей.

Прыадзначаю, што з сумы 30.000 (трыдцаці тысяч) асыгнованаю Міністэрствам Грашавых Спрау, я зварочваю толькі 14 (чэтырнадцаць тысяч), рэшта мною узята у лік пэнсіі за тры месяцы, якая мне належыцца, дадзены быу аванс афіцэру Злоцкаму і рэшта выдача падарожная, аба усім мною будзе гэта прэдстаулено у асобай адчотнасьці.

Таксама стверджаю, што усе дакумэнты афіцыяльныя Ураду Б.Н.Р., якія насілі строга дыплематычную тайну, я пры арэшсьці маем Літоускім Урадам усе дакумэнты унічтожыу, так што у рукі ворага не папау ні адзін дакумэнт.

Аб чым прашу паведаміць Міністэрства Заграні чных Спрау. А дакумэнты прашу іх копію запатрэбаваць.

Подпіс: Я.Чэрэпук.
Рыга 19 25/І 20 г.

З арыгіналам згодна: Шэф місьіі
Палкоунік, Езавітаў

За Сэкрэтара Г.Казячый
*582.2.47:065 — мк*

**1770. Рахунак выдаткаў Язэпа Сянкевіча (Варшава) на паездку з Варшавы ў Менск і назад за 25.01.1920**
*582.2.48:053 — ра*

**1771. Акт, складзены раднікам Пасольства БНР на Ўкраіне Аляксандрам Галавінскім і консулам БНР у Адэсе Сьцяпанам Некрашэвічам у Варшаве 25.01.1920 аб абмене 2.095,60 нямецкіх марак на 4.400,76 польскіх марак**
*582.2.48:057 — ра*

**1772. Пратакол сходу Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі ў Варшаве за 26.01.1920**

Пратакол
сходу Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі
26 студзеня 1920 году

Былі на сходзе народныя міністры А.Луцкевіч, В.Івано ўскі, Ал.Цьвікевіч і Ар.Смоліч.

| Слухалі | Пастанавілі |
|---|---|
| 1- Справу аб дадатковых асыгнаваньнях на пакрыцьцё даўгоў. | 1- Асыгнаваць на пакрыцьцё даўгоў: а. Цэнтральнай Беларускай Радзе Віленшчыны і Горадзеншчыны - 22.530 пол. мар. |

| | |
|---|---|
| | b. Консулу Б.Н.Р. у Рызе Шымковічу 2.095 ням. мар.<br>c. Консулу Б.Н.Р. у Адэсе Некрашэвічу 26.111 руб. цар.<br>і сэкрэтару яго Баліцкаму - 3600 рб. цар.<br>адлічыць ад апошніх двох — авансы выданыя ім Пасольствам Б.Н.Р. на Украіне |
| 2- Справу аб падмозе сябру Рады Рэспублікі Казіміру Фалькевічу для пакрыцьця яго выдаткаў па арганізацыйнай рабоце у Віленскім пав. | 2- Асыгнаваць раднаму К.Фалькевічу падмогі тры тысячы марак польскіх. |
| 3- Рапарт Шэфа Вайскова-Дыплёмат. Місіі у Латвіі К.Езавітава аб устанаўленьні ордэну Полацкага Крыжа для награды за асобыя заслугі перад Бацькаўшчынаю. | 3- Згаджаючыся прынцыпіяльна з рапартам, перадаць справу для апрацаваньня і да дыскрэцыі Нар. Міністра Абароны. |

Старшыня Рады Нар. Міністраў Ант. Луцкевіч

Народныя Міністры: Ал. Цьвікевіч А.Смоліч В.Іваноўскі

*582.2.01:091 — ра*
*582.2.01:095 — рк*
*582.2.20:014 — мк*
*582.2.40:083 — мк*

**1773. Суправаджальны ліст Антона Луцкевіча (Варшава) Найвышэйшай Радзе БНР (Менск) за 26.01.1920, дасланы з справаздачай аб выдатках на ўрадавыя патрэбы да 10.12.1919 і ад 11.12.1919 да 1.01.1920**

*582.2.39:038 — рк*
*582.2.39:039 — мк*

**1774. Ліст старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антона Луцкевіча (Варшава) шэфу Вайскова-Дыпляматычнай Місіі БНР у Рызе Кастусю Езавітаву за 26.01.1920 (вых. №31)**

26 студня 1920 г.
№31
на №192

Старшыні вайскова-дыплематычнае місіі у Рызе.

Паведамляю, што атрад генэрала Балаховіча пратакольным пастанауленем ад 22 студня 1920 году прыняты у склад войска Б.Н.Р., аб чым і прапаную Вам паведаміць генэрала Балаховіча.

СТАРШЫНЯ А.Луцкевіч

*582.2.33:125 — мк*

**1775. Ліст старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антона Луцкевіча (Варшава) надзвычайнаму паўнамоцнаму прадстаўніку БНР у Балтыцы Кляўдыюшу Душэўскаму (Вільня) за 26.01.1920 (вых. №32)**

26 студня 1920 г.
№32

Надзвычайнаму Паунамочнаму
Прэдстауніку Б.Н.Р. у Балтыцэ

Апісанная ў рапарці палк. Езавітава ад 21 сьнежня 1920 [sic] году беларуская форма часова мною зацьверджываецца.

Аканчацельнае пацьверджаньне будзе зроблена Радай Нар. Міністраў па заключэньні Міністра Абароны.

Старшыня Рады Народных Міністраў А.Луцкевіч
*582.2.33:132 — рк*

**1776. Ліст старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антона Луцкевіча (Варшава) надзвычайнаму паўнамоцнаму прадстаўніку БНР у Балтыцы Кляўдыюшу Душэўскаму (Вільня) за 26.01.1920 (вых. №33)**

26 студня 1920 г.
№33
на №40

Надзвычайнаму Паунамочнаму Прэдстауніку
Б.Н.Р. у Балтыцэ

Атрад ген. Балаховіча вельмі б жадана было перавесьці на тэрыторыю Латвіі, асабліва на фронт Вітэбскай губ., аб чым і прапаную Вам зрабіць з Латвійскім Урадам умову, аналегічна зробленнай з Эстонскім Урадам.

МІНІСТЭР А.Луцкевіч
*582.2.33:129 — мк*

**1777. Ліст старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антона Луцкевіча (Варшава) шэфу Вайскова-Дыпляматычнай Місіі БНР у Рызе Кастусю Езавітаву за 26.01.1920 (вых. №34)**

26 студня 1920 г.
№34

Старшыні вайскова-дыплематычнае місіі у Рызе.

На рапарт Ваш ад 27 сьнежня 1919 году паведамляю, што Вам належыць кіравацца пратаколам Р.Н.М. ад 21 сакавіка 1919 году, копія якога пры гэтым прыкладваецца.

СТАРШЫНЯ А.Луцкевіч
*582.2.32:106 — мк*

**1778. Ліст старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антона Луцкевіча (Варшава) шэфу Вайскова-Дыпляматычнай Місіі БНР у Рызе Кастусю Езавітаву за 26.01.1920 (вых. №35)**

26 студня 1920 г.
№35

Старшыні вайскова-дыплематычнае місіі у Рызе.

З поваду прозьбы Консула у Рызе Шымковіча пэнсія яму з 1 лютаго гэтаго году павелічана да 1250 латв. руб. у месяц.

Лічу патрэбным зьвярнуць Вашу увагу на недапусьцімасьць выдачы Консульствам пазык кшталтам пазыкі 4000 руб. палкоуніку Шолкаваму.

СТАРШЫНЯ А.Луцкевіч
*582.2.32:098 — мк*

**1779. Ліст Вацлава Іваноўскага (Варшава) Антону Луцкевічу (Варшава) за 26.01.1920**

Jaho Dastojnaści
Panu Ant. Łuckiewiču
Staršyni Ministroŭ B.N.R.

Prahledzieŭšy prajekt umowy na wydawiectwa biełaruskaje p. Marholina, ja pryncypowa zhadžajusia z im i ličyŭ by patrebnym paśpiešyć hetu sprawu, jak mahčyma.

Z hłybokaj pašanaj
W.Iwanoŭski

26/I 920.
Waršawa
*582.2.37:020 — pa*

**1780. Расьпіска Вацлава Іваноўскага (Варшава) за 26.01.1920 аб атрыманьні зь Дзяржаўнага Скарбу БНР 1.000 марак у лік належнай пэнсіі**
*582.2.48:056 — pa*

**1781. Тэлеграма Лявона Зайца й Леаніда Баркова (Бэрлін) Антону Луцкевічу (Варшава) за 27.01.1920**
luckievicz hotel sasski warschau

56/29 berlin 30+ 220/30 56 20 27/1 2,35 s =

dla karysnaj pracy abaviazkova patrebna zastavic usich sluzaczych aprocz boryka dzitmana maszynistki jakim vydaducca pasvedczennia napravo atrymannia zasitatnoj pensyi krapka bjudzet mozna skaracic njanizej dzesjaci tysjaczau razam kvateroj sluzankaj krapka hroszy natusevicza peredany depozit ministerstva finansau krapka stverdszyvaju patrebnasc vaszaho chutcze jezaha pryezda prahu dzela perehavorau krapka czakaju adkazu barkou
krapka zhodzen = zajac .+
*582.2.31:059*

**1782. Ліст Антона Луцкевіча (Варшава) Браніславу Тарашкевічу (Вільня, Віленская 33) за 27.01.1920**

Варшава, 27/I.20.

Тарасе!

Пасылаю Табе пісьмо п. Марголіна і пісьмо Іваноўскага аб яго, Марголіна, праекці. Новы тэкст умовы прагледжаны Іваноўскім, з каторым сам пагутары аб справе. Просьбу Марголіна пастарайся споўніць і прыехаць у суботу, бо хіба ў суботу ў вечары паеду, а хацеў-бы мець найнавейшыя весткі з Вільні.

Прышлі ці прывязі мне ўсе матэр'ялы аб польскай окупацыі ў Беларусі, якія мае Рада. Асабліва важны данныя, што палякі экспортуюць ад нас заграніцу, бо за вывезеныя тавары яны шмат чаго атрымліваюць ззаграніцы, толькі, ведама, не для нашага краю, а для Польшчы. Усё гэта мне трэба было-бы узяць у Парыж.

Пакуль-што, бывай здароў. Пакланіся ад мяне п.п. Мэнке і Пятрунэлі, Ядзьцы і Антону[1].

Твой Ант.

Картку па жыдоўску Марголін просіць аддаць д-ру Ромму, пашлі праз Петронэлю.

Ант.

*582.2.37:018&r-019 — ра*

*582.2.37:022 — канвэрт з сургучнай пячаткай*

[1] Прыслуга Луцкевічаў Пятрунэля (Пятруся) Сырэль, яе муж і дачка. Гл. Вітан-Дубейкаўская Юліяна. Мае ўспаміны. Вільня, 1994.

**1783. Ліст Браніслава Тарашкевіча (Вільня) Антону Луцкевічу (Варшава) за ?????**

Браце мілы,

Я прыеду у Варшаву толькі цераз колькі дзён, бо тут ёсьць справы зьвязаныя з прыездам Пілсудскага да Вільні. Значыць Цябе хіба ужо ня будзе у Варшаве.

Душэўскаму пропуск дастаў, але ён хістаецца на розныя бакі і кажа, што без згоды сваіх партыйных сяброў ён нічога зрабіць ня можа. Ён у Варшаву ня едзе.

Ластоўскі зракаецца быццам усякае палітычнае работы.

Панны Менке кланяюцца Табе і просяць лепш купіць па якой кніжцы, чымсі што другое.

Калі удасца выехаць то мо' я заўтра выеду і буду у суботу ўжо у Варшаве.

Цісну Табе моцна руку і жадаю шчасьлівае падарожы

Твой Тарас

*582.2.31:047&r*

Дата невядомая.

**1784. Ліст Файвэля Марголіна (Варшава) Браніславу Тарашкевічу (Вільня) за 27.01.1920 у справе выдавецкай дамовы і з просьбай узяць у камісара Вільні пасьведчаньне на імя Ф.Марголіна дзеля дазволу на выезд у Нямеччыну**

*582.2.37:021 — ра*

**1785. Ліст міністра беларускіх справаў Літоўскай Рэспублікі Язэпа Варонкі старшыні Галоўнай Камісіі па выбарах у Літоўскі Сойм Пятрасу Леонасу за 27.01.1920 зь інфармацыяй аб колькасьці насельніцтва ў Горадзенскай, Беластоцкай, Бельскай, Ваўкавыскай, Сакольскай і Слонімскай акругах**

*582.2.50:008 — мк*

**1786. Суправаджальны ліст Канцылярыі Рады Народных Міністраў БНР (Варшава) старшыні Беларускага Нацыянальнага Камітэту (Варшава) за 28.01.1920 (вых. №41) з дасланымі матэрыяламі (перапіска на 4 лістах і копія загаду №37)**

*582.2.13:039 — мк*

**1787. Суправаджальны ліст Антона Луцкевіча (Варшава) Найвышэйшай Радзе БНР (Менск) за 28.01.1920, дасланы з расьпіскай Аляксандра Цьвікевіча на 2.100 польскіх марак дадаткова да справаздачы 26.01.1920**

*582.2.39:040 — мк*

**1788. Справаздача Міністэрства Замежных Справаў Беларускай Народнай Рэспублікі за 1919 год, складзеная міністрам Антонам Луцкевічам 28.01.1920**

СПРАВАЗДАЧА МІНІСТЭРСТВА ЗАГРАНІЧНЫХ СПРАУ
ЗА 1919 ГОД

Палітычныя варункі за мінулы год узлажылі глауны ціжар урадова[й] працы на Міністэрства Заграгічных Спраў.

Выехаушы з Менску 1 сьнежня 1918 году, Урад меу лішне мала сіл дзеля правільнае арганізацыі гэтага Міністэрства. Ратавауся ен ад гэнае бяды толькі тым, што члены габінэту, прыняушыя розныя партфэлі, у межах сваіх міністэрствау ня мелі магчымасьці актыуна працаваць і выпаунялі чыннасьці дыплематычных прадстаунікоу Міністэрства Загранічных Спрау.

Яшчэ у канцы 1918 году — зара пасьля утварэньня габінэту міністры Цьвікевіч і Смоліч выехалі на Украіну дзеля умацаваньня добрых адносін паміж Беларусьсю і Украінаю, а такжа дзеля перагаворау з Украінскім Урадам аб дзяржаунай пазыцэ Беларускай Народнай Рэспубліцэ. Справа пазыкі мела дзьве староны: першую фінансовую, бо Беларускі Урад ня меу ніякіх грашовых засобау на вядзеньне палітычнае работы; другую палітычную, бо факт дзяржаунае пазыкі быу бы рауназначны афіцыяльнаму прызнаньню Украінаю дзяржаунае незалежнасьці Беларусі. З гэтае прычыны Урад астаткі сваіх грошы, здабытых дарогаю прыватных пазык, асыгнавау на работу на Украіне і у пачатку 1919 году паслау туды яшчэ аднаго члена габінэту, Захарку.

Работа на Украіне дала памысные рэзультаты: пазыка была дадзена акрэдытывамі на Бэрлін і Вену. Найбліжэй быу Бэрлін, і гэта прымусіла найбольш актыуных членау Ураду з Старшынею і Міністрам Заграгічных

Спрау Луцкевічам на чале (на яго імя былі выпісаны акрэдытывы) выехаць у сталіцу Нямеччыны і адтуль ужо, згодна з плянам, прабівацца на Міравую Конфэрэнцыю у Парыж. З другога боку да такога кроку прымушала і набліжаушаяся окупацыя Горадні палякамі[1], адносіны якіх да Беларускага Ураду былі такія, што яшчэ з Вільні і з Горадні Міністэрства Заграпічных Спраў выслала некалькі нот пратэсту Польскаму Ураду, востра выступаючы проці польскіх захватных плянау на Беларускую Зямлю і пасьля проці устанауленьня польскага цывільнага упрауленьня і падгатоукі плебісцыту пад націскам польскіх штыхоу.

Яшчэ перад выездам у Бэрлін Міністэрства у Горадні апрацавала абшырны мэморыял на Міравую Конфэрэнцыю і назначыла дэлегацыю у Парыж у гэтакім складзе: Старшыня — Луцкевіч, Члены — Скірмунт, Кондратовіч, Ознобішын (дэпутат ад Горадзеншчыны у 4 Думу), тэхнічны сэкрэтар Баркоу. Усе яны, апрача адмовіушагася Скірмунта, выехалі так сама з Горадні у Бэрлін і там пачалі крокі дзеля атрыманьня пропускау у Парыж.

Ня гледзячы на тое, што з кіраунічымі нямецкімі кругамі былі завязаны даволі добрыя адносіны, Нямецкі Урад адмовіуся выдаць належныя Беларускаму Ураду паводле украінскага акрэдытыву грошы. Гэта, а так сама доугая процэдура атрыманьня пропускау у Парыж прымусіла Дэлегацыю і Членау Ураду правясьці у Бэрліне каля трох месяцау (марэц, красавік, май). Такім чынам у Бэрліне быу утварыуся часова цэнтр беларускае палітычнае работы: іншага цэнтру з прычыны заняцьця палякамі Горадні і непрыхільных адносін ковенскага Ураду беларусы па той час ня мелі.

З Бэрліну, калі выявілася цьвердая пастанова Нямецкага Ураду затрымаць выдачу Беларускаму Ураду належачых яму грошы і гэтак пазбавіць яго магчымасьці паслаць Дэлегацыю у Парыж, выехалі Члены Ураду Цьвікевіч і Заяц (Дзяржауны Кантралер) у Вену з паунамоцтвамі на атрыманьне грошы па венскаму акрэдытыву. Ня гледзячы на тое, што і там на украінскія капіталы была наложана шпэра, грошы праз неякі час дабыць удалося.

За час іх бытнасьці у Вені выехау да Краю Член Ураду Смоліч — напярэдодні заняцьця палякамі Вільні і спадзяванага паходу на Менск. У зьвязку з разьвіваушыміся здарэньнямі Смоліч атрымау інстурцыю паехаць у Варшаву і паводле магчымасьці распачаць перагаворы з Польскім Урадам аб палітычных адносінах паміж Беларусьсю і Польшчаю, стоючы на грунці дзяржаунай незалежнасьці і непадзельнасьці Беларусі. Перагаворы гэныя ніякіх рэзультатау апрача пекных слоу са стараны Польшчы ня мелі.

Праездам цераз Прагу Члены Ураду Цьвікевіч і Заяц пры падмозе украінцау завязалі зносіны з Чэхамі. Пасьледкам гэтых падгатавіцельных крокау была у апошніх чыслах красавіка 1919 году візыта у Празе у Прэзыдэнта Масарыка Старшыні Рады Народных Міністрау і Міністра заграпічных Спрау Луцкевіча. Гэта візыта рэзультатам сваім мела дужа прыхільныя адносіны да беларускае справы як самога Прэзыдэнта Масарыка, так і Чэскае Дэлегацыі у Парыжу, галава каторае, Міністэр Заграпічных Спрау Бэнэш, атрымау ад п. Масарыка наказ падтрымліваць Беларускую

[Дэлегацы]ю. Апрача таго п. Масарык згодзіуся на назначэньне у Прагу [... прадстауніка] Беларускага Ураду і абяцауся пасланць у Беларусь свайго прадстауніка, калі Беларускі Урад вернецца у месца пастаяннага жыцьця. Беларускім прадстауніком у Празе быу пасьля назначанны Мікалай Вершынін.

Адначасна з падарожжаю Міністра Луцкевіча у Прагу выехалі у Парыж Кондратовіч, Ознобішын і Баркоу, атрымаушы перш за Луцкевіча (бо пачалі раней заходы) пропускі ад Францускага Ураду. Яшчэ шмат перад гэтым Дэлегацыя падала тэкст Мэморыялу Беларускага Ураду на імя Старшыні Міравой Конфэрэнцыі прадстауніком Францыі, Англіі і Амэрыкі у Бэрліне, ды ен быу перасланы англіцкай лібэральнай партыі, скандынаускім газэтам і розным выдатным дзеячом заграніцай.

Пасьля рэалізацыі венскага акрэдытыву і атрыманьня гэтак рэальнае магчымасьці для Ураду вясьці шырэйшую работу Міністэрства учыніла крокі дзеля пашырэньня дыплематычнае акцыі. У Бэрліне, дзе адкрылася паміж іншым магчымасьць шырайшага асьведамленьня прэсы (ня толькі нямецкае, але праз Нямеччыну і нэутральнае), а такжа працы паміж беларусамі палоннымі, быу назначаны Пасол Б.Н.Р. (часова п. Заяц). паслом на Украіне — Цьвікевіч, у Літве — Крэчэускі. Урэшці пасьля падарожы Члена Ураду Тэрэшчэнкі у Балтыку туды паехала Вайскова-Дыплематычная Місія з Членам Рады Рэспублікі палкоунікам Езавітавым на чале, афіцыяльна акрэдытаваная урадамі Балтыцкіх Дзяржау.

Місія у Бэрліне мела спэцыяльную задачу: яна павінна была служыць этапным пунктам дзеля зносін паміж Беларусьсю і Літвой з аднаго боку і Парыжам з другога. Апрыч таго на ей ляжау абавязак шырокае працы у прэсе (заложана Прэсс-Бюро) і арганізацыі палонных беларусау (ваенны аддзел пры Місіі). У канцы году з прычыны хваробы Пасла Зайца быу назначаны за прадстауніка Б.Н.Р. у Бэрліне з правамі Консула Л.Баркоу.

Місія на Украіне паміж агульнай палітычнай работай павінна была учыніць крокі дзеля падгатоукі новае пазыкі на вялікшую суму, дзеля правядзеньня вайсковае конвэнцыі (у тым ліку аб арганізацыі у зьвязку з украінскай арміяй беларускіх часьцей) і дзеля выработкі тарговае умовы між Б.Н.Р і У.Н.Р.

Паслу у Літве было даручана дабіцца дабіцца магчымасьці супольнае і солідарнае працы беларусоу і літвіноу на грунці эвэнтуальнае фэдэрацыі. На гэтым грунці літвіны адмовіліся вясьці перагаворы і зажадалі, каб беларусы перш зракліся на карысьць Літвы Віленшчыны і Горадзеншчыны, прызнаушы граніцу Літвы, вызначаную Берасьцейскім мірам[2], а тады толькі можа быць афіцыяльна пастаулена пытаньне аб адносінах між Літвой і Б.Н.Р.

Работа Парыжскае Дэлегацыі пайшла поуным ходам у канцы мая, калі у Парыж выехау Старшыня яе, Луцкевіч. Там у склад Дэлегацыі ім быу назначаны прыехаушы яшчэ раней з Одэссы і уведзены у склад Ураду, як Міністэр Абароны, палк. Е.Ладноу. З прычыны непрыезду п. Скірмунта, для каторага пропуск у Парыж быу атрыманы на рукі ген. Дюпона у Бэрліне, аканчацельны склад Дэлегацыі на Міравую Конфэрэнцыю у Парыжы

аказауся такі: Луцкевіч, Ладноу, Кондратовіч, Ознобішын, тэхнічны сэкрэтар Баркоу. У гэтым складзе Дэлегацыя і распачала сваю працу.

Дэлегацыя завязала зносіны з усімі дэлегацыямі, прынімаушымі учасьце у Міравой Конфэрэнцыі, і падала Конфэрэнцыі свой Мэморыял. У сваей рабоці Дэлегацыя кіравалася да таго, каб Беларусь была залічана да чысла Балтыцкіх дзяржау: помач апошнім са стараны Англіі і масквафільства або полонофільства усіх францускіх выдатнейшых палітычных дзеячоу і урадовых кругоу ясна паказавала, чаго беларусам дзяржацца. Аднак усе крокі у гэтым кірунку аказаліся дарэмнымі: яшчэ да прыезду Дэлегацыі у Парыж землі на Усходзі былі падзелены Антантай на сфэры уплывау Англіі і Францыі, і Беларусь разам з Польшчаю была аддадзена пад уплыу Францыі. З другога боку Дэлегацыя разьвівала шырокую працу каб заінтарэсаваць вялікія дзяржавы у беларускіх справах эканамічна і шырокімі пэрспэктывамі для заграгічных капіталау у Беларусі (праект воднае дарогі з Балтыкі у Чорнае мора і інш.), асьведамляючы аб натуральных засобах краю і магчымасьці эксплуатацыі іх на месцы і на вываз. Урэшці, разумеючы, што раз уложаны у беларускую справу заграгічны капітал сам будзе крычаць за незалежнасьць Беларусі і бараніць яе, Дэлегацыя разьвярнула шырокую працу дзеля закупу у Амэрыкі часьці ваенных стокау на тэрыторыі Францыі, і гэныя стокі у патрэбным ліку (на 14 мільенау доларау) былі ужо запраданы Беларускаму Ураду з пяцілетнім крэдытам. Толькі заява Францыі, што яна закупляе усе стокі гуртам і просіць усе транзакцыі з паадзінокімі дзяржавамі прыпыніць, разстроіла гэту справу. Асаблівую энэргію у гэтай справе выявіу Член Ураду Ладноу і Раднік па Фінансовым і Эканамічным Справам де-Вуліч. Іх стараньнямі удалося дабіцца таго, што і Францускі Урад у асобе Міністра па ліквідацыі стокау Поля Морэля заявіу, што ен сам здаволіць патрэбы беларусау і часьць стокау прадасьць Беларускаму Ураду на устаноуленых амэрыканцамі варунках (аб гэта прасіла французау амэрыканская ліквідацыйная камісія), аднак да канца 1919 году уся справа яшчэ стаяла на месцы.

Дэлегацыя, маючы у сваім складзе двух ваенных спэцыялістау, як то ген. Кондратовіча і палк. Ладнова, энэргічна працавала над арганізацыяй беларускага войска з б. расейскіх вайсковых-беларусау, якіх у Францыі і Афрыцэ апынуліся цэлыя тысячы. У канцы году беларусау пачалі выдзяляць у асобны лагер (у Вэрдэне) з тым, каб з іх пачаць ваенныя формаваньні.

Ад першых дзен сваей бытнасьці у Парыжы Дэлегацыя учыніла усе магчымыя крокі дзеля згуртаваньня паадзінокіх дэлегацый новых дзяржау. Адным з конкрэтных плянау такога згуртаваньня быу праект утварэньня супольнага фронту паміж Балтыцкім морам і Каўказам. Гэты праект ня быу рэалізаваны, але на фоне яго быу утвораны ядыны палітычны фронт у форме дэклярацыі сямі рэспублік: Беларусі, Украіны, Латвіі, Эстоніі, Грузіі, Азэрбайджану і Пауночнага Каўказу. Дэклярацыя цьверда пратэставала проці прызнаньня Антантай ураду Колчака або іншага урадам «Усерасейскім», значыць, абнімаючым усе прыналежаушыя раней да Расеі землі, скінуушыя чужацкае панаваньне[3].

Літоуская Дэлегацыя, каторая павяла ад самага пачатку непрымірымую барацьбу проці Беларускае Дэлегацыі і перад Антантаю, адмовілася ад супольнае дэклярацыі і аб'явіла формальную барацьбу Беларускаму Ураду і стараньям яго паставіць беларускае пытаньне перад Конфэрэнцыяй ва усім аб'еме. Барацьба мела на мэці недапусьціць трактаваньня пытаньня аб Віленшчыне і Горадзеншчыне у зьвязку з Беларусьсю. Справа гэных зямель была Беларускаю Дэлегацыяй выясьнена Міравой Конфэрэнцыі у асобным абшырным мэморыяле.

Не удалося беларускім прадстауніком правясьці і другі плян аб'еднаньня дэлегацыяу новых дзяржау: на грунці закупу імі у суполцэ усіх амэрыканскіх стокау у Францыі гуртам (на пяць мільярдау франкау), на што амэрыканцы ахвотна ішлі пад варункам кругавой парукі. Апошні варунак пералякау ужо больш умацаваныя дзяржавы.

У Парыжы была зроблена умова з Латвіяй аб прынцыпах разграні-чэньня Беларусі і Латвіі.

Парыжская Дэлегацыя завязала такжа зносіны з расейскімі кругамі (Сазонов, Маклаков, Чайковскі, Савінков), рэзультатам чаго была абарона Маклаковым у камісіі Міравой Конфэрэнцыі непадзельнасьці Беларусі і яе заходняе граніцы, а такжа энунцыяцыі Сазонава у англіцкай прэсе і у асобным мэморыяле, пададзеным Конфэрэнцыі, аб аутаноміі Беларусі.

У месяцы жніуні па ініцыятыве некаторых французскіх дзеячоу у Парыжу Міністэр Заграничных Спрау і Міністэр Абароны адбылі нараду з польскім прэмьерам Падэрэвскім, датыкаушую справы беларуска-польскіх адносін. Рэзультатам былі запросіны Міністра Луцкевіча у Варшаву, куды ен і выехау у апошніх чыслах жніуня. У Варшаве, дзе пад тую пару зьехаліся такжа дзеля перагаворау з Польскім Урадам Міністэр Заграні-чных Спрау Латвіі Мэеровіц і Мін. Загр. Спрау Украіны Лівіцкі, была разьвернена шырокая акцыя дзеля мусіраваньня беларускага пытаньня у пажаданым для беларусау кірунку і дзеля здабыцьця паддзержкі уплывовых грамадзкіх кругоу справе разьвязкі беларускага пытаньня на грунці беларускае дзяржаунасьці і непадзельнасьці ды абароны усходняе граніцы Беларусі. Дзякуючы гэтай акцыі і перагаворам мін. Луцкевіча з Начальнікам Польскае Дзяржавы Пілсудскім, апошні адцягівау сыстэматычна правядзеньне «плебісцыту» проці гвалтоунага дамаганьня Сойму і большасьці польскіх партыяу, а такжа паставіу Антанці дамаганьне, каб справа Усходніх Зямель была разьвязана на грунці плебісцыту, але з тым, каб у ім прынялі бы учасьце і жыхары зямель за большавіцкім фронтам: Вітэбшчыны і Магілеушчыны.

Урэшці Міністэрства учыніла заходы дзеля дапушчэньня прадстауні-коу Б.Н.Р. на конфэрэнцыю Балтыцкіх Дзяржау і на перагаворы іх з бальшавікамі у Дорпаце, што і было зроблена. Гэта было раунаважна фактычнаму прызнаньню незалежнасьці Беларусі Балтыцкімі Дзяржавамі, ды такое ж прызнаньне было зроблена Фінляндыяй у рэзультаці падарожы туды паунамоцніка Ураду К.Душэускага, і перагаворау мін. Луцкевіча з прадстауніком Фінляндыі у Варшаве.

Аб рэзультатах працы беларускіх дэлегатау Душэускага і Езавітава у Дорпаце да канца году справаздачы справа не была Міністэрству здадзена*.

У канцы Міністэрства лічыць сваей павіннасьцю адзначыць, што у сьнежні месяцу яно ладзіла дзьве вельмі важныя у перажываны мамэнт дэлегацыі: у Лондон і у Амэрыку. Аднак так-званы «менскі пераварот», у часі каторага б. скарбнік Захарка захапіу часьць дзяржауных сум, пазбавіу Міністэрства магчымасьці правясьці свае пляны у жыцце, і выпауненьне іх пастаулена на першую чаргу у новым 1920 годзе.

Варшава,
28 студзеня 1920 г.

Міністэр Заграічных Справу:

* Асаблівую заслугу дыплёматычна-Вайсковай Місіі ў Рызе становіць пераход на службу Б.Н.Р. атрада генэрала Балаховіча.

Справаздачы асобных устаноу будуць дасланы дадаткова

СПІС УСТАНОУ М.З.С. у 1919 г.:

1) Парыжская Дэлегацыя:
Старшыня А.Луцкевіч
Заступнік яго Е.Ладноу
Члены: ген. К.Кондратовіч
А.Ознобішын
Е.Белевіч (часова)
Сэкрэтар Л.Баркоу

2) Місія у Бэрліне:
Пасол (часова) А.Смоліч (у пачатку 1919 году)
" Л.Заяц
Прадстаунік Ураду Л.Баркоу (у канцы 1919 году)
Атташэ да справу палонных А.Борык
Сэкрэтарыят: Дітман, Казлоускі[4]
Юрысконсульт Б.Мюльлер
Дыпл. кур'ер Я.Натусэвіч (у пачатку 1919 году)

3) Пасольства на Украіне:
Пасол А.Цьвікевіч
Раднік А.Галавінскі
Сэкрэтар Ю.Камарынец

4) Дыплематычна-Вайсковая Місія у Балтыцэ:
Шэф Місіі К.Езавітау
Сэкрэтар Я.Чэрэпук
Надвычайныя Прадстаунікі Ураду (часовыя): К.Тэрэшчэнко, К.Душэускі
Консул у Рызе Шымковіч

5) Місія у Варшаве:
Паунамоцнік Ураду Л.Дубейкоускі
Раднік Б.Тарашкевіч
Сэкрэтар Я.Натусэвіч

6) Місія у Літве:
Надзвычайны Пасол П.Крэчэускі
*582.2.39:043-047 — мк*

[1] Палякі занялі Горадню 27.04.1919. [2] Паводле Берасьцейскае дамовы, да Літвы далучаліся гэткія беларускія паветы (новастворaныя пад нямецкай акупацыяй, г. зв. крэйзы): Ашмянскі, Белавескі, Беластоцкі, Бельскі, Ваўкавыскі, Віленскі, Горадзенскі, Дзятлаўскі, Крынкі-Лунна, Лідзкі, Плянтаўскі (Шчучынскі), Радунскі, Сьвянцянскі. [3] Гл. дакумэнт №1239. [4] Ці не памылкова замест Паўлоўскі.

**1789. Ліст старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антона Луцкевіча (Варшава) надзвычайнаму й паўнамоцнаму паслу БНР у Балтыцы Кляўдыюшу Душэўскаму (Вільня) за 28.01.1920 (вых. №40)**

28 студня 1920 г.
№40

П. Надзвычаінаму Паунамочнаму Паслу Б.Н.Р. у Балтыцэ.

На сходзе Рады Нар. Міністрау ухвалено: «Згаджаючыся прынцыпіяльна з рапартам (ад 21 сьнежня 1919 года за №155 палк. Езавітава), перадаць справу для апрацаваньня і да дыскрэцыі Нар. Міністра Абароны

СТАРШЫНЯ А.Луцкевіч
*582.2.32:108 — мк*

**1790. Ліст старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антона Луцкевіча (Варшава) шэфу Вайскова-Дыпляматычнай Місіі БНР у Рызе Кастусю Езавітаву за 28.01.1920 (вых. №42)**

26 студня 1920 г.
№42

Старшыне вайскова-дыплематычнаі місіі у Рызе.

Прызнаючы прозьбу Консула Шымковіча прынцыпіяльна патрэбным задаволіць, Рада Народных Міністрау пратаколам ад 26 студня гэтаго году пастанавіла асыгнаваць яму на пэнсію і сутачныя 2095 ням. мар. і даручыць Беларускаму Варшаускаму Камітэту учыніць крокі перад польск[а]ю уладаю аб звароце Шымковічу страт згодна прысланым тром ведамастцям.

СТАРШЫНЯ А.Луцкевіч
*582.2.32:109 — мк*

**1791. Рапарт шэфа Вайскова-Дыпляматычнае Місіі БНР у Латвіі і Эстоніі палкоўніка Кастуся Езавітава старшыні Рады Народных Міністраў БНР за 28.01.1920 (вых. №110)**

28 студзеня 1920
№110
м. Рыга

Старшыне Рады Міністроу
Беларускай Народнай Рэспублікі

Рапарт.

Маю гонар давесьці да ведама Вашаго прыложаную да гэтага копію э даклада сэкрэтара, даручанай мне місыі, Янкі Чэрэпука.

ДАДАТАК: копія з даклада сэкрэтара Янкі Чэрэпука.

Шэф Місіі,
Палкоўнік К.Езавітаў

За Сэкрэтара Г.Казячый
*582.2.47:064 — ма*

**1792. Грамата Рады Народных Міністраў БНР за 29.01.1920 (вых. №46) аб прызначэньні Аляксандра Цьвікевіча надзвычайным паслом Беларускай Народнай Рэспублікі ў Латвіі**

Дана у Менску, 29 студзеня 1920
№46

ГРАМАТА

Мы, Урад Беларускае Народнае Рэспублікі, іменем БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ, назначаем грамадзяніна Аляксандра Цьвікевіча Надзвычайным Паслом Беларускае Народнае Рэспублікі пры Урадзе Рэспублікі Латвіі.

Дзеля гэтага яму, Цьвікевічу, надаюцца усе праву і абавязкі, якія выцякаюць з яго становішча, а такжа права ад імя Ураду Беларускае Народнае Рэспублікі вясьці перагаворы і рабіць умовы з Урадам Рэспублікі Латвіі.

Жадаючы захоўваць з Рэспублікай Латвіяй добрасуседзкія адносіны, даручаем яму, Цьвікевічу, прылажыць усе стараньні дзеля іх удзяржаньня і умацаваньня.

СТАРШЫНЯ РАДЫ НАРОДНЫХ МІНІСТРАУ
МІНІСТЭР ЗАГРАНІЧНЫХ СПРАУ:
Антон Луцкевіч
*582.2.32:110 — мк*

---

Прыпісана: «Тое жа у Фінляндзію за №45 і у Эстію за №47»

**1793. Ліст міністра фінансаў БНР Антона Луцкевіча (Варшава) Лявону Дубейкоўскаму (Варшава) за 29.01.1920 (вых. №38)**

Б.Н.Р.
Міністэрства Скарбу
№38

Паўнамочніку Дзяржаўнага Скарбу
Дубейкоўскаму
у Варшаве.

Перасылаю Вам дакумэнты для разрахунку з урадоўцам Натусэвічам; належаць яму: 468,80 марок нямецкіх і 2.240 марок польскіх.

Міністэр Фінансаў
Ант.Луцкевіч
Варшава, 25.І.20.
*582.2.40:084 — ра*

**1794. Рапарт шэфа Вайскова-Дыпляматычнае Місіі БНР у Латвіі і Эстоніі палкоўніка Кастуся Езавітава міністру фінансаў БНР за 29.01.1920 (вых. №1)**

Сэкрэтно.
29.I.1920
№1

Міністру Фінансаў Беларускай Народнай Рэспублікі,
або першай установе Беларускаго Ураду, да якой зьвернецца
Курьер Місіі — Грамадзянін Ляховіч.

Вайскова-Дыплёматычная Місія Б.Н.Р., едыная з Місій магушчая веска казаць свае слова, бо яна апіраецца на аружную сілу Асобнаго Атрада Б.Н.Р. і добра зьвязана з усімі Іназемнымі Дзержавамі, — знаходзіцца ў страшэнна цяжкіх грашовых варунках, якія прымушаюць мяне, калі я не атрымаю грошай у працягу студзеня, спыніць працу ў Латвіі, Эстіі і Фінляндзіі. Гэта роўнасільна аканчацельнаму зніштажэньню Беларускай працы.

Прашу выдаць падаўцэ гэтаго Курьеру Грамаздяніну Ляховічу на патрэбы Місіі семдзесят тысяч марак і на патрэбы Асобнага Атрада Б.Н.Р. хаця бы сто тысячъ марак.

Шэф Місіі,
Палкоўнік К.Езавітаў

За Сэкрэтара Г.Казячый
*582.2.47:044 — ма*

**1795. Рахунак Складу Паперы «Awanti» на 18,36 марак за канцылярскія тавары за 29.01.1920**
*582.2.48:058*

**1796. Абежнік Канцылярыі Рады Народных Міністраў БНР (Менск) кіраўнікам усіх дзяржаўных установаў за 30.01.1920 (вых. №49)**
*582.2.20:010 — мк*

Зьмест той самы, што ў дакумэнце №1767.

**1797. Абежнік Канцылярыі Рады Народных Міністраў БНР (Менск) кіраўнікам усіх дзяржаўных установаў за 30.01.1920 (вых. №50)**
*582.2.20:011 — мк*

Зьмест той самы, што ў дакумэнце №1768.

**1798. Тэлеграма Антона Луцкевіча (Варшава) Аўгену Ладнову (Парыж) за 30.01.1920**

Ladnoff
24 rue Bayard
Paris.

Apres avoir recu visa francaise gouvernement polonais refusa viser mon passeport diplomatique pour revenir à Paris

Loutckevitch

30.I.20.
*582.2.33:115 — рк*
*582.2.48:059 — кеіт*

**1799. Даверанасьць старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антона Луцкевіча Аляксандру Цьвікевічу за 30.01.1920 (вых. №44) на права закупляць у межах Чэхаславацкае Рэспублікі і транспартаваць для Беларускага Цэнтральнага Саюзу Сельскае Гаспадаркі ў Менск сельскагаспадарчыя машыны і іншыя тавары**
*582.2.40:067 — мк*

**1800. Ліст міністра замежных справаў БНР Антона Луцкевіча (Варшава) Леаніду Баркову (Бэрлін) за 30.01.1920 (вых. №51)**
Варшава, 30 студзеня 1920
№51

Паўнамочнаму Прадстауніку
Ураду Б.Н.Р. Леаніду Баркову
у Бэрліне.

Камандзіраванаму у Бэрлін Члену Ураду Аляксандру Цьвікевічу Вы маеце выплаціць паводле гэтага з сум Бэрлінскае Місіі 25000 марок (дваццаць пяць тысяч марок) пад яго, Цьвікевіча, квіт.

Міністэр Загранічных Спраў
Ант.Луцкевіч
*582.2.46:107 — мк*

**1801. Даверанасьць старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антона Луцкевіча (Варшава) Браніславу Тарашкевічу за 30.01.1920 (вых. №52)**
Варшава, 30 студзеня 1920
№52

ДАВЕРНАСЬЦЬ.

Гэта давернасьць выдана Старшыні Цэнтральнае Беларускае Рады Віленшчыны і Горадзеншчыны, грамадзяніну Броніславу Тарашкевічу, каторы упаунамочаны ад імя Ураду Беларускае Народнае Рэспублікі падпісаць з выдаўцом Файвэлем Марголіным умову аб дачы яму, Марголіну, концэсіі у межах Беларусі, Літвы, Польшчы, Балтыкі, Фінляндыі, Украіны, Расеі і наагул заграніцаю прыгатауляць, закупляць, дастауляць, збываць і прадаваць усялякія беларускія кніжкі і друкарскія вырабы, учэбнікі, школьныя падручнікі, пераплетныя вырабы, прописі, каеты, усялякія рэчы і прылады школьныя, канцэлярскія, кніжныя і іншыя дзеля патрэб

беларусоу і Беларусі, беларускіх школ і устаноу, бібліотэк і т.д. — на найбольш выгодных для заказчыка варунках.

СТАРШЫНЯ РАДЫ НАРОДНЫХ МІНІСТРАУ
Ант.Луцкевіч
*582.2.46:108 — мк*

**1802. Канвэрт ліста Канцылярыі Рады Народных Міністраў БНР (Менск) Беларускай Радзе Віленшчыны й Горадзеншчыны (Вільня) з сургучнай пячаткай БНР**

*582.2.20:009*

---

Дата невядомая.

**1803. Ліст міністра фінансаў БНР Антона Луцкевіча ([Варшава]) Лявону Зайцу (Бэрлін) за 31.01.1920 (вых. №54)**

Менск, 31 студзеня 20
№54

Яго Міласьці
Грамадзяніну Лявону Зайцу
у Бэрліне.

Гэтым падаю да Вашага ведама, што згодна з рэзалюцыей Рады Народных Міністрау Вы назначаецеся Дзяржауным Скарбнікам Беларускае Народнае Рэспублікі.

Дзяржауны скарб мае быць памешчаны заграніцаю (у Празе), дзе Вы і маеце жыць.

Пэнсія і сутачныя Вы маеце атрымліваць паводле міністэрскіх акладау.

Аб прыняцьці Вамі новага становішча будзьце ласкавы мяне паведаміць.

МІНІСТЭР ФІНАНСАУ:
*582.2.40:066 — мк*

**1804. Ліст [Антона Луцкевіча] ([Варшава]) Міколу Вяршыніну (Прага) за 31.01.1920 (вых. №55)**

Менск, 31 студзеня 20
№55

Яго Міласьці
Паунамочніку Ураду Б.Н.Р. па справам
ваеннапалонных, Мікалаю Вершыніну
у Празе.

Гэтым маю чэсьць паведаміць Вас, што ад 1 лютага 1920 году Вы назначаецесь — да часу устанауленьня Беларускага Консульства у Празе афіцыяльным парадкам — Паунамочным Прадстауніком Ураду Беларускае Народнае Рэспублікі з усімі правамі Консула Рэспублікі у Празе.

У зьвязку з гэтым Вы маеце атрымліваць пэнсію па тысяча семсот крон (1700 кр.) у месяц, пачынаючы ад 1 лютага 1920 году.

*582.2.30:017 — мк*

**1805. Перапіска палкоўніка Брытанскай Ваеннай Місіі ў Коўне Роўана-Робінсана з маёрам Брытанскага Ваеннага Прадстаўніцтва ў Вільні М.Мокетам у справе вызваленьня польскімі ўладамі Карчынскага, Бялецкага, Боева і Аўдзяевіча за 31.01.1920 і 20.02.1920**

*582.2.50:014 — мк*
*582.2.50:015 — мк*

**1806. «Пѣсенка Бѣлорусскаго Дамскаго Комитета в Ригѣ (На мотив «Женскій баталіон»)»**

*582.1.45:120 — мк*

Дата невядомая.

**1807. Наказ Радзе Беларускай Калёніі ў Латвіі (Статут)**

*582.1.46:034 — мк*

Дата невядомая. Кіраўніцтва Рады: старшыня Я.Данілюк, сябры Рады А.Сьцяпура, У.Найдзёнаў, Г.Казячы, Я.Чарапук, Я.Сьпіцын і Д.Кадоўба, сакратар Б.Гальперын.

**1808. Інтэрвію дыпляматычнага кур'ера БНР, які прыехаў у Бэрн дзеля даручэньня Ураду Швэйцарыі ноты пратэста з прычыны прызначанага палякамі плебісцыта у Беларусі, невядомай газэце (?)**

*582.2.54:035-037 — мк рас — пераклад*
*582.2.54:038-040 — мк рас — пераклад*

Дата невядомая. Зьмест блізкі да ноты К.Езавітава міністру замежных справаў ЗША (дакумэнт №1646).

**1809. Тэлеграма Антона Луцкевіча (Варшава) Леаніду Баркову (Бэрлін) за 1.02.1920**

Barkow
Motzstrasse 21
Berlin.

Cwik wyjechau Prahu adtul Dringend zniasiecca Wami

Łuckiewicz
1.II.20
*582.2.31:050 — рк*
*582.2.48:061 — квіт*

**1810. Ліст шэфа Вайскова-Дыпляматычнай Місіі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Рызе Кастуся Езавітава (Рыга) старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антону Луцкевічу (Варшава) за 1.02.1920**

1 лютаго 1920 г.
№127
м. Рыга

Грамадзянін Міністэр,

Учора атрымау Ваш ліст, тлумачачый варункі і абставіны на Бацькаушчыне у звязку з расколам і рэвалюцыей у Радзе 13 сьнежня 1919 г.

Будьте осторожны во всѣх отношеніях. Не держите никаких документов, писем, записок в гостинницѣ.

Лучше всего прочитанное уничтожать, сдѣлав необходимыя замѣтки в книжечкѣ у себя.

Простите: это не нравоученіе, а предостереженіе Друга и Доброжелателя.

Еще раз крѣпко обнимаю! Ваш ЕЛ.

Мнѣ подали письмо от Гр. Замойскаго: 12/XII 20. «Monsieur le Colonel, En réponse à Votre lettre du 6 Février 1920, je tiens à Vous fair savoir que je me suis empressé de la transmettre au Ministère des Affaires Etrangères. Agréez etc.»

Меня это отнюдь не успокоит, я пойду дальше.

Отъ чехов я не получил ни одного письма. Получил то, которое Вы послали через французов. Наведите, пож., справки, я здѣсь наведу.

Ко мнѣ зашли французы-концессіонеры и сказали: Нам в Мин. Иностр. дѣл не совѣтовали брать концессію. Вас Правит<ельством> не считают. Но мы отлично понимаем, что это польскія штуки, и предложили написать то, что в Мин. Иностр. дѣл сказали. Тѣ отказались написать, такъ как концессіонеры имѣют в руках положительное для нас заключеніе виднѣйших франц. юристов, членов Палаты Депут., бывших Министров. Концессіонеры просят дать как можно скорѣе:

1) Засвид. Копію Грамоты о провозглашеніи Независимости Б.Н.Р.; 2) Копію Грамоты о передачѣ Радой власти исполнительной Секретаріату 3) Копію протокола Рады о назначеніи Васъ премьером. Кромѣ того необходимы всѣ документы, вышеперечисленные.

Дѣлайте все возможное. Я напишу в Б<ерлин> чтобы они прислали мнѣ тѣ же документы но ни слова не скажу о Вас. Пусть будут двойные документы, это не помѣшает!

Здѣсь работа принимает весьма интенсивный характер. Я же один. К<ондратович> «жрет, пьет и сплетничает», простите за вульгарное, но правдивое слово! Послѣ первой встрѣчи с Вами при возможности нанять людей, он должен быть убран.

Делегируйте поскорѣе Цвикевича. Соберите в Прагѣ все Правительство и Директорію. Это абсолютно необходимо. Варшава компрометирует, дает козырь в руки клеветникам. Отношеніе чехов вполнѣ доброжелательно.

От Гр. Тышкевича увѣдомленій о полученіи приказа Петлюры не поступало. Опасаюсь, что ничего не выйдет! Какую сумму Вы предназначили для делегаціи?

Не забудьте прислать мнѣ законный мандат, как члену бѣл. делегаціи, таковаго у меня нѣт. Я имѣю Вашу довѣренность. Вопросы же ставятся так, что необходимо быть во всеоружіи.

Пока, Дорогой, сообщил Вам самыя послѣднія новости. Если будет что важное, сообщу через чехов. Напишите Массарику и Бенешу. Вы обѣщали послѣдняго информировать. Напишите о Вашем интернированіи. Неловко только пользоваться ими, как передатчиками.

Крѣпко обнимаю. Ваш ЕЛаднов
*582.1.04:033&r*

[1] Граф Маўрыцы Замойскі — кіраўнік польскай дэлэгацыі на Парыскай мірнай канфэрэнцыі. [2] Наступны дакумэнт. [3] Кандратовіча.

**1861. Ліст Аўгена Ладнова (Парыж) Антону Луцкевічу (Варшава) за 13.02.1920**

13/II 20 г.

Ваши телеграммы получены и всѣ ходатайства сдѣланы.

Прошу Вас прекратить борьбу в печати и обществѣ против расколовшихся, так как борьба гибельна для дѣла. Мы принимаем всѣ зависящія мѣры къ прекращенію междоусобій, и просим положиться на нас.

Сколь важно единеніе в данный момент явствует изъ прилагаемых документов.

Появленіе Бахановича в данный момент весьма показательно. Могут создаться три представительства, т е всякое значеніе каждаго из них будет аннулировано. Вот почему крайне необходиом ликвидировать раскол.

Въ газетах появились извѣстія, что наши лѣса отдаются в аренду и эксплоатацію. Мы принимаем мѣры, просим и Вас сдѣлать все зависящее.

Чекъ нами не получен. Будьте добры прислать таковой тѣм же путем, как я Вам посылаю настоящее письмо.

Денег у нас почти нѣт никаких. Жалованья не получили. Проживаем послѣднія собственныя сбереженія.

Сочувствующіе нам круги готовы офиціально поддержать нашу независимость, о чем было офиціально сообщено.

Просим быть спокойным и положиться на нашу работу.

Шлем сердечный привѣт и найлучшія пожеланія.

Я болен испанкой и никуда не выхожу.

Простите за краткость письма, но Вы понимаете, что во многословіи есть грѣх, а мы хотим избѣжать грѣха.

Наш искренній привѣт и найлучшія пожеланія.

Уважающій Вас ЕЛаднов

О<знобишин> уѣхал к Баркову около мѣсяца тому назад.

*582.1.04:034r*

**1862. Ліст старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антона Луцкевіча (Варшава) намесьніку старшыні Дэлегацыі Беларускай Народнай Рэспублікі на Мірнай Канфэрэнцыі ў Парыжы Аўгену Ладнову (Парыж) за 13.02.1920 (вых. №67)**

Варшава, 13 лютага 1920
№67

Яго Міласьці
Палкоуніку Еугенію ЛАДНОВУ
Намесьніку Старшыні Дэлегацыі Б.Н.Р.
на Міравую Конфэрэнцыю

у Парыжу.

Гэтым падаю да Вашага ведама, што Член Дэлегацыі Генарал-ад-інфантэрыі Кіпрыян Кондратовіч з вышэйпісанага чысла выключаецца з складу Дэлегацыі.

Аб гэтым даручаю Вам паведаміць Ген. Кондратовіча і Канцэлярыю Міравое Конфэрэнцыі, а такжа іншыя установы, якім гэта ведаць належыць.

Старшыня Рады Народных Міністрау і Міністэр Заграмічных Справу:
Ант.Луцкевіч
*582.2.33:144 — мк*

**1863. Ліст старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антона Луцкевіча (Варшава) намесьніку старшыні Дэлегацыі Беларускай Народнай Рэспублікі на Мірнай Канфэрэнцыі ў Парыжы Аўгену Ладнову (Парыж) за 13.02.1920 (вых. №68)**

Варшава, 13 лютага 1920
№68

Яго Міласьці
Палкоуніку Еугенію ЛАДНОВУ
Намесьніку Старшыні Дэлегацыі Б.Н.Р.
на Міравую Конфэрэнцыю

у Парыжу.

Гэтым падаю да Вашага ведама, што Член Дэлегацыі Аляксей Аляксандравіч Ознобішын з вышэйпісанага чысла выключаецца з складу Дэлегацыі.

Аб гэтым даручаю Вам паведаміць п. Ознобішына і Канцэлярыю Міравое Конфэрэнцыі, а такжа іншыя установы, якім гэта ведаць належыць.

Старшыня Рады Народных Міністрау і Міністэр Заграмічных Справу:
Ант.Луцкевіч
*582.2.33:145 — мк*

**1864. Ліст старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антона Луцкевіча (Варшава) намесьніку старшыні Дэлегацыі Беларускай Народнай Рэспублікі на Мірнай Канфэрэнцыі ў Парыжы Аўгену Ладнову (Парыж) за 13.02.1920 (вых. №69)**

Варшава, 13 лютага 1920
№69

Яго Міласьці
Палкоуніку Еугенію ЛАДНОВУ
Намесьніку Старшыні Дэлегацыі Б.Н.Р.
на Міравую Конфэрэнцыю

у Парыжу.

З прычыны немагчымасьці вя[р]нуцца у Парыж дзеля кірауніцтва работамі Дэлегацыі, гэтым надаю Вам надзвычайныя паунамоцтвы:

1) сваімім прыказамі без зносін з Урадам выдаляць, зьмяняць і назначаць членау Дэлегацыі і тэхнічных працаунікоу,

2) у выпадку, калі Вы прызнаеце патрэбным, зліквідаваць Дэлегацыю і усе справы яе,

3) прынімаць пастановы і рабіць патрэбныя выступленьні, калі гэта знойдзеце карысным без нарад з другімі членамі Дэлегацыі, як надзвычайны Паунамочік Ураду, на што Вам выдаецца і пасылаецца пры гэтым асобнае паунамоцтва.

Увага. Пры выдаленьні членау Дэлегацыі Вы маеце прынімаць пад увагу, што яны атрымліваюць сутачныя, а не пастаянную пэнсію, і з гэтае прычыны пры увальненьні ня маюць права ні на якія асаблівыя даплаты.

Старшыня Рады Народных Міністрау і Міністэр Заграничных Страу:
Ант.Луцкевіч
*582.2.33:141 — мк*

**1865. Паўнамоцтва старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антона Луцкевіча Аўгену Ладнову, 13.02.1920**
МЕНСК, 13 ЛЮТАГА 1920
№70

ПАУНАМОЦТВА

Гэтым сьведчыцца, што Мін[і]стэр Абароны Палкоунік Еугеній Ладноу назначаны Надзвычайным Паунамочнікам Ураду Беларускае Народнае Рэспублікі пры Урадзе Францыі.

Старшыня Рады Народных Міністрау
і Міністэр Заграничных Спрау:
Ант.Луцкевіч
*582.2.33:140 — мк фра*
*582.2.33:143 — мк бел*

**1866. Рахунак З.Расьніцкай на 10 марак за перадрук на машынцы пасьведчаньня для палкоўніка Ладнова за 13.02.1920**
*582.2.48:081 — ра*

**1867. Ліст кіраўніцы Горадзенскай Прытулковай Беларускай Школы Сэрафіны Кішко Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі за 13.02.1920 з просьбай аб матэрыяльнай дапамозе**
*582.2.46:113 — ра*

**1868. Ліст вучаніц Горадзенскай Прытулковай Беларускай Школы Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі за 13.02.1920 з просьбай аб матэрыяльнай дапамозе**
*582.2.46:114 — ра*

**1869. Ліст Аляксея Азнабішына (Бэрлін) Аўгену Ладнову (Парыж) за 14.02.1920**
11 Февраля
Coburger Hof.

Дорогой Евгеній Михайлович!

Узнав из письма генерала, что Вы поѣздку отложили и сильно заболѣли гриппом, весьма обезпокоен. Желаю скораго выздоровленья и надѣюсь это письмо Вас застанет уже здоровым.

Вчера пріѣхал и Цвикевич, к-рый тоже находится в полном согласіи с нами. Заяц все болѣет, лежит, теперь рука распухла — уретрит. Кречевскій з Захаркой тоже по очереди болѣют — очевидно это послѣдствія тяжелаго путешествія сюда.

Политическая конъюнктура наша теперь опредѣленно выяснена, но для работы конечно нужны деньги. Сейчас в них недохват, но необходимые шаги предпринимаются.

Здѣшняя миссія сокращена увольненіем Дит<мана> и Борика. Послѣдній поступил на службу к Сапѣгѣ[1].

Супруга Зайца здѣсь и ухаживает за ним в его болѣзни.

Мое пребываніе здѣсь затягивается, нашлось много друзей и знакомых, но жизнь дорожает ежедневно, в связи с паденіем курса.

Предполагается созыв Бѣл. конференціи здесь, недѣли чрез двѣ. Вы тоже получите приглашеніе. Іезовитов тоже. Положеніе офицерства здѣсь отчаянное и всѣ они жаждут дѣйствительной работы. Погода здѣсь гнусная, дождливая, и много поэтому больных.

Барков отличо справился со своим дѣлом, хорошо себя поставил и завел связи в прессѣ здѣшней. Выяснилось, что в поѣздкѣ Д<итмана?> он участія не принимал и что сдѣлано было это помимо его. Телеграмму извѣщающую о посылкѣ Д. он тоже вынужден был послать.

Крѣпко жму Вашу руку, желаю полнаго выздоровленья и остаюсь искренне Ваш преданный и уважающій АОзн....

Привѣт генералу и благодарность за пересылку писем, к-рыя я получил.

*582.1.04:026r-027*

[1] Гл. дакумэнт №1970.

**1870. Ліст Кіпрыяна Кандратовіча (Парыж, 24 Rue Bayard, Paris VIIIe) Антону Луцкевічу (Варшава, Hotel de Saxe) за 14.02.1920 і канвэрт**

*582.1.41:091&r-092&r-090&r*
*582.1.41:093 — канвэрт*

**1871. Тэлеграма Сьцяпана Некрашэвіча (Варшава) Вулічу (Парыж) за 14.02.1920**

Vulitch — 58 rue Taitbou
Paris — Urgent

Veuillez prier colonel Eugène telegraphier reception des paquets envoyés par Antoine dans valise diplomatique point mon adresse Hôtel Saxe

Niekrachevitch

14.II.20
Varsovie, Hotel de Saxe
*582.2.33:139 — рк*
*582.2.48:077 — квіт*

**1872. Тэлеграма Аўгена Ладнова (Парыж) Антону Луцкевічу (Варшава) за 15.02.1920**

=d= loutzkievitch hotel saxe varsovie =

3141/10 dd paris 17386 20 18 , 25 =

= recu telegrammes le cing & huit point demarches faites envoi lettre par prague = eugene vulitch .+

*582.2.33:150*

**1873. Пераклад артыкулу: Эксплюатацыя лясоў у Беларусі // Беларусь (Менск). №33. 15.02.1920**

*582.2.54:164&r -165&r— рк бел*
*582.2.54:065-066 — мк фра*

**1874. Ліст Аўгена Ладнова (Парыж) Антону Луцкевічу (Варшава) за 16.02.1920**

16/II 20. Париж.

Дорогой, Антон Иванович!

Почта (чешскій курьер) отправляется только сегодня, а потому письмо мое Вы получите с большим опозданіемъ, относительно времени отправки телеграммы, подписанной Eugène Vulitch.

Отъ чехов писем никаких не поступило. Наводил справки в Чешской делегаціи; там также нѣт ничего. Просили написать офціальное заявленіе в Мин. Иностр. дѣл, что я исполню сегодня, одновременно с этим письмом.

Был у Графа Тышкевича. Он болен гриппом. Его личный Секретарь Шумицкій категорически заявил мнѣ, что никаких переводов и приказов не поступало, такъ как вся переписка Графа, даже самая секретная, в его руках.

Если можно, возьмите у Петлюры лично хотя самую небольшую сумму и пришлите ее въ пакетѣ через чешское посольство. Я не вѣрю ни Графу ни его Секретарю. О них здѣсь существует вполнѣ опредѣленное мнѣніе, как объ агентах польских. Доказательств, кромѣ разговоров, я никаких не имѣю.

Прилагаю письмо Ознобишина. Если возможно, сохраните его. Если у Вас могут его взять, лучше уничтожьте. Я не понимаю роли Цвикев<ича>.

Написал письмо Захарко и послал через случайное, надежное лицо. Въ письмѣ сказал: Против народа я не пойду. Пусть дѣлают сами, что хотят. Нужен мир, а не война; не вражда и междоусобія, а взаимная поддержка, единый фронт». Если они думают иначе, я отказываюсь от всяких должностей. Таков смысл моего письма. Я предложил съѣхаться всѣм в Прагѣ. Как только получу отвѣт, сообщу Вамъ.

Вулич передал мнѣ, что полякам извѣстно о нашем Критическом финансовом положеніи. Странно это! Будьте осторожны в разговорах. Если нам удастся продержаться 2-3 мѣсяца, то дѣло наше будет стоять твердо.

Интернированіем Вас поляки дали возможность поднять шум и вмѣстѣ с тѣм поднять бѣлорусскій вопрос. Протесты Ваши я разослал всѣм послам Великих Держав, Предсѣдателю Фр. Палаты депут., в Комиссію

по Иностр. дѣлам той же палаты, Дружественным нам делегаціям. Въ ближайшіе дни напечатаем в газетах.

Будьте тверды; не открывайте никому секретов; бойтесь женщинъ; помните, что есть тайны даже от жены! Обратите на мое предостереженіе самое серьезное вниманіе, если вѣрите в мою Дружбу и мое доброжелательство к Вам.

Попросите у Петлюры помощи, если он истинный Друг и доброжелатель.

Здѣсь носятся тревожные слухи, будто в самой Польшѣ внутреннее положеніе очень ненадежное: пахнет большевизмом.

Секретарь Гр. Тышкевича — Шумицкій предложил мнѣ организовать Совѣтъ Національностей: Украинцы, бѣлорусы, эстонцы, финляндцы, латыши.

На днях начнем работать в этом направленіи.

Пишу протесты в Мирную Конференцію против поляков: продажа наших лѣсов, реквизиціи, противодѣйствіе работѣ Бѣлор. Правит., Радѣ Республики и т.д.

Бѣда, что нѣт средств. Занял у Вулича на необходимые расходы, но он сам в данное время захвата рудников большевиками снова оказался в тяжелых матерьяльных условіях.

Пришлите, если можно, через Чехов. Отъ Гр. Тышкевича наверное ничего получить не удастся: очень пахнет польским духом.

Зная критическое финансовое положеніе наше, поляки примут всѣ мѣры противодѣйствія, и Гр. Тышкевич вряд ли окажется нашим доброжелателем.

Будьте здравы! Будьте благополучны.

Телеграммы буду посылать через Дубейковскаго. Подпишусь Eugène Vulitch. Какъ только получите письмо, телеграфируйте: «Прибыл благополучно». Некрашевич. Если пошлете деньги через Чехов, телеграфируйте: «Письмо отправлено такого-то. Некрашевич». Я буду знать, что письмо Вами получено и помощь финансовая близка.

Крѣпко жму руку. Ваш, ЕЛаднов

Только что меня посѣтил представитель финансовой группы, с которой веду переговоры о концессіи. Он сообщил, что в средѣ франц. парламентаріев возникла идея: организовать «Комитет защиты Бѣлоруссіи». Храните это в секретѣ. Дай, Боже, нам перебиться 2-3 мѣсяца, и дѣло наше не пропадет, с Божьей помощью.

Ваш, Е Ладнов

*582.1.04:035&r*

**1875. Тэлеграма Васіля Захаркі (Прага) Антону Луцкевічу (Варшава) за 16.02.1920**

Łuckiewicz Warszawa hotel saski =

Praha 614 17 15 9 20 wktbl =

kali nepakinece karistacca nenaleznim wam stanowi seszem budiete prywaneny u presse da bachanowiczsa =

zacharka = taktu =

*582.2.30:020*

**1876. Нота пратэсту Дыпляматычнае Місіі Ўкраінскае Народнае Рэспублікі ў Варшаве за 17.02.1920 супраць абвешчаньня Саветам Народных Камісараў РСФСР мірных прапановаў ад імя Ўкраінскага Ўраду**

*582.2.34:032-033 — мк*

**1877. Рахунак Складу Паперы «Awanti» на 23,50 марак за канцылярскія тавары за 17.02.1920**

*582.2.48:075*

**1878. Тэлеграма Сьцяпана Некрашэвіча (Варшава) Міколу Вяршыніну (Прага) за 18.02.1920**

Verszinin — Sokolska 22
Praha-Czeska Terminowa

Antoni prosi Cwika wstrzymać się przyjazdem Waeszawy kropka pieniądze należne przysyłajcie

Niekraszewicz
Warszawa, Hotel Saski

*582.2.30:019 — рк*
*582.2.48:079 — квіт*

**1879. Ліст старшыні Рады Народных Міністраў Беларускае Народнае Рэспублікі Антона Луцкевіча (Варшава) галаве Дырэкторыі Ўкраінскае Народнае Рэспублікі Сымону Пятлюры (Варшава) за 18.02.1920 (вых. №71)**

Варшава, 18 лютага 1920.
№71

Яго Дастойнасьці
Пану Голове Дырэкторыі Украінскае
Народнае Рэспублікі і Голоунаму
Атаману Яе Войск

На просьбі Беларускага Ураду з 12.І.1920 году за №21 аб выдачу авансам у лік раней прошанае пазыкі сумы 5.000.000 карбованцау Вашаю Дастойнасьцю была тагож чысла паложана рэзалюцыя, каб гэта справа была полагоджана пасьля атрыманьня грошы з Каменца.

З прычыны тру[д]насьці перавозкі грошы з Каменца у Варшаву, а також выясьненьня, што рэалізацыя сказанае сумы у гэты мамэнт з фінансовага пагляду магла бы быць непажадана, Беларускі Урад мае чэсьць гэтым прасіць Вашу Дастойнасьць аб перамену асыгноукі у такой форме: гатоукаю на 500000 корон (паумільена корон) і акрэдытывам на Бэрлін на 3.000.000 нямецкіх марок (тры мільены ням. марок) — усе на рукі нашага Пасла на Украіне Аляксандра Цьвікевіча.

З свайго боку Беларускі Урад абязываецца па рэалізацыі акрэдытыву на Бэрлін пагасіць з атрыманае гэтак сумы частку старога доугу па атрыманай ад Украінскага Ураду пазыцэ у 1919 годзі у ліку 4.000.000 карбованцау.

Старшыня Рады Народных Міністраў і Міністэр Загранічных Спраў і Фінансаў: А.Луцкевіч

*582.2.34:035 — мк*

**1880. Ліст Леаніда Баркова (Бэрлін) Антону Луцкевічу (Варшава) за 18.02.1920**

*582.2.31:053&r-054&r*

У лісьце паведамляецца пра знаходжаньне ў Бэрліне Аляксандра Цьвікевіча на працягу 10 дзён («...чрезвычайно грустно было услышать изъ устъ АИ Цв. въ отвѣтъ на мои вопросы, что онъ ничего мнѣ сообщить не можетъ, тк для него положеніе такъ же неясно, какъ и для меня...»), пра стан Місіі, скарачэньне штатаў (звольненыя Дзітман і Борык).

**1881. Ліст дзяржаўнага кантралёра БНР Лявона Зайца (Бэрлін) міністру фінансаў БНР Антону Луцкевічу (Варшава) за 18.02.1920**

П. Міністру Фінансаў

На Вашу паперу маю гонар паведаміць, што, ні адмаўляючыся ні ад якой фактычнай працы, я, як выбраны Радай Рэспублікі Дзержаўны Кантралёр — пасады Дзержаўнага Скарбніка прыняць ні магу і ні маю права, аб чым і даводжу да Вашага ведама.

Дзержаўны Кантралёр ЛЗаяц

*582.2.31:056*

**1882. Тэлеграма Сьцяпана Некрашэвіча (Варшава) Леаніду Баркову (Бэрлін) за 18.02.1920**

Barkow
Motzstrasse 21
Berlin
Dringend.

Prosim Aleksandra Iwanowicza czakać Berlinie nowych wiestak kropka hroszy pryszlicie

Niekraszewicz
18.П.20

*582.2.31:057 — рк*
*582.2.48:078 — квіт*

**1883. Тэлеграма Аўгена Ладнова (Парыж) Антону Луцкевічу (Варшава) за 19.02.1920**

=urgent= loutskievitch hotel saxe varsovie =

paris 5945 18 18 12./30 voie allemagne

= recu les deux paquets le 15 envoye lettre prague attendez nouvelles = eugene vulitch .+

*582.2.33:136*

**1884. Рапарт шэфа Вайскова-Дыпляматычнай Місіі БНР у Латвіі і Эстоніі палкоўніка Кастуся Езавітава (Рыга) міністру замежных справаў БНР Антону Луцкевічу (Варшава) за 19.02.1920 (вых. №190)**
19 Лютага 1920
№190

Міністру Загранічных Спрау
Беларускай Народнай Рэспублікі

Рапарт.

У адказ на Ваш №33 ад 26 студня г/г., маю гонар паведаміць, што я два разы рабіу крокі прад Латвійскім Урадам аб пераводзе Асобнага Атрада Гэнэрала Булак-Балаховіча на тэрыторыю Беларусі, у частнасьці — Вітэбскай губэрніі, — першы раз, у лістападзе 1919 г., славесна, другі — 13 студня г/г. нотай за №47 і, на абыдва пытаньня, атрымау адказы ад Латвійскага Ураду ад 11.XII.19 г. №5451 і ад 28.I.20 г. №Р.309/1461 з адмовай у спауненьню маей прозьбы, матывіраванай тым, што лічучысь з сучасным становішчэм Латвіі перавод Асобнага Атрада зьяуляецца не магчымым.

Прыміця, Грамадзянін Міністэр, заверэньня у вялікай да Вас пашане.

Шэф Місіі,
Палкоўнік К.Езавітаў

За Сэкрэтара Станевіч
*582.2.47:059 — ма*

**1885. Нота шэфа Вайскова-Дыпляматычнай Місіі БНР у Латвіі і Эстоніі палкоўніка Кастуся Езавітава міністру замежных справаў Нямеччыны (Бэрлін) за 19.02.1920 (вых. №192) з патрабаваньнем прызнаць незалежнасьць Беларусі й прымаць да візаваньня пашпарты БНР**
*582.2.47:054,056,058 — рк ням*
*582.2.47:057 — рк рас*

**1886. Ліст «Міколы» [Кастуся Езавітава] (Рыга) [Пятру Крэчэўскаму й Васілю Захарку (Бэрлін)] за 20.02.1920**
20.2.20.

Канфэрэнцыя — добрая рэч, але трэба её рабіць с толком. Я адсюль да атрыманьня грошэй выехаць не магу.

Можно б было зьехацца і ў мяне, бо тутака Вы усе маглі б атрымаць візы і выехаць ў Фінляндзію, Данію, Гэрманію і іншыя мейсца, а таксама і на Усход[1].

С усходом прыдзецца сурьезна лічыцца, бо мы «мост» паміж Вашым сягоньняшнім адрэсам, куды хоча варвацца усход, і усходам.

Трэба гэта скарыстаць і заключыць з імі умовы проці ожэлка[2]. Нашы сацыяльныя, нацыянальныя, арыентацыйныя і культурныя патрэбы гэтаго вымушаюць.

Чэкаю грошэй, як манны.

Ці зьнесліся Вы з Цвікевічэм і хто атрымае грошы ад украінцаў? Калі не знесліся, дык знасіцесь худчэй, каб грошы не папалі АнтонуЛу[3].

Мікола.

Антон Луцкевіч інтэрнован, як тэлеграфуе Вершынін.
*582.2.47:047&r-047a&r — ра*

Аўтарства вызначанае паводле почырку. [1] У Расею. [2] Польшчы. [3] Луцкевічу.

**1887. Расьпіска шэфа Канцылярыі Найвышэйшае Рады БНР Сьцяпана Некрашэвіча (Варшава) за 20.02.1920 аб атрыманьні ад Антона Луцкевіча 1.500 марак у лік пэнсіі за люты**
*582.2.48:083 — ра*

**1888. Тэлеграма Сьцяпана Некрашэвіча (Варшава) Леаніду Баркову (Бэрлін) за 21.02.1920**
Barkow
Motzstrasse 21
Berlin
Dringend.

Prosim Cwika żdać pryjezdu Martosa telehrafujcie wysyłce hroszy

Niekraszewicz
21.II.20
*582.2.31:061 — рк*
*582.2.48:080 — квіт*

**1889. Рапарт шэфа Вайскова-Дыпляматычнай Місіі БНР у Латвіі і Эстоніі палкоўніка Кастуся Езавітава старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антону Луцкевічу за 21.02.1920 (вых. №201)**
21 Лютага 1920
№201
м. Рыга

Старшыне Рады Міністроу
Беларускай Народнай Рэспублікі

Рапарт.

Пры гэтым маю гонар прэдставіць адрэсованнае Вам, Грамадзянін Міністэр, прывітаньне «Першага схода Беларускага грамадзянства у м. Лібаве» і рэзалюцыю гэтага-ж сходу прынятую ім 8-га гэтага лютага.

Шэф Місіі,
Палкоўнік К.Езавітаў

За Сэкрэтара Станевіч
*582.2.47:048 — ма*

**1890. Ліст шэфа Вайскова-Дыпляматычнай Місіі БНР у Латвіі і Эстоніі палкоўніка Кастуся Езавітава Надзвычайнай Місіі БНР у Бэрліне за 21.02.1920 (вых. №203)**

21 Лютага 1920
№203

Надзвычайнай Місый
Беларускай Народнай Рэспублікі у Бэрліне.

Я ужэ паведамляу Вас, што нахожусь у самых крытычных варунках, што справа тутака ідзе найбольш сурьезна, чым в іншых мейсцах, а таму патрэбуе асаблівых выдаткау, што консульства можэ толькі падтрымліваць сваю працу, і прасіу дапамогі.

Вы паслалі усяго 10.000 марак, што не толькі мяне не спасае, але і не дае перадышкі.

Зноу паутараю, што я павінен буду спыніць тутака працу і уцекаць без аглядкі калі не атрымаю праз гэтага курьера хаця бы 50.000 марак.

Выехаць куды бы та ні было без аплаты тых далгоу, якія тутака зроблены, я не магу.

Шэф Місіі,
Палкоўнік К.Езавітаў

За Сэкрэтара Станевіч
*582.2.47:052 — ма*

**1891. Ліст шэфа Вайскова-Дыпляматычнай Місіі БНР у Латвіі і Эстоніі палкоўніка Кастуся Езавітава Надзвычайнай Місіі БНР у Бэрліне за 21.02.1920 (вых. №204)**

21 Лютага 1920
№204

Надзвычайнай Місый
Беларускай Народнай Рэспублікі у Бэрліне.

Пасылаю Вам копію ноты, якую я паслау нямецкаму ураду[1]. На моцы гэтай ноты зрабіце крокі, каб Вы былі пастаулены на афіцыяльны грунт. Я чэкаю ад яе вялікіх рэзультатау.

Калі Вы тамака зробіце належные крокі, але не праз трэцьціх ліц і ня з чорнага ходу, як гэта у Вас зауседы рабілася, дык маі курьеры не павінны будуць меняць мае дыплематычныя пашпорты на уселякія паліцэйскія папэры, а Вы самі будзеце Місыяй, а не грамадзянскім прыватным гуртком, пражываючым у месьце з Божьей ласкі.

Шэф Місіі,
Палкоўнік К.Езавітаў
*582.2.47:052 — ма*

[1] Дакумэнт №1885.

**1892. Тэлеграма «Маляванага» (Варшава) Пятру Крэчэўскаму й Васілю Захарку (Бэрлін) за 22.02.1920**

= dringend = dr miller fur
kreczewski = zacharko schilstr 15 berlin =

3131/22 berlin warszawa c 68911 61 22 20 19 30

= otrzymalismy depesze ksieni nastepujaca towar zginal na granicy punkt prostken tesnyka jade on poczeka mojemy rzeczami do mego powrotu stop telegramy tej nie rozumiemy prosze depeszowac warszawa chmielna 49 hotel malowanemu co ta depesza znaczy jezeli trzeba wyjechac szukac towaru to wyjezdzamy grajewo dokad prosze wyslac czlowieka wiadomosciami dokumentami hotel polski = malowany +»

*582.2.47:016 — а*

---

Абставіны невядомыя. Аўтар тэлеграмы ня выяўлены

**1893. Ліст Аляксандра Вальковіча (Рыга) Васілю Захарку (Бэрлін) за 22.02.1920**

Дараженькі Васіль.

Я толькі сеньня прибыл у Рызи. Як ты выехаў я на другій дзень был заарэштован Польскай жандармэрыяй і был імі прымушан нікуды не выезжаць з Менска. Але 8 лютага мне такі удалося утечы у Вільню, а з Вільні у Латвію.

У нас пакуль што без перемен калі не прынять пад увагу здареньня з Луцкевічам, яго як і Вам мусіць ужо быць ведама інтэрніровалі.

Нашы товарышы сідзяць у Менску бо за усім не маюць грошей каб куды выехаць дзеля працы.

Грыб, Ластоўскі, Бадунова і Трафімаў тож сідзяць і чэкаюць ад Вас грошай. Мамонька выехаў на Літву.

Усё што можна было зрабіць в напрамку на усход робіцца.

Я може быць скоро пріеду в Берлін, то тагды або ўсем расскажу. Бо пісаць а палітыцэ трохі баюся.

Вось што, калі ты грошей еще не высылал, так зачэкай на мяне, калі у тебя не знойдецца такого человека праз каторага можна была бы паслаць. Я прыехаўшы гэта устрою.

Прывет п.п. Зайцу, Крычэўскаму и др. сябрам.

Паваж. твой АВальк.

22/II 20 г., Рыга.

*582.2.47:055&r-055a — ра*

**1894. Ліст шэфа Вайскова-Дыпляматычнай Місіі БНР у Латвіі і Эстоніі палкоўніка Кастуся Езавітава Надзвычайнай Місіі БНР у Бэрліне за 22.02.1920 (вых. №206)**

22 Лютага 1920
№206

Надзвычайнай Місыі
Беларускай Народнай Рэспублікі у Нямеччыне.

Пры гэтым перасылаецца пяцьдзесят (50) шт. дыплематычных пашпартоу, на якія трэба зрабіць пераплеты.

Шэф Місіі,
Палкоўнік К.Езавітаў

За сэкрэтара Станевіч

*582.2.47:060 — ма*

**1895. Загад па Міністэрстве Нацыянальнай Абароны БНР за 24.02.1920 аб павышэньні Кастуся Езавітава да рангу генэрал-маёра**

*582.1.04:023 — ра*

**1896. Мэмарыял Беларускай Дэлегацыі Нарадзе Паслоў на Мірнай Канфэрэнцыі ў Парыжы за 24.02.1920**

Парыж 24 лютага 1920.

У траўні 1919 г. беларускай Дэлегацыяй у Парыжы быў прэдстаўлен Міравой Конфэрэнцыі мэморандум, у якім была парушэна справа прызнаньня незалежнасьці Беларусі у яе этнаграфічных межах. Да гэтага часу гэта справа не была разьвязана Нарадай і дзеля гэтаго палажэньне Беларусі с палітычнаго пагляду — не установленае.

У апошні час заходняя частка Беларусі оккупована Польшчай; яе усходняя частка знаходзіцца пад панаваньнем Савецкай Расеі. Літва стаіць за анэксію Віленшчыны і Гродзеншчыны, ня гледзючы на факт, што жыхары-літоўцы там знаходзяцца у незначнай меньшасьці.

У сьнежні 1918 міравая Конфэрэнцыя у Парыжы устанавіла усходніе межы Польшчы. Згодна с пастановай Міравой Конфэрэнцыі толькі тры паветы Гродзенщіны, якіе ўходзяць у склад Беларусі (паветы Саколка, Беласток і Бельск) перайшлі да Польшчы. Аднача гэта пастанова не была Міравой Конфэрэнцыяй абвешчэна афіцыальна. У апошні час ва ўсей частцы Беларусі , аккупованй палякамі ўведзена польская адміністрацыя.

Гэтае неўстаноўленае палажэньне Беларусі шкодна адбіваецца на палітычных і экономічных інтэрэсах жыхароў.

Узяўшы пад увагу тое, што ў бліжэйшым будучым міравые перэгаворы мусяць быць пачаты паміж Савецкай Расеяй і Польшчай у часе якіх тэрыторыяльные інтэрэсы Беларусі павінны быць закрануты, народ беларускі абвешчае, што ён лічыць зусім недапусьцімым ўсякіе угоды (канвэнцыі) якіе могуць нарушыць яго правы на ўсходняй тэрыторыі быўшай Расеі. Дзеля гэтаго у імя прынцыпу самаазначэньня народаў даканчэ прызнаць, як можна хутчэй незалежнасьць Беларускай Дзержавы ў яе этнографічных межах (згодна прыложэнай карце).

Беларускі Урад находзіць патрэбным:

І. каб прэдстаўнікі Беларусі прынялі учасьцьце ў памянутых перэгаворах

ІІ. каб было варункам міра — sine qua non — (абавязковым) ачышчэньне бальшавікамі часткі Беларусі оккупаванай імі, выразне Магілеўшчына, Смаленшчына, Вітэбшчына і паўночная частка Чарнігоўшчыны.

Дэлегацыя мае гонар прэдставіць дзеля ведама Міравой Канфэрэнцыі усе вышэйвыложэнае.

За Старшыню Дэлегацыі
палкоўнік Ладноў

*582.2.54:168&r -169 — р перакладу на беларускую мову*
*582.2.54:170-172 — мк фра*

**1897. Дэклярацыя Беларускай Дэлегацыі на Мірнай Канфэрэнцыі ў Парыжы за 25.02.1920, падпісаная Аўгенам Ладновым**

Беларускі Народ, некалі вольны і незалежны, а пасьля паняволены на доугія гады двума суседзямі: Польшчаю і Расеяй, у мамэнт развалу старой Расейскай Імперыі ясна і катэгорычна выявіу сваю волю: волю жыць незалежным жыцьцем у сваей незалежнай дзяржаве — Беларускай Народнай Рэспубліцы і самому паводле свае думкі устанауліваць свае адносіны да суседзяу.

Гэнае выяуленьне волі народам адбылося на Усебеларускім Нацыянальным Конгрэсе у Менску у месяцы сьнежню 1917 году, на каторым быу прадстаулены увесь Беларускі народ у асобах каля 2000 сваіх выбранцау.

Згодна з пастановамі гэнага Конгрэсу быу утвораны провізорычны сувэрэнны правадаучы орган Беларускай Народнай Рэспублікі — «Рада Рэспублікі» — і орган выканаучы — «Рада Народных Міністрау», як часовы Урад да сазыву Установчага Сойму Беларусі

Выпауняючы загады сувэрэннага прадстауніцтва Беларусі, Беларускі Урад паслау Дэлегацыю на Міравую Конфэрэнцыю у Парыж, каторая у абшырным мэморыяле пазнаеміла Конфэрэнцыю з палажэньнем і воляю Беларускага Народу. Аднак Конфэрэнцыя справаю Беларусі не занялася. А пад той час Беларуская Зямля папала пад уладу двух роуна варожых для яе сіл: Савецкае Расеі, каторая ужо раз была зьнішчыла зачатак беларускай дзяржаунасьці, і Польскае Рэчыпосполітай, якая вустамі Начальніка Польскае Дзяржавы сперша апавесьціла прынцып самаазначэньня для «вызволенага» насяленьня Беларусі, а пасьля цынічна патаптала гэны прынцып, праводзячы палітыку прымусовага апалячываньня і абрабовываньня Беларускага Краю з яго натуральнага багацьця.

Польшча, каторая у асобе Ураду Морачэвскага фактычна прызнавала незалежнасьць Беларусі і офіцыяльна паведамляла Раду Беларускае Народнае Рэспублікі аб утварэньні гэтага Ураду, — Польшча, каторая яшчэ так нядауна у асобе Прэмьера п. Падэрэвскага вяла перагаворы з Старшыней Рады Народных Міністрау Беларусі і дзеля гэтагаж заклікала яго з Парыжу ў Варшаву, — цяпер, напередодні міравых перагаворау з Савецкаю Расеяй, рэзка зьмяніла сваю палітыку у адносінах да Беларусі і вераломна інтэрнавала ў Варшаве Галаву Беларускага Ураду, п. Луцкевіча. Гэтак Польскі Урад маніцца пазбавіць беларусау магчымасьці падаць свой голас у найбольш важны для іх мамэнт і эвэнтуальна разстроіць пляны польскага імпэрыялізму. А пляны гэтыя: падзяліць Беларусь з Савецкаю Расеяй і захапіць у свае рукі вялізарную часьць нашае Бацькаушчыны.

Маючы гэткую мэту, польская окупацыйная улада адначасна змобілізавала усе свае сілы, каб за час свайго панаваньня прыдаць Краю Беларускаму польскі нацыянальны характар. Вось жменя фактаў — малая частка таго, з чаго складаецца штодзеннае жыцьцё Беларусі пад польскай акупацыяй.

У Вільні, адвечнай сталіцы Беларуска-Літоўскае Дзяржавы, ў гэтым

найвялікшым культурным цэнтры Беларусі і беларускага нацыянальнага творства, з усіх бакоў густой масай акружоным беларускім насяленьнем, — палякі дзеля дэмонстрацыі сваей культурнае тут перавагі заснавалі польскі унівэрсытэт, хаця дзеля укомплектаваньня яго прышлося пазабіраць прафэсароў з унівэрсытэтаў Польшчы, пакінуўшых нікім незамешчаныя катэдры у сябе дома. Унівэрсытэт гэты, ігноруючы мяйсцовыя нацыянальнасьці, нічым ня зьвязаны з Беларусьсю, адзінакава мог бы істнаваць у Варшаве, Кракаві, Познані...

Усюды засновываюцца польскія гімназіі. А адначасна з гэтым у мястэчку Будславі, Віленскае губэрні, окупанты зачынілі істнаваўшую там ужо тры гады беларускую гімназію і ў яе будынку, пастаўленым за крывавыя народныя грошы, адчынілі зусім непатрэбную для беларусаў польскую гімназію. Пратэст насяленьня з подпісамі каля 600 бацькоў вучыўшыхся ў беларускай гімназіі дзяцей быў окупантамі пакінут без ніякае увагі...

У Гродні беларуская прагімназія выкінута окупантамі з дадзенага ей мястовым самаупраўленьнем будынку колішняе расейсае школы і ня мае адпаведнага памяшчэньня дзеля далейшае навукі. А ў тым будынку заснована польская школа.

Сотні беларускіх народных вучыцялёў галадаюць без работы (асабліва у Віленскай і Гродзенскай губэрнях), бо окупанты не пазваляюць адчыняць па вёсках беларускіх школ: ня гледзячы на выразныя дамаганьні насяленьня беларускае школы, для яго адчыняюць выключна польскія школы. У адным толькі Гродзенскім павеці окупанты адкінулі без ніякіх матываў 24 прыгаворы сельскіх сходаў, пастанаўляўшых заснаваць для сваіх дзяцей школы беларускія. Копіі гэных прыгавораў былі пададзены такжа безпасрэдна і Начальніку Польскае Дзяржавы, але гэта ніякага рэзультату ня мела. А ў тым жа Гродзенскім павеці окупанцкі школьны інспэктар у п. 6 цыркуляру №16 з 3 студзеня 1920 загадывае вучыцелём усіх школ бяз розніцы нацыянальнасьці навучыць да канца красавіка ўсіх дзяцей пеяць польскі нацыянальны гымн «Jeszcze Polska nie zginęła»...

Атрымліваючы велізарныя запасы прадуктаў і адзежы ад Дзяржаў Антанты дзеля помачы дзецям у Польшчы, разумеючы ў гэтым і занятыя палякамі на Усходзі землі, окупанты ў Беларусі (асабліва ў Віленскай і Гродзенскай губэрнях) надзяляюць бадай выключна польскія прытулкі, ў каторых дзяцей беларускай беднаты за цану хлеба перарабляюць на «палякоў». Каліж беларускія прытулкі просяць аб выдзяленьне і ім адпаведнае падмогі для іх дзяцей, ім у гэтым адмаўляюць і прапануюць перадаць усіх дзяцей у польскія рукі дзеля спольшчаньня. І беларускія дзеці, рэзка адчуваючы крыўду і гвалт чужынцаў, са сьлязьмі адмаўляюцца ад «сытага жыцьця» у польскіх прытулках, дзе павінны былі бы адрачыся сваей мовы і нацыянальнасьці, ды астаюцца на паўгалоднае бытаваньне паміж сваімі! Гэткія факты устаноўлены у Гродні і Вільні, ня кажучы ўжо аб глухой правінцыі.

Зьбіраючы вялікія сумы з окупованых зямель у форме ўсялякіх падаткаў і збораў, палякі вытрачываюць іх бадай выключна на полёніза-

цыйныя мэты: на польскія установы, патрэбныя сполёнізованым вышэйшым станам, — бойкотуючы беларускія школы і культурныя установы, якія абслужываюць многамільённыя чыста беларускія народныя масы.

Так сама бойкотуюцца беларускія установы, маючыя мэтай сваей эканаміцкую самапомач насяленьня. Эканаміцкую помач, наагул даваную Беларусі у самых мізэрных разьмерах — бадай толькі для віду, палякі ужываюць усё дзеля тэй жа мэты: полёнізацыі краю, даючы яе цераз рукі польскіх установ яўна полёнізатарскага характару («Komitet obrony Kresów» і інш.).

Адначасна польскія окупацыйныя ўласьці захопліваюць нацыянальнае багацьце Беларусі, даючы польскім прыватным таварыствам манапольнае права на скупку і экспорт заграніцу лёну, каноплі, шэрсьці, шчаціны і т.д. (напр. таварыству «Len Krajowy Wschodni»), а так сама распрадаваючы краёвыя лясы (напр. слаўную «Белавежскую Пушчу» у Гродзенскай губ. і лясы ў Палесьсі), на што не пасягалі нават немцы ў часе трохгадовае окупацыі. І за ўсё гэнае беларускае багацьце, прадаванае заграніцу, палякі атрымліваюць эквівалент у таварах выключна для этнаграфічнае Польшчы або заграмічную валюту дзеля падняцьця курсу абязцэненай польскай маркі. А з таго, што за беларускае дабро прыходзіць у таварах з заграніцы у Польшчу, да Беларусі даходзяць адно нейкія крошкі і то па цэнам а 50-100% вышэйшым, чым тыяж тавары прадаюцца ў Польшчы...

Апрача арганізаванага рабаваньня окупованай Беларусі йдзе і рабунак неарганізаваны ў форме безупынных, робленых без ніякага пляну і лёгікі рэквізыцый. Асабліва адзначываецца ў гэтым польская жандармэрыя: гэта прызнаецца офіцыяльна Польскім Урадам, каторы ў Брэст-Літоўскім окрузі быў прымушаны з прычыны грознага становішча насяленьня расформаваць жандармэрыю і замяніць яе дзяржаўнай паліцыей. Найбольш церпіць Беларускі Народ ад окупантаў у прыфронтовай паласе: у Менску, горадзі з больш чым 100,000 насяленьня, ў белы дзень адбываюцца рабункі крам польскімі салдатамі, — а па вёсках чуваць агульны плач і стогны рабаваных сялян.

Народ Беларускі, каторы спатыкаў польскае войска, як войска прыязнае, цяпер зусім натуральна бурыцца супроць гэтага. Сяляне вельмі часта даюць аружны адпор пры незаконных рэквізыцыях, за што пасьля окупанты паляць непакорныя вёскі з усім дабыткам. Нават здалёк ад фронту — ў Брэст-Літоўскім павеці — вельмі часты прыпадкі забойства сялянамі польскіх жандароў (напр. у с. Малорыто забіты 4 жандары). Каля Кобрына сформаваўся нават атрад паўстанцаў лікам да 500 душ, каторы польскі Урад і польская прэса ахрысьцілі імем «бальшавікоў» прарваўшыхся пад Пінскам цераз фронт (з-за 150 вёрст)! Тыя самыя беларускія дружыны «зялёнае арміі», якія падчас панаваньня ў Беларусі бальшавікоў працавалі на тылах бальшавіцкае арміі і шмат памаглі палякам у іх паходзі ўпярод, цяпер арганізоўвуюцца дзеля барацьбы з польскай окупацыяй.

Польскія ўласьці і польская прэса старанна замаўчываюць гэткія факты. А разам з тым окупанты стараюцца фальшаваць голас народных мас і ў тых ваколіцах, дзе ёсьць беларускае каталіцкае насяленьне, вельмі рэ-

лігійнае і паслушнае духавенству, палякі пры помачы каталіцкага кліру, пераважна нацыянальна польскага, вядуць спэцыяльную работу дзеля фабрыкаваньня «польскіх сымпатый». Так, па касьцёлах з амбоны у сьвяточныя дні ксяндзы — агенты палякоў — зазываюць парахвіян на сходы быццам-то конфэсыянальнага характару і на гэных сходах, карыстаючыся павагай сваей духоўнай сутанны, прымушаюць беларускіх сялян выбіраць так-званыя «Rady Ludowe» (народныя рады), склад каторых дыктуецца тыміж ксяндзамі. А у склад гэных «рад» уваходзяць звычайна ксяндзы, польскія памешчыкі і ў незначным ліку безгалосыя сяляне. І вось такія рады выступаюць ад імя ўсяго Краю (пераважна праваслаўнага) з жаданьнем прылучыць яго да Польшчы, а Польскі Урад пасылае дэлегацыі ад іх у Парыж, як запраўдных прадстаўнікоў Беларусі! А ў тым жа часе каля мільёна беларускіх сялян з Віленскай і Гродзенскай губэрній яшчэ бадзяецца па ўсяму абшару Расеі, куды іх выгналі штыхамі адступаўшыя перад немцамі расейскія войскі ў 1915 гаду. Гэтак пад нябытнасьць вялізарнае часьці насяленьня окупанты стараюцца разьвязаць пытаньне аб іх Бацькаўшчыне!

Для фальшаваньня голасу народу і падгатоўкі ў пажаданым для польскіх аннэксіоністаў духу «плебісцыту» (пад польскімі штыкамі!) утвораны дзьве спэцыяльныя арганізацыі, якія працуюць за польскія урадовыя грошы і карыстаюцца ўсім апаратам окупацыйнай адміністрацыі. Гэта: «Straż Kresowa» («Акраінная Варта»), на услугах каторае цэлая армія вайсковых кур'ераў і агітатараў, і «Komitet Obrony Kresów» («Камітэт абароны акраін»), каторы аказвае на насяленьне сільны нацiск затым, што ў яго рукі окупанты аддалі магутнае аружжа: значную частку апровізацыі Краю!....

Мяйсцовыя няпольскія арганізацыі — у поўным загоне. «Рада Рэспублікі» офіцыяльна аб'яўлена окупантамі распушчанай, хаця пасьля таго «роспуску на паперы» фактычна далей выпаўняла свае чыннасьці і толькі пад грозьбай разгону сілаю аружжа аддала свае мандаты выбранай на засяданьні 13 сьнежня 1919 году «Найвышэйшай Радзе», зложанай з пяці асоб і гэтак больш прыспасобленай да напалавіну нелегальнага істнаваньня, чым «Рада Рэспублікі» з 70 членамі.

Земскія самаупраўленьні, якія перапрывалі нямецкую окупацыю і жылі падпольна пры бальшавіках, палякі аканчацельна разагналі. На іх месца адбываюцца аранжыраваныя окупантамі выбары ў новыя органы самаупраўленьня пры поўнай абстынэнцыі ўсіх беларускіх партый і арганізацый бяз розніцы палітычнага і соцыяльнага кірунку.

Уся няпольская прэса тэрорызавана ваеннай цэнзурай, хаця цывільная цэнзура з вялікай помпаю аб'яўлена скасованай! Цэлы рад беларускіх газэт зачынены (у Вільні, Гродні). У ядынай перапрываўшай дагэтуль беларускай штодзеннай газэці «Беларусь» (у Менску) адбываюцца безупынныя обыскі, выемкі матэрыялаў, разгромы рэдакцыі, арэшты супрацоўнікаў. Аб «Радзе Рэспублікі» і працы Беларускага Ураду зусім забаронена пісаць.

Польскія вастрогі перапоўнены арэштаванымі палітычнымі і партыйнымі дзеячамі — як беларускімі, так і расейскімі, пропагуючымі склі-

каньне Канстытуанты Беларусі. Асаблівыя рэпрэсіі стасуюцца да партыі соцыялістаў-рэвалюцыянераў.

Сотні беларускіх сялянскіх сыноў, якія былі ў часе вайны прызваны ў расейскую армію, там узведзены у афіцэрскія чыны і цяпер вярнуліся ў родныя вескі, — арэштованы палякамі без ніякае прычыны і выміраюць ад голаду і тыфусу ў польскіх концэнтрацыйных лагерах. Гэтак окупанты «ачышчаюць» беларускія вёскі ад найбольш сьвядомых элемэнтаў, якія маглі бы перашкодзіць у польскай аннэксыйнай палітыцы....

Вось як выглядае на практыцы апавешчаная п. Пілсудскім «свабода выяўленьня волі насяленьня»!.....

Толькі стараньням Беларускага Ураду, маючага послух у Народу, трэба дзякаваць за тое, што ў межах польскае окупацыі — на тылах польскіх войск — дагэтуль не паднялося агульнае народнае паўстаньне проці окупантау і не запанавала анархія. Народ Беларускі ждаў з прыходам палякоў волі, але замест яе мае яшчэ горшую няволю, чым пры бальшавіках: вярнуўшыся да сваіх двароў польскія земляўласьнікі, пазанімаўшы кіраўнічыя становішчы ў окупацыйнай адміністрацыі, мсьцяцца над беларускімі сялянамі за ўсё, што перацярпелі ад бальшавікоў, ды вядуць чыста клясовую палітыку.

Народ Беларускі жадае вызваленьня як ад польскае, так і ад бальшавіцкае окупацыі. За ваенным фронтам, у межах бальшавіцкае окупацыі, так сама йдуць безупынныя паўстаньні беларускіх сялян проці панаваньня папрысыланых з Масквы камісараў. І далей там формуюцца дружыны «зялёнай арміі», якая вядзе партызанцкую барацьбу ў паветах Бельскім, Духоўшчынскім, Парэцкім Смаленскае губэрні, Лепэльскім і Полацкім Вітэбскай, Сенненскім і іншых Магілёўскай. А пад той жа час на эстонска-латыскім фронці да апошніх дзён бароўся за незалежнасьць Беларусі беларускі атрад генарала Балаховіча.

Народ Беларускі дае безупынна доказы свайго жаданьня незалежнасьці. І Беларускі Урад, прызнаны Фінляндыяй, Латвіяй, Эстоніяй, Украінай і іншымі новымі дзяржавамі, утварыўшыміся на землях разваліўшаеся Імперыі Расейскіх Цароў, апрача тых, што пасягаюць на Беларускую Зямлю з аннэксыйнымі мэтамі (як напр. Польшча), напярадодні агульнае разьвязкі Усходняга Пытаньня гэтым зварочываецца да Дэмократыі усяго культурнага сьвету і да Урадаў усіх Дзяржаў, прызнаўшых прынцып самаазначаньня народаў, з гэткім прызывам:

1) аб прызнаньне незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі і яе сувэрэнных органаў,

2) аб зашчыту Беларускага Народу ад рабаваньня яго Краю окупантамі як з Усходу, так і з Заходу,

3) аб назначэньне міжнароднае Камісыі для Беларусі, якая бы спраўляла кантроль над гаспадаркай окупантаў і памагала бы Беларускаму Ураду арганізовываць і адбудовываць зруйнаваны пяцілетняй вайной Край — і

4) аб паддз[е]ржку нашага дамаганьня, каб ва ўсіх нарадах і перагаворах аб міры на Усходзі Беларусь мела адпаведны голас у асобе паунамочнікаў яе Ураду.

Мы просім аб помач у абароне нашае Бацькаушчыны ад прагавітасьці нашых суседзяў, якія хацелі-бы разарваць на кускі жывое цела Беларусі і ўжо гатовы пачаць торг намі цераз нашы галовы. Усялякі разьдзел Беларусі, хаця бы аснованы на угодзе паміж Савецкай Расеяй і Польшчай, пакіне ў Беларускім Народзі вечную ненавісьць да захватчыкаў яго Зямлі і вечнае жаданьне рэвіндыкацыі і рэваншу. А гэта будзе ніколі незажываючай ранай на Усходзі Эуропы, грознай для агульнага міру і спакою.

*582.1.57:001-007 — мк*
*582.1.04:003, 582.1.57:008-013 — мк*
*582.2.33:155-161 — мк*

**1898. Ліст Аўгена Ладнова (Парыж) Антону Луцкевічу (Варшава) за 25.02.1920**

25/II 20 г. Париж

Дорогой, Друже!

Получил три пакета: два через французов и один от чехов. Послѣдній почему то был отправлен изъ Праги почтой; мною он получен с большим опозданіем. Въ этом пакетѣ были письма Графу Тышкевичу (расписку о полученіи Графом при сем прилагаю).

Граф был «боленъ». Въ тот же день вечером (24/II) он устраивал обѣд группѣ французских депутатов. Сегодня я был в Укр. делегаціи, но отвѣта нѣт. Видимо ждать поддержки отсюда нельзя. Впрочем, не знаю. Если получу ссуду, телеграфирую. Если можно, возьмите у П<етлюры> наличныя. Пришлите через чехов, французов. Впрочем хорошенько подумайте, я боюсь совѣтовать, не зная подлинной обстановки. Вѣдь за Вами слѣдят во всѣ глаза. Не довѣряйте, ради Бога, ни одной женщинѣ из окружающих Вас. Польки большія патріотки; для Родины сдѣлают все.

Я сдѣлал все зависящее: послал протесты в Палату, Сенат, Мирную Конференцію, всѣм послам, в делегаціи. Сегодня телеграфирую в Лондон Ллойд-Джорджу.

Вулич и его знакомые ведут усиленную работу. Полагаю, что послѣ шума, они вынуждены будут уступить. Нѣт добра без худа. Не волнуйтесь, все к лучшему. Вѣрьте, что у Вас здѣсь опора твердая, вполнѣ надежная.

Кромѣ присланных Вами документов, мнѣ нужны еще копіи Ваших полномочій от Рады и Директоріи. Здѣсь вопрос о формальных полномочіях поднят, и нам важно быть во всеоружіи.

Для опроверженія клеветы необходимо имѣть документы и протоколы, свидѣтельствующіе о природѣ, жизни и дѣятельности Рады и Правительства. Наиболѣе важные акты законодательной дѣятельности Рады (формированіе Правит.*, Законы о землѣ, рабочем вопросѣ, Конституція и т д). Распоряженія Правительства, циркуляры, и др. Пришлите, как можно скорѣе, полную довѣренность от Имени Директоріи на право покупки, продажи, залога Госуд. Имущества, на право выдачи концессій на лѣса, воды, эксплоатацію торфа, постройку дорог и др. Документ долженъ быть составлен юристом.

Есть группа, финансистов, заинтересованная в лѣсной концессіи. Единственный путь получить поддержку нашему дѣлу — дать иностранцам

концессію. Прошу как можно скорѣе прислать полномочія на дачу лѣсных концессій.

Я Вамъ послалъ 16/II черезъ Прагу, в секретном пакетѣ на имя Б<енеша?> для пересылки Вам в Варшаву, дипломатическій пакет. Информацію дал самую обширную: писал нѣсколько дней. Очень безпокоюсь об этом пакетѣ. Зайдите в чешское посольство, напишите письмо Б<енешу> от Вас; будет ужасно, если они пошлют Вам почтой или передадут через два мѣсяца, подобно письму моему от 16/XII 19, посланному мною через их посредство.

Пакет очень важный: много секретных, весьма важных данных. Прошу принять всѣ мѣры къ полученію его. Если послѣдует телеграфный вызов Вас в Париж по распояженію Франц. Правит., будьте добры просить Чешское посольство, чтобы оно возвратило черезъ Прагу в Париж дипломатической вализой, Вамъ под личную расписку. Если пакет получите, телеграфируйте: «Прибыл благополучно».

Получил письмо от Зах<арко>, от 23/II. Очень «кислое», недовольство моим «поведеніем» сквозит в каждом словѣ. Письмо прочтете по пріѣздѣ. Я ему ничего не отвѣчу. Он приглашает меня на конференцію в Прагу, гдѣ соберется Президіум Рады, Правительство и Заграничное Представит. Я полагаю поѣхать, если будут средства: сижу почти без гроша. Помогает Вулич, но и у него, благодаря занятію большевиками Донецк. бассейна, не густо насчет денегъ.

Положеніе наше тяжелое, но не безнадежное. Если вырвем Вас из Варшавы, обязательно пріѣзжайте в Прагу на этот съѣздъ. Приготовьте матерьялы, организуйте противодѣйствіе. Нужно всесторонне выяснить, имѣем ли мы дѣло с тяжким, горьким недоразумѣніем, или гдѣ то скрывается чья-то злая воля?!

На подлость и предательство я не пойду, скажу прямо и открыто каждому.

Я писал З<ахарко>, чтобы они не дѣлали никаких печатных выступленій, не углубляли раскола, столь опаснаго в данное время. Появленіе Бахановича в Прагѣ, (подробности и документы посланы Вам в пакетѣ) и его стремленіе в Париж, ясно свидѣтельствуют, что налицо прекрасно организованная провокація: создать 3 правительства и уничтожить значеніе каждаго из них. Мое дружеское, искреннее письмо, просьба о примиреніи во имя интересов Родины, были истолкованы, как «выраженіе недовѣрія» къ их группѣ.

Прошу Вас, Дорогой, Друже, принять всѣ мѣры, чтобы о расколѣ не писали ничего в газетах. Это обстоятельство в данный момент может погубить все наше дѣло.

Для меня и для дѣла Вы остались тѣм, кѣм были. Во всѣх офиціальных выступленіях, сношеніях, перепискѣ, в частных разговорах по дѣлу я дѣйствую от имени Правит. Луцкевича. Очень рад, что всѣ извѣщенія о переворотѣ, расколѣ, полученныя мною, абсолютно никакой огласки здѣсь не получили. Телеграммы я подшил к дѣлу, и никому ни слова. Много вредили О<знобишин> и К<ондратович>, но все же мое противоядіе возымѣло свое дѣйствіе. Въ данный момент нельзя никого исключать

изъ делегаціи. О<знобишин>, как уѣхавшій в Б<ерлин> будет оффиціально исключен, но отнюдь не на основ. Вашего распоряженія. Временно нужно воздержаться от всяких мѣропріятій к исключенію. Мое существованіе отравлено ими, но я молчу и терплю; жду момента, и он придет. Под нами будет твердая почва, я вѣрю въ такой исход! Друзей вліятельных мы имѣем, и покинуты ими не будем!

Выясните точно позицію Цвикевича. Предложите ему письменно заявить Вам, что он против раскола и против авантюристов; пусть назовет их по фамиліям.

Обязательно сдѣлайте так: по письмам из Б<ерлина> видно, что Цвик<евич> с ними; чтобы лишить его возможности вести двойную игру, предложите написать, тогда Вы будете спокойны. Заручитесь поддержкой Іезовитова; нужно письменно. Отъ всѣх, съ кѣм поддерживаете сношенія, необходимы письменныя гарантіи. Не говорите Цвик<евичу>, что я Вам сообщил о нем, но скажите, что Вы имѣете о нем такія свѣдѣнія, которыя вынуждают Вас просить о письменном заявленіи.

Примите мѣры, чтобы Директорія и Правительство переѣхали в Прагу и находились бы в одном Центрѣ совмѣстно. Нахожденіе их в Варшавѣ — сильный козырь в руках Ваших противников.

Барк<ов>, Оз<нобишин> и К° видимо, чувствуют за своей спиной сильную поддержку тѣх сфер, с которыми они нынѣ соприкасаются и работают. К ним прибыл Вентъ(?!). Вспомните, что в свое время я говорил Вам о лицах с иностранными фамиліями[1]! Вент работает с делегаціей и вмѣстѣ с ней.

Еще раз прошу: возьмите от всѣх официальныя письменныя заявленія, и этим гарантируйте себя от неожиданностей, сюрпризов.

О полученіи настоящаго письма телеграфируйте осно слово: «arrivé».

Привет славному Некрашевичу[2]. Я полагал, что Вы пользовались условно его фамиліей. Оказывается, в дѣйствительности, он с Вами. Я очень рад; это безусловно чистый, честный человѣк. Вулич кланяется Вам и ему, просит хранить хладнокровіе. Все — к лучшему.

Поляки Вам создадут имя, выдвинут наш вопрос. Здѣсь всѣ возмущены этими «дикарями», для которых, как видно, «цѣль оправдывает средства».

Будьте осторожны в дорогѣ, если поѣдете в Париж. Возможно, что Вас обыщут, будут чинить всяческія препятствія. Боюсь, как бы они не воспрепятствовали перевозкѣ денегъ. Обдумайте хорошенько эти вопросы. Посовѣтуйтесь с французами, чехами.

Если П<етлюра> искренно желает помочь нам, пусть телеграфирует Графу Тышк<евичу> в Париж. Прошу исполнить распоряженіе по содержанію моего письма №57.

Нам нужно продержаться два мѣсяца, и наше дѣло будет на твердом фундаментѣ. Постарайтесь получить от П<етлюры> что возможно. По истеченіи 2-3 мѣсяцев быть может мы сумѣем возвратить ему все с благодарностью. То же по отношенію к Тышкевичу. Если добьемся признанія Правительства, то этим самым получим необходимыя для работы средства. Просите занять на 3 мѣсяца.

Іезовитов просит 100 т. франков для отряда. Помочь ему не могу. Хлопочу о стоках. Вопрос осложнился смѣной Правительства[3], что отсрочивает разрѣшеніе вопроса.

Прошу еще раз: пришлите, как можно скорѣе, всѣ необходимые документы. Вы назначили меня чрезвычайным послом при Фр. Правит. По международным правилам этики, такое назначеніе возможно только с согласія Фр. Правит., а вѣдь оно такого согласія не дало и не даст, ибо мы не признаны.

Я могу быть делегатом с чрезвычайными полномочіями на Мирную Конференцію. Прошу прислать мнѣ Приказ Правительства о производствѣ в Полковники. Он мнѣ нужен. Душевскій произвел Іезовитова в генералы. Это незаконно. Произвести может только Правительство. Я охотно подпишу приказ о производствѣ Іезовитова в Генералы; он вполнѣ заслуживает такого вниманія со стороны Правительства.

Нам нужны документы о жизни и дѣятельности бѣлорусскаго отряда: приказы, приказанія, циркуляры и т.д. Нужно, чтобы Іезовитов прислал таковые. Если есть связь с Іезовитовым через Душевскаго просите Іезовитова, чтобы он офиціально обратился к Франц. военной Миссіи с просьбой о поддержкѣ и о препровожденіи его ходатайства о финансовой и матерьяльной поддержкѣ отряду в Париж, во Французское Военное Министерство. Если это ходатайство с благопріятным заключеніем французской миссіи, поступит в Париж, помощь нам, выдача стоков обезпечены. Я напишу Іезовитову; попытаюсь послать через латышей в Ригу.

Форму приказа о моем производствѣ я Вам написал передъ Вашим отъѣздом в Варшаву. Поищите в Ваших бумагах.

К<ондратович> очень обрадовался, что Вент в Б<ерлинѣ>. «Рыбак рыбака видит издалека».

Прилагаю копію ноты, которую я преставил Мирной Конф., в Комиссіи Иностр. дѣл Палаты и Сената. Делегаціям разсылаю. Зачеркнутое мною было внесено генералом. Я этого не помѣстил по совѣту Мин. Юстиціи С<ѣверо>-Зап<аднаго> Прав<ительства> Кедрина, который живет теперь у нас. Кедрин сказал: «Вы просите признать Вашу независимость и назначить Вам 50 рб. жалованья!» Я вполнѣ согласен с Кедриным.

Если нас лишат права говорить от имени Бѣлор. Народа, тогда представлю дополнит. ноту с просьбой о защитѣ интересов нашего народа.

Готовлю ноту о насиліях над нашим народом, чинимых оккупантами. Буду просить назначенія международной Комиссіи.

Предупредите чешское посольство в Варшавѣ, чтобы оно ни в каком случаѣ не посылало на Ваше имя пакета в гостинницу. Пусть выдаст Вам лично, подъ Вашу расписку в посольствѣ.

Крѣпко жму руку. От всей души желаю добраго здоровья и душевнаго спокойствія. Терпѣніе и труд все перетрут. Если можно, окажите помощь моей матери. (Двинск, Одесская ул №105. Д.Ладнова). Пошлите 2-3 тысячи марок.

Увѣрен, что скоро увидимся. Вас пригласят сюда для доклада по нашему дѣлу.

Всего наилучшаго, Дорогой Друже! Ваш, Е.Ладнов

Поклон Вам от всѣх наших доброжелателей.

Литовцы подали в Комиссію Иностр. дѣл Палаты Депутатов заявленіе, что Вильна принадлежит им. Один из депутатов, наш друг, просил у меня матерьялов, я написал на основаніи имѣющихся матерьялов объясненіе, уничтожающее необоснованную, незаконную претензію.

Прилагаю приказ о производствѣ Іезовитова. Прошу написать постановленіе Правительства. Копію постановленія с копіей моего приказа прошу препроводить Іезовитову. Подлинный приказ мой прошу сохранить у Вас. Копію с него пошлете Іезовитову. Как свидѣтельствуются копіи приказов, Некрашевич знает. Прилагаю бланк для копіи.

Искренній привѣт Некрашевичу.

*В частности Вашего кабинета

*582.1.04:031&r-032&r*

[1] Ладноў з паранаідальнай падазронасьцю ставіўся да «иностранных фамилій». Гл. ягонную кнігу: Ладновъ Е. Огнемъ и мечомъ, голодомъ и болѣзнями. Варшава, 1922. [2] Ладноў быў знаёмы зь Некрашэвічам з супольнае працы ў Адэсе на пачатку 1919 году. [3] 17.02.1920 Раймона Пуанкарэ на пасадзе прэзыдэнта зьмяніў Поль Дэшанэль. 18.02.1920 прэм'ер-міністар Аляксандар Мільеран сфармаваў новы кабінэт.

**1899. Канвэрт з сургучнай пячаткай Міністэрства Абароны БНР**

*582.1.04:041*

Штамп: «Délégation de la République Démocratique de la Russie (Ruthénie) Blanche, 24, Rue Bayard, 24, Paris VIII[e]». Адрасаваны: «Son Excellence, Monsieur A. De-Loutzkievitch, Hôtel Saski». На канвэрце надпіс сінім алоўкам: Do seznamu 17.

**1900. Пастанова старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антона Луцкевіча (Варшава) за 25.02.1920 (вых. №71)**

Б.Н.Р.
СТАРШЫНЯ
РАДЫ НАРОДНЫХ МІНІСТРАЎ.
Варшава, 25 лютага 1920.
№71

ПАСТАНОВА.

З прычыны фактычнага інтэрнаваньня мяне Польскім Урадам і немагчымасьці кіраваньня пры такіх варунках фінансамі Рэспублікі, гэтым складаю з сябе абавязкі Міністра Фінансау і выпауненьне іх часова ускладаю на Паунамочніка Дзяржаунага Скарбу Лявона Дубейкоускага.

СТАРШЫНЯ РАДЫ НАРОДНЫХ МІНІСТРАУ:
Ант. Луцкевіч

*582.2.13:043 — ма*

**1901. Пастанова старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антона Луцкевіча (Варшава) за 25.02.1920 (вых. №72)**

Варшава, 25 лютага 1920
№72

ПАСТАНОВА.

З прычыны фактычнага інтэрнаваньня мяне Польскім Урадам і немагчымасьці кіраваньня пры такіх варунках усей загранічнай палітыкай Беларускае Народнае Рэспублікі, гэтым складаю з сябе абавязкі Міністра Загранічных Спрау і выпауненьне іх даручаю Міністру Абароны Палкоуніку Еугенію Ладнову.

Старшыня Рады Народных Міністрау:
Ант.Луцкевіч
*582.2.33:151 — ма*

**1902. Пасьведчаньне старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антона Луцкевіча (Варшава) Лявону Дубейкоўскаму за 25.02.1920 (вых. №73)**
Менск, 28 лютага 1920
№73

ПАСЬВЕДЧАНЬНЕ.

Паказчык гэтага, грамадзянін Лявон ДУБЕЙКОУСКІ, упаунамочаны Урадам Беларускае Народнае Рэспублікі часова выпауняць абавязкі Міністра Фінансау, карыстаючыся усімі яго правамі.

Старшыня Рады Нар. Міністраў
Ант.Луцкевіч
*582.2.13:044 — мк*

**1903. Пасьведчаньне старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антона Луцкевіча (Варшава) міністру абароны БНР Аўгену Ладнову за 25.02.1920 (вых. №74)**
Варшава, 25 лютага 1920
№74

ПАСЬВЕДЧАНЬНЕ.

Паказчык гэтага, Міністэр Абароны Палкоунік Еугеній ЛАДНОУ, упаунамочаны Урадам Беларускае Народнае Рэспублікі выпауняць абавязкі Міністра Загранічных Спрау, карыстаючыся усімі яго правамі.

Старшыня Рады Народных Міністрау:
Ант.Луцкевіч

Шэф Канцэлярыі
С.Некрашэвіч
*582.2.33:152 — мк фра*
*582.2.33:153 — мк бел*

**1904. Акт, складзены прадстаўніком Ураду БНР у Варшаве Лявонам Дубейкоўскім 25.02.1920 аб абмене 5.000 чэскіх каронаў на 8.000 польскіх марак**
*582.2.48:084 — ра*

**1905. Рахунак З.Расьніцкай на 10 марак за перадрук на машынцы пасьведчаньня разам з копіяй для палкоўніка Ладнова за 25.02.1920**
*582.2.48:082 — ра*

**1906. Рэкамэндацыйны ліст Уладзімера Кедроўскага (Рыга) сябру БПСР Аляксандру Вальковічу за 25.02.1920 для падачы сябрам ЦК Украінскай Партыі Сацыялістаў-Рэвалюцыянэраў і сябрам Цэнтральнага Ўкраінскага Паўстанцкага камітэту**
*582.2.54:006 — ра*

**1907. Ліст старшыні Рады Народных Міністраў Беларускае Народнае Рэспублікі Антона Луцкевіча (Варшава) міністру фінансаў Украінскае Народнае Рэспублікі Барысу Мартасу (Варшава) за 26.02.1920 (вых. №75)**
Варшава, 26 лютага 1920.
№75

Яго Міласьці
Міністру Фінансау Украінскае
Народнае Рэспублікі
грам. Мартосу.

Высокапаважаны Пане Міністэр!

Пасьля гутаркі з Вамі і выясьненьня справы з п. Міністрам Лівицькім я зварочываюся да Вас з просьбай не адмовіцца аказаць нашаму Ураду фінансовую помач гатоукай у гэткай форме: 200.000 польскіх марок і 1.000.000 карбованцау. Пры такой пастаноуцы справы мы не былі бы прымушаны разьменіваць вялікшае сумы карбованцау, маючы выплаты па некаторым установам у украінскай валюце, а сказаная сума польскіх марок дала бы нам магчымасьць пратрымацца да рэалізацыі акрэдытыву на Бэрлін.

Калі-б Вы, Пане Міністэр, далі сваю згоду на такую разьвязку пытаньня, то я прасіу бы Вас не адмовіцца упаунаважыць на сказаную выдачу п. Міністра Лівицькага, які мог бы выплаціць нам прошаную суму з сум, якія знаходзяцца у яго руках.

Перапрашаючы за непакоеньне Вас нашаю справай, пасылаю Вам самую шчырую падзяку за Вашу гатоунасьць прыйсьці к нам з падмогаю у гэты крытычны мамэнт і высказываю Вам маю глыбокую пашану і паважаньне.

Старшыня Рады Народных Міністрау:
Ант.Луцкевіч
*582.2.34:036 — мк*

**1908. Копія акту аб умовах рэалізацыі акрэдытыву на Нямецкі Імпэрскі Банк у Бэрліне на суму тры мільёны нямецкіх марак, выстаўленага на імя Аляксандра Цьвікевіча Урадам УНР як пазыка Ураду Луцкевіча, укладзены Старшынёй Рады Народных Міністраў Антонам Луцкевічам і Паслом БНР на Ўкраіне Аляксандрам Цьвікевічам у Варшаве 28.02.1920**

Варшава, 28 лютага 1920 г. Мы, ніжэйпадпісаные: Старшыня Рады Народных Міністрау Антон Луцкевіч з аднаго боку і Пасол Беларускае Народнае Рэспублікі на Украіне Аляксандр Цьвікевіч з другога улажылі гэты акт аб ніжэйпісаным:

1) Я, Цьвікевіч, бяруся рэалізаваць акрэдытыу на Нямецкі Імперскі Банк у Бэрліне на суму тры мільены нямецкіх марок, выстаулены на мае Аляксандра Цьвікевіча імя Урадам Украінскае Народнае Рэспублікі як пазыка дадзеная Ураду Луцкевіча, і абязываюся выплаціць рэалізаваную суму паводле ніжэйпісаных пунктау:

а) на утрыманьне Місіі у Парыжу палк. Ладнову ............ 300.000 мр
б) " " " Бэрліне Л.Зайцу ...................... 150.000 "
в) " " " Празе М.Вершыніну ............ ..... 50.000 "
г) " " " Варшаве Дубейкоускаму .......... 100.000 "
д) " " " Латвіі К.Езавітаву .................... 100.000 "
е) " " " Украіне А.Цьвікевічу .............. 100.000 "
ж) падмога палітычным партыям:
соц.-рэв. на рукі Ігнатоускага — 75.000
соц.-дэм. " " Смоліча — 75.000
народнай п. " Станкевіча — 25.000
хрысьц.-дэм. " кс. Абрантовіча — 25.000 200.000

з) на выдавецтва беларускіх кніг Беларускаму Выдавецкаму Таварыству у Вільні на рукі Старшыні яго Вацлава Іваноускага .......... 500.000 "

і) Часоваму Беларускаму Нацыянальнаму Камітэту у Менску на рукі Старшыні яго Аляксандра Прушынскага ............................ 1.150.000 "

к) на падмогу членам Рады БНР на рукі
Сымона Рак-Міхайлоускага .............................................. 100.000 "

---

2.750.000 мар

2) Прынімаючы пад увагу надзвычайную труднасьць рэалізацыі па сказанаму акрэдытыву грошы у зьвязку з палітычнай кон'юнктурай рэшта грошы у ліку 250.000 марок пакідаецца на магчымыя выдаткі па рэалізацыі.

Увага: Пад труднасьцю рэалізацыі разумеецца арэшт, наложаны Нямецкім Урадам на капіталы Украінскага Ураду у нямецкіх Банках.

3) У выпадку, калі сума патрэбная для рэалізацыі перавысіць паказаную у пункце 2 цыфру, траты робяцца па гэтаму пункту на моцы паразуменьня між А.Цьвікевічам і Аркадзем Смолічам. У такім прыпадку сумы паказаныя у пункце 1 пропорцыональна паменшаюцца.

4) Магчымыя-ж астаткі ад паказанай у пункце 2 сумы павінны быць залічаны у фонд урадоваго выдавецтва заграніцай.

5) Гэты акт спісаны і падпісаны у двох экземплярах орыгінальных мае знахадзіцца у абодвых падпісаушых яго.

6) У прыпадку, калі-б рэалізацыя акрэдытыву на Імпэрскі Банк у Бэрліне аказалася наагул немагчымай, Цьвікевічу даецца права залажыць гэты акрэдытыу у якой-небудзь другой установе паводле асобнае угоды паміж ім, Цьвікевічам, і Аркадзем Смолічам.

Сумы атрыманыя ад закладу выдаюцца пропорцыянальна асыгноукам, паказаным у пункце 1.

Падпісалі:

Антон Луцкевіч Аляксандр Цьвікевіч
*582.1.04:015&r — мк*
*582.2.37:040&r — мк*

**1909. Ліст Старшыні Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі Антона Луцкевіча намесьніку Старшыні Аркадзю Смолічу за 28.02.1920 (вых. № 78) з паведамленьнем аб складзеньні зь сябе абавязкаў Старшыні РНМ БНР, міністра замежных справаў і фінансаў**

Яго Дастойнасьці
Пану НАМЕСЬНІКУ СТАРШЫНІ
РАДЫ НАРОДНЫХ МІНІСТРАЎ БНР

Варшава, лютага 1920.
№78

Гэтым маю чэсьць паведаміць Вашу Дастойнасьць што 28 лютага с.г. я злажыу з сябе абавязкі як Старшыні Рады Нар. Міністрау, каторыя аутоматычна пераходзяць на Вас, так і абавязкі Міністра Загранічных Справу, узложаныя мной на Палкоуніка Ладнова, і Фінансау, часова перададзеныя мной грам. Лявону Дубейкоускаму.

Ант. Луцкевіч.
*582.2.01:094 — мк*

**1910. Паўнамоцтва Рады Народных Міністраў БНР Лявону Дубейкоўскаму (Варшава) за 28.02.1920 (вых. №79)**

Варшава, 28 лютага 1920
№79

ПАУНАМОЦТВА.

Паказчык гэтага, Часовы Кіраунік Міністэрства Фінансау Б.Н.Р. грамадзянін Лявон Дубейкоускі, гэтым упаунамочываецца атрымаць ад Ураду Украінскае Народнае Рэспублікі пазычаную Беларускаму Ураду суму у ліку 1.000.000 карбованцау (адзін мільен карбованцау) і 200.000 польск. марок (дзьвесьці тысяч польскіх марок) і паквітаваць атрыманьне гэтых грошы, дзеля чаго і выдана яму, Дубейкоускаму, гэтае паунамоцтва за належнымі подпісамі і з прылажэньнем урадовае пячаці.

СТАРШЫНЯ РАДЫ НАРОДНЫХ МІНІСТРАУ:
Ант.Луцкевіч

ШЭФ КАНЦЭЛЯРЫІ:
С.Некрашэвіч
*582.2.40:074 — мк*

**1911. Ліст старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антона Луцкевіча Лявону Дубейкоўскаму (Варшава) за 28.02.1920 (вых. №80)**
Варшава, 28 лютага 1920
№80

Яго Міласьці
грам. Лявону Дубейкоускму,
часова Спауняючаму Абавязкі
Міністра Фінансау Б.Н.Р.

Гэтым паведамляю Вас, што з сум, якія Вы маеце атрымаць ад Украінскага Ураду, Вы павінны пераслаць на імя грам. Вацлава Іваноускага у Менску 100.000 польскіх марок (сто тысяч польскіх марок), а рэшту грошы расходаваць паводле асыгновак Ураду Б.Н.Р.

СТАРШЫНЯ РАДЫ НАРОДНЫХ МІНІСТРАУ:
Ант.Луцкевіч

ШЭФ КАНЦЭЛЯРЫІ:
С.Некрашэвіч
*582.2.40:075 — ра*

**1912. Ліст старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антона Луцкевіча (Варшава) Лявону Дубейкоўскаму за 28.02.1920 (вых. №80/а)**
28 лютага 1920 г.
№80/а

Заступаючаму часова Міністра Фінансаў
грам. Лявону Дубейкоўскаму.

Гэтым паведамляю Вас, што Вы маеце выплаціць б. Консулу БНР у Одэссі, Сьцяпану Некрашэвічу, прызнаны Радай Нар. Міністраў доўг яму ў украінскай валюце.

Разам з тым паведамляю Вас, што Вы паводле свайго новага становішча маеце атрымліваць асноўную пэнсію 1000 марок і па 100 марок сутачных.

Старшыня Рады Нар. Міністраў
Ант.Луцкевіч
*582.2.13:045*
*582.2.40:076 — ра*

**1913. Ліст Антона Луцкевіча (Варшава) старшыні Найвышэйшай Рады БНР Янку Серадзе (Менск) за 28.02.1920 (вых. №81)**
Варшава, 28 лютага 1920
№81

Яго Дастойнасьці
Пану СТАРШЫНІ НАЙВЫШЭЙШАЕ РАДЫ
Беларускае Народнае Рэспублікі.

З прычыны фактычнага інтэрнаваньня мяне Польскім Урадам і немагчымасьці у зьвязку з гэтым выпауняць узложаныя на мяне абавязкі маю

чэсьць прасіць Найвышэйшую Раду звольніць мяне з становішча Старшыні Рады Народных Міністрау і Міністра Заграгічных Справу і Фінансау.

Разам з тым падаю да ведама Найвышэйшае Рады, што благі стан майго здароуя прымусіу мяне ужо з сягоньняшняга дня пакінуць мае абавязкі, якія пераходзяць на Намесьніка Старшыні Рады Народных Міністрау у межах Старшынства і на Палкоуніка Ладнова па Міністэрству Заграгічных Справу ды на грам. Лявона Дубейкоускага па Міністэрству Фінансау.

А.Луцкевіч

*582.2.39:049 — мк*

**1914. Ліст Антона Луцкевіча (Варшава) старшыні Найвышэйшай Рады БНР Янку Серадзе (Менск) за 28.02.1920 (вых. №82)**

Варшава, 28 лютага 1920.
№82

Яго Дастойнасьці
Пану Старшыні Найвышэйшае Рады
Беларускае Народнае Рэспублікі.

Гэтым маю чэсьць паведаміць Вашу Дастойнасьць, што з прычыны благога стану майго здароуя я не магу асабіста прыбыць у Менск дзеля справаздачы і здачы справу. Дзеля гэтага мной упаунамочаны грам. Тарашкевіч, якому я даверыу падаць прыложаныя дакумэнты і на словах выясьніць утварыушаеся палажэньне.

Старшыня Рады Народных Міністрау і Міністэр Заграгічных Справу і Фінансау:
Ант.Луцкевіч

*582.2.39:048 — мк*

**1915. Ліст Антона Луцкевіча (Варшава) намесьніку старшыні Рады Народных Міністраў БНР Аркадзю Смолічу за 28.02.1920 (вых. №83)**

Беларуская Народная Рэспубліка
Старшыня Рады Народных Міністраў
République Démocratique Blanc-Ruthénienne
Président du Conseil des Ministres
Варшава, 28 лютага 1920
№ 83

Яго дастойнасьці
Пану Намесьніку Старшыні
Рады Народных Міністрау БНР

Гэтым маю чэсьць паведаміць Вашу Дастойнасьць што 28 лютага с.г. я злажыу з сябе абавязкі як Старшыні Рады Народных Міністрау, каторыя аутаматычна пераходзяць на Вас, так і абавязкі Міністра Заграгічных Справу, узложаныя мной на Палкоуніка Ладнова, і Фінансау, часова перададзеныя мной грам. Лявону Дубейкоускаму.

Ант. Луцкевіч

*582.1.04:044 — ма*

На лісьце пазначана: «Атрымана 14.III.920. А.Смоліч».

**1916. Інфармацыя за 28.02.1920 аб працы Беларускай Партыі Сацыялістаў-Рэвалюцыянэраў у Латвіі**

*582.2.54:005&r — мк*

У дакумэнце паведамляецца пра кантакты з латыскімі й эстонскімі эсэрамі, а таксама з «усходнімі сябрамі».

**1917. Ліст Аркадзя Смоліча (Менск) Антону Луцкевічу (Варшава) за 29.02.1920**

Дарагі Антоні!

За апошнія тыдні пасьля майго прыезду з Варшавы, справа нашая ідзець шляхам конкрэтнай работы. Усё шырэй і шырэй разьвіваецца інструктарская організацыя; цяпер лік інструктароў перайшоў 20; да тагож праца іх мусіць концэнтравацца у Меншчыне: толькі тут палякі даюць ім працаваць. Ясна, што разам з тым растуць, як грыбы, організацыі, прыбывае новых людзей. Наагул — мы расьцем. Гэта відаць нават з пашырэньня газэты, якая цяпер б'ецца, здаецца, у 3000 экз. Ведама, што усякіх крыўдаў і перашкодаў ад палякаў ні абабрацца. Інструктароў гэтых бедных ловяць, арыштуюць, а часамі і б'юць, асабліва у Заходняй Беларусі. Здараюцца самыя дзікія факты. — Мы аднак думаем працы у Заходняй Беларусі не спыняць, а весьці яе конспірацыйна. З прасьветаю так сама ня лёгка даецца. Змагаемся, як толькі можам, з інспектарыятам, які цяпер повен эндэкаў і вельмі перашкаджае нашай працы. Ідзець выдавецтва. За апошні месяц выдана 5—6 кніжок. Маем массу матар'ялу да друку, як прыгожага пісьменства, так і школьных падручнікаў. Асаблівы ураджай на драматургаў. — Кратаем пакрысе і справы партыйныя. Сягоньні адкрываецца рад дыскусійных сходаў. Популярную праграму я апрацаваў, прабуем выдаць і калі ня удасца тут прышлем да Варшавы. Было 3—4 партыйных сходы. Выбраны Менскі Камітэт. Старшынёй яго Івановскі. Нас пытается п.п.с. аб Варонкаўцах (с-ф). Сягоньні пасылаем адказ, што за соцыялістаў іх не ўважаем, што яны аналёгічны украінскім с-ф. і москалёфілы. Так сама пішам, што на конфэрэнцыю[1] прышлем сваіх прадстаўнікоў. Мы спадзяемся, што конфэрэнцыя будзе йграць важную ролю. Ня ведаем яшчэ, каго паслаць. С.р. здаецца адносяцца да конфэрэнцыі больш крытычна. Яны-б хацелі трапіць ужо на міравую конфэрэнцыю цераз падтрыманьне совдэпіі. Яны значна паспакайнелі і здаецца пачынаюць займацца тэю працаю, якая ім найбольш адпавядае — у массах. Праўда, выяўляецца, што сілы у іх надта слабыя; да таго, што на месца інструктароў — ня маюць каго даць (мы ім прапанавалі паслаць іхніх людзей — у некаторыя больш бязпечныя для нас мейсцы). Толькі хіба Ластоўскі не супакоіўся. А і той не вылазе. У некаторых справах выступаем зусім дружна; напр. што да выбараў у Цэнтрабелсаюз і інш. Унутранаю работаю кіруе Тарэшчанка і робіць шмат. С-р.аў ён пакрысе запрагае да працы. Трэба між іншым зазначыць, што яны усе — с.р. — сядзяць бяз грошы і галадаюць. Тое самае праўда можна сказаць і аб усіх нас, але ня ў гэтакім стопню. —— Найвышэйшая Рада нічога ня робіць і не зьбіраецца. Усе займаюцца сваімі справамі. — Крыху руху

дадаў тут Іваноўскі. Ён узяўся за Інстытут[2], думае зрабіць такі беларуска-польскі салён, займаецца і партыйнымі справамі.

Найцікавейшай хіба рэчаю ёсьць ідэя склікаць на 15.IV г.г. II Усебеларускі Конгрэс. Подлуг пляну на ім будзе 1700 чалавек. Коштарыс выносіць 2.035.000 мк. Палякі глядзяць тым часам на гэтую справу прыхільна — ім гэта патрэбна для міравых перагавораў. Мы-ж спадзяемся, што ён падмацуе нашае становішча. Як Вашая думка? ——

Настроі сярод массаў зьмяняюцца ўвесь час не на карысьць палякаў. Добрай іллюстрацыяй быў Віленскі Людовы Конгрэс[3]. Але, здаецца, мілітарна яны застаюцца як і былі — моцнымі. Праўда гэта з Варшавы можа і відней.

А от надзвычайна нядобра, што ніхто з Варшаўскіх нас не інформуе. Апрача «Бюро Прасовага» трэба мець яшчэ весткі больш абшырныя аб рэчах конфідэнцыяльных. Аб іх мы мусім даведвацца праз палякаў. Апроч усяго нам трэба было-б можа і нешта рабіць у цяперашнім момэнце, але што рабіць, гэта ізноў-жа Вам відней. — У дадатак да ўсяго сюды гэтымі днямі нібы прыяжджае Пілсудскі. Што яму гаварыць? — Прышлеце абавязкова каго небудзь сюды, а прынамсі — ліста у ва ўсіх гэных справах.

Ізноў-жа шмат што у нашай працы залежыць ад пазычкі. Ці ёсьць якія надзеі на яе пасьля таго, што з імі зрабілі[4]? Якія цяпер іхнія настроі і адносіны з палякамі? — Ад гэтага так сама залежыць распланіроўка нашай працы.

Што да нашых думак аб Вас, дык мысьлім сабе, што найляпей-бы было прадрацца неяк заграніцу, каб пасьля трапіць адтуль на міравую конфэрэнцыю разам з якімі небудзь ангельцамі. С-р. нашыя нават — лічаць гэтую концэпцыю найлепшаю, гатовы для яе прытрымаць тут Ластоўскага, каб не псаваў. Яны праўда выправілі заграніцу Мамоньку (хаця здаецца, ён яшчэ у Вільні), але цяпер бачаць, што нічога самі ня зробяць.

Пішыце, якія шанцы на тое, што удасца праехаць? Дзе цяпер Цьвік<евіч>? Якія навіны з заграніцы?

Чакаем адпісу, ці прыезду каго небудзь.

Вітаю А.См....

29-II-920

Менск

*582.1.04:010&r-011*

[1] Канфэрэнцыя сацыялістычных партыяў новапаўсталых на тэрыторыі былой Расеі дзяржаваў, плянаваная на 20.03.1920 у Варшаве. [2] Менскі Пэдагагічны Інстытут, рэктарам якога 26.02.1920 быў прызначаны Вацлаў Іваноўскі. [3] Арганізаваны ў Вільні 14-15.02.1920 з мэтай дэманстрацыі ляяльнасьці беларускага сельскага насельніцтва да польскіх уладаў, закончыўся поўным правалам. [4] Маюцца на ўвазе вайсковыя й палітычныя паразы ўкраінскіх незалежнікаў.

**1918. Ліст Янкі Чарапука (Рыга) Антону Луцкевічу (Варшава) [03.1920]**

Дарагі Пане Антоні!!!

Вельмі прашу Вас перэслаць мне вестку аб той заграніча-палітычнай працы, якую трэба ціпер развіваць заграніцай, асабліва па пытаньням адносіны нашыя да палякоў і да бальшавікоў, як Вы глядзіце на гэты мір?

Езавітаў у Рызі працуе шчыра, але я не згоджываюся з ім у яго «просталінейнай гострай надмеру атацы на палякоў», гэта ня толькі мой такі пагляд, але і нават многа каго другіх. Варто было-бы да яго прыставіць чэлавека свежаго, які павінен яго стрымваць. Затым Вас я вельмі прасіў бы звольніць міне ад абавязкоў Сэкрэтара Місыі, а прэдаставіць у другім мейсцу якую небудзь пасаду, толькі я не магу пагадзіцца супольнай палітычнай працай з Езавітавым.

У нас у Латвіі справа пастаўлена на належную высату ёсьць Рада Беларускай Калёніі, Таварыство Беларусак, Грамада мэдычных працаўнікоў, Культурна-прасьветнае Та. «Бацькаўшчына». У Эстоніі патрэбна змабілізаваць і паставіць там сваю дыплёматычную фігуру.

Місію у Латвіі і Эстоніі трэба раздзеліць і выліць іх у «Надзвычайную Дыплёматычную Місію Б.Н.Р. ў Латвіі» і такуюж у Estonii, кожна у працы павінна быць незалежна.

Пастарайцеся у М.З.С. Польшчы дабіцца мне вольнага праезду на Бацькаўшчыну да Вас, каб Вам высветліць агульны настрой палітычны заграніцай (наш). Калі гэта удасцца зрабіць, тады выклічча міне да сібе тэлеграмай: «Latvia, Riga Nicolaiewskaia 20. Czerepuk»

Пакуль што бывайце здаровенькія.

Ваш ЯЧэрэпук.

*582.1.41:075&r*

---

Дата невядомая (люты—сакавік 1920).

**1919. Тэлеграма Сьцяпана Некрашэвіча (Варшава) [Аўгену Ладнову] (Парыж) за 2.03.1920**

Vulitch — 58 rue Taitbou
Paris — Urgent

Arrivé point tout sera fait lettre envoyée premier mars aujourdui Antoine part Vilna d'ou enverra nouvelles

Niekrachevitch

2.III.20

*582.2.33:154 — рк*

**1920. Пераклад артыкулу: Реакція въ Бѣлоруссіи // Соціалдемократс. №50. 2.03.1920**

*582.2.54:018 — шк пераклад з латыскай*

**1921. Пераклад артыкулу: Бѣлорусская школа подъ польской оккупаціей // [Соціалдемократс. №50. 2.03.1920 ?]**

*582.2.54:019-021 — шк пераклад з латыскай*

---

Дакладная дата невядомая.

**1922. Пераклад артыкулу: По стопамъ царскаго режима // [Соціалдемократс. №50. 2.03.1920 ?]**

*582.2.54:022 — шк пераклад з латыскай*

---

Дакладная дата невядомая.

**1923. Інфармацыя аб працы Цэнтральнага Беларускага Паўстанчага Камітэту. Кароткая дакладная запіска А.Аляксандрава [Аляксандра Вальковіча] (Бэрлін) за 5.03.1920**

*582.2.54:068&r-070 — мк*

Аўтарства вызначанае паводле почырку.

**1924. Заява Язэпа Мамонькі (Бэрлін) дыпляматычнаму прадстаўніку БНР у Бэрліне Леаніду Баркову (Бэрлін) за 5.03.1920 у справе затрыманьня яго на станцыі Люзін польскім камэндантам і забраньня ў яго рэчаў і грошай**

Господину Черезвычайному Белорусскому Дипломатическому Послу въ Берлине.

Препроводить въ переводѣ польскому генеральному консулу. 5/3. пдп. Барковъ.

Гр. Мамонько Іосифа, Члена учередителя Беларускаго Центральнаго сельскохозяйственнаго Союза Кооперативов.

ЗАЯВЛЕНІЕ.

Имею честь заявить Вам, Господин Посол, что 11 февраля этого года мне было поручено Союзом Кооперативов выехать заграницу за получением займа от Беларусской Миссии в Берлине для закупки сельско-хозяйственных машин. 26 февраля я прибыл в Берлин и 27 февраля получил заем в размере сто тысяч (100.000) марок в немецкой валюте. С этой суммой я отправился сперва в Штетин, так как мне в Берлине заявили, что там можно приобрести вышеупомянутые машины. Пробывши 2-3 дня в Штетине нужных мне машин я не нашел, а поэтому я выехал в Кенигсберг, где я мог получить с.-х. машины для отправки их через Граево в Минск. В Штетине я спрашивал, есть ли польский консул, но мне ответили, что консула нет, а визу на паспорт можно поставить в Данциге, а до Данцига можно проехать без визы. и вот 3 марта я взял билет Штетин-Кенигсберг и выехал с первым шедшим поездом. Когда я проехал немецкую границу, то на ст. «Люзин» польский комендант меня высадил, и со мной было высажено еще несколько человек. После того нас направили в канцелярию коменданта, где где стали производить тщательный обыск. Сперва мне велели показат[ь] вещи. Вещи мной сейчас-же были показаны, из которых они взяли: 1) шерстяной материи $3^1/_2$ метра на сумму 900 марок, 2) немецкие книги и журналы по авиации на сумму 100 м. и 3) серебряные часы [с] браслетом на сумму 500 м. Потом мне велели подать бумажник с деньгами и всякие бумаги, какие у меня есть. Я отдал все бумаги и документы, которые у меня были. Денег в бумажнике было всего 700 м. Взявши эти 700 м., они стали производить мне усердный обыск: сперва велели мне снять пальто, которое тщательно ощупали, потом пиджак, потом жилет, в котором у меня было еще 5.000 немецк. мар. И вот нашедши эти пять тысяч марок, они пришли в такую ярость, что сейчас-же посыпалась площадная брань и толкание в бока, и зараз-же стали

стаскивать с меня сапоги, в которыя я вложил занятыя деньги в сумме сто тысяч (100.000) мар. в немецкой валюте, дабы у меня в дороге не вытащили. После этого обыска начались побои по лицу, и деньги были у меня все отняты. Потом меня втащили в темную комнату, потом опять ввели в канцелярию. Когда я стал просить выдать мне квитанцию на отнятые у меня деньги, то на мою прозьбу опять было толкание меня в бока и уже угроза разстрелом. Мои документы просьбы и заявления, что деньги эти не мои, а Союза Кооперативов в рассчет не принимались. Когда я сталъ вторично категорически настаивать на выдаче мне квитанции, то п[о]лучил чувствительную пощечину и угрозу, что если скажу еще одно слово, то буду разстрелян. Вся эта операция производилась в присутствии коменданта и по его указаниям. Утром 4-го марта в 7 ч. утра опять явился комендант, и я стал просить чтобы меня арестовали, если взяли деньги и вещи. На это последовал ответ: «Мы тебя отправим назад в Берлин». И на первый прибывший поезд я был посажен и отправлен назад. Прибывши на немецкую сторону, я и заявил немецкой полиции.

Отнятие у меня вещей и денег в сумме ста четырех тысяч семисот (104.700) марок в немецкой валюте, а также насилие учиненное надо мной, могут засвидетельствовать следующие лица: Ганс Гаусгальтер, Крепостной лазарет в Данциге, и Эрнст Роккель, тоже Крепостной лазарет в Данциге.

Все вышеизложенные факты довожу до Вашего ведома и прошу Вас принять меры к расследованию вышеизложеннаго дела.

Член Беларусскаго Сельско-Хозяйственного Союза Кооперативов (подпись) Іосиф М а м о н ь к о .

Берлин,
5-го марта 1920 г.
*582.2.54:337&r — мк*

**1925. Тэлеграма Янкі Серады (Менск) Антону Луцкевічу (Вільня) 6.03.1920**

fr minsk 1049 6/3 19-20=
wilno wilenska 33 antoni luckyewicz=
wladze polskye zwrocily sye do rady najwyzszej w sprawie odwolania pelnomocnika bialoruskyego w lotwie, jezowitowa, skyerowalismy je do pana, prosimy rozpatrzec sprawe. siereda= vidi stamirowski rotmistrz pd szt gen i szef ekspozytury do wlasnych rak ninyejszemu=
*582.1.04:002*

На адвароце:тэлеграмы адрас: Antoni Luckiewicz Wilenska 33.

**1926. Ліст Аркадзя Смоліча (Менск) Антону Луцкевічу (Вільня) за 7.03.1920**

7-III-920. Ліст гэты[1] так і не дастаўся у Варшаву: якраз даведаліся мы, што Вы пераехалі у Вільню. — Якраз за гэты тыдзень шмат чаго выясь-

нілася. Ад Воеводзкага мы даведаліся: 1) што міравая конфэрэнцыя мусіць адбудзецца у Менску 2) што тут-жа даўжэйшы час будзе сядзець Пілсудзкі, 3) што нашыя прадстаўнікі будуць дапушчаны на конфэрэнцыю. А сяньні ужо Іваноўскага вызываюць у Варшаву для учасьця у працы міравой камісіі, разам з ім паедзе Рачкевіч і Воевудзкі. Выяжджаюць яны сягоньні, або заўтра. Між іншым, Воевудзкі атрымаў значнае павышэньне — ці ня шэфа ІІ аддзелу на увесь Беларускі Фронт.

У зьвязку з усім гэтым у нас аб'яўляецца пэўная нэрвознасьць. Зьбіраемся, раімся. Карысьці з гэтага, праўда, мала. Адно ясна. Каб нешта рабіць патрэбна мець шмат грошай — хаця-б на прадстаўніцтва. Вацюку Тройцы дамо такі наказ — каб стараўся грошай.

З Цэнтрабелсаюзам выйшла нядобра. Па ініцыятыве нашых кругоў, зьезд улада адклала да 15.IV. Гэта аднак некарысна. Сіл ня маем цяпер і тады мець ня будзем; а, хто ведае, можа нашая няўдача у той час будзе мець сэр'ёзнае значэньне.

Вельмі просім цябе усе — пішы, паведамляй. Здаецца сітуацыя для нас крыху паляпшаецца. Трэба крыху і нам падняць галаву

Брашуру маю (праграму с-д) паслалі на цэнзуру у Вільню (да Касьцялкоўскага). Казалі мне, што у Вільні шмат лягчэй было-б дастаць дазваленьне на друк. Пасылаю Вам на усякі выпадак (перагледзьце мо) рукапіс. Калі не пазволяць друкаваць тут, я Вам тэлеграфую, а Вы тады ужо надрукуйце яе у Вільні.

Вітаю АркСм...

*582.1.04:011r*

[1] Працяг ліста за 29.02.1920 (дакумэнт №1917). [2] Нашаніўскі псэўдонім Вацлава Іваноўскага.

**1927. Суправаджальны ліст старшыні Дэлегацыі БНР на Мірнай Канфэрэнцыі ў Парыжы Аўгена Ладнова (Парыж) старшыні Мірнай Канфэрэнцыі за 8.03.1920, дасланы з матэрыяламі аб эксплёатацыі польскімі ўладамі лясных багацьцяў Беларусі**

*582.2.54:164 — рк бел*
*582.2.54:067 — мк фра*

**1928. Заява Антона Луцкевіча старшыні Найвышэйшай Рады БНР Янку Серадзе за 9.03.1920**

Вільня 9 марца 1920

Яго Дастойнасьці
Пану Старшыні Найвышэйшай Рады БНР
Івану Серадзе
у Менску

Міласьцівы Пане!

28 лютага я напісау просьбу аб адстаўцы на імя Найвышэйшай Рады, якую меуся аддаць Вам грам. Тарашкевіч. Аднак з прычыны хворасьці грам. Тарашкевіча у Вільні пасылка маей просьбы прыпынілася ажно дагэтуль.

Карыстаючыся аказіяй, я зьвяртаюся да Вашае Міласьці з гэткай прапазіцыяй, якая дыктуецца улажыушыміся варункамі, аб каторых зробіць справаздачу аддавец гэтага пісьма. Я прапаную Найвышэйшай Радзе часова устрымацца ад назначэньня Старшыні Рады Народных Міністрау ажно да лепшага выясьненьня палажэньня. Тым часам мог бы выпауняць абавязкі Намесьнік Старшыні г. Смоліч, дый гэта дало б магчымасьць не рабіць перастройкі усяго габінэту, што у гэты мамэнт вельмі трудна і з розных пагляду небаспечна.

Прымеце завярэньне у маей глыбокай пашане

*582.1.04:014 — мк*

**1929. Ліст Антона Луцкевіча (Вільня) Аркадзю Смолічу (Менск) за 9.03.1920**

Вільня, 9 марца 1920.

Д[а]рагі Аркадзь!

Пасылаю на Твае рукі просьбу аб адстауцы, якую з сваей ласкі аддай Найвышэйшай Радзе. А дзеля таго, каб не прыйшлося рабіць ломку усяго Ураду, трэба-б было, каб пакуль што не назначалі новага прэмьера, а выпауненьне яго абавязкау узлажылі бы на Цябе, як майго намесьніка. Тады да часу можа трымацца стары склад габінэту, што асабліва важна для Парыжу.

Разам з тым пасылаю Табе пісьмо Ладнова для орыентацыі, якое прашу мне прачытаушы вярнуць. Яго просьбы аб выдачу яму асобных пауномоцтвау трэба канечна спауніць, бо гэта вельмі патрэбна для эканамічнае работы. Спрэпаруйце пратакол засяданьня Рады Нар. Міністрау пад датай 8 лютага і уставіушы нумэр у орыгінал прыказу Ладнова зьніміце копію і пашліце Дубейкоускаму для перасылкі у Латвію, далучыушы копію маей умовы з Цьвікевічам.

Апрыч таго датай 11 мая 1919 г. пацьвярдзіце зробленае мной зацьверджаньне Ладнова у чыне палкоуніка паводле прыложанага чарнавіка, а чыслом 8 лютага 1920 правядзіце праізводзтва яго у генерал-майоры (бярыце узор з прыказу Ладнова аб Езавітаве). Лічу абодва назначэньні вельмі важнымі. У пратаколі засяданьня упішыце і мяне, а я як буду у Менску падпішу.

Прыказ аб назначэньні Ладнова прапячатайце прыложанай пячаткай Рады Нар. Міністрау і пашліце на мае рукі дзеля подпісу, — ведама, датаваушы 8 лютым, калі я быу «уласьцю».

Аддавец гэтага пісьма раскажа аб усіх справах асабіста, бо есьць шмат такога, аб чым на пісьме гутарыць не выпадае.

Шчыры прывет усім!

*582.1.14:058 — мк*

**1930. Ліст дыпляматычнага прадстаўніка БНР у Бэрліне Леаніда Баркова (Бэрлін) генэральнаму консулу Польшчы ў Бэрліне за 9.03.1920 у справе затрыманьня Язэпа Мамонькі на станцыі Люзін польскім камэндантам і забраньня ў яго рэчаў і грошай**

*582.2.54:338 — мк*

**1931. Агляд латвійскага друку за 1.03-10.03.1920 кіраўніка Аддзелу Друку [Вайскова-Дыпляматычнай Місіі БНР у Латвіі й Эстоніі?] Я.Грузеўскага**

*582.2.54:046&r — мк*

**1932. Мэмарыял Беларускай Дэлегацыі (Парыж) Нарадзе Паслоў на Мірнай Канфэрэнцыі ў Парыжы за 11.03.1920 аб жорсткасьцях і злоўжываньнях польскіх акупацыйных уладаў, з патрабаваньнем прысылкі ў Беларусь міжнароднай камісіі**

*582.2.54:155&r -157&r — р перакладу на беларускую мову*
*582.2.54:158 — мк бел*
*582.2.54:159-163 — мк фра*

**1933. У.Каранеўскі. Дзеля чаго патрэбна беларусам свая школа (артыкул)**

*582.2.55:010&r-015&r — р*

Дата невядомая.

**1934. Акт, складзены дырэктарам Агульнага Дэпартамэнту Міністэрства Замежных Справаў УНР Міколам Багрыноўскім і в.а. міністра фінансаў БНР Лявонам Дубейкоўскім у Варшаве 12.03.1920 аб перадачы 1.000.000 карбованцаў у якасьці пазыкі, дадзенай Урадам УНР Ураду БНР тэрмінам на год пад 9% гадавых**

*582.2.40:077 — ма*

**1935. Акт, складзены в.а. міністра фінансаў БНР Лявонам Дубейкоўскім і шэфам Канцылярыі Рады Народных Міністраў Сьцяпанам Некрашэвічам у Варшаве 12.03.1920 аб атрыманьні 1.000.000 карбованцаў у якасьці пазыкі, дадзенай Урадам УНР Ураду БНР тэрмінам на год пад 9% гадавых**

*582.2.40:078 — ра*

**1936. Даведка былога сакратара Пасольства БНР на Украіне Юрыя Камарынца (Варшава) за 13.03.1920 аб тым, што ўсяго з сумаў Пасольства былому консулу БНР у Адэсе Сьцяпану Некрашэвічу было выдадзена 6.800 польскіх марак, 400 аўстрыйскіх кронаў і 2.000 карбованцаў**

*582.2.40:095 — ра*

**1937. Ліст Антона Луцкевіча (Вільня) Вацлаву Іваноўскаму (Варшава) за 14.03.1920**

Wilnia, 14.III.20.

Daraženki!

Zrabi łasku, napišy padrobnaje piśmo ab Twaich pierahaworach z palakami Ładnowu ŭ Paryž, kab jon byŭ u kursie sprawy i [nie] zrabiŭ jakoha falšywaha kroku. Ładnoŭ — caławiek absalutna naš i peŭny, dyk jamu pišy ŭsio, jak jość,

biez nijakich prykras. Heta tym bolš ważna, što ja jamu zdaŭ kiraŭnictwa Zahraničnymi Sprawami, jak majmu zamiaściciełu pa min-wu Zahr. Spraŭ. Pierašli jamu i kopiju majej umowy z Ćwikom, jakuju dałučaju.

Piśmo Twajo Ładnowu pierašle p. Dubiejkoŭski ustanoŭlenaj darohaj. Adresuj: M-r de Vulitch (pour Colonel Ladnoff) 58 rue Taitbou, Paris.

Twoj Ant.
*582.2.37:038-039 — ра*
*582.2.37:037 — канвэрт*

**1938. Ліст прадстаўніка ЦК БПСР Язэпа Мамонькі (Бэрлін?) паслу БНР на Украіне Аляксандру Цьвікевічу (Бэрлін) за 14.03.1920 з просьбай паведаміць аб магчымасьцях асыгнаваньня Ўрадам БНР грошай на дзейнасьць БПСР**
*582.2.54:062 — ма*

**1939. Ліст в.а. міністра фінансаў БНР Васіля Захаркі (Бэрлін?) прадстаўніку ЦК БПСР Язэпу Мамоньку за 14.03.1920 (вых. №32)**
*582.2.54:061&r — ма*

---

У лісьце паведамляецца, што ЦК БПСР мае атрымаць з Дзяржаўнага Скарбу БНР на 1920 год 1.250.000 рублёў, аднак у дадзены момант выплата немагчымая.

**1940. Пераклад артыкулу аб рабаваньні палякамі народнай гаспадаркі Беларусі // Беларусь (Менск). №57. 14.03.1920**
*582.2.54:063 — мк фра*

**1941. Пераклад артыкулу: Экспарт лесу з Беларусі ў Англію // Беларусь (Менск). №57. 14.03.1920**
*582.2.54:166&r -167 — рк бел*
*582.2.54:064 — мк фра*

**1942. «Варта Бацькаўшчыны». Вестка N-ага Беларускага Батальёну. Выходзіць па меры магчымасьці ў Літоўскай Чыннай Арміі. Выдавец: Штаб Батальёну. Рэдактар: Рэдакцыйная Рада. №9 — 15 сакавіка 1920**
*582.2.54:044&r-045&r — ш*

**1943. Акт, складзены в.а. міністра фінансаў БНР Лявонам Дубейкоўскім і шэфам Канцылярыі Рады Народных Міністраў Сьцяпанам Некрашэвічам у Варшаве 12.03.1920 аб абмене 200.000 карбованцаў на 23.000 польскіх марак**
*582.2.40:079 — ра*

**1944. Рапарт шэфа Вайскова-Дыпляматычнай Місіі БНР у Латвіі і Эстоніі палкоўніка Кастуся Езавітава Старшыні Рады Міністраў БНР Антону Луцкевічу за 18.03.1920 (вых. №296) аб пачатку працы беларуска-латвійскай пагранічнай камісіі**

Вайскова-Дыплёматычная Місія
Беларускай Народнай Рэспублікі.
у Латвii i Эстii
18 сакавіка 1920 г.
№296

Срочна.

Старшыне Рады Міністроу
Беларускай Народнай Рэспублікі.

Рапарт.

Мною, толькі што, атрымана нота ад Міністра Заграніčных Спрау Латвійскага Часовага Ураду ад 17.III. г/г. за № Р.800/4322, з паведамленьнем, што беларуска-латвійская пагранічная камісыя пачне працу 20 гэтага сакавіка.

Прашу Вас, Пане Старшыня Рады Міністроу, зрабіць ласку і як найхутчай адказаць на мае два рапарты аб прысылцэ матэрыялоу дзеля гэтай камісыі і мандату для мяне.

Афіцыяльна паведамляю Вас, Пане Старшыня што тутака цікавасьць Беларускай справай і Беларусьсю моцна, з кожным днем, пашыраецца, а таму падкрэсьліваю, што выпауненьне усіх маіх прапазыцый і прозьбау атрыманых Вамі з прадыдущым курьерам павінна быць зроблена ЯК НАЙХУТЧАЙ.

Шэф Місыі
Палкоунік
Езавітоу

За Сэкрэтара
Станевіч
*582.1.04:043*

**1945. Дэкларацыя Беларускай Партыі Сацыялістаў-Рэвалюцыянэраў за 18.03.1920 аб агульным палітычным і сацыяльным становішчы Беларусі, пададзеная ў бюро па скліканьню ў Варшаве на 20.03.1920 канфэрэнцыі сацыялістычных партый дзяржаў, паўсталых на тэрыторыі б. Расеі**

Менск 18.III.1920 году
*582.1.06:001-004 — шк бел*
*582.1.06:005-007 — шк бел*
*582.1.06:051-053 — шк бел*
*582.2.51:121-123 — шк бел*
*582.2.54:055-060 — мк бел (л) з камэнтарамі В.Ластоўскага*

**1946. Ліст прадстаўнікоў Цэнтральнага Камітэту Беларускай Партыі Сацыялістаў-Рэвалюцыянэраў Язэпа Мамонькі й Аляксандра Вальковіча (Бэрлін?) Цэнтральнаму Камітэту Партыі Ўкраінскіх Сацыялістаў-Рэвалюцыянэраў (?) за 18.03.1920 з просьбай аб грашовай дапамозе на партыйную працу**
*582.2.54:054&r — мк*

**1947. Суправаджальны ліст невядомай асобы (Вільня) Міхалу Біржышку за 19.03.1920, дасланы з пакетамі ад віленскіх беларускіх дзеячоў прыхільнікаў збліжэньня зь Літвой для перадачы міністру беларускіх справаў Літоўскае Рэспублікі Язэпу Воронку**

*582.2.50:033 — мк*

**1948. Расьпіска шэфа Канцылярыі Рады Народных Міністраў Сьцяпана Некрашэвіча за 20.03.1920 аб атрыманьні ім ад в.а. міністра фінансаў БНР Лявона Дубейкоўскага для абмену на Украіне 800.000 карбованцаў**

*582.2.40:080 — ра*

**1949. Агляд латвійскага друку за 10.03-20.03.1920 кіраўніка Аддзелу Друку [Вайскова-Дыпляматычнай Місіі БНР у Латвіі й Эстоніі?] Я.Грузеўскага**

*582.2.54:047-051 — мк*

**1950. «Варта Бацькаўшчыны». Вестка N-ага Беларускага Батальёну. Выходзіць па меры магчымасьці ў Літоўскай Чыннай Арміі. Выдавец: Штаб Батальёну. Рэдактар: Рэдакцыйная Рада. №10 — 21 сакавіка 1920**

*582.1.13:001&r-002&r — ш*
*582.2.54:042&r-043&r — ш*

**1951. Ліст [Анніна (Станевіча?) і Радзіча (Казячага?) (Рыга?)] Аляксандру Вальковічу (Бэрлін?) за 22.03.1920**

*582.2.54:052&r-053&r — ра*

---

Аўтарства вызначанае паводле почыркаў. У лісьце паведамляецца пра неабходнасьць удзелу А.Вальковіча ў канфэрэнцыі сацыялістычных партыяў Эстоніі, Фінляндыі, Латвіі, Літвы, Украіны, Польшчы й Беларусі, якая мае адбыцца 27.03.1920 у Рэвэлі.

**1952. Рапарт шэфа Вайскова-Дыпляматычнай Місіі БНР у Латвіі і Эстоніі палкоўніка Кастуся Езавітава Старшыні Рады Міністраў БНР за 23.03.1920 (вых. №311) аб пачатку працы беларуска-латвійскай пагранічнай камісіі**

23 Сакавіка 1920
№311

Пану Старшыне Рады Народных Міністроў
Беларускай Народнай Рэспублікі

Рапарт.

Маю гонар паведаміць Вас, Пане Міністр Прэзыдэнт, што 20 гэтага сакавіка пачала працу Камісія па апрэдзяленьні меж паміж Беларусьсю і Латвіяй.

Даклад аб першым пасядзэньню будзе перасланы дадаткова, па атрыманьні яго ад старшыні Беларускай камісіі Я.Чэрэпука.

К.Езавітаў
Палкоунік, Шэф Місіі

Станевіч
Дзелавод
*582.2.47:043 — ма*

**1953. Рахунак шэфа Канцылярыі Рады Народных Міністраў БНР Сьцяпана Некрашэвіча (Варшава) за 24.03.1920 на атрыманьне належных яму грошай ад Рады Народных Міністраў**
*582.2.40:090&r — ра*

**1954. Акт, складзены шэфам Канцылярыі Рады Народных Міністраў Сьцяпанам Некрашэвічам і былым сакратаром Пасольства БНР на Ўкраіне Юрыем Камарынцам у Варшаве 24.03.1920 аб курсе карбованцаў на Варшаўскай Біржы**
*582.2.40:091 — ра*

**1955. Расьпіска намесьніка старшыні Беларускага Нацыянальнага Камітэту Антона Крэпскага за 24.03.1920 аб атрыманьні ад старшыні Камітэту Кузьмы Цярэшчанкі 7.000 польскіх марак на выдаткі Камітэту**
*582.2.58:069*

**1956. Нататкі Антона Луцкевіча**
Уступленьне. Ідэя дзяржаўнасьці, як гістарычная спадчына.
Адраджэньне. Рух шляхоцкі і ідэал Рэчыпосполітай.
Рух народны.
Эволюцыя палітычных лёзунгаў народнага руху:
1. Бунтарства — ў агульнарасейскім русьле
2. Самабытная думка:
a) Аўтанамізм-фэдэралізм
b) Аб’яднаньне «акраінных» краін.
c) БРГ - БСГ.
3. Вайна:
a) Разьдзел Беларусі ваенным фронтам.
b) Пад Расеяй — да рэвал.
c) Пад Нямецкай Окупацыяй.
4. Рэвалюцыя
a) Беларускае дзяржаўнае будаўніцтва.
b) Перанос цэнтру ў Менск
c) Аб’яднаньне Вільні з Менскам.
d) Акт 25 Марца 1918 г.
5. Дэмократычная і Савецкая Беларусь.
a) Дэмократызм, як моторная сіла белар. руху.

b) Новы фактар: клясовая выключнасьць — комунізм.
c) Эволюцыя комуністычных паглядаў на Беларусь.
d) Савецкая Беларусь

Заключэньне:

1) Савецкая Беларусь — далёкая ад ідэалу
2) Беларусь парэзана на кускі
3) Пры нормальным ходзе выпадкаў — зьдзейсьненьне дэмокр. ідэалу незал. Беларусі аддаляецца
4) Няпэўнасьць палітычнае раўнавагі.
5) Патрэба творчае працы — узіраючыся на мо' далёкі, але дарагі кожнаму беларусу ідэал Незалежнасьці

*582.1.41:002-003&r — р*

---

Дата й абставіны невядомыя.

**1957. Пераклад інтэрвію міністра замежных справаў Латвіі Зігфрыда Мэеровіца // Latvijas Sargs. №?. 26.03.1920**

*582.2.54:073&r-074&r — шк бел*

---

Дакладная дата невядомая.

**1958. «Заклік да арганізацыі нарады і ўмацаваньня супрацоўніцтва эканамічных і фінансавых дзеячоў прыбалтыйскіх і іншых суседніх рэспублік» Эканамічна-Фінансавага Саюзу Літвы й Рыжскага Арганізацыйнага Бюро**

*582.2.54:175-178,255 — шк*

---

Дата невядомая. З падзагалоўкам: «Просьба перепечатать этотъ призывъ въ распространенныхъ газетахъ и специальныхъ изданіяхъ Латвіи, Литвы, Эстоніи, Финляндіи, Польши, Бѣлоруссіи, Украины и т.д.».

**1959. Нарыс «Вехі эканамічна-фінансавага будаўніцтва Літвы й іншых прыбалтыйскіх рэспублік»**

*582.2.54:179-194 — шк*
*582.2.54:196&r-203&r — шк*

---

Дата невядомая.

**1960. Ліст Аляксандра Цьвікевіча (Бэрлін) Міколу Троцкаму[1] (Вена) за 28.03.1920**

Бэрлін. 28.3.20 г.

Высокапаважаны П. Троцкій

Зьвертаюсь да Вас вось з якой прозьбой:

Некаторым нашым супрацоунікам патрэбна будзе пачаць працу у Вене; для гэтага ім трэба будзе праехаць туды з дыплематычнымі візамі. Нямецкае міністэрства закардонных спрау робіць нам перашкоды в атрыманьні гэтых віз і наагул цягне надта доуга. Вось мы і парэшылі: у патрэбных выпадках пасылаць пашпарты да Вас у Вену і прасіць Вас каб Вы, як наш старый прыяцель, ставілі патрэбныя візы на праезд з Вены да Бэрліна

і назад у нямецкам консульстве у Вене, а так сама і у аустры[й]скам консульстве. За дапамогу будзем удзячны і пры першам спатканні падзякуем асабіста.

З пашанаю АлЦьвікевіч

Аб высылце пашпарта будзем ўсякі раз тэлеграфаваць — і чэкаць ад Вас адказу.

Ваш АлЦв.

*582.2.47:017 — ма*

---

[1] Мікола Троцкі — сакратар Украінскай Дыпляматычнай Місіі ў Вене.

**1961. Сьпіс друкаваных матэрыялаў (нататкі алоўкам Вацлава Ластоўскага)**

Агляд латышскаго друку за Марэц

1) Латышскі друк аб заграгічнай палітыцы (агляд ад 1 да 10 марца)

2) Латышскі друк аб заграгічнай палітыцы (агляд ад 10 да 20 марца)

3) Польская палітыка і згода с Савецкай Расеяй.

4) Да пытаньня аб Усходніх граніцах Польшчы.

5) Міжнароднае палажэньне і заграгічная палітыка Латвіі (агляд друку з 20 да 30 марца)

*582.2.54:262 — р*

**1962. Позва Антону Луцкевічу на паседжаньне Цэнтральнае Рады Віленшчыны й Горадзеншчыны 31.03.1920 у кватэры дырэктара 1-ай Віленскай Беларускай Гімназіі М.Кахановіча**

*582.1.04:013*

**1963. Расьпіска намесьніка старшыні Беларускага Нацыянальнага Камітэту Антона Крэпскага за 31.03.1920 аб атрыманьні ад старшыні Камітэту Кузьмы Цярэшчанкі 3.000 польскіх марак на выдаткі Камітэту**

*582.2.58:074*

**1964. Ліст Браніслава Тарашкевіча (Варшава?) Антону Луцкевічу (Вільня) [04.1920?]**

Браце мілы,

Пісьмы атрымаў. Чуць ужо не падзякаваў за памяць, але, разумею, што справа ня ў тым. Уся справа у Ай-Кітабе. Дык няхай ён зьвядзецца! За ім страціў цэлы дзень. Каб яго добра разабраць дык трэ' было-б ведаць прынамсі альфабэт арабскі. Вось я і ўзяўся вучыцца па-арабску! У некаторых мяйсцох нічога з транскрыпцыі гэнага немца нельга зразумець. Пры тым жа рабіць транскрыпцыю з лацініньнікі на гражданку ня варта, калі з тэхнічнага боку можна надрукаваць лацінінікай: дзеля гэтага я і перапісаў і так і так. Пісаць якія фонэтычныя аб'ясненьні не бярува, бо йшчэ (!) не навучыўся арабскіх літэр (але на кожны прыпадак маю пазнаёміцца з тутэйшым малной і з... магомэтанством).

рыша Язэпа[1] у дойсьцю ім яго мэт. (Разумеецца, калі я думаю не памылкова, што да маючагося у Вас вольнаго часу).

Між іншымі заданьнямі важна вытлумачыць усходнікам, што прызнаньне Беларусі ляжыць у іхнім інтэрэсе. Якімі даннымі — ніхай падскажэ Вам Ваша знаёмасьць с палітычнай сытуацыей на усходзе і Вашэ патрыотычнае сэрцэ. Гэтым Вы зробіце Вялікі крок наперад да правільнаго разуменьня імі нашай справы. Заўважце, што Польша опэруе беларускім нацыональным пытаньнем і стараецца захапіць на яго манаполію у свае рукі; Паскольki для нас цяжка рэакцыйная Польша, па стольki яна не страшна, але страшэн для нас польскі дэмократызм, а гэты апошні мае небавам факірстваваць на нашай Бацькаўшчыне. Цяперашні момэнт пад'ёму беларускаго Народу не павінен апасьці ні дарэмна, ні дзякуючы дабрадзействам езуіцкаго польскаго дэмократызму. Зрэшта толькі недальнавідны палітык не бачыць, што у цяперашні момэнт Беларусь яуляецца гордзіевым вузлом усходняй проблемы. А мы іх лічым, разумеецца дальнавіднымі.

Дайце падробную справаздачу аб Паўлоўскім — што і скуль[2]?

Што пісаў Маркевіч і які атрымліваў адказ?

Чаму меўся туды ехаць Маркевіч?

Як выплыло пытаньне аб прызнаньні ураду Эстіей?

Ці ёсьць і якое грамадзянство беларускае у Рэвелі? Можэ ёсць людзі здатные да дзержаўнаго будаўніцтва.

Наагул прашу падробна інфармаваць. Калі будзе у аўторак[3] адповедзь — прысылайце з Нікіціным.

Затым пасылаю Вам таварыскае павітаньне

ваш ВЛаст...

*582.1.45:017&r — рк*

---

[1] Мамонькі. [2] Паступіла інфармацыя пра тое, што супрацоўнік Беларускай Місіі ў Бэрліне Паўлоўскі — савецкі агент (гл. дакумэнт №2090). [3] 4.05.1920.

**2035. Ліст міністра замежных справаў Латвіі Зігфрыда Мэеровіца (Рыга) старшыні Рады Народных Міністраў БНР Вацлаву Ластоўскаму (Рыга) за 28.04.1920**

Часовы Урад Латвіі

М-во Загр. С.

28.IV.20

№6379

Рыга.

Excellence,

пацьверджаючы гэтым атрыманьне Вашаго ліста ад 6 красавіка №142 і заключаючае у сабе верыцельную грамату №140 ад 5 красавіка ад новага Ураду Б.Н.Р. с пацьверджэньнем поўнамочый прэдстаўніцтва Вайскова-Дыплёматычнай Місыі пры Урадзе Латвіі, міністр Міжнародных Спраў гэтым мае гонар Вас паведаміць, што ён з вялікім здаволеньнем прыймае да ведама гэто паведамленьне Вашай Эксцэленцыі, што новы

Урад Б.Н.Р. заховывае для Латвіі тыеж пачуваньня прыхільнасці, якіе характэрызавалі яго папярэдніка перад Латвіей.

Мэйеровіц
Міністр Заграпічных Спраў
*582.2.54:118 — рк перакладу з францускае мовы В.Ластоўскага*

**2036. Ліст Вацлава Ластоўскага (Рыга) [Язэпу Мамоньку (?) (Рэвэль?)] за 29.04.1920**

Дарагі Таварышу!

Находзяць весткі з Бацькаўшчыны аб новых паўстанцкіх успышках. Ўсе гэты ўспышкі каштуюць нашаму народу лішне дорага, праз тое, што парываюцца ў барадзьбу паўстанцы без экономічнаго грунту і належнай організацыі. Дык трэба каваць жалеза пакуль яно гарачае. Калі перэгарыць агонь настрою, які цяпер пануе яшчэ, народ можэ агарнуць тупая рэзыгнацыя, а тады можэ і доўга прыдзецца чэкаць новага пад'ёму. Вас мы прасілі і даручылі Вам, Таварышу, вышукаць срэдзтвы. Дзействуйце, як можэце энэргічней. Не прасіце, а вымагайце. Мы для нашаго многапакутнаго Народу ўправе вымагаць ад соцыалістоў помачы, таварыскай помачы, для мэты сьвятой і вялікай. Гэта вайна зруйнавала і спролетазавала ўсіх Беларусоў, паміж якімі і раней не было паноў, дык не пазваляйце нікому самневацца нашчот нашай партыйнай няшчырасьці ў сэнсе нашай буржуазнасьці, як гэто іншыя любяць часам нам дапячы.

Энэргічней, сьмялей і быстрэй дзействуйце. Затым прыміце таварыскі прывет ад таварышоў нашых і ад мяне —

Ваш ВЛастоўскі

Напішыце мэморьял у справе апошній падзей у нас і цьверда, энэргічна трэбуйце помачы. Наагул, я раіў-бы Вам, як ужо і вышэй казаў, паступаць рашыцельна, не прасіць, а вымагаць на аснове нашай праграмы. Гэтымі днямі выезджае Ляховіч, ён можэ і павінен памагчы Вам. Але агульна не раджу даверацца людзям. «Будзьце кротцы яко голубі і мудры яко зміі» навучаў Хрыстос. Навука у нашы часы вельмі прыдатная.

Затым ешчэ раз вітаю Вас.

ВЛаст...

*582.1.45:010&r — рк*

**2037. Ліст Янкі Чарапука (Рэвэль) Вацлаву Ластоўскаму (Рыга) за 29.04.1920**

Дарагі дзяцька Ўласт! Тут перэдаю Вам тэкст адказа Чычэрына на тэлеграму Місіі у Латвіі пасланую праз Маркевіча аб вызнані незалежнасьці.

[...][1]

Ноты урадовыя і ліст Паўлуце[2] праз «ўсходняго курера[»] я перэслаў адказу чэкаю у ваўторак прашу Вас звярнуць увагу на Казячаго, я атрымаў весткі, якія даюць мне права сказаць быць «часова» асьцярожным да яго і не затверджваць пакуль што «консулам». Таксама датычыцца гэта і Маркевіча. Падробнасьці вышлю сваім курерам, калі буду мець усе факты.

Цалую Янка Чэр...

29 чэцвер Рэвель.

P.S. Гропшы дабываюць з другіх крыніц на Бадунову німа у гэты час надзеі.

*582.1.45:011&r*

[1] Тэкст гл. у дакумэнце №2020. [2] Палуце Бадуновай, якая ў тым часе была ў Маскве.

**2038. Расьпіска загадчыка справаў Менскага Пэдагагічнага Інстытуту Віктара Войтэнкі (Менск) за 29.04.1920 аб атрыманьні ад рэктара Інстытуту Вацлава Іваноўскага 22.000 польскіх марак на закупку ратаатара**

*582.2.56:008*

**2039. Расьпіска бібліятэкара Менскага Пэдагагічнага Інстытуту Міколы Байкова (Менск) за 29.04.1920 аб атрыманьні 2.000 польскіх марак авансу**

*582.2.56:009*

**2040. Тэлеграма Васіля Захаркі (Бэрлін) Пятру Крэчэўскаму (Прага) за 29.04.1920**

= werschinin kretschewskomu
wenzogowa 4 prag =

+ berlin 81030 21 29 1,40 n

= ladnou wyechau prosta rygu prosic neadkladnago naszaho pryezdu telegrafuju kostusju szto wyezdzaem panedzelak chuczej waroczajsja = sacharko +

*582.2.47:011 — a*

**2041. Позва Антону Луцкевічу на паседжаньне Цэнтральнай Рады Віленшчыны й Горадзеншчыны ў Вільні 30.04.1920**

*582.1.41:076*

Падпісана: віцэ-старшыня М.Кахановіч

**2042. Расьпіска часовага сакратара Выдавецкай Камісіі Менскага Пэдагагічнага Інстытуту М.Гур[...?] (Менск) за 30.04.1920 аб атрыманьні ад Вацлава Іваноўскага 23.000 польскіх марак на закупку паперы**

*582.2.56:010*

**2043. Б.Мэон. Аб справядлівасьці (Прыпавесьць). Пераклад В.Л. (Вацлава Ластоўскага)**

*582.1.45:009r*

Дата невядомая. Дакумэнт падшыты з паперамі за красавік 1920 году. Пераклад быў надрукаваны ў часапісе «Крывіч», №4, кастрычнік 1923.

**2044. Візытоўка Рыгора Казячага**

Grégoire Kaziatchy
remplaçant du Consul de la
République Démocratique Blanche-Routhénienne à Riga.

*582.1.71:018*

**2045. Блянк пасьведчаньня 1-га Беларускага Бабруйскага Атраду Сагайдакаў**

*582.2.36:066 — д*

---

Дата невядомая. З дэвізам: «Будзь гатоў!»

**2046. Тэкст тэлеграмы Васіля Захаркі (Бэрлін) Аляксандру Цьвікевічу (Коўна) за ??.0?.1920**

Kowno Litauische Ministerium des Aussern für Zwikewitsch
Anton[1] müss sofort kommen
Zacharko.

*582.2.47:013 — рк*

---

Дата невядомая. [1] Магчыма, Антон Аўсянік.

**2047. Пераклад Міколам Вяршыніным артыкула «Украінская брыгада і Украінская місія» зь невядомай чэскай газэты ў справе дыпляматычных акцыяў Савецкай Расеі і Ўкраіны ў сувязі з фармаваньнем на тэрыторыі Чэхаславаччыны вайсковых частак з украінскіх ваеннапалонных для ўдзелу ў ваенных плянах Пятлюры**

*582.2.47:039&r-040 — ра*

---

Дата невядомая.

**2048. Блянк запрашэньня Камісіі пры Радзе Беларускай Калёніі ў Латвіі прыбыць у памешканьне Консульства БНР (бульвар Тотлебэна, №7, кв.3)**

*582.2.54:149&r — д*

---

Дата невядомая.

**2049. Рапарт шэфа Вайскова-Дыпляматычнай Місіі БНР у Латвіі й Эстоніі (Рыга) старшыні Рады Народных Міністраў БНР Вацлаву Ластоўскаму (Рыга) за ??.05.1920 з паведамленьнем аб неабходнасьці арганізацыі беларускага этнаграфічна-эканамічнага аддзелу на Міжнародным Балтыйскім Кірмашы, які мае адбыцца ўлетку 1920 году ў Рызе**

*582.2.54:174 — шк*

---

Дакладная дата невядомая.

**2050. Сьпіс друкаваных матэрыялаў (нататкі алоўкам Вацлава Ластоўскага)**

Экономіка Беларусі

1) Вехі экономічна-фінансаваго будаўніцтва Літвы і другіх прыбалтыцкіх рэспублік.

2) Вываз беларускіх багацтв.

3) Заклік да устройства нарады і узмацаваньня супрацоўніцтва экономічных і фінансавых дзеячоў прыбалтыцкіх і другіх суседнік рэспублік.

4) Статут Конфэрэнцыі Балт

*582.2.54:195 — р*

Дата невядомая.

**2051. Ліст Язэпа Лёсіка (Менск) Антону Луцкевічу (Вільня) за 1.05.1920**

Шаноўны пане Антоні!

Ваш артыкул «На пярэдадні разьвязкі» цэнзура ня пусьціла, аб чым сьведчыць лысіна ў газэце. Тагды я пазволіў сабе выкарыстаць[1], аб чым прашу Вашага выбачэньня. Што да артыкулу «У раскрытыя карты»[2], то я ўжо яго саўсім не даваў у друк, бо усё роўна выкінула-б вайск. цэнзура. У артыкуле «Беларускі актывізм»[3] я крошку выправіў ваш погляд на беларускіх бальшавікоў, аб чым гэтак сам[а] вельмі прашу выбачэньня.

Я вельмі прашу, каб пан ня гневаўся на мяне за гэта, бо тут я ня вінен.

Спадзяюся, што пан прышле у «Беларусь» цэлую кучу артыкулаў.

Я думаў што пан згодзіцца быць рэдактарам «Беларусі», а як даведаўся, што Вы заняліся штомесячнікам, дык у мяне і рукі апусьціліся. Трэба сказаць, што мне ужо стала трудна вясьці газэту.

Моцна цісну Вашу руку

1 мая 1920 Яз. Лёсік

Менск

*582.1.41:094*

[1] А[нтон] Н[авіна]. Напярэдадні разьвязкі // Беларусь. №88(144). 27.04.1920. [2] А[нтон] Н[авіна]. У адкрытыя карты // Беларусь. №96(152). 7.05.1920. [3] А[нтон] Н[авіна]. Беларускі актывізм // Беларусь. №88(144). 27.04.1920.

**2052. Ліст рэфэрэнта МЗС Польшчы Міхала Лубеньскага (Варшава) Лявону Дубейкоўскаму (Варшава) за 1.05.1920**

*582.1.41:080*

Перасланы Л.Дубейкоўскім А.Луцкевічу — з паведамленьнем аб немагчымасьці выдаць А.Луцкевічу дыпляматычны пашпарт

**2053. Рахунак друкарні Якуба Грынблата Выдавецкай Камісіі Менскага Пэдагагічнага Інстытуту за 15.02.1920 за друк «Гісторыі Беларусі»[1] і расьпіскі аб атрыманьні ім ад Камісіі 5.500 польскіх марак за 30.04 і 1.05.1920**

*582.2.56:011*

[1] «Гісторыя Беларусі» У.Ігнатоўскага выйшла друкам у сакавіку 1920 году.

**2054. Наказ міністра беларускіх справаў Літоўскай Рэспублікі Язэпа Варонкі (Коўна) літоўскаму дэлегату на мірныя перамовы ў Маскве Даменіку Сямашку за 1.05.1920**

ДЛЯ ПАМЯТИ.

Ковно.
1 Мая.

Если вообще, литовско-бѣлорусское соглашенiе, основанiе которому положила Виленская Бѣлорусская Рада въ ноябрѣ и декабрѣ 1918 год продлится дальше, то соединенiе части бѣлорусской территорiи съ литовской можетъ быть завершено только на такомъ принципѣ:

ЛИТОВСКАЯ РЕСПУБЛИКА ДОЛЖНА ДѢЛИТЬСЯ НА ДВѢ ЧАСТИ (ПО ЭТНОГРАФИЧЕСКОМУ РАЗСЕЛЕНIЮ ОБОИХЪ НАРОДОВЪ): на «литовскую землю» и «бѣлорусскую землю». Дѣленiе это должно проходить приблизительно по линiи: Августовъ — Друскеники — Ораны и дальше зигзагами по магистрали Ораны —Двинскъ.

Никакое дѣленiе на «Собственно-Литву» съ Гродной, Лидой, Ошмянами и «Слонимскую Землю» съ Бѣлостокомъ и Слонимомъ ни при какихъ автономiяхъ для этой послѣдней не можетъ быть прiемлемо.

Никогда никто не отдѣлитъ Гродны и Ошмянъ отъ Слонима Бѣлостока и Бѣльска.

Для безболѣзненности же этого соединенiя (такъ какъ Правительство Бѣлорусской Народной Республики также, какъ и Литва собираетъ свои земли въ одно цѣлое) сговоръ Литовскаго Правительства съ Бѣлорусскимъ необходимъ.

Слѣдуетъ больше думать о внѣшнихъ границахъ, нежели о внутреннихъ (раздѣляющихъ литовцевъ и бѣлоруссовъ).

*582.2.50:032 — мк рас*
*582.2.54:207 — мк бел*
*582.2.54:213 — мк бел*

**2055. Выпіска з пратаколу №11 паседжаньня Найвышэйшае Рады БНР у Менску за 2.05.1920**

Extrait de protocole No11 de Séance du Conseil Supérieur de la République Démocratique Blanc-Ruthénienne à Miensk, le 2 mai 1920.

Présents: les Membres du Conseil Supérieur — Jean Sereda; Simon Rak-Mikhailovsky, Kosma Terechtchenko, Joseph Losik et Représentants du Gouvernement V.Ivanowsky et Arc.Smolitsch.

On examinait: 1. Demande de démission de Président du Conseil des Ministres M-r Antoine de Loutckevitch.

On a résolu: 1. Après avoir examiné la situation politique actuelle on a résolu: refuser la demande de démission; prier M-r Antoine de Loutckevitch de continuer à accomplir des fonctions de Président du Conseil des Ministres, de Ministre des Finances et de Ministre des Affaires Étrangères. M-rs Joseph Losik, Simon Rak-Mikhailovsky et Arc.Smolitch sont chargé[s] de pourparler personnellement avec M-r Antoine de Loutckevitch.

L'original est signé: Conseil Supérieur de la République Démocratique Blanc-Ruthénienne. J.Sereda, Rak-Mikhailovsky, Kos.Terechtchenko, J.Losik. Représentants du Gouvernement: V.Ivanovsky, A.Smolitch.

L'extrait conforme à l'original.
Pour le Secrétaire: Membre du Conseil Supérieur Rak-Mikhaïlovsky.
Le 3 mai 1920
*582.1.04:007&r — мк фра*
*582.1.04:018 — рк бел*
*582.1.04:042 — рк бел*

**2056. Запіска Аляксандра Каца (Рыга) Вацлаву Ластоўскаму (Рыга) за 2.05.1920 з просьбай пазычыць грошай**
*582.1.45:013&r*

З прыпіскаю Ластоўскага: «Даў трэцьцюю сотню за апошнія два тыдні».

**2057. Фатакопія ліста «Залескага» [Язэпа Мамонькі] доктару Гравэнгофу за 2.05.1920**

Секретно.

Господин Доктор

Я очен извиняюсь, что так долго не мог Вам ничего сообщить. Сначала шлю Вам прывет, а также прывет Вам и от Александра Ивановича.

Новости у нас следующіе:

Большевики сбили поляков заняли Борысов и продвинулись вглуб на 90 верст в раионе Вильно почти дошли до Молодечно. Вильно поляки эвакуируют и бьют в набат перед союзники о помощи. По имеющимся у меня сведеньям помощи они не получать. Врангель и его правительство пусть не предпрынимают никаких походов против советской России ибо это затянет гражданскую войну и будет губить Руский народ. Дела у меня идуть успешно надеюсь будуть результаты, только необходима скорая финансовая помощь.

Против поляков работа идет успешно уже было ряд востаниев в Минской губернии. Возставшими были захвачены некоторыя села и местечки. Возстание было подавлено большими жестокостями имеем жертвы, несколько разстрелено нащых тов. Петлюровская авантюра для нас ничего не стоит ибо она не имеет под собой никакой почвы. Петлюра кажется арестован Поляками. Скажите Немцам, если они сейчас нам недадут немедленной финансовой помощи, то мы больше к ним обращатся не будем и работу свою направим в другую сторону, но это будет для Немцев не выгодно в их экономической жизни. В Москве Брусилов прыглашен командовацъ войсками против Польши.

Я еду работать в Польшу. Давайте мне вести и деньги нужны срочно работа большая.

С почтением к Вам
Залеский

2/V 20 г.
*582.2.37:041-042 — фк*

Ліст быў інспіраваны й прадыктаваны Аўгенам Ладновам, які пасьля выкарыстоўваў яго ў справе выкрыцьця «нямецкае бальшавіцка-манархічнае змовы». Гл. Собственноручныя показания А.И.Луцкевича 30 октября 1939 г. // Нёман. №1. 01.1995. С.152.

**2058. Ліст сябра Літоўскай Дэлегацыі для перамоваў з Расеяй Дамініка Сямашкі (Рыга) старшыні Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі Вацлаву Ластоўскаму (Рыга) за 2.05.1920**

Пану Старшыне Рады Народных Міністрау
Беларускай Народнай Рэспублікі.

Будучы, як беларус делегован на міравые перагаворы Літоускай Дзяржавай з Савецкай Расеяй і стаючы за Беларуска-Літоускае паразуменьне на грунце недапушчэньня захвата палякамі Беларускіх Зямель Городзеншчыны, падаю праэкт Літоускаго Ураду наконта будучаго устройства этнаграфічных Беларуских зямель у Літоускай Дзяржаве:

1, каб абараніць ад захвату палякамі беларускіх зямель Горадзеншчыны Літоускі Урад лічыць патрэбным увзяць гэтыя землі пад часовы пратэкторат Літвы,

2, узятыя пад пратэктарат Літвы Беларускія Землі будуць Літвой саарганізованы у Асобную Беларускую Дзяржауна-Праунуую Адзінку з Асобным сваім Сеймам, Радай Міністроу і іншымі Беларускімі Дзяржаунымі Установамі і Арганізацыямі,

3, па некалькі гадах гэты Край вырэшыць сам усенародным галасаваньнем сваю Дзяржаунуую прыналежнасьць да Літвы або Беларускай Народнай Рэспублікі, і у ніякім разе да Польшчы.

Падаючы гэты праект на развагу Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі, прашу даць пісьменную адповедзь аб сваім аднашэньні да гэтага праэкту. -

Падпісау: Д.Семашка.
Член Літоускай Мірнай Дэлегацыі для перагавороу з Расеяй.

Рыга, 2 мая 1920 г.
*582.2.50:029 — мк*
*582.2.54:204 — мк*
*582.2.54:210 — мк*

**2059. Ліст старшыні Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі Вацлава Ластоўскага (Рыга) сябру Літоўскай Дэлегацыі для перамоваў з Расеяй Дамініку Сямашку (Рыга) за 2.05.1920 (вых. №185)**

Беларуская Народная Рэспубліка
Рада Народных Міністроу

2 Мая 1920 г.
№185

Дэлегату Літоускай Дзяржавы на
Мірную Конфэрэнцыю паміж Літвой і Расеяй
пану Дамініку Семашко.

У адповедзь на Вашу заяву 2 мая 1920 г. Урад Беларускай Народнай Рэспублікі, разважыушы праект абароны Беларускіх зямель Городзеншчыны ад польскаго захвату, які выстауляе Урад Літоускай Дзержавы,

мае гонар паведаміць Вас, што Урад Беларускай Народнай Рэспублікі можэ згадзіцца на праект, але толькі тады, калі:

1, будзе мець на руках патрэбные гаранціі Літоускай Дзяржавы;

2, калі пытаньне аб граніцах паміж Беларускай Народнай Рэспублікай і Літвой будуць развязаны толькі самымі гэтымі дзяржавамі без нарушэньня суверэнных правоу абодвых Народоу і Дзержау.

Старшыня Рады Народных Міністроу Б.Н.Р.
В.Ластоускі.
*582.2.50:028 — мк*
*582.2.54:205 — мк*
*582.2.54:211 — мк*

**2060. Ліст Лявона Дубейкоўскага (Варшава) Антону Луцкевічу (Вільня) за 3.05.1920 і канвэрт**

Pawažany Tawaryšu!

Kali zwiarnuŭsia da Uschodniaho Addziełu — daklarowali feuille de route, ab hetym zaraz-ža powiadomiŭ Was telehramaj i prasiŭ prysłać fotohrafii. Na druhi dzień atrymaŭ list u jakim admowilisia wydać daklarowany propusk, a tolki pašpart «Cywilnaha uradu Ŭschodnich ziamiel». Stała jasna, što, kali i buduć puskać nas zahranicu, to biez prywilejaŭ dyplomatyčnych. Na moj pohlad — treba jechać jak niebudź, bo kali nia kupim ciapier papiery ad finlandcaŭ dyk i nia budzie našych knižok i našaha druku. Pryšlicie, kali łaska, fotohrafi[i] i ahulnyja wiestki, bo ja tut siadzu ja[k] za trydziewiatym haspadarstwam, kudy i ptuški z našaj staronki ni dalatajuć. Ćwikiewič, jak kazaŭ Taras, mieŭsia pryjechać da Waršawy 15 prošłaha krasawika, dyk i ciapier usio jedzić. A da mianie pryslaŭ užo dwa listy, chwal[u]čysia, što jamu tam tak dobra, što wisna jaho tak razabrała, što nia chočycca z miesta rypnucca. Choć «Bazyl» telehrafowaŭ da mianie, kab «Aleksandar» da jaho pryjechaŭ. Woś jaki Ćwik, a ni raiŭ ja Wam abdzialać jaho takim paŭnamoctwam-solo, ale, štož — u dobraha čaławieka — usie ludzi dobryja. A kali — tak jak ja — abchwacicca, dyk i na maroz dzmie toj dobra.

U mianie ciapier tutyka ciomna i pusta — može dobry wiecier pryniasie jakijaś lepšyja wiestački. Hrošy, jakija tre pasłać Abramowičance, dyk nima praz kaho pasłać — Ćwika wisna pryćwikawała, prynamsi choć adnamu biłarusu dobra žyć na świeci — Na Kalady Cwik jedzie da žonki, na Wialikadnia Cwik jedzie da zonki, dyj hrošy-ž maje — poŭny mašonki...

Bywajcie zdarowy, waš Lawon. 3.V.20.
*582.1.41:079&r*
*582.1.41:081 — канвэрт*

**2061. Ліст Івана Луцэвіча (Менск) Антону Луцкевічу (Вільня) за 3.05.1920**

Вельміпаважаны Паночку!

Пасылаю Вам фот[о]графіі на клішэ. Зрабеце ласку і аддайце іх у цынкографію.

1. Вялікіе фотогр. (іх 7(сем) шт.) хай зьменшуць на палавіну, з паміж іх акварэль «Віленскіе негоцыянты...» хай зробяць бяз подпісу.

2. Фотогр. у канвэрце №1 (6 шт.), зрабіць у разьмеры, як яны ёсьць.

3. Так сама фотогр. у канв. №2 (17 шт.) разьмер можна пакінуць той самы, толькі Вы, Паночку, зрабеце з цынкографам выбар: якія з іх выйдуць на клішэ, а якіе не.

4. Фотогр. (кабінэт. форм.) «Вэрыга-Дарэўскі[»] (падпіс. на абароце) аставіць як яна ёсьць, але толькі што ў чорнай абводцэ, бяз белага поля.

5. У пасыланай Вам кнізе «Księga Pamiątkowa» у I томе, стр. 337, знойдзіце фотогр. Чэчота. Хай з яе зробяць клішэ, крыху зьменьшыўшы і бяз подпісу.

Для арыентацыі пасылаю Вам N «Рунь»[1].

Так сама пасылаю адну тысячу марак; што выйдзе даражэй — то я Вам зараз-жа вышлю па адтрыманьні рахунку.

Будзьце ласкавы, Паночку, паціснуць цынкографа, каб зрабіў як найхутчэй, ды пры першай аказыі перашліце клішэ мне.

Астаюся шчыра Вам адданы

Ваш Ів. Луцэвіч

Менск 3/V-20 г.

P.S. Што чуваць з Вашым журналам? Як будзе называцца? На днях вышлю Вам папраўлены верш «Хаўтурны марш».

*582.1.41:086-086а*

[1] Першы нумар рэдагаванага Янкам Купалам часапіса «Рунь» выйшаў 2.05.1920.

**2062. Kurjer Polski (Warszawa). Nr.120. 3.05.1920**

*582.1.69:001*

З нататкай «Oświadczenie białoruskie» аб пратэсьце Беларускага Прэс-Бюро ў справе заявы Дубановіча (у «Głosie Narodu») пра кампрамісную ўмову беларусаў з польскімі ўладамі. Прэм'ер-міністар Польшчы Скульскі 22.04.1920 выступіў з прамовай аб беларускім пытаньні на Соймавай камісіі Заграпічных Спраў, а таксама даў інтэрвію кракаўскай газэце «Czas», дзе запрапанаваў даць беларусам самакіраваньне, не заахвочваць сэпаратызму, прышчапляць прыхільнасьць да Польшчы. Беларускія кіраўнікі, паводле Скульскага, згодныя на такі плян, тым часам як падзел Беларусі быў бы не ў інтарэсах Польшчы.

**2063. Расьпіска старшыні Віленскага Беларускага Нацыянальнага Камітэту Фабіяна Ярэміча (Менск) за 3.05.1920 аб атрыманьні ад Беларускай Школьнай Рады 13.000 польскіх марак для перадачы прадстаўніку Цэнтральнай Беларускай Школьнай Рады ў Вільні Францішку Ўмястоўскаму**

*582.2.56:013*

**2064. Паведамленьне Цэнтральнай Беларускай Школьнай Рады прадстаўніку Рады ў Вільні Францішку Ўмястоўскаму аб перадачы з Фабіянам Ярэмічам 13.000 польскіх марак на дапамогу Віленскай Беларускай Гімназіі (10.000) і на выдачу дапамогі настаўнікам (3.000)**

*582.2.56:014*

**2065. Расьпіска старшыні Віленскага Беларускага Нацыянальнага Камітэту Фабіяна Ярэміча (Менск) за 3.05.1920 аб атрыманьні ад Бе-**

**ларускай Школьнай Рады 17.000 польскіх марак на арганізацыю выдавецтва рэлігійных кніг у Вільні (7.000) і на дзіцячы прытулак пры Віленскай Беларускай Гімназіі (10.000)**
*582.2.56:015*

**2066. Расьпіска Антона Трэпкі (Менск) за 4.05.1920 аб атрыманьні ад Ядзьвігі Іваноўскай-Луцэвіч 50.000 польскіх марак на патрэбы Цэнтральнага Беларускага Саюзу Сельскай Гаспадаркі**
*582.2.56:016*

**2067. Расьпіска намесьніка старшыні Беларускага Нацыянальнага Камітэту Міхася Кудзелькі за 4.05.1920 аб атрыманьні ад старшыні Камітэту Кузьмы Цярэшчанкі 5.000 польскіх марак на выдаткі Камітэту**
*582.2.58:072*

**2068. «Свобода Россіи» (Ревель). №99. 5.05.1920**
*582.1.45:018а*

---

Газэта, дасланая М.Маркевічам В.Ластоўскаму ў Рыгу. У артыкуле Л.Павловича «Бѣлоруссія» паведамляецца аб «легалізацыі» Ураду Ластоўскага ў Менску.

**2069. Расьпіска загадчыка справаў Менскага Пэдагагічнага Інстытуту Віктара Войтэнкі (Менск) за 5.05.1920 аб атрыманьні ад рэктара Інстытуту Вацлава Іваноўскага 400 польскіх марак на патрэбы Інстытуту**
*582.2.56:017*

**2070. Тэлеграма народнага камісара замежных справаў РСФСР Георгія Чычэрына (Масква) [...?] за 8.05.1920**

Тэлеграмма 5.V.20

1. На какую територію распространяется власть его (Черепука) правительства;
2. Какими дѣйствительными силами обладает;
3. Какіе имѣет и может дать перспективы на случай военных дѣйствій;
4. Чем может гарантировать нам, что не будет играть роль прикритія изъ существующих государств.

Чичерин (подпись).
*582.2.54:218 — рк В.Ластоўскага*

**2071. Рэзалюцыя, вынесеная на агульным сходзе пленуму Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Менску// Беларусь (Менск). №94. 5.05.1920**
*582.2.54:220 — мк*
*582.2.54:221 — мк рас*

---

З абвяржэньнем заявы міністра-прэзыдэнта Польшчы Л.Скульскага й пасла на Сойм Дубановіча за 22.04.1920 аб адмове беларускіх кіраўнічых колаў ад патрабаваньняў незалежнасьці ў абмен на мясцовае самакіраваньне.

**2072. Расьпіска загадчыка справаў Менскага Пэдагагічнага Інстытуту Віктара Войтэнкі (Менск) за 6.05.1920 аб атрыманьні ад рэктара Вацлава Іваноўскага 1.000 польскіх марак для платы Кантаровічу**
*582.2.56:012*

**2073. Расьпіска Антона Трэпкі (Менск) за 6.05.1920 аб атрыманьні ад Вацлава Іваноўскага 25.000 польскіх марак на патрэбы Цэнтральнага Беларускага Саюзу Сельскай Гаспадаркі**
*582.2.56:018*

**2074. Рахунак крамы друкавальных машынак Т.Каца за 6.05.1920 Менскаму Пэдагагічнаму Інстытуту за друкавальную машынку «Кантынэнталь» і расьпіска ў атрыманьні 16.700 польскіх марак**
*582.2.56:019-020*

**2075. Агляд латвійскага друку за 21.04-6.05.1920 [кіраўніка Аддзелу Друку Вайскова-Дыпляматычнай Місіі БНР у Латвіі й Эстоніі Я.Грузеўскага ?]**
*582.2.54:119&r-123 — р*

**2076. Пастанова Цэнтральнай Рады Віленшчыны і Горадзеншчыны за 6.05.1920**

ЦАНТРАЛЬНАЯ РАДА
Віленшчыны і Городзеншчыны
6 трауня 1920 г.
Вільня, Востробрамская 9.

Народнаму Каміссару Міжнародовых
Спрау Расейскай Сацыялістычнай
Федэрацiунай Радовай Рэспублiкi

Грамадзянiну ЧЫЧЭРЫНУ.

Цэнтральная Беларуская Рада Віленшчыны і Горадзеншчыны по поваду выезду у ліку Літоускай Дэлегацыі для мірных перэгаворау з Савецкай Расеяй пана Дамініка Семашко, заяуляе, што пан Дамінік Семашка ні якіх паунамоччау ад беларускіх арганізацый Віленшчыны і Горадзеншчыны не мае і дзеля гэтаго на мірных перэгаворах між Літвой і Савецкай Расеяй інтэрэсоу Беларускаго Народу прэдстауляць ня можа.

Падпісалі: Старшыня Рады Кахановіч, Сэкрэтар Коробач.
*582.2.54:209r — мк*
*582.2.54:215r — мк*

**2077. Рэзалюцыя, вынесеная прадстаўнікамі Цэнтральнай Беларускай Рады Віленшчыны й Горадзеншчыны і прадстаўнікамі беларускіх арганізацыяў Вільні // Беларусь (Менск). №95. 6.05.1920**
*582.2.54:221&r — мк перакладу на расейскую мову*

---

З абвяржэньнем заявы міністра-прэзыдэнта Польшчы Л.Скульскага й пасла на Сойм Дубановіча за 22.04.1920 аб адмове беларускіх кіраўнічых колаў ад патрабаваньняў незалежнасьці ў абмен на мясцовае самакіраваньне.

**2078. Ліст Вацлава Ластоўскага (Рыга) Маліноўскаму [(Міхасю Маркевічу)] (Рэвэль) за 7.05.1920**

Яго Мсці
Высокапаважанаму таварышу
Маліноўскаму
(Маркевічу)

Вельмі прыемна было атрымаць ад Вас вестку, а ешчэ прыемней тое, што Вы цяпер займаеце такое выдатнае і адпаведальнае становішчэ ды далей шчыра працуеце на карысць нашай Дарагой Бацькаўшчыны. У шчырасці Вашай працы я ніколі не сумняваўся, але міма гэтаго прыемна мне Вашае заверэньне у гэтым. Так, наша справа вымагае многа шчырасці і ахвярнасці і толькі калі у нас будуць працаўнікі адпаведаючые гэтым вымогам справа пойдзе наперад і дойдзе да пажаданаго выніку. Але пры усей шчырасці з нашага боку патрэбна і вялікая асцярожнасць, бо лішне многа у нашай справы, а праз яе і у нас ворагаў. Кіруючыся асцярожнасцю я не раіў-бы Вам даваць лішне веры таму, дзе што хто сказаў. Справа будуецца не сказамі, а чынамі і не па гутарцы, а па зробленай рабоце ацэніваюць людзі людзей. Зрэшта аб ніякіх нагаворах на Вас я ня чуў і даведаўся аб нейкіх якобы нагаворах толькі з Вашаго ліста.

Прашу Вас прыслаць мне 1) кароткі нарыс Вашай працы у Рэвелі з абазначэньнем a) як вяліка там беларуская калёнія і b) з якога элемэнту яна складаецца, 2) ці робіцца якая культурная праца, грамадзянская праца, хто яе запачаткаваў і хто вядзе цяпер? Гэта апошняе асабліва важна, бо ўся наша будучына залежыць ад суммы зробленай намі культурнай працы. 3) Якіе ёсць у Рэвелі культурные беларускіе сілы годные да дзержаўнай, грамадзянскай, літэратурнай, або тэхнічнай працы? Прышліце мне акуратные копіі Вашай перапіскі з Расейскім Урадам з абазначэньнем кождай гісторыі яе і даты.

Затым прыміце словы шчырага павітаньня
ВЛастоўскі
7.V.20.
Рыга
*582.1.45:018&r — рк*

**2079. Ліст Вацлава Ластоўскага (Рыга) Янку Чарапуку (Рэвэль) за 7.05.1920**

Паважаны Таварышу!

Сягоньня атрымаў я Ваш ліст з 29.IV. і у ім копію адповедзі Чычэрына. Шкада толькі, што Вы забыліся прыслаць тэкст Маркевічавай запіскі і паставіць дату з якой паходзіць адповедзь. Ну, але гэто можна будзе, я думаю, паправіць у чародным лісце.

Цяпер от што: прашу Вас не пасылаць тэлеграмм такога зместу, як тая у якой Вы протэстуеце. Гэта ня гожэ між нас і непрыгожа між людзей і перад людзьмі. Зрэшта на Вас узложена сцісла азначэная у мандаце толькі місыя. А калі спэцыяльны курьер даручае граматы, то ад гэтаго

Вам не магло быць крыўды. Зрэшта справу гэту мы абсудзім, калі убачымся. Тым часам не бярыце вельмі да сэрца, калі напісанае мной непрыемна Вам. Пабачымся — пагодзімся. Я баюся каб Вы не раскідаліся у Рэвелі на розные справы. Дзеля гэтаго прыпамінаю Вам, што Вы ведаеце толькі тое, што напісана Вам у мандаце і калі-б Вас цягнулі за язык, не паддавайцеся, а ссылайцеся на мандат і чэкайце загадоў. Язэп ніхай выступае, як партыйны дэлегат з ясным заданьнем — і толькі! Прысылайце самую падробную інфармацыю аб усім праз курьера.

Вось, пакуль што і ўсё.

А цяпер мая да Вас прозьба: 1) купіце мне 6 аткрытак з найлепшымі відамі Рэвеля, але толькі штрыхавой работы, не літаграфія, ці фотаграфія; 2) выпішце з Расеі усе выйшоўшые дагэтуль там кніжкі у 3 экз. і якіе выходзяць там часопісі.

Цяпер увага! Вы і Язэп мейце вока і вуха на Ляховіча і Шымковіча. Будзьце да іх вельмі абычайлівы і сэрдэчны, але не дзяліцеся тым што самі ведаеце і мейце вока. У другога, калі будзе трэба ніхай М-ч адбярэ паспарт. Стараўся праехаць у Ревель Борык, ад яго тут наш, беларускі, пашпарт атабралі. Ведайце, што каля нас хітра і густа разстаўленыя сеці кругом. Дык асцярожнасць, уважнае адношэньне да паручэньнёў. Чаго не дасказана ніхай Вам даскажэ Вашэ гарачае патрыотызмам сэрцэ.

Цісну руку вашу і сардэчна вітаю — ВЛастоўскі.

7.V.20.

Ага, як разумець — «вызналі нас», каго — місію, ці урад?

*582.1.45:022&r — рк*

**2080. Расьпіска намесьніка старшыні Цэнтральнай Беларускай Школьнай Рады Аркадзя Смоліча (Менск) за 7.05.1920 аб атрыманьні ад Школьнай Рады 90.000 польскіх марак**

*582.2.56:021*

**2081. Расьпіска Аркадзя Смоліча (Менск) за 7.05.1920 аб атрыманьні ад Вацлава Іваноўскага 25.000 польскіх марак згодна з пастановай Найвышэйшай Рады за 5.05.1920 (пратакол №12)**

*582.2.56:022*

**2082. Квіт паштовага пераказу Вацлава Іваноўскага (Менск) К.Спажынскаму (Варшава) на 5.000 польскіх марак**

*582.2.56:025*

**2083. Расьпіска Вацлава Іваноўскага аб узяцьці з касы 5.500 польскіх марак**

*582.2.56:026*

**2084. Квіт паштовага пераказу Вацлава Іваноўскага (Менск) «Польскай Інфармацыі Прасовай» (Варшава) на 487,50 польскіх марак**

*582.2.56:027*

**2085. Расьпіска намесьніка старшыні Беларускага Нацыянальнага Камітэту Антона Крэпскага за 7.05.1920 аб атрыманьні ад старшыні Камітэту Кузьмы Цярэшчанкі 1.741 польскіх марак на выдаткі Камітэту**

*582.2.58:076*

**2086. Ліст Лявона Дубейкоўскага (Варшава) Антону Луцкевічу (Вільня) за 8.05.1920**

Даражэнькі Пане Антоні!

Калі атрымаў я ад Вас тэлеграму, у якой Вы прасілі, каб дастаць прапуск на падарожэ у Фінля[н]дзію — зараз зьвярнуўся да Міністэрства, просячы для Вас прапуску. Мне здавался, што гэты прапуск патрэбны Вам у падарожжэ да Фінляндзіі у тых мэтах што казаў я у Вільні і прасіў туды каго ад нас паехаць. Атрымаўшы з Міністэрства згоду выдаць прапуск паведоміў Вас аб гэтым тэлегра[ма]й, просячы прыслаць Вашы фатаграфіі. На другі дзень Міністэрства прыслала адказ, што ня выдасьць Вам прапуск дыплёматычны, а толькі звычайны. Пісьмо гэто далучыўшы да свайго паслаў Вам да Вільні застрахованым лістом, пеўна ужо гэты ліст атрымалі. Надовячы атрымаў ліст ад п. Зябіцкай, які калісь Тарас там aставіў, будучы у Варшаві; была памылка Тараса, што ён ні аставіў у мяне гэтага ліста, дый ні сказаў мне аб гэтым нічога у Вільні, калі я там быў на звароце з Ревеля[1].

Калі атрымаў Ваш ліст ад Зябіцкіх стала ясна, што тэлеграмай Вы прасілі прапуск ні для сябе, а для п. Пэрах. Зразумеўшы з гэтага памылку маю з прычыны Тараса зьвярнуўся, каб дастаць прапуск для п. Пэрах ад Ураду усходніх зямель. Адказ быў такі: трэба да гэтага пашпарту, які тут прыслалі дастаць яшчэ пасьведчаньне ад мэснага камісара, што німа перашкод дзеля выезда п. Пэрах заграніцу (так сама як гэта было робліна падчас Расейскага ураду). Вось дзеля гэткай прычыны звяртаю Вам пашпарт п. Пэрах, каб вырабіла пасьведчэньне на выезд заграніцу, а тады тутка будзе можна атрымаць заграні чны пашпарт.

Я мусяў даць адказ брахне палітычнай Дубановічу, каторый развіваў думку Скульскага — мне было зрушней папраўляць памылкі і брахню Дубановіча, чымся Скульскага, а рэзультат аднакі. Да Ладноў'а напішу і затэляграфую.

Цвікевіч зьявіўся, як мыла зьеўшы разам з сваею жонкую. Ня ведаю ці дастану яму прапуск — мае думку, калі ня дастану яму пропуску, вярнуцца зваротам на Украіну і дастаць праз украінцаў пашпарт праз Румынію. Пагана, надта пагана ..... каб яго воўк зьеў!

Кажэця, Панове, што будзе добры выходзіць месячнік[2] і каб я пісаў да яго у маёй спецыяльнасьці. Добра. З вялікай радосьцю буду пісаць. Можа будзе называцца гэты месячнік: «Гаспадар».

Бывайце здаровы. Ваш Лявон. 8.V.20.

*582.1.41:071&r-072*

---

[1] 29-31 сакавіка 1920 у Рэвелі адбылася канфэрэнцыя сацыялістычных партыяў новых дзяржаваў, беларускіх сацыял-дэмакратаў прадстаўляў на ёй Л.Дубейкоўскі. Гл. Беларусь. №80(136). 17.04.1920. [2] Гаворка йдзе пра месячнік «Саха», першы нумар якога датаваны красавіком-траўнем 1920 году.

**2087. Расьпіска сакратара Матэматычнай Камісіі пры Менскім Пэдагагічным Інстытуце Аляксандра Данілевіча (Менск) за 8.05.1920 аб атрыманьні 1.200 польскіх марак пэнсіі за травень 1920 году**
*582.2.56:030*

**2088. Расьпіска Аркадзя Смоліча (Менск) за 8.05.1920 аб атрыманьні ад Вацлава Іваноўскага 15.000 польскіх марак згодна з пастановаю Найвышэйшай Рады за 6.05.1920**
*582.2.56:032*

**2089. Тэлеграма ўпаўнаважанага Міністэрства Замежных Справаў БНР Янкі Чарапука (Рэвэль) народнаму камісару замежных справаў РСФСР Георгію Чычэрыну (Масква) за 8.05.1920**

Тэлеграма 8 мая 1920 г.

Народнаму Камісару по Иностранным Дѣлам
Чичерину Москва

Въ отвѣт на Вашу телеграмму от 5 мая сообщаю нижеслѣдующее: Не смотря на то, что западная часть Бѣлоруссіі состоящая изъ губерній Минской, Виленской и Гродненской въ данное время оккупирована польской военной силой, но власть Совѣта народных Министровъ Бѣлорусской Народной Рэспублики там распростирается.

Въ этих мѣстах главным образом проявляется активная государственная дѣятельность Министерств: Внутреннихъ Дѣл, Пропаганды и Просвѣщенія.

Въ своихъ дѣйствіях Правительство опирается на всё Бѣлорусскія общественныя организаціи, союзы кооперативовъ, професіональные Союзы, а также и на густую сѣть провинціональных селянскихъ Рад, каковые всѣ работают под руководством чрезвычайных Политических Комиссаровъ.

Военная сила состоитъ изъ многочисленных партизантских отрядовъ, которые находятся под Управленіем Рады Военной Обороны. К партизантскимъ отрядам также можно присоединить Бѣлорусско-Литовскіе Дивизіи, которіе хотя тепер и находятся под польским командованіем, но онѣ въ необходимый момент перейдут на сторону войск Бѣлорусского Правительства, соотвѣтствующая революціонная работа въ этихъ дивизіях уже ведется.

Правительством принимаются мѣры тоже для увеличенія и пополненія военных частей Бѣлорусскими военноплѣнными изъ Германіи и частями ихже сформированными уже во Франціи.

Что же касается вопроса о тѣх перспективах, какіе имѣются и может дать на случай военных дѣйствій и гарантіи Бѣлорусского Правительства относительно роли прикритія изъ существующихъ государств, то об этом возможно будет говорить лишь тогда, когда Правительство Р.С.Ф.С.Р. признает независимость и государственную самостоятельность Бѣлорусской Народной Республики въ ея этнографичных границах, ибо эти вопросы будут вытекать изъ договоровъ обоихъ Правительств, которіе будутъ установлены во время переговоровъ.

И гарантіи по этим вопросам будут даны, так я полагаю, ибо какъ извѣстно, Бѣлорусское Правительство по отношенію к Рабоче-Крестьянскому Правительству Россіи всегда было миролюбиво, а с Правительством Польши всегда вело и тепер ведет борбу проти ея захватных притязаній на Бѣлорусскую територію, а поэтому нѣтъ никакихъ основаній медлить со стороны совѣтского Правительства с признаніем Независимости и вступленія въ переговоры.

Я.Чэрэпук
Уполномоченный Министерства Иностранных Дѣл Б.Н.Р.

Ревель 8 мая 1920 г.
*582.2.54:216&r — рк В.Ластоўскага*

На копіі тэлеграмы прыпіска В.Ластоўскага: «Даць выгавар гр. Чэрэпуку за яго непраўдзівые заявы Савецкаму Ураду. Такіх заяў ён ня меў права рабіць. Наша сіла палегае на нашым моральным праве да незалежнасці, а не на рэволюцыйнай пропагандзе у Літоўска-Беларускай Дывізіі. ВЛ.»

**2090. Ліст Вацлава Ластоўскага (Рыга) Пятру Крэчэўскаму (Бэрлін) за 8.05.1920**

Высокапаважаны Пане Петра!

З атрыманага мной ад Вас ліста бачу, што мы багаты надзеямі. Добра і надзея, але... я тымчасам знаходжуся, як у нерадзе і каб пачаць працу трэба мне крыху на пачатак гатоўкі. Памяркуйце там, як колечы. І у нас таксама надзеі... Разумеецца з іншаго боку! Тымчасам у Рэвелі вядуцца перэгаворы. Адтрымалі адповедзь ад Чычэрына: 1) у прынцыпе прызнаюць права на самоазначэньне ўсім нацыям у самым шырокім значэньні 2) хочуць ведаць з якім (каторым) урадам гаворацць. На гэто мы паслалі адповедзь і Чэрэпука з Мамонькам у Рэвель. Першаго, як прэдстаўніка Ураду, другога, як партыйнаго з засцярогай каб ён афіцыяльна не выступаў. Ноты пайшлі асобным іхнім курьерам. Чэкаем адповедзі і Ладнова ды Захарку з Б<эрліну>, каб далей што рабіць.

Пасылаем пункт партыйнай пастановы праз Вашу Канцэлярыю і да пункту даю Вам інформацыю аб Паўлоўскім, якую я маю чорна па [беламу] што ён «агент усходнікоў»[1]. Ніхай Вам Ваше патрыотычнае сэрцо падскаже як далей паступаць. Я раю пункт выкарыстаць і нічым яму не даць зразумець, што Вам што колечы вядома іншае. А то ўся наша работа можэ пацярпець. Як убачымся — пагаворым. Думаю, калі будзе тут справа наладжэна, прыехаць да Вас.

Што с Цвікевічам? Ці замянілі Вы яму поўнамочча?

Варухайце якколечы справу пазычкі. Гвалт, што будзе далей?!

Зайдзіце да Пурыцкаго[2] і зрабіце на яго націск каб яны ставілі граніцу Усходнюю не як граніцу з Расеяй, а як граніцу с Беларусей.

Затым прыміце слова пашаны і сэрдэчнае павітаньне ад шчыра прыязнаго ВЛа

8.V
*582.2.54:217&r — рк*

[1] Бальшавікоў. [2] Кіраўнік літоўскага дыпляматычнага прадстаўніцтва ў Бэрліне. У Маскве ў тым часе адбываліся мірныя перамовы паміж Літвой і Расеяй.

**2091. Расьпіска Кляўдыюша Душэўскага (Менск) за 9.05.1920 аб атрыманьні ад Вацлава Іваноўскага 2.000 польскіх марак для перадачы іх Казіміру Фалькевічу ў Вільні**
*582.2.56:029*

**2092. Расьпіска Кузьмы Цярэшчанкі (Менск) за 9.05.1920 аб атрыманьні ад Цэнтральнай Касы 31.000 польскіх марак для выдаткаў на Нацыянальны Камітэт**
*582.2.56:031*

**2093. Расьпіска Антона Трэпкі (Менск) за 9.05.1920 аб атрыманьні ад Цэнтральнай Касы Найвышэйшай Рады 25.000 польскіх марак на выдаткі Цэнтральнага Беларускага Саюзу Сельскай Гаспадаркі**
*582.2.56:033*

**2094. Рахунак С.Людкевіч[а?] бібліятэцы Менскага Пэдагагічнага Інстытуту за закупленыя кнігі й расьпіска ў атрыманьні за іх 1.500 польскіх марак**
*582.2.56:034&r*

**2095. Выпіска з стэнаграфічнага пратаколу 3-га паседжаньня літоўска-расейскіх мірных перамоваў у Маскве за 9.05.1920 і за 12.05.1920**
*582.2.50:034&r-037&r — мк*

**2096. Расьпіска кіраўніка Выдавецкага Аддзелу Школьнай Рады Сьцяпана Некрашэвіча (Менск) за 10.05.1920 аб атрыманьні ад Вацлава Іваноўскага 35.000 польскіх марак на закупку паперы й друкарскія выдаткі**
*582.2.56:035*

**2097. Хадайніцтва Беларускага Нацыянальнага Камітэту перад Цэнтральнай Касай БНР за 10.05.1920 аб выдачы на рукі намесьніка старшыні Камітэту Антона Крэпскага 25.000 польскіх марак на выдаткі Камітэту**
*582.2.56:036*

**2098. Расьпіска намесьніка старшыні Беларускага Нацыянальнага Камітэту Антона Крэпскага (Менск) за 10.05.1920 аб атрыманьні ад Цэнтральнае Касы 25.000 польскіх марак на выдаткі Камітэту**
*582.2.56:037*

**2099. Запіска Сымона Рак-Міхайлоўскага (Менск?) Беларускай Місіі ў Латвіі (Рыга) за 10.05.1920**

Дарагія таварышы! Тое, што гаварылася тут і да чага дайшлі — расскажа вам Д<ушэў>скі. Я мысьлю, што большага і не патрэбна для распачацьця працы. З-за розных прычын пісаць аб большым немагчыма. Па-

сылаю для місіі новыя нашыя выданьня праз К<лаўды>ся 1) Беларускі народ і яго мова; 2) прагр. ніж. пач. школы; 3) прагр. бел. с.-д.; 4) Беларусь у песьнях; 5) Гісторыя Беларусі; 6) Гутарка аб белар. мове; 7) «Рунь» №1; 8) «Саха» №1; 9) Дзьве душы; 10) Жывыя казкі і 11) адзін з цікавейшых №№ «Беларусі».

Сымон. 10/V-20г.

*582.1.45:015*

**2100. Запіска Антона Аўсяніка (Менск) Беларускай Місіі ў Латвіі (Рыга) за 10.05.1920**

Дарагі таварышу!

Прывет Вам і нашым таварышам, найлепшые пажаданьні.

Вельмі шкадую, што асабіста не магу з Вамі перагаварыць, а зрабіць гэта цяпер было патрэбна.

Вы ведаеце, што справа «фармаваньня»[1] зрабіла з мяне і некаторых нашых сяброў нявольнікаў.

У гэтым віна ня толькі нашых «апякуноў»[2], але глаўным чынам нашых некаторых грамадзянскіх устаноў і палітычных кругоў. Самі яны гэтак сама зрабіліся нявольнікамі. Да гэтага давяло іх «porozumienie» з апякунамі. Цяпер толькі гэта пачынаюць разумець, але баюся, каб не было позна.

Апрацівела мне сядзець з зьвязанымі рукамі. Пастанавіў вырвацца. Ня веру, што удасца зьдзейсьніць заданні фарміраваньня.

Мо хутка перакачую туды, дзе «вальготна дышыцца» — да вас. А мо і сапраўды у гэтым ёсьць патрэба? Ды дайце вестку.

Антон

*582.1.45:014*

[1] Маецца на ўвазе праца над фармаваньнем беларускага войска ў рамках Беларускай Вайсковай Камісіі. [2] Палякаў.

**2101. Хадайніцтва Беларускага Нацыянальнага Камітэту перад Цэнтральнай Касай БНР за 11.05.1920 аб выдачы на рукі намесьніка старшыні Камітэту Антона Крэпскага 25.000 польскіх марак на выдаткі Камітэту**

*582.2.56:039*

**2102. Расьпіска намесьніка старшыні Беларускага Нацыянальнага Камітэту Антона Крэпскага (Менск) за 11.05.1920 аб атрыманьні ад Цэнтральнае Касы 25.000 польскіх марак на выдаткі Камітэту**

*582.2.56:039а*

**2103. Ліст Язэпа Мамонькі (Рыга) Антону Луцкевічу (Вільня) за 12.05.1920**

Антон Івановіч!

Прашу Вас мене вельмі прабачыще, што мне німа ні якай магчімасці с Вамі убачыцца і перагаварыць. Калатніну всякую трэба кінуць, за дзер-

жавную працу трэба взяца і працаваць разам з намі. С усходам справа стаіць добра. У Берліня так сама добра. С Парыжа прыехаў Ладноў і передал, што справа надто добра.

Я прашу прыехаць Вас сюды абавязкова дзеля важнай справы. Старое трэба все забыць.

Я даю слова што мы зможам разам працаваць на карысць Нашай бацькаўшчыны.

З гэтым французам[1] прыслаць кооператараў Беларусаў обавязкова. Я доўга тут гаварыў з Ладновым.

З вялікаю пашанай да Вас ЯМамонько

г. Ріга

12/V 20 г.

*582.1.14:043&r*

*582.1.14:044 — канвэрт*[2]

[1] Шарль Мож. [2] Адрасаваны: «Вільня, п. Луцкевічу Антону Іванавічу». Прыпіска Я.Мамонькі: «Грам-нін Душеўскі прасіў передат ліст п. Луцкевічу»

**2104. Расьпіска Аркадзя Смоліча (Менск) за 12.05.1920 аб атрыманьні ад Цэнтральнай Касы 50.000 польскіх марак на нацыянальную працу**

*582.2.56:038*

**2105. Расьпіска Аркадзя Смоліча (Менск) за 12.05.1920 аб атрыманьні ад Цэнтральнай Касы з крэдытаў Выдавецкай Камісіі 20.000 польскіх марак на выданьне карты Беларусі**

*582.2.56:040*

**2106. Расьпіска Аркадзя Смоліча (Менск) за 12.05.1920 аб атрыманьні ад Цэнтральнай Касы Найвышэйшай Рады 50.000 польскіх марак для перадачы Антону Луцкевічу на выданьне навуковых кніг**

*582.2.56:041*

**2107. Расьпіска загадчыка справаў Менскага Пэдагагічнага Інстытуту Віктара Войтэнкі (Менск) за 12.05.1920 аб атрыманьні ад рэктара Інстытуту Вацлава Іваноўскага 5.000 польскіх марак**

*582.2.56:042*

**2108. Расьпіска Івана Луцэвіча за 13.05.1920 аб атрыманьні ад Школьнае Рады ганарару 1.875 польскіх марак**

Расьпіска

Згодна з маей заявай ад 28/IV-20 г. аб выплаце мне гонорару за камэдыю «Паўлінка», надрукованую у «Зборніку сцэнічных твораў» т.1, сш.1, дастаў ад Школьнае Рады адну тысячу восемсот семдзесят пяць (1875) марак

Ів.Луцэвіч

Менск, 13/V-1920

*582.2.56:043*

**2109. Расьпіска Івана Луцэвіча за 13.05.1920 аб атрыманьні ад Школьнае Рады ганарару 2.500 польскіх марак**

Расьпіска

Згодна з маей заявай ад 13/V-20 г. аб выплаце мне рэшты гонорару за новы зборнік маіх вершаў «Спадчына», дастаў ад Школьнае Рады дзьве тысячы пяцьсот марак (2500 мк.)

Ів.Луцэвіч

Менск, 13/V-1920

*582.2.56:044*

**2110. Візытоўка Кастуся Езавітава**

Colonel K.Jesovitov.
Chef de la Mission militaire-diplomatique
de la République Démocratique Blanche-Ruthénienne

*582.1.45:010c*[1]
*582.1.45:016&r*[2]
*582.1.71:015*[3]

[1] На адвароце: «Зайду да Вас у атэль а 3 гадзіне, каб разам пайсьці да мяне на полднік».
[2] На адвароце просьба пазычыць 1600 лат. рублёў.
[3] З датай: 13.V.20.

**2111. Цыркуляр шэфа Сэкцыі Асьветы й Грамадзкай Апекі Менскага Магістрату А.Паўлюця за 15.05.1920 у справе ўжываньня беларускай мовы ў справаводзтве беларускіх школаў**

*582.2.55:007 — ма*

**2112. Ліст начальніка Менскай акругі Ўладыслава Рачкевіча Сэкцыі Асьветы й Грамадзкай Апекі Менскага Магістрату за 12.05.1920 у справе ўжываньня беларускай мовы ў справаводзтве беларускіх школаў**

*582.2.55:008 — ма*

**2113. Нота Рады Народных Міністраў БНР (Рыга) старшыні Мірнай Канфэрэнцыі ў Парыжы за 16.05.1920 (вых. №251)**

Господину Председателю Мирной Конференціи въ Парижѣ.

Литовское правительство начало мирные переговоры с Советским Правительством и делегировало въ Москву для названной цели г. Семашко, как представителя белорусскаго населения Виленской и Гродненской губерний.

Представляя при этом протест Центральной Рады Виленщины и Гродненщины, имею честь заявить, что Правительство Белорускоѝ Народной Республики протестует против намерений Литвы присоединить к себе вышепоименованные белорусские губернии, отданые германцами литовцам по Брест-Литовскому миру, в целях обладания прямым железнодорожным путем из Восточной Пруссии через Просткен, Белосток и Брест-Литовск на Украину.

Белорусский Народ и его Правительство никогда не признают законным отторжение от Белорусской Народной Республики Виленщины и Гродненщины и всякие договоры и соглашения по этому вопросу Литвы и Советской России не считают и впредь не будут считать для себя обязательными.

Подлинный подписал Председатель Белорусской Делегации на Парижской Мирной Конференции Министр Иностранных Дел Полковник Ладнов.

*582.2.54:209&r — мк*
*582.2.54:215&r — мк*

**2114. Нататкі з патрабаваньнямі да польскіх уладаў Вільня, 17.05.1920**

Wilnia, 17.V.20

1. Uchylenie wszystkich przeszkod w organizowaniu wojsk białoruskich
2. Udostępnienie białoruskiej pracy narodowo-organizacyjnej i oświatowej w okręgu Wileńskim i Brzeskim
3. Przyśpieszenie wypełnienia zobowiązań, przyjętych w dniu 27 marca r.b. przez ministra Wasilewskiego
4. Udostępnienie komunikacji dyplomatycznej
4. Usunięcie szeregu urzędników, wymienionych w oświadczeniach przedstawicielstw narodowych i szkodzących porozumieniu białorusko-polskiemu (Iwaszkiewicz, Klott, Zarzecki, Niedziałkowski, Eysymont, Kwiek, Ostrowski, Pawluć)

Padadziena Smoliczam

*582.1.14:062*

---

Накід алоўкам, почырк Луцкевіча.

**2115. Праект Дэкляраціі да Юзэфа Пілсудзкага, Вільня, 17.05.1920**

W obliczu wzrastających z każdym dniem w grupach imperjalistycznych społeczeństwa dążeń do podziału ziem Litwy historycznej, oraz zważywszy, iż takowy podział wspólnej Ojczyzny naszej był-by nieźmiernie szkodliwym dla całej przyszłości narodów białoruskiego, litewskiego i polskiego, ziemie te zamieszkałych, — my

..........................................................................................................................

..........................................................................................................................

uznajemy za swój obowiązek natychmiast przystąpić do zgodnej pracy realnej nad odbudowaniem państwowości Ojczyzny naszej w postaci Białorusko-Litewskiej Republiki Demokratycznej, która miała-by obejmować wszystkie ziemie byłego W.Ks.Litewskiego oraz ziemie, aczkolwiek po-za granicami tegoż położone, lecz do zwartych obszarów etnograficznych białoruskiego i litewskiego przynależne, a była-by na zasadzie jak najszerszej autonomii personalnej wszystkich zamieszkujących ją narodowości oparta.

Wobec powyższego liczymy za nieodzownie potrzebne natychmiastowe proklamowanie niepodległości Białorusko-Litewskiej Republiki Demokratycznej, zapoczątkowując budownictwo jej na obszarze, który obecne przez wojska polskie jest wyzwolony i wraz z odwieczną Stolicą kraju, Wilnem, stanowi część przeważną całego terytorjum B.-L. Rep. Dem. Opierając się na już ist-

niejących zaczątkach organów państwowych, posiadających mandaty szerokich warstw ludowych, oraz w miarę możności na prawomocnych przedstawicielstwach narodów Białorusi i Litwy, należy natychmiast stworzyć czasowe organa państwowe Republiki: Radę Państwa oraz Rząd Krajowy, które przeprowadzą organizację państwową Republiki i w możliwie najbliższym terminie zwołają w Wilnie Konstytuantę z całego obszaru Republiki. Organ ten, najściślej wypowiadając wolę ludności Republiki, uchwali Konstytucję i zadecyduje o prawnopaństwowych stosunkach Republiki z jej sąsiadami.

Jesteśmy przekonani, że takie rozwiązanie pytania o losie politycznym Kraju naszego pociągnie pod sztandar Pogoni również i te jego części, ktore wobec przyczyn zewnętrznych bądź odseparowały się od zgodnej współpracy z innemi częściami nad budową państwowości Litwy historycznej, bądź jeszcze z pod jarzma obcego nie zostały wyzwolone.

Zwracając się z deklaracją niniejszą do Pana jako do Wodza Naczelnego Wójsk Polskich i wiedząc, iż interesy Ojczyzny naszej są przez Pana w zupełności zrozumiane, — wypowiadamy naszą wiarę niewzruszoną, że Pan poprzeć zechce całą siłą dążenia nasze do niezwłocznego utworzenia na wyzwolonych przez Wojska Pańskie obszarach Białorusi i Litwy organów ich odradzającej się państwowości. Jesteśmy przeświadczeni, że otrzymując niepodległość państwową dzięki pomocy Rzeczypospolitej Polskiej Białorusko-Litewska Republika Demokratyczna w osobie swej Konstytuanty złączy los swój z losem Polski przez związek federacyjny na zasadzie «wolni z wolnymi», «równi z równymi»...

*582.1.41:067&r — p*

---

Магчыма, што гэты праект складзены сябрамі палітычнага клюбу «Беларуская Рэспубліканская Сувязь», арганізацыйны сход якога адбыўся 5.06.1920. Клюб выступаў за аднаўленьне дзяржавы ў межах ВКЛ з апорай на дэмакратычную Польшчу. У часовы аргкамітэт увайшлі: С.Лянкоўскі, П.Аляксюк, А.Уласаў. Гл.: Беларусь. №119(175). 6.06.1920.

**2116. Ліст Вацлава Ластоўскага (Рыга) [калегам па партыі БПСР (Вільня)?] за 17.05.1920**

Таварышы!

Настаў у нашым дзержаўным будаўніцтве вельмі важны і адпаведны момэнт: мы знаходзімся на перадодні прызнаньня нашай дзержаўнасці Антантай і Расеяй. Дзеля гэтаго патрэбна адзінство фронту усіх партый стаячых на Незалежнасці Беларусі, разумеюца акром тых, якіе гэту незалежнасць гатовы праводзіць пры помачы тых ці іншых окупантоў. Патрэбна паддзержка Ураду партыямі.

Антанта хочэ зрабіць торговые умовы з Беларускай Народнай Рэспублікай на прадажу ей і закупку у яе тавароў. Дзеля гэтаго трэба, каб як можна хутчэй выехала торговая дэлегацыя зложэная с прэдстаўнікоў ад нашых цэнтральных коопэратыўных установ у ліку 3 чэлавек для праезду у Парыж. Дакумэнты для іх у Рызе і будуць выданы ім пасьля зацьвёрджэня дэлегацыі нашым Урадам.

Прызнаньне незалежнасці Расеяй так сама на добрых торах. Псуе тое, што пайшлі нашы некаторые у разброд і высказаліся у сэнсе, што яны не

прызнаюць Ураду. Гэтым нам большэвікі коляць вочы, але прынцыпу яны не аткідаюць і за нас чэпляюцца. Перэгаворы с Чычэрыным вядуцца 1) аб прызнаньні незалежнасці і 2) аб ачыстцы Расеяй этнографічна беларускай тэрыторыі. Яны большые за нас нацыоналісты і заяўляюць (стацьця Троцкаго у Известіях), што Смаленск — вялікарасейская тэрыторыя. Усё-ж прызнаньне офіцыальнае павінно хутка наступіць.

Тутэйшых сяброў настрой проці змены названьня партыі і таго каб зыходзіць з нацыональнаго на інтэрнацыональны грунт. Праграму партыі ніхто не аспарывае. Дайце як можна болей вестак аб паўстаньнях і наагул падробные інформацыі і матэрыялы.

Выезд дэлегацыі павінен адбыцца у строгім сэкрэце, бо іх могуць ня выпусціць палякі і ўрэшце папсаваць нам работу па прызнаньню Незалежнасці. Ат коопэратывоў павінны выехаць беларусы, бо справы мільённые і нам німа што багаціць тых, хто проці нашай дзержаўнасці. Падробные інформацыі у Д<ушэўска>го Кляўдуша.

Мацуйцеся, трымайцеся — хутка нашаму гору канец будзе.
Затым да пабачэньня на Незалежнай Бацькаўшчыне
Паклоны Вам ВЛастоўскі
Ніхай выезджае Белевіч
*582.1.45:025&r — рк*

**2117. Хадайніцтва Беларускага Нацыянальнага Камітэту перад Цэнтральнай Касай БНР за 18.05.1920 аб выдачы на рукі намесьніка старшыні Камітэту Антона Крэпскага 25.000 польскіх марак на выдаткі Камітэту**
*582.2.56:045*

**2118. Расьпіска намесьніка старшыні Беларускага Нацыянальнага Камітэту Антона Крэпскага (Менск) за 18.05.1920 аб атрыманьні ад Цэнтральнай Касы 25.000 польскіх марак на выдаткі Камітэту**
*582.2.56:046*

**2119. Расьпіска Антона Трэпкі (Менск) за 18.05.1920 аб атрыманьні ад Цэнтральнай Касы Найвышэйшай Рады 190.000 польскіх марак на выдаткі Цэнтральнага Беларускага Саюзу Сельскай Гаспадаркі**
*582.2.56:049*

**2120. Ліст старшыні Рады Народных Міністраў БНР Вацлава Ластоўскага (Рыга) шэфу Вайскова-Дыпляматычнай Місіі БНР у Латвіі й Эстоніі Кастусю Езавітаву (Рыга) за 18.05.1920 (вых. №197)**

ЯГО МІЛАСЬЦІ
Шэфу Вайскова-Дыплематычнай Місыі
Беларускай Народнай Рэспублікі ў Латвіі і Эстоніі

Генэрал-Маёру
Константыну ЕЗАВІТОВУ.

Маючы на ўвазе Вашу працу ложэную Вамі дзеля адбудаваньня Беларускай Незалежнай Дзержаўнасьці і ацэніваючы яе паводле заслуг перад

Бацькаўшчынай, прапаную Вам, ад імені Беларускаго Народу, прыняць на сябе кіраўніцтва Міністэрствам Абароны Беларускай Народнай Рэспублікі на правах Міністра Абароны і с часовым зьмешчэньнем гэтаго становішча с папярэдней Вашай працай і пасадай як Шэфа Вайскова-Дыплематычнай Місьіі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Латвіі і Эстоніі.

В.Ластоўскі
Старшыня Рады Народных Міністроў.
*582.2.54:173 — ма*

---

Прыпіска В.Ластоўскага: Пастанова аб назначэньні адменена і назначэньне не ўручэно. ВЛ.

**2121. Ліст Вацлава Ластоўскага (Рыга) [Кляўдыю Душэўскаму (Вільня)] за 19.05.1920**

Братка!

Меўся ліст ісці іншай дарогай і дзеля гэтаго пісаны на палатне. Да палатнянаго ліста ось комэнтарыі:

Беларуская Рэспубліка ужо не афіцыяльна прызнана і дзеля гэтаго Антанта хочэ заключыць з намі тарговые умовы. Пасьля завязаньня тарговых стасункоў будзе афіцыяльнае прызнаньне.

Трэба каб ад нас у Парыж выехала экономічная дэлегацыя зложэная с прэдстаўнікоў нашых цэнтральных Устаноў. Экономічную дэлегацыю зацьвердзіць наш Урад і выдасць ей дакумэнты. Дэлегаты павінны мець ад сваіх Урадоў поўнамочча на падпісываньне тарговых Умоў з дзержавамі Антанты купляць ад іх уселякіе тавары і прадаваць нашы тавары.

Справа павінна вясціся у вялікім сэкрэце, бо палякі ня выпусцяць дэлегацыі і напсуюць нам заграніцай.

Урад у нядоўгім часе атрымае вялікую пазычку, але цяпер Экономічная дэлегацыя павінна выехаць на кошт сваіх праўленьнёў. Тавары можна закупляць на крэдыт на мільённые суммы. Усе закупленые тавары павінны будуць прапушчаць палякі не ўчарод, бо яны пойдуць да вашых фірм як урадовые антанцкіе транспорты.

Цяпер аб асобах. Трэба каб ад Вільні выехаў ты і каб ты падабраў сабе дэлегацыю з Мінска. Калі ад Цэнтр. Бела ня можна узяць беларусоў, то і не чэпайце яго, а вазьміце толькі ад Саюзу Сельскай Гаспадаркі. Гэто на тое каб нам не працаваць на тых, хто ня хочэ нашай дзержаўнасці.

У Рыгу склікаем мы зьезд беларускіх, палітычных, культурных і грамадзянскіх працаўнікоў на нараду. Можэ прыехаў-бы Рак ці хто з нашых wisawi. Найлепей было-б, каб Рак.

С прызнаньнем нас Расеяй справа стаіць гэтак сама добра. Вядуцца перэгаворы с Чычэрыным:- у прынцыпе яны прызнаюць нам права на самаозначэньне. Мы вымагаем ад іх публічнаго аб гэтым акту, які і спадзяемся дастаць небавам.

Пагавары з Грыбам аб тым, што падтрыманьне Ураду партіяй у гэты момэнт вельмі патрэбнае. І ніхай высцярэгаюцца обшчэроссоў. Настрой тут такі, што зменяць назовы партыі ня хочуць нашы сябры. Інтэрнацыоналізму баяцца.

Затым цалую цябе і кланяюся усім грамадзянам.

Твой ВЛастоўскі

*582.1.45:024&r — рк*

**2122. Хадайніцтва Беларускага Нацыянальнага Камітэту перад Цэнтральнай Касай БНР за 19.05.1920 аб выдачы на рукі намесьніка старшыні Камітэту Антона Крэпскага 25.000 польскіх марак на выдаткі Камітэту**

*582.2.56:047*

**2123. Нота Рады Народных Міністраў БНР (Рыга) народнаму камісару замежных справаў РСФСР Георгію Чычэрыну (Масква) за 19.05.1920 (вых. №198)**

19 Мая 1920 г.

№198

Народному Комиссару по Иностранным делам
Российской Социалистической Федеративной
Советской Республгки.

25 апреля сего препровождена была Вашему представителю в Ревеле нота Правительства Белорусской Народной Республики за №184, по вопросам о признании независимости Белорусии.

В ближайшее время состоится конференция Белоруских Государственных и общественных деятелей на каковой будут приняты ответственныя постановленія по вопросу о взаимоотношениях между Белоруссией, Советской Россией и Польшей. Означенные постановления немедленно будут представлены Парижской Мирной Конференции.

На основании вышеизложенного правительство Белорусской Народной Республики вторично обращается с просьбой сообщить оффициально:

1. согласно ли правительство Российской Социалистической Федеративной Советской Республики признать официально независимость Белорусской Народной Республики въ этнографических пределах,

2. согласно ли правительство Российской Социалистической Федеративной Советской Республики увести советския войска из пределов Белорусии.

В случае положительности Вашего ответа таковой будет представлен немедленно Парижской Мирной Конференции с [просьбой] о принятии Антантой мер к прекращению войны на территории Белорусии и к немедленному отводу польских войск из пределов оккупированной ими Белорусии.

Ответ по содержанию настоящей ноты прошу дать не позже 27 мая 1920 года.

Подписали Народный министр иностранных Дел Ладнов и вр. и.о. управляющаго канцелярией Совета Народных Министров А.Валькович.

*582.2.54:208 — мк*

*582.2.54:214 — мк*

**2124. Ліст Жэо Жэральда (Парыж) Аўгену Ладнову (Рыга) за 19.05.1920**

*582.2.54:230&r — мк перакладу з францускай на расейскую, зьнятая К.Езавітавым*

---

Дасланы з кур'ерам Дырыксам. У лісьце выказваецца абяцаньне дапамогі ў прызнаньні незалежнасьці Беларусі ўзамен за абяцаньне эксплюатацыі Францыі прыродных багацьцяў Беларусі, забясьпечваючы пакрыцьцё расейскага доўгу Францыі

**2125. Ліст Жэо Жэральда (Парыж) Аўгену Ладнову (Рыга) за 19.05.1920**

*582.2.54:231 — мк перакладу з францускай на расейскую, зьнятая К.Езавітавым*

---

Дасланы з кур'ерам Дырыксам. На блянку: «Палата Депутатов. Парламентская группа Французской Акціи за Границей». Жэо Жэральд — старшыня групы, старшыня Камісіі МЗС — «вслѣдствіе Вашего [Ладнова. - *укл.*] интересного доклада перед моими коллегами по Парламенту» яны зацікавіліся беларускім лесам і лёнам і абяцалі прызнаньне.

**2126. Ліст Жэо Жэральда (Парыж) Аўгену Ладнову (Рыга) за 19.05.1920**

*582.2.54:232 — мк перакладу з францускай на расейскую, зьнятая К.Езавітавым*

---

Дасланы з кур'ерам Дырыксам. На блянку: «Національный Комитет экономическаго расширенія Восточн. Европы». Маёр Бэльгійскай Арміі Дырыкс мусіў увайсьці ў сувязь з А.Ладновам і Ш.Можам у справе паставак лёну зь Беларусі. З гэтай мэтай ён можа прывезьці ў Францыю беларускіх каапэратараў.

**2127. Расьпіска намесьніка старшыні Беларускага Нацыянальнага Камітэту Антона Крэпскага (Менск) за 20.05.1920 аб атрыманьні ад Цэнтральнай Касы 25.000 польскіх марак на выдаткі Камітэту**

*582.2.56:048*

**2128. Тэлеграма Лявона Дубейкоўскага (Варшава) Антону Луцкевічу (Вільня) за 23.05.1920**

jwanowski wyjedzie srode wieczorem = dubiejkowski

*582.1.41:087*

**2129. Тэлеграма Лявона Дубейкоўскага (Варшава) Юльяне Мэнкэ (Вільня, Бакшта 15) за 24.05.1920**

iwanowski pojedzie przes wilno dzien przyjazdu zadepeszuje = dubiejkowski

*582.1.41:088*

**2130. Ліст Пятра Крэчэўскага (Бэрлін) Вацлаву Ластоўскаму (Рыга) за 24.05.1920**

Глыбокапаважаны Вацлаве!

Ліст Ваш атрымаў і ім зусім здаволены. Не гледзючы на чорт ведае колькі курьераў і папераў, якіе пісаў Езавітаў, я абсалютна нічога ня ведаў, што робіцца у Рыдзе. Ваш ліст проста і ясна усе сказаў.

Дай Божэ каб нашы надзеі хутко споўніліся — думаю усе ж такі, што без грошэй мы не застанемся, хаця і надта цяжка іх даставаць у такі трудны мамэнт як цяперь, калі усе чакаюць чагось і баяцца прыступаць да реальнай працы.

На Маск[в]у трэба добра налегчы. Беларусь павінна стаць спасіцельніцай і Расеі і Еуропы.

Тут я ужо накруціў добра, што без Беларусі, німа і Расеі, акром таго у тарговых зносінах Маскоўшчына нічога ні дасьць, бо яна прывозіла столькі і нічога не вывозіла — мы ж зараз, калі будзе парадак, атрымаўшы ад Германіі машыны і удабрэньне, можэм даць карысць. Усе з гэтым згаджаюцца.

Будзьце здаровы
З пашанай да Вас ПКрэчэўскі
*582.1.45:027&r*

**2131. Ліст Кляўдуша Душэўскага (Вільня) Вацлаву Ластоўскаму (Рыга) за 24.05.1920**

Пану Мін. Старшыне Б.Н.Р.
Падаю маленькі рапарт.

Кірунак маей работы.

1. Я хацеў як небудзь вясьці тут работу так каб правае крыло Бел. гр. думкі[1] не зайшло за лішне далека у міжнарадовым пытаньні нашай Бацькоўшчыны і не заавансавалася у зносінах з нашымі найбліжэйшымі цяпер суседамі.

Яны ніякіх покуль што умоў не падпісывалі і заявы мін. Скульскаго — брэхня.

2. Далей трэба было дабіца таго каб яны нам не мешалі у нашай рабоце а наадварот дапамагалі.

На скольki я зразумеў яны мешаць нам не будуць, а чым могуць — дапамогуць па стольку, паскольку помач іхняя не зашкодзіць іхнім адносінам да палякоў.

У мяне ўражэньне такое што яны неяк вядуць турэцкую палітыку, але папраўдзі трудна улавіць чаго ж яны у канцы канцоў хочуць. Усё-ж прабіваецца ар'ентацыя на Польшчу саўсім выразна.

3. Антона[2] змяніў цяпер Аркадзь[3], але яны не апублiковываюць гэтаго хоць не робяць і сэкрэту вялікага.

4. Аб паўстаньнях я столькі сама ведаю скольki і Сяргей[4] з жонкай. — Яны хіба Вам ужо расказывалі.

4. Чаму я не ехаў я Вам пісаў — абсолютнае безграшоўе як у мяне так і у усіх, а работы трэбуюшчай грошы страшэнна шмат.

5. У гэты момэнт так сама мы не маем грошы каб вясьці працу, а нават каб выплаціць даўгі. Я з сабой змагу захваціць каля 15-20.000 мар. польскіх.

Агульная палітыка

5. Палякі да гэтай пары ешчэ не зьмяніліся у адносінах да нас, толькі крыху павялічыўся тэррор. Разам з ім павялічыўся і рух паўстаньняў селянскіх.

6. на ф[р]онце пад Полацкам дрэнна для палякоў. Уся Дзісеншчына з Глубокім занята бальшэвікамі.

Дзеля гэтага рух чыгунак спыняны. У Менск можна дабрацца толькі коньмі.

Хацелі мы вызваць мінчукоў ды не маглі гэтага зрабіць.

7. Сюды у Вільню прыехаў Шауковы, яго заарэштавалі ды цяпер выпусьцілі. Не дужа прыемные весткі ен прывез с сабой. Кажа што Палута расчаравалася.

7. Праца нашых таварышоў дось добрая. Міншчына працуе лепш чымся Віленшчына дзеля таго што там больш нашых сіл.

Следам за п. Mauge еду я. Не ведаю як мне гэта удасца. Са мной хоча ехаць і Антон[5]. Мусіць скора пабачымся у Рызе.

Кляўдуш

*582.1.45:028-028a-028b*

---

[1] Аб'яднаныя вакол Найвышэйшай Рады. [2] Луцкевіча. [3] Смоліч. [4] Асоба ня выяўленая. [5] Аўсянік.

**2132. Пратакол №2 Арганізацыйнага Бюро па скліканьні Дзяржаўнай Канфэрэнцыі ў Рызе за 25.05.1920**

ПРАТАКОЛ №2

Арганізацыйнага Бюро па скліканьню Дзяржаўнай Канфэрэнцыі у м. Рыга

25 травеня 1920.

м. Рыга

На сходзе былі:

Старшыня Рады Народных Міністроу Беларускай Народнай Рэспублікі гр. Ластоўскі,

Сэкрэтар Рады Беларускай Народнай Рэспублікі гр. Мамонька,

Член Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, Шэф Вайскова-Дыпламатычнай Місыі Беларускай Народнай Рэспублікі у Латвіі і Эстоніі і Прэдстаунік Фракцыі Партыі Беларускіх Сацыялістау-Фэдэралістау гр. Езавітау,

Член Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, прэдстаунік Фракцыі Партыі Беларускіх Сацыялістау-Рэвалюцыанерау гр. Вальковіч.

| СЛУХАЛІ: | ПАСТАНАВІЛІ: |
|---|---|
| I, Пратакол №1 ад 25 красавіка 1920 году. | I, Зацьвердзіць. |
| II, Паведамленьня аб тым, што Канфэрэнцыя да гэтага часу адчыніцца пакуль што не магла, але папярэд- | II, Прыняць да ведама. Прыступіць да утварэньня мандатнай Камісыі і, карыстаючыся налічыем |

нія нарады зьехаушыхся сяброу ужо адбываліся і да гэтага часу з'ехаліся вось якія асобы:
1, Старшыня Рады Народных Міністроу Б.Н.Р. гр. Ластоускі,
2, Міністр Межнарадовых Спрау Е.Ладноу,
3, Таварышч Старшыні Рады Бел. Нар. Рэсп. гр. В.Захарка,
4, Сэкрэтар Рады БНР гр. Я.Мамонька,
5, Член Рады БНР гр. Вальковіч,
6, Член Рады БНР гр. Езавітау,
7, Член Рады БНР гр. Я.Чэрэпук,
8, Член Рады БНР С.Ластоуская (б. Кісель-Корф),
9, Прэдстаунік Беларускіх с.-р. за межамі гр. Г.Казячы
10, Прэдстаунік Беларускіх с.-р. за межамі гр. Маркевіч
11, Прэдстаунік Беларускіх с.-ф. гр. Ю.Гладкі,
12, Прэдстаунік бнр у Нямеччыне гр. Л.Баркоу,
і чэкаюцца у бліжэйшые дні яшчэ некаторыя сябры Прэзыдыуму Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, Ураду і прэдстаунікі Рады Каленіі у Латвіі і члены Партыі С.-Ф. у Рызе прэдстаунікоу Ураду і Прэзыдыума Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, увайсьці з імі у афіцыальныя перагаворы, каб праца Арганізацыйнага Бюро была сагласована з паглядам і працай у гэтым кірунку Рады і Ураду.

Старшыня Рады Народных Міністроу Беларускай Народнай Рэспублікі
В.Ластоўскі

Сэкрэтар Рады Беларускай Народнай Рэспублікі
Мамонько

Член Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, Шэф Вайскова-Дыплематычнай Місыі Беларускай Народнай Рэспублікі у Латвіі і Эстоніі і Прэдстаунік Фракцыі Партыі Беларускіх Сацыялістау-Фэдэралістау
К.Езавітоў

Член Рады Беларускай Народнай Рэспублікі
А.Вальковіч
*582.2.54:114&r — ма*

**2133. Пасьведчаньне Часовага Беларускага Нацыянальнага Камітэту (Менск) Кузьме Цярэшчанку за 25.05.1920 (вых. №1114) аб тым што ён зьяўляецца старшынёю Камітэту**
*582.2.54:387 — ма*

**2134. Хадайніцтва Беларускага Нацыянальнага Камітэту перад Цэнтральнай Касай БНР за 26.05.1920 аб выдачы на рукі намесьніка старшыні Камітэту Антона Крэпскага 25.000 польскіх марак на выдаткі Камітэту**

*582.2.56:050*

**2135. Расьпіска намесьніка старшыні Беларускага Нацыянальнага Камітэту Антона Крэпскага (Менск) за 26.05.1920 аб атрыманьні ад Цэнтральнай Касы 25.000 польскіх марак на выдаткі Камітэту**

*582.2.56:053*

**2136. Ліст Міхася Кахановіча (Вільня) Вацлаву Ластоўскаму (Рыга) за 27.05.1920**

27/V 20

Глыбокапаважаны п. Власт.

Вельмі прашу Вас памагчы п. Марголіну ў справах выдавецтва нашых кніжак. Ён проста замучыўся, чакаючы ад п. С<моліча?> і п. Р<ак>-М<іхайлоўскага> ў Вільні заказу. Насілу мне удалося прымусіць гэтых паноў, прыезжаўшых па справам не асьветным, даць сьпісак кніжак, якія патрэбны Школьнай Радзе.

Што добранькаго ў Вас?

Мы тут не трацім надзеі на лепшае будучае. Баімося, каб наша эндэцыя не нарабіла глупств.

п. І<ваноў>скі В. сядзіць у Варшаве і нешта робіць.

п. Л<уцкеві>ч А. сядзіць у Вільні і энэргічна зносіцца з І-м у В<аршаве> і С<моліча>м у М<енск>у.

Хацелася-б мне моцна папрацаваць з Вамі, вырваўшыся на волю. Пішэця! Мо прыеду, калі патрэбен. Толькі — што рабіць з сямьёй. Паклон ўсім нашым.

Ваш М.К...

К<ляўдыюш?> шле Вам прывет.

*582.1.45:103*

**2137. Ліст Д. дэ Вуліча (Парыж) Аўгену Ладнову (Рыга) за 27.05.1920**

*582.2.54:226-229 — мк перакладу з францускай на расейскую, зьнятая К.Езавітавым*

---

Дасланы з кур'ерам Дырыксам. Аб абяцаньні зацьверджаньня аўтаноміі Беларусі, у справе прыезду каапэратараў, аб неабходнасьці пацьверджаньня дэклярацыяў Ладнова Францускаму Ўраду.

**2138. Ліст Д. дэ Вуліча (Парыж) Шарлю Можу (Рыга) за 28.05.1920**

*582.2.54:224 — мк перакладу з францускай на расейскую, зьнятая К.Езавітавым*

---

Дасланы з кур'ерам Дырыксам. У справе закупкі лёну ў Беларусі: кантакты з Отто Леві і фірмай Малькольм.

**2139. Ліст Эдуарда Коза (Парыж) Аўгену Ладнову (Рыга) за 28.05.1920**
*582.2.54:225 — мк перакладу з француcкай на расейскую, зьнятая К.Езавітавым*

Дасланы з кур'ерам Дырыксам. З запэўненьнем у блізкім прызнаньні незалежнасьці Беларусі..

**2140. Ліст Рычарда Керанца (Парыж) Аўгену Ладнову (Рыга) за 29.05.1920**
*582.2.54:223 — мк перакладу з француcкай на расейскую, зьнятая К.Езавітавым*

Дасланы з кур'ерам Дырыксам. Аб кантактах з МЗС Францыі ў справе прызнаньня незалежнасьці Беларусі

**2141. Тэлеграма Лявона Дубейкоўскага (Варшава) Юльяне Мэнкэ (Вільня, Бакшта 15) за 29.05.1920**
dzis wacek[1] wyjechal przez zambrow wilna = dubiejkowski
*582.1.41:077*

[1] Іваноўскі.

**2142. Хадайніцтва Цэнтральнай Беларускай Школьнай Рады перад Цэнтральнай Касай Найвышэйшай Рады БНР за 29.05.1920 аб выдачы на рукі намесьніка старшыні Школьнай Рады Аркадзя Смоліча 50.000 польскіх марак на пільныя выплаты**
*582.2.56:052*

**2143. Расьпіска скарбніка Беларускай Школьнай Рады Часлава Родзевіча (Менск) за 29.05.1920 аб атрыманьні ад Найвышэйшай Рады Беларускай Народнай Рэспублікі 50.000 польскіх марак для Віленскай Беларускай Гімназіі**
*582.2.56:051*

**2144. Грамата Рады Народных Міністраў БНР за 29.05.1920 (вых. №212) аб прызначэньні Аўгена Ладнова старшынёю Беларускай Дэлегацыі ў Парыжы**
29.V.20
№212

Грамата.

Мы Урад Б.Н.Р. [даручаемо] нашаму Міністру Заграні́чных Спраў Еўгенію Ладнову:

1) быць старшынею Беларускай Дэлегацыі у Парыжы, бараніць Незалежнасць і Сувэрэннасць Б.Н.Р. на Міравой Канфэрэнцыі і перад Дзержавамі Антанты і вясці перэгаворы, падаваць і падпісываць дакумэнты выцекаючые з Вашаго званьня і палажэньня;

2) Заключаць і падпісываць тарговые і экономічные умовы, датыкаючые абмену таварамі, прадуктамі прамысловасці і наогул устаноўленьне

экономічных і тарговых адносін з Урадам Францыі і таргова-экономічнымі прэдстаўніцтвамі Дзержаў Антанты;

3) Зрабіць ад Імені Ураду Б.Н.Р. грашовую пазыку ад Ураду Францыі на варунках намі Вам паказаных і пазычэные грошы атрымаць;

4) Кааптаваць у склад Дэлегацыі па свайму жаданьню і выбару спэцыалістоў і экспэртоў с правам дарадчаго голасу;

5) Мець печатку з надпісам «Старшыня Дэлегацыі Беларускай Народнай Рэспублікі на Міжнародны Міравы Кангрэс»;

6) Дзеля выпаўненьня вышэўзложаных на Вас абавязкоў надаемо [права] знасіцца, згодна з нормамі міжнародных правоў і абычаёў са усімі Урадовымі Установамі Францыі і Дзержаў Антанты.

7) Прызнаючы карысным і патрэбным устанавіць прыязные і блізкіе адносіны з Урадам Францыі загадываемо Вам прылажыць са сваей стараны усілкоў да таго, каб гэтые прыязные адносіны былі наладжэны і узмацаваны.

Ластоўскі
Старшыня Рады Нар. Мін.

Вальковіч
Кіраўнік Канц.
*582.2.54:219 — рк В.Ластоўскага*

**2145. Пратакол №3 Арганізацыйнага Бюро па скліканьні Дзяржаўнай Канфэрэнцыі ў Рызе за ?.05.1920**

Пратакол №3
Арганізацыйнаго Бюро па скліканьню Дзержаўнай Конфэрэнцыі у Рызе
........................ 1920 г.

Былі: 1) Старшыня Рады Народных Міністраў Б.Н.Р. гр. Ластоўскі, 2) Міністр Міжнародных Спраў гр. Ладноў, 3) Маршалак Рады Б.Н.Р. гр. П.Крычэўскі, 4) Віцэ-Маршалак Рады Б.Н.Р. гр. Захарко, 5) Віцэ-Маршалак Рады Б.Н.Р. гр. П.Бодунова, 6) Сэкрэтар Рады Б.Н.Р. гр. Мамонько, 7) Сябра Рады Б.Н.Р. гр. Вальковіч, 8) сябра Рады Б.Н.Р. гр. Езавітоў, 9) сябра Рады Б.Н.Р. гр. Чэрапук, 10) сябра Рады Б.Н.Р. С.Ластоўская (б. Кісель-Корфф).

| <u>Слухалі</u> | <u>пастанавілі</u>: |
|---|---|
| 1. Пратаколы Арганізацыйнаго Бюро | Зацьвердзіць |
| 2. Тэхнічнае правядзеньне у жыцьцё Конфэрэнцыі. | Конфэрэнцыю разбіць на дзьве часьці:<br>а) Партыйные конфэрэнцыі<br>б) Конфэрэнцыю Урадовую.<br>Запрапанаваць партыйным прэдстаўнікам адбыць конфэрэнцыі кождай партыі асобна, а пасьля зложыць супольную конфэрэнцыю партыйных дэлегатоў з учасьцем прэдстаўнікоў ад грамадзянскіх і экономічных арганізацый. |

Урадовую Конфэрэнцыю склічэ Старшыня Рады Народных Міністроў гр. Ластоўскі с прэдстаўнікоў Ураду і Прэзыдыуму Рады.
Рэзалюцыю Арганізацыйнаго Бюро давясці да ведама партыйных арганізацый і Ураду.

Старшыня сабраньня

Пісар

*582.2.54:113&r — ра В.Ластоўскага*

Дакладная дата невядомая.

**2146. Пратакол нарады Прэзыдыюму Рады БНР і Рады Народных Міністраў БНР у Рызе 30-31.05.1920**

Пратакол

Нарады Прэзыдыуму Рады Беларускай Народнай Рэспублікі і Рады Народных Міністроу Беларускай Народнай Рэспублікі, адбытай у Рызе 30 і 31 травеня 1920 году.

| Слухалі. | Пастанавілі. |
| --- | --- |
| • Даклад і інфармацыю Міністра Загранічных Спраў г. Ладнова аб загранічнай палітыцы і працы. | • Пасьля ўсестаронніх дэбатоў вынесена рэзалюцыя:<br>1. Выслухаушы даклад Міністра Загранічных Спраў гр. Ладнова Нарада пахваляе яго датыхчасовую загранічную палітыку, згаджаецца з ей і просіць надалей працаваць у тым самым кірунку на карысьць адбудаваньня Беларускай Дзяржаўнасьці.<br>2. Дзеля падгатоўкі грунту пад эканамічную будучыну Б.Н.Р. Нарада прызнала патрэбным рабіць таргова-эконамічные умовы з Дзяржавамі Антанты і суседнімі Новаутворэннымі Дзяржавамі.<br>3. У аснову нашай міжнароднай палітыкі паставіць задачу дайсьці паразуменьня з усімі Вялікімі і Новаутворэннымі Дзяржавамі на грунце прызнаньня імі Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі і ня ўмешываньня імі ў нашы ўнутраные справы.<br>4. Вымагаць нацiску са староны Дзяржаў Антанты каб тэррыторыя |

| | |
|---|---|
| | Беларусі была ачышчэна ад польскіх і расейскіх войск. |
| • Інфармацыя таварышча Старшыні Прэзыдыуму Рады Беларускай Народнай Рэспублікі гр. П.Бадуновой аб паездцы у Расею. | • Выслухаўшы інфармацыю Нарада вынесла рэзалюцыю:<br>1. Пакуль тэрыторыя Беларусі пад чужымі акупацыямі Нарада выказываецца проці ўсякіх спроб навязаць Беларускаму Народу фэдэрацыю з усходнімі або заходнімі акупантамі.<br>2. З Урадам Р.С.Ф.С.Р. вясьці перэгаворы, але толькі на грунце прызнаньня поўнай дзяржаўнай незалежнасьці і суверэннасьці Б.Н.Р. у этнаграфічных межах. |
| • Інфармацыя таварышча старшыні прэзыдыуму Рады Б.Н.Р., гр. В.Захаркі аб працы ў Бэрліне. | • Інфармацыю прынялі да ведама і пастанавілі Бэрлінскую дыплематычную дэлегацыю атазваць і назначыць ў Бэрлін аднаго дыплематычнаго прэдстаўніка. |
| • Грашовае становішча. | • Заслухаўшы даклады аб цяперашнім грашовым становішчы Ураду Б.Н.Р. Нарада дапаручае Радзе Народных Міністроў прылажыць стараньня каб найхутчэй зрабіць заграніцай пазычку на Урадовую працу. Спаўненьне абавязкоў Міністра Фінансоў тымчасова дапаручыць Старшыне Рады Народных Міністроў гр. Ластоўскаму.<br>Дыплематычнай Дэлегацыі у Савецкую Расею дапаручыць вясьці перэгаворы аб дзяржаўнай пазычцы у суме 50 мільеноў рублеў. |
| • Плян працы. | • Угаварыцца з Латвійскай Рэспублікай аб тымчасовым прэбываньні Ураду Б.Н.Р. на тэрыторыі Латвіі. Найскарэй дакончыць фармаваньне кабінэту Міністроў назначаючы тымчасовых замесьціцелеў міністроў. У часе нябытнасьці Міністра Заграничных Спраў, Старшыня Рады Міністроў заступае яго ў Радзе Міністроў. |
| • Парыжская Дэлегацыя. | • Пахваляецца распараджэньне старшыні Парыжскай Дэлегацыі гр. Ладнова аб адабраньні паўнамочый ад |

| | |
|---|---|
| | быўшых сяброў дэлегацыі грамадзян Кондратовіча, Ознобішына і Боркова, пры гэтым даецца воля грамадзяніну Ладнову запрашаць у склад дэлегацыі асоб па яго выбару. |
| • Аб партыйных канферэнцыях у Рызе. | • Пазволіць паскольні, са стараны Латвійскаго Ураду ня будзе перашкод, адбывацца Беларускім партыйным канферэнцыям у Рызе. |

Прэзыдыум Рады Беларускай Народнай Рэспублікі:
Старшыня Прэзыдыуму Рады Б.Н.Р. П.Крэчэўскі
Намесьнік Старшыні П.Бадунова
Намесьнік Старшыні В.Захарко
Сэкрэтар Я.Мамонько

Рада Народных Міністроў Б.Н.Р.
Старшыня Рады Народных Міністроў
Беларускай Народнай Рэспублікі В.Ластоўскі
Міністэр Загранічных Спраў Е.Ладноў

Часовы Кіраўнік Канцэлярыі
Рады Народных Міністроў А.Валькові ч
*582.2.54:111&r-112 — мк*

**2147. Зьмест дакладу Міністра Загранічных Справаў Ладнова за 30.05.1920**

Змест дакладу Міністра Загранічных Спраў Ладнова.

1. Справа Азнабішына, Кандратовіча й Баркова
2. Даклад Ладнова ў Палаце Дэпутатаў
3. Палажэньне беларускага пытаньня ў бягучы момант у дзяржавах Антанты

Пасля арэштаваньня Французкай паліцыяй на Парыжскім вагзале Ознобішына, выкралося сьледствам, што ешче у прошлым гаду у Берліне Ознобішын, Кондратовіч і Борков заснавалі монархістычна-патрыотычную расейскую організацыю, звязаліся з нямецкімі монархістамі і прыкрываючыся мандатамі Беларускай дэлегацыі знасіліся ўвесь час з немцамі. Французкая паліцыя даўно прымечала за імі нейкаю нелегальную работу і атгэтуль ішло недаверье Французоў да ўсей Беларускай дэлегацыі.

Гр. Ладнову каштавало многа высілкоў, каб ачысціцца асабіста ад падазрэньняў аб замешаньні у гэту справу і каб ачысціць ад падазрэньняў усю работу Беларускай Місыі у Парыжы. Пры помачы асабістых зьвязей яму гэта удалося зрабіць так, што у газэтных публікацыях нідзе не была звязана Місыя з абвінавачэньнямі ускладанамі на Ознобішына і хаўрузію.

Ліквідаваць гэту справу найлепей парадкам атабраньня ад Ознобішына, Кондратовіча і Боркова ўсякіх паўнамочый Ураду Б.Н.Р.

Апошнімі часамі у палітычных Французкіх і Антанцкіх сфэрах заўважаецца даволі рэзкі паварот на некарысць Польшчы і асобліва яе імпэры-

алістычнай палітыкі у стасунку да новаутварэных дзержаў (Украіны, Беларусь, Літвы, Латвіі.) Карыстаючыся гэтым настроеньнем на аснове праверэных фактоў гр. Ладноў 11.III.1920 году падаў Нарадзе Паслоў мэморьял аб гвалтах і уціску чыненых палякамі беларускаму Народу і Ураду на окупованых імі беларускіх землях[1]. І незалежна ад гэтаго дастаў запрошэньне зрабіць даклад аб беларускай справе у Палаце Дэпутатоу. Пасля дакладу, які быў прыняты вельмі прыхільна, французкіе палітычные, фінансавые і грамадзянскіе кругі шчыра зацікавіліся беларускай справай.

Группа фінансістаў Французка-Англіцка-Бэльгійская зацікавілася вельмі натуральнымі багацьцямі Беларусі, асабіста лесамі і ленам і высказала жаданьне прыступіць да тарговых умоў з Урадам Б.Н.Р. і прэдстаўнікамі коопэратыўных устаноў, з гэтымі апошнімі па пытаньню аб зборы і закупцы лену[2].

Разам з зацікаўленьнем да натуральных богацтв Беларусі, шырылася і расло зацікаўленьне і яе палітычнай будучынай. Урадовые і парлямэнцкіе газэты сталі друкаваць шмат стацей аб Беларусі. Урэшце найвыдатнейшые палітычные дзеячы і прэдстаўнікі Ураду Францыі сталі высказываць думкі, што Беларусь павінна быць прызнанай Незалежнай дзержавай і многіе з іх абецалі гр. Ладнову сваю дапамогу у гэтай справе.

У бягучы мамэнт справа прызнаньня незалежнасьці Беларусі стаіць на саўсім рэальным грунце і трэба чэкаць, што нават у скорай будучыне гэтае прызнаньне паследуе афіцыяльным парадкам.

Аднак, каб ускорыць прызнаньне патрэбна у гэты мамэнт самая энэргічная акцыя і са стараны як Ураду Б.Н.Р., так і са стараны палітычных і грамадзянскіх організацый Беларусі. Урад павінен развіць энэргічную чыннасць, а партыі аказываць усякую паддзержку Ураду.

Да дакладу даложены:

а) Мэморьял Мірнай Конфэрэнцыі ад 24.II.20 г.[3]

б) Пісьмо да Прэзыдэнта Французкай Рэспублікі у справе эксплоатацыі палякамі беларускіх лясоў[4].

в) Мэморьял аб польскіх гвалтах на Нараду Паслоў ад 11.3.20 г.[5]

*582.1.09:001&r*

[1] Дакумэнт №1932. [2] Гл. дакумэнты №№2124-2126, 2138. [3] Дакумэнт №1896. [4] Дакумэнт №1927. [5] Дакумэнт №1932.

**2148. Рэзалюцыя канфэрэнцыі БПСР (Рыга) за 31.05.1920 аб даверы палітыцы Ураду БНР Вацлава Ластоўскага**

*582.2.54:109 — мк*

Рэзалюцыю падпісалі:
Прадстаўнікі ЦК П.Бадунова, Я.Мамонька
Прадстаўнікі Цэнтральнай Загранічнай Рады:
Я.Чэрэпук, Г.Казячы, Станевіч, М.Сороко, Мышко
Прадстаўнікі Камітэту Меншчыны:
А.Вальковіч, М.Касатая
Прадстаўнікі Камітэту Горадзеншчыны:
Злоцкі

**2149. Рэзалюцыя канфэрэнцыі БПСР (Рыга) за 31.05.1920 аб даверы палітыцы міністра замежных справаў БНР Аўгена Ладнова**

*582.2.54:110 — мк*

Рэзалюцыю падпісалі:
Прадстаўнікі ЦК П.Бадунова, Я.Мамонька
Прадстаўнікі Цэнтральнай Заграні́чнай Рады:
Я.Чэрэпук, Г.Казячы, Станевіч, М.Сороко, Мышко
Прадстаўнікі Камітэту Меншчыны:
А.Вальковіч, М.Касатая
Прадстаўнікі Камітэту Горадзеншчыны:
Злоцкі

**2150. Рэзалюцыя канфэрэнцыі БПСФ (Рыга) за 31.05.1920 аб даверы палітыцы Ураду БНР Вацлава Ластоўскага**

*582.2.54:222 — мк*

Канфэрэнцыя адбывалася 25-30 травеня. Рэзалюцыю падпісалі: за старшыню партыі К.Езавітаў; сакратар Ю.Гладкі.

**2151. Візытоўка Рыгора Казячага**

GRÉGOIRE KAZIATCHY
Secrétaire du Consulat de la
Rébublique Démocratique Blanche-Routhénienne à Riga

*582.1.45:033a*

**2152. Візытоўка Джына Мак'ёра Вівальба**

GINO MACCHIORO VIVALBA
Agent Politique Royal d'Italie
Riga

*582.1.45:033b*

**2153. Запіска Кастуся Езавітава Вацлаву Ластоўскаму (Рыга) за ??.06.1920**

Грамадзянін Старшыня,
Прэзыдэнт Чакстэ можэ прыняць Вас сенека у 3 гадзіны ў сябе на кватэры. Ці Вы адзін паедзеце ці мы едзем разам?
З вялікай пашанай
К.Езавітаў
Буду у Вас праз гадзіну

*582.1.45:036*

Дата невядомая. Магчыма канец красавіка.

**2154. Візытоўка Паўла Вэнта**

Paul Vent.
Général d'Etat Major
Conseiller Militaire auprès de la Mission Mil.-Dipl.
Blanche-Russienne pour Lettonie et Esthonie

*582.1.45:041b*

**2155. Візытоўка У.Скелтана**

Mr. W.Skelton
His Britannic Majesty's Consular Service.

*582.1.45:041c*

**2156. Візытоўка Э.Кейбла**

Mr. E.G.Cable
His Britannic Majesty's Consul.
Riga,
II Weidendamm 5.

*582.1.45:041d*

**2157. Візытоўка Алеся Вальковіча**

Алесь Вальковіч
Член Рады Беларускай Народнай Рэспублікі

*582.1.45:041a*

**2158. Візытоўка Аўсея Трахімава**

Аўсей Трахімаў
Сябра Рады Беларускай Народнай Рэспублікі

*582.1.45:047a*
*582.1.71:007*[1]

---

[1] З надпісам: Hotel «Birutes».

**2159. Візытоўка Юрыя Гладкага**

Georges Gladky.
Général d'Etat Major
Sécretaire de la Mission Milit.-Diplom. Blanche-Russienne
pour Lettonie et Esthonie

*582.1.45:049*

---

Дата невядомая. На візытоўцы запіска:
Пане Старшыня!
Маю гонар паведаміць Вас, што Міністр Міжн. Спраў Латвіі можа прыняць Вас сеннека а 2 гадзіне у памешканьні Міністэрства (Мікалаеуская ул.).

**2160. Праект мэмарандуму Ўраду БНР Радзе прэм'ер-міністраў вялікіх дзяржаваў у Спаа**

*582.1.45:050a&r-050b&r — p*

---

Дата невядомая. На праекце прыпісана алоўкам: «Праект не скарыстаны і не важны».

**2161. Ліст Найвышэйшае Рады Беларускай Народнай Рэспублікі міністру фінансаў БНР за ??.??.1920**

Пану Міністру Фінансаў.

Даручаемо Пану распрацаваць адпаведную пастанову і выплачываць па ніжэй указаных нормах пэнсію, лічучы з 1 чэрвеня 1920 году.

Адпаведныя працаўнікі:
I кат. Сябры Найвышэйшае Рады, прадстаўнікі Ураду і дэлегацыяў па 10.000 мар.
II кат. Мейсцовыя адпаведныя працаўнікі (палітычныя, культурныя...) ад 6 да 8 тысяч.
III кат. Тэхнічныя працаўнікі ад 4 да 5 тысяч.
Сямейныя — 10% надбаўкі на кожнага члена сям'і (жонка, дзеці)

Сутачныя пры камандзіроўках:
I кат. — 200 мар. + кватэра, альбо 300 мар.
II і III кат. — 100 марак + кват, альбо 150 мар.

Сымон Рак-Міхайлоўскі
Намесьнік Старшыні Найвышэйшай Рады
Беларускай Народнай Рэспублікі

А.Смоліч
Прадстаўнік Ураду
*582.2.40:092 — ра*

Дата невядомая.

**2162. Канвэрт, адрасаваны Канцылярыі Рады Народных Міністраў БНР (Коўна)**
*582.2.54:261*

Дата невядомая.

**2163. Ліст Шарля Можа (Mauge) (Вільня?) Вацлаву Ластоўскаму й Кастусю Езавітаву (Рыга) за 1.06.1920**

[...] Les évènements qui se déroulent en ce moment en Russie-Blanche ne m'ayant pas permis de ramener à temps les délégués de vos Coopératives pour les conduire à Paris, et, m'obligeant, d'autre part, à rentrer immédiatement en France, pour faire hâter la reconnaissance de votre Indépendence [...]

Que mes vœux vous accompagnent dans vos efforts pour faire reconnaitre l'Indépendence nationale de Votre belle Patrie, et fasse le Destin, qu'à la France, bientôt, soit réservé l'honneur de la décrèter la première [...]

Charles Mauge
Chevalier de la Légion d'Honneur
Ingénieur et Économiste français
48 rue Jacob
Paris 6e
*582.1.45:029&r*
*582.1.45:029a — канвэрт*
*582.1.45:030 — пераклад на бел.м.*

**2164. Ліст старшыні Рады Народных Міністраў БНР Вацлава Ластоўскага (Рыга) міністру юстыцыі Аляксандру Цьвікевічу (Бэрлін) за 1.06.1920 (вых. №234)**

Беларуская Народная Рэспубліка
Рада Народных Міністроу.

1 Чэрвеня 1920
№234

Народнаму Міністру Юстыцыі Б.Н.Р.
Грамадзяніну А.ЦЬВІКЕВІЧУ.

З атрыманьнем гэтаго, Рада Народных Міністроў, прэдлагаець Вам зараз жа прыбыць у Раду Народных Міністроў Беларускай Народнай Рэспублікі, знаходзячуюся ў гэты час у м. Рызе.

Калі Вы, грамадзянін Міністэр, выяхаць ня можаце, дык просімо Вас, прыслаць нам маціваванную заяву па якім прычынам, Вы ня можаце прыбыць да мейсца вызова.

Старшыня Рады Народных Міністроў
ВЛастоўскі

Час. Кіраўнік Канцэлярыі Рады Народных Міністроў
А.Вальковіч
*582.2.47:032 — ма*

**2165. Пратакол Канфэрэнцыі Беларускіх Дзержаўных і Грамадзкіх дзеячоў у Рызе 1.06.1920**
*582.2.54:257&r — мк*

З рэзалюцыямі аб неабходнасьці эканамічна-гандлёвых кантактаў з эўрапейскімі дзяржавамі; аб патрабаваньні ад дзяржаваў Антанты прызнаньня незалежнасьці БНР; аб падтрымцы палітыкі Ўраду Вацлава Ластоўскага. Падпісалі: «Старшыня Канфэрэнцыі А.Вальковіч; Сэкрэтар Станевіч — сац.-рэвалюцыянэры; Прэдстаўнікі Беларускай партыі Сацыялістаў рэвалюцыянераў Янка Чэрэпук, П.Бадунова; Сацыялістоў-федэралістаў Езавітаў; Сацыял-дэмократоў А.Сцэпура і Прэдстаўнік Коопэратывоў Я.Мамонько».

**2166. Ліст Івана Луцэвіча (Менск) Антону Луцкевічу (Вільня) за 2.06.1920**

Рэдакцыя
беларускай тыднёвай
часопісі
«РУНЬ»
2 чэрвеня 1920
Менск, Кашарная, 10.

Вельміпаважаны Паночку!

Будзьце ласкавы, пастарайцеся выслаць па магчымасьці хутчэй «Księga Pamiątkowa» і фотографію В.-Дарэўскага. Па першае — гэтые рэчы не мае, а па другое — кніга мне вельмі патрэбна для стацьці у «Рунь».

Што чутно з Вашым месячнікам[1]? Надрукуйце у ім абвестку аб «Руні», мы гэта зробім аб Вашай часопісі; прышлеце толькі тэкст абвесткі.

Са шчырым паваж. Ів. Луцэвіч
*582.1.41:073*
*582.1.41:074 — канвэрт*

[1] У траўні меўся выйсьці №1 месячніка «Наша Ніва». З прычыны выхаду пад гэтым назовам літоўскага польскамоўнага пэрыёдыку выйшаў «Зборнік Нашай Нівы». Гл.: Наша Ніва. №1. 28.10.1920.

**2167. Грамата Рады Народных Міністраў БНР за 2.06.1920 (вых. №243) з даручэньнем Васілю Захарку зрабіць і атрымаць ад Ураду РСФСР пазыку для Ўраду БНР**

2 Чэрвеня 1920 г.
№243

ГРАМАТА.

Мы, Урад Беларускай Народнай Рэспублікі, загадалі і даверылі старшыне Надзвычайнай Нашай Дыплематычнай Місыі у Маскву, Васілію Іванавічу ЗАХАРКО, зрабіць ад імені Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі грашовую пазыку у Расейскай Сацыялістычнай Федэраціунай Радовай Рэспублікі, на варунках яму паказаных, у суме 50 міліенау (ПЯЦЬДЗЕСЯЦЬ МІЛІЕНАУ) рублеу і азначаные грошы атрымаць для перэдачы Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі.

В.Ластоўскі
Старшыня Рады Народных Міністроу і
Міністэр Фінансоу.

А.Валькoвіч
Кіраўнік Канцэлярыі Рады Народных Міністроу.

*582.2.54:256&r — мк*

**2168. Грамата Рады Народных Міністраў БНР за ?.06.1920 (вых. №???) аб прызначэньні М.Галавінскага[1] дыпляматычным прадстаўніком БНР у Югаславіі**

*582.2.54:294r — мк фра*

---

Дата невядомая. Чарнавы накід. Пастановы Рады Народных Міністраў была прынятая 2.06.1920. [1] Памылкова замест Галубінцава.

**2169. Ліст Міхася Маркевіча (Рэвэль) Вацлаву Ластоўскаму (Рыга) за 3.06.1920**

Пасылаю Вам даклад а таксама лічу патрэбным не ў афіцыальным кірунку паведаміць, што Доўцян[1] адзначыў, што усенькія перагаворы з Ладновым не больш займуць 7-9 дзень ўсяго часу с зваротам назад. Потым праезд гаранцірован безумоўна [...]

*582.1.45:032&r-032a*
*582.1.45:032b — канвэрт*

---

[1] Прадстаўнік савецкага «Цэнтрасаюзу» ў Рэвэлі.

**2170. Зьмест дакладу Палуты Бадуновай аб паездцы ў Расею, 4.06.1920**

<u>Змест Дакладу г. П.Бадуновай аб паездцы у Расею.</u>

~~4.IV.~~ 4.VI.1920 г.

Цэнтральнаму Камітэту Р.С.Ф.С.Р. пастаўлена было 6 пунктаў:

1. Прызнаньне поўнай Незалежнасьці Беларускай Рэспублікі.
2. Арганізацыя арміі.

3. Прызнаньне Ураду Ластоўскаго.

4. Шырокая матэріяльная дапамога беларускім арганізацыям і Ураду.

5. Вызваленьне с турэм беларускіх сацыялістоў і беларускіх дзеячоў.

6. Натыхместовая і шырокая культурна-прасьветная беларуская работа у Усходнай Беларусі.

Абасновывала гэтые дамаганьня такімі доводамі:

1) Народ беларускі ужо перэканаўся, што будучы арэнай і предмэтам змаганьня паміж Расеяй і Польшчай ен ня може развівацца ні эканамічна ні культуральна; яўляючыся аб'ектам прэтэнсый двох адвякоў боручыхся дзержаў, ен ўвесь час выносіць ўвесь цягар гэтаго змаганьня і сваім трудом і дабром аплачывае абедзьве стараны.

2) Пакуль ня будзе дадзена поўная Незалежнасьць Беларусі датуль немагчымы мір на Усходзі Эўропы, датуль ня спыніцца расейска польская барадзьба за абладаньне Беларусьсю.

3) Толькі Незалежнасьць Беларусі дасьць політычную роўнавагу на Усходзі Эўропы і задаволіць Беларускі Народ.

Адповедзь: Савецкі Урад стаіць у прынцыпе за прызнаньне незалежнасьці усім самаазначыўшымся народам. Што да прызнаньня Незалежнасці Беларусі, то гэто залежыць ад палаженьня на мейсцох, г. зн. — калі народ на мейсцох зажадае Незалежнасці, то незалежнасць будзе дадзена. Залежыць гэто так-сама і ад бягучаго палітычнаго мамэнту: калі Польшча будзе настаіваць на граніцах 1772 г., то Сов. Росіі лепей на заходзе гранічыць з Незалежнай Беларусью, як с Польшчай.

Цяпер, колі ідзе польскае наступленьне, пытаньне аб прызнаньні незалежнасці Беларусі аткладаецца, затое може быць пастаўлена на чарод пытаньне аб прызнаньні Ураду Ластоўскаго.

Па 4 і 5 пунктах дадзена адповедзь прыхільная: даваць шырокую дапамогу на беларускіе арганізацыі і вызваліць арэштованых беларускіх социялістоў, а справы беларускіх дзеячоў разгледзяць.

Па 6 пункту — абецалі пазволіць аткрыць Беларускіе вучыцельскіе курсы, даць зачат дзержаўнаму кнігавыдавецтву у першы чарод пусціць беларускія кніжкі, ліквідаваць безграматнасьць ў Смаленскай, Могілеўскай і Віцебскай губэрніях у Беларускай мове з Беларускіх падручнікоў.

*582.1.09:002&r*

**2171. Ліст Вацлава Ластоўскага (Рыга) [Міхасю Маркевічу (Рэвэль)] за 6.06.1920**

Паважаны Таварышу!

Грамадзянін Ладноў выехаў у Парыж у справах першай важнасці і в[ельмі] пільных. Дэлегацыя зложэная с трох асоб павінна праехаць у Маскву і выясьніць на сколькі шчыра з намі гаворацъ і што ўласціва суляць нам цяпер і ў будучыне. Калі там пастаноўка справы будзе сур'езная, шчырая і рэальная, то для падпісаньня умоў выедзе і гр. Ладноў. Цяпер-жэ прыложыце старэньня, каб магчыма хутчэй дэлегацыя дастала права на ўезд і гаранцыі нетыкальнасці асоб. Васіль і Янка[1] маюць падробные інструкцыі і яны Вас паставяць у курс справы.

Ад Вас прасіў я: 1) Кароткі нарыс Вашай працы у Рэвэлі з абазначэньнем а) як вяліка беларуская калёнія і якога элемэнту яна складаецца, б) ці робіцца якая культурная справа, хто яе вядзе і хто запачаткаваў, в) якія ёсць у Рэвелі культурные і тэхнічные беларускіе сілы годные да дзержаўнай работы?

Затым цісну Вашу руку

Ваш ВЛ....

*582.1.45:026 — рк*

[1] Захарка й Чарапук.

**2172. Ліст Вацлава Ластоўскага (Рыга) невядомаму адрасату (Масква) за 6.06.1920**

Паважаны Пане Прафэсар!

Пазваляю сабе аднавіць даўную нашу лістоўную знаёмасць с часоў «Нашай Нівы». Не шмат гадоў мінуло, але многа пражылося за гэты час. У агні ачышчалася, у крыві і сьлезах знаходзіла сама сябе наша дарагая бацькаўшчына. Цяпер ужо сваё Я асазнаў беларускі народ і імкнецца ён, многапакутны, быць роўным між вольных. Цяпер настаў той мамэнт, калі соль зямлі беларускай, павінна асаліць прэснае. Мы чэкаем, што лібэральнейшая і дэмократычнейшая дзержава і яе слаўны, а братні нам народ Расейскі словам і чынам памогуць стаць вольнымі, зніме з нас аржавые ланцугі няволі, якіе пакінуў на нас ненавідны расейскі царызм і гэтым дасць нам змогу самім расправіцца с польскім наездам, які губіць і глуміць нашу чэлавечую і патрыотычную годнасць.

Мы чэкаем ад вялікаго расейскаго народу прызнаньня нашай дзержаўнай незалежнасці. На заходзе Эўропы справа наша набрала першараднаго значэньня, бо яўным сталося сьвету, што пакуль беларускае пытаньне ня будзе развязано справядліва, — ня будзе і згоды на усходзе Эўропы. Дзеля гэтаго прынцыпова дадзена ужо згода на прызнаньне Беларусі дзержавай незалежнай.

Прыдзіце-ж да нас праўдзівые, прыдзіце да нас кахаючые, прыдзіце да нас шчырые, земля магіл бацькоў Вашых, косці бацькаўскіе Вас клічуць, клічэ пакутнік, народ ваш і вочы яго звернуты на Вас! Ніхай кожды паможэ, як можэ.

Пане прафэсару! перэдайце кліч гэты тым, хто можэ, ці могбы станунь у помач нам, бо жніво вялікае, а жанцоў мала.

Затым прыміце шчырае павітаньне і словы самай глыбокай да Вас пашаны ад В. Ласт....

*582.1.45:033&r — рк*

**2173. Ліст Вацлава Ластоўскага (Рыга) Язэпу Дылу (Масква) за 6.06.1920**

Дарагі і глыбока шанаваны Таварышу.

Памятаю і знаю Вас з лістоў, якіе Вы пісалі калісь у «Нашу Ніву». Чоткі, буйны характар пісьма Назара Бываеўскаго глыбока ўрэзаўся ў па-

мяць, бо характарам гэтым пісаў шчыра любячый бацькаўшчыну грамадзянін, які разам з народам ня толькі перэжываў яго нядолю, але заўсёды шукаў леку на гэну нядолю і даваў яго народу. «Яйцо вас збагаці!» казаў Бываеўскі і заклікаў да еднаньня на экономічным грунце. Мінуло некольկі гадоў і цяпер перад грамадзянамі Беларусі выніклі новые горызонты, новые гороскопы на будучыну. Цяпер грамадзяне Беларусі дарагой кождаму чэлавеку волі, бо бяз волі, без незалежнасці Беларусь ня будзе ні экономічна, ні культурна развівацца. Зменяючыся адна за аднэй окупацыі навучылі, што німа і ня можэ быць долі там, дзе пануе няволя, дзе ў сваей хаце народ не гаспадар і пакуль край будзе служыць заездам насцеж аткрытым усякаму ня будзе ён ні шчасьлівым, ні багатым. Дзеля гэтаго, німа цяпер на Беларусі популярнейшай думкі, як аб Незалежнасці. Гэта думка кінула народ наш да поўстаньнёў супроць ненавіднай панска-польскай окупацыі. Барадзьба няроўная і дзеля гэтаго шмат крыві узяла яна бязвіннай беларускай. Кладуць галовы інтэлігенты і простые селяне, нават падросткі дзеўчаткі. Чэсць іх сьвятой памяці.

Наша справа цяпер стаіць моцна: Захад Эўропы спадзяемся у скорым часе дасць прызнаньне нашай дзержаўнасці. Хочэм прызнаньня незалежнасці Беларусі і ад Расеі і верым, што незалежнасць будзе нам прызнана. Падробна аб усім ніхай Вам раскажуць.

Затым прыміце павітаньне ад усіх любячых бацькаўшчыну, якіе знаюць усе аб Вас, як аб лепшым яе сыну.

С пашанай ВЛаст...

*582.1.45:040&r — рк*

**2174. Ліст Вацлава Ластоўскага (Рыга) невядомаму адрасату (Масква) за 6.06.1920**

Дарагі Таварышу!

Шчырая і доўгалетняя праца Ваша пазваляе мне пісаць да Вас адразу аб тым, што патрэбна для справы дзержаўнаго адбудаваньня у цяперэшні момэнт. Веру што зробіце усё што ў сілах Вашых.

Мы на перадодні прызнаньня Беларускай дзержавы Зах. Эўропай. Там справа наша стаіць лепей як украінская. Трэба як найскарэйшаго прызнаньня і ад Расеі. Ненавідную польскую окупацыю мы можэм ліквідаваць у сябе самі сваімі ўласнымі сіламі, калі будзе у нашых руках на гэто экономічная спрамога. Ня хочэм у Беларусі ніякіх чужых войск. Што да дзержаўнай формы, то будзе яна больш левая, як у Расеі, мяркуючы з настроёў у народзе, але думаем, што ня будзе яна і такой руйнуючай у пераходны момэнт. Адным словам наша Рэспубліка народная, а гэто значэ, што формы дзержаўнасці устанаўляе сам народ і будзе мець такіе, якіе ён палічыць за лепшые.

Мы, як партыя будзем праводзіць сыстэму рад, бо толькі пры гэтай сыстэме можэ быць гаранцыя што у Беларусі кіраваць будуць беларусы.

Затым прыміце шчырае павітаньне і запэўненьне у глыбокай да Вас пашане

Ваш ВЛаст...

*582.1.45:041&r — рк*

**2175. Ліст Палуты Бадуновай (Кемэрн) Вацлаву Ластоўскаму (Рыга) за 6.06.1920**

Тов. Ластоускі!

Аб Шолковым пагаманіце з Мамонькой, а мы з Вашай жонкай аб ім ужо гаманілі, яна передасть Вам мае думкі і свае.

Делегаціі трэба прыбавіць пять тысяч, бо дужа мала 15 т. Мамоньке мы так сама выдали 15 т. тысяч.

Я не прыехала сягодня, за тое, што нядобра сябе чую. Але шлю шчырае прывітаньне делегаціи. Лістоў да Масквы не пішу за тое, што не чую силы ў сабе. Передайце, калі ласка делегаціи, каб Маркевіч і Черэпук пісалі мне на імя Яноўской, а не інакш. Гэтак лепш.

Пакуль што усяго лепшага
Палута
6-VI-20

*582.1.45:042&r*

**2176. Ліст Вацлава Ластоўскага (Рыга) невядомаму адрасату (Вільня) за 7.06.1920**

Паважаны Таварышу!

Не магу зразумець што значэ так доўгая правалока с прыездам прэдстаўнікоў на конфэрэнцыю. Ці-ж бы ў Вас змяніліся думкі і пагляды на дзержаўнае будаўніцтво, я гэто гавару не аб Вас асабіста, а агуль[на] аб усіх. Усё-ж такі прашу паведаміць такое ці іншае Ваша рашэньне у гэтых справах. Памятайце толькі, што гэтым (не прысланьнем дэлегатоў) робіцца вялікая крыўда справе дзержаўнаго будаўніцтва.

Справы ідуць в. добра, а толькі вялікі недахват людзей да працы, — жніво вялікае, а жанцоў мала! Прышліце мне 1) Маладога Тулоўскага 2) калі можэце прыедзьце самі 3) накажыце у Мінск каб прыезджалі Аўсяннік, Белевіч і Трафімоў 4) прышліце двох-трох маладых хлопцаў саўсім сьвядомых беларусоў.

Прысылайце людзей за інформацыямі. Добра былобы каб Вы прыехалі на Генеральную Конфэрэнцыю (Фінляндыі, Эстіі, Латвіі, Літвы, Беларусі, Украіны, Румыніі і Польшчы) якая адбудзецца у канцы гэтаго месяца у Латвіі, а так-жэ каб на гэты час прыехаў і Аўсяннік. У нас в. многа новаго і радаснаго для нас. Дэлегацыя у Маскву сягоньня выехала.

Затым пасылаю усім маім дарагім знаёмым шчырае павітаньне.
С праўдзівай пашанай ВЛаст...

*582.1.45:047&r — рк*

**2177. Хадайніцтва Беларускай Школьнай Рады Меншчыны перад Галоўнай Касай Найвышэйшай Рады БНР за 7.06.1920 аб выдачы на рукі намесьніка старшыні Школьнай Рады Аркадзя Смоліча 40.000 польскіх марак для перадачы Выдавецкаму Аддзелу**

*582.2.56:055*

---

Хадайніцтва падпісалі: старшыня Рак-Міхайлоўскі, скарбнік Ч.Родзевіч, сакратар Чайко.

**2178. Расьпіска намесьніка старшыні Беларускай Школьнай Рады Аркадзя Смоліча (Менск) за 7.06.1920 аб атрыманьні ад Галоўнай Касы Найвышэйшай Рады Беларускай Народнай Рэспублікі 40.000 польскіх марак згодна з ордэрам Школьнай Рады за 7.06.1920**

*582.2.56:054*

**2179. Ліст А[нтона Аўсяніка?] (Менск?) Вацлаву Іваноўскаму (Вільня) за 8.06.1920 і канвэрт**

Дарагі пане Вацлаве

Створылася тое аб чым я Вам гаварыў у Менску: з п. Аляксюком я зусім разышоўся у мэтодах працы. За час яго адсутнасьці мы шмат чаго зрабілі: ёсьць ужо ахвотнікі, ёсьць кашары, жаўнеры у кашарах, 15 агітатараў працуюць па паветах.

Баюся, што п. А<ляксюк> усё пераінача по своему. Трэба рашуча спыніць унутрані разлад. Гэта зрабіць можэце толькі Вы.

Вас чакаемо неця[р]пліва. Гэту пісульку Вам перадасьць афіцэр Шамко. Ён у Вільні заўмецца справай рэгістрацыі афіцэраў, вербоўкай ахвотнікаў і перасылкай іх у Менскія кашары.

Чакаю!

Ваш А...

*582.1.41:069&r*

*582.1.41:070 — канэврт*

**2180. Ліст Аркадзя Смоліча (Менск) Вацлаву Іваноўскаму (Вільня) за 8.06.1920**

Паважаны дзядзька Іваноўскі!

Добра было-б, каб Вы скарысталі з свайго быцьця у Вільні для гэткіх справаў:

1 - Справа Грыба. Ён арыштаваны у канцы травеня Дэфэнзіваю і хутка будзе над ім палявы суд. Вінавацяць яго у зносінах з бальшавіцкімі агентамі, утварэньні рэвкома і г. д. Пры мажлівасьці трэба націснуць на Пілсудскага, каб яго выпусьцілі. Мяйсцовыя можа б і зрабілі гэта, але адны аднак баяцца.

2. Справа Акружнаго Школьн. Інспэктара. На мейсца Квека назначылі нейкага Півко, ці штось у гэтым родзе, кандыдата Дважачковага. Кандыдатуры Людкевіча і Янкоўскага, якія ставіў Рачкевіч, адхілены. Трэба зараз жа падняць гвалт, а то мы ізноў страцім школьны год на змаганьне з інспэктарамі.

3. Абгаварэце у Zarządzie Cyw. справу Нясьвіскай і Маладэчынскай Сэмінарыяў і так сама летніх курсаў для настаўнікаў Берасьцейскага і Віленскага вокругаў. Наагул, — спосабы, каб нам як дастацца у гэты Берасьцейскі вокруг, пасылаць туды інструктароў і г. д.

Урэшці паведамляю Вас, што Ваш прыезд найхутчэйшы вельмі патрэбен дзеля розных повадаў — організацыйных, грашовых і г. д.

Лета сходзіць, а работа — чуць тлее.

Чакаем хутчэйшага павароту

Менск, 8 чэрвеня 1920 Ваш А. Смоліч

P.S. Даведайцеся, калі ласка, як з маёю картаю Беларусі (Wronia, 3, Літаграфія Маца)[1], і наагул разгледзьце справу выдавецтва з Гарэцкім, Знамяроўскім і г. д.

*582.1.41:068&r*

[1] Гаворка йдзе пра выданьне: Карта Беларусі. Масштаб 1:1.680.000. У 1 цалі 40 вёрст. Za pozwoleniem cenzury wojennej 27/9 1919 r. Lit. P.F. «N.Mac i Syn», Wilno, Wronia ul. №3.

**2181. Расьпіска Антона Трэпкі (Менск) за 9.06.1920 аб атрыманьні ад Цэнтральнай Касы Найвышэйшай Рады 25.000 польскіх марак на выдаткі Цэнтральнага Беларускага Саюзу Сельскай Гаспадаркі**

*582.2.56:056*

**2182. Мэмарыял у беларускай справе й прапановы да арганізацыі беларускага школьніцтва Вацлава Іваноўскага за ?.06.1920, Вільня**

*582.1.41:061&r-066&r — p*

Дакладная дата невядомая. Паведамленьне ў газэце «Незалежная Думка», №3, 1920.06.20: «У Вільні нядаўна быў В.Іваноўскі, які разам з палякамі апрацаваў статут аўтаномнай бел. школы (на Меншчыне)».

**2183. Запіска Аляксандра Незалежнага [Каца] Вацлаву Ластоўскаму (Рыга) за ?.06.1920 з паведамленьнем аб тым, што ён будзе чытаць лекцыю «Беларускае пытаньне й жыды» й 10.06.1920 выедзе ў Расею**

*582.1.45:031&r*

Дакладная дата невядомая.

**2184. Ліст Вацлава Ластоўскага (Рыга) Аўгену Ладнову (Парыж) за 11.06.1920**

Высокапаважаны Еўгені Міхайлавіч!

Чэкаючы ад Вас вестак робім што дужы. Дэлегацыя зложэная з Васіля Янкі і М-ча[1] выехала у Рэвель, а там былі ужо пропускі для Вас асабіста і гарантіі. Усходнікі вельмі хацелі, каб Вы асабіста да іх прыехалі. Цяпер наша дэлегацыя чэкае на пропускі. З Бацькаўшчыны даходзяць весткі, што там ужо энэргічна прыступілі да фармаваньня беларускаго войска, разумеецца пад польскім прэтэктаратам, але формацы гэты вельмі не популярны у народзе. Пасылаю Вам бюлютэні арганізаванага мной у Рызе прэс-бюро, якое палохае мяне сваей дарагоўл[я]ю (разсылка тэлеграм ва ўсе нашы прэдстаўніцтвы каштуе у дзень каля 1000 лат. руб.), а у кассе?.. Я разумею, што цяпер акурат найболей патрэбна энэргічная акцыя у прэссе, але гэты недахват грошы! Можэ Вы прыдумаеце які ратунак. Прэдстаўнікоў ад коопэратывоў ешчэ німа, хоць даходзяць весткі, што яны выбіраюцца. Пакуль што думаем паслаць да Вас Мамонько які мае пасьведчэньне, што ён ёсць член-аснавацель (установуца) Цэнтралі Сельска-Гаспадарскае коопэратыў, яго поўнамочча падмацаваўшы ад Ураду і Рады Віленшчыны і Гродзеншчыны.

Апошнімі часамі тут дужа заварушыліся прэдстаўнікі Севернай Арміі, якіе знаходзяцца у цесным звязку з нямецкай рэакцыей. Ходзяць глухіе чуткі аб тым, што Нямеччына дае ім матэрьяльную і аружную дапамогу да распачацьця формаваньня. Савенкоў ад іх паехаў у Варшаву дагаварывацца аб участку фронту. Прыміце гэто да ведама.

Палякі сыпнулі грошы на подкуп палякуючых беларусоў. Кажуць выдалі 13 мільёноў на рукі Смоліча і Ко. Быў у нас з візытам ангельскі прэдстаўнік, гаварыў аб тарговых умовах на лён і лес. Мы чэкаем вестак ад Вас і нашых прыяцелёў. Дастаўленыя пісьмы курьерам за подпісямі Вуліча, Жеральда, Каранца, Коза[2] дадалі нам веры і сіл да працы. Прашу падзякаваць ім ад майго імені і скажыце, што наша прыказка кажэ: «у бядзе пазнаюць прыяцелёў» і мы іх пазнаўшы у трудны момэнт, калі найтрудней аб паддзержку, пастараемся не астацца у даўгу ў лепшые часы. Сэрдэчны і прыязны прывет засылаю усім нашым прыяцелям і супрацоўнікам, асабліва п.п. Жэральду, Вулічу і Каранцу, пісьмы якіх веюць цеплатой і праўдзівай прыхільнасцю да нашай дарагой, замучэнай бацькаўшчыны.

Сэнтымэнты аднак не выключаюць інтэрэсаў экономічных, а наадварот на іх павінны грунтавацца і апірацца. Дзеля гэтаго я хачу сказаць ось што: ніхай нашы прыяцелі ня думаюць, што у нас можэ быць расхаждзеніе у поглядах і паступках з копэратарамі нашымі, дзеля таго, што сябры коопэратыўных урадоў уходзяць у Урад і у Раду Б.Н.Р. і наадварот Урад і Рада складаецца с тых грамадзкіх сіл Беларусі, якіе парушаюць усім экономічным і палітычным жыццем Беларусі. Варункі ваеннаго часу не даюць нам спрамогі выбрынуць з дылеммы пасылкі, бо грамадзяне нашы на бацькаўшчыне абезпраўлены, знаходзяцца пад польскім тэророрам і вось чаму ім выехаць трудна.

Перад ад'ездам я даручыў гр. Мож копіі партыйных рэзалюцый і копію пратаколу Канфэрэнцыі Беларускіх Дзержаўных і Грамадзянскіх дзеячоў, спешаючыся кіраўнік канцэлярыі ня тую даў Вам копію, цяпер пасылаю яе Вам.

Затым жычу Вам здароўя і сіл да працы і пры Божай дапамозе, веру, наша справа не заглохне — прыміце словы глыбокай да Вас пашаны і самых сардэчнай прыхільнасці

ваш ВЛаст...

*582.1.45:048&r-049&r — рк*

[1] Захаркі,Чарапука й Маркевіча. [2] Дакумэнты №№2124-2126, 2137-2140.

**2185. Расьпіска Антона Трэпкі (Менск) за 11.06.1920 аб атрыманьні ад Цэнтральнай Касы Найвышэйшай Рады 30.000 польскіх марак на выдаткі Цэнтральнага Беларускага Саюзу Сельскай Гаспадаркі**

*582.2.56:057*

**2186. Хадайніцтва Беларускага Нацыянальнага Камітэту перад Цэнтральнай Касай БНР за 11.06.1920 аб выдачы на рукі старшыні Камітэту Кузьмы Цярэшчанкі 25.000 польскіх марак на выдаткі Камітэту**

*582.2.56:059*

**2187. Ліст Канцылярыі Рады Народных Міністраў БНР (Рыга) маёру Дырыксу за 11.06.1920 (вых. №262) зь інфармацыяй аб вытворчасьці льну ў Беларусі**
*582.2.54:252&r — мк*

**2188. Статут Канфэрэнцыі Балтыйскіх Дзяржаваў**
*582.2.54:253&r-254 — шк*

Дата невядомая. Канфэрэнцыя мела адбыцца ў Рызе ў ліпені 1920. году.

**2189. Расьпіска Кузьмы Цярэшчанкі (Менск) за 12.06.1920 аб атрыманьні ад Цэнтральнай Касы Найвышэйшай Рады 25.000 польскіх марак на выдаткі Беларускага Нацыянальнага Камітэту**
*582.2.56:058*

**2190. Часовая Канстытуцыя Літоўскае Дзяржавы, прынятая Ўстаноўчым Соймам 12.06.1920**
*582.2.36:067&r — мк*

**2191. Экономическая Корреспонденція (Капэнгаген). №1. 14.06.1920. Redacteur Dr. J.Lourié**
*582.2.54:238-241 — шк*

**2192. На «усходніх землях» // Беларусь (Менск). №126(182). 15.06.1920**
*582.2.47:038 — д*

**2193. Пратакол паседжаньня Надзвычайнай Дыпляматычнай Місіі БНР у Рэвэлі 15.06.1920**

Журнал
Пасядзеньня Надзвычайнай Місыі
Б.Н.Р. 15 чэрвеня 1920 г.

Прысутнымі былі:
Старшыня Дэлегацыі В.Захарко
Сябр М.Маркевіч
Сэкрэтар Я.Чэрэпук

| Слухалі | Пастанавілі |
|---|---|
| Слухалі даклад сэкрэтара Місыі Я.Чэрэпука аб тым, што на пасланую Расейскай Савецкай Дэлегацыей у м. Ревелі прозьбу аб пропуску беларускай Надзвычайнай Місыі у Маскву атрымана ад канцэлярыята па Заграничных Справах, што Місія у данны момэнт ня можэ быць прынята, можна прыехаць туды толькі прыватным чынам, аднаму чэлавеку, пажадана Чэрэпуку для інформацыі і папярэдніх перэгавораў. | Скарыстаць з атрыманьня пазваленьня на ўезд аднаму чэлавеку, дзеля чаго прасіць выехаць у Маскву гр. Маркевіча, як маючага поўнамоцтвы ад партыі соц. рэв. Затым місыя просіць грам. Маркевіча зрабіць як можна найвыгаднейшую для Беларусі і яе Ураду інформацыю не аткрываючы агульнай яго палітыкі і тых пытаньнёў якіе адносяцца да ліку сэкрэтных. Даць славеснае разьясьненьне Маркевічу у |

якіх пытаньнях урадоваго характару, што і як можна сказаць.
Адпусціць аванс Маркевічу з сумм Місыі у ліку 75 тысяч савецкіх рублёў на працу і іншые расходы аб якіх пасьля дасцца ім адчот Беларускаму Ураду.
Пад час адсутнасці Маркевіча кіраваньне Ревельскім аддзелам Місыі уступіць Чэрэпуку аб чым паведаміць прэдстаўніка Б.Н.Р. у Латвіі і Эстіі.
Старшыне Місыі гр. Захарко уступіўшаму у перэгаворы з Эстонскім Урадам закончыць таковые і пасьля выехаць у Рыгу.

Падпісалі:
Старшыня В.Захарко
Сябр М.Маркевіч
Сэкрэтар Я.Чэрэпук
*582.2.54:245&r — рк В.Ластоўскага*

**2194. Ліст Васіля Захаркі (Рэвэль) Вацлаву Ластоўскаму (Рыга) за 16.06.1920**

Даражэнькі пане Вацлаве!

Самною сталася тое, што у нас, на бяду, натта часта бывае.

Выпіралі і выперлі дэлегацыю дзеля Масквы тагды, калі яна яе не патрэбавала.

Было якое то пазваленьне на прыезд аднаго чалавека, як кажуць Ладнова альбо Чэрэпука дзеля інфармацыі і только.

Я заявіў, што інфармацыя ужо зроблена тав[арышам] старшыні Рады Рэспуб. Бадуновай дзеля гэтаго прасіў прапусціць дзеля перэгавораў усю місію с 3$^{x}$ чалавек.

На запрос атрыман атказ чэрэз тыдзень, што пазваляецца выехаць толькі аднаму чалавеку дзеля інфармацыйных перэгавораў.

Прымаючы пад увагу, што у п. Маркевіча маюцца самастаяцэльныя паўнамоцствы ад партыі мы пастанавілі ехаць яму і гаварыць ад партыі і разам с тым даць урадо[в]ую інфармацыю згодна с даным яму намі наказам.

Ен мусіць выедзе у пятніцу[1].

Замясьціцялем яго пакуль што будзе тутака Чэрэпук.

Тутака Енерал Васількоўскі (вельмі энергічны чалавек), с каторым я веў перэгаворы с Эстонскім Міністрам заграничных спраў аб справах, якія я перэдам Вам на словах.

Я с Васількоўскім і яшчэ адным палкоунікам, выеду да Вас у пятніцу альбо суботу.

Заутра думаю яшчэ пабываць і больш раз'ясніць Беларускае пытаньне Гукоўскаму[2], хаця усе значэньне не тутака а у Маскве. Яны тутака прастыя перэдатчыкі і толькі.

Хаця Мамонько і страшэньне крычаў за тое, каб выпусьціць Каладзея, але як я цяпер разабраўся гэтага рабіць не следавало, асабліва калі Вашая партыя завязала непасрэдственныя перэгаворы. Ен не прызнае не моцы Усебеларускага З'езду, ні Ураду, ні партыі. Пасьля мае з ім гутаркі ён стаў як бы другім, але я не веру яму. Выехаў ен учоры. Думаю што ен не вораг сабе каб добра гаварыць аб нас.

Незразумела чаго тутака плентаецца і Шолкавы. Хваліць сябе і лае усіх нашых. Так усюды адным словам цяжка і трудна жыць. У Вас так само не добра, я разумею апра[вержэньне Ладновым? ...][3]стра слоу Езавітава — это дзеля прадстауніка немажлівая рэч. Паклон Вашэй жонцы і усім нашым.

Васіль

*582.1.45:035&r-035a-035b-035c*

*582.1.45:034a — канвэрт*

[1] 17.06.1920. [2] Савецкі прадстаўнік у Рэвэлі. [3] Ніз аркуша абрэзаны.

**2195. Хадайніцтва Беларускага Нацыянальнага Камітэту перад Цэнтральнай Касай БНР за 16.06.1920 аб выдачы на рукі намесьніка старшыні Камітэту Антона Крэпскага 50.000 польскіх марак на выдаткі Камітэту**

*582.2.56:061*

**2196. Расьпіска намесьніка старшыні Беларускага Нацыянальнага Камітэту Антона Крэпскага (Менск) за 16.06.1920 аб атрыманьні ад Цэнтральнае Касы 50.000 польскіх марак на выдаткі Камітэту**

*582.2.56:060*

**2197. Запіска Кастуся Езавітава Вацлаву Ластоўскаму (Рыга) за 17.06.1920**

На уселякі выпадак паведамляю Пана Старшыню, што спатканьне з Ульманісам умоўлена заўтра а 12 ½ гадзіне ў замку.

Трэба б было перед гэтым візытам крыху пагутарыць, ці сенека ў вечары, ці заўтра з ранку. Таксама хачу напомніць аб тым, што мы гутарылі з Вамі наконта візыткі: Каспер можа яе сенека аднесьці, каб зрана была ужо гатова.

З вялікай пашанай

К.Езавітаў

*582.1.45:037&r*

**2198. Ліст Міколы Вяршыніна (Прага) Пятру Крэчэўскаму (Бэрлін) за 17.06.1920**

Прага 17 VI 20

Многапаважаны пане Старшыня!

Пасылаю Вам перэкладзенае мною з чешскай на рускую мову пісьмо прафэсара Грушеўскаго, надрукованае у «Prave Lidu», у яком ясна асвечана Петлюрауская акцыя. Раблю гэта 1-я дзеля таго што наше палітычнае палажене за малымі выключенямі аналагічна украінскаму і 2) што у

нас ёсьць людзі, якіе, як мне здаетца, склонны паддзержываць гэту акцыю. Былаб здаетца добра каб Вы прачыталі гэту стацыю на канференці (пэўна што яна будзе) і абсудзілі яе.

Асабліва важна што датыкаетца польскаго земляуластніцства на Беларусі і раздзела яе, каліб наша палітыка прыняла Петлюраускі керунак, ці як кажуць «польскую арієнтацію». Быу бы Вам вельмі удзечен, каліб мне напісалі ці прыехаў пан Баркоў і ці прывез пастанауленe Рыжскаго с'езда а так сама сенс пастанауленя.

З щырай пашанай
адданы Вам
Н.Верши...

*582.2.47:009&r-010 — ра*

**2199. Ліст Мікалая Пужаноўскага (Ляйпцыг) «консулу Беларускай Рэспублікі» (Бэрлін) за ??.0?.1920 з просьбай выдаць дакумэнты для праезду ў Менск**

*582.2.47:012&r — ра*

**2200. Чарнавік ліста Антона Луцкевіча (Вільня) «Яго Эксцэленцыі» [мітрапаліту Андрэю Шэптыцкаму?] за 18.06.1920**

Ваша Эксцэленцыя!

Пасылаю гэтае пісьмо і мой шчыры прывет праз кс. Станкевіча — нашага выдатнага нацыянальнага дзеяча, каторы заслугоўвае на абсалютную веру, а разам з тым звяртаюся да Вашае Эксцэленцыі з просьбай.

Справа вось у чым. Як Вашай Эксцэленцыі добра вядома, ў гісторыі нашага народу праца Айцоў-Базыльянаў ~~занімае адну з найбольш~~ адыграла надзвычайна вялікую ролю. Асабліва віленскі базыльянскі манастыр быў сапраўдным беларус. кузьней цэнтрам беларускае культурнае работы, цэнтрам барацьбы нашага народу за захаваньне сваей нацыянальнасьці. Але гэта было даўно — а пасьля скасаваньня маскалямі Уніі Базыльянскіе муры былі абернены ў разсаднік праваславія і ~~абмаскоўленьня нашага народу~~ маскоўшчыны: ў іх адкрылі Праваслаўную Духоўную Сэмінарыю. Пры эвакуацыі маскалямі Вільні сэмінарыя была вывезеная ў Расею.

Тады мой с.п. брат Іван падняў думку, што муры гэтые, як і некалі, павінны служыць гняздом для нашае культурна-нацыянальнае працы. У сваіх плянах Ён памяшчаў тут і гімназію, і музэй, і іншыя культурныя установы. Але, ня гледзячы на тое, што адзін-ядыны прадстаўнік праваслаўнага духавенства, які астаўся ў Вільні, гатоў быў нам тые муры аддаць да карыстаньня, — немцы занялі іх пад вайсковы лазарэт. Толькі напярэдодні выхаду іх з Вільні Івану ўдалося правясьці ў жыцьцё ~~сваю~~ Яго старую думку: Ён, ужо зусім хворы і бязсільны, меў яшчэ гэтулькі энэргіі, што, атрымаўшы ад праваслаўнага духавенства пазваленьне на часовае карыстаньне з муроў, арганізаваў у іх беларускую гімназію.

Пасьля бальшавіцкага панаваньня, якое на жыцьці гімназіі не адбілося, прыйшлі паляки. Яны зразу зьвярнулі ўвагу на Базыльянскія муры —

тым больш, што ў іх месьціцца вялікая бібліотэка (каля 30.000 тамоў). Пачалася акцыя, каб беларусаў стуль выкінуць. Былі зроблены спробы вывязьці бібліотэку, якая па маральнаму праву павінна ўвайсьці ў сабраньне кніг Беларускага Навуковага Т-ва (спадчына па с.п. Іване). Праваслаўнаму духавенству польскіе ўласьці на словах казалі, што будынак яны прызнаюць за ім, а беларусы ня маюць на яго ніякіх правоў. ~~Vice versa~~ Mutatis mutandis, падобные гутаркі вялі яны з намі, супакойваючы нас, што ад нас муроў ніхто не адбярэ. А адначасна ~~рабіліся~~ пачаліся прыгатаўленьні да памяшчэньня там польскае гімназіі.

У гэты крытычны мамэнт мы знайшлі такі выхад. Палякі, прыйшоўшы ў Беларусь, заявілі офіцыяльна, што яны рэстытуюць усе правы уніяцкае царквы, — гэтым самым і правы на старое меньне яе, зрабаванае маскалямі. Такім чынам, праўнымі гаспадарамі Базыльянскіх муроў зьяўляюцца толькі Айцы Базыльяне, і яны маглі-б рэвіндыкаваць сваё дабро. Мы бы былі вельмі радыя, калі-б старая праца іх у беларускім нацыянальным духу аднавілася чым хутчэй — але баімося, што пры сучасных варунках гэтага нельга будзе ўчыніць. Вось мы і надумалі зьвярнуцца да Вашае Эксцэленцыі ~~з просьбай~~ аб паддзержку нас перад Айцоў Базыльянаў ~~у справе~~ з просьбай аб цэссію іх правоў на манаст. гмахі ў Вільні Беларускаму Навуковаму Таварыству дзеля ўжытку нашых культурных установ, а ў тым ліку музэю, сабранага с.п. Іванам.

Я ведаю, як прыхільна Ваша Эксцэленцыя адносіцца да нашае справы і ведаю, што і справе выпаўненьня апошняга жаданьня с.п. Івана: устроіць музэй у Базыльянскіх мурох, катораму Ён адпісаў усё, што сабраў праз сваё жыцьцё — будзе ляжаць Вам на сэрцы. І затым я пазваляю сабе зьвярнуцца да Вашае Эксцэленцыі з просьбай аб аказаньне помачы кс. Станкевічу ў яго місіі, аб каторай ён дэталічна раскажа сам.

Прашу Вашу Эксцэленцыю прыняць мае завярэньні ў глыбокай пашане і адданасьці

*582.1.14:059&r-061&r*

**2201. Расьпіска Анатоля Дзянісава (Менск) за 20.06.1920 аб атрыманьні авансу 2.000 польскіх марак**

*582.2.56:064*

**2202. Ліст Васіля Захаркі (Рэвэль) Вацлаву Ластоўскаму (Рыга) за 21.06.1920**

Сэкрэтна

Даражэнькі пане Вацлаве!

Прышоўшы да перэконаньня што прэдстаунікам Усходу[1] недастатачна выяснілі становішчэ нашае Бацькаўшчыны, я пашоў яшчэ раз да іх. Пасьля доугай гутаркі, каторая хлістала іх зусіх бакоў, яны пачалі прасіць каб ехау далей ніхто другі, як я.

Мною пастаулена ім такое запатрэбаваньне, што пажаданьне маяго Ураду гэто праезд усей дэлегацыі. Урад жэ Усходу, як Вы кажэце, па прычынам ваеннага характэру згажаецца прапусьціць толькі аднаго члена

дэлегацыі. Хаця такая пазыцыя дзеля мяне і незразумела і непавідна прымітацца дэлегацыей, но прымаючы пад увагу, што усе гэто, як Вы кажэце зьяўляецца рэзультатам таго, што вашаму Ураду да гэтаге пары дастатачно палажэньне не раз'ясьнено, і што як вы кажэце ваш Урад натта хоча гаварыць с Беларус. Урадам і хацеўбы нават і прэдварiцельна гутарыць с прэдстаўнiком не партыі, а Ураду, я даю сваю згоду ехаць пры такiх варунках. Што мяне будут разглядаць як афіцыяльнае дыплематычнае ліцо Беларус. Ураду са ўсімі належнымі яму гарантыямі. Апрача меня як прэдстаўніка Ураду я прашу яшчэ прапусьціць Марк<евіча> як прэдстаўніка партыі, дзеля працягу чыста партыйных гутарак Цеткі[2].

У такім сэнсе зроблен пільны запрос Цэнтральнаму Ураду. Чэкаю атказу. Калі Марк<евіча> не пусьцяць я паеду адзін.

Вялікіх надзей непакладаю, но можа што і выйдзе. Гутарку і дамаганьне буду ставіць згодна згодна с мандатам прызнаньне незалежнасьці і незабауная уступка тэрыторіі нашаму Ураду. Калі незатрымаюць думаю хутка вярнуцца.

Цяпер другая справа — гэто прыезд сюды Енерала Васільк<оўскага> с палкоунікам[3]. Усю інфармацыю яны зробяць Вам устна. З іх слоў я бачу, што енерал натта цьверда стаяў на грунце нашае дзержавы, веў барацьбу с вора[га]мі і як найляпей асвятляў нашае пытаньне перэд прэдстаунікамі Антанты, у працягу 8 мцаў, не узяушы ад нас, да гэтае пары, ні аднаго гроша. Самы разумеце што павідна сказаць яму Бацькаушчына.

Я стаю у працы за граніцаю на грунці шавінізма, но перэканаўшыся у шчырасьці і здольнасьці гэтаго чалавека, лічыубы абавязковым даражыць ім і насколькі мажліва аформіць і аблегчыць яго працу. На мой погляд было бы натто карыстным акрэдытаваць Енерала нашым пауномочным дыплемат. прэдстауніком пры Фінляндскім Урадзе. Самы вы знаеце што пры нашых варунках гэто шчаслівы выхад. Я не магу Вам аб'ясьніць таго колькі мы трацім із за атсутнасьці нашых прэдстаунікоў у той ці іншай дзержаві.

Калі я з'явіуся да Міністра заграніч. спраў Эстоні першае выказаное ім нездавальненье гэто атсутнасьць нашаго прэдстауніка, бо тыя дзеці, якія тутака прэдстауляюць Беларусь вызываюць улыбку, паменьшай меры.

Я ужэ сказаў, што паважаны енерал с натта сур'езным палкоунікам, перэдасьць Вам аб чым мы гутарылі с Міністрам закардоных спраў. Добра разберэцеся і можа Вы прыдзеце да таго погляду, што трэба даць енералу афіцыяльнае паўнамоцство на працяг гэтай гутаркі.

На сваю паездку я вялікае надзеі не пакладаю, но калі бы былі нават добрыя рэзультаты, то і пры такіх варунках, пасрэдніцтво Эстоніі нам не можа быць шкодным. Яна пакуль што адносіцца да нас добра.

Трэба мець на увазі, што парты натта будуць нам патрэбны, а прача Эстоніі мусіць мы ні аткаго пакуль што не можам спадзевацца гэтаго.

Пры назначеніі енерала прэдстауніком у Фінляндіі палкоунік могбы быць райцай. Я добра ведаю, што пры разрашэньні гэтаго пытаньня Вы затрымаяцеся на беларускай мове. Но што зрабіць, калі цяпер мы не можам абставіць нашы установы як бы гэто хацелася.

Люді шчыро вялі нашую працу на інтэрнацыональнай тутука мове рускай й французкай і нехай прадаўжаюць яе.

Ведаючы Ваш погляд, што шчырых і здольных людзей трэба сабіраць, а не аткідаць, я далей у гэтым напрамку гаварыць не буду.

Палажэньне змянілася куды у горшую старану. Дзякуючы, безварункова палякам, латышы перэмянілі адносіны да нас. Васількоускаму візы у Рыгу не даюць, на аснове телеграмы Мееровіца паданай тутэйшаму консулу прымерна тыдзень таму назад, як раз у той час калі Васількоускі выезжау з Гельсінфорса, адкуль палякі стараліся не выпусьціць яго. Тэлеграма Мееровіца у перэдачы латышскаго консула, такого зместу Беларускаму Енералу Васількоўскаму уезд у Латвію не разрэшается. Гэто у той час калі у той момэнт ніхто такого уезда яшчэ і не прасіу.

Апрача такого асабіста запрэта енералу Васількоўскаму, які як чалавек с вялікім стажам і імянем, натта не люб палякам і расейскім манархістам латышы на огул адменілі візы на Беларускіх пашпартах. Цяпер па славам консула дзеля таго каб прапусьціць у Латвію беларуса кожны раз у кожным асобным выпадку будзе запрашывацца пазваленьне міністэрства закардоных спраў.

Дыплематычныя нашыя пашпарты так само не прызнаюцца. адным словам справа стаіць так, што нават мяне просто не пусьцяць у Рыгу а будуць раней пытацца пазваленьня міністерства загранічных спраў.

Як бачыце палажэньне цяжкое. Не ведаю ці атрымае за гэто што кольвек Латвія ад Польшчы, но нашай працы пастаулены вялікія перэшкоды.

Калі гэто так, та нам трэба быць яшчэ цьвердзейшым.

З гэтаго боку трэба карыстацца чым толькі можна, абы толькі не умерці.

Па той самай прычыні, калі не легко трымаць зьвязь з Вамі трэба моцна працаваць тутака і у Фінляндыі, тым спосабам які дзеля нас мажлівы.

Прымаючы гэто пад увагу, мы, я, Чэрэпук і Маркевіч цяпер яшчэ больш просім каб ні было атказано ў назначэньні енерала нашым правомочным дыплематычным прэдстауніком у Фінляндыі а саветнікам полкоуніка Эльвенгрэна натта здольнаго чалавека добро знаемаго с нацыональнымі рухамі народау. Ен беларус Мінскай губ.

Калі гэто будзе прынято, та трэба напісаць ім дыплематычныя пашпарты і палнамоцствы і паперу Фінляндскаму Міністру закардоных спраў, апрача гэтаго напішэце енералу палнамоцства на право вядзеня перэгаворау с Эстонскім Урадам у справе аказаньня нам дапамогі па прызнанью незалежнасьці Белар. Н.Р. і атводзе тэрыторыі Беларускаму Ураду Расеяй і на огул аказаньня дапамогі нашаму Ураду

Як у Фінляндыі так і тутака у енерала і палкоуніка многа знаемых якія могуць што кольвек зрабіць.

Дзякуючы таму што енерала у латвію не пускаюць да Вас едзе, па фінляндскаму пашпарту, падауца гэтаго лісту Палкоунік Эльвенгрэн. Ен так само у курсе усіх справау.

Я натта прашу не затрымліваць яго больш аднаго двух дзен. Каб такім чынам даць яму мажлівасьць вярнуцца да маяго ад'езду.

З ім жэ прышлеце мне і усе апошнія інфармацыі.

Канешне нечаго гаварыць аб тым, што справу аб візах Вы парушыце перэд Латвійскім Урадам, бо такое палажэньне есьць немажлівае

Што тутака робіцца і што трэба рабіць палкоунік у курсе і раскажа.

Ужэ за гэты час як Васількоускі так і падауца ліста палкоунік Эльвенгрэн много прынясьлі карысьці нашай справе тым што інфармавалі усіх інастранцау

Полкоунік Вам перэдасьць што гавораць аб нас у Маскве.

Палкоунік і да Вас едзе на свой кошт. Грошай ен не просіць но будце ласкавы добра яго прымеце і дайце усе паперы якія бы аблегчылі іх работу.

Пазваленьня на мой праезд яшчэ нема. Грошы, якія у нас былі, апрача савецкіх, мы уже праелі і дзеля гэтаго трэба падкрэпленіе нас. Трэба так само аставіць грошы і таму хто застанецца тут. Здаецца усе калі чаго недастае дапоуніць палкоунік.

Цалую усіх Васіль

*582.1.45:038&r-038a-038h*

*582.1.45:037a-039b — канвэрт*

[1] Бальшавікам. [2] Бадуновай. [3] Эльвэнгрэнам.

**2203. Ліст Янкі Чарапука (Рэвэль) Вацлаву Ластоўскаму (Рыга) за 21.06.1920**

Дарагі п. Старшыня!

Ад'езд туды зладжыўся не так як нам здавалася!

Прыехаўшы аб нас была паслана тэлеграма, каб Дэлегацыю прапусьцілі адказ быў такі — прыезд Місьіі па вайсковым і стратэгічным прычынам не на часе — ўехаць можэ адзін з іх боку пажаданы быў я — ці Ладноў, дзеля папередніх супольна-інфармацыйных абменаў сваімі думкамі. Прычым паездцы такой асобы прыдаваўся характар тайны і дагэтага прыватны.

Мы звесіўшы ўсё палажэньне пастанавілі адкінуць прапазыцыю іх прыватнасьці, калі яны не зважаюць на нашу урадовасьць — так ім і было заяўлено і адзначано што паедзе адзін толькі Маркевіч ад партыі. Пашоў запрос аб Міхасю атрымлян адказ, што яму можна ўехаць, ён мае ужо пропуск іх і эстонскі таксамо удалося атрымаць, пасля маей гутаркі з Біркам. Так што Міхась аедзе у найхучэйшы час з першым іх цягнікам.

Далей, калі мы справу паставілі востро, што Місія варочаецца назад і адказнасьць за ўсё падае на іх — тагдэ гэта іх спалохало і паслана была другая тэлеграма з указанем, каб справа аб Місіі была перэгледжана. І мы з свайго боку пасылаем Захарко дзеля таго што у яго маецца належны мандат Урадовы і прымаючы пад увагу офіцыяльнае становіщо яго урадовае. Чэкаем адказа пэўне будзе у ваўторак ці серэду, так што яшчэ не адпадае магчымасьць і яго ўезду туды.

Я часова астануся тут, бо усіх жэ не ўпушчаюць. Але буду шукаць першаго прэдлога каб туды папасьць. мажліва што удасцца — так у адзін час станемо ўсе там, як правамочнае цело.

Затым да Вас едзе палкоўнік Энвелгрэн у справе генэрала Васількоўскага — асобы гэтыя зрабілі на міне уражэньне надта добрае. Людзі ві-

даць выдатныя дзяржаўнікі і на першы пагляд шчыра адданыя нашай справе. Старайцяся і Вы выкарыстаць іх.

Пакуль што усяго
найлепшага
Ваш ЯЧэрэпук
21 чэрвеня
панідзелак
*582.1.45:039&r-039a*

**2204. Расьпіска Антона Трэпкі (Менск) за 21.06.1920 аб атрыманьні ад Цэнтральнай Касы Найвышэйшай Рады 37.000 польскіх марак на пакупку тавараў для складаў**
*582.2.56:062*

**2205. Расьпіска Антона Трэпкі (Менск) за 21.06.1920 аб атрыманьні ад Цэнтральнай Касы Найвышэйшай Рады 25.000 польскіх марак на выдаткі Цэнтральнага Беларускага Саюзу Сельскай Гаспадаркі**
*582.2.56:063*

**2206. Ліст старшыні Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі Вацлава Ластоўскага (Рыга) міністру замежных справаў Літоўскай Рэспублікі (Коўна) за 21.06.1920 (вых. №278)**
21 чэрвеня 1920
№278

ЯГО ДАСТОЙНАСЦІ
Пану Міністру Загранічных Спраў
Літоўскай Рэспублікі.-

Пане Міністр!

Мною 17.IV.20 у ноце на імя Ураду Літвы была пададзена пропозыцыя навязаць перэгаворы дзеля падтрыманьня і узмацаваньня добрасуседзкіх адносін між Літвой і Беларусьсю; дагэтуль на маю пропазыцыю я ня меў адповедзі.

Уважаючы, што незалежна ад усякіх перэхадзячых варункоў, Беларусы і Літвіны будуць заўседы суседаваць і, што, ўзаемные нашы добрые адносіны — справа заўседы учасная і важная (бо-ж перэселеньня народаў, прынамні у скорым часе, не правідзіцца), а прычын ўзаемнаго блага адношэньня пакульшто німа, я паноўна звертаюся да Вас прапануючы навязаньне перэгавороў.

Гэто патрэбна тым болей, што Вашы і нашы ворагі мнімай супярэчкай Літоўска-Беларускай арудуюць і стараюцца шкодзіць; буфэр-ж беларускі быў-бы зарукай і самаго трывалаго істнаваньня Літоўскай Рэспублікі, — гэто дзержаўные мужы Літвы павінны уразумець і пайсці на помач нашаму дзержаўнаму будаўніцтву, што дарогай прызнаньня Незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Затым прыміце, пане Міністр, запэўненьне у нашых самых прыязных пачуваньнях.-

В.Ластоўскі
Старшыня Рады Народных Міністроу.

Атповедзь прашу прыслаць па адрасу: Рыга Nicolaj St 20-1 Беларуская Місыя.

*582.2.54:236&r — мк*

**2207. Ліст Ант[она Аўсяніка] (Вільня) Вацлаву Ластоўскаму (Рыга) за 23.06.1920**

[...][1]

Вярнуўшысь да хаты з'ездзіў у М<енск?> зрабіў там даклад, прасіў што трэба было, а таксама пазыку 150 марак. М<енск?> выслухаў з цікавасцью, маракаваў дзен пяць і у канцы канцоў таго што треба было не даў і на дарогу пасуліў толькі 25 марак. Я такой пазыкі не узяў, сказаў пару далікатных але выразных слоў і выехаў да хаты. У рэзультаце пазыка была дадзена у ліку сарака марак і послана праз К<ляўды>ся. Тут гаварыў з К-м, ен прынцыпово выехаць згажаўся аля калі я разпрасіў аб яго ціперашнем матэріальнум становішчы, дык зразумеў, што у гэты час зрываць яго немагчымо, німа чым аплаціць яго працу так, як яна аплачываецца тут. К-сь збіраўся выехаць у скорым часе, а чом я напамінаў яму амаль ні кожны дзень. З прыездам і ад'ездам далекага госця[2] я быў пэвен што К-сь заварушыцца. Тым часам абмыліўся. На кожнае напамінане дакляруе выехаць і сядзіць на месцы. Мае уражэньне вось якое: чалавек прыстроіўся з матэріяльнага боку добро і ціпер ні хоча рызыкаваць каб ні страціць таго, што мае. М<енск?> я паведаміў аб прыезжаўшым госце. Ад Т<эрэшчанка?> атрымаў адказ што робяцца крокі зрабіць тое, што треба і паслаць людзей адпаведных. Тым часам у Менску на нашых знаемых звалілось несчасцьце. Нейкі падлец бальшавік, будучы арыштаваным, абгаварыў Тамаша[3], што быццам ен з гэтым падлецом меў нейкую размову. Ніхто з нашых знаемых ня верыць, каб Т-ш дайшоў да таго, што б захацеў відзецца і нават гаварыць з гэтымі вырадкамі, але што зробішь. Беднага Тамаша хацелі нават разстраляць, стрымаліся дзякуючы хлапотам нашых менчан і нават менскіх П.П.S. Ціперь Тамаш сядзіць. Арыштованы так само Паулінка[4], Б<яль>кевіч і Б<ерд>нік. Ходзяць весткі, што збіраюцца арыштаваць яшче 14 чалавек дзеля чаго усе хто можа уцякаюць. Астатні пасланец у Вільню яшче не вярнуўся. Баюсь што яму не прыдзецца пабачыцца хоць бы з Т. Тут я раблю сякія такія крокі. Калі ня выедзе К-сь, так пастараюсь прыехаць я. Ламаю галаву і на счот высылкі патребных Вам людзей, ня ведаю ці удасцца гэта устроіць бо надто много разных перашкод. Агулам кажучы справа стаіць тут надта дренна. Эн-дэкі нашы[5] паварушыліс да і прысмірэлі. Усе крокі улады паказываюць на тое, што наша пытаньне вырашано у сэнсе інкарпарацыі. Гатуецца дэкрэт аб зямельнай рэформе. Збіраюцца павятовыя сеймікі і т.д. крокі які выразно кажуць на тое, што пытаньне вырашано. Сярод селян самапачуцьце расце: паны працуюць добра: сякуць і страляюць. Ходзяць слухі што у Горадзеншчыне і Віленшчыне не збіраюцца нават рабіць мабілізацыю, а пакуль што перапісываюць набытак дзеля рэквізыцыі. Грунт надто добры, калі-б былі прылады астаноўкі над працаунікамі ня было бы. Патрэбны грошы, грошы і грошы. У горадзе настрой нэрвовый. Улада хоча згаварыцца з жыдамі, а пазнанчыкі стрыгуць бароды. Каб не сядзець злажыўшы рукі мы пачалі выдаваць тыдневую часопісь[6], якую па-

стараюсь перасла́ць з падаўцай гэтага пісьма, калі только згодзіцца узяць. К-сь аб падаўцы гэтага пісьма нічого не гаварыў. Была паказана толькі запіска Костуся. На што ен адказаў што быццам уже выбраны пашпарт. Пакуль што будзе. Разам з гэтым пасылаю пісьма К-ся.

З вялікаю пашанаю
Ант
23/VI 20

Фармаване войск ідзе слаба. Ціпер набрана рота 170 чалавек. На адной весцы пабілі вербоўшчыка за польскія лезунгі. Массавы рух у польскіх вайсках сярод жаунераў і нават афіцераў за пераход у беларускія войскі, аля мусіц не пазволяц пераходзіць.

*582.1.45:045&r-045a&r*

[1] У лісьце няма пачатку. [2] Шарль Мож. [3] Грыба. [4] Мядзёлка. [5] «Нашы эндэкі», «нашы буржуі» — дзеячы, згуртаваныя вакол Найвышэйшай Рады БНР. [6] «Незалежная Думка». Пачала выходзіць 8.06.1920.

**2208. Расьпіска Янука Натусэвіча (Менск) за 23.06.1920 аб атрыманьні ад Цэнтральнай Беларускай Касы 2.833 польскія маркі за нацыянальную працу на Горадзеншчыне**

*582.2.56:065*

**2209. Хадайніцтва Беларускага Цэнтральнага Саюзу Сельскай Гаспадаркі перад Цэнтральнай Касай БНР за 23.06.1920 аб выдачы пазыкі 100.000 польскіх марак на гандлёвыя апэрацыі Саюзу**

*582.2.56:067*

**2210. Расьпіска Антона Трэпкі (Менск) за 23.06.1920 аб атрыманьні ад Цэнтральнай Касы Найвышэйшай Рады пазыку ў 100.000 польскіх марак на выдаткі Цэнтральнага Беларускага Саюзу Сельскай Гаспадаркі**

*582.2.56:066*

**2211. Расьпіска Антона Трэпкі (Менск) за 23.06.1920 аб атрыманьні ад Цэнтральнай Касы Найвышэйшай Рады пазыку ў 15.000 польскіх марак для перадачы Лявону Дубейкоўскаму ў Варшаву**

*582.2.56:068*

**2212. Хадайніцтва Найвышэйшай Рады Беларускай Народнай Рэспублікі перад Цэнтральнай Касай БНР за 23.06.1920 аб выдачы на рукі сябра Рады Аляксандра Ўласава 63.000 польскіх марак для выдачы грошай на прадстаўніцтва сябрам Рады Івану Серадзе, Сымону Раку-Міхайлоўскаму, Язэпу Лёсіку, Аляксандру Ўласаву, Кузьму Цярэшчанку і прадстаўнікам Ураду Аркадзю Смолічу і Вацлаву Іваноўскаму (па 3.000 марак штомесячна, пачынаючы ад 1.04.1920, згодна з пастановаю Рады за 9.05.1920)**

*582.2.56:071*

**2213. Ліст Кляўдуша Душэўскага (Вільня) Вацлаву Ластоўскаму (Рыга) за 24.06.1920**

Яго Міласьці П.С.М. Б.Н.Р.

1. Тамаш з жонкай, Янка Аспаваты, Бэрнік жывуць усе разам і маюць дармовую кватэру[1].

2. Рэшта хочуць прыстроіцца там сама і 14 чал. блукаюцца і не маюць свайго прышынку[2].

3. Я і усе мае сваякі Віленскіе за кватэры покуль што плацім.

4. Шмат нас тужыць па рабоце, але ж работы у Віленскай губ. мала. У Менскай больш.

5. Я зьбіраюся увесь час выехаць у Рыгу у гандлевых справах, ды па незалежных прычынах да апошняга часу ня мог гэтага зрабіць.

6. Цяпер хіба не задоўга Вы мяне угледзіце.

7. Цяпер у Вільні выходзіць белар. газэта тыдневік апрача «Krynicy» ешчэ «Незалежная Думка» скора выйдзе месячнік «Агульная Справа»[3] выд. Саюзу Кооп.

8. Мая бытнасьць тутака у Вільні была карысна для трыманьня на цуглях нашых Найвышэйшых.

9. У Саюзі так сама я быў канешны каб правесьці там усякіе пастановы каторые без мяне праведзены бы не былі.

10. Шмат у чым мяне падвёў Менск. Аспаватаму[4] я казаў прыехаць у Вільню яго затрымалі у Менску цяпер жа, маючы дармовую кватэру ён не захоча ехаць ка мне.

11. Войска Белар. здаецца ўжо не жартам пачало фармавацца.

12. Бядуля прыстае ка мне са сваімі зборнікамі, яны знаходзяцца на Антокалі.

13. Ага забыўся — бальшэвікі арыштавалі і вывязьлі старога Мядзіолку у Глыбокім без ніякай прычыны.

14. Мы пішэм цяпер даклад вялікі аб школах у Віл. і Гор.

15. З Мінску ад Трахіма[5] надходзяць добрые весткі.

16. Не так даўно праехаў тут Шауковы праз Вільню. Мусіць кіруецца да Вас. Я яму нічым памагчы ня мог, бо быў страшэнна заняты.

17. На гэтым покуль што пакончым.

Кляўдуш.

18. Давайце весткі аб сабе. Сяргей[6] здаецца даехаў да дому.

*582.1.45:046&r*

---

[1] Т.Грыб, П.Мядзёлка, Я.Бялькевіч, Я.Берднік сядзяць у турме. [2] Жывуць на нелегальным становішчы. [3] Часапіс так і ня выйшаў. [4] Бялькевічу. [5] Трафімава. [6] Асоба ня выяўленая.

**2214. Расьпіска загадчыка справаў Менскага Пэдагагічнага Інстытуту Віктара Войтэнкі (Менск) за 24.06.1920 аб атрыманьні ад Вацлава Іваноўскага 50.000 польскіх марак для выплаты пэнсіяў служачым і прафэсарам Інстытуту ды на гаспадарчыя выдаткі**

*582.2.56:069*

**2215. Ліст Міколы Вяршыніна (Прага) Пятру Крэчэўскаму (Бэрлін) за 24.06.1920**

Прага 24 VI 20

Вельмі паважаны пане Старшыня!

Пасылаю Вам праект ноты, якую мне здаетца трэба было бы паслаць ці ад правіцельства ці ад Рады Б.Н.Р. калі находзіце гэта патрэбным, то само сабою будзеце перакладываць як ноту, так і дэкрэт на французскі язык, а у той час напішыце мне што нота будзе послана. Тагды я буду перакладываць яе на чэшскую мову, каб хутчэй надрукаваць въ газэтах.-

Дубейкоускі быу у міне у панядзелак[1] а у ауторак паехау да Ведня. Будця ласкавы прышліце мне спісак табарау с рускімі палоннымі у Германіі.-

З щырай пашанай

Ваш Н.Вершин...

Вельмі прашу пана Галавінскаго калі ен будзе звертацца у Прагу каб прывез мне цыгарау па 1м.10пф. з той крамы гдзе мы з ім купплялі — колькі може 50 альбо 100 шт. Можа так разлажыць што не будзе відна (разумеетца калі будуць грошы).

Паклон усім сябрам

Н.Вершин...

*582.2.47:005&r-006 — ра*

[1] 21.06.1920.

**2216. Чарнавік ноты Ўраду БНР (складзенай Міколам Вяршыніным) Канфэрэнцыі Паслоў саюзных дзяржаваў у Булёні або Урадам саюзных дзяржаваў, якія падпісалі Вэрсальскую дамову ў справе парушэньня Польшчаю п.3 арт.87 Вэрсальскае дамовы аб усходніх межах Польшчы**

*582.2.47:001&r-002 — рк*

**2217. Расьпіска Аляксандра Ўласава (Менск) за 25.06.1920 аб атрыманьні ад Вацлава Іваноўскага з Цэнтральнае Касы 63.000 польскіх марак для выплаты пэнсіі сябрам Найвышэйшай Рады (на прадстаўніцтва) за красавік, травень і чэрвень 1920 году**

*582.2.56:070*

**2218. Грамата Рады Народных Міністраў БНР за 25.06.1920 (вых. №285) аб прызначэньні Алега Васількоўскага ваенна-дыпляматычным прадстаўнікам Ураду БНР у Фінляндыі**

... Чэрвеня 1920 г.

ГРАМАТА.

Мы, Урад Беларускай Народнай Рэспублікі, на заседаньні сваім ад 24 чэрвеня г.г., імем Беларускаго Народу прызналі патрэбным паслаць Вас, грамадзяніна Генерала Лейтэнанта Олега Петровіча Корчак-Крыніцу-Васількоўскаго, да Ураду Рэспублікі Фінляндзкай як Ваенна-Дыплематычнаго прэдстаўніка Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі. Ускладаючы на Вас гэты высокі абавязак, мы давераемо і даручаемо Вам вясці усе перэгаворы ў кірунку дасціженьня поўнай Незалежнасці Беларускай Народнай

Рэспублікі і ачышчэньня тэррыторыі Беларусі ад усякіх акупанцкіх войск, а такжэ выступаць ад Нашаго імені на тэррыторыі Фінляндзіі ва ўсіх справах выцекаючых з Вашаго званьня і становішча.

Толькі Вам і асобам Вамі умацаваным, давераемо і даручаемо абарону правоў і інтэрэсоў беларускіх грамадзян на тэррыторыі Рэспублікі Фінляндзкай.

Дзеля выпаўненьня гэтаго надаемо Вам права знасіцца, згодна норм міжнароднаго права і абычаеў, са Усімі Урадовымі Установамі Рэспублікі Фінляндзкай.

Кіруючыся да захаваньня з Рэспублікай Фінляндзкай прыязных і брацкіх адносін, загадываемо Вам прылажыць са сваей стараны усіх высілкоу да захаваньня і умацаваньня гэтых адносін.-

Ластоўскі
Старшыня Рады Народных Міністроу і
заступаючый Міністра Загранічных Спрау.

Вальковіч
Кіраўнік Канц.
*582.2.54:242 — мк*
*582.2.54:259&r — мк*

**2219. Пасьведчаньне Рады Народных Міністраў БНР Паўлу Вэнту за 25.06.1920 (вых. №290)**

Беларуская Народная Рэспубліка
Міністэрства
Міжнародовых Спрау.
25 Чэрвеня 1920 г.
№290

ПАСЬВЕДЧАНЬНЕ.

Гэтым сьведчыцца, што прэдстаунік гэтаго Вайсковы Райца пры Вайскова-Дыплематычнай Місыі Беларускай Народнай Рэспублікі у Эстіі і Латвіі грамадзянін Генеральнага Штабу Генерал-Маёр Павел Федаравіч ВЭНТ упаўнамочан вясці перэгаворы з Урадам Эстіі:

1) аб прызнаньні Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

2) аб прыняцьці пасрэдніцтва Урадам Эстіі ў перэгаворах між Беларускай Народнай Рэспублікай і Расеяй ў справе прызнаньня Незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі і перэдачы Расеяй Беларускай тэррыторыі Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі.

3) аб моральнай і матэрьяльнай дапамозе Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі.

В.Ластоўскі
Старшыня Рады Народных Міністроў і
заступаючый Міністра Загранічных Справ.

А.Вальковіч
Кіраўнік Канцэлярыі.-
*582.2.54:244 — ма*

**2220. Наказ Рады Народных Міністраў БНР (Рыга) Паўлу Вэнту, Алегу Васількоўскаму, Георгію Эльвэнгрэну й Янку Чарапуку за 25.06.1920 (вых. №294)**

Беларуская Народная Рэспубліка
Рада Народных Міністроу.
25 Чэрвеня 1920 г.
№294.

Сэкрэтна.

НАКАЗ

Грамадзянам, Вайсковаму Райцу Вайскова-Дыплематычнай Місыі Бел. Нар. Рэсп. у Эстіі і Латвіі Генеральнаго Штабу Генерал-маеру Павлу ВЕНТУ, Вайскова-Дыплематычнаму прэдстаўніку Б.Н.Р. пры Урадзе Фінляндскай Рэспублікі Генерал Лейтэнанту Алегу КОРЧАК-КРЫНІЦЕ-ВАСІЛЬКОУСКАМУ, Райцу пры пры Вайскова-Дыплематычным прэдстаўніку Б.Н.Р. пры Урадзе Фінляндзкай Рэспублікі палкоўніку Георгію ЭЛЬВЕНГРЭНУ і дэлегату Міністэрства Заграмічных Спраў Б.Н.Р. Івану ЧЭРЭПУКУ.-

Ускладаючы на Вас і давераючы Вам вясці перэгаворы з Эстійскім Урадам, у справах выложеных у Вашых мандатах, падаемо Вам да ведама:

1) У справе прызнаньня Эстіей Незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі: намі на імя Эстійскаго Ураду была паслана 7.IV.20 за №143 грамата с прызнаньнем Незалежнасці Эстійскай Рэспублікі і с просьбай на правох ўзаемнасці даць прызнаньне Бел. Нар. Рэспублікі.-

Трэба гэту справу парушыць перад Урадам Эстійскім і перад Эстійскім Парлямэнтам і дайсці прызнаньня.

2) У справе пасрэдніцтва Эстіі у перэгаворах між Урадам Б.Н.Р. і Урадам Расейскім Вас абавязывае Наказ дадзеный нашай Надзвычайнай Дыплематычнай Місыі у Маскву і самае Вашэ выступленьне павінна сагласавацца і падлегаць нашай Надзвычайнай Дыплематычнай Місыі. Выступленьня Вашы у гэтай справе не павінны разыходзіцца ні з Наказам, ні з тактыкай занятай Надзвычайнай Місыей, а ўсе дакумэнты павінны быць сцьверджены сэкрэтаром Надзвычайнай Місыі Я.ЧЭРЭПУКОМ. Нам пажадана каб Эстійскій Урад прыняўшы на сябе пасрэдніцтво пакінуў у нашых руках ня толькі санкцыю, але і ініцыатыву. Вымагаючы і не адступаючы ад усей этнаграфічна беларускай тэрыторыі занятай цяпер Расейскай оккупацыей, часова можна згодзіцца прыняць ту́ю часць тэрыторыі, якую на гэты раз удасцца вытаргаваць, пры гэтым добра былобы дастаць гор. Вітэбск, а у найгоршым разе Полацак.-

3) Под моральнай і матерьяльнай дапамогай Эстіі разумеем падтрыманьне на міжнароднай політычнай арэне нашай працы скірованай да здабыцьця Дзержаўнай Незалежнасці, адступленьне нам тэрыторыі для вайсковаго фармаваньня, паддзержка у справе прыняцьця нашаго прэдстаўніцтва на Конфэрэнцыю Балтыцкіх Дзержаў, а також, калі гэто магчыма пры цяперашніх варунках, хоць невялікая дзержаўная пазычка на патрэбы Ураду.

Вышей выложэнае Вас абавязывае і просімо яго пілнаваць да атрыманьня новых інструкцый.

В.Ластоўскі
Старшыня Рады Народных Міністроў.
А.Вальковіч
Кіраўнік Канцэлярыі Рады Народных Міністроў.
*582.2.54:235&r — мк*
*582.2.54:237&r — мк*

**2221. Цыркуляр Рады Народных Міністраў БНР (Рыга) сакратару Надзвычайнай Дыпляматычнай Місіі БНР Янку Чарапуку за 25.06.1920 (вых. №296)**

Беларуская Народная Рэспубліка
Рада Народных Міністроу.
25 Чэрвеня 1920 г.
№296.

Цыркулярна.

Сэкрэтару Надзвычайнай Дыплематычнай Місыі
Бел. Нар. Рэспублікі гр. Я.Чэрэпуку. -

Урад даручае Вам даложэныe да гэтаго дакумэнты ўручыць іх адрэсатам, ўзяўшы сперша ад іх Урадовую падпіску на даложеным бланку і захаваць яе у сябе для даручэньня Ураду; узяць ад гр. Васількоўскаго «Curriculum Vitae» і пpaшэньне аб дачэ пасады, а такжэ распіску у атрыманьні дакумэнтаў з іх абазначэньнем.

Мандаты на перэгаворы з Эстіей дадзеные гр. Генералу Васількоўскаму і палкоўніку Эльвенгрэну маюць моц да іх выезду у Фінляндзію; перад выездам, на моцы гэтаго цыркуляру, маеце мандаты ад іх узяць і ануліраваные перэслаць Ураду. Застаюцца на далей мандаты толькі у гр. генерала Вэндта і у Вас.

Перэгаворы з Эстіей павінны вясціся пад загадам Надзвычайнай Місыі і без Вашага подпісу, як сэкрэтара Надзвычайнай Місыі, ні одзін дакумэнт не павінен выхадзіць. Копіі усіх дакумэнтаў абовязаны Вы даручыць Ураду, а также падробны даклад аб ходзе перэгавораў і рэзультатах іх.

Пры гэтым дакладаюцца:

1) Блянк падпіскі на імя грам. Васількоўскаго.

2) Тры пасьведченьня ад 25 чэрвеня 1920 г. за №№ 291, 292 і 293 на імя грам. Васількоўскаго, Эльвенгрэна і Чэрэпука.

3) Сэкрэтны наказ гр. гр. Вэнту, Васількоўскаму, Эльвенгрэну і Чэрэпуку ад 25 чэрвея 1920 г. за №294.

4) Грамата гр. Васількоўскаму ад 25 чэрвеня 1920 г. за №285 і дублікат яе. 5) Папера на імя гр. Васількоўскаго ад 25 чэрвеня за №287.

6) Пакет на імя Міністра Загранічных Спраў Фінляндзіі за №№286 і 289 (У нем паведамленьня аб назначэньні грам. Васількоўскаго і Эльвенгрэна).

7) Пакет на імя Міністра Загранічных Спраў Эстіі за №295, (Змест паперы гэтай прыкладаецца да Вашага ведама).

8) Дыплематычны пашпарт гр. Васількоўскаму ад 25 чэрвеня 1920 г. за №302 мае моц на 6 месяцеў.-

В.Ластоўскі
Старшыня Рады Народных Міністроў.

А.Вальковіч
Кіраўнік Канцэлярыі
*582.2.54:234&r — мк*

**2222. Урадавая падпіска Алега Васількоўскага**

Падпіска.

Я, Генерал-Лейтенант Олег Петровіч Корчак-Крыніца-Васількоускі, даю гэту падпіску, а разам з гэтым, гонарам і суменьнем маім сьведчу, што буду шчыра і сумленна працаваць дзеля адраджэньня і узмацаваньня Беларускай Дзяржаунасьці, буду усюды, ні сіл ні жыцьця сваіх не шкадуючы, бараніць Незалежнасьці і Непадзельнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі; узложэные на мяне службовые павіннасці спауняць буду пільна і акуратна, а службовые і дзяржауные сэкрэты буду заховываць.
*582.2.54:243 — мк*

**2223. Наказ Рады Народных Міністраў БНР (Рыга) Надзвычайнай Дыпляматычнай Місіі БНР у Маскву за ??.06.1920 (вых. №???)**

... Чэрвеня 1920 г.
№....

НАКАЗ
Надзвычайнай Дыплематычнай Місыі
Беларускай Народнай Рэспублікі у Маскву.

1. Дэлегацыя афіцыянальна паведамляе Р.С.Ф.С.Р. аб апавяшчэньні Беларускай Народнай Рэспублікі у межах этнаграфічных.
2. Дэлегацыя навязывае перэгаворы з Р.С.Ф.С.Р. аб прызнаньні незалежнасьці і суверэннасьці Беларускай Народнай Рэспублікі Расеяй.
3. Дэлегацыя гаворыць аб ачыстцы этнаграфічна-беларускай тэррыторыі і аб перэдачы уласьці Ураду Б.Н.Р. на гэных тэррыторыях.
4. Дэлегацыя выясьняе пытаньне аб таваробмене паміж Беларусьсю і Расеяй.
5. Дэлегацыя у пытаньню аб граніцах будзе стаяць на строга этнаграфічных прынцыпе.
6. Дэлегацыя выясьняе пытаньне аб держаунай пазычцы на культурныя патрэбы для Б.Н.Р.
7. Дэлегацыі надаецца права кооптаваць у склад дэлегацыі спецыялістоу і экспертоу з правом дарадчаго голасу.
8. У пытаньнях надзвычайнай дзяржаунай важнасьці дэлегацыя зносіцца з Урадам.
9. Дэлегацыя становіць цело колегіальнае.
10. Дэлегацыя мае печатку з надпісам «Беларуская Народная Рэспубліка. Надзвычайная Дыплематычная Місыя у Маскву».

В.Ластоўскі
Старшыня Рады Народных Міністроу і
заступаючый Міністра Загранічных Спрау.

А.Вальковіч
Кіраўнік Канцэлярыі Рады Міністроў.
*582.2.54:246 — мк*

Дакладная дата невядомая.

**2224. Статыстычныя зьвесткі аб прадукцыі збожжа ў беларускіх губэрнях Расейскай імпэрыі за 1913 год**
*582.2.54:247-251 — р*

Дата невядомая.

**2225. Расьпіска Сьцяпана Некрашэвіча (Менск) за 26.06.1920 аб атрыманьні ад Вацлава Іваноўскага 20.000 польскіх марак на выдавецкія выдаткі**
*582.2.56:076*

**2226. Квіт паштовага пераказу Вацлава Іваноўскага (Менск) Францішку Ўмястоўскаму (Вільня) за 26.06.1920 на 25.000 польскіх марак на патрэбы Віленскай Школьнай Рады**
*582.2.56:077*

**2227. Расьпіска Вацлава Іваноўскага (Менск) за 26.06.1920 аб узяцьці з касы 100 польскіх марак на выдаткі па перасылцы грошай Францішку Ўмястоўскаму**
*582.2.56:078*

**2228. Палута Бадунова. Успаміны аб маім каханьні. Кемэрн[1], 27-28.06.1920**

Кемэрн. 27 чэрвеня 1920 г.

Ўспаміны аб маім каханьні.

Не ўспаміны мне хочэцца пісаць, а цяжкую безумную тугу маю апісываць. Тугу аб той вялізарнай нясбыўшайся любві маей, якая ужо трэці год пячэ, як вагнем сэрца мае.

Ня хочу я добрых але лішніх слоў гаварыць тутака. Але хочу праўдзіва заглянуць у душу маю і мо (хто ведае сэрца свае, яго глубіны і ізвіліны) сказаць яму — ўсе забудзь, застынь, закамяней!

Нема слоў для таго, каб апісаць тую страшэную унутрэньняю барадзьбу, якая вядзецца ва мне дзень і ноччу, і тады калі вяду сур'езную справу і тады калі проста жыву, як звычайная кабета, сярод чужых, незнаемых людзей.

Гэта каханьне не есть простае каханьне, нанесеннае так сабе выпадкова нейкім ветрам. У гэтым каханьні было ўсе, што паказвае яго неміну-

Як живе , т. Полута? Тут ее чекают Дамы, да яких она написала лист! Абецали ёй полную паддержку.

Привѣт и пашана т. Палутѣ.

Привѣт от Друзей
Поклон Гладкому, Вальковичу и всѣм нашим.
Найлучшія пожеланія Пани Старшиновой и всѣм нашим Дамам!

О полученіи моих писем от 12/VII и 27/VII прошу телеграфировать.
*582.1.45:058&r-058a*

---

[1] Ладноў падазраваў Крэчэўскага ў супрацоўніцтве зь немцамі. Загадкавыя намёкі на гэта раскіданыя па ўсім лісьце, для іх пракамэнтаваньня не стае матэрыялу. [2] Г. зн. зь немцамі. [3] Вэнта. [4] Езавітава. [5] Бадунову.

**2295. Папраўкі й дапаўненьні да закону Літоўскай Рэспублікі аб зямельнай арэндзе за 27.07.1920**
*582.1.46:058 — д*

**2296. Расьпіска Францішка Ўмястоўскага (Варшава) за 27.07.1920 аб атрыманьні ад Цэнтральнай Касы праз Вацлава Іваноўскага 1.500 польскіх марак у зварот коштаў эвакуацыі зь Вільні**
*582.2.56:110*

**2297. Грамата Рады Народных Міністраў БНР за 29.07.1920 (вых. №370) аб даручэньні Кастусю Езавітаву ўступіць у перамовы з Урадам Літвы аб прызнаньні незалежнасьці Беларусі**

Беларуская Народная Рэспубліка
Рада Народных Міністроу.
29 Ліпня 1920
№370

Грамата.

Мы, Урад Беларускай Народнай Рэспублікі, іменем Беларускаго Народу упоўнамочываем Старшыню нашай дэлегацыі ў Літву грамадзяніна Константына ЕЗОВІТОВА вайсьці ў перэгаворы з Урадам Літоўскай Рэспублікі аб прызнаньні Літвой Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі і па ўсіх пытаньнях выцекаючых з факту прызнаньня.

В.Ластоўскі
Старшыня Рады Народных Міністроу і
заступаючы Міністра Міжнародовых Спрау.

А.Валковіч
Кіраўнік Канцэлярыі Рады Народных Міністроу.
*582.2.54:276 — ма бел*
*582.2.54:277 — ма фра*

**2298. Грамата Рады Народных Міністраў БНР за 29.07.1920 (вых. №371) аб даручэньні Аляксандру Галавінскаму ўступіць у перамовы з Урадам Літвы аб прызнаньні незалежнасьці Беларусі**

Беларуская Народная Рэспубліка
Рада Народных Міністроу.
29 Ліпня 1920
№371

Грамата.

Мы, Урад Беларускай Народнай Рэспублікі, іменем Беларускаго Народу упоўнамачываем сябра нашай дэлегацыі ў Літву грамадзяніна А.ГОЛОВІНСКАГО вайсьці ў перэгаворы з Урадам Літоўскай Рэспублікі аб прызнаньні Літвой Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі і па ўсіх пытаньнях выцекаючых з факту прызнаньня.

В.Ластоўскі
Старшыня Рады Народных Міністроу і
заступаючы Міністра Міжнародовых Спрау.

А.Вальковіч
Кіраўнік Канцэлярыі Рады Народных Міністроу.
*582.2.54:274 — ма бел*
*582.2.54:275 — ма фра*

**2299. Грамата Рады Народных Міністраў БНР за 29.07.1920 (вых. №372) аб даручэньні Кастусю Езавітаву зрабіць і атрымаць ад Ураду Літвы пазыку для Ўраду БНР**

Беларуская Народная Рэспубліка
Рада Народных Міністроу.
29 Ліпня 1920
№372

Грамата.

Мы, Урад Беларускай Народнай Рэспублікі, іменем Беларускаго Народу загадалі і даверылі Старшыне Нашай дэлегацыі у Літву грамадзяніну Константыну Барысовічу ЕЗОВІТОВУ, зрабіць ад імені Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі грашовую пазыку у Літоўскай Рэспубліцы на варунках і ў суме яму намі паказаных і азначаную пазыку атрымаць для перэдачы Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі.

В.Ластоўскі
Старшыня Рады Народных Міністроу і
заступаючы Міністра Фінансоу.

А.Вальковіч
Кіраўнік Канцэлярыі Рады Народных Міністроу.
*582.2.54:272 — ма бел*
*582.2.54:273 — ма фра*

**2300. Ліст Рады Народных Міністраў БНР (Рыга) міністру замежных справаў Літоўскай Рэспублікі (Коўна) за 29.07.1920 (вых. №373) з паведамленьнем аб пасылцы дэлегацыі дзеля вядзеньня перамоваў з Урадам Літвы аб прызнаньні незалежнасьці Беларусі**

Беларуская Народная Рэспубліка
Міністэрства Міжнародовых Спраў.
29 Ліпня 1920 г.
№373

Грамадзяніну Міністру Міжнародовых Спраў
Літоўскай Рэспубліцы

Грамадзянін Міністэр,

Урад Беларускай Народнай Рэспублікі маючы на мэце узмацаваньня добрасуседскіх адносін Беларускай Народнай Рэспублікі і Літоўскай Рэспублікі пасылае у Літву дэлегацыю у складзе гр.гр. Езовітова, Трахімова і А.Головінскаго дзеля уступленьня у перэгаворы з Урадам Літоўскай Рэспублікі аб прызнаньні Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі і справах выцекаючых з факту прызнаньня.

Прыміце, Грамадзянін Міністэр, запэўненьня у глыбокай да Вас пашане.

Ластоўскі
Старшыня Рады Народных Міністроў і
заступаючы Міністра міжнародовых Спраў.

*582.2.54:270 — мк бел*
*582.2.54:271 — мк фра*

**2301. Пасьведчаньне Рады Народных Міністраў БНР Янку Чарапуку за 29.07.1920 (вых. №374) аб тым, што ён сапраўды прадстаўляе Урад БНР на Канфэрэнцыі Балтыцкіх Дзяржаваў у Рызе**

Беларуская Народная Рэспубліка
Рада Народных Міністроў.
29 Ліпня 1920
№374

ПАСЬВЕДЧЭНЬНЕ.

Гэтым сьведчыцца, што грамадзянін Янка Антоновіч ЧЭРЭПУК з'яуляецца прэдстаўнікам Беларускай Народнай Рэспублікі на маючуюся адбыцца у м. Рызе Канферэнцыю Прыбалтыцкіх Дзяржаў.

В.Ластоўскі
Старшыня Рады Народных Міністроў і
заступаючы Міністра Міжнародовых Спраў.

А.Валькові
Кіраўнік Канцэлярыі Рады Народных Міністроў.

*582.2.54:279 — ма бел*
*582.2.54:278 — ма фра*

**2302. Мэмарандум Ураду БНР за 29.07.1920 (вых. №377) Прэзыдыюму Канфэрэнцыі Балтыцкіх Дзяржаваў у Рызе з просьбаю ўключыць дэлегацыю БНР у склад канфэрэнцыі як раўнапраўнага ўдзельніка**

Беларуская Народная Рэспубліка
Міністэрства Міжнародовых Спраў.
29 Ліпня 1920 г.
№377.

У Прэзыдыум Канфэрэнцыі Балтыцкіх Дзержау у м. Рызе.

На адбыушайся мінуушага году у Гэльсінгфорсе Канфэрэнцыі Прыбалтыцкіх дзержау на жаль Беларуская Народная Рэспубліка прэдстаулена не была.

Каб папоуніць гэтае упушчэньне на бягучую Канфэрэнцыю у Рызе, участнікамі якой яуляецца Фінляндзія, Эстонія, Латвія, Літва, Украіна і Польшча, Урад Беларускай Народнай Рэспублікі пасылае сваю дэлегацыю.

Канфэрэнцыі прыдзецца закрануць, абсудзіць і развязаць рад пытаньняу політычнага і эконамічнага характэру, абнімаючага жыцце усей Прыбалтыкі.

Пад гэтым паняцьцем трэба разумець ня толькі тэрыторыі безпасярэдна прылегаючыя да Балтыцкага мора, але тэрыторыі арганічна з імі звязаныя і становячыя с прыбярэжнай паласой адно эканамічнае цэлае.

Тэрыторыя Беларускай Народнай Рэспублікі уліваючая буйнейшыя рэкі Балтыцкага мора, звязаная с Прыбалтыкай радам жалезнадарожных ліній, вытвараючая і экспартуючая мільены пудоу штогодна сырья, зерна, лесу, лену безварункова павінна ухадзіць у склад паняція Балтыкі як адна з буйнейшых яе адзінак. Мала таго рэкі і дарогі ня толькі звязываюць Беларусь з Балтыкай, але побоч з гэтым сама Беларусь яуляецца звязываючым звяном між Балтыцкімі і Чорнаморска-Кауказкімі і заходнымі маладымі рэспублікамі.

Вышэй прыведеныя даводы прымушаюць Урад Беларускай Народнай Рэспублікі цікавіцца работамі Канфэрэнцыі Балтыцкіх дзержау у Рызе і паслаць туды для учасьцьця у гэтых работах сваю дэлегацыю.

Атсутнасьць па тэй ці іншай прычыне Беларусі у радах маладых рэспублік нарушае ня толькі прынцып самаазначэньня народау, але з гэтым бурыць звязь і руйнуе гармонійную эканамічную цэласьць і магчыма падрывае нават палітычную іх моц.

Выкладаючы вышэйсказанае Урад Беларускай Народнай Рэспублікі просіць уключыць яго дэлегацыю у склад Канфэрэнцыі як раунапраунага участніка.-

Арыгінал падпісалі:

В.Ластоускі, Старшыня Рады Народных Міністрау і
заступаючы Міністра Міжнарадовых Спрау.

А.Вальковіч, Кіраунік Канцэлярыі.

З арыгіналам згодна: М.Севасьцьянюк
За Кірауніка Канцэлярыі Рады Народных Міністрау.
*582.1.07:035 — шк бел*
*582.1.07:050 — шк бел*
*582.2.51:140 — шк бел*

**2303. Ліст шэфа Вайскова-Дыпляматычнай Місіі БНР у Латвіі й Эстоніі Кастуся Езавітава (Рыга) міністру замежных справаў Эстонскай Рэспублікі (Рэвэль) за 29.07.1920 (вых. №704) з просьбай даць**

**указаньні эстонскай дэлегацыі на Канфэрэнцыі Балтыйскіх Дзяржаваў у Рызе аб падтрымцы патрабаваньня беларускай дэлегацыі аб яе ўдзеле ў Канфэрэнцыі**

*582.2.54:280&r — мк*

---

На лісьце рэзалюцыя В.Ластоўскага: «Разаслана усім дзержавам, прыймаючым учасцьце у Конфэрэнцыі. ВЛ.»

**2304. Ліст генэрал-лейтэнанта Алега Корчак-Крыніцы-Васількоўскага (Рэвэль) Вацлаву Ластоўскаму (Рыга) за 30.07.1920 аб бягучых справах**

*582.1.45:066-066а*

**2305. Ліст «Змаганіка» [Антона Аўсяніка] (Коўна) Вацлаву Ластоўскаму (Рыга) за 31.07.1920**

Даражэнькія товарышы!

1) Наложанае на мяне даручэньне я ужо выпоўніў. Перадаў сваю верыцільную грамоту. Адтрымаў згоду на офіцыяльныя размовы. Казаў з Др Пурыцкім, Прэмьером Грынюс, Старшыней Уст. Сойму Стульгінскім, лідэрамі фракцыяў: хрысьціян-демакратоў Крупавичинскім, с.д. проф. Чапінскім і Віце-прэзэсом Іностр. Комісіі — проф. Юргутісом. Ад усіх чуў толькі вельмі прыхільные думкі. Так, Др Пурыцкі кажа што іх ўласны інтэрэс прымушае нас падтрымліваць, што пытаньне аб вызнаньні незалежнасьці de-facto можліво і провесьці, але ён лічыць што гэтае нам мало паможа, трэба гаварыць з усходнікамі[1]. Арганізацыя прыстаўніцтва вельмі пажадана. Наагул быў вельмі любезен і адзыўчіу. Далей Прэмьер — доўга пытаўся як стаіць наша справа наагул, якія мы маем групы і затым заявіу, што яны заусегды, а зараз асабліво гатовы падтрымліваць нас. Толькі ня ведаюць што ж мы желалі б. Пытаньне аб вызнаньні незалежнасьці — вызвало заяву аналагічную заяве М.З.С., але на рэшці сказаў, што гэтае для яго ново, і што калі гэта будзе нам вельмі карыстно і не пашкодзіць ратыфікацыі мірнаго договора, то яны вельмі ахвотна вызнаюць. Арганізацыя прэдстаўніцтва мажліва, наконт пазыкі прынцыпіально згодзен, але зараз фінансоў мала. Мобілізацыя, адміністрацыя у новых тэрыторыях. Найболей адзыучывымі былі Крупавіцкі і Юргутіс. Оба яны заявілі, што іх партыя зауседы гатова нас падтрымаць і морально і матэрыяльна. Што яны вельмі рады, што маюць можлівосьць аснавацельно поговорыць, што політыка Вольдемаруса[2] ім і тк немало клопот наробіла. Толькі зараз крута справа з грошьмі. Але усе ж паглядяць. Далей с.д. Чапінскі сказаў, што іх метай — самаадзначэньня народу, у тым ліку і беларускаго і што яны лічуць подтрыманьня Беларусіі цяпер першай справай. У іх істнавала думка, што у Б-іі моцны російк. уплывы і што мы толькі аванпост російск. уплывоў і т.д. але яны бачуць, што сярод нас ёсьць і моцнае ядро шчырых нацыаналістоў і праз гэто вельмі жадалі б нам помагчы. Ен і член комісіі па іностр. делам. Усе нашы дамаганьня, у тым ліку і учасьце у Балтыйск. конф. готовы падтрымаць. А грашах тут не гаварыў.

Прэзэдэнт Стульгінскі відімо мало асведомлен аб нашай справе. Але тк само абіцаў падтрымаць.

Як бачыце пакуль усе добра. І мне кажецца што усе нашы непаразуменьня вынікалі голоуным чыном ад адсутнасьці спакойных узаемных размоў і спрэчэк із-за Вільны. С.д. кажуць, што захват літоўцамі нашых зямель яны не падтрымліваюць і готовы голосоваць за отдачу Ліды, Ашмян, нават і Гродны нам. Вільна — спрэчны пункт.

Аб лесах усе зьдівілісь і чуюць сябе ня добра. Быў яшчэ у Семашко. Ен аказаўся найболее рьяным у абороне інтэрэсоў Літвы, чымся іншые. Але право усяго ж не передать. І я лічу што з Літвой можна добра жыць.

Да яшчэ вось што. Чапінскі сказаў што яны стаяць за моцны саюз усіх адрадзіушыхся Дзяржау з сучаснай Польшай. Я адказаў, што трэба добра гэта абмерковаць, каб яна як узмацуецца зноў не пачала б глотаць, што трэба б было пакуль почэкаць.

2) Аб Менску ні дзе, а ні якіх вестак нема. У Вільні гаспадараць большавікі. Там кажуць ужо і Капсукас. Кажуць што действуюць ад імя Літ-Бела ня ведаю яшчэ наколькі прауда. Семашко казаў, што ен чуў што быццым Луцкевіч арэстован быў, але затым выпушчан[3]. Ніхто адтуль сюды ня едзе. Быў тут з Гродны от. Корчынскі . Ен мае на меці цяпэр працаваць. Кажэць што нашы там працуюць. Там Баран, Дзекуць і інш. Ен быў там ужо пры большавіках.

3) Сеньня прыехау сюды Гловінскі[4]. Я аб прыездзе яго тэлеграфіроваў ужо адсюль ды і пісаў Крычэускому. Аб усім гэтым разскажа подауца гэтаго. Ніхай хутчэй едзе сюды не поздней понядзелка. Аб дне выездзе яго тэлеграфуйце зараз ж.

4) У Вільню выехаць трудно. Пропуска не даюць, частных подвод пакуль нема. Нехай Палута едзе прамо на Дзьвінск з Нікіціным. Я не кідаю надзеі адтрымаць пропуск і проехацца туды даведацца або усім. Я ліччу што там я зараз многа больш пользы зраблю чымся тутака. Помніце гэта і не затрымлівайце мяне.

5) Ня ведаю што рабіць у кішэні 200 марок... На маі мізэрныя грошы прышлось яшчэ падтрымліваць Пігулеускаго. Вось трэба заплаціць за номер 120-130 м. і што далей робіць ня ведаю. Гловінскі прыехаў з 600 м. у кішэні. Трэба як нібудзь разшукаць хоць 500 м. Можа з консульства достануць. Спадзеваюсь, што як небудзь падтрымаеце.

6) Я напісау у Горадню Барану аб усім.

7) З с-р бачыуся, але яны нічога ня ведаюць і разочарованы. Усходнікі у Вільні з імі ня лічацца. На конфэрэнцію згодны і чэкаюць дня і мейсца.

8) Ніхай Козячый почэкае яшчэ пакуль што у Рызе.

9) Кажысь палякі будуць мірыцца з большавікамі трэба нам не ўпусьціць момента.

Кажысь што не допісаў пытайце Пігулеўскаго. Ен усе ведае. Чэкаем Вашых вестак. Калі хочыцца рэальнай працы з Літвой хутчэй высылайце Езавітава.

Усім прывет

Змаганік

P.S. Дайце прачытаць Власту, Палуте, Вальке, Козячему.
31/VII 20 г.
*582.1.45:054&r-054a-054d*

[1] Бальшавікамі. [2] Аўгустынас Вальдэмарас — лідэр праванкансэрватыўнай Партыі Прагрэсу (Пажанга), да чэрвеня 1920 міністар замежных справаў, пасьля сфармаваньня 23.06.1920 коаліцыйнага ўраду Грынюса — у непрымірымай апазыцыі. [3] У ліпені 1920 году А.Луцкевіч быў арыштаваны бальшавікамі (былі ў Вільні ад 14.07 да 27.08.1920). Гл.: Пагоня. №2. 5.08.1920. [4] Галавінскі (прыехаў з Бэрліну). [5] 2.08.1920.

**2306. Тэлеграма Аляксандра Галавінскага (Коўна) Пятру Крэчэўскаму (Бэрлін) за 31.07.1920 і адказ Пятра Крэчэўскага**

berlin motzstrasse 21, kretschewskamu

660/31 kowno 40 14 23 31/7 13 52 =

= pryjechau blahopolutschno ahulnym napramlam zhodny liczac whenskija awansy szkodnymi najwyszejszyja zdojucca vlastu autorak pryjezdzaje pounamoczyjami kostus z rewela = ales +

Kowno Wilkomirskaja 41b Galawinskamu
Paszyrajcie zhodu z usimi chwaroba projdzie[1] na hetym tydnju.
Piotra
*582.2.47:030 — a*

[1] Паводле прынятай крыптаграфіі: зьявяцца грошы.

**2307. Ліст старшыні Рады Народных Міністраў БНР Вацлава Ластоўскага (Рыга) шэфу Вайскова-Дыпляматычнай Місіі БНР у Латвіі й Эстоніі Кастусю Езавітаву (Рыга) за 31.07.1920 (вых. №382)**

Беларуская Народная Рэспубліка
Рада Народных Міністроу.
31 Ліпня 1920
№382

Шэфу Вайскова-Дыплематычнай Місыі
у Латвіі і Эстоніі грамадз. Палкоуніку
К.Б.ЕЗАВІТАВУ

Паважаны Грамадзянін,

карыстаючыся нададзеным мне пастановай Прэзыдіуму Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ад 6 чэрвеня 1920 году правам, прапаную Вам узяць на сабе пасаду і абавязкі Дзяржаунага Сэкрэтара Беларускай Народнай Рэспублікі.

Прыміце, Грамадзянін, запэуненьня у шчырай да Вас пашане.

Ластоўскі
Старшыня Рады Народных Міністроу
Беларускай Народнай Рэспублікі.
*582.2.54:264 — мк*

**2308. Ліст старшыні Рады Народных Міністраў БНР Вацлава Ластоўскага (Рыга) кіраўніку Канцылярыі Рады Народных Міністраў Аляксандру Вальковічу (Рыга) за 31.07.1920 (вых. №383)**

Беларуская Народная Рэспубліка
Рада Народных Міністроу.
31 Ліпня 1920
№383

Кірауніку Канцэлярыі рады Народных
Міністроу Грамадзяніну А.І.ВАЛЬКОВІЧУ.

Паважаны Грамадзянін,

карыстаючыся нададзеным мне пастановай Прэзыдіума Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ад 6 чэрвеня 1920 году правам, прапаную Вам узяць на сабе Пасаду і Абавязкі Міністра Фінансау Беларускай Народнай Рэспублікі.

Прыміце, Грамадзянін, запэуненьне у шчырай да Вас пашане.

Ластоўскі
Старшыня Рады Народных Міністроу.

*582.2.54:263 — мк*

**2309. Дэкларацыя аб абвяшчэньні незалежнасьці Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусі за 31.07.1920**

*582.2.54:344&r — мк*

---

На дэкларацыі прыпіска К.Езавітава:

«З арыгіналам, надрукаваным ў газэце «Савецкая Беларусь» №17 ад 31 іюля 1920 года, — згодна. Усе беларускія партыі, апрача беларускіх камуністаў, адмовіліся падпісываць гэту дэкларацыю і апратэставалі яе.

Езавітаў».

**2310. Чарнавікі тэлеграмаў Вацлава Ластоўскага за ?.08.1920**

Koŭna
Wilkomirskae szosse 41b
Trachimavu
Ministerstwo wizie pieraškod nijakich nie maje ale s Koŭny nichto nie pytaŭsia Zrabicie kroki

Rewiel
Załaty Lew
Jezowitow
~~Czerepuk~~
~~Pieraškod nie maju Asobu naradzimsia Ryzie Dzie Wasil~~.
Wlast

Pieraszkod nie maju ~~Asobu naradzimsia Ryzie~~ Zaručyciesia aficyalnaj pierapiskaj Asobu naradzimsia Ryzie Dzie Wasil
Wlast
telegrafna zwaziciesia najwyszejszymi

*582.1.45:060*

---

Дакладная дата невядомая.

**2311. Тэлеграмма Міхася Маркевіча (Менск) за ?.08.1920**

Сообщаю следующее: ввиду того, что партія[1] стоит за диктатуру пролетаріата и за власть советовъ признана легализованной и можем работать наравне с другими советскими партіями. Декларирована Независимость Белорусской Соціалистической Советской Республики. Окончательное рѣшеніе будетъ вынесено на съѣздѣ совѣтовъ. Всѣбѣлорусскій Ревкомъ составленъ изъ представителей партій: литбѣлорусской коммунистической два, военныхъ одинъ, партіи поалей ціонъ одинъ, бѣлорусскихъ организацій одинъ. Вопросъ о переѣздѣ товарищей мною поднимался. Список представленъ Предгубревком Минска. Кандидатомъ въ Ревкомъ выставленъ тов. Трофимовъ. Настроеніе съ приходомъ красныхъ войскъ на мѣстахъ очень хорошее. Идетъ работа организаціонная, очень хорошо. Я ожидаю визы скоро думаю выехать Ревель Ригу откуда назадъ Минск. — Маркевичъ. №2146

*582.1.45:068*

Дакладная дата невядомая. [1] Беларускіх эсэраў.

**2312. Нота пратэсту Рады Народных Міністраў БНР (Рыга) Урадам Савецкай Расеі, Літвы, Мірнай Канфэрэнцыі ў Парыжы, усім дзяржавам і цывілізаваным нацыям сьвету за ??.08.1920 (вых. №???) з нагоды падпісаньня мірнае дамовы паміж Літвой і Савецкай Расеяй 12.07.1920**

Aux Gouvernements de la Russie de Soviets, de Lithuanie, à la Conférence de la Paix à Paris et à toutes Puissances et Nations civilisées du Monde.

Le Gouvernement de la République Démocratique Blanche-Ruthénienne défendant les interêts du Peuple Blanc-Ruthénien exprime le protêt le plus énergique contre les conditions de la paix, faite entre la Russie de Soviets et la Lithuanie, parce que cettes conditions violent d'une manière la plus brusque les droits nationals, économiques et souverains du Peuple Blanc-Ruthénien:

1, la paix est conclue au détriment des territoires historiques et ethnographiques de la Ruthénie-Blanche avec les villes Vilna et Grodno, qui sont transmises par la Russie de Soviets à Lithuanie.

2, on a laissé arriver le partage pillard non seulement des territoires mais de même des richesses nationales blanches-ruthéniennes, comme la transmission pour l'exploitation par la Russie de Soviets à Lithuanie des richesses forestières de la Ruthénie-Blanche n'appartenant pas à la Russie de Soviets.

Ce traité violant les interêts de la Ruthénie-Blanche, ne peut pas être et ne sera jamais reconnu par le Peuple Blanc-Ruthénien. Le Peuple Blanc-Ruthénien combattra avec tous les moyens possibles contre l'injustice criante de ce traité.

Au nom du Peuple Blanc-Ruthénien, aux interêts de l'Humanité, de la Justice et de la Paix, nous demandons la revision immédiate des conditions du traité susdit et la reconnaissance de la souveraineté et de l'independence politique du Peuple Blanc-Ruthénien dans ses limites ethnographiques conformément à sa volonté.

Nous demandons de même à résoudre l'appartenance de l'état de la Zone Blanche-Ruthénienne—Lithuanienne en contestation par le libre plébiscite.

Président du Conseil des Ministres
et remplaçant du Ministre des Affaires Etrangères

Gérant de la Chancellerie
du Conseil des Ministres
*582.2.54:266&r-267&r — р фра*
*582.2.54:290&r — мк*

Дакладная дата невядомая (да 3.08.1920).

**2313. Блянк Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі**
*582.2.54:316 — д*
*582.2.54:409 — д*
*582.2.54:457 — д*
*582.2.54:484 — д*
*582.2.54:529 — д*

Дата невядомая. Выкарыстаны дзеля абкладак паасобных месяцаў у папцы 582.2.54 (дакумэнты Рады Народных Міністраў БНР за 1920 год).

**2314. Мэмарандум Ураду БНР за 1.08.1920 (вых. №387) міністрам замежных справаў Польшчы, Фінляндыі, Эстоніі, Латвіі й Літвы з просьбаю ўключыць дэлегацыю БНР у склад канфэрэнцыі**

Беларуская
Народная Рэспубліка
Міністэрства
Міжнарадовых Спраў.
1 Жніуня 1920 г.
№387

Іх Міласьцям Паважаным Міністрам
Міжнарадовых Спраў Польскай Рэчыпосполітой,
Фінляндзіі, Эстіі, Латвіі і Літвы.

Паважаны Пане,

Па даручэньню Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі, маю гонар зьвярнуцца да Вас з ніжэйзложаным:

У жніуню гэтаго году у м. Рызе мае адбыцца канферэнцыя маладых Балтыцкіх Рэспублік. У склад сяброу гэтай канферэнцыі, як роунапраўные учасьнікі залічаны: Польшча, Фінляндзія, Эстонія, Латвія і Літва. Канферэнцыі прыдзецца закрануць, абгаварыць і разьвязаць цэлы рад пытаньняу палітычнага і экономічнага характэру, абнімаючага жыцьце усей Прыбалтыкі. Пад гэтым паняцьцем трэба разумець ня толькі тэрыторыі безпасярэдна прылегаючыя да Балтыцкага мора, але і тэрыторыі арганічна з ім звязаныя і становячыя з прыбярэжнай паласой адно эканамічнае, геаграфічнае і гістарычна-палітычнае цэлае.

Тэрыторія Беларускай Народнай Рэспублікі уліваючая буйнейшыя рэкі Балтыцкага мора, зьвязаная з Прыбалтыкай радам жалезнадарожных лініяу, вытвараючая, апрацовываючая і экспартуючая, у вельмі значным ліку, тое-ж самае сырье, што і Прыбалтыка главуным чынам лес і лен, — безварункова павінна лічыцца дзержавай Балтыцкай і уходзіць у склад паняцця

Балтыкі, як адна з буйнейшых яе адзінак. І праудзіва, гісторыя экономічнага і палітычнага жыцьця Беларусі перэканае лічнымі статыстычнымі творамі і гістарычнымі помнікамі даводзіць праудзівасьць гэтага становішча.

Геаграфічнае становішча Беларусі, яе вадзяныя, грунтавыя і жалезнадарожныя шляхі ня толькі звязываюць Беларусь з Прыбалтыкай, але побоч з гэтым сама Беларусь з'яуляецца звязываючым звяном між групай Балтыцкіх і Чорнаморска-Кауказкіх маладых рэспублік з аднаго боку, і між трох Прыбалтыцкіх рэспублік і Польшчай, з другога. Выхад, па тым ці іншым варункам, Беларусі з радоу маладых рэспублік бурыць ня толькі безпасярэдную звязь іх доугага ланцуга, але падрывае э к а н а м і ч н у ю і в а й с к о в у ю іх моц.

Вышэйпрыведзеныя довады прымушаюць Урад Беларусі цікавіцца працай Канфэрэнцыі Балтыцкіх Рэспублік у Рызе і пасланць туды дзеля учасьцьця у гэтай працы асобную дэлегацыю. На жаль, на адбыушайся у Гэльсінгфорсе аналегічнай канфэрэнцыі Беларусь прэдстаулена не была і дзеля гэтага на канфэрэнцыі можа падняцца пытаньне як аб самым дапушчэньні ці недапушчэньні Беларускай дэлегацыі да працы канфэрэнцыі, дык і аб тым у якой форме гэтае учасьцьце можа выявіцца.

Зварочываючы увагу на магчымасьць таго, што пры абгаворах пытаньня аб Беларускай дэлегацыі, дэлегацыі участвуючых у канфэрэнцыі рэспублік ня будуць мець прызначаных па гэтаму пытаньню інструкцыяу сваіх Урадоу, Урад Беларускай Народнай Рэспублікі зварачываецца да Урадоу усіх участвуючых у канфэрэнцыі Рэспублік, з прозьбай даць сваім дэлегацыям указаньня у тым сэнсі, што учасьцьце Беларусі, як роунапраунага сябра пажадана на гэтай канфэрэнцыі.

Выкладаючы выжэйзложанае Ураду Польскай Рэчыпоспалітой, Урад Беларускай Народнай Рэспублікі просіць зрабіць ад'езджаючай у Рыгу на канфэрэнцыю Польскай Дэлегацыі указаньня да падтрыманьня жаданьня Беларускаго Народу мець на канфэрэнцыі Балтыцкіх Рэспублік свае роунапраунае прэдстауніцтво і роунапрауны голас.

Прыміце, Паважаны Пане Міністру, запэуненьня у глыбокай да Вас пашане.

Старшыня Рады Народных Міністроу і
заступаючы Міністра Міжнародовых Спрау.

*582.1.07:036-037 — шк бел*
*582.1.07:051 — шк бел (с1)*
*582.1.07:052-053 — шк бел*
*582.2.51:141-142 — шк бел*
*582.2.54:315&r — мк бел*

**2315. Ліст Вацлава Ластоўскага (Рыга) Лявону Зайцу (Бэрлін) за 2.08.1920**

Высокапаважаны Грамадзянін Л.Заяц!

Бягучы політычны момэнт, калі беларускае пытаньне становіцца папраўдзі актуальным, вымагае з нашай стараны ня толькі найбольшых высілкоў, але також і арганізованнасці. З гэтай мэтай мной учынены некаторые крокі да таго, каб 1) сабраць Урад і Прэзыдыум Рады у адно мейсцо

і 2) каб нашы выступленьня насілі арганізаваны характар. Праўда першае і другое цесна звязана з нашым матэрьяльным становішчам. Думаю, што яно паправіцца. У адносэньні да працы нашай на нямецкай тэрыторыі, на нарадзе, з маючыміся тут сябрамі, мы пастанавілі замяніць Бэрлінскае дыплёматычнае прэдстаўніцтво на Місыю і абсадзіць яе грамадзянінам Язэпам Варонкай. Матывы скланіўшые да гэтаго маюцца даволі важкіе. Між іншымі матывамі не малаважны і той, што Вас, як дзержаўнаго Кантралера трэба злучыць з Урадам, а такжэ што Кантралерскі Урад ня можэ злучацца з выпаўняньнем звыклых Урадовых чыннасцей.

Пішу гэты ліст з мэтай паінфармаваць Вас аб кіраваўшай мысьлі пры назначэньні, веру, што Вы зразумееце важнасць бягучаго момэнту і чым дужы дапаможэце 1) каб ніхто не арганізавана не выступаў (маю на думцы апошняе выступленьне у Вене[1]) 2) каб навязаць найлепшую інформацыю, 3) каб сабраць Урад у адно мейсцо.

Затым бывайце здаровенькі
цісну руку Вашу і палецаюся Вашай памяці
Ваш ВЛаст...
2.VIII.20
*582.1.45:063&r — рк*

[1] Абставіны невядомыя. У тым часе ў Вену ў справе фінансаў выяжджаў А.Цьвікевіч.

**2316. Ліст Пятра Крэчэўскага (Бэрлін) Вацлаву Ластоўскаму (Рыга) за 2.08.1920**

Старшыня Рады
Беларускай Народнай
Рэспублікі.
2 жніўня 1920
№....

Старшыні Рады Народных Міністраў
Б.Н.Р. Ластоўскаму

Шкада, што Вы праз Вэнта нічога апроч драбязгаў не прыслалі. На словах Вэнт казаў, што Вы хутка выезджаеце з Рыгі, а у лісце вызываеце Цвікевіча у Рыгу і мы ня ведаем як быць, но Цвікевіч каб і хацеў зараз выехаць, не можэ, бо німа зусім грошэй.

Тут знаходжусь я, Лявон і Цвік, Галавінскі выехаў у Коўну для інфармацыі. Чэкалі да гэтай пары Ладнова, а яго ні слуху, ні духу, і цяперь знаходзімся у надта дрэнных варунках, а што было у Рыдзе не ведаем і да гэтай пары.

З чэкамі нічога да гэтай пары зрабіць не удалося, бо ніхто нічога даваць не хоча і яшчэ тое-сёе круцім, але надзеі німа.

Аб незалежнасьці тым часам німа чаго і гаварыць у Няметчыне, бо мусі Вам вядома, што бэз Антанты — немцы не могуць і не маюць права нікого ні прызнаваць, чы не прызнаваць.

Прыймаючы усе гэта пад увагу, мы тут і у Коўні прыйшлі да перэконаньня, што трэба ехаць на Бацькаўшчыну і працаваць з бальшевікамі,

выгаварыўшы ад іх сабе як можна больш тых правоў, пры якіх такая праца была бы магчымай.

Трэба хучэй даведацца дзе і што зрабіў Базыль, чэкаць далей німа магчымасьці, бо у касі німа ні фэніга.

Катастрофа можэ прыйсьці хучэй, ніж мы думаем.

З пагляду палітычнаго і фінансаваго мы да гэтаго часу Баркова лічым афіцыальна прэдстаўнікoм, хаця усе справы, як былі зданы ім перад адъездам у Рыгу, так і цяперь знаходзяцца у Лявона, з якім Баркоў разам працуе у Місыі.

Адказывайце хучэй, калі маеце, што цікаваго, а калі німа, то трэба падсовывацца бліжэй да сваей граніцы Вільні, чы Горадні.

З шчырай пашанай ПКрэчэўскі
*582.2.54:314&r — pa*

**2317. Ліст Вацлава Ластоўскага (Рыга) Аўгену Ладнову (Парыж) за 3.08.1920**

Высокапаважаны
Еўгеній Федаравіч!

Лісты Вашы мы атрымалі. Што да сеці інтрыг апутываючых нас, то саўсім згодзен з Вамі, бо сам чую і бачу што кругом нас дзеецца. Але нават веручы у правату і сьвятасць справы становіцца немагчымым дыхаць ня толькі праз ворагаў але і праз нашэ труднае матэрьяльнае становішчэ. Як сабраць людзей у адно, калі ні яны да нас ні мы да іх перэбрацца не можэм? Патрэбна скорая помач каб мы не завялі ад недастатку сокоў. Гэто апошняе нам гразіць не на жарты. Калі можэце станьце у прыгодзе!

Базыль[1] ешчэ не вярнуўся ад Усходнікаў[2], але пісаў, што нічога ня вышло. Ліст ад яго быў 18.VII. у якім ён пішэ, што збіраецца за некалькі дзён назад.

Па поваду варункоў Большэвіцка-Літоўскай згоды мы ўручылі пратэст абодвым Урадам. А з бацькаўшчыны прыходзяць весткі, што там апавешэна Сав. Беларусь. Называюць імёны увайшоўшых у урад: Русецкі, Шыло, Дыло. Гэто ўсё беларусы. Разгром палякоў вялікі. За 8 дзён войско адступіло 250 вёрст па воздушнай лініі. Беглі бяз ботаў і нават верхняй адзежы. Усе паны змяліся з Беларусі. Уцекачоў у Варшаву не пускаюць.

Нашы enfant terible — Найвышэйшые змяліся так сама усе с краю. З дарогі Цярэшчэнка прыслаў ліст у якім прапануе нам адзіны нацыональнадзержаўны фронт і якіе патрэба мандаты. Яны саўсім здэзарганізаваны. Луцкевіч астаўся у Вільні ёсць чуткі, што мяркуе увайсці у усходніцкі урад. Яго былі арэштаваўшы, але на другі дзень выпусцілі і цяпер з ім гаворацць. Кляўдуш Душ<эўскі> таксама астаўся на мейсцы.

Мамонько палякі арэштавалі у Менску і, здаецца, вывезьлі.

Каб сабраць усіх і арганізаваць дзело патрэбны жывучы матэрьял, так сказаць, сокі, а гэтаго апошняго у нас і німа. Калі Вы ня прыйдзеце на ратунак ня ведаю як будзе.

Я паступаю, як вы жадаеце і радзіце, ці гэто добра ня ведаю. Нам тут былі <u>конкрэтные</u> прапазыцыі са стараны А<нглії> і другіх, каб пайшлі на

іх, то маглібы ужо развярнуць работу ва усю шыр. Гэто заўважце. Прыяцелі-ж нашы[3] кормяць нас дагэтуль абецанкамі. Чаму?

Мы тут не сядзім са зложэнымі рукамі, робім шмат. Дадзены мной поўнамочы генералу Васількоўскаму на Фінляндію. Гэто вядомы антаншчык і чэлавек салідны. Меўся даць я поўнамочча Язэпу Вар[онку] на Нямеч. але пасьля Вашаго апошняго ліста стрымаўся. Да нас цяпер прыбывае многа маладых інтэлігентных і здаўна нам вядомых сіл. Трэба былобы іх скарыстаць. А такіх як Язэп В. і подаўна трэба скарыстаць.

Цвіка я паведаміў, каб быў на гатове.

У трэцьця паўтараю, што справу сарганізаваць бяз сокоў немагчыма.

Асоб Вамі намечэных вышлю да Вас. Загадаў ужо ім ладзіцца у дарогу. Я хацеўбы далучыць да іх і Васількоўскаго. Вэнд выехаў. У яго ніякіх поўнамочый німа.

Рэасумуючы вышэйшае есць:

1) Найвышэйшые разбіты і любога з іх можна браць да працы.

2) Цяпер усе группы ад права да крайніх левых стаяць за наш Урад.

3) Калі Вы ня прыйдзеце са скорай падмогай мы прымушэны будзем браць сокі стуль адкуль іх прапануюць.

4) Раней чым мы не узмацуемся жывучым матэрьялам сабраць і сарганізаваць справу нельга.

5) Людзі будуць гатовы да выезду к Вам.

6) Усе вашы жаданьня па магчымасці праводжу.

Каб сарганізаваць справу патрэбна такжэ і з Вашай стараны пісаць непасрэдна мне а не праз трэціі асобы. Адрэсаваць можна таксама а толькі дадаць каб перэдалі Власту. Аб гэта апошняе я Вас вельмі прасіў, бо для мяне гэто вельмі важна. Як і чаму важна зразумець лёгка.

У канцы павінен Вам зазначыць, што я і ўсе нашы прыслухаемся да Вас і паступаем згодна нашым пастановам вынесеным у Вашу бытнасць пры нас. Гэто, каб Вы былі спакойны.

Пакуль не перэбярэмся у Прагу мы не сарганізуемся. Гэто майце на відоку.

Затым прыміце словы найвышэйшай пашаны і запэўненьне у найшчырэйшых пачуваньнях.

ВЛаст...

Паклоны ад жонкі і ад усіх.

3.VIII. 20

Пісаў да Вас 24.VII.

*582.1.45:059&r-059a&r — рк*

---

На лісьце пазначана Ластоўскім: «Чэрнавік пазьней перэпраўлены». [1] Захарка. [2] Бальшавікоў. [3] Французы.

**2318. Расьпіска начальніка Канцылярыі Кабінэту Міністраў Літоўскай Рэспублікі Стасіса Лазарайціса за 3.08.1920 аб атрыманьні дыпляматычнага пакета №357 Ураду БНР на імя Ураду Літоўскай Рэспублікі**

*582.2.54:313 — ра*

**2319. Тэлеграма Аляксандра Галавінскага (Коўна) Пятру Крэчэўскаму (Бэрлін) за 4.08.1920**

kryczewskomu motzstrasse 21berlin

554/4 kowno 508 14 4/8 18,25

= 28 praudiwo naczele kalmanowicz padrobnostej czekajem patreben kowno cwikewicz = holowinski +

*582.2.47:031 — a*

**2320. Ліст «Іскры» [Антона Аўсяніка] (Коўна) Вацлаву Ластоўскаму (Рыга) за 5.08.1920**

Даражэнькія сябры!

Аб нашай тутака працы Вас паінформуе Г<алавінскі?>. Я скажу адно толькі, што пакуль мы не вызнаем умоў міра Л<ітвы> з Р<асеяй> якімі Л<ітоўцы> усе яшчэ опьянены. Напэўне супольнай працы, асабліва з сучасным Урадам не знайдецца. Але тут ёсьць і шмат нашых прыхільнікоў, якія глядяць на рэчы далей свайго носа і пры іх дапамозе можа у будучыне што нібудзь і наладіцца. Мне ж тут працаваць аднаму сярод такой запутанай справы надта цяжка і я лічу што мае прэбываньне тутака а нікой корысьці не дасьць і лепей было б даць мне іншае заданьне. Зараз я вельмі шкадую, што я згадіуся узяць на себя такі абовязок. Я лічіў, што праз 5-6 дзен я буду вольным. Але здарылось інакш. І цяперыка я ужо ня ведаю як і быць. Грошы нема і праца на месьце запаздае.

Сюды прыехаў бежаушы ад прыяцелеу з Вільны Міша, але я яго яшчэ не бачыў.

З Менску пэуных вестак німашіка.

По апошнім весткам там абвешчана Беларусь з Кальмановічэм на чале — Чэкаю дальнейшых інформацыяў.

Вілінчане моўчаць, ніхто не паказываецца.

Я вельмі прошу Вас дядка Вацлаў, як небудь аслабаніць мяне ад працы тутака. Я жду Вашых указаньняў да ўторка[1]. Затым проста ня ведаю што робіць бяз грошы. Але усе ж гэта пустое. Рэчы на плечы ды і шагом марш.

Много пісаць ня буду або усім раскажэ Г<алавінскі?>.

Вельмі цікаўлюсь ці уехала ужо П<алута?>.

Палякі бегуць і як я сегоньня чуў, ужо большавікі у 80 в. ад Варшавы.

Прывет усім

Іскра[?].

5/VIII 20 г.

*582.1.45:057&r-057a*

[1] 10.08.1920.

**2321. Выцінка з газэты «Народное Дѣло» (Рэвэль). №11. ?.08.1920 з паведамленьнем аб пратэсьце Рады БНР супраць літоўска-расейскай мірнай дамовы**

*582.1.45:109*

Дакладная дата невядомая. Паведамленьне Польскага прэс-бюро з Рыгі за 7.08.1920.

**2322. Ліст Антона Аўсяніка (Коўна) Вацлаву Ластоўскаму (Рыга) за 9.08.1920**

Даражэнькія товарышы Вацлаў і інш!

Думаў я доўга. Шмат чаго перадумаў. А усе ж варочуюсь да старого пераконаньня. Не магу працаваць без народа. Праўда народ нас не понімае, доўго будзе гнаць, але на рэшці ен нас падтрымае. Працаваўшы увесь час сярод нашаго гаротнаго люду, я страшэна цягочуся сідячы тут. Дыплемат я яшчэ слабы. На сучаснай ж арэне Еуропы не зручны. Дык лепей вертацца да хаты. Тым паче як не кажыце, а усе ж новы мір там.

Ведаю добра, што много клопот будзе яшчэ, але мы пабедім.

Тут пакуль што нічого не будзе. Первое трэба вызнаць іх мір целіком. А чы можам мы гэтае зрабіць? Не. — Але з часам яны поймуць, што без нас няма і ім жыцьця. Левейшыя групы і цяпэр з намі. Усе ж паговорыць можно. Але не чапаць гэтай проклятай Вільны.

Больш увагі на дзядзькоў, калі яны дапамогуць, дык і астатнія падтрымаюць.

Больш пісаць не могу.

Прывет — Змаганік

9/VIII 20.

Коўна

PS. Адчот і паспорта передаў Язэпу[1]-

*582.1.45:071&r*

[1] Варонку.

**2323. Мэмарандум Ураду БНР за 12.08.1920 (вых. №400) Прэзыдыюму Канфэрэнцыі Балтыцкіх Дзяржаваў у Рызе зь інфармацыяй пра Беларускую Народную Рэспубліку**

Беларуская
Народная Рэспубліка
Міністэрства
Міжнарадовых Справ.
12 Жніуня 1920 году.
№400.

Прэзыдыуму Канфэрэнцыі
Прыбалтыцкіх Дзержау у Рызе.

У дадатак да нашага мэморандума ад 29 ліпеня з №377 маем гонар паведаміць:

Беларуская Народная Рэспубліка абымае этнаграфічныя беларускія землі г.зн. быушыя губэрніі: Вітэбскую, Смаленскую, Менскую, Магілеускую, Віленскую, Горадзенскую і некаторыя тэрыторыі сумежных губэрніяу дзе пераважае этнаграфічна беларускае населеньня, што разам узятае састауляе 280.000 кв. км і мае 16.000.000 населеньня з якіх 12.000.000 беларусоу, рэшта 4.000.000 есьць жыды, палякі, вялікарусы, татары, украінцы, літвіны і латышы.

Вялікі лік водных шляхоу каторыя праходзюць удоужкі і у поперак беларускую тэрыторыю і злучаюць чатырьмя штучнымі воднымі сістэ-

мамі Балтыцкае мора з Чорным, у тым ліку і знаменіты «Вялікі водны шлях з Варагау у Грэкі», а так сама дастатачна разьвітая сетка чугунак злучаючы Заходнюю Эуропу з Усходней Эуропай і Азіей — даюць магчымасьць думаць, што Беларусь, як і другія Балтыцкія старонкі зможэ разьвіць самы інтэнсыуны тавараабмен.

У таргова-эканамічным сэнсе Беларусь састауляе адно цэлае з новаутварыушыміся Прыбалтыцкімі дзержавамі, як у гістарычным прошлым так і цяпер.

Прыродныя багацьця Беларусі, якія знаходзяцца у агромных хвойных і лісцьвеных лесах цаннейшых гатункау, у каласальных залежах торфа, усякіх глін, фасфарытау, а так сама вытворчасьць у вялікім ліку такіх рэчау першай патрэбы, як лен, крахмаль, сьпірт, серчыкі, шкло, шпігунар і іншыя — сьведчыць аб тым, што Беларусь маючая такі аграмадны лік неабходнага сырцу, можэ разьвіць багатую прамысловасьць.

У старадауны пэрыод сваей гісторыі Беларусь прэдстауляе з сябе злучэньня незалежных княжствау пад главенствам Полацкага Вялікага Княжэньня, гэта злучэньне мела усе адзнакі дзержаунага сувэрэнітэта.

У другі пэрыод — пэрыод злучэньня Беларусі і Літвы — беларускія землі з літоускімі састаулялі форму фэдэрацыі.

Актам 1569 году Беларусь разам з Літвою заключаюць парламэнтарную унію з Польшчай, прычым сувэрэнныя правы злучаных дзержавау Літвы і Беларусі былі срога агавораны і праводзіліся у жыцьце да прылучэньня Беларусі да Расеі (1791, 1793 і 1815 г.г.).

У канцы 18-га сталецьця Беларусь аказалася прылучана да Расейскай Імпэрыі з утратай сувэрэнных правоу, але захаваушы да 1840 году некаторыя асаблівасьці права, згодна яе гістарычнаму прошламу.

Фэдэрацыя з Літвой і унія з Польшчай непазбауляе Беларусь права на вазстанауленьне незалежнай дзержавы дзеля таго што есьць не толькі правы, якія мае кожны асобны народ, але і правы гісторыко-юрыдычныя.

За сваю культурную і дзержаўную незалежнасьць беларускі народ змагауся не толькі у пэрыод літоуска-польскі, але і увесь час расейскага панаваньня і выносіу на сабе увесь ціжар нацыянальнага парабашчэньня.

Адраджэньне беларускай дзержаунасьці пачынаецца зараз-жа пасьля успышкі рэвалюцыі 1917 году: ужо у сакавіку 1917 году у горадзе Менску быу сазван з'езд беларускіх дзеячоу, на каторым быу утвораны «Беларускі Нацыянальны Камітэт» скора уступіушый мейсца «Цэнтральнай Радзе Беларускіх арганізацый», каторая вела нацыянальна-асьведамі-цельную і арганізацыйную работу; у кастрычніку 1917 году пачалі сазывацца многія з'езды: армейскія, вучыцельскія, уселякіх культурных нацыянальных арганізацый і адначасна было прыступлена да фармаваньня беларускіх нацыянальных ваенных часьцей.

У рэзультаце усей чыннасьці было аснаваньне «Вялікай Беларускай Рады» і «Цэнтральнай вайсковай Рады», якія у сьнежні 1917 году сазываюць Усебеларускі, з устаноучымі функцыямі Кангрэс у м. Менску.

Гэты Кангрэс быу поуным выяуленьнем волі усяго беларускага народу, дзеля таго што тут былі прэдстаулена як селянскія самаупрауленьня,

так і гарадзкія, земскія, рабочыя арганізацыі, ваенныя арганізацыі, бежанскія камітэты і усе палітычныя партыі.

На Кангрэсе было 1167 дэпутатау з мейсцовасьцяу неакупаваных немцамі — з правамі пастанауляючага голасу і — 705 дэпутатау із акупаваных мейсцовасьцеу з правамі дарадчага голасу.

Кангрэс гэты 18-га сьнежня 1917 году праклямавау Беларускую Народную Рэспубліку і выбрау Раду Рэспублікі, каторая перадала выканаучыя функцыі Габінэту Міністрау.

Праклямаваньне Беларускай Народнай Рэспублікі спаткала непрыязныя адносіны са стараны Савецкай улады, каторая рэагавала на рэзалюцыю Кангрэсу цэлым радам насільляу над ім і над асобнымі яго учасьнікамі.

Атрымаушы юрыдычныя поунамоцтва малоды Беларускі Урад прымушаны быу з прычыны гэтых варункау вясьці сваю работу нелегальна, прабуючы несколькі разоу узяць уладу у свае рукі у Менску і на усей Беларусі.

Спробы гэты 19-га лютага 1918 году прывялі да умацаваньня улады Беларускага Ураду у Менску і усей обласьці.

9-га сакавіка 1918 году, выбраная Усебеларускім Кангрэсам, Рада была папоунена прэдстаунікамі земствау, гарадоу, нацыянальных меньшасьцяу і прафэсыянальных арганізацый і прыняла функцыі Перадпарлямэнту пад назвай Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

Адначасна з гэтым нацыянальныя меньшасьці атрымалі нацыянальна-пэрсанальную аутаномію і два партфэлі у складзе Беларускага Ураду.

Наступіушая за гэтым нямецкая акупацыя настолькі сьцясьніла чыннасьць Беларускага Ураду, што да момэнту нямецкай рэвалюцыі і вызванай ею эвакуацыі беларускіх зямель, Урад Беларускай Народнай Рэспублікі не усьпеушы стварыць аружнай сілы дастатачнай для таго каб змагацца з наступаючымі арміямі Савецкай Расеі і прымушаны быу эвакуіравацца для работы за-граніцу. У краі асталіся сябры Рады Рэспублікі, культурна-нацыянальныя арганізацыі і некаторыя палітычныя дзеячы.

Акупаваушы Менск у пачатку 1919 году Урад Расейскіх Саветау учытываючы імкненьня беларускага народу да незалежнасьці, абвесьціу Беларускую незалежную Савецкую Рэспубліку і арганізавау Беларускі Савецкі Урад, у склад каторага ні члены Рады Рэспублікі ні відныя беларускія дзеячы не толькі не былі дапушчэны, але наадварот, некаторыя з іх былі арэштаваны і вывезены з Беларусі.

У сярэдзіне сакавіка 1919 году азначаная рэспубліка была зліквідавана расейскай савецкай уладай, дзеля таго што не магла праводзіць у жыцьце дыктатуру пралетарыяту, састауляушага на Беларусі меньш палавіны процэнту (на 16 мільенау люднасьці — 66 тысяч фабрычна-заводзкіх рабочых), але у замену яе, г. зн. незалежнай Беларускай Савецкай Рэспублікі, была зарганізавана Літоуска-Беларуская Савецкая Рэспубліка; прычым у склад гэтага Ураду (так называемага «Літбела») ніхто з беларусоу увайсьці не захацеу.

Летам 1919 году пасьля акупаваньня Менска польскімі войскамі, дзеяльнасьць Рады Беларускай Народнай Рэспублікі пачалася узноу, і бела-

рускі урад вярнууся у Менск. Аднак атсутнасьць акрэсленага погляду і праграмы са стараны польскага ураду і кіраунічых грамадзкіх кругоу у адносінах да беларускага пытаньня прывялі да многіх, а часам острых непаразуменьняу паміж прэдстаунікамі беларускай дзержаунасьці і польскай акупацыйнай уладай. Вынікам гэтай неакрэсьленнасьці і непаразуменьняу было тое, што чародная сэсыя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі азнаменавалася радам опозыцыйных у адносінах да польскай акупацыйнай улады выступленьній, пачаушыхся дэклярацыей Рады Рэспублікі 12-га лістапада 1919 году аб негайным прызнаньні незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі і перадачы грамадзкага упрауленьня краем Беларускаму Ураду, і закончыушыхся перавыбарам 13-га сьнежня 1919 году Прэзыдыума Рады і састауленьнем новага габінэту (п. Ластоускага).

Новы Урад Беларускай Народнай Рэспублікі састауленый з груп і фракцый Рады Рэспублікі падтрымліваючых дэклярацыю ад 12-га лістапада 1919 году і ярка атстаіваюшчых незалежнасьць і непадзельнасьць Беларусі, спаткау яуна варожыя адносіны акупацыйнай улады не толькі не даушы яму магчымасьці якой-бы то ні было работы, але нават арэштаваушы некаторых яго сяброу. Пасля гэтага сябры Ураду і Прэзыдыума Рады, астаушыяся на волі перанясьлі сваю чыннасьць за-граніцу, куды праз некаторы час прыбылі і бежаушыя з пад арэшту і другія сябры.

Так называемыя беларускія актывісты г. зн. паасобныя палітычныя дзеячы, стаяушыя на тым пункце гледжэньня, што беларуская палітычная і культурна-нацыянальная работа не павінна заміраць ні пры якіх варунках, відзючы аканчальны разрыу беларускага ураду з польскай акупацыйнай уладай, прэдстауляюць габінэту міністрау вясьці заграпічную беларускую палітыку, а самі арганізуюць для нацыянальнай работы на мейсцох і для палітычнага прэдстауніцтва перад польскай акупацыйнай уладай, асобны прэдстаунічы орган «Найвышэйшую Раду», складзеную з 5 чалавек.

Не гледзячы на спагад і матэрыяльнае падтрыманьне са стараны польскай улады «Найвышэйшая Рада» усе-ж не узяла на сябе функцый беларускага ураду і гэты функцыі надалей вядзе Габінэт гр. Ластоускага.

Платформа Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі акрэсьлівалася і акрэсьліваецца такім чынам:

1. Абарона незалежнасьці і непадзельнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

2. Дасьціжэньня прызнаньня гэтай незалежнасьці другімі дзержавамі.

3. Палітычная, эканамічная і абарончая умовы з нова створанымі дзержавамі, і у першы чарод, будучы па геаграфічных і эканамічных варунках старонкай Балтыцкай, да саюзу з Балтыкай.

4. Асвабаджэньня Беларусі ад акупантау.

Адносіны Беларусі да усіх маладых дзержавау каторыя змагаюцца за сваю незалежнасьць — самае лепшае.

Непаразуменьня з Польшчай вызваныя барадзьбой з цяжкім рэжымам польскай акупацыі, не акрэсьліваюць нашых варожых адносін да польскага народу і польскай рэспублікі, як такой у яе этнаграфічных гра-

ніцах, наадварот, беларускі народ спадзеваецца на спагаднае аднашэньне польскага народу да Беларусі, каторая вядзе барадзьбу за сваю незалежнасьць.

У адносінах да Літвы, не гледзючы на некаторыя спрэчныя тэрытарыяльныя пытаньня, нема падставы відзець асобыя непаразуменьня, каторых нельга было бы вырашыць дарогай узаемных уступак, тым больш што есьць даунія і глыбокія сымпатыі, каторыя істнуюць паміж беларускім і літоускім народам.

У сваіх адносінах да Расеі Беларускі Урад, з мэтай дабіцца незалежнасьці Беларусі і атвода савецкіх войскау за межы яе тэрыторыі, прымау крокі і паслау дэлегацыю у Маскву.

Калі расейскі урад будзе, як і перш, ігнараваць правы беларускага народу на яго самаазначэньне і нарушаць яго сувэрэнныя правы, то беларускі урад як і беларускі народ будзе і надалей змагацца з усімі відамі расейскага імпэрыялізму.

Урад Беларускай Народнай Рэспублікі, зарганізаваны пад клічам незалежнасьці і непадзельнасьці Беларусі, аб'еднуе каля сябе усе адцені беларускай палітычнай думкі, дзеля таго што у цяперашні момэнт не істнуе ні аднэй беларускай палітычнай партыі ні групы, каторая бы не уставіла гэтага клічу у сваю палітычную праграму. Адносіны палітычных партый, нацыянальных груп і грамадзкіх арганізацый да Ураду асобенна ясна акрэсьліліся на канфэрэнцыі партыйных і грамадзкіх беларускіх дзеячоу 31 травеня 1920 году, на каторай былі вынесены рэзалюцыі, якія выражаюць даверья і падтрымку ураду.

У склад Габінэту Міністрау Беларускай Народнай Рэспублікі уваходзяць:

Старшыня Рады Міністрау — В.Ластоускі.
Міністр Міжнарадовых Спрау — Е.Ладноу.
Міністр Юстыцыі — А.Цьвікевіч.
Міністр Фінансау — Белевіч.
Дзержауны Кантралер — Л.Заяц.
Другімі Міністэрствамі кіруюць упрауляюшчыя.

Старшыней Рады Беларускай Народнай Рэспублікі есьць грамадзянін П.Крэчэускі, сябрамі Прэзыдыума — П.Бадунова, В.Захарка, Козіч і Я.Мамонька.

Як Габінэт Міністрау, так і Прэзыдыум Рады знаходзяцца у сучасны момэнт за-граніцай.

Думаючы, што моц і устойчывасьць новастворацых на тэрыторыі быушай Расейскай Імпэрыі маладых дзержавау залежыць ад цеснага аб'еднаньня у барадзьбе з імпэрыялізмам, Беларусь, як важнейшае звяно, злучаючая палудзеныя маладыя дзержавы з Заходнімі і пауночнымі, спадзяецца на дружаскія адносіны да яе са стараны конфэрыруюшчых дзержавау і разлічае прыняць учасьцце у работах канфэрэнцыі.

Арыгінал падпісалі:

Ластоускі, Старшыня Рады Міністрау.
Вальковіч, Кіраунік Канцэлярыі.

З арыгіналам згодна: М.Севасьцьянюк
За Кірауніка Канцэлярыі Рады Народных Міністрау.
*582.1.07:038-041 — шк бел*
*582.1.07:054-057 — шк бел*
*582.2.51:037-040 — шк фра*
*582.2.51:100-103 — шк фра*
*582.2.51:143-146 — шк фра*
*582.2.53:061-064 — шк фра*
*582.2.53:165-168 — шк фра*
*582.2.54:309&r-312&r — мк рас*

**2324. Ліст Кастуся Езавітава (Більдэрлінгсгоф[1]) Вацлаву Ластоўскаму (Рыга) за 13.08.1920**

Сэкрэтна.

Пане Старшыня,

сенека ў цягніку спаткаўся з Задарожным (украінск. місыі) і даведаўся аб прыездзе ў Рыгу іх Делегацыі: 1) Селікоўскі — Мін. Унутр. Спраў, 2) Франкфурт — фінансіст, 3) Селінецкі.

Тое, што я казаў аб мандатах Задарожны ад мяне скрыў і, навэт, ўскользь неяк у гутарцы кінуў, што яны ні быто — «есьць».

Зараз жа я сабраўся да прыехаўшых, каб пагутарыць з імі і Кедроўскім[2], але Кедроўскі прымчаўся да мяне і паведаміў, што делегаты пакуль што «неафіцыяльна» знайходзяцца ў Рызе і што ні с кім не бачыліся, навэт з Васількоўскім, які зьяўляецца асабістым таварышом Селикоўскаго.

Я зразумеў, што Кедроўскі не хоча, каб я бачыўся з его дэлегатамі і мне здаецца, што прычыны гэткія:

1) Гісторыя з мандатамі, якую ён скрывае,

2) рэвізыя его самаго і таму баязнь майго аб ім адзыва,

3) небезпека непасрэдных якіх небудь паміж делегацыяй і мной гутарак, напр. аб беларуска-украінскім хаўрусе, аб якім я падаваў Кедроўскому ноту, але ен да гэтага часу на яе неадказаў

Я пасылаю да делегацыі Чэрэпука, каб зрабіць разведку.

Ад Кедроўскага даведаўся, што наша справа на Канфэрэнцыі стаіць вельмі востра: «Без беларусоў — не магчыма, а з імі — страшна». Украінская справа (бачу па Кедроўскаму), стаіць больш непэўней.

У зьвязку з гэтым трэба, каб Пігулеўскі і Галавінскі наседалі на «Більдерлінгсгоф»[3] і тармашылі усіх.

Трэба, так сама, і мемарандум уручыць як найхудчэй.

Кедроўскі у справе меморандума (чытайце «Сегодня» №171 сегодняшній — «Балт. Конф.») сказаў, што ен меморандум піша, але не ведае ці «стоіць» падаваць ці не і «думае» падаць лішь тады, калі будзе «раней» добры адказ і прымуць іх дэлегацыю ў склад Канфэрэнцыі.

Гэта, пэўне, таксама — брэхня.

Мы, бачу зусім ясна, не павінны чэкаць, што зможэм абаперецца на украінцаў і трэба як хутчэй, як мацней і штодзень наседаць на Більдерлінгсгоф, бо толькі ад іх настроеў залежыць наша праца і, навэт, доля.

Я тутака займусь некоторымі, Вы ведаеце, справамі датычачымі Латгаліі.

Яны вельмі начасе і паважны.

Ліст прачытайце і разтлумачце Галавінскаму і Пігулеўскаму, каб яны зразумелі што «або сенека, або — ніколі», бо сенека Конфэрэнцыя чэшэ затылок і не ведае што скажэ заўтра, а заўтра яна ужо што-то скажэ і тады будзе поздна.

Костусь.

13.VIII.20.

[Дапісана В.Ластоўскім:]

Гэто ўсё добра, але чаму п. Шэф на час самай гарачай працы у справе Конфэрэнцыі выехаў сабе у дамскі пансыон на атпачынак? Хадзіць па розных прэдстаўніцтвах і рэкомэндаваць дэлегацыю, гэто павіннасць не каго іншаго, як толькі прэдстаўніка і то акурат, як у гэтым здарэньні, дыплёматычнаго прэдстаўніка.

ВЛ.

15.VIII.20.

*582.2.54:306&r -308&r— ра*

[1] Цяпер Булдуры, курорт на Рыскім узмор'і. [2] Уладзімер Кедроўскі — віцэ-старшыня дыпляматычнай місіі УНР у Рызе. [3] Маецца на ўвазе канфэрэнцыя балтыйскіх краінаў, якая адбывалася ў Більдэрлінгсгофе.

## 2325. Мэмарандум і заклік дэлегацыі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Парыжы да Грамадзянаў і Паслоў Саюзных Дзяржаваў за 14.08.1920

Мэмарандум і заклік дэлегацыі Беларускай Народнай Рэспублікі у Парыжы
да Грамадзян і Паслоу Саюзных Дзержау.

Савецкі Урад апублікавау варункі міру с Польшчай, згодна зместу ноты, гранічная лінія паміж Польшчай і Савецкай Расеяй павінна праходзіць па тэрыторыі Беларусі і жалезная дарога Граево—Беласток павінна быць аткрытай Савецкаму Правіцельству дзеля яго будучых тарговых зносін з Нямеччынай.

Савецкае Правіцельство заключыло з Літвой мір, згодна катораму яно дае Літве Беларускіе землі Вільні і Горадні. Гэта апошняя угода павінна аткрываць Нямеччыне дарогу з Усходней Прусіі, праз Літву, у Савецкую Расею (Коуна, Вільня, Крэслаука, Двінск).

Цяпер жэ прыгатауляюць да прыняцьця і ратыфікацыі новы раздзел Беларусі, патураючы прыкладам Берасцейскаго міру.

Гэткім парадкам пытаньне аб падзеле на часці Беларусі аткрыта абмярковываецца, не глядзя на гістарычные факты значнай вагі, якіе ня лішне прыпомніць.

1.- Усебеларускі Кангрэс у Менску 18-31 сьнежня 1917 году апавесціу Народную Беларускую Рэспубліку у фэдэрацыі з другімі народамі Расеі.

2.- Нацыанальнае Сабраньне усей Расеі ад імені народау жывучых на тэрыторыі быушай Расейскай Імпэрыі, на заседаньні 5-го студзеня 1918 году, пастанавіло: «Расейская Дзержава апавешчаецца Дэмакратычнай Фэдэратыунай Рэспублікай».

3.- 25 марца 1918 году Рада Беларускай Народнай Рэспублікі пастанавіла апавесціць незалежнасць Беларусі і апратэставаць Берасцейскі мір, які санкцыанавау яе раздзел.

4.- Урад Савецкай Расеі, скінуушый Часовы Урад, апублікавау у кастрычніку 1917 году дэкрэт аб правох народау, знаходзячыхся на тэрыторыі Расейскай Дзержавы, на самаазначэньне.

5.- Аснауны прынцып Мірнай Канфэрэнцыі заключаецца у сьледуючай дэкляарацыі: «Кожны народ мае права свабодна распараджацца сабой».

6.- Пасьля окупацыі часьці Беларусі польскімі войскамі у чэрвені 1919 г. Начальнік Польскай Дзержавы, Язэп Пілсуцкі, афіцыальна апавесціу у Менску, сталіцы Беларусі, што Беларусь павінна быць незалежнай Дзержавай і адносіны паміж народам польскім і беларускім павінны быць як роунае з роунымі.

7.- На усерасейскім сабраньні земляробоу у Маскве Ленін сказау прамову, трываушую дзьве гадзіны. Ен апавесціу, што Савецкая Расея вядзе вайну с Польшчай з мэтай асвабоджэньня Літвы і Беларусі окупаваных палякамі («Таймс», 17.VII.1920).

8.- 10 чэрвеня 1920 году Прэзыдэнт Рады Міністрау Польшчы гр. Грабскі сказау гр. Алексінскаму, быушаму дэпутату с.-д. Думы, што Польшча ня мела ніякага права кіравацца да абладаньня Мінскам і Беларусьсю («Коммюн», 17.VII.1920).

9.- У ноце да Ллойд-Джорджа ад 21.VI.1920 г. Чычэрын запэуняе: Савецкая Расея хоча ісці на сустрэчу пажаданьням і інтэрэсам польскага народу і свае вымаганьня будзе коордынаваць з пажаданьнямі польскага народу, ва унутрэнным-жа жыцьці трэба стануць на дарогу, каторая забаспечыць і дасць моцнае апорышчэ да праудзіва брацкіх адносін паміж «работніцкімі кляссамі» Польшчы, Расеі, Украіны, Беларусі і Літвы («Таймс», 24.VII.1920).

10.- У праграмме расейскай антыбальшэвіцкай партыі, кіраунікамі каторай яуляецца Савінков, Родзічев і Мережковскій, апублікаванай у першым нумэры «Свабода» (Варшауская), мы знаходзім такую фразу: «астаюцца спорнымі толькі землі, складаушые часць Польскай Рэспублікі перад 1772 годам, а мяновіта: Літва, Беларусь, Украіна. Было-б саусім гожэ пазволіць гэтым двом краем высказацца аб іх палітычным і нацыанальным палажэньні дарогай агульнага галасаваньня. Толькі устаноучыя Соймы Літвы, Беларусі і Украіны павінны пастанавіць ці хочуць гэты краі быць незалежнымі, ці палічаць лепшым злучыць сваю долю з долей Польшчы або Расеі («Таймс», 21.VII.1920).

11.- Неаднакрат галовы Дзержау Англіі, Францыі, Злучэных Штатау, у дэкляарацыях да Парлямэнтау сваіх старон у пытаньнях аб міжнароднай палітыцы, зауседы падчоркавалі, што яны гатовы падтрымаць правы народау на самаазначэньне.

12.- Дэлегацыя Беларускай Народнай Рэспублікі на Мірнай Конфэрэнцыі у Парыжы мела гонар не адзін раз даказаць Камісыі Замежных Спрау Палаты Дэпутатау і Французкаму Сэнату, волю Беларускага Народу быць незалежным.

Гэты довады Дэлегацыі былі прыняты камісыямі вельмі прыхільна.

Апіраючыся на паказаные факты я маю гонар, як Прэдстаунік Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі на Мірнай Конфэрэнцыі, прасіць прэдстаунікоу Вялікіх Дзержау падтрымаць законные правы 15 мільенау Беларусоу на самаазначэньне.

Я прашу з націскам, каб на Мірнай Конфэрэнцыі, маючай адбыцца гэтымі днямі у Менску, былі запрошэны прэдстаунікі Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі дзеля перэгавороу с прэдстаунікамі Польшчы і Урадам Саветау.

Я вымагаю, каб беларускаму народу было прызнана право на яго будаунiцтво і унутрэнную арганізацыю.

Урэшце я вымагаю, каб окупацыйные войскі, як польскіе, так і савецкіе, эвакуавалі тэрыторыю Беларусі і гэткім чынам далі магчымасць Радзе Беларускай Народнай Рэспублікі і яе Ураду завясці лад і устанавіць адносіны Беларусі да Саюзных Дзержау.

Я запэуняю, што калі не запросяць прэдстаунікоу Беларускага народу на Мірную Конфэрэнцыю паміж Польшчай і Савецкай Расеяй і калі адважуцца на падзел Беларусі паміж гэтымі дзьвемя Дзержавамі, то прымусяць пайсці узад насуваючыйся мір на Усходзе Эуропы.

Беларускі Народ ніколі ня прыйме свайго падзелу, адмовіцца пакарыцца несправядлівай пастанове, прынятай супроць яго волі, і з аружжам у руках будзе дабівацца сваіх правоу.

Беларусь будзе Эльзас-Лотарынгіей Усходу, а яе землі крыніцай новых воен.

У імя права і міжнароднай справядлівасці, маю гонар прасіць Вялікія Дзержавы прыняць пад увагу волю, выражэную Беларускім Народам, і, заховываючы цэласць яго нацыанальнаго організму, даць магчымасць унікнуць яе народнасцям жаху новых рэвалюцый і новай бойні.

Ладноу
Прэзыдэнт Дэлегацыі,
Міністр Загранічных Спрау.

*582.1.06:017-018 — шк бел*
*582.1.06:062-063 — шк бел*
*582.1.41:058 — шк бел (с1)*
*582.1.41:059-060 — шк бел*
*582.1.08:002&r-004&r — рк перакладу з фр. В.Ластоўскага*
*582.1.06:040-043 — шк фра*
*582.1.19:032-035 — шк фра*
*582.2.51:021-024 — шк фра*
*582.2.51:084-087 — шк фра*
*582.2.51:129-130 — шк бел*
*582.2.53:045-048 — шк фра*
*582.2.53:150-153 — шк фра*
*582.2.54:332-333 — мк рас*
*582.2.54:380-383 — мк фра*
*582.2.54:452-456 — мк фра*

**2326. Ліст Кастуся Езавітава (Більдэрлінгсгоф) Вацлаву Ластоўскаму (Рыга) за 14.08.1920**

Даражэнькі Старшыня,

прыехаў Гр. Тэрэшчанка. Прыйшлі б да Вас, але заўтра а 12 гадзіне ў украінцаў будзе нарада (эканамічная), на якую запрошаны: фінны, эсты, латышы, літвіны і беларусы, а таму тутака патрэбны Галавінскі і Пігулеўскі, якія хай прыязджаюць зрана.

Лічу, што было б добра прыехаць сюды і Вам. Параіліся б з Гр. Тэрэшчанкай і з нашымі, што пойдуць да украінцаў.

Я астаюся чэкаць Вас усех у Рызе. Тутака ж астаецца і Чэрэпук і Гр. Тэрэшчанка.

К.Ез...

*582.1.45:065&r-065a*

**2327. Візытоўка Кузьмы Цярэшчанкі**

Козьма Тэрэшчэнко

*582.1.45:071a*

**2328. Ліст Аўгена Ладнова (Парыж) прэзыдэнту Канфэрэнцыі Паслоў (Парыж) за 14.08.1920 з просьбай падтрымаць дамаганьні Беларусі аб удзеле ў польска-расейскіх мірных перамовах**

*582.2.54:302 — мк рас*
*582.2.54:303&r — мк фра*

Разам з Ладновым ліст падпісаў сакратар дэлегацыі — І.Радзіж.

**2329. Справаздача шэфа Дыпляматычнай Місіі БНР у Бэрліне Леаніда Баркова (Бэрлін) старшыні Рады Народных Міністраў БНР Вацлаву Ластоўскаму (Рыга) за 14.08.1920**

La mission diplomatique extraordinaire
de la République Démocratique
Blanche-Ruthénienne
14 жнівеня 1920
№247

Старшыне Рады Народных Міністраў
Б.Н.Р.

Справаздача.

На №332 за 9-га ліпеня г.г. маю гонар прэдставіць ніжэйпаданае:

1. Нямецкі урад, так сама нямецкія палітычныя і фінансавыя колы, уведзены у курс становіща беларускага пытаньня і азнаемлены з лятуценнямі беларускага народу. Прызнаньне незалежнасьці Беларусі Нямеччынай ня можэ быць зроблена перш такога прызнаньня з боку дзяржаў Антанты, згодна з арт. 117 міравой умовы у Вэрсалю. Ні гледзючы на гэта, прыметы фактычнага прызнаньня ураду Беларускай Народнай Рэспублікі відны у афіцыальных зносінах нямецкіх дзяржаўных устаноў і заграничных прэдстаўніцтваў у Бэрліне з беларускай місіей у Нямеччыне; на практыцэ гэта выражаецца у прызнаньні і візаваньні беларускіх пашпар-

тоу як нямецкімі паліцэйскімі уладамі, так і німаль усімі консульствамі заграпічных дзяржау. Агульнае палажэньне беларускага пытаньня у Нямеччыне адзначаецца спагаднымі адносінамі да нас як Ураду, так і грамадзкіх колау. Надзеі на рэальную дапамогу у данны момэнт з боку Нямеччыны ня могуць быць апрауданы, дзеля неакрэсьленнаго палажэньня як у самой Нямеччыне, так і тым бардзей на Беларусі.

2. Што датычэ справы рэалізацыі чэкау, то адзін з іх, згодна з умовай, быу звернуты назад украінцам, а па другому, ні гледзючы на усякія камбінацыі у Бэрліне, Вене і Будапэшце, дагэтуль нічога ні удалося атрымаць і не прадвідзіцца на бліжэйшы час.

3. З ліку беларускіх дзеячоу у данный момэнт зна[хо]дзюцца у Бэрліне П.Крэчэускі, Л.Заяц і А.Цвікевіч, які у справах фінансау выежджау у Вену і Будапэшт і мусіць узноу у гэтай справе да Вены ехаць. Затрымаушыся тут апошні час А.Галавінскі выехау 28-га ліпеня г.г. у Коуну, згодна з Вашэй тэлеграмай з Рыгі.

Ваш загад аб прыездзе у Рыгу Міністра Юсціцыі п. Цвікевіча — перэданы яму.

Шэф Місіі Баркоу

*582.2.54:305&r — ма*

**2330. Ліст Аўгена Ладнова (Парыж) старшыні Расейскае Палітычнае Нарады А.Гірсу (Парыж) за ??.08.1920 з паведамленьнем аб пастанове Ураду БНР за 31.05.1920 у справе выключэньня з складу Дэлегацыі БНР у Парыжы К.Кандратовіча й А.Азнабішына**

*582.2.54:304 — мк рас*

Дакладная дата невядомая.

**2331. Акт аб каардынацыі дзяржаўнай працы, складзены старшынёю Рады Народных Міністраў БНР Вацлавам Ластоўскім і паўнамоцным прадстаўніком Найвышэйшае Рады БНР Кузьмой Цярэшчанкам у Рызе 15.08.1920**

Сэкрэтна

АКТ.

15 жнівеня 1920 году мы, ніжей падпісаные: Старшыня Рады Народных Міністроу Беларускай Найвышейшае Рады[1] і Віцэ-Старшыня Презыдыуму Яе Кузьма Тэрэшчанка, спаткаушыся у месте Рызе і зважаючы на вельмі адпаведны і важны для Дзержаунасьці Беларусі момент, — дагаварыліся:

1, з гэтаго моменту і наперад, да скліканьня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, каардынаваць агульную, да гэтага часу нажаль разрожненую, дзержауную працу і працу дзержауных, нацыянальных і культурных установ і асобных працоунікоу на грунце узмацаваньня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі;

2, Выясьніць лік маючыхся у гэты момэнт і маючых у хуткім часе быць атрыманымі на нацыянальныя патрэбы грошей і каардынаваць выдаткі іх;

3, карыстацца для нацыянальнай і культурнай працы усемі здольнымі да гэтай працы грамадзянамі, зварачываючы увагу не на партыйныую іх належнасьць, а на здольнасьць іх да працы;

4, з вышейпісанай даты (15 жнівеня 1920 году) Найвышейшая Рада, ні сама ні праз свае органы і прыслухаючые ей установы і асобы, не выступае заграніцай як сэпаратны Беларускі Дзержауны Орган.

Акт гэты печаткамі Установ, ад імені якіх мы дагаварываліся, і нашымі подпісамі стверджаемо

Ластоўскі
Старшыня Рады Народных Міністроу Беларускай Народнай Рэспублікі

Коз.Тэрэшчэнко
Надзвычайны Паунамоцны Прэдстаунік і Наместнік Старшыні Найвышейшай Рады.
*582.2.54:301 — мк*
*582.2.54:390 — к*

[1] Памылкова замест Беларускай Народнай Рэспублікі.

**2332. Ліст Аўгена Ладнова (Парыж) Вацлаву Ластоўскаму (Рыга) за 16.08.1920**

Дараженьки Пане, Старшыня!

Ваш лист атрымау. Цяжка у Вас на душэ, але и у мене не ляхчей.

Вопрос наш, принципіально рѣшенный, задержан осуществленіемъ благодаря происшедшим событыіям. Возможно, что задержки не было бы, если бъ не работа тѣх, гдѣ Пан Кречеускі[1]. Я неоднократно просил Вас, писал Кречеускому и Цвікевичу, чтобы всѣ собрались въ одно мѣсто, но моя просьба, по непонятным причинам, оказалась неисполненной. Я сказал, как могъ: Именем Кречеускаго злоупотребляют, т.к. здѣсь меня спрашивают, почему Ваши друзья дѣлают совершено иное там? Вѣдь секретов нѣт, гдѣ есть наблюденіе! Поставьте себя на минуту в положеніе наших здѣшних пріятелей: гдѣ тѣ, кого нужно признать, с кѣм нужно разговаривать? Отвѣт один: разсѣяны по всей землѣ. А донесенія с мѣст говорят: «Не вѣрьте Л-ву, он выдает свои симпатіи к Вам за мнѣніе его товарищей, а они ведут совершенно иную работу. Выходит, что я один; Как же быть? Изъ Вильны и Минска было сообщено, что кооператоры не желают ѣхать, ибо никакого Ласт-каго не знают, и ни о каком урадѣ ничего не слышали. Ну, поставьте себя в положеніе другой стороны, что Вы сдѣлали бы?

И тѣм не менѣе 24/VII я был официально приглашен у Камісію Закорд. Справу Сэната, а 29/VII в соединенное засѣданіе двух Комиссій Рады Республики Ф<ранція>, и мнѣ сказали так: «Ваше дѣло — наше дѣло». И так сообщили Ураду.

Но вот произошли событія. У нас на батькаущыне иная мова пошла[2].

С кѣм разговаривать и умовы падписывать? Еще раз прошу: собѣрите всѣх въ одно мѣсто, и Вам нужно будет всѣм прибыть сюда.

Тут, только тут, можно и должно работать.

У Минску мова нѣмецкая теперь, треба глядзець праудзе у вочы. Німа ніякіх бальшавікоу, а есць толькі немцы[3].

Нехай всѣх их перуном пазабивае, я з этай сволачью, правакатарами николи не пайду. Трэба як найхудшей вызваць пана Василя[4]. Нема чаго ему рабиць там!

Прыяцели нашы тут робяць усе, штобъ аказаць финансавую дапамогу, и я еще раз прашу зрабице усё, кабъ нашы были зъ Вами, тольки з Вами.

Шансы усходникоу скора скончаца. Вы пабачыце што з ними будзе, а з немцами будзе скончена раз наусегды. Тут есць на них добрае лекарство. Чакаць доуга ня прыдзецца.

Тут дужа хацяць, кабъ мы начали адбудову саюзу адъ насъ на поудзень, далей на Крым, Дон, Кубань. У гетым кірунку вядзецца праца. Наши суседзи на поудзень[5] (федералисты) дали тутэйшэму Ураду[6] згоду на федерацыю. Я казау, што згодзен пры умовѣ, кали наш Урад будзе разгаварываць з усімі, як ровный з ровным. Так мусіць і будзе прынято. Я требую, штобъ нашы збройныя силы, што знайходзяцца теперь у бѣлых арлоу[7], были переданы в наше распоряженіе, или в распоряженіе наших тутейшых прыяцелеу[8].

Апираючыся на гетую силу, мы можем весьці иныя размовы. Я афицыальна пратестую што пользуюцца нашымі аружнымі силами а народу ничого не даюць. Прымице гета пад увагу. Усюды падчеркивайце гэта. Я протестовал против раздѣла (част Литвѣ), я требовал, чтобы нашы предстауніки были у Менску на Конференцыі. Тут абещана паддержка. Пратестуйце и Вы. Вашых пратестоу я не маю. Нашы лісты перехватываюць. Калі атрымаеце гэтый лист, тэлеграфуйце адно слово: Атрымано.

Я пратестую проці самазваннаго Ураду на нашей бацькаушчыне. Я трэбую кабъ заходніе и усходніе захватчики убрались з нашай зямли.

Грошы бъ ужо былі кабъ не здарылося усе, што мы знаем. Я раблю усе, што можна, кабъ раздабыць грошы, патребные для Ураду.

Што Бог даст, ня ведаю. Надзею маю, только изноу прашу, саберыце усіх, бо иначей уся праца може згінуць: запатребуюць, каб прыехали сюды, и прыедуць два челавеки! Уся справа будзе згублена.

Нядзели двѣ я хварэу. Цяперь лепей стала.

Бывайце здаровы. Крѣпко Вас обнимаю.

Привѣт всѣм. Поцѣлуйте ручку Супруги.

Пишите! Поведеніе Антона Луцк<евича> мнѣ кажется весьма загадочным[9]: абсолютно не понимаю его роли.

Парыж 16/VIII 20.

Ваш, Эугені

*582.1.45:069&r-069a&r*

*582.1.45:068a — канвэрт*

---

[1] Немцаў. [2] Маецца на ўвазе «другое абвяшчэньне БССР» 30.07.1920. [3] Традыцыйны для Ладнова матыў. Гл. шырэй у ягонай кнізе «Огнём и мечом, голодом и болѣзнями» (Варшава, 1922). [4] Захарку. [5] Украінцы. [6] Ураду Францыі. [7] Палякаў. [8] Французаў. [9] Магчыма, маюцца на ўвазе чуткі аб патэнцыяльным удзеле А.Луцкевіча ва ўрадзе Савецкай Беларусі.

**2333. Ліст Рады Народных Міністраў БНР (Рыга) народнаму камісару замежных справаў РСФСР Георгію Чычэрыну (Масква) за 16.08.1920 (вых. №???)**

16 Августа 1920

Гражданину Народному Комиссару по Иностранным Делам Российской Социалистической Федеративной Советской Республики.-

Гражданин Комиссар,

Правительство Белорусской Народной Республики постановило пополнить состав своей Чрезвычайной Миссии в Москве для ведения переговоров с Советом Народных Комиссаров о признании Советской Россией Независимости Белорусской Народной Республики в ея этнографических границах, и посылает в Москву Товарища Председателя Президиума Рады Белорусской Народной Республики Палуту Александровну Бадунову и Члена Рады Белорусской Народной Республики Ефима Ефимовича Билевича.

Уведомляя об этом я с своей стороны имею честь просить Вас, гражданин Комиссар, о принятии Членов Нашей Чрезвычайной Миссии и об обезпечении неприкосновенности их личностей.

Примите уверение в совершенном к Вам уважении.-

Председатель Совета Народных Министров и
замещающий Министра Иностранных Дел.

*582.2.54:300 — мк рас*

**2334. Пасьведчаньне Рады Народных Міністраў БНР Кацярыне Яноўскай за ?.08.1920 (вых. №???) аб тым, што ёй даручана перадаць дыпляматычны пакет №404 старшыні Надзвычайнай Місіі БНР у Маскве Васілю Захарку**

*582.2.54:296г — мк фра*

---

Дакладная дата невядомая.

**2335. Ліст Пятра Крэчэўскага (Бэрлін) Вацлаву Ластоўскаму (Рыга) за 17.08.1920**

Дарагі Вацлаў!

Ужо тыдзень таму назад напісаў да Вас ліст, але не мог адаслаць, не было оказіі. Ліст Ваш атрымаў, але на жаль нічым зараз памагчы не магу, сухоты прыймаюць хранічны характэр.

Апошні раз шлем Цвіка у Вену, можа як небудзь, хоць па трошку наскрабе у Украінцаў тысячаў 10-15, каб хоць можна было зьехацца і пагаварыць, бо цяпер гэтай магчымасьці нема, перебіваемся якось пашпартамі.

Прызнаньне de facto і de jure Савецкай Беларусі факт, з якім нам прыходзіцца лічыцца, бо яно і нашу пазыцыю падкрэпляе, калі зможэм утрымацца, то мажліво, што да гаварымся і з усходам, бо усе ж такі будуць яны лічыцца з намі, як з сілай, якая і ім будзе шкодзіць за кордонам.

Складаць свае мандаты яшчэ рано і нема ніякого сэнсу, а гаварыць трэба моцно і падпіраць свае дамаганьня загранічнымі саціалістычнымі партыямі і Урадамі.

З Коўны пакуль нічаго не чуць, не ведаю як ставяцца цяпер да нас Літвіны. Ад Ладнова апроч абяцанак нічога нема. На гэтым тыдню пасылаю яму ліст і інфармацыю.

Врангэль таксамо згаджаецца на прызнаньне ранштатаў і фэдэрацыю.

Калі што небудзь раздабудзе Цвік, то думаю, што хутко пабачымся у абгаворым усе справы, а то просто беда, трэба ужо для працы выкінуць неякае гасло, а мы яшчэ і самі паміж сабой не згаварыліся.

Вэнт быў у нас, але мы зразумелі, што Вы яму ніякіх даручэньняў не давалі і мы яму нічога не далі, так ен і паехаў у Прагу.

Чы праўда, што нібы у Урад увайшлі Дыло і Шыло, такую, праўда не пэўную вестку нам падалі з Коўны.

Што ведаеце пра Грыба і Белевіча? Гдзе Бадунова? Чы хутко вернецца Базыль? Надта патрэбно ведаць як адносяцца да нас усходнікі і пры якіх варунках наша супольная праца магчыма.

Немцы маўчаць як вады у рот набраўшы, але усе ж такі вядуць перагаворы з ангельцамі аб супольнай акцыі проці бальшавікоў.

Францыя рэзка ідзе проці, мне здаецца, што і ангельцы робяць усю гэту авантуру, каб усыпіць свае прафэссыанальные хаурусы.

Пасылаю дзве стацці, калі можна надрукуйце у Рыжскіх газэтах, яны могуць быць карыстны для нас.

З пашанай ПКрэчэўскі
*582.2.54:299&r — ра*

**2336. Чарнавік ліста Вацлава Ластоўскага (Рыга) Лявону Дубейкоўскаму (Варшава) за 18.08.1920**

Паважаны Пане ~~Дубейкоўскі~~!

Палітычная коньюктура бягучага момэнту, як гэто ~~я мяркую~~ відаць і с пісма Кузьмы да мяне, вымагае рэалізацыі коордынацыі. ~~Здаецца~~ Трэба у гэтым кірунку зрабіць нам ужо саўсім рэальные крокі, аб чым я ~~Вам~~ 5.VIII тэлеграфаваў Вам, але дагэтуль ня ~~меў~~ маю адповедзі. Ніхай хто небудзь ~~ад Вас~~ пасьпешна выежджае. На чародзе ~~у нас~~ справы гістарычнай Важнасці. ~~Зразумейце ўрэшце, што~~ Нашы тут гаварылі ужо дзе с кім і дзеля гэтаго праз іх курьера перэсылаю гэты ліст. ~~Нам~~ Тут і ў Парыжы патрэбны нам рукі да працы. ~~перад~~ На небасклоне залачэе. Спадзяюся на Вашу пасьпешнасць.

Затым
*582.1.45:064 — рк*

**2337. Нататка (для друку?) на адвароце чарнавіка ліста Вацлава Ластоўскага (Рыга) Лявону Дубейкоўскаму (Варшава) за 18.08.1920**

На Конференцію Балтійскихъ Государствъ въ Ригѣ отъ Бѣлоруссіи прибыла делегація въ составѣ предсѣдателя — Члена Рады Республики И.Черепука и инженера А.Головинскаго, доктора В.Пигулевскаго и инженера С.Минца
*582.1.45:064r*

---

Дата невядомая.

**2338. Нота Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі за 20.08.1920 (вых. №406) Ураду РСФСР і Ўраду Польскай Рэспублікі (копіі ўрадам Антанты) з патрабаваньнем дапушчэньня прадстаўнікоў БНР да ўдзелу ў расейска-польскіх перагаворах, што пачаліся ў Менску**

Б.Н.Р.
Рада Міністрау
20 жніуня 1920 г.
№406

Ураду Расейскай Соцыялістычнай Радавай Рэспублікі.
Ураду Польскай Рэспублікі.

У Менску, сталіцы Беларусі, праз галаву беларускага народу і яго законнаго Ураду, прыступлена да мірных перэгаворау паміж Савецкай Расеяй і Польшчай,

У 1918 гаду у Брэст-Літоуску і у 1920 гаду у Маскве Савецкае Правіцельство двойчы заключыло мірные трактаты с суседнімі Беларусі Дзержавамі, не маючымі сумежных граніц с Савецкай Расеяй, прычым у абодвых здарэньнях былі кардынальна нарушэны сувэрэнныя правы Беларускаго народу. Абодвы гэны дагаворы былі у свой час Урадам Беларусі апратэставаны. Адзін з іх, Берасьцейскі, як яуна несправядлівы, ужо ануліраван.

Магчыма, што і цяпер у Менску будзе падпісан новы трактат, у трэцьці раз нарушючый сувэрэнныя правы Беларускаго народу; народу на тэрыторыі якого ужо шосты год разыгрываецца трагедзія сьветавой вайны са усімі яе вынікамі; народу які самаазначыуся (Усебеларускі Установчы Кангрэс 1917 г.) мае свой законны Парлямэнт і Урад і змагаецца за сваю палітычную незалежнасьць.

Каб унікнуць новай несправядлівасьці, Урад Беларусі імем Беларускаго Народу вымагае дапушчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі да прыняцьця учасцьця у пачаушыхся у Менску Расейска-Польскіх перэгаворах.

Ластоўскі
Старшыня Рады Народных Міністрау і Заступаючый
Міністра Заграмічных Справаў

Вальковіч,
Кіраўнік Канцэлярыі Рады Народных Міністрау.

*582.1.06:011 — шк бел*
*582.1.07:072 — шк бел*
*582.1.07:073 — шк бел*
*582.1.08:001&r — арыгінальны рукапіс В.Ластоўскага*
*582.1.06:030 — шк фра*
*582.2.51:011 — шк фра*
*582.2.51:074 — шк фра*
*582.2.51:127 — шк бел*
*582.2.53:035 — шк фра*
*582.2.53:140 — шк фра*
*582.2.54:297 — мк пол*